# Уладзімір Дамашэвіч



## ВЫБРАНАЕ

*Аповесці і апавяданні*



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1977



# АПОВЕСЦІ

## СТУДЭНТЫ АПОШНЯГА КУРСА

### Сустрэча на праспекце

Рэдка калі так здараецца, што на пачатку мая вясна ўбярэцца ў поўную сілу. А тут ужо два апошнія тыдні красавіка выдаліся цёплыя, з туманамі, якія часам віселі да паўдня, і цяжка было адгадаць, пойдзе дождж ці распагодзіцца. Але пасля абеду паказвалася бледнае і няяркае сонца, туман паступова прападаў, і такая цяплынь апаноўвала зямлю, што яна на вачах зеляне́ла, налівалася сокамі, рабілася пульхнай, і ўсё жывое на ёй прачыналася пасля цяжкага зімняга сну, расло, давала пачатак новаму жыццю.

А ў горад вясна прыходзіла яшчэ, здаецца, раней, чым у вёску.

Як памятае Русіновіч,— дваццаць вёснаў сустракаў ён у вёсцы — там вясна доўгая, марудная, часам надакучлівая: пакуль растане, пакуль падсохне, а пакуль яшчэ зазелянее! А тут снег вывозяць за горад на машынах, ломікамі сколваюць лёд, зграбаюць смецце,— ідзі, вясна жаданая! На газонах і клумбах садзяць кветкі з цяпліц. Глядзіш — і дрэвы ўжо гатовы распусціцца... А прачнешся аднойчы раніцай, глянеш на таполю і вачам не верыш — зялёная!

Сёння другога мая, а ліпы на праспекце ўжо стаяць убраныя ў далікатныя зялёныя сукні, стракацяць празрыстымі свежымі лісточкамі, і ў паветры, як у лесе, вісіць нязвыклы, зялёны пах вясны.

Другога мая — яшчэ свята, і людзей на праспекце так многа, што не размінуцца.

Русіновіч ішоў па вуліцы ў густой людской плыні. Насустрач, як жывая рака, рухаліся людзі — парамі, групамі, па адным,

Панаваў вячэрні паўзмрок, загарэліся лямпачкі ілюмінацыі. Была тая прыемная пара змяркання, калі здаецца, што ты бачыш усё, а цябе ніхто не бачыць, і таму адчуваеш сябе вольна, раскута.

Паўгадзіны назад Русіновіч уцёк з інтэрната на Нямізе, дзе студэнты-аднакурснікі наладзілі невялікую вечарынку. Ён непрыкметна вышмыгнуў з накуранага пакоя і рашыў прайсціся па горадзе. Сам сабе ён смяяўся з таго, як там яго будуць шукаць і лаяць, а пасля завадатар усяе кампаніі Ярошка скажа: «Ну яго к чорту з гэтым Старым. Нам больш будзе. Пачынайма!»

Чамусьці ўсе называлі яго Старым: мо за разважлівасць, мо за павольнасць і флегматычнасць. Ён не крыўдзіўся, бо сапраўды — што тут такога?

Мянушкі вяліся спрадвеку, з іх пайшлі многія прозвішчы, і яшчэ цяпер тое прозвішча, глядзіш, як прыліпла да чалавека.

У Белага бледны бяскроўны твар, бялявы чуб, а Сіняковіч — барвовы, аж сіні з твару, чорныя да сінявы валасы. Быстрык — той сапраўды, бы жывое срэбра,— рухі хуткія і дакладныя, шпаркая мова, ён нібы не ходзіць, а лётае. Размысловіч — непаваротлівы, павольны ў гутарцы, схільны да філасофскай развагі. Здараецца, праўда, і зусім іншае. Хто скажа, чаму Гладкі худы, як жэрдка, а Бусел — нізенькі і тоўсты, як вяпрук, чаму Мурашку выгнала ўгору, як бярозу ў гушчары, а Шмыга рос нібы ўшыркі?

Свяцілі гірлянды лямпачак, блішчалі сотні акон, яркія фарбы стракацелі ў вачах. А над усім гэтым было цёмнае-цёмнае, без адзінае зоркі, неба.

Ды праспект меў свае межы — агні паступова радзелі, бляднелі, потым зусім прападалі. Русіновіч ведаў, што, прайшоўшы метраў са дзвесце ад прамога, як страла, праспекта, убачыш тое, чаго сёння не хацелася бачыць: руіны, шкілеты дамоў, што глядзелі на свет мёртвымі вачніцамі акон.

Страшны напамінак нядаўняга мінулага, яны як быццам нехаця саступалі месца новым камяніцам — нібы знарок, каб людзі не забывалі, што такое вайна.

Але ўсё гэта было там, у цемры, нібы за гарызонтам, а тут...

Машыны не ходзяць. На скрыжаваннях вуліц — тлум, цесната: іграюць вайсковыя духавыя аркестры, танцуюць пары.

Русіновіч — не танцор, ён больш любіць паглядзець, як танцуюць другія: гэты вясёлы занятак прыемна назіраць збоку.

Танцуюць пераважна маладыя, найбольш дзяўчына з дзяўчынаю, мільгаюць вайсковыя кіцелі і фуражкі, многа рабочай моладзі, студэнтаў. У адных на тварах абыякавасць, у многіх — сур'ёзнасць, нібы яны робяць вунь якую важную справу. А ёсць танцоры вясёлыя, бясклопатныя, з белазубымі ўсмешкамі, з іскрамі ў вачах. Але такіх менш...

Пастаяўшы крыху, Русіновіч ідзе далей.

Так ён снаваў з гадзіну ці болей і раптам, пераходзячы вуліцу, нос у нос сутыкнуўся са сваімі хлопцамі — з Мальцам, па мянушцы Пяхота, і Рамашкам. Малец быў на адным курсе з Русіновічам, а Рамашка вучыўся на фізмаце; некалі, яшчэ на першым курсе, яны жылі ў адным пакоі. Побач з хлопцамі ішлі дзве невысокага росту дзяўчыны, неяк дзіўна падобныя адна на адну. Дзяўчаты ішлі ў сярэдзіне, хлопцы — па баках.

Малец быў хударлявы, рослы хлапчына, не надта прыгожы, але прыемны з твару. Як былы франтавік, ён яшчэ не разлучаўся са сваёю суконнай гімнасцёркай. На грудзях у яго красавалася планка з ордэнам і трыма медалямі. Левае плячо ў Мальца было прыкметна ніжэй за правае — у вайну разрыўною куляй яму раздрабіла лапатку.

Малец стаў знаёміць Русіновіча з дзяўчатамі. І адна і другая, падаўшы яму руку, акрамя свайго імя, як завучанае, дадала: «Вельмі рада». Русіновіча здзівіла Мальцава аператыўнасць: калі ён паспеў знайсці гэтых дзяўчат? І як сышоўся з Рамашкам? Русіновіч ведаў, што ў іх пакоі на Нямізе Рамашка не паказваўся даўно. Да таго ж чалавек ён быў замкнуты, негаваркі, не любіў шумных зборышчаў, а выпадковых знаёмстваў — тым болей.

Русіновіч, ужо супакоіўшыся, ішоў побач з Мальцам, час ад часу зазіраючы на дзяўчыну, тую, што была крыху вышэйшая ростам і ішла пад руку з Мальцам.

Яна, калі добра прыгледзецца, была нават нішто сабе дзяўчынка: зграбная, з кірпатым носікам. На яе рухомых тонкіх вуснах час ад часу блукала стрыманая ўсмешка,— здавалася, дзяўчыне нешта перашкаджае, нешта ёсць у яе душы такое, што не дазваляе смяяцца шчыра, на ўвесь рот. І гэта якраз і вабіла ў ёй, хоць нічога крыклівага ў яе знешнасці не было, і ў такім тлуме яе проста не заўважыў бы.

Гаварылі, можна сказаць, на вечную для студэнтаў тэму: хто больш патрэбны на зямлі — філолагі, матэматыкі ці біёлагі, бо высветлілася, што дзяўчаты вучыліся на другім курсе біяфака, Малец і Русіновіч былі філолагі, адзін Рамашка — матэматык.

Дзяўчаты ў адзін голас даказвалі, што свет без філолагаў абыдзецца, без матэматыкаў таксама не згіне, а без біёлагаў адразу прападзе. Нават маўклівы матэматык Рамашка не стрымаўся, каб не сказаць колькі слоў у абарону дакладных навук, без якіх, як ён адзначыў, нельга ўявіць нічога існага на зямлі. Але ён дыпламатычна не закрануў біялогіі, паставіўшы побач з велічным гмахам біялагічных навук не менш прывабны матэматычны парфенон, даючы зразумець, што кожны цвярозы чалавек зможа сам адрозніць, дзе лепшае, а дзе горшае.

«Гімн філалогіі» праспяваў Малец, Русіновіч толькі сяды-тады ўстаўляў слова, поўнасцю даверыўшыся густу старэйшага таварыша.

Малец гаварыў, не перастаючы ўзмахваць праваю рукою:

— А я вам скажу, паважаныя дыспутанты, што філалогія — маці ўсіх навук, што чалавек тады стаў філолагам, калі ўпершыню сказаў «а», так што наша навука самая старажытная. Без яе нельга развіваць ні матэматыкі, ні вашага прыродазнаўства, бо першаэлементам усякай навукі з'яўляецца мова. Без мовы ўвогуле нельга жыць. Ці вы думаеце, што можна? Давайце зробім так: не дамо вось гэтым людзям гадзіну гаварыць,— і вы ўбачыце, што атрымаецца.

— Табе не дай гаварыць пяць хвілін — і ў цябе падскочыць ціск да пяці атмасфер,— уставіў Рамашка.

— Не пярэчу, але хачу яшчэ сказаць... Вось... Пяхота! Не хачу вас крыўдзіць... Хоць наша навука і альма матэр усіх навук, у тым ліку і вашых, павінен пры-

знаць, што вашы навукі маюць поўнае права жыць на гэтай грэшнай зямлі, бо людзей многа, і ўсе яны не могуць у сілу абставін ці па сваіх задатках займацца аднюю філалогіяй. Таму тыя, каму гэта, як кажуць медыкі, супрацьпаказана, ідуць у матэматыку, біялогію ці якую іншую навуку, і мы ўжо не ведаем, якую карысць яны там прыносяць, але што яны не ў філалогіі, ад гэтага карысць самая вялікая...

Малец змоўк і зрабіў страшную міну — нібы чакаў сама мала добрага кухталя за такія словы. Усе зарагаталі. Малец пакруціў галавою, абвёў усіх вачыма і зарагатаў сам мацней за ўсіх.

Не смяялася толькі дзяўчына, што ішла паміж Мальцам і Русіновічам. Яна раптам вырвалася з шарэнгі, стала тварам да хлопцаў і звонка сказала:

— Стойце!

Хлопцы спыніліся. На хвіліну ўтварыўся затор.

— Галка, не станавіся на дарозе! — Дзяўчынка ў карычневай суконцы падбегла да Галкі і абняла яе за шыю.— Нас тут растопчуць.

— Хай топчуць! — сярдзіта адказала Галка.— Але я не сыду з месца, пакуль гэты студыёзус не папросіць у нас прабачэння за абразу.

Відаць, усе падумалі, што гэта не надта ўдалы жарт, а Русіновіч нават здзівіўся — якая прынцыповая!

Малец не ведаў, што рабіць: каяцца ў грахах — усур'ёз прасіць прабачэння ці адбрыквацца жартам?

— Хай гэта зробіць за мяне мой малодшы брат Русіновіч,— праспяваў на манер малітвы Малец і зрабіў жэст у бок Русіновіча.

— Так несумленна,— умяшаўся Рамашка.— Не звальвай з хворай галавы на здаровую, адказвай сам за сябе.

— За сябе я гатоў,— прастагнаў Малец, трымаючы руку на сэрцы,— але за свой язык — божа барані! Калі б я за яго адказваў, мяне даўно не было б на свеце.

— Дык вырві грэшны свой язык! Хай ён цябе не спакушае,— параіў Рамашка.

— Тады ён не будзе Мальцам,— умяшаўся Русіновіч і звярнуўся да Галі: — Няўжо вы хочаце, каб наш Малец перастаў быць Мальцам? Ён умеў гаварыць без перакладчыка нават з немцамі, а вось з дзяўчатамі не навучыўся. Даруйце яму!

Галя прыязна зірнула на Русіновіча, усміхнулася.

— Ваша шчасце, Малец, што за вас заступіўся чалавек з чулым сэрцам. Гэты раз я вам дарую, але болей — ніколі, хоць вы і ўмелі гаварыць з немцамі.

Яна першая падышла да хлопцаў, узяла Русіновіча пад руку, і яны пакрочылі далей.

«Чалавек з чулым сэрцам»,— насмешліва паўтарыў сабе Русіновіч.— Ці не занадта вялікі гонар... А вось ты сама? Нешта ў табе ёсць, толькі глыбока схавана. Аднак гэта цікава, што ні кажы».

Праз якой паўгадзіны яны ўсе сядзелі ў скверы, затым хадзілі піць морс, доўга стаялі ў чарзе. Вечар прайшоў непрыкметна.

Праводзіць дзяўчат пайшлі ўсе чарадою, але Рамашка з Мальцам чамусьці ўзялі сабе меншую дзяўчыну, а Русіновіч застаўся з Галяй.

— Адкуль вы ведаеце Мальца? — спытаў, памаўчаўшы, Русіновіч.— Ці мо лепш: адкуль вас ведае Малец?

— А ці не ўсё роўна? Мы часта разам засядаем...

— Зразумела. Начальства ці актыў... Але чаму вы ходзіце па вуліцы ў такі вечар?

— А дзе я павінна быць, па-вашаму?

— Ну, недзе дома...

Галя доўга маўчала, апусціўшы галаву.

— Мой дом далёка... А ведаеш... ведаеце, я доўга сумавала без мамы. Асабліва на першым курсе. Цяпер трохі прывыкла... А Малец ваш жанаты? — нечакана спытала Галя.

Русіновіч здзіўлена паглядзеў на яе, усміхнуўся.

— Я нават не ведаю, што казаць... Можа, ён пакрыўдзіцца, калі я скажу праўду...

— За праўду не крыўдзяцца. Мне здаецца, што жанаты. З выгляду ён ужо стары...

— Які стары? Дваццаць сем гадоў. Але, наколькі я ведаю, ён не жанаты.

— Вас здзівіла, відаць, навошта я пытаю?

— Трохі... Хаця, што тут асаблівага?

Яны прастаялі яшчэ хвілін колькі. Русіновіч адчуваў, што Галя хоча ісці ў інтэрнат. «Як ёй сказаць? Няўжо мы больш не ўбачымся?» — круцілася ў яго галаве.

— Я хацеў бы вас бачыць...— асмеліўся ён.

— Гэта нікому не забаронена,— з выклікам адказала Галя.

— Рад, што вы і мяне залічаеце да шчаслівых, якім не забаронена вас бачыць... Я прыйду заўтра, у восем вечара. Добра?

— Як хочаце...

Гэтая няпэўнасць астудзіла трохі яго гарачую галаву.

## Ад сесіі да сесіі

Сесія — самая цяжкая і, як ні дзіўна, самая вясёлая пара ў студэнтаў. Хоць экзаменаў і залікаў многа, але гэтым студэнта не спалохаеш. Асноўнае, што не трэба сядзець на лекцыях, што ты гаспадар свайго часу.

Шосты пакой на Нямізе — цеснаваты, не надта светлы, бо вокны ўпіраліся ў суседні дом,— страціў свой звычайны выгляд. Раней тут панавала чысціня і парадак, а цяпер — бязладдзе.

Кожны меў свой рэжым дня, які відзён толькі ў сесію. Уставалі, як хто хацеў. Раней за ўсіх прачынаўся Малец. У яго часта балела прастрэленае плячо, ён пакутаваў аб бяссонніцы, доўга не мог заснуць вечарам, а раніцай таксама сон хутка пакідаў яго. Але ўставаць першы ён не любіў, звычайна ляжаў у пасцелі з кніжкаю ў руках.

Першы вылазіў з-пад коўдры Рак, па мянушцы Прафесар, невысокі сухарлявы хлапчына з круглаю вялікаю галавой і буйным гладкім тварам. Рак любіў спакой і парадак, не цярпеў мітусні і спешкі, якая звычайна бытуе сярод студэнтаў. Ён даваў, як смяяліся хлопцы, паўтара абарота ў гадзіну: старанна і доўга галіўся — «карчаваў пні», спырскваўся адэкалонам, ішоў з чайнікам па кіпяток і садзіўся снедаць.

За ім уставаў Ярошка, таксама невысокі, але каржакаваты і моцны, з шэрым бяскроўным тварам, з тонкімі вуснамі. Свой дзень ён пачынаў з фіззарадкі. Пахрустваючы суставамі, рабіў спачатку лёгкую размінку, пасля браў гантэлі і доўга размахваў імі, то прысядаючы, то нават кладучыся на падлогу. У яго таксама быў свой тэмп, не надта хуткі, але спорны. Ён ніколі

не спяшаўся, але ніколі і не пазніўся, усё разлічваючы да секунды. Яго за гэтую дакладнасць называлі Пекта-ралісам.

Апошнімі падымаліся Русіновіч з Антановічам.

Яны сябравалі, хоць перад гэтым паміж імі адбылася непрыемная сутычка, аб якой яны не любілі ўспамінаць. Гэта здарылася даўно, яшчэ на першым курсе. Аднойчы Антановіч быў не ў гуморы, а, як на бяду, Русіновіч моцна наступіў яму на нагу сваім цяжкім ботам. Антановіч хутчэй механічна, чым са злосці, штурхануў Русіновіча. Той, доўга не чакаючы, штурхануў Антановіча. Праз якую секунду яны ўжо стаялі адзін супроць аднаго, гатовыя кінуцца ў бойку. Але хлопцы іх расцягнулі.

Памірыліся яны хутка і адразу пасябравалі, цяпер ужо разам хадзілі і нават елі з «аднаго катла».

Антановіч быў паэт, меў вясёлы, жывы характар, выдатна вучыўся, і з першага курса яго выбралі старастам. Русіновіч, наадварот, быў ціхманы, замкнуты, не вызначаўся здольнасцямі, але быў чулы да чужой бяды, спагадлівы.

...Рак пасля снедання клаўся на свой ложак і чытаў, пакуль яго не зморваў сон. Хлопцы, прыходзячы з бібліятэкі, звычайна заставалі яго ў такой позе: апрануты, у доўгіх, як лыжы, туфлях, ён ляжаў на ложку, бы нябожчык, скрыжаваўшы на грудзях рукі і прыкрыўшы твар кнігай ці канспектам. Але амаль усе экзамены ён здаваў на «выдатна» — памяць у яго была, як казалі студэнты, конская. Тое, што ён прачытаў раз, засядала ў яго мазгах надоўга. А кнігі ён чытаў, што машына,— за адзін дзень мог адолець некалькі тоўстых раманаў. Праўда, ён прызнаваўся, што чытаў «па дыяганалі», сочачы толькі за сюжэтнай лініяй. Рак губляўся толькі тады, калі трэба было самому нешта прааналізаваць, даць не гатовую, а сваю ўласную ацэнку факту ці з'явішчу. Ён любіў хавацца за цытаты, якіх ведаў безліч.

Малец з Ярошкам ад цямна да цямна сядзелі ў бібліятэцы — у Ленінскай ці ў сваёй, універсітэцкай. Малец зубрыў да страты прытомнасці, да атупення — так баяўся за стыпендыю, хоць атрымліваў яшчэ і пенсію. Ён памагаў матцы і малодшай сястры. Ярошка таксама стараўся, але пры яго цягавітасці і дужасці такая на-

грузка нічога не значыла — ён мог вынесці і не гэта. Ён таксама быў выдатнік.

Антановіч з Русіновічам і тут адрозніваліся. Антановічу ўсё давалася лёгка: на экзаменах яму ставілі адны пяцёркі. Здавалася, ён не вучыць, а ведае ўсё даўно, і цяпер толькі паўтарае.

Русіновічу і тут шкодзіла яго маруднасць і павольнасць думкі, але ўсё, што ён гаварыў ці даказваў, было яго ўласным, выказаным па-свойму, хоць часам і карава. І ацэнку таму ці іншаму факту ён стараўся даваць сваю, за што адным выкладчыкам падабаўся, другія, хто любіў гладкія адказы і завучаныя фармуліроўкі, зніжалі яму адзнаку.

Сёння зранку неба ўкрылі хмары, і Антановіч не скіраваў, як звычайна, на возера, а пайшоў з Русіновічам у бібліятэку.

Пастаялі ў чарзе, бо ў сесію ў бібліятэцы было народу — не размінуцца. Узялі кніжкі і пайшлі выбіраць «шчаслівае» месца — каб не трапілася па суседству шумная кампанія, каб менш хадзілі і не даставала сонца.

За суседнім сталом цераз праход сядзелі дзяўчаты з іх курса. Яны паглядвалі на хлопцаў і пасмейваліся. У іх быў дзіўны сусед, якога Русіновіч ужо ведаў даўно, бо часта сустракаў у бібліятэцы. Ён заўсёды чытаў нешта такое старое-старое: кніга, што ляжала перад ім, мела сама меней гадоў сто. І кнігі ўсё былі тоўстыя, вялікія, як падняць. Сёння на стале перад ім ляжаў яшчэ і батон у сетачцы.

Хлопцы зачыталіся, не падымаючы галоў. Палуднаваць схадзілі ў буфет, узялі халодных катлет, кампоту. З паўгадзіны пасядзелі на бібліятэчным ганку, на сходах. Прыемна прыгравала сонца.

Пасля абеду працаваць стала горш, цяжэй. Русіновіч усё часцей узнімаў галаву, часцей кідаў позірк на суседак, праводзіў вачыма студэнтаў, якія толькі прыйшлі і доўга шукалі свабоднага месца, ціха ходзячы між радамі сталоў і шэптам пытаючы: «Тут занята?», «Тут свабодна?».

Урэшце Антановіч не вытрымаў, штурхнуў яго пад локаць і зашаптаў:

— Чаго круцішся?

— Нешта галава шуміць.

— На пачытай, мо адпачнеш.— І ён даў Русіновічу спісаны яго почыркам даволі тоўсты сшытак.

Русіновіч толькі акругліў вочы і ўзяўся чытаць.

«Студэнцкая паэма» — стаяла на першай старонцы.

«Прысвячаю Ярошку, Мальцу, Русіновічу, Раку».

І пайшло, панясло Русіновіча, быццам на лагодных хвалях, пачало пагойдваць, закалыхваць, песціць, а пасля — падкідваць, уздымаць уверх, кідаць уніз, аж сэрца замірала ад радасці і страху.

Паволі, радок за радком, вырысоўваўся, няхай і не надта дасканалы, спелы, але ўсё-такі ёмкі малюнак іх студэнцкага жыцця. І асноўнае: відаць было, што нараджаўся паэт. Няхай не кожнае слова стаяла на месцы, не кожны радок нёс вялікую думку, гучаў цвёрда,— такую рэч мог напісаць толькі паэт.

— А ведаеш, у цябе добра выходзіць,— сказаў Русіновіч.

— Калі ты не смяешся, то я рад чуць гэта.

— Я заўсёды сур'ёзны...

— Часам аж занадта...

— Калі гэта?

На іх зашыкалі: бач, знайшлі месца для гутаркі!

Ішлі на Нямігу стомленыя, з пустымі жыватамі і «поўнымі», аж занадта, галовамі. У пакоі засталі аднаго Рака. Ён ляжаў, накрыўшы твар канспектам, і цяжка было сказаць, спіць ён ці не.

Хлопцы не сталі яго турбаваць, а адразу ўзяліся за справу — пайшлі на кухню, наабіралі бульбы, Антановіч распаліў прымус. Каструля была вялікая, на пяць літраў, і налілі ў яе амаль што даверху — на выпадак, калі хто папросіць дабаўкі.

На кухні быў шум, чад і цесната.

— Прымус пеў на сваёй мове...
Наўрад ці так Александровіч
Узрушыць сэрца мог кухмараў,
Як спеў прымуса і скварак,—

працытаваў Русіновіч з усмешкай.

— Што табе так весела? — спытаў яго Антановіч, стараючыся перакрычаць шум.

— Здорава ты паэтызуеш гэтую кухонную сімфонію. Эстэты могуць пакрыўдзіцца.

— Я не для іх пішу...

— «Я не для вас, паны, о не!» Святыя словы!

— Хоць не да месца сказаныя.

— Можа і так... Але вазьмі іх сабе эпіграфам.

— Гэта вялікі гонар для кожнага...

Антановіч застаўся на кухні — пільнаваць суп, каб не выбег.

Русіновіч асцярожна зайшоў у пакой. Рак прыўзняў канспект, як рыцар забрала, і сказаў:

— Стары, цябе тут шукала адна асоба. Такая невялічкая, русая.

Русіновіч прысеў на свой ложак.

— А не сказала, навошта я ёй патрэбен?

— Мне не сказала. Думаю, што скажа табе... Глядзі, Стары, глядзі. Даслужышся.— І Рак пагразіў яму канспектам.— Мала таго, што сам на спатканні бегаеш...

Русіновіч не паспеў адказаць. У пакой уляцеў Антановіч.

— Падрыхтуйце стол, лежабокі! — крыкнуў ён і знік зноў.

Русіновіч нехаця ўстаў, сцягнуў абрус са стала, заслаў яго газетаю, а ў цэнтры паклаў тоўстую кнігу з шэрай вокладкай, якая заўсёды служыла падстаўкаю для каструлі.

Хутка ў пакой спаважна ўвайшоў Антановіч, несучы на выцягнутых руках поўную каструлю пахучага супу.

— Іграйце туш,— сказаў ён і з крэктам паставіў каструлю на стол.

— Не туш, а марш самі кішкі іграюць. Хіба не чуваць? — стараўся ў тон яму пацэліць Русіновіч.

Рак маўчаў, толькі ўстаў з ложка і кісла ўсміхнуўся.

— Ніколі не думаў, што ў табе жыве такі Гаргантюа. Я лічыў, што ты адным духам можаш жыць! — укалоў яго Антановіч.

— А памятаеш «Кала Бруньёна» ў перакладзе Лазінскага? «Тело пусто — дух расстроен, а поел — и дух спокоен». Як гэта гучыць па-французску?

— Пачакай, зараз, зараз. Толькі мо не так будзе складна, як у Ралана.

— Я ведаю, ты пачнеш імправізаваць. Ад Ралана нічога не застанецца...

І тут дзверы з грукатам адчыніліся, і на парозе выраслі Ярошка і Малец.

— Гэта мы! — выгукнуў вясёлы Ярошка.— Вы не рады? А мы наадварот! Праўда, Пяхота?

Але Малец чамусьці не падзяляў Ярошкавай радасці.

— Толькі выйшлі з чыталкі — чую, грыбным супам пахне. Дык Малец з усіх чатырох кінуўся да інтэрната, я ледзь дагнаў яго і ўсю дарогу трымаў за каўнер. Прагаладаўся, бедны, прэ без аглядкі. Я ледзь паспяваў за ім. Людзей з ног збівалі...

— Не назаляй,— агрызнуўся Малец і стомлена сеў за стол.— Табе ўсё жарцікі наўме. Праваліш, то бацька-старшыня прышле грошай і сала, а мне лепш праз зямлю праваліцца, чым застацца без стыпендыі. Бач, на наша шчасце, за тройку не плацяць.

— Не бядуй, пракормім і цябе,— супакоіў яго Ярошка, вымаючы з тумбачкі міску.— Налівай з берагамі,— сказаў да Антановіча.— Памятаеш, як Старога паўгода кармілі.

Русіновіч схіліў галаву, пачырванеў. Хто-хто, а ён ніколі не забудзе той трэці курс, калі ў яго быў такі крызіс — душэўны і матэрыяльны. Яго сястру, якая працавала ў сельскай краме, судзілі за растрату, далі пяць год — з поўнай кампенсацыяй страт. І яму «пашанцавала» — заваліў замежную. Каб не сябры, невядома, што было б тады з Русіновічам. Думкі ў яго былі самыя чорныя, ды і нервы пачыналі здаваць... Пасля Русіновіч рашыў: усё, што хлопцы зрабілі для яго, ён некалі ў сто разоў больш аддасць добрым людзям, будзе заўсёды памагаць тым, хто будзе мець у чым-небудзь патрэбу, ніколі не кіне чалавека ў бядзе і не застанецца глухім да чужое просьбы.

— Пектараліс, думай, што гаворыш,— асадзіў яго Малец.— Памагчы чалавеку таксама трэба ўмець. Ва ўсім патрэбен такт, а яго ў цябе зроду не было. Ты думаеш, што ва ўсіх такая цвёрдая скура, як у цябе?.. Памятаеш сялянскі анекдот: пазычыў багаты чалавек беднаму свой касцюм на вяселле. Якраз у разгар таго вяселля, калі збіраліся ўжо дзяліць каравай, падыходзіць да маладога дзядзька і моцна, каб усе чулі, кажа: «Глядзі, а ты не хацеў пазычаць гэты касцюм, баяўся, што вялікі, а ён як на цябе шыты». Так і ты.

Ярошкаў твар стаў яшчэ больш шэры.

— Дараўнаваў! Што я такое сказаў? Я ж не раскрыў ніякага сакрэту. Чым я пакрыўдзіў Старога?

— Ды не, я не крыўдую, перастань, Малец,— загаварыў Русіновіч.— Факт застаецца фактам. А калі наконт таго, што глыбей засядае ў памяці — добрае ці кепскае,— то гэта як у каго... Што больш уражвае, тое глыбей засядае.

Наступіла няёмкая паўза. Ярошка такі зразумеў, што пакрыўдзіў Русіновіча неасцярожным словам, але ў яго не было звычкі прызнавацца, што ён зрабіў нешта не так. Сялянская ўпартасць у ім сядзела глыбока. Урэшце ён узлаваўся:

— Кіньце гаварыць прытчамі, не люблю алегорый, эзопавай мовы. Люблю проста з моста — што думаеш, тое і гавары... Калі яшчэ гэтулькі з вамі пражыву, проста стану хадзячай дабрачыннасцю, героем нашага часу.

— Ты герой, але не нашага часу.— Малец ужо скончыў суп і саладзіў «белы» чай.— Пра цябе пісалі сто гадоў назад, а больш не будуць. Праўда, ты там пад выглядам немца Пектараліса, па мянушцы Жалезная Воля, але хто ведае, кім былі твае продкі? Мо і немцамі, бо вельмі ў цябе многа педантызму...

Ярошка яшчэ болей ускіпеў.

— Што сёння за вечар? Чаго гэты Малец ад мяне хоча? Будзьце сведкамі, што яшчэ адна абраза — і я кідаю яму пальчатку.

— Аб'явіш мне «рускую вайну», як той Пектараліс? — дапытваўся Малец.

Задаволена пасмейваўся Рак — ён любіў, калі Ярошка і Малец «грызліся» паміж сабою — тады яны забывалі пра яго.

— А што? І аб'яўлю! Не пагляджу на твае заслугі...

— Пяхота! Што ты ўвесь час насміхаешся над маімі заслугамі? Выходзіць, мне не трэба было ісці ваяваць, а адседжвацца ў бацькі на печы, як ты?

— А што табе да таго, дзе я сядзеў? Я ж не вінават, што з'явіўся на свет на два гады пазней за цябе.

— Табе пашанцавала — і толькі. Вось каб ты паслужыў у запасным палку, а пасля папоўзаў на жываце перад нямецкімі дотамі на прускай раўніне, то не

было б у цябе гэтай пыхі. І пра мае заслугі ты маўчаў бы. Не жадаю я табе маіх заслуг і маіх шрамаў.

— А, пра шрамы ўспомніў! Хопіць жыць мінулым...

Яны яшчэ трохі паспрачаліся, але ўжо не з такім азартам, як спачатку, пасля закурылі з аднаго пачка, што ляжаў на Ярошкавай тумбачцы.

— Ну, здаецца, нагаманіліся,— сказаў з усмешкай Антановіч.— Вы абодва мелі рацыю, таму, як бачыце, усе трымалі нейтралітэт, нават наш Рак, які ніколі не прайшоў бы моўчкі міма несправядлівасці...

Рак скрывіўся, але прамаўчаў, толькі пачырванеў.

Антановіч працягваў:

— Як вам вядома, я пішу паэму. Галоўны герой яе — Ярошка. Хачу прачытаць вам тое, што ўжо гатова.

— О, гэта голас! — з пафасам усклікнуў Ярошка.

Дружна сабралі са стала пасуду, памылі, заслалі стол амаль што чыстым настольнікам — сям-там толькі відны былі на ім плямы ад віна,— і Антановіч з прыкметным хваляваннем дастаў з тумбачкі сшытак, сеў за стол і пачаў чытаць — адразу, без усякага ўступнага слова і каментарыяў.

Хлопцы слухалі моўчкі, толькі часам каторы ўсміхаўся, часам пакрэктваў ці круціў галавою. У паэме апісвалася ўсё тое, што яны тут перажывалі з першых дзён вучобы. Як уладкоўвалі свае справы, як угрызаліся ў граніт навукі, аб чым марылі і думалі, аб чым спрачаліся і каго любілі.

У цэнтры паэмы быў Міша Дзівін — Ярошка. У гэтым ужо ніхто не сумняваўся, бо ён быў відзён як на далоні — усе яго замашкі, характар, а галоўнае — яго раман з адной дзяўчынай, іх аднакурсніцай, раман, праўду сказаць, не зусім прыемны для галоўнага героя. Хлопцы ўсміхаліся, а Ярошка круціўся як уюн на патэльні і гладзіў свае валасы — у яго была звычка гладзіць валасы і на патыліцы збіраць іх у адно месца. Атрымлівалася не то каса, не то хвост.

Скончыўшы чытаць, паэт разгублена абвёў позіркам твары сяброў, з надзеяй і страхам чакаў пачуць першае слова крытыкі, бо хлопцы ў літаратуры разбіраліся — нездарма ў іх быў настаўнікам Юс Вялікі — Юскавец.

Усе чамусьці скіравалі вочы на Русіновіча.

— Стары, пачынай! — падбадзёрыў яго Ярошка, паціраючы рукі.

Русіновіч адмоўна пакруціў галавой.

— Не, я потым. Тым болей, што я ўжо гэта чытаў раней...

— Калі? Ну, што такое? Па спісу выклікаць, ці што? — насядаў Ярошка.— Прафесар, давай!

Рак замяўся, пачырванеў, пацепнуў плячыма і выціснуў два словы:

— Не ведаю...

— Выдатная ацэнка! — пахваліў яго Ярошка.— Падмацуй цытатай!

Але Рак адразу насупіўся і нібы нырнуў у сваю шкарлупіну, як гэта ён рабіў заўсёды, калі лічыў сябе пакрыўджаным,— замоўк і адышоў ад стала.

Ярошка нездаволена фыркнуў.

— Не трэба і казаць: пазбаўляю слова... Хто наступны? Малец? Ідзі на трыбуну.

Малец падняўся, нібы сапраўды збіраўся ісці, пасля зноў сеў.

— Пяхота! Ты толькі не збівай мяне сваімі мудрымі рэплікамі, а дай выліць душу,— папярэдзіў ён Ярошку.— Я коратка... Мне здаецца...

— Перахрысціся!..

— Ідзі да д'ябла! Яшчэ раз пераб'еш — выстаўлю за дзверы... Дык вось, дарагія мае хлопцы... Я лічу, што лёс нам пасылае добрага паэта, такога тыповага беларускага, шчырага, простага да наіўнасці...

Ярошка закруціўся на сваім крэсле, схаваў пад далонню ўсмешку, хацеў нешта сказаць, але стрымаўся.

Малец працягваў:

— Праўда, тут нельга выносіць канчатковы прысуд, бо гэта яшчэ фрагменты. Ды і ў іх ёсць да чаго прычапіцца. Заганы ёсць, але агульнае ўражанне такое, што паэт знайшоў сваё «я», што ў яго ёсць свой голас, «асядлаў» сваю тэму — менавіта заходнебеларускую. Гэтыя словы:

Край мой родны, дзе я рос!
На шляху сваім юначым
Тут я ўбачыў мора слёз,
Покі шчасце тое ўбачыў,—

ідуць з душы чыстай і шчырай. У іх відна гісторыя нашага краю. Я скончыў.

Ярошка пачакаў, пакуль Малец усядзецца і перастане скрыпець крэслам, і спытаў:

— Хто наступны? Я? Даю сам сабе слова... Гм... Цяжка гаварыць пасля такога златавуста, але што ж? Не дамо сябе на асмяянне... Мы прысутнічалі на нараджэнні... Не, што я кажу — пры хрышчэнні сапраўднага паэта. Гэта яго першае баявое хрышчэнне, і дай бог, каб заўсёды яго прымалі чытачы і крытыкі, як сёння прымаем мы. Шкода, што ўжо зачынены магазіны і што мы апаражнілі каструлю з супам. Але прабачце, я не туды гну... Паэма ўвогуле неблагая, мо толькі надта ў духу нашых традыцый... А вось што да галоўнага героя, то тут я павінен зрабіць аўтару сур'ёзны папрок. Мне гэты герой уяўляецца інтэлектуальна высокім, хоць і верным свайму старому класу — сялянству, якое некаторыя лічылі якраз інтэлектуальна бедным, забітым, прыніжаным і г. д. Я сам, аднак, з'яўляюся працiўнікам такога погляду — каб усе ведалі. У паэта гэты герой трохі, каб не сказаць больш рэзка, прыземлены, нейкі трохі сутулы, ледзь не гарбаты, нібы толькі ад сахі і касы, а гераіня такая ўжо Афелія, што бог ты мой! Рафінаванае дзіця горада, узнёсласць думак і пачуццяў! Натуральна, што яна не можа пусціць у сваю душу гэтага, з дазволу сказаць, мужлана Дзівіна і кажа яму — кацiся... Вось такая мая галоўная прэтэнзія. Хто наступны? Стары? Прашу!

Слухаючы Ярошку, Русіновіч увесь час усміхаўся. Ён ведаў, што Ярошка гаварыў тое, што думаў, толькі знарок афарбоўваў усё ў гумарыстычны тон.

Русіновіч спачатку блытаўся, пераскокваючы з думкі на думку, пасля паступова выбраўся на роўную дарогу.

— Ужо сам факт, што напісана паэма,— радасны... Але галоўнае — што і як? Малец хваліў тэму... Правільна, тэма вартая ўвагі. Нас, «заходнікаў», яшчэ не ведаюць — хай даруюць мне... усходнія нашы браты. Нас паказвалі аднабока: або нейкімі ўпартымі фанатыкамі, або нікчэмнымі... Мне падабаецца свой погляд на гісторыю краю, імкненне стварыць самабытны характар маладога беларуса Дзівіна, які хоча быць падобны да ўсіх, хто яго акружае, але ўсё ж выдзяляец-

ца, бо не страціў яшчэ адбітку часу і асяроддзя, з якога выйшаў. Не скажу, каб ён выглядаў белаю варонай, але нечым да яе падобен. Ды якраз у тым, што ён не падобен да іншых, і яго вартасць. Што мне спадабалася асабліва — гэта аптымізм, сапраўдны народны аптымізм паэмы, хоць сітуацыя тут даволі драматычная... Многа гумару, лірычных, задушэўных мясцін і радкоў, якія хочацца цытаваць. Хачу папярэдзіць толькі нашага паэта ад адной небяспекі, якая можа яго спаткаць. Я ўжо ўпамінаў пра яго аптымізм. Гэта добра, гэта вельмі добра... Але аптымізм можа вырадзіцца ў бяздумнасць, зубаскальства, няўвагу да сацыяльнага боку жыцця...

— Ну, Стары, завёў, канца не відаць.— Ярошка дэманстратыўна пазяхнуў на ўвесь рот і пацягнуўся.

— Замаўчы, Пяхота, дай чалавеку сказаць. Цябе слухалі,— супакоіў яго Малец.

— Маўчу.

Русіновічу была дарэчы гэтая паўза, бо ён якраз страціў на момант асноўную думку — з ім гэта нярэдка здаралася. Хлопцы сціхлі. Русіновіч працягваў:

— Чалавека трэба паказваць усебакова, а не маляваць яго такім бесклапотным весельчаком, які толькі пяе частушкі і ніколі не сутыкаецца з бядою, з няшчасцем, з несправядлівасцю ці здрадай. Паказаць чалавека такім — гэта паказаць яго аднабакова, збеднена, гэта значыць, адысці ад праўды, сфальшывіць. Вось як я гэта разумею...

Русіновіч змоўк, зноў сагнуўся над сталом, выцер далонню спацелы лоб.

— Ты, Стары, усё сказаў ці яшчэ што выціснеш? — спытаў Ярошка.— Я хацеў бы паспрачацца з табою, але, можа, мы лепш дамо слова аўтару, як гэта звычайна бывае. Ці ён не павінен разжоўваць таго, што сказаў у сваім творы, і класці ў рот чытачам? Здаецца, усё зразумела?

Тут зноў умяшаўся Малец.

— Усё не ўсё, а ён павінен сказаць свае слова, хоць бы нават адказаць на твае закіды. Не заціскай дэмакратыі. Гавары, Ігар!

Антановіч прайшоўся пальцамі па сваёй густой чарнявай чупрыне.

— Я слухаў ды думаў сам сабе: што мы тут елі — суп ці якую хмельную брагу? Надта ж ужо ружовыя ў вас фарбы, паважаныя мае крытыкі. Дзякую, што слухалі... Крытыку я ўлічу... Цяпер я хачу сказаць, што я думаю аб напісаным. Гэта толькі эскіз, толькі варыянт, а колькі іх будзе — не ведаю, але адчуваю, што многага не хапае. Нешта ўлавіў, мо сотую долю, але галоўнага, як мне здаецца, няма. Тут адно апісальніцтва, я сказаў бы, плакатнасць, канфлікт дробны, не сацыяльны, а нейкі нават сентыментальны,— маўляў, пашкадуйце беднага Дзівіна, яго не пакахала дзяўчына. У нашым сённяшнім жыцці ёсць паўнакроўныя канфлікты, аб якіх і трэба пісаць. Але для гэтага, відаць, патрэбна грамадзянская смеласць, якой у нашага брата мала... Вы занадта перахвалілі мой першы опус. Другія крытыкі могуць загнуць зусім у іншы бок.

— Раз ты такі самакрытычны, то будзь гатовы да ўсяго: да лаўраў і да церніяў. І ведай, што, як сказаў адзін мудрэц, лаўровы вянок асабліва моцна трымаецца на падкладцы з цярноўніку,— глыбакамысна зазначыў Ярошка.

— Як буслінае гняздо на баране,— уставіў Малец.— Гавары прасцей, а то да нас не даходзіць.

— Пачуццё гумару ўласціва толькі высокаарганізаванай асобе,— адбрыў яго Ярошка.

— Гледзячы на цябе, гэтага не скажаш,— не заставаўся ў даўгу Малец.

## На возеры

Спатканне было прызначана на дзве гадзіны дня, у прывакзальным скверыку. Адсюль яны трамваем паедуць на возера. Лета... Такое гарачае лета...

Русіновіч прыйшоў на ўмоўленае месца раней — ён ніколі не любіў пазніцца.

Прывакзальны сквер у любы час дня — што вулей. Усе лаўкі забіты людзьмі з клункамі і чамаданамі, тут поўна неспакойных і мітуслівых пасажыраў. Проста на зямлі, на траве размясцілася група інвалідаў. Адны дрэмлюць на клунках, другія нешта спрачаюцца. Ёсць сярод іх і некалькі жанчын. Усе разагрэтыя сонцам,

загарэлыя да чарнаты, відаць, падпіўшы, бо жэсты рэзкія, парывістыя, а гутарка вясёлая, крыклівая. Побач ляжаць мыліцы, адшпіленыя пратэзы.

Жанчына з мыліцамі, без нагі... О божа! Можна змірыцца з лёсам мужчыны — ён часта вяртаўся з вайнаў то без нагі, то без рукі, то зусім знявечаны, але жанчына!.. Маці! Гэта ніяк не ўкладвалася ў галаве. Вось яна, гэтая тонкая, далікатная, звышчулая істота — жанчына, якая створана прыродай для самай высокай, самай святой і пачэснай місіі — радзіць і гадаваць дзяцей, працягваць на зямлі жыццё,— яна сёння інвалід... Хто за гэта адкажа? Хто?..

— Грыша! Ачніся! — чуецца голас. Гэта Галя. Яна стаіць ля лаўкі.

Русіновіч нейкі момант няўцямна глядзіць на яе, потым нехаця ўстае і бярэ яе пад руку. Яна вызваляе руку.

— Не трэба, прашу цябе. Тут гэтулькі народу...

— Яшчэ хто ўбачыць... Праўда? — падколвае яе Русіновіч.— Будуць смяяцца, данясуць рэктару, што яго студэнты дазваляюць сабе такія вольнасці...

— Ты не дасціпны, гэта ты сам ведаеш. Таму з табою мне часам сумна...

— Дзякую за шчырасць... Што я магу зрабіць? Курсаў такіх пакуль што няма, і я не ведаю, як будзе далей.

— Курсы не памогуць, дасціпным трэба радзіцца.

— Пэўна ж, спярша радзіцца, а пасля вучыцца. Аднак жывуць на зямлі і маўчуны. І апошніх болей. Куды ім падзецца?

— Куды хочуць. Але я іх не люблю. Мне падабаюцца такія, як артыст Алейнікаў... Ну, яшчэ як Марк Бернэс ці хоць бы Кручкоў.

Русіновіч памаўчаў, пасля сказаў праз зубы:

— Мяне якраз цікавіць адваротнае смеху.

— Што?

— Плач.

— Вось як?..

Яны селі ў трамвай. Народу было многа, яны ледзь уціснуліся. Потым плынь занесла іх наперад, яны сталі ля пярэдніх дзвярэй адно пры адным, трымаючыся за парэнчы. Рукі іх датыкаліся, і Галя ўвесь час адсоўвала сваю руку ад яго, а ён знарок пасоўваў сваю. Галя

тады сярдзіта зіркала на яго вачыма, моршчыла носік і нямоцна біла яго па руцэ.

Урэшце яны выходзяць з трамвая і моўчкі ідуць праз старыя запушчаныя могілкі да возера.

— Ты бачыла інвалідаў у скверыку пры вакзале? — пытае Русіновіч і асцярожна бярэ Галю за локаць.

— Ай, лепш не трэба аб гэтым...

— Чаму?

— Страчаныя людзі!

Русіновіч не мог пагадзіцца з ёю, але не хацеў і спрачацца, трохі памаўчаў. Аднак думкі не пераключаліся на другое.

— Дарэмна ты так лічыш,— нібы спрачаючыся ўжо не з Галяй, а з самім сабою, загаварыў Русіновіч.— Ты ведаеш, што на нашым факультэце вучыцца хлопец, у якога няма нагі і абедзвюх рук? Ён журналіст, піша сам, усё робіць сам. А каб ты бачыла, які ён чысты, паголены, акуратны — не паверыш, што ён калека. І заўсёды вясёлы.

— Не веру я ў такі цуд,— стаяла на сваім Галя.

— Які ж гэта цуд, калі гэта рэальнасць?

— Усё роўна. Ты мяне не пераканаеш.

Яны перайшлі плаціну, кіруючы на лодачную станцыю. Давялося выстаяць доўгую чаргу — у пагодлівыя дні лодкі былі нарасхват. Галя пачынала нервавацца. Сонца паліла, і клікала да сябе вада халадком, а тут трэба было стаяць. Урэшце Русіновіч аддаў свой пашпарт, атрымаў квіток, пайшоў браць лодку.

Яны селі. Русіновіч адагнаў лодку ад прыстані на вольнае месца.

— Ты не верыш у прыкметы? Глядзі, чортаў тузін.

— Я нават не заўважыла,— абыякава сказала дзяўчына, аднак нахілілася і паглядзела на борт, дзе красавалася лічба.— Думаю, шторму на моры не будзе і нам нічога не пагражае?

— Хто яго ведае... Бура бывае і ў шклянцы вады,— задумліва адказаў Русіновіч.

— А ты баішся?

— Такіх, што ў шклянцы,— як баюся, але не люблю. Але давай лепш загараць,— сказаў Русіновіч.

У чырвоным яркім купальніку Галя стала яшчэ больш прывабнай. Рукі ў яе былі поўныя, гладкія, як

точаныя, загарэлыя, моцнае цела з тонкаю далікатнаю скурай, гарэзліва тырчалі пад купальнікам і трывожылі вострыя грудзі.

— Гэты купальнік табе да твару.

— Што ж, буду часцей у ім хадзіць.

— Я не буду пярэчыць, калі ласка! Толькі нас аштрафуюць.

— Ты будзеш расплачвацца.

— Толькі невядома чым...

Галя сядзела насупраць яго, на карме, пазірала па баках, жмурыла свае цёмна-шэрыя вочы, нібы каго шукала. Гэты занятак ёй хутка, відаць, надакучыў, і яна сказала Русіновічу:

— Дай я сяду за вёслы. У цябе яны не так ходзяць.

Яны памяняліся месцамі: лодка гайданулася, Галя ўскрыкнула, а Русіновіч супакоіў:

— Не бойся, тут блізка да дна.

Вёсламі яна працавала добра, стан яе то пружыніста выпроставаўся, падаючыся назад, то нахіляўся да ног, пасылаючы вёслы назад; твар яе расчырванеўся, валасы лезлі на вочы, і яна адкідала іх кароткім рэзкім узмахам галавы.

— Ты вяслуеш, як рыбачка,— пахваліў яе Русіновіч.

— А што, я рыбачка... Вырасла на Сожы, калісьці з бацькам любіла рыбу лавіць...

— А я рос далёка ад вады. Таму і плаваю, як сякера. А ты як? Перамахнеш наша возера?

Галя паглядзела на левы бераг, потым на правы.

— Калі б сказалі, што на тым беразе мяне чакае шчасце, пераплыла б...

— Якое шчасце?

— Шчасце ў кожнага сваё...

Іх лодку загайдала на хвалях: міма велічна праплыў, як лятучы галандзец, баркас пад блакітным клінам ветразя. Галя паклала вёслы, твар яе стаў летуценны і прыгожы. Яна пачала дэкламаваць:

Белеет парус одинокий
В тумане моря голубом,
Что ищет он в стране далёкой,
Что кинул он в краю родном?

І нечым такім нязвычным павеяла ад гэтых яе слоў на Русіновіча, што яму раптам захацелася перавярнуць

свет, здзівіць усіх нейкім нечуваным-нябачаным подзвігам, парушыць гэтае звычайнае будзённае цячэнне часу, што быў як вада ў гэтым амаль што стаячым штучным возеры, зрабіць нешта такое, каб Галя сказала: «Ты — мой адзіны, мой любы, ты самы смелы, самы лепшы, самы... самы...»

— Пусці мяне за вёслы,— з прыхаваным жарам сказаў Русіновіч Галі.— І моцна трымайся.

Яны зноў памяняліся месцамі, стоячы і трымаючыся за рукі, размінуліся, лодка няўстойліва гайдалася на вадзе, гатовая зачарпнуць то левым, то правым бортам.

Русіновіч сеў на лаўку, моцна ўпёрся нагамі ў перакладзіну на дне, папляваў у далоні, як некалі, перш чым узяць у рукі сякеру ці цэп.

Тонка скрыпелі ўключыны, лодка рыўкамі ляцела наперад, а Русіновіч, налягаючы з усяе сілы на вёслы, усё гнаў і гнаў па роўнай, піўнога колеру рачной гладзі, толькі азіраўся назад, каб не ўрэзацца ў сустрэчную лодку, часам на момант парушаў рытм, заграбаў адным — правым ці левым вяслом, пакуль абмінаў перашкоду. Яны хутка пайшлі супраць слабага на шырокім полі цячэння, міма берагоў, аблепленых голымі людзьмі, лодак і купальшчыкаў, што ўспеньвалі ваду, міма прыбярэжных кустоў і астравоў.

Русла ракі пачало звужацца; раздвойвацца на рукавы, то вузкія, то шырокія, зарослыя чаротам і вадарасцямі, па якіх лодка ледзь паўзла, шаруючы днішчам, як па гразі, а на вёслы набіралася гэтулькі раслін, што іх цяжка было выцягнуць з вады. Але Русіновіч не зважаў ні на што. Валасы яго растрапаліся і падалі на мокры лоб, твар расчырванеўся, а мускулы рук і грудзей нібы ўспухлі. З непрывычкі пачыналі пячы далоні, пабольвала трохі спіна, але Русіновіч не хацеў здавацца. Няхай яна пабачыць, што хоць ён і сухаземны чалавек, вырас на сушы і ў лодцы сядзіць усяго мо які пяты раз, аднак і ён умее веславаць не горш за яе, рыбачку...

— Ах, які ты нязграбны!

Гэты ўскрык нібы абудзіў Русіновіча.

— Што такое?

— Ты абліў мяне ўсю. Глядзі! Хто так вяслуе?

— Прабач... Вада чыстая...

— Калі чыстая, дык можна абліваацца? — Яна ледзь не плакала.

Апошнія прыбярэжныя хаты прапалі з воч, рака павярнула рэзка на поўдзень, пасля на захад, а ён усё налягаў і налягаў на вёслы...

Лодка ішла проста на нізкі, зараслы высокаю травою востраў. Русіновіч падняў вёслы, лодка стукнулася носам у мяккі бераг і стала.

— Высадзімся на бязлюдны востраў.

— Ты ўпэўнен, што ён бязлюдны? А мо тут людаеды?

Русіновічу здалося, што злосць яе прайшла. Ён падаў Галі руку, вывеў на бераг.

— Зараз праверым...

— Не шкодзіла б толькі, каб тут быў буфет.

— Буфет — раскоша для студэнтаў,— сказаў Русіновіч, а сам ужо думаў: сапраўды, нeяк не па-людску выходзіць — ён нават не здагадаўся купіць дзяўчыне якіх-небудзь цукерак.

— Будзем купацца ці не? — спытаў ён у Галі.

— Я не хачу. Вада халодная,— адмовілася Галя.

Русіновіч выцягнуў ледзь не да палавіны лодку з вады, паклаў вёслы ў траву і з разгону бухнуўся ў раку. Тут было глыбока, вада апякла цела крынічным холадам. Ён узмахнуў рукамі, выплыў наверх, працёр вочы, азірнуўся. Галі не было відаць. Тады ён сваім павольным і нязграбным стылем паплыў да процілеглага берага, далей ад вострава, і хутка адчуў, што тут стала плытчэй — вада была зусім цёплая. Ён аддыхаўся, расцёр ногі, якія пачала зводзіць сутарга, скіраваў да вострава.

Лодка была на месцы, а Галя недзе прапала.

— Галя, дзе ты! — крыкнуў Русіновіч.

Яна не адклікалася. Яму стала нават страшна. Ён пабег наўпрост — да другога берага, выбраўся на невялічкі грудок, дзе трава была трохі меншая, чым з таго берага, затое пад нагамі не хлюпала вада, расла лапушыстая лотаць, ружавелі смолкі, пагойдвалася на ветры мятліца. За невялічкім лазовым кустом заўважыў Галю. Яна сядзела на купіне і пляла вянок з маленькіх бледна-блакітных незабудак.

Ён моўчкі пастаяў над ёю,— мокры, бліскучы на сонцы. Чакаў, што яна скажа яму нешта — ну, хоць

«Прысядзь ля мяне»,— але яна маўчала, нават не зірнула на яго і далей пляла свой вянок.

Ён сеў ля яе, абняў за гарачую талію, прытуліў да сябе.

— Не дакранайся, ты мокры,— сказала яна і адсунулася.

— Галя! — Ён пасунуўся да яе зноў.— Я хачу ведаць, што ты пра мяне думаеш...

Яна не зварухнулася, не ўзняла вачэй ад вянка — нібы важней за гэтую работу цяпер у яе нічога не было на свеце.

— Чуеш, Галя? — ціха спытаў Русіновіч.

— Дзівак! Навошта аб гэтым гаварыць? І так усё ясна.

— Мо для цябе ясна, а для мяне не. Я хачу ведаць...

— Трэба быць больш здагадлівым. А ўсяго ведаць ніколі не будзеш,— павучальна сказала яна, уплятаючы новыя кветкі ў вянок.— Праўда, прыгожа? — Яна павярнула галаву да Русіновіча.

— Яшчэ як! — Ён ускочыў на ногі.— Пойдзем! — амаль рэзка сказаў ён урэшце і, не чакаючы дзяўчыны, скіраваў да лодкі.

Галя прыйшла не адразу.

Моўчкі селі ў лодку. Русіновіч адштурхнуўся ад берага, на хаду скочыў на дно, адразу сеў за вёслы. Галя па-ранейшаму была на карме. Яна стала абыякавай і сумнай, і ўвесь яе выгляд як бы гаварыў: «Хутчэй бы ўсё гэта скончылася».

Русіновіч цяпер сядзеў тварам на захад. Ён бачыў, як сонца павoлі схавалася за шэраю плёнкаю хмары, якая паціху, без гулу і грымотаў, пасоўвалася ўслед за імі.

Русіновіч зноў з усёй сілы налягаў на вёслы, але лодка, здавалася, стаяла на месцы — надта далёка яны адплылі. Хоць бы паспець да дажджу!

Галя некалькі разоў азірнулася, паглядвала на неба, на твары яе з'явіліся прыкметы трывогі і неспакою. І чым бліжэй была хмара, чым гучней пачынаў даляцаць да іх грукат грымотаў, Галя ўсё больш рабілася змрочнай.

Першыя кроплі дажджу ўпалі тады, калі яны прысталі да берага на лодачнай станцыі.

— А пад лодкай было б лепш перачакаць.— Русіновіч задраў галаву і азіраў неба.— Памятаеш «Сэрцы чатырох?»

— Я згодна, толькі адна,— не то жартам, не то ўсур'ёз сказала Галя.

Русіновіч праглынуў пілюлю, але пасля паўзы, якая цягнулася хвіліну, усё ж знайшоў, як яму здавалася, даволі трапны адказ:

— А я згодзен, але толькі з табою...

Дождж наляцеў так раптоўна, што пакуль яны прабеглі метраў дваццаць — да павільёна «Марожанае»,— вымаклі да ніткі.

— Гэта за тое, што ты не хацела купацца,— пажартаваў Русіновіч, выціраючы мокры твар далонямі.

— Няхай я толькі...

Дзяўчына не паспела дагаварыць: асляпляльная маланка запаліла ўсё неба, і тут жа ўдарыў такі траскучы і рэзкі пярун, што Русіновіч адчуў, як па целе ў яго прабег лёгкі ток. Галя, закрыўшы твар рукамі, упала яму на грудзі.

— Не бойся, гэта не ў нас.— Русіновіч туліў Галю да сябе, а другою рукою гладзіў яе мокрыя валасы.— Супакойся, зараз ўсё сціхне.

Але навальніца яшчэ бушавала доўга. Гром і маланка чаргаваліся раз-пораз, шалёны вецер гатоў быў перавярнуць няўстойлівы павільён, а струмені вады з яго круглага даху спачатку залівалі ім ногі, а потым пачалі забірацца вышэй. Ды што! Яны і так вымаклі, як вадзяныя пацукі.

Непрыкметна сшарэла, разам з дажджом прыйшоў вечар. Галя і Русіновіч стаялі адны пад дахам павільёна, мокрыя, і шчыльна туліліся адно да другога. Ды гэтая ідылія працягвалася нядоўга — ледзь толькі дождж перастаў, Галя сказала, капрызна надзімаючы вусны:

— Ты напрарочыў дождж. Я на цябе сярдзітая за гэта...

У яе словах гучала несхаваная крыўда.

Яны ішлі па лужынах, па мокрай траве, мокрыя і галодныя.

— Паслухай, Галка, ці не зайсці нам куды павячэраць? Тут недалёка ёсць кафэ.

— Як хочаш...

— Тады ідзём...

Людзей было ўжо нямнога, толькі сям-там сядзелі за столікамі аматары пагаварыць пасля чаркі.

Яны занялі столік ля акна, недалёка ад выхада. Русіновіч узяў меню, пагартаў хвіліну, перадаў Галі.

— Выбірай, што хочаш...

Яна выбірала, а ён прыкідваў, ці хопіць у яго тых грошай, што былі ў яго з сабою, спецыяльна пазычаных у хлопцаў. Калі ўзяць халодную закуску, другое — які-небудзь шніцэль ці біфштэкс і бутэльку таннага віна,— то хопіць, а калі ікры, мясны салат ці які лангет, ды яшчэ грамаў трыста з трыма зорачкамі, то ён пагарыць са сваімі фінансамі, бо на такое меню ў яго хапіла б толькі на аднаго. «Кавалер! — лаяў сябе ў думках Русіновіч.— У цябе ніколі не было лішняга рубля за душою. Ды што? Сам ты абышоўся б без такой раскошы. Але цяпер ты павінен думаць перш за ўсё пра яе... Каб ёй не было з табою сумна, каб ты, не думаючы, мог выкінуць, калі трэба і колькі трэба... Ты ясі, каб жыць, ясі, каб не памерці ва ўсякім разе, але ж не ўсе так робяць, не забывай аб гэтым...»

Да іх падышла афіцыянтка, поўная, невялічкая і задуманая, а хутчэй стомленая. Русіновіч слухаў, як праз сцяну, усю яе гутарку з Галяй, а пасля ў канцы, калі заўважыў, што яны абедзве замоўклі і афіцыянтка збіраецца ісці, сказаў:

— Яшчэ трыста грамаў каньяку.

Афіцыянтка кіўнула галавой і павольна, як сонная, пайшла.

— Ты ведаеш, як балявалі рымляне? — спытаў ён Галю.

— Не ведаю і ведаць не хачу...

Яна нервова церабіла край настольніка, азіралася раз-пораз на гадзіннік, які вісеў над дзвярыма ў кафэ, то цікавала, ці ідзе афіцыянтка. Вакол вачэй у яе абазначыліся густыя цені, а твар страціў сваю ранейшую свежасць. Яна нібы раптоўна пастарэла.

Афіцыянтка на дзіва хутка прынесла заказ: хлеб, памідоры, салат і графінчык з залацістым напіткам. І нібы між іншым на хлебніцы побач з хлебам ляжаў рахунак. Русіновіч глянуў на лічбу ў канцы і адчуў,

як твар у яго паволі залівае чырвань. Не хапала пяці рублёў! Усяго пяці рублёў. Які ён быў дурань, што сказаў тады Ярошку — хопіць і гэтых! Які ён быў дурань! А цяпер трэба будзе пазычаць у яе — першы раз. Першы — і апошні. Але як гэта непрыемна, як брыдка!

Ён падумаў яшчэ хвіліну, хацеў ужо спытаць, ці мае яна з сабою грошы, а потым перадумаў. Не! У яе ён не пазычыць!

Ён устаў і накіраваўся да буфета, ля якога стаяла іх афіцыянтка.

— Куды ты? — спытала Галя.

— Я зараз... Ты пасядзі...

— Які ты...

Астатніх слоў ён не разабраў. Вось і гэтая дзяўчына, ці жанчына, хто яе ведае... З чаго пачаць? Як? Ён быў зусім неспрактыкаваны ў такіх тонкіх справах. Крануў яе за руку і сказаў нясмела:

— Прабачце...

— Што вам трэба? — даволі няветла спытала яна.

— Вельмі вас прашу... Я трапіў у непрыемную гісторыю... У мяне не хапае пяці рублёў... Ці не маглі б вы... Я заўтра прынясу... Чэснае слова! Вось мой пашпарт. Самі разумееце, бедны студэнт...— Ён аж успацеў ад гэтай «прамовы».

Афіцыянтцы, відаць, стала шкада «беднага студэнта». Яна ўсміхнулася.

— Добра. Я веру вам і без пашпарта... Я заўтра на другую змену, як і сёння...

У яго нібы скацілася гара з плеч. Узбуджаны, вясёлы, ён падышоў да Галі.

— Што ты там шаптаўся з ёю? — Галя глядзела на яго вялікую руку, у якой ён трымаў маленькі кілішак.

— А, нічога... Давай вып'ем...

— Ты не ўмееш паводзіць сябе ў такіх месцах,— выгаворвала яму Галя.— Ты нейкі як прыбіты, як нешта некаму вінаваты... Вось ты гаварыў з гэтай афіцыянткай, а здавалася, што ты стаяў перад суддзёй, у руках якога сама мала — тваё жыццё.

Русіновічаў твар зноў загарэўся агнём.

— Што ж тут дзіўнага? Я рос далёка ад усяго гэтага...

— Трэба ўмець валодаць сваімі пачуццямі, мімікай...

— Карацей кажучы, надзець на сябе маску... Не быць самім сабою...

— Не зводзь усё да прымітыву...

Русіновіч адчуваў, што вось-вось пачнецца сварка.

— Добра, не будзем спрачацца,— прымірэнча сказаў ён.— Буду з заўтрашняга дня трэніраваць пачуцці і міміку твару... Трэба толькі купіць люстэрка, бо ў мяне яго, прызнацца, зроду не было.

— Тое, што можна купіць, усё будзе. А ёсць рэчы, якія не купляюцца...

— Чаго ж, па-твойму, мне не хапае з таго, што не купляецца? — У Русіновіча раптам з'явілася жаданне спрачацца або нават пасварыцца з ёю.

— Чаму ты думаеш, што я пра цябе? І чаму ў цябе вочы сталі такія халодныя? Засмейся, Грыша! Мне страшна!

— Дзіва, што страшна... Дзіва!.. Вось ты ўмееш...— Ён змоўк, бо на язык прасілася: «Ты ўмееш іграць, надзяваць маску не толькі на твар».

...Было ўжо за дванаццаць, калі Русіновіч прыйшоў у свой інтэрнат. Антановіч і Рак спалі, а Ярошка і Малец недзе загуляліся — іх ложкі пуставалі.

Русіновіч зрабіў абажур з газеты, уключыў святло, дастаў з тумбачкі тоўсты сшытак і пачаў пісаць.

## Старонкі з дзённіка

*4.06.1952*

Даўно збіраўся пачаць дзённік, але ўсё неяк не даходзілі рукі. Мала часу. Ды і няма ўмоў: увесь час сярод людзей. Пісаць дзённік найлепш аднаму, без сведак. Пачынаюць смяяцца, глядзець як на дзівака: робіш не тое, што ўсе. Не хапае характару быць непадобным да ўсіх. А ёсць жа такія людзі! Вось хоць бы Галя... Праўда, вяроўкі віць і з мяне таксама не лёгка... Дарэчы, Галя. Якраз я і хачу пісаць пра яе. З ёю знаёмы ўжо цэлы месяц і, здаецца, закахаўся не на жарты. Лаю сябе за гэта бязбожна, бо ці да кахання мне? А іншы раз падумаеш: а чаму не? Урэшце, можна здурэць ад усялякіх думак, якія апаноўваюць. Але з ёю, Галяй, я не магу гаварыць аб усім, што мяне тур-

бue. Гэта кепска, але што зробіш? Таму ўсе свае сакрэтныя думкі я хачу даверыць гэтаму сшытку...

Толькі што вярнуўся ад яе. Праводзіў да самага інтэрната. Яна сёння за дзень і вечар мянялася разоў дзесяць. Цікавая асоба! Дагэтуль такіх дзяўчат я не сустракаў. З ёю нельга гаварыць аб нечым адным, яна пераскоквае з аднаго на другое, як вавёрка з дрэва на дрэва. А я просты, як лапаць, і, бы той чмель, гатоў гусці на адной ноце ўвесь вечар. Яна так мне і сказала: «Ты не дасціпны». Што праўда, то праўда. Але што рабіць такім, як я? Не пойдзеш з-за гэтага тапіцца?..

Спачатку я быў як сляпы: свет сышоўся на Галі, і болей нічога я не бачыў. Яна ўразіла мяне тым, што была зусім непадобнай на тых, каго я ведаў раней. Гэта цікавіць, інтрыгуе, ты пачынаеш адкрываць у сабе новы характар, новага чалавека.

Я занадта захапіўся гэтай навізной і прагледзеў другое: што яна на мяне глядзіць зусім іншымі вачыма, чым я на яе. У той час як я гатоў шчыра раскрыць душу, гатоў падзяліцца з ёю ўсім, што думаю і што перажываю, яна ўсё тоіць у сабе.

Мне цяпер брыдка за гэтую сваю вясковую шчырасць, за сваю прастату, якая так і прэ з мяне і якая псуе нашы адносіны! Так, псуе, у гэтым я пераканаўся і паверыў урэшце ў банальную для многіх ісціну, што «чем меньше женщину мы любим, тем больше нравимся мы ей». Яна нібы ўзяла на ўзбраенне гэты пушкінскі афарызм, скарыстаўшы яго супроць мяне. А яно так! Ён падыходзіць у роўнай меры да жанчын і да мужчын...

Яна не хоча гаварыць пра нашы адносіны, праўдзівей, пра яе адносіны да мяне. Атрымліваецца, як у боксе, калі ідзеш на збліжэнне з праціўнікам, а ўвесь час натыкаешся на моцны сустрэчны ўдар. Я шукаю і ніяк не магу знайсці дарогі да яе сэрца, абудзіць у ёй шчырасць. Мне здаецца, што яна мяне не разумее або яшчэ горш — не хоча разумець. А я хачу яе зразумець. Мо таму яна так інтрыгуе мяне, так цягне да сябе, гэта дзяўчына-загадка.

*10.06.1952*

Калі я не ведаю пра чалавека, хто ён і што, ён мне чужы. І калі ўжо з кім пазнаёмлюся, то хачу ведаць,

хто ён, адкуль, з якой сям'і,— прагну як бы прачытаць яго анкету, пачуць яго біяграфію,— толькі тады я магу сказаць, што гэта за чалавек, чаго ад яго можна чакаць.

І хоць не заўсёды чалавек раскрываецца ў сваёй біяграфіі, асноўнае ўсё ж відаць.

Я не таіў ад Галі, хто я,— гэта непатрэбна, ды гэтага і не ўтоіш, бо відаць адразу. «Заходнік», калгаснік, нарадзіўся пры панах, быў пад акупацыяй, у партызаны не трапіў — жыў далёка ад лесу, ды і ўзрост не такі...

Брат, сястра... Дзе сястра — не сказаў. Не асмеліўся.

А з Галі ўсё трэба выцягваць абцугамі, як цвік з дубовага шула: скрыпіць і не вылазіць. Родам яна з Гомеля, бацькі настаўнікі. У яе два старэйшыя браты, абодва лётчыкі-афіцэры, жывуць тут, у Мінску...

*19.06.1952*

Здаў усе экзамены! Ура! Перайшоў на апошні, пяты курс! Проста не магу паверыць! Хаджу і ўсё думаю: няўжо гэта праўда? Няўжо праўда?

Атрымаў стыпендыю за лета. Трэба будзе купіць які-небудзь касцюм. Праз пару дзён еду дадому...

Бачыўся з Галяй. Яна едзе на Нарач. У іх там практыка. Проста зайздрошчу біёлагам. А ў нас на філфаку была запланавана паездка ў Маскву і Ленінград, але, як на бяду, адмянілі. Як стыпендыю за тройкі... Аднак не гэта асноўнае. Асноўнае — што мы студэнты апошняга курса. Яшчэ годзік — і мы вольныя птахі. Паляцім хто куды...

*21.06.1952*

Учора з Баранавіч дабіраўся дадому на машыне. Ехаў адзін, адправіў Антановіча на аўтобусную станцыю (яму на Слонім), а сам пайшоў на Нясвіжскую вуліцу, каб знайсці спадарожную машыну, бо прыгараднага цягніка трэба чакаць да самага вечара.

Каля кантрольнай будкі, у якой звычайна сядзяць рэвізоры, чакаў тры гадзіны. Нейкі шафёр ехаў у Начу цераз Ляхавічы, узяў і мяне. Грузавік-пяцітонка імчаў ваўсю. Перада мной на пустых скрынках падскокваў

стары дзед з рэдзенькай сівай барадою і чырвоным носам. Шыя яго, худая і доўгая, была голая, каўняра ў старамодным бурносе, падпяразаным путам, ён чамусьці не настаўляў, а торбу, якую трымаў за плячыма, таксама ўсю дарогу не зняў, хоць там ляжала, можа, з пуд хлеба. Я добра прагаладаўся, і гэты смачны хлебны пах не даваў мне спакою ўсю дарогу — аж да Ляхавіч, дзе стары злез.

З Ляхавіч выехалі на не знаёмую мне дарогу, пачалі загінаць на поўдзень, і мне ўвесь час рупіла думка, што шафёр мог памыліцца — і замест трох кіламетраў мне давядзецца тупаць да Жарабковіч больш дзесяці.

Але пасля дарога звярнула ўлева, мы праехалі праз лес, і я ўбачыў вёску Перахрэсце, ад якой не так ужо далёка да станцыі.

Шафёр спыніў грузавік.

Я пайшоў поплавам і хутка выбраўся на чыгунку. Прайшоў па шпалах кіламетры са два, а пасля супроць Яцкаўшчыны забраўся ў выемку ля насыпу і, стомлены дарогаю, адразу заснуў. Разбудзіла маторная дрызіна. У тры гадзіны я ўжо быў дома.

Дома застаў усіх: бацьку, маці, малодшага брата. Не хапала толькі Зосі, сястры. Калі яна вернецца? Па закону — праз тры гады. Два ўжо адбыла. Маці ўвесь час чакае. Расказвае мне: сніла сон, што Зося білася з усімі дамашнімі. Чакай, што скора прыб'ецца.

Маці гаворыць: тры гады ёй прыйдзецца гараваць. Пабачым. Перад гэтым я напісаў заяву ў Вярхоўны суд БССР, але адказ расчараваў мяне. Таму пісьмо ў Маскву пасылаў ужо без той веры, якая была раней. Але верыць трэба, інакш нельга... Горш за ўсё, што Зося хворая, увесь час у яе трымаецца нізкая, «гнілая» тэмпература. Можа, якраз гэта самае важнае, за што трэба ўхапіцца? Неяк трэба яе ратаваць. Але як?

*30.08.1952*

Мне часта даводзіцца быць у дарозе аднаму, адзіноту трудна пераносіць заўсёды, але сёння чамусьці мне асабліва цяжка.

Раніцай Коля праводзіў мяне на станцыю. Ісці кіламетраў пяць. Ён нёс мой чамаданчык, гэты раз даво-

2 Зак. 3425

лі цяжкі: пазычанае сала, усмажаны гусак, яблыкі, кавалак дамашняга хлеба, які вельмі люблю.

Я адбіраў у Колі чамаданчык, а ён не даваў, хоць ужо добра змарыўся. Нас праводзіў наш верны вартавы Мурза, пярэсты здаровы сабака, які мяне памятае яшчэ са школы. Ён не ішоў за намі, а гойсаў пры дарозе, па кустах, па ржышчы, усё нешта вынюхваў, ганяўся за птушкамі, пасля падбягаў да мяне, цёрся аб ногі, пазіраў на мяне сваімі разумнымі вачыма, нібы хацеў нешта сказаць, і зноў, высалапіўшы язык, пускаўся наперад.

Мінуўшы Яцкаўшчыну — палавіну дарогі,— я ўгаварыў брата вярнуцца. Ён быў сумны, на развітанне сказаў, што мне зайздросціць. Я супакоіў яго, як мог, пажадаў поспехаў у вучобе.

Узышоўшы на насып, я пакрочыў адзін. Праз колькі часу азірнуўся — за мною па шпалах трухаў сабака. Дзіўна, што ён не апярэджваў мяне: відаць, не хацеў трапляць на вочы, бо ведаў, што я буду крычаць на яго. Заўважыўшы, што я азірнуўся, ён вінавата апусціў галаву, падцяў хвост і неяк сарамяжліва-асцярожна падбег да мяне, пачаў лашчыцца ля ног, нібы прасіў дараваць свавольства. У мяне зашчымела сэрца, горкі камяк падступіў да горла. Я не закрычаў на яго, а адчыніў чамаданчык і аддаў яму свой сняданак, які маці падрыхтавала мне на дарогу. Ён з'еў, здавалася, толькі для таго, каб не пакрыўдзіць мяне, нясмела пазіраў мне ў вочы і чакаў.

Я паляпаў сабе па калене, ён усё зразумеў, ускочыў мне лапамі на грудзі, лізнуў цёплым языком шчаку, завіляў пушыстым чорным хвастом, а лапамі, як рукамі, стараўся абхапіць мяне за шыю.

У блішчастых глыбокіх вачах яго свяцілася нявыказаная радасць. Сабака лашчыўся да мяне, ціха скавытаў, нібы прасіў мяне вярнуцца.

Я патрапаў яго за вушы, ён яшчэ раз лізнуў мяне ў твар, заскакаў, прыпадаючы аж на жывот, радуючыся, як малое, што я зразумеў яго і вярнуўся дадому, да іх.

— Ідзі дадому, Мурза! Ідзі! — І я паказаў яму на дарогу.— Марш!

Ён спахмурнеў адразу, зноў стаў вінаваты і прыніжаны, прыгнуў галаву і нехаця адышоўся на некалькі

крокаў ад мяне, але азірнуўся і стаў, нібы чакаў, што я адумаюся і паклічу яго зноў.

— Ідзі! — крыкнуў я мацней, хоць мне балела сэрца крычаць на яго.— Я вярнуся, ідзі!

Ён няўпэўнена, раз-пораз азіраючыся, пайшоў назад, напэўна, несучы ў сэрцы крыўду на чалавека, які не зразумеў яго і не схацеў прыняць яго вернай дружбы.

Доўга ўсё гэта сядзела ў маёй галаве...

Цяпер я ў Стоўбцах на вакзале — сяджу адзін, чакаю, пакуль прыгарадны пойдзе на Мінск. Нехта вельмі разумны пісаў расклад руху прыгарадных цягнікоў. У Стоўбцах трэба праседзець больш пяці гадзін, едзеш ты з Баранавіч у Мінск ці з Мінска ў Баранавічы — усё роўна. Іншыя не сумуюць — іграюць у карты, заводзяць дарожныя раманы...

Думкі розныя, і перш за ўсё аб доме. Ехаў і баяўся, што бацькі скажуць кідаць вучобу — няма чым памагаць. Ажно не — неяк яшчэ мацуюцца. Бацька дык крывіцца, бо яму цяжэй, а маці гатова апошняе аддаць, залезці ў даўгі, каб толькі яе дзеці не галадалі.

Цяпер пасылкі трэба слаць у два канцы — мне і сястры. І яны шлюць — адрываюць ад свайго рота і шлюць...

Думаю аб Галі. Думкі то сумныя, то вясёлыя. Цікава, як яна сустрэне мяне? За ўсе канікулы прыслала толькі адзін ліст, у той час як я закідваў яе сваімі «пасланнямі». Але што гадаць? Хутка ўсё высветліцца. Засталося ўсяго некалькі дзён...

Паслязаўтра — першы дзень заняткаў. Апошні курс! Ці прыехалі ўжо хлопцы? Малец у студкоме — павінен ужо быць там, цяпер якраз здаюць новы інтэрнат. Апошні курс...

*31.08.1952. 24.00.*

Можаш павіншаваць мяне, Галка: я ў новым пакоі, у новым інтэрнаце. Ты не ўяўляеш сабе, якая гэта для нас радасць! Пяты курс, новы інтэрнат. Чаго больш хацець! У мяне аж кружыцца галава — ад радасці і ад таго, што сёння адзначалі сустрэчу — гэтулькі часу не бачыліся! Нават выпілі трохі: за сустрэчу, за новыя поспехі, за ўсё добрае, што чакае нас наперадзе.

Вось усе — амаль што ўсе — трохі прыціхлі, а я прысеў ля тумбачкі і пішу гэтыя радкі табе, хоць ты, магчыма, іх ніколі не прачытаеш, бо гэта я пішу для сябе.

Дык вось, мы будзем жыць у новым інтэрнаце па Свярдлова, на трэцім паверсе, пакой 77. Усе хлопцы застаюцца тыя ж, што і на Нямізе.

Наогул у нас усе хлопцы ў пакоі сабраліся неблагія. Дай бог пабольш такіх! Не ведаю толькі, ці датычыцца гэта і мяне: аб сабе цяжка меркаваць.

Але ці не занадта я разышоўся? Я ж думаю пра цябе. Дзе ты будзеш жыць? Я, дурань, не паглядзеў спісаў. А ўвогуле ў мяне нейкае нядобрае прадчуванне, што ты ўжо зусім сюды не прыедзеш! У галаву лезуць розныя неадчэпныя думкі, не даюць спакою. Можа, што здарылася? Ці ты проста хочаш павадзіць мяне за нос, пажартаваць, як жартуе кот з мышшу, ці пасмяяцца з мяне?

Хачу бачыць цябе, хачу пачуць твой голас, пасядзець побач з табой, абняць цябе, цалаваць твае вусны — цёплыя, свежыя, салёныя ад ветру і нарачанскай вады. Як добра быць удваіх і на момант забыць аб усіх клопатах, бачыць і адчуваць толькі цябе адну, толькі цябе!

*3.09.1952*

Учора днём і вечарам я быў сам не свой. Мне сумна, цяжка. Чаму? Я ж бачыў цябе, гаварыў. Але чамусьці не стала лягчэй. У мяне расце жаданне сказаць табе: «Або-або». Нешта ты тоіш, нечага не дагаворваеш. Не кахаеш? Дык чаго таіцца? Скажы проста, не саромейся і не бойся. Скажы самае страшнае для мяне — і яно будзе лепш, чым тая няўпэўненасць, якая скапілася ва мне цяпер.

Я цяпер заўважыў тое, чаго раней не заўважаў. Ты не хочаш быць са мною на людзях: табе тады непрыемна, ты адчуваеш сябе скавана. Можа, таму, што апрануты не так добра, як другія, што прыехаў у тым жа кіцелі — стыпендыя пайшла на другое,— што на нагах брызянтовыя туфлі — самыя танныя ў магазіне? Ты ніколі не спытала ў мяне, як я жыву, ці памагаюць мне бацькі. Відаць, для цябе гэта нікчэмныя пытанні.

Але ўсё гэта не тое, не!

*10.09.1952*

Сёння ноччу кепска спаў. Баліць галава. Учора цэлы дзень жыў сустрэчамі. У шэсць вечара засядалі ў прафкоме, гаварылі пра падрыхтоўку да юбілейнай канферэнцыі студэнцкага навуковага таварыства. Праз акно бачыў цябе, ты сядзела на падаконніку ў хімкорпусе і чытала кнігу. Шкло было няроўнае, яно касабочыла, крывіла цябе, нібы знарок робячы непрывабнай. Але я ўсё роўна бачыў цябе такою, як ты бываеш заўсёды.

У дзевяць гадзін я ўжо быў вольны і зайшоў у ваш інтэрнат. Дзяўчаты сказалі, што ў вас вечар сустрэчы з першакурснікамі, што яны ідуць зараз туды, у наш клуб, а ты ўжо там. Я пайшоў разам. Праз адчыненыя дзверы я ўбачыў цябе, ты мяне. Мы толькі кіўнулі галовамі. Ты надта ўжо ўважліва слухала пяцікурсніка, які даваў «настаўленні» тым, што нядаўна сталі студэнтамі.

Я не захацеў цябе турбаваць і пайшоў у кіно.

Да пачатку сеанса, на шчасце, заставалася ўсяго дзесяць хвілін, але і яны мне падаліся вечнасцю. Я круціўся на крэсле, усё ніяк не мог выбраць зручнае позы.

У думках я бачыў цябе на лаўцы ў клубе. Ты ўважліва слухаеш даклад... Чаму нам не сядзець побач тут ці там? Я пачынаў спрачацца з табою, думкі абрываліся, я зноў бачыў белы пусты экран, і адчуванне, як марудна цягнецца час, пякло мяне агнём. Нарэшце такі святло патухла, ажыў экран. Амерыканскі фільм «Уцёкі з катаргі»... Здаецца, я ніколі так не разумеў героя фільма, як сёння, не дрыжаў за яго лёс, не радаваўся за яго поспехі... Вось табе хвалёны «амерыканскі лад жыцця»! Беспрацоўны чалавек вымушан стаць хаўруснікам злачынцы, яго адпраўляюць на катаргу. Пахавальны звон ланцугоў. Якая жудасная музыка! Ад яе проста стыне кроў!

Ноччу доўга не мог заснуць. З галавы не выходзіць тое, што перажыў за дзень. Думкі аб Галі, кіно...

І сплёўся пачварны неверагодны сон, які змучыў мяне канчаткова. Здаецца, я збіраюся жаніцца з Галяй. Засталося толькі схадзіць у загс. Але мяне арыштоўваюць, груба, бесцырымонна — нібы я хацеў забіць старшыню студкома за тое, што хоча ўсяліць у пакой

чужога чалавека. Я не прызнаю сябе вінаватым, але дарэмна — мяне адпраўляюць на катаргу. Абставіны — з амерыканскага фільма. Як пахавальная мелодыя — звон ланцугоў. Здзекі, пабоі... Гэта ў мяне з плячэй ашмоццем злазіць скура пасля катавання, але маўчу, як камень... Пасля спрабую ўцякаць. Негр-гігант згінае на рэйках бранзалеты нажных кайданоў, я вызваляюся з жалезных путаў. Пагоня... Абвалы, завалы, жыццё на валаску. Урэшце адрываюся ад пагоні. Я ў Мінску, хачу схавацца ў каго-небудзь, але ў каго? У Галі, толькі ў яе! Я бягу ў інтэрнат. На шчасце, яна адна ў пакоі — сядзіць на падаконніку і чытае кніжку. Здаецца, «Затерянный мир» Конан-Дойля... Галя рада, што я вярнуўся, яна абдымае мяне і цалуе, пытае, адкуль я ўзяўся. «Галка, я ўцёк. Мяне шукаюць. Схавай мяне». Яна паказвае мне пад ложак. Я чую шум на калідоры, грукат цяжкіх ботаў, задыханыя галасы людзей: «Сюды, сюды!» Кідаюся пад ложак, прыпадаю да самай сцяны, не дыхаю... Бразгаюць дзверы, цяжкія крокі набліжаюцца да нас. «Лэдзі, тысячу прабачэнняў за турботы,— гучыць басавіты, як з бочкі, голас, і ў такт словам бразгаюць пагрозліва сталёвыя наручнікі.— Праваліцца мне з трэцяга паверха вашага катэджа, калі вы не бачылі ў сваім пакоі толькі што маладога хлопца — сярэдняга росту, чарнявага, худога з твару, апранутага дрэнна, са слядамі на нагах ад такой вось штучкі». Металічны звон кайданоў зліўся з яго халодным раскацістым смехам... Я чакаю, як збавення, яе голасу, ён павінен быць рэзкі, сухі, як пісталетны стрэл ці ўдар плёткі: «Вон адгэтуль, тут нікога няма!» Але што я чую? У мяне заварушыліся валасы на галаве, і ўвесь я пакрыўся ледзяным потам. «Ён тут. Вазьміце яго...» Голас ціхі, пакорлівы. «Ах ты!!!» — Я дзіка крыкнуў і прачнуўся. Страх паволі пакідаў маё змардаванае цела...

Той увесь дзень я праляжаў у пасцелі. Гарэла галава, слабасць скоўвала цела. Хлопцы хацелі паклікаць доктара, але я папрасіў пачакаць да заўтра.

*21.09.1952*

Я не пайшоў на спатканне. Ты мо будзеш лаяць і даказваць, што я вінаваты. Тады я пакажу табе сведак. Во яны, сведкі,— мазалі на маіх руках.

...Гадзін у дванаццаць у наш пакой нехта пастукаў. Ярошка, які якраз галіўся і збіраўся некуды ісці, бо ў нядзелю кожны скарыстоўваў свой час, як яму хацелася, крыкнуў у дзверы, што лепш галавою. Гэта быў яго любімы наказ усім, хто строіў з сябе інтэлігента і стукаў у дзверы. На здзіўленне, парог пераступіў ужо даволі ў гадах чалавек, худы і стомлены, апрануты ў паліпялую салдацкую форму без пагонаў, у кірзавых ботах, з такой жа кірзавай сержанцкай сумкай у руках. Без усялякіх «уверцюр» ён спытаў прастуджаным голасам, ці хочам мы зарабіць сёння па паўсотні рублёў. Пакуль мы моўчкі глядзелі на яго, як на дзівака, ён растлумачыў, што прыехаў са станцыі Козырава, хоча завербаваць хлопцаў на пагрузку збожжа ў вагоны. Работа лёгкая, падавай толькі шуфлем зерне на транспарцёр.

Ярошка адмовіўся, сказаў, што заняты. Адразу згадзіўся я,— трэба было аддаваць даўгі, грошы патрэбны; за мной — Антановіч. Малец ужо недзе пайшоў. Крыху падумаўшы, згадзіўся і Рак — паўсотні рублёў на дарозе не валяюцца, да таго ж гэта было перад самай стыпендыяй.

Праз колькі хвілін, пераапрануўшыся, мы выйшлі з інтэрната. На вуліцы чакала грузавая машына. Сабралася ўсіх чалавек пад дваццаць. Паехалі...

Даўжэзныя дашчаныя склады ў Козыраве былі завалены збожжам.

У нашай групе з дзевяці чалавек быў Рамашка з фізмата і яшчэ некалькі незнаёмых хлопцаў з малодшых курсаў. Трэба было насыпаць два вагоны жыта. Здавалася, гэта не так ужо і многа.

Узяліся мы дружна, стужка транспарцёра аж прагінался, несучы ў вагон бясконцую плынь жытніх зярнят. На дне склада яны ўжо рабіліся гарачыя, і пералапачваць збожжа трэба было абавязкова, інакш згарыць.

Праз нейкі час пачалі балець плечы, лёгкая драўляная лапата рабілася ўсё цяжэйшай і цяжэйшай, а ў прыёмнік транспарцёра ішоў ужо не такі густы струмень. Хлопцы часцей сталі адпачываць, выбягалі на двор падыхаць чыстым паветрам і прачысціць насы ад пылу. Праз некалькі гадзін мы недалічыліся двух чалавек.

У гадзін пяць прыйшоў наш вярбоўшчык праверыць, як ідзе работа. Паглядзеў у вагон, пасля зайшоў на склад.

Да гэтага часу мы ўжо добра прагаладаліся, бо выехалі сюды перад абедам, ды і грошы з сабою былі не ва ўсіх. Што рабіць? Ён сказаў, што калі так, то выдасць аванс па чырвонцу, тут недалёка ёсць буфет, дзе можна перакусіць. Мы з радасцю згадзіліся і праз некалькі хвілін ужо дружна, забыўшыся пра стомленасць, накіраваліся ў буфет. На жаль, у ім нічога добрага не было — толькі грыбная салянка, сыркі, чорны хлеб і ліманад. Прагаладаліся мы такі здорава, і ўсё гэта падалося нам лепш за ўсякія прысмакі.

Пасля яды і адпачынку работа пайшла дружней, але толькі спарэла — і мы з жалем заўважылі, што наша брыгада зменшылася яшчэ на двух чалавек, у тым ліку прапаў і Рак. Амаль тое ж самае было і ў другой групе. З такой жа лёгкасцю, як і згаджаліся, кідалі хлопцы гэтую работу, не шкадуючы ні страчанага часу, ні тых грошай, якія ім абяцалі.

Перш чым пачынаць другі вагон, доўга спрачаліся. Два незнаёмыя хлопцы схільны былі кідаць работу. Рамашка, Антановіч і я даказвалі, што трэба трымаць слова. Хлопцы згадзіліся, але хутка іх след прастыў. Засталіся мы, апошнія магікане. А работы яшчэ было многа, на тры чалавекі хопіць да поўначы. Але мы не думалі кідаць. Не з-за тых грошай, а проста з-за прынцыпу: няўжо мы такія слабакі?

Мне запомніцца той вечар на ўсё жыццё. Гэта была выключная па ўпартасці барацьба мускулаў і нерваў з часам і стомленасцю. Мы працавалі як апантаныя. Нашы рукі, як механічныя граблі, не перастаючы, кідалі і кідалі на бясконцую стужку транспарцёра цяжкія, як свінцовыя, зярняты. Я пазіраў на Рамашку, на Антановіча, бачыў іх стомленасць, адчуваў і сам, што слабею з кожнай хвілінай, але мы не здаваліся. У той вечар я зразумеў, што значыць сказаць сабе: трэба! Тады сіла бярэцца невядома адкуль. Здаецца, яе ўжо няма, але ты ведаеш, што табе яшчэ няможна расслабляцца, бо ўперадзе яшчэ многа работы,— і трываеш.

Апошнія сілы... Здаецца, вось-вось упадзеш. Не адчуваеш нічога — усё чужое, усё не слухае цябе: суставы рук і ног нібы заржавелі, нібы высахла ў іх уся

«змазка», і ты, здаецца, адчуваеш, як яны рыпяць. У галаве пустата, толькі нейкі нясцерпны шум і звон — ад стомленасці ці ад нуднага выцця матора. Шорхае, скрыгіча на катках чорная бясконцая стужка транспарцёра, шалёна імчыць угору тую бедную жменю зярнят, якую ты непаслухмянымі рукамі падсунуў у прыёмнік. К чорту! Даволі! Навошта сябе мардаваць? Хто нам скажа за гэта дзякуй? Яшчэ будуць смяяцца, як з апошніх дурняў...

Думаю, што такое жаданне было не толькі ў мяне аднаго. Але ўголас мы не сказалі ніводнага слова, якое выдала б нашу часовую слабасць. Мы выстаялі да канца!

Стомленыя да мяжы магчымага, але шчаслівыя, позна ноччу мы вярталіся дадому, у інтэрнат, несучы ў сэрцах радасць нялёгкай перамогі.

*25.09.1952*

Ой, які я кепскі псіхолаг — проста смех! Учора мы пагаварылі па-чалавечы, нарэшце зразумелі адно аднаго.

Аказваецца, ёсць людзі, якім не да спадобы наша дружба. Такім чалавекам аказаўся наш агульны знаёмы — Краска, трохі паэт, а ўвогуле аматар плётак і брудных жартаў, зямляк тае самае дзяўчыны, што гуляла з Галяй Абушэнка па праспекце другога мая. Я яго і не ведаў бы, ды здарылася так, што Краска неяк у пачатку верасня зайшоў у наш пакой спытаць, калі збіраецца літаратурны гурток. Сяды-тады ён прыходзіў да нас на філфак, хоць сам быў географ, і прыносіў свае вершы. Пасля канікул ніхто яшчэ нічога не ведаў. Антановіч, староста гуртка, не паспеў дамовіцца з кіраўніком.

З першага дня Краска не спадабаўся мне сваім бойкім языком, жаданнем залезці ў чужую душу.

Цяпер мяне ён лічыў амаль што сваім сябрам, мы часта сустракаліся ў хімкорпусе: ён прыходзіў да свае зямлячкі, я да Галі — дзяўчаты жылі ў адным пакоі.

Ён падаваў мне сваю вялікую руку з доўгімі пальцамі і, задраўшы ўгору нос, пытаў у мяне заўсёды адно і тое ж: «Ну, як поспехі?» — укладваючы ў гэтыя словы аднаму яму вядомы сэнс. А я, па сваёй наіўнасці,

адказваў як пад настрой: калі — «няважныя», калі — «можаш пазайздросціць», а калі проста пасылаў яго да д'ябла.

У той вечар у пакоі ён таксама, як у старога прыяцеля, спытаў: «Ну, як поспехі?» — і паказаў свае не надта прыгожыя зубы.

«Цябе гэта вельмі цікавіць?» — не дужа ветліва спытаў я. Ён хітра абышоў пытанне, стаў выкручвацца і ўрэшце, перайшоўшы на павучальны тон, сказаў, што з ёю, гэта значыць, Галяй Абушэнка, трэба дзейнічаць смялей, яна не любіць сантыментаў, уздыханняў і г. д. «Гэта я добра ведаю»,— самаўпэўнена закончыў ён.

Я сядзеў на ложку, але пры апошніх словах Краскі мяне нібы падкінула: я ўскочыў і схапіў яго загрудкі. Спачатку хацеў даць у морду, але пашкадаваў: ён быў тонкі, кволы, што яго біць? Толькі страсянуў трохі і сказаў, што калі ён яшчэ раз заікнецца дзе-небудзь пра Галю, то дастану з яго душу. Ён вінавата захіхікаў, затараторыў, як п'яная кума, сто разоў папрасіў прабачэння і стаў развітвацца, узяўшы з мяне слова, што гэтая гутарка застанецца між намі.

Цяпер аказалася, што ён сам расказаў аб гэтым здарэнні, хоць не Галі, а сваёй зямлячцы, а тая ўжо — Галі. Заўсёды так: хто першы, той лепшы. Ён выставіў сябе абаронцам яе гонару, а мяне — пашляком і цынікам. І апраўдвацца трэба было мне! Вось калі я пашкадаваў, што не набіў яму морды.

Аказваецца, Краска ў іх часты госць, і Галя лічыць, што ходзіць ён не для таго, каб праведаць зямлячку, а мець прычэпку бачыць яе, Галю. Мне нават здалося, што Галя ведае больш, чым гаворыць...

Цяпер я зразумеў, навошта ён чарніў мяне ў яе вачах, а мне нагаворваў на яе. Гэта стары, як свет, спосаб пасварыць людзей, зрабіць іх ворагамі.

О, вужака! Цярпець не магу такіх людзей, якія б'юць ззаду, з-за вугла, а то яшчэ і чужымі рукамі.

*2.12.1952*

Збоку, зусім спакойна і стрымана хочацца глянуць на гэтую гісторыю.

Два тыдні назад было звычайна, як бывае паміж маладымі людзьмі. Ён хадзіў да яе ў інтэрнат, чакаў на

лесвіцы. На людзях быў хмурны, маўклівы, без «сведак» — пяшчотны і шчыры. Развітваючыся, пытаўся: «Калі ўбачымся?» ці «Прыйду ў суботу, у восем?» Яна адказвала: «Не ведаю», «Будзе відаць», «Як хочаш». На гэтым яны разыходзіліся. Ён з нецярпеннем чакаў суботы, а калі яна прыходзіла, не радаваўся, што яму трэба ісці на спатканне.

Чаму? Каб адказаць на гэтае «чаму», трэба трохі вярнуцца назад.

Было гэта ў маі, адразу пасля знаёмства. Яны сядзелі вечарам у скверыку. Гутарка выпадкова зайшла пра замуства. Яна, нібы гаворачы не пра сябе, даказвала, што ніколі не зможа закахацца. Ён не прымаў гэта за чыстую праўду, а хутчэй за жарт, таму гэтак жа лёгка, як яна сказала, падвёў вынік, што ёй пагражае адзінота і незайздросны лёс старое дзеўкі. Толькі ён паспеў прамовіць апошняе слова, як яна рэзка павярнулася, скінула з пляча яго руку, вочы яе бліснулі злосцю.

— Вось як! Ты палохаеш, што я не выйду замуж?

І яна замоўкла, нібы набрала вады ў рот.

Яго гэта адразу ашаламіла, ён разгубіўся і не ведаў, што рабіць. Калі яна так раззлавалася, значыць, ён сказаў нешта сапраўды вельмі кепскае, грубае, абразіў яе. Але што ён такое сказаў? Не лепшае і не горшае, чым тое, што сказала яна сама...

Яна сядзела насупіўшыся, адвярнуўшыся ад яго і пазірала некуды ў неба, на якім ледзь мігцелі рэдкія зоркі, а ён доўга ўгаворваў яе не злаваць, ламаў галаву і гадаў, што ж тут такое, чаму чалавек можа гэтак раптоўна пераменіцца?

А ноччу, лежачы ўжо ў пасцелі, ён доўга думаў над гэтай падзеяй. І праўда, для яго гэта была падзея — мо таму, што кепска яшчэ ведаў, якія могуць быць людзі. а такую «дзяўчыну з характарам» сустракаў упершыню. Ён думаў: «А мо гэта выпадковасць?»

Ды не! Пасля ён заўважыў, што моманты гневу і нястрыманасці ў яе характары — звычайная рэч. Яна ўспыхвала, як порах, ад адной іскры, з-за любога глупства, і нельга было адгадаць і прадбачыць, дзе гэта будзе і калі. Такія яе выбрыкі не ўкладваліся ў яго ў галаве. Сапраўды, разрывацца ад злосці таму, што ён моцна сціснуў яе далонь на развітанне? Ці пацалаваў тады, калі яна сказала «досыць»?

Рэдка які вечар праходзіць без такой «вясёлай» сцэны, рэдка ў яго сэрца на месцы. Патрохі збіраецца гнеў. І не за гарамі час, калі ён разнясе абручы цярпення.

Ён ідзе да яе і думае: як сустрэне яна яго сёння? Можа, не выйдзе зусім? Ці будзе вясёлая і добрая? Не, хутчэй за ўсё капрызная і сярдзітая...

Дык дакуль гэта будзе і навошта яно ўсё?

## «Колькі чалавеку трэба для шчасця»

Вось і Новы год грукае ў дзверы. Які ён будзе? Што абяцае? Што новае падаруе людзям?

Кожны Новы год чалавек сустракае з надзеяй на тое, што бліжэй стала да яго запаветнае мэты, а тое, што не спраўдзілася ў тым годзе, павінна спраўдзіцца ў гэтым. Новы год — гэта нейкая вяха, надзея на новае.

Хлопцы з 77-га пакоя чакалі ад Новага года першнаперш дыпломаў. Але дыплом што? Яго пакладзеш на дно чамадана, і там ён будзе гадамі ляжаць. Галоўнае тое, што яны канчаюць вучобу і выходзяць у людзі, становяцца на свае ногі. Расчыняюцца дзверы ў шырокі свет. І страшна, і шкода разлучацца з тым парадкам, з тым ладам жыцця, да якога прызвычаіўся за пяць год. А цяпер? Цябе кіне ў бурлівую паводку, памчыць, закружыць, панясе невядома куды.

Пачынаецца заўсёды з малога. Перад Новым годам далі стыпендыю, і ў хлопцаў настрой адразу прыўзняўся. Гуртам ішлі дадому, ля ларка выпілі па куфлю піва. Коўзаючыся па свежым, але ўжо ўтрамбаваным да бляску снезе, яны рушылі ў інтэрнат, несучы хто што: бохан хлеба, кавалак кілбасы, селядзец, бутэльку кефіру. У дні стэпендыі папаўняліся спустошаныя за месяц запасы ў тумбачках.

— Колькі чалавеку трэба для шчасця,— гаварыў Малец узнёсла.— Вось далі нам стыпендыю, і адразу свет пераманіўся. Гляджу на ўсё — і здаецца, лакам пакрыта. А да гэтага ўсё было такое шэрае, непрыветнае. І людзі на людзей не падобныя — усе нібы чужыя. А цяпер кожнага абняць хочацца, усе сталі як сваякі ці сябры.

Звярнулі к вакзалу, мінулі плошчу. Амаль што ля самага інтэрната сабраўся натоўп — нешта здарылася.

Хлопцы спыніліся, сталі пытацца ў людзей, што тут такое, але толкам ніхто нічога не сказаў. Тады яны самі пачалі рассоўваць натоўп і пасоўвацца да яго цэнтра.

Убачылі зусім звычайны, не такі ўжо і рэдкі малюнак: на тратуары, раскінуўшы рукі, ляжаў прыстойна апрануты чалавек гадоў пяцідзесяці, з голенай галавою. Твар яго, як і ўся галава, быў сіне-белы, без крывінкі, і амаль не вылучаўся на спрасаваным снезе. Непадалёку ляжала каракулевая папаха, якія звычайна носяць палкоўнікі.

Адзін, што стаяў побач з хлопцамі, тлумачыў: ішоў чалавек, пакаўзнуўся — і ўсё, няйначай забіўся насмерць.

— А мо п'яны быў?

— Цяпер не разбярэш. Выклікалі «хуткую дапамогу».

— Каб жа яна хутка прыехала...

— Тут, відаць, патрэбен катафалк...

Патрохі людзі сталі разыходзіцца.

— Хадзем, хлопцы,— сказаў разважліва Малец.— Мы тут не паможам.

Ішлі моўчкі, толькі Ярошка адзін раз працытаваў Мальцавы словы «Колькі чалавеку трэба для шчасця», але ніхто яго не падтрымаў.

Ужо ў пакоі, распрануўшыся і перакусіўшы, хлопцы вярнуліся да перарванай гутаркі.

Малец хацеў разварушыць як-небудзь і Рака, але асцярожны Рак адмоўчваўся.

— Ну, што ты хочаш ад Прафесара? Навошта яму дарма траціць дарагую энергію свайго інтэлекту? Не выклікаючы яго на доўгія дыскусіі, я толькі хацеў бы пачуць ад Прафесара, што такое грошы і колькі іх трэба, як кажа Малец, для поўнага шчасця.

Рак надзьмуўся, упарта нагнуў галаву:

— Пачытай «Капітал» Маркса. Што я табе буду тлумачыць? Грошы ёсць грошы...— І ён, нічога болей не сказаўшы, узяў чайнік і выйшаў з пакоя.

— Куды ты? — закрычаў Ярошка.— Пастой! Ты «ізрэк» абсалютную праўду. Хто можа абвергнуць гэты сілагізм: грошы ёсць грошы? Ніхто! — перайшоў на свой жартоўны тон Ярошка.— А няма грошай — значыць, няма грошай. Як Шолам-Алейхем гаварыў пра

талент... Але давайце пагадаем, хто з нас будзе мець больш грошай.

— Не дзялі шкуру таго мядзведзя, які яшчэ спіць недзе ў сваім берлагу,— асадзіў яго Малец.

— Дзяліць не дзяліць, але прымераць можна. Я так думаю, што Прафесар нас усіх пакіне ззаду. Па-першае, ён вельмі ашчадны чалавек. Здаецца, ён гэтыя туфлі з доўгімі задранымі насамі носіць з першага курса, і яны яшчэ як з камісійнага магазіна. Есць ён мала, не курыць, на дзяўчат не траціць. Па-другое, маўчанне — само золата. Яшчэ Чацкі гаварыў: «А впрочем, он дойдет до степеней известных...». Нібы пра яго...

Увайшоў Рак, паставіў чайнік на стол. Ярошка паглядзеў на яго, як на здань, што з'явілася тады, калі яе не чакалі.

— Дзякуй, Прафесар... Не буду паўтараць. Пра цябе я сказаў усё... За ім ідзе наш паэт. Ён будзе мець цёплыя ганарары, калі набудзе добры камертон-тон. Трэцяе месца належаць будзе мне, калі шкляны бог не прарве дзіркі ў маім скарбовым мяшку. І апошні будзе Стары. Ён усё будзе рассылаць: сёстрам, братам, нябогам, унукам, усім няшчасным, якія толькі яшчэ застануцца на зямлі ў той час.

— Па-мойму, наконт Старога ты памыляешся,— умяшаўся Антановіч.— Не забывай, што ў яго будзе багатая, як старыя кажуць, жонка. Ды, можа, яна яго трохі навучыць беражлівасці.

— Эх, пяхота! Ты бачыш толькі тое, што ляжыць зверху. Спытай у мяне, я ўсё скажу,— стукнуў сабе ў грудзі Малец.— Мо сам Стары гэтулькі не ведае пра сваю Абушэнку, як я.

— А што ты пра яе ведаеш? Раскажы! — зацікавіўся Антановіч.— А то Стары ўвесь час маўчыць.

— Расказваць? — спытаў Малец у Русіновіча. Той кіўнуў галавою, трохі збянтэжаны.— Яна адна дачушка ў бацькоў... Як адна? Ёсць два браты, лётчыкі, старэйшыя за яе. Бацькі настаўнікі. Так што расла яна і гора не ведала. Але цяпер не тое. Іх бацька пайшоў да нейкай другой жанчыны. Ці ведаў ты пра гэта, Стары?

— Не, не ведаў,— шчыра прызнаўся Русіновіч. Яго ўразіла навіна, якую ён пачуў ад Мальца. Але чаму ён павінен чуць яе ад Мальца? Чаму не ад самой Галі?

У дзверы пакоя пастукалі. Зайшоў Рамашка. Паві-

таўся, сеў ля стала. Быў ён святочна апрануты, паголены, свежы.

— Што скажаш? — спытаў Малец.

— Нічога, зайшоў паслухаць, мо вы што разумнае скажаце.

— Якраз трапіў у час. Тут проста раскідаюцца розумам.

— Рана пачалі... Каб пасля не трэба было падбіраць.

Ён усміхнуўся, паглядзеў на Русіновіча, падміргнуў яму і падсеў да яго на ложак, бо Русіновіч ляжаў ужо на коўдры і чытаў патрапаную і пажоўклую, без першых і апошніх старонак, кніжку.

— Што за дапатопная літаратура? — спытаў Рамашка.

— А ты амаль што ўгадаў. Быў такі цікавы пісьменнік і крытык Максім Гарэцкі. Чуў?

— Не, не чуў. Але ці мала іх было?

Хлопцы натапырылі вушы, кожны адарваўся ад свайго занятку, нават Рак падняў галаву ад падушкі.

— Што ты там вярзеш? — спытаўся Ярошка.— Гавары, каб усе чулі.

— Чаго захацеў, дзівак... Я кажу, што наламалі тады дроў...

— Адкуль ты ведаеш?

— Людзі... Ды і я сёе-тое памятаю...

Хлопцы акружылі Рамашку.

— Хіба табе давялося?..

Рамашка памаўчаў.

— Мой бацька быў настаўнікам фізікі, любіў радыётэхніку... Майстраваў сам прыёмнікі... Ну, яго ўзялі... Першы раз пусцілі, а другі — як у ваду кануў...

— А як жа ты пралез праз іголчына вушка з такім вузлом на хвасце? — першы парушыў цішу Ярошка.

— Якое вушка? — ускінуў густыя бровы Рамашка.

— Ну, мандатную камісію...

— Прынялі... Не адзін я такі. Ды, урэшце, у мяне быў срэбны медаль.

— Эх ты, а ніколі раней нават не заікаўся,— пакрыўдзіўся Антановіч.— Збоку здаецца — шчаслівей за цябе няма чалавека.

— А што скардзіцца ці плакаць? Гісторыя няўмольная, як лёс... Я да Старога прыйшоў, ды не пра

тое пачаў. Хачу табе нешта сказаць,— зашаптаў ён Русіновічу на вуха.

— Кажы смела! Хіба ёсць яшчэ большы сакрэт за той, што ты нам расказаў? — у звычайных умовах намёк Рамашкі на нешта патаемнае ўсхваляваў бы Русіновіча, а цяпер ён быў зусім абыякавы. Усе яго вялікія і малыя клопаты памерклі раптам перад цяжкім лёсам іх блізкага таварыша, пра якога яны, здавалася, ведалі ўсё да кроплі.

— Добра...— Рамашка перайшоў да стала, сеў.— Мне Коля Ярошка з геафака сказаў, ён пачуў недзе на курсе, што той паэт, як яго? Краска... пускае пра цябе, Стары, розныя плёткі. За што гэта? Што вы не падзялілі?

Русіновіча нібы аблілі кіпятком. Ён усхапіўся з ложка.

— Недазволеныя прыёмы — гэта яго прафесія. Інакш ён не можа, сабака! — Але хутка супакоіўся і больш лагодна сказаў: — Хай вярзе што хоча. Што мне да таго?

— Дык гэта мо з-за той дзяўчынкі?

Русіновіч нібы не пачуў пытання.

— З-за яе свет гарыць! — адказаў за Русіновіча Малец.— І каб было з-за чаго. Бывае ж так! Дзяўчат поўна, і прыгожых, і ўсякіх, а тут раптам свет клінам сышоўся на Галцы Абушэнка.

— Табе жарты,— паспачуваў Рамашка,— а хлопцу лішнія непрыемнасці... Але, як я бачу, нешта ён інертны. Я думаў, што для яго гэта будзе зарадкай на... Ну, хоць на месяц.

— А, глупства,— махнуў рукою Русіновіч.— Не варта нават гаварыць.

Рамашка пайшоў. Хлопцы ўлягліся спаць. Запанавала цішыня, але Малец чамусьці ўспомніў перарваную ўжо каторы раз размову, спытаўся ў Ярошкі:

— Слухай, прарок, а чаму ты мне не пагадаў наконт грошай?

Ярошка заварушыўся, заскрыпеў спружынамі.

— Магу, пяхота, нават бясплатна. Вось як у цябе будзе: будзеш збіраць-збіраць, капіць-капіць, а потым прасадзіш усё за адзін раз у марным месцы.

— А каб табе язык адсох, бацю, за такое прароцтва,— вылаяўся Малец і заціх.

## Сюрпрызы навагодняга вечара

Да Новага года заставалася дзве гадзіны. Хлопцы сабраліся ў сваім пакоі, было тут яшчэ некалькі студэнтаў з іх курса — Дзмітэрка, Касцюковіч і, як свой чалавек,— Рамашка. Выпілі толькі па чарцы, каб трохі было весялей, ды і павячэралі — апошні раз у старым годзе.

Святочны вечар быў у хімкорпусе, у вялізнай спартыўнай зале. Пасярэдзіне стаяла высокая, амаль да столі, ёлка, пераліваючыся агнямі ўбранства. Народу было многа: і сваіх, і чужых, мільгалі афіцэрскія пагоны і гальштукі, дзяўчат зусім нельга было пазнаць — так змянілі іх святочныя ўборы.

Хлопцы таксама апранулі ўсё, што было лепшага, адпрасавалі гарнітуры, начысцілі чаравікі.

Русіновіч сёння скінуў кіцель і фарсіў у Ярошкавым падношаным касцюме, гальштук і белую рубашку ўзяў у Рамашкі. Хлопца было не пазнаць. Выглядаў ён ледзь не гарадскім франтам.

Ярошка, Антановіч, Малец, Рак, Рамашка і ўсе астатнія — былі як на падбор: прыгожыя, вясёлыя, дасціпныя, хоць сярод астатняй публікі крыху вылучаліся прастатой вопраткі. Сталі шукаць дзяўчат са свайго курса, але іх не было, а калі і былі, то ўжо з хлопцамі. Неяк так выходзіла, што свае дзяўчаты мелі хлопцаў з другіх курсаў або зусім з чужых інстытутаў. І ў гэтым нельга было вінаваціць дзяўчат, а хутчэй за ўсё хлопцаў, бо яны, як закон, ніколі не выбіралі сабе дзяўчат на сваім курсе. Гэта нават цяжка было вытлумачыць. Мо таму, што адны другіх ведалі навылёт.

Зала была высозная, вялізная, прасторная, як стадола, ля сцен сціпла туліліся спартыўныя прылады — сёння было не да іх. У кутку стаялі коні, казлы, брусы і перакладзіны, а высока пад столлю віселі кольцы. Яшчэ гады два назад сюды часта прыходзілі Антановіч з Русіновічам, займаліся ў гімнастычнай секцыі, потым кінулі яе і перайшлі ў літаратурны гурток.

У другім кутку залы на лаўках размясціўся студэнцкі духавы аркестр. Моладзь стаяла пераважна парамі або купкамі па некалькі чалавек, усе былі вясёлыя, узбуджаныя, смяяліся і азіраліся навокал, нібы яшчэ кагосьці чакалі.

Хлопцы, зірнуўшы сюды-туды, пачалі шукаць каго хоць з другіх факультэтаў, а самы знаёмы ім быў пяты геафак, дзе быў студэнтам Коля Ярошка, зямляк і далёкі сваяк Міхася Ярошкі. Пяты геафак быў бедны на хлопцаў — усяго чалавек пяць і то ў большасці інваліды вайны, сямейныя людзі. Затое дзяўчаты там былі як на падбор, і ўсе нібы сёстры — русавалосыя, сінявокія, па-сялянску здаровыя. Каб не Коля Ярошка, хлопцы з 77-га пакоя, мусіць, ніколі не асмеліліся б падысці да такіх красунь, ды за чатыры гады вучобы даводзілася сяды-тады сустракацца з імі — у бібліятэцы, а то і на танцах, на вечарах.

Дзяўчаты з пятага геафака стаялі ля самай ёлкі. Хлопцы акружылі іх, утварыўшы вакол другое кола.

— З Новым годам, дзяўчаты! — павіншаваў іх Антановіч.— Нас да вас прыслаў Дзед Мароз. Не прагоніце?

— Калі ласка, калі ласка,— засмяяліся дзяўчаты.

Русіновіч увесь час неўпрыкмет азіраўся, шарыў вачыма па зале, цьмяна спадзеючыся знайсці Галю. Неяк так выйшла, што ён не ведаў нават, дзе яна будзе сустракаць Новы год. Можа, у брата — аднаго ці другога, а можа, і тут...

Грымнуў аркестр, пачаліся танцы. Хлопцы і дзяўчаты, што стаялі побач, як расталі, Русіновіч застаўся адзін. Каб не замінаць танцорам, ён паволі прабіраўся да выхада.

Выйшаў на пляцоўку, схадзіў у другі канец калідора, дзе размяшчаўся буфет. Тут таксама было людна: каму танцы, а каму што другое. Гарэлкі не прадавалі, толькі віно і піва. Аднак Русіновіч памыліўся, бо тут жа, глянуўшы на сталы, заўважыў, што Краска з нейкімі хлопцамі паміж піўных бутэлек маюць пляшку «Маскоўскай». Краска глянуў на Русіновіча, зрабіў выгляд, што не пазнаў, і тут жа, напусціўшы на твар вясёлую міну, нешта зашаптаў на вуха свайму суседу, здароваму смугламу хлопцу з кароткай шыяй. Той правёў Русіновіча вачыма і заківаў круглай, як футбольны мяч, галавою.

Да канца старога года заставалася менш гадзіны, Русіновіч накіраваўся зноў у залу, каб знайсці хлопцаў.

Зала гула, варушылася, як растрывожаны вулей, шорганне ног і гукі аркестра зліваліся ў адну невыразную мелодыю, праз якую прабіваліся, як першая вясенняя трава праз зляжалае лісце, асобныя галасы і смех. Моладзь весялілася, смяялася, жартавала, яна была бесклапотная, як вецер, перапоўненая да краёў шчасцем адчування вось гэтай вясёлай хвіліны,— і больш нічога не хацела прызнаваць. Гледзячы збоку на ўсіх, ніхто не падумаў бы, што тут, у гэтай масе, ёсць хто-небудзь няшчасны.

А чаму не смяяцца ў такі вечар? Грэх не смяяцца і быць такім посным, як ён, Русіновіч...

— Што задумаўся, Стары? Чаму не танцуеш?

Русіновіч азірнуўся: Ярошка з геафака. Усміхаецца, бліскаючы пярэднімі залатымі зубамі.

— Ты ж ведаеш, які я танцор,— сумна адказаў Русіновіч.

— Вучыцца ніколі не позна, гаворыць старая ісціна. Ты некалі зразумееш, як многа страціў, што не навучыўся танцаваць. Гэта сур'ёзна! — Ён усміхнуўся, а вочы ўсё роўна заставаліся сумныя.

— Ці гэтулькі мы трацім? Каб тое бяды, што не танцуем — і гора не было б.

Танцы танцамі,— яны ведалі, што гавораць не тое. Коля Ярошка быў на рэдкасць чулы і добры хлопец, спакойны, пакладзісты, з ім прыемна і весела гаварыць, у яго заўсёды ёсць для чалавека цёплае слова спагады, а вось самога яго нельга суцешыць: у яго туберкулёз. Хлопец сохне на вачах. У яго ёсць дзяўчына, якую ён шчыра кахае, а яна яго,— і невядома, які лёс чакае іх наперадзе.

— Слухай, Коля, давай лепш вып'ем шампанскага за Новы год,— прапанаваў Русіновіч і ўзяў сябра за локаць.

Ярошка нібы ачнуўся ад задумлівасці і, махнуўшы рукою, сказаў:

— Давай! Чым чорт не араў, тым сеяць не стаў.

Яны пайшлі ў буфет, сталі ў хвост чаргі. Чарга пасоўвалася хутка: ніхто не таргаваўся, выбар быў небагаты.

— Ты стой, а я пайду паклічу Раю,— сказаў Коля і неяк стушаваўся.— Бяры грошы!

— Што ты? — заўпарціўся Русіновіч.

— Перастань, я ведаю, які ты багаты.

— Добра... Скажы там хлопцам, хай ідуць, а то спозняцца,— наўздагон сказаў Русіновіч.

Але хлопцы ўжо самі тут. Міхась Ярошка становіцца ў Русіновіча спераду, пытае, што браць. Побач спрачаюцца Малец, Антановіч, Рамашка. Рак маўчыць. І тут ён надзьмуты. Няўжо не мог пакінуць дома сваю маску — хоць адзін раз у год?

— Займайце там стол,— камандуе Міхась.— І крэслы.

Хлопцы адвальваюцца ад чаргі, грукаюць крэсламі, у кутку адваёўваюць сабе стол.

Урэшце даходзіць чарга, Ярошка па-змоўніцку шэпча буфетчыцы некалькі слоў, яна дастае з-пад прылаўка закручаную ў паперу бутэльку, пасля дадае яшчэ некалькі бутэлек піва, віна, важыць кілбасу. Русіновіч бярэ дзве бутэлькі шампанскага.

Яны ўжо расселіся за сталом, Міхась налівае ўсім шампанскага і нецярпліва паглядвае то на гадзіннік, то на дзверы. Застаецца дзесяць хвілін. З рэпрадуктара пачулася навагодняе віншаванне.

Урэшце паказаўся Коля Ярошка з Раяй — бялявай, тонкай, як сцяблінка, дзяўчынай. Яна сарамліва павіталася з хлопцамі і села на адно крэсла з Колем.

— А дзе дзяўчаты? — спытаўся Русіновіч у Міхася Ярошкі.

— Не пайшлі. Бог з імі...

— Цішэй! — зашыкалі на іх.

Усе маўчалі і слухалі. Стаяла нязвыклая для такой масы людзей цішыня, толькі ўрачыста і чынна гучаў голас з рэпрадуктара.

— З Новым годам, сябры! З новым шчасцем!

Усе стаялі, чокаліся, віншавалі адзін аднаго і ўсіх разам, жадалі добрае долі і шчасця ў новым годзе.

Звонка і неяк па-новаму ўрачыста білі крамлёўскія куранты. Стралялі ў столь коркі ад шампанскага. Шумелі за сталамі вясёлыя хлопцы і дзяўчаты.

Маладосць прагне новага. Яна з нецярпеннем адчыняе дзверы Новага года і хоча ведаць, што наперадзе. Але там пакуль што туман, загадкавы, невыразны туман, і невядома, што ён у сабе тоіць. Усе сёння вясёлыя, трохі п'яныя, узбуджаныя — усе хочуць бачыць напе-

радзе толькі добрае. А каму ж будзе кепскае? Жыццё шчодрае на тое і на гэта...

Гаварылі тосты — зноў за Новы год, за шчасце ў новым годзе, за канец вучобы і за пачатак самастойнага жыцця. «За свой хлеб»,— сказаў нехта, і ўсе дружна паднялі чаркі. «За новыя, непратаптаныя дарогі»,— падтрымаў яго другі. «І за гэта варта»,— падхапілі навокал.

...Русіновічу здавалася, што плафоны ў калідоры падміргваюць яму, што падлога трохі падаецца пад нагамі, як дно лодкі на вадзе, што ў вушах у яго нібы па камяку ваты — гукі пранікалі да яго свядомасці як праз нябачны фільтр, трацілі рэзкасць, рабіліся мяккія і глухаватыя.

Раптам ён аслупянеў на момант. Што такое? Няўжо яму здалося? Галя гэта ці не? Яна... Але з кім? Лётчык. Лейтэнант! Ух, які хлапчына! Ён павёў яе пад руку з калідора ў спортзалу. Зайграў аркестр, і моладзь з калідораў і пляцоўкі хлынула ў залу — танцаваць.

Русіновіч павярнуў назад, пастаяў ля акна, але нічога не чуў і не бачыў. Ён быў заняты толькі адной думкай: сур'ёзна гэта ці яе новы выбрык?.. Урэшце, што яму да таго? Ён жа хацеў скончыць усю гэтую гісторыю. Дык чаго ён цяпер ускіпеў? Яму стала так горача, што ён зайшоў у туалет, адкруціў кран над мыцельнікам і падставіў галаву пад халодны пякучы струмень, з асалодай абдаў твар. Адразу стала лягчэй. Русіновіч дастаў расчоску, перад люстэркам зачасаў мокрыя чорныя, бліскучыя, як ад брыльянціну, валасы, хвіліну ўглядаўся ў нахмураны, нібы чужы, твар.

Але вось нечакана побач з яго тварам вырас другі — чорны вожык, круглая, як футбольны мяч, галава, шырокія плечы грузчыка. На твары — крывая, ненатуральная ўсмешка.

— А-а-а, Русіны... Станцыя ля Баранавіч.

Русіновіч рэзка павярнуўся.

— Адкуль вам вядомы Русіны? — спытаў ён суха.

— Мне ўсё вядома,— самаўпэўнена сказаў «вожык».— Мне нават вядома, што ты, Русіновіч, зараз будзеш ляжаць тут пластом...— Яго трохі вадзіла ў бакі.

— Ага, наёмнік! — здагадаўся Русіновіч, успомніўшы Краскаву кампанію.— Гэта мы пабачым...

Ён напяўся, як сталёвая спружына, гатовы ў кожную хвіліну адбіць удар. Злосць, якая бушавала ў ім, як толькі ён убачыў Галю з лётчыкам, перакінулася цяпер на гэтага вось найміта, які за чарку гарэлкі ці мо за грошы стане зараз выбіваць яму зубы і ламаць рэбры. Не, так гэта яму не абыдзецца. «Не трэба толькі падпускаць блізка, у яго, відаць, мёртвая хватка»,— прамільгнула ў галаве...

«Цяпер ты тут трохі паляжы пластом»,— зларадна падумаў Русіновіч і выйшаў на калідор. Моцна біла сэрца ды балела правая рука ў плячы — вывіхнутая, ці што? Але што рука? Развязка магла быць зусім іншая. Яму проста пашанцавала.

Што ж цяпер? Яго пацягнула да людзей — у залу, дзе танцавала моладзь.

Але ранейшая ўзнёсласць прапала, усё страціла той арэол, які быў некалькі хвілін назад. Усё набывала рэальныя фарбы, і ён пачынаў шкадаваць аб гэтым. Няўжо толькі таму, што вылецеў хмель з галавы? Можа... Ён ужо хацеў накіравацца ў буфет, але раптам нехта пацягнуў яго за руку. Ён падумаў, што гэта хто са сваіх хлопцаў, бо ўвесь вечар ён іх калі і бачыў, то не болей, чым на хвіліну. Але, азірнуўшыся, ён заўважыў Галю. Яна падміргнула яму і шапнула на вуха:

— Запрасі мяне на наступны танец. Мы будзем ля дзвярэй.— І знікла, растварылася ў натоўпе.

Што за дзіўны вечар? Рой думак праляцеў у яго галаве, пакуль ён стаяў ля дзвярэй і ўжо з нецярпеннем чакаў, калі зноў паявіцца Галя з лейтэнантам. Ён безуважліва аглядаў усіх, спыняючы позірк на дзяўчатах, якія хоць нечым былі падобны да Галі. Як умела яна перавярнуць у яго душы ўсё ўверх нагамі! Ён гатоў быў дараваць усе яе выбрыкі за гэтыя цёплыя, па-змоўніцку сказаныя словы. Але... Колькі было такіх момантаў! Колькі разоў ён верыў, што ўсё будзе лепш!..

Ды вось і яны. Лётчык вядзе яе пад руку, нешта шэпча на вуха, ён расчырванелы, на лоб падаюць светла-русыя хвалістыя валасы. Лётчык, відаць, хоча раз-

весяліць яе, але гэта яму не ўдаецца, ён адчувае сябе нібы вінаваты перад ёю.

Які ж знаёмы да драбніц малюнак!

Стала шкода гэтага хлопца, бо сам Русіновіч надта ўжо добра і не адзін раз перажываў нешта падобнае.

Яны спыніліся недалёка ад дзвярэй. Русіновіч сачыў, ці не пойдуць яны ў другое месца. Увесь час тудысюды снавалі людзі, засланяючы сабой тых, хто цікавіў Русіновіча больш за ўсё. Недзе падзеліся ўсе свае хлопцы. Няўжо стаяць з дзяўчатамі па цёмных кутках на калідоры? Ці мо зноў заселі ў буфеце?

Зайграў аркестр, моладзь хлынула з калідора ў залу, да дзяўчат падыходзілі хлопцы, кланяліся і ішлі ў танец. Русіновіч захваляваўся: а што, калі хто запросіць Галю? А што, калі яна пойдзе танцаваць са сваім лейтэнантам? Але раз яна абяцала, то нешта прыдумае, у яе гэта выходзіць надта проста і нават забаўна.

Вось каб яму хоць крыху мець такіх здольнасцей! Наступаючы людзям на ногі і штурхаючыся, Русіновіч прабраўся да месца, дзе стаяла Галя, няўмела пакланіўся, звярнуўшыся да лётчыка з просьбай адпусціць на танец яго даму. Лётчык з нейкай затоенай злосцю ці адчаем сказаў «пажалуйста», па складах вымавіўшы гэтае слова, сціснуў вусны і пабялеў. Ці мо Русіновічу толькі так здалося?

А Галя хітравата ўсміхнулася, узяла Русіновіча пад руку і сама павяла яго праз натоўп у цэнтр залы, да ёлкі, дзе ўжо, як у віры, кружыліся пары.

Ігралі хуткі і меладычны факстрот «Рыа-Рыта», ногі самі панеслі Русіновіча па кругу, ён далікатна абдымаў Галю за талію, злёгку тулячы дзяўчыну да сябе. Яна нібы не адчувала гэтага, і Русіновіч чамусьці падумаў, што сёння ён патрэбен ёй. Яны кружыліся доўга, у яго ўсё мільгала перад вачыма — маладыя твары з усмешкамі на вуснах, голыя дзявочыя рукі, тонкія таліі, пышныя грудзі, ёлка з бліскучымі цацкамі таксама пачала кружыцца ў карагодзе, нешта казачна-рамантычнае было ў гэтым палёце, у святочных радасных гуках «Рыа-Рыты», у зладжаным рытме дзесяткаў ног. Хацелася, каб не было канца гэтаму лёгкаму хуткаму танцу, каб свет быў запоўнен толькі ім адным; здавалася, што навокал цябе такія цудоўныя, мілыя людзі,

што сэрцы іх перапоўнены толькі пачуццём любасці да бліжняга, што няма больш ні здрады, ні злосці, ні пакут. Сапраўды, як многа траціць той, хто не навучыўся танцаваць!

Галя маўчала, толькі добрая ціхая ўсмешка не сыходзіла з яе вуснаў, а калі Русіновіч зазіраў дзяўчыне ў вочы, усмешка рабілася смялейшай, ажыўляла яе твар. Даўно Русіновіч не бачыў яе такою...

— Ты пад гальштукам,— шапнула яна ціха.

Русіновіч толькі ўсміхнуўся.

— Ён табе да твару. Асабліва да тваіх вусоў...

— Не веру.— Ён мацней прытуліў яе да сябе.— Чаго ты прыйшла на нашу ёлку? — Ён знарок зрабіў націск на слове «нашу».

— Мне захацелася ўбачыць цябе...

— Не веру.— Русіновіч пакруціў галавою.

— Павер.

Аркестр перайшоў на шалёны тэмп, усе танцоры, як заведзеныя, таксама заспяшаліся,— гэта азначала, што танец канчаецца. Сапраўды, музыка абарвалася, наступіла нязвыклая цішыня. Русіновіч і Галя спыніліся ля дзвярэй, абое міжвольна глянулі на тое месца, дзе нядаўна стаяў лётчык. Яго не было.

— Ён што — паляцеў? — з намёкам спытаў Русіновіч.

— Хай ляціць... Ён мне надакучыў. Я не магла ад яго адчапіцца.

— Хадзем у буфет,— прапанаваў Русіновіч.

— Хадзем. Я хачу піць.

У буфеце была страшэнная чарга, ды тут яго выручыла сама Галя:

— Доўга чакаць...

Яны зноў выйшлі на калідор.

— Хадзем да нас.

Русіновіч здзіўлена глянуў на яе — нібы ўбачыў у ёй нешта новае.

— Чаго так падазрона глядзіш?

— Не разумею...

Яна толькі хмыкнула.

Яны падышлі да дзвярэй у цёмную палову левага крыла, яна дастала ключ з сумачкі і падала яму. Толькі цяпер ён зразумеў, што ў іх інтэрнат можна пранікнуць праз гэтыя дзверы, якія звычайна бываюць увесь

час замкнёныя, бо адгароджваюць вучэбнае крыло ад жылога.

Ён ціха павярнуў ключ у замку, з нейкім не знаёмым дагэтуль страхам прапусціў яе наперад, пасля зайшоў сам і замкнуў дзверы. Тут, за перагародкай, было ціха, нават змрочна, галасы з пляцоўкі ледзь пранікалі. Асцярожна ступаючы, яны пайшлі ў канец калідора.

— Ты пастой хвіліну, а я пагляджу, ці хто ёсць.

Яна адамкнула дзверы, увайшла ў сярэдзіну. У верхнюю шыбу над дзвярыма ўдарыла святло.

Русіновіч з хваляваннем чакаў. Урэшце Галя прачыніла дзверы, высунула галаву і шапнула:

— Заходзь.

Русіновіч нясмела пераступіў парог, ціха зачыніў за сабою дзверы. У вочы кінулася нязвыклая белізна ў пакоі — ад падушак да капаў і дарожак усё было белае, як у бальніцы. Гэта не тое, што ў мужчынскім інтэрнаце.

Толькі ■ аднаго ложка была садрана капа, і на ім сядзела Галя. Яна паспела змяніць сукенку на яркі, у кветкі, халат.

— Патушы святло.

Русіновіч паслухмяна пстрыкнуў выключальнікам.

— Замкні дзверы.

Русіновіч замкнуў.

— Што яшчэ? — спытаў Русіновіч і не пазнаў свайго голасу.

— Які ты дурненькі... Ідзі сюды...— Галя працягвала да яго рукі.

## Хатнія клопаты

У другім паўгоддзі пяцікурснікі ўжо не хадзілі на лекцыі, заняткаў больш не было. Увесь вольны час ішоў на дыпломныя работы. Хто аблюбаваў сабе тэму даўно, а хто выбіраў лягчэйшую, каб было больш матэрыялаў, з якіх можна «садраць», каб менш думаць самому.

У пакоі № 77 адзін Рак сядзеў над тэмай па мове — тэмай, якую ён «распрацоўваў» кожны год у курсавых работах: «Родны склон». Малец і Ярошка не давалі

яму жыцця з гэтым склонам, нават парадыравалі пачатак «Новай зямлі», прыстасаваўшы да новых умоў: «Мой родны склон, як ты мне мілы...».

Ярошка і Антановіч пісалі пра паэзію, Малец і Русіновіч — аб прозе. Русіновіч узяў тэму: «Андрэй Лабановіч — прадстаўнік новай беларускай інтэлігенцыі».

У Русіновіча быў свой «стыль» працы. Перш чым узяцца за якую-небудзь тэму, ён чытаў пабочны матэрыял, шукаў тое, што больш-менш блізка падыходзіла да яго тэмы, усё гэта «пераварваў», не робячы ніякіх выпісак і цытат, каб не трапіць у палон чужое схемы, і толькі тады ўжо браўся за работу.

Цяпер ён не вылазіў з бібліятэкі, перачытваў класікаў, штудзіраваў тэму, шукаў падобныя праблемы ў літаратурах другіх народаў. Бракавала толькі часу, а матэрыялу хапала — цэлыя горы.

Русіновіч ужо збіраўся засесці пісаць, як раптам атрымаў пісьмо, што захварэў бацька і яго паклалі ў бальніцу. Прыхапіўшы з сабою кніжку «На ростанях» і тоўсты сшытак, Русіновіч паехаў дадому.

Выязджаў раніцай, яшчэ поначы, і дадому дабраўся — таксама ўжо была ноч. Памясіць снегу давялося нямала, ды яшчэ вецер у вочы.

Але вось і хутар, адзінокі, занесены снегам, з голым невялікім садам, з высокім явaрам перад вокнамі хаты.

Першы пачуў яго сабака. Ён спачатку забрахаў як на чужога, а пасля пачаў скавытаць ад радасці і кідацца на ланцугу.

Як толькі Русіновіч падышоў да яго, сабака стаў на заднія лапы, лізнуў яму языком у шчаку. Хлопец выняў з шыняля кавалак хлеба, спецыяльна прыпасенага для гэтай сустрэчы.

Дзверы ў сенях былі адамкнёныя: гэта азначала, што людзі яшчэ не збіраюцца спаць. У цемры ён адразу знайшоў клямку.

Па гэтым можна было пазнаць, што ідзе свой чалавек. Брат і маці стаялі ля парога, чакаючы госця.

— А Грышка мой, а сыночак! — І маці кінулася сыну на шыю.— А я ж думала, што гэта наша Зося. Чуем, сабака забрахаў, пасля сціх, заскавытаў, а тут у сенях чалавек не збіваецца, як у сваіх... Ажно ж ты... Ну, хвала богу, што прыехаў.

Маці пачала завіхацца каля печы, нарэзала на скавараду сала, падпаліла трэскі ў ямцы і паставіла скавараду над агнём.

— От куры не нясуцца,— бедавала яна,— ды і карова яшчэ не ацялілася, дык гаруем патрохі. Бяром малако ў суседзяў. Я яго не ем, хіба во яму, ці як бацька быў дома.

— А што з бацькам? — Гэтае пытанне ўвесь час круцілася ў Русіновіча на языку. Бацька яго быў інвалід другой групы, акрамя ўсяго меў некалькі хвароб, вылечыць якія ў такім узросце не было чаго і думаць.

— З лёгкімі не ў парадку. Пацямненне.— Маці нешта замоўчвала, таіла ад яго.

— Палачкі Коха ў макроце знайшлі,— растлумачыў па ўсіх правілах медыцыны брат.

«Толькі гэтага нам яшчэ не хапала»,— Русіновіч цяжка ўздыхнуў.

Пачалі вячэраць. Маці прынесла з каморкі бутэльку самагонкі.

— Усё хаваю, думаю Зосю сустрэць...

Русіновіч адразу захмялеў. Беднасць і чарната вясковай хаты не так ужо кідалася яму ў вочы, столь не здавалася такой закуранай і нізкай. Ён неяк раптоўна зноў адчуў сябе сынам гэтае хаты, сваім чалавекам, а ўсё тое, чым ён жыў у горадзе, засталося там... Не хаваючы суму, ён сказаў, ківаючы галавою:

— Цяжка нам будзе... Бацька і так ледзь клевае, а тут яшчэ гэта хвароба.— Памаўчаў трохі, спытаў: — А што Зося? — Русіновіч ведаў, што маці цешыць сябе надзеяй — дачка хутка вернецца.

Маці зірнула на сына як бы з падазронасцю, нібы пераконвалася, сур'ёзна ён пытае ці не. Але сын не збіраўся жартаваць, і яна, паклаўшы рукі на прыпол і пазіраючы недзе ўдаль, як бы чытаючы той далёкі лёс, сказала:

— Я ўсё думаю, што з дня на дзень павінна прыехаць... Яна ж хворая. Няўжо яе не адпусцяць? Ты ж пісаў нейкія паперы ў Маскву, і яна сама пісала. Няўжо там не людзі сядзяць, што хворага чалавека будуць трымаць? Які ж з яе работнік?

— Што ж, будзем чакаць. Хоць не так гэта хутка робіцца, як нам часам хацелася б.

Маці заплакала.

— ...Ох, дзеці, дзеці, колькі з вамі клопату бацькам! І да самае магілы так будзе.— Маці выцерла слёзы ражком фартуха, пасля зірнула на сына і спытала нясмела: — А як жа ты, сынок, жывеш? Мо ажаніўся ўжо, ды нам не кажаш?

Сын апусціў вочы.

— Ёсць у мяне адна дзяўчына, не буду таіць. Але што толку? Мусіць, у нас з ёю нічога не выйдзе...

— Што ты кажаш? — здзівілася маці.— А хто ж каго не хоча?

Сын усміхнуўся.

— Не хоча... Цяжка сказаць, хто каго не хоча. Але адно мне ясна: мы розныя людзі. Тое, што падабаецца мне, не падабаецца ёй, тое, што ёй да спадобы, мне праціўна. Мы часта спрачаемся, сварымся... Характары розныя, розныя погляды...

Маці слухала і недаверліва круціла галавою.

— Ты ўсё пра нейкія характары гаворыш. Некалі мы іх не ведалі, і мо лепш было. Абое вы вучоныя, ужэ нек паладзілі б, каб хацелі. Ты ж мо не такі, як твой бацька, умееш і пагаварыць, і ведаеш, як сябе па-гарадскому паводзіць, гэтулькі правучыўшыся. Глядзі, сынок, як добрая дзяўчына, то не цурайся яе, не абыходзь. Ці мо ты хочаш ашукаць яе, насмяяцца? Божа цябе барані ад такога граху. Глядзі!

Маці з пяшчотнай і клапатлівай раптам зрабілася суровай і жорсткай.

Каб не малодшы брат, мо і сказаў бы Русіновіч пра тое, што паклала мяжу паміж ім і Галяй. Хоць... Ён добра ведаў сваю маці. Яна асудзіла б яго, яна стала б на Галін бок, хоць і не ведала яе. Жанчына абараняе жанчыну...

— Не, мама, я не збіраюся яе ашукваць... Ды яна і не такая, што дасць сябе ў крыўду... Проста мы трохі чужыя людзі, яна часам не разумее мяне, я — яе. І мо таму, што яна расла зусім у другіх умовах, намнога лепшых, не бачыла гора... Ведаеце, адзін наш студэнт ажаніўся, узяў сабе жонку. Ён вясковы хлопец, просты, шчыры. Павёз яе да сваіх бацькоў. Яна прыехала, апранутая з іголачкі, у чорных пальчатках да локцяў, размаляваная, на высокіх корках, у чорных акулярах, паглядзела, як яны жывуць, закапыліла губы і сказала: «Ваня, збірайся, я тут не магу, тут, відаць, ёсць блохі».

Ну, і паехала. Як тады было тым бацькам? А яму самому? Праўда, я не думаю, што мая... знаёмая такая самая. Але ўсё можа быць...

Маці спахмурнела, задумалася, а пасля зноў ускінула вочы на старэйшага сына, пачала гаварыць — няйначай тое, што даўно накіпела:

— Ты, сынок, расказваеш, але, мусіць, не ўсё, нешта тоіш ад нас... Усе вы такія... Зося ўсё таілася ад нас, ніколі не гаварыла пра свае сакрэты. Усё сакрэты ды сакрэты. Сакрэты да дабра не даводзяць. Глядзі!.. І малы ад вас вучыцца... Прыйдзе са школы — слова не скажа, як яму там было. Ці яго лаюць, ці хваляць — мы не ведаем. А як ужэ што прыпрэ, улезеце куды па вушы, тады да бацькоў: памагайце, ратуйце. А каб вы адразу падзяліліся, сказалі, параіліся — мо і не было б ніякай бяды, мо ўдалося б абмінуць гора... Разумнымі вельмі сябе лічыце.

Маці гаварыла праўду. Русіновіч абапёрся падбародкам на руку, утаропіўся ў стол і маўчаў.

Спаць ляглі позна. Ад гарэлкі і ад усіх гэтых размоў у Русіновіча трашчала галава, душа была не на месцы. Ён доўга не мог заснуць.

...Пасля пайшлі дні за днямі. Брат хадзіў у школу, маці тупала ля гаспадаркі; натупаўшыся, лезла на чарэн пагрэцца і задрамаць якую гадзіну, а Русіновіч, забраўшыся ў чыстую палову хаты, пісаў сваю дыпломную.

Было холадна, ён апранаў бацькаў паўшубак, цёплы і лёгкі, хадзіў па хаце з кута ў кут, шукаў якую-небудзь фразу ці думку, пасля, запісаўшы яе стоячы, прыгнуўшыся над сталом, хадзіў зноў. Думка за думкай, сказ за сказам лажыліся на паперу. Калі стамляўся, работа ішла тужэй. Тады ён выходзіў на двор, браў вялізную драўляную лапату, якой некалі садзілі хлеб у печ, і расчышчаў снег ля хлява і ля студні, бо замяло здорава, як і кожны год. А то браўся рэзаць сечку. Сячкарня была яшчэ дзедава, старая, але спраўная. З малых год на махавым вялізным коле ён чытаў пукатыя лацінскія літары: «Poland Bracia Szapiro». Калісьці ён разумеў толькі адно слова: браця — браты.

Яшчэ ён любіў калоць дровы. Тут было над чым пагрэцца, размяць адвучаныя ад працы мускулы.

Ухадзіўся з дровамі — папраўляў загарадзь у хляве, паіў карову, раўнаваў гной. Спачатку, як толькі прыехаў, работы, здаецца, не было відаць, а пасля яна нібы сама лезла на вочы: то тое, то гэта, і ўсё патрэбна зрабіць, хоць у хаце і лічыліся два мужчыны. Але што з іх узяць: адзін малы, другі стары, хворы. А свежаму воку лепш відаць. Матцы было лягчэй, брату таксама, ды і часу для работы Русіновічу хапала, бо хадзіць нікуды не хацелася. Паміма волі ён аддаляўся ад тых людзей, сярод якіх некалі рос. Былыя школьныя сябры, цяпер занятыя сваімі справамі, рэдка ўспаміналі пра яго, як і ён пра іх. У кожнага цяпер былі свае клопаты. Часамі, задумаўшыся, ён шкадаваў, што тое, чым жыў нядаўна, гадоў пяць назад, на вачах робіцца мінулым, старыя сцежкі зарастаюць травою, мяняюцца яго інтарэсы, на месца старых, здавалася, да смерці верных сяброў, з'яўляліся другія, бо, як ён пачаў цяпер разумець, сябра той, з кім ты робіш нейкую агульную справу. А хутка, ой як хутка, увесь уладкаваны за пяць гадоў парадак рассыплецца зноў, чакае гэтулькі новага і нязведанага...

Бацька выпісаўся з бальніцы праз тыдні два. У калгасе Русіновіч узяў фурманку і паехаў у Клецак, каб забраць бацьку дадому.

Бацька пастарэў, згорбіўся, пасівелі яго валасы, хоць лысіны не было відаць. У піжаме і тапачках на босую нагу ён выйшаў з палаты, за руку павітаўся з сынам. І калі той памкнуўся пацалаваць бацьку, стары падставіў шчаку. На вачах у яго бліснулі слёзы. У сына таксама заныла сэрца.

Дадому бацька вяртаўся ўсяго на некалькі дзён, а пасля павінен быў ехаць у шпіталь інвалідаў вайны ажно ў Брэст.

Па дарозе разгаварыліся. Бацька не мог нарадавацца, што сын хутка скончыць вучобу і мо ўжо сам стане памагаць бацькам, а на благі канец хоць не будзе цягнуць з гаспадаркі. Засмучала яго толькі дачка, якая недзе цяпер расплачваецца за сваю легкадумнасць і несур'ёзнасць, можа, не раз успамінае бацькоў. Лаяў ён Зосю за яе работу, за тое, што не слухала яго, давярала людзям, якім нельга даваць на капейку, пускала іх за прылавак; што вадзіла кампанію з ненадзейнымі людзьмі, пазычала ім чужыя грошы; што грызлася

ўвесь час са старшынёю сельпо і ў вочы называла яго злодзеем... Усё гэта было справядліва, таму яшчэ цяжэй рабілася на душы ў сына.

І ўсё гэта каменем ляжала ўжо трэці год на бацькавай душы.

Праз тры тыдні Русіновіч павёз бацьку на станцыю ў Жарабковічы.

Усю дарогу бацька і сын гаварылі пра розныя дробязі, і ўжо калі пад'язджалі да раз'езда, бацька адкашляўся і глухім голасам, у якім чулася хваляванне, пачаў:

— Глядзі, сыне... Мо мы болей не ўбачымся... Не перабівай толькі! Мы, мужчыны, павінны смела глядзець праўдзе ў вочы... Я мала вас шкадаваў, мала песціў, многа крычаў і біў, не глядзеў і матку... У бальніцы часу вольнага многа, ляжыш, думаеш. Часам слёзы глытаеш, як паглядзіш на ўсё збоку. Цяжка, без прапрасвету прайшло маё жыццё. З малых год сірата, пасля мачаха; падрос — пасвіў кароў у чужых людзей, потым пайшоў парабкаваць. А аддзяліўся ад бацькі — два гектары зямлі, адзін пясок і камень. Ажаніўся, жылі ў падсуседзях, пакуль хатку зляпілі. Тут вы павіліся, клопату пабольшала, зноў біўся як рыба аб лёд. А там вайна ўсё перавярнула, мне здароўе адняла... Цяпер вы падраслі, думаў, усіх выведу ў людзі, ажно бачыш, як вывеў. Турма, прападзі яна пропадам... Адзін ты мая надзея. Глядзі, сынку, не спатыкніся, з людзьмі вельмі не напрыкрайся. Людзей многа зайздросных, могуць утапіць у лыжцы вады. Ужо як нам цяжка ні даводзілася, а ёсць людзі, што кажуць, — бач, Русіновічы лёгкага хлеба шукаюць, у калгас не хочуць хадзіць: дачка падалася ў прадаўцы, хлопцы ў навуку. А чаму другому не ісці ў навуку? Усё ёсць, толькі вучыся. А не хочуць! А ты што меў? Хадзіў галодны-халодны за дзесяць вёрст, а вучыўся. Без гадзінніка, за пеўнем уставаў, а ішоў, бо хацеў вырвацца з балота, нешта лепшае мець... Памятай заўсёды, хто твае бацькі, не забывай, што ты мужык-беларус, хоць і навуку маеш. Памагай усім, хто слабейшы, хто можа прапасці, калі яму не падасі ў час рукі. Не забывай, што цябе выручалі таварышы, памагалі ў цяжкую гадзіну... Яшчэ што? Не выракайся сваіх: маці глядзі, мо ажэнішся, то будзе тваіх дзетак даглядаць. Зосю

не кідай... Хлопцу хоць трохі памажы выбіцца ў людзі... А я ўжо скора...

Гэта было падобна на апошні наказ. Сэрца малодшага Русіновіча разрывалася на кавалкі.

— Тата, што вы гаворыце! — закрычаў ён.— Я не хачу слухаць! Вы яшчэ паправіцеся... Дарэмна вы ўбілі сабе ў галаву! Так няможна! Што вы! Я не маю права быць шчаслівы адзін... Толькі разам з вамі... Бо вы дзялілі апошні кавалак хлеба на роўныя часткі... І цяпер яшчэ дзеліце!

— Ну добра... Супакойся,— зміріыўся бацька.— Але запомні, што я сказаў. Мо болей часу не будзе...

Яны развіталіся цёпла і шчыра, як ніколі. Абодва ледзьве стрымаліся, каб не заплакаць.

— Пісьмы пішы, сынок! — крыкнуў ужо з падножкі бацька.

— І вы пішыце!

— Добра... Шчасліва табе закончыць навуку!

Бацька памахаў рукою, пасля выцер вочы.

Русіновіч прабыў дома яшчэ тыдзень. Ён не вылазіў з хаты, усё хадзіў з кута ў кут, пісаў. Праўда, заставался многа шурпатых ці недакладных мясцін, над якімі давядзецца яшчэ падумаць. Каб яшчэ тыдзень, дык і скончыў бы дыпломную, але атрымаў ліст з Мінска. Пісаў Ярошка. Русіновіч чытаў і смяяўся — Ярошка нібы вось тут стаяў перад ім і гаварыў у сваім жартоўна-сур'ёзным стылі:

«Здароў, Стары!

Даўно мы ўжо цябе не бачылі ў шэрагах нашай брацііі. У мяне запала ў галаву такая на першы погляд недарэчная думка, а на самай справе, відаць, справядлівая, што ты ўжо забыўся, хто ты і што ты. Калі так, то я, грэшны, як стараста 77-га пакоя (месца твайго пастаяннага пражывання) і як чва старасты пятага курса беларускага аддзялення філалагічнага факультэта БДУ (законны стараста Антановіч, як і ты, адседжваецца дома, у Слоніме, і я яму таксама павінен пісаць!) асмелюся асцярожна намякнуць, што ты ў сучасны момант усяго толькі бедны студэнт. Ты, можа, як за выратавальную сцяну, кінешся за сваю дыпломную,— маўляў, дзень і ноч працую, не перашкаджайце.

Ведаем мы цябе! Недзе там, можа, ужо ўнадзіўся да якой-небудзь Марусі, а тут гэтая самая Галя Мальцу не дае жыць — дзе падзелі Старога?

З гэтага ўсяго вынікае той просты, а праўдзівей, глыбакадумны вывад, што табе пара нас узрадаваць сваёй прысутнасцю на запыленым і адзінокім тваім ложку, што прытуліўся ў рагу 77-га пакоя, пацешыць нас сваімі гвардзейскімі вусамі (прашу не чапляцца да стылю — стыль самабытны, арыгінальны і, безумоўна, вышэй усякай крытыкі).

Але гэта яшчэ не ўсё. Самае галоўнае тое, што на тым тыдні павінна быць размеркаванне на работу, а гэта, як табе вядома, адзін з адказнейшых момантаў у жыцці нашага брата студэнта. Дарэчы, ён, гэты момант, як і нараджэнне ці смерць, бывае ўсяго толькі адзін раз!

Адсюль яшчэ адзін вывад: пажыў ты добра на лоне прыроды, папарыў старыя косці на бацькавай печы (даслоўны выраз Мальца). Дык пачуй жа мой далёкі голас —

Досыць спаць, стары хрэн,
Ужо вясна на дварэ...

З-за недахопу паэтычнага таленту працягваю прозай: злазь з печы, гайда ў Мінск!

Шчаслівай дарогі!

*Твой Ярошка.*

P. S. Не забудзь прыхапіць паўкварты сялянскага напітку **аки возмещение убытков (мзда)**, нанесенных мне вышэйпрыведзеным пасланнем (у сэнсе эканамічным — папера, канверт, марка, чарніла; у сэнсе часу — 15 хвілін; у сэнсе духоўным — энергія мазгоў маіх). Што няясна — высветлім, зазірнуўшы ў бутэльку, якую ты прывязеш».

## «Куды, на якую планету?..»

У прыёмнай рэктара, у калідоры ля дзвярэй — шум, гул, тупат ног, шэпты, выкрыкі.

Каля сотні студэнтаў сабралася тут — і кожны ўсхваляваны, кожны думае, што вось хутка яго выклічуць у камісію па размеркаванні на працу.

Чаго толькі не перадумае студэнт у такія хвіліны! Застацца ў Мінску? Ой, цяжка! Куды паехаць? Дзе лепш? Дзе цяжэй? Ці мо зрабіць так, як той студэнт з анекдота. У яго спыталі: «Куды хочаце паехаць?» А ён з пыхай адказвае: «Куды камісія пашле!» Добра, кажа камісія, едзьце ў Палескую вобласць. «Не, туды не хачу»,— адказвае смелы заяц.

Як і заўсёды, у Мінску пакідалі мала. Тут і так хапала настаўнікаў, а ў вёсцы з дыпломамі былі лічаныя людзі.

— Антановіч! — аб'явіла сакратарка, падфарбаваная, даволі бляклая маладая асоба.

Антановіч, узбуджаны, вясёлы, набраўшы поўныя грудзі паветра, нібы збіраўся скочыць у халодную ваду, нырнуў у прачыненыя дзверы. На момант стала ціха, усе прыслухоўваліся да галасоў за дзвярыма, але дарэмна — праз шчыльна абабітыя дзверы не далятала ніводнага гуку.

Пасля зноў загуло, як у вуллі: студэнты зашумелі, заспрачаліся.

Колькі прайшло часу — невядома, але здаецца, зусім мала, як дзверы зноў адчыніліся і паказаўся ўвесь мокры, расчырванелы Антановіч і неяк вінавата, з няпэўнай усмешкай на твары сказаў:

— У аспірантуру.

Шум узняўся страшэнны.

— Віншуем!

— О-о-о, глядзі ты!

— Малайчына, Ігар, ты гэтага заслужыў!

— Даеш навуку!

Антановіч стаяў пад градам рэплік і толькі азіраўся, нібы хацеў знайсці зацішнае месца, каб не быць у цэнтры ўвагі. У яго было такое пачуццё, нібы ён прысвоіў сабе тое, што па праву належала некаму другому.

Мальца накіравалі ў Гродзенскую вобласць. Сенсацыяй стала тое, што Рак, як і Антановіч, трапіў у аспірантуру — па мове. Яму не кідалі такіх рэплік, як Антановічу, а кожны думаў, відаць, сам сабе: «Ну, цяпер навука рушыць сямімільнымі крокамі!..»

Дзяўчаты выходзілі з прыёмнай то радасныя, кідаліся цалавацца і смяяліся ад шчасця, то часам са слязамі на вачах, а то і з рыданнямі.

«Чаго плакаць? — здзіўляўся Русіновіч.— Без работы ж нікога не пакідаюць».

Яго выклікалі недзе ў сярэдзіне, калі палова курса была ўжо размеркавана.

Ён увайшоў з робленай смеласцю, абвёў вачыма камісію, але ад хвалявання нікога не бачыў — плавалі перад вачыма сілуэты людзей, і толькі.

Яму прапанавалі сесці, для гэтага было крэсла перад доўгім сталом камісіі.

Камісію ўзначальваў прарэктар па навучальнай частцы Сарока. Перад ім ляжалі нейкія паперы, у якія ён заглядваў. Ён і пачаў задаваць пытанні па біяграфіі. Але якая ў Русіновіча біяграфія?

— Калі ўступілі ў камсамол?

— У сорак чацвёртым годзе.

— Дзе былі ў час акупацыі?

— Дома, пры бацьках.

— Колькі вам было год?

— Пачалася вайна — трынаццаць...

— А бацька дзе быў?

— У час акупацыі? Дома... Пасля вызвалення — у арміі.

— А дзе цяпер?

— Цяпер у шпіталі інвалідаў вайны ў Брэсце.

— Што, ён вайсковы?

— Не, ён інвалід вайны другой групы.

— Зразумела. Я загледзеўся на ваш кіцель. Што гэта — любоў да вайсковай формы?

Русіновіч густа пачырванеў.

— Гэта... беднасць.

Тут голас падаў нехта з камісіі — Русіновіч расплывучатым позіркам ледзь улоўліваў яго няясныя абрысы.

— А з блізкіх, са сваякоў — ніхто не супрацоўнічаў з акупантамі?

Гэта ўжо пачынала злаваць Русіновіча.

— Ніхто,— суха адказаў ён.— Наадварот, на фронце і ў партызанах загінула пяць маіх дзядзькоў — толькі з матчынага роду.

— Зразумела,— буркнуў той, што пытаўся.

— Яшчэ якія пытанні? — звярнуўся да ўсіх прарэктар.

Пытанняў больш не было.

Русіновічу здалося, што прайшла цэлая гадзіна, пакуль яго распытваюць невядома аб чым, а пра галоўнае — ні слова.

Але вось, здаецца, доўгая уверцюра скончылася. Прарэктар яшчэ раз перагартаў асабістую справу, прабег вачыма нейкую паперу, што ляжала справа ад яго, пашаптаўся са сваім суседам, мажным брытагаловым мужчынам з чорнымі калматымі бровамі і вялізным носам, пасля неяк нязвыкла ветліва звярнуўся да Русіновіча:

— Вы даруйце, Рыгор Мікалаевіч, але я хачу папрасіць вас выйсці на адну хвіліну... Толькі на адну хвілінку.

Русіновіч неяк механічна ўскочыў на ногі. Яму стала раптам горача.

— Калі ласка, я выйду.— І ён няўпэўненым крокам накіраваўся да дзвярэй. За яго плячыма панавала маўчанне.

У прыёмнай яго сустрэлі крыкам:

— Што цябе так марынавалі?

— Куды пхнулі? На якую планету?

— Ці давалі выбіраць?

— Чаго ты такі — нібы пакрыўджаны?

Яму не давалі раскрыць рота.

— Цішэй, дайце чалавеку сказаць слова!

Русіновіч не ведаў нават, што сказаць.

— Мяне выгналі.

— Што ты вярзеш? Ты выйшаў падумаць?

— Не, я выйшаў, а яны думаюць.

— Гавары толкам, Стары! — закрычаў Ярошка.

— Цішэй, дайце ім падумаць,— супакоіў усіх Русіновіч.— У іх важная нарада, яны не ведаюць, куды мяне пхнуць.

— Праўда? А што яны распытвалі?

— Пераважна па біяграфіі.

— Пра акупацыю? Ці вучыўся пры немцах?

Русіновіч не паспеў адказаць. Яго паклікалі ў камісію.

Адчыніў дзверы і пачуў абрывак фразы:

— ...не ананімная, а ёсць подпіс.

Да яго нібы нешта пачало даходзіць, але не было часу думаць, бо зноў запрасілі сесці і гэтак жа сама ветліва, як і першы раз, звяртаючыся па імені і імені

па бацьку, прарэктар сказаў, што яму, Русіновічу, ёсць магчымасць выбіраць: Баранавіцкую ці Маладзечанскую, паколькі ён сам з былой Заходняй.

Для Русіновіча не мела ніякага значэння, усходняя ці заходняя, Баранавіцкая ці Маладзечанская, але ўсё-такі ён быў патрыётам свае вобласці, і таму без ваганняў назваў Баранавіцкую, нават той раён, у якім нарадзіўся.

— Распішыцеся.— І прарэктар паклаў перад ім тоўсты канцылярскі журнал.

Русіновіч распісаўся, як заўсёды, невыразна, нервова, устаў са свайго крэсла, азірнуўся. Яму здалося, што ўсе адводзяць ад яго вочы.

— Можна ісці? — спытаў ён у прарэктара.

— Калі ласка, вы свабодны,— адказаў той, гледзячы ў стол.

...Чаго яшчэ трэба Русіновічу? Мара яго збылася — ён едзе ў вёску, нават у свой родны раён. Трэба радавацца — і толькі. А вось жа не!

Пасля нервовага напружання, якое забрала ўсе яго душэўныя сілы, ён спакойна, нават аж занадта спакойна для свае флегматычнасці, адказваў на новы град запытанняў:

— Не, не ў Мінску... У Баранавіцкую вобласць... У свой раён. Не каюся, чаго? Гэта самае лепшае, што можна прыдумаць... Чаму так хутка? Я не спрачаўся. Паставіў подпіс — і ўсё гатова. Зайздросьце. Прыязджайце ў госці...

Жарт не выходзіў, Русіновіч быў кіслы. У душы стала пуста, стомленасць адолела ўсё цела, хацелася ўпасці вось на гэтую падлогу і заплюшчыць вочы.

— Што з табою? — Малец страсянуў яго за плячо.

— А, глупства!..

Яны выйшлі на калідор, прайшліся.

— Дай закурыць,— папрасіў Русіновіч.— Нейкая тупасць, сам сабе станаўлюся чужы.

— Нічога, пройдзе... Я таксама страшэнна стомлены. Ну, ці рады ты?

— Цяжка сказаць. Усё перамяшалася. Хацелася б, каб ехаць усім разам, тады нічога не страшна.

— Чаго захацеў! Не, брат, цяпер нашы дарожкі разыдуцца, як у моры караблі. Як пісаў наш Антановіч:

То была адна дарога,
А цяпер іх многа-многа.

Шкада расставацца, гэта праўда. Студэнцкая дружба самая моцная, але і яна канчаецца.

— Хопіць, браце, што ты запеў пра ростань? Яшчэ наперадзе многа часу. Галоўнае — вытрымаць дзяржаўныя экзамены.

— І гэта праўда. Хадзем, можа, там ужо Ярошка праскочыў. Цікава, куды ён трапіць. Па-мойму, у аспірантуру. Усе годы ішоў на «выдатна», галава варыць! Як ты лічыш?

— І я так думаю. Калі Рак пайшоў у навуку, то Ярошку сам бог судзіў.

— Але, але, Рак у навуку ідзе. Браточкі! Гэта ж хадзячая цытата, у яго ні адной думкі свае няма!

Ярошку яны знайшлі на калідоры.

— Ну, бывайце, я з вамі не знаёмы,— пажартаваў ён.— Еду ў Палессе, па коласаўскіх мясцінах. Лабановіч-сэкундо. Ясна вам? Ці не пра мяне пісаў Антановіч:

Глуш, балота, бездарожжа —
Ён уздымецца адважна,
І свае ўсе сілы ўложыць
Ён у гэта падарожжа.

— Кінь ты гэтую браваду,— асек яго Малец.— Хоць раз пабудзь сам сабою.

— А што? — насцярожыўся Ярошка.

— Дзе Антановіч, Рак? Трэба сабрацца ўсім, адзначыць гэтую хвіліну.

## Перад расстаннем

Пяты курс сабраўся на кансультацыю. Нешта-нейкае — пазніўся выкладчык, што з ім рэдка здаралася,— і дзяўчаты пачалі спяваць. Праз хвілін колькі да хору далучыліся і хлопцы, іх галасы, басавітыя і нястройныя, узняліся над суладдзем чыстых і меладычных галасоў дзяўчат. Адзін Русіновіч не спяваў, хоць голас сякі-такі меў. Заўсёды музыка ці спевы абуджалі ў яго душы няясны сум, настройвалі на адзіноту.

Яму падабаліся песні сумныя, журботныя, з роздумам і тугой, з жальбой на чалавечы лёс, як вось гэтая

венгерская песня «Журавы». Колькі тут глыбокага пачуцця, якая чыстая душа сумуе, што яе абмінула простае чалавечае шчасце, што не звіла яна сабе гнязда, што засталася адзінокай! Сумны крык журавоў аддаецца ў яе душы, будзіць тугу. Але дзіва — яна не адчайваецца, не кідаецца ў роспач, не вінаваціць нікога ў сваёй адзіноце, яна толькі расказвае аб сваіх нязбытных марах — расказвае проста, сурова і шчыра.

І тое, што робіцца ў душы кожнага спевака, адбіваецца на яго твары. Лірычна-строгімі сталі дзяўчаты, сурова-ўрачыстымі зрабіліся хлопцы.

Каму, для каго спяваецца гэтая песня, каму прадракае лёс?

Нечакана дзверы адчыніліся, зайшоў выкладчык беларускай літаратуры Юскавец, па мянушцы Юс Вялікі. Быў ён невысокага росту, ужо трохі пачынаў паўнець, на галаве ясна абазначылася лысіна. Песня абарвалася, патухла. Ён зрабіў такі рух, нібы хацеў сказаць: «Прадаўжайце, я пачакаю» — і гатоў быў, здавалася, выскачыць за дзверы, але перамог сябе.

Сказаўшы «прабачце», ён ціха сеў за стол і пачаў даставаць з вялізнага жоўтага партфеля тоўстыя сшыткі — дыпломныя работы, або, праўдзівей, «загатоўкі» дыпломных работ.

Юскавец карыстаўся павагай у большасці студэнтаў, але былі і такія, што яго недалюблівалі. Ён не даваў спакою тым, хто несур'ёзна ставіўся да яго прадмета, з імі ён не цацкаўся. Затое тым, хто любіў літаратуру і хацеў яе ведаць, ён гатоў быў дараваць многае. Яшчэ на першым курсе ён гаварыў студэнтам: «Вы не на курорце, не ў адпачынку, не ў гасцях. За пяць год вы павінны ўзяць столькі, каб хапіла калі не на ўсё жыццё, то надоўга. Майце на ўвазе, што ў вашым жыцці гэта такі момант, які больш не паўторыцца ніколі: ёсць энергія, маладое здароўе, ёсць умовы вучыцца, ёсць многа часу,— умейце ўсё гэта выкарыстаць хоць напалову, і вы будзеце добрымі спецыялістамі».

Прыблізна з гэтага ён пачаў і цяпер. Ён гаварыў павольна, робячы частыя паўзы, нібы жадаючы падкрэсліць пэўнае слова, зрабіць на ім націск. Іншы раз, слухаючы яго, хацелася падказаць яму слова, перад якім ён рабіў паўзу. Але дзіўна, што «падказка» — вядома,

у думках — ніколі не супадала з тым словам, якое знаходзіў выкладчык,— ён не гаварыў трафарэтамі, якія на пісьме трэба браць у двукоссі. У яго заўсёды былі свае думкі, свае словы, хоць і не заўсёды гладка афармленыя. Тым больш ён імпанаваў Русіновічу, які сам нечым нагадваў свайго настаўніка — ці не такой вось сялянскай развагай і пошукамі «свайго» слова.

Пагартаўшы некалькі сшыткаў, Юс Вялікі адклаў іх убок і загаварыў:

— Вы добра спявалі. Я нават пастаяў ля дзвярэй, не хацеў перарываць, але падумаў, што песня можа пачакаць, а вось гэтая справа,— ён паклаў далонь на стос сшыткаў,— не пачакае. Я спадзяваўся, што ўсё будзе лепш, ажно вы мяне трохі расчаравалі. Многае з таго, пра што мы тут вам гаворым, праз адно вуха ўлятае, праз другое вылятае. Іншага і не скажаш, пачытаўшы...— Тут ён назваў некалькі прозвішчаў.— Я вас увесь час вучыў: думайце самастойна, думайце самі, не хавайцеся за цытаты. Казьма Пруткоў ці нехта ў яго духу сказаў: «Цытата — тая ж разынка ў хлебе, але ж нельга пячы хлеб з адных разынак». А ў вас на кожнай старонцы ўсё гэтыя падпоркі, мыліцы, шчыты. І ні адной свае думкі, ні аднаго свайго вываду. Што гэта? Думаеце, вас за сваю думку я пакараю, калі яна нават і няправільная? Не бойцеся свайго слова, будзьце смялейшыя. Не прывучайце сябе змалку да таго, каб за вас думалі,— гэта шкодна. І яшчэ: шкодна, калі думаюць адны, а робяць другія. Думаць карысна ўсім. Далей. Не ў ладах вы са стылем, ён у вас каструбаваты, неачэсаны, часам цяжка дабрацца да сэнсу. Адразу відаць — мала пішаце (ленаваліся пісаць лісты дадому!), мала чытаеце, а калі і чытаеце, то не ўслухоўваецеся, не ўчытваецеся ў фразу. Яна для вас не гучыць, як музыка. Інакш вы не прапусцілі б такіх няўклюдных выразаў... У тэксце гэта ўсё адзначана, паглядзіце ўважліва...

Тут ён перайшоў да канкрэтнага разбору, браў чыйнебудзь сшытак і зачытваў на слых. Студэнты смяяліся, але стрымана — адчувалі сваю віну.

З хлопцаў 77-га пакоя ў Юскаўца былі Малец і Русіновіч. Іх работы ён разбіраў апошнія. Мальца пахваліў: усё ў яго ёсць — самастойнасць думкі, паслядоўнасць, філасофская аснова. Не хапае толькі сціслаці:

празмернае разжоўванне таго, што і так разжавана, паглыбленне таго, што і так глыбока.

Русіновічу разам з пахвалой дасталося на арэхі.

Юскавец пачаў дыпламатычна.

— З Русіновіча некалі вырасце неблагі крытык, але пакуль што да гэтага яшчэ далёка. Надта ён ужо вялікі саматужнік, усё сваё. Іншы раз ён вынаходзіць веласіпед, які ўжо даўно-даўно вынайдзены. Гэта другая крайнасць. Не трэба баяцца выкарыстаць таго, што табе перайшло ў спадчыну.

Праўда, у яго складаная тэма, нераспрацаваная, усё трэба браць, як кажуць, на пуп, самому. Мне здаецца, што Русіновіч абмежаваў сябе, разбіраючы толькі праблему мовы. І яшчэ я не згодзен з вашай трактоўкай Лабановіча.

— А што? — Русіновіч устаў з-за стала.— Лабановіч толькі па духу беларускі інтэлігент, а на справе ён царскі чыноўнік.

— Па-першае, ваша «па духу» і «на справе» стаіць на вельмі хісткай аснове. Я не хачу дыскутаваць, што глыбей — «па духу» ці «на справе». Скажу толькі, што ваша трактоўка Лабановіча разыходзіцца з той, якая ўстанавілася ў нас цяпер і лічыцца бясспрэчнай.

Русіновіч пачаў уваходзіць у палемічны азарт:

— Тое, што сёння бясспрэчна, заўтра можа аказацца вельмі нават спрэчным...

Юскавец паблажліва ўсміхнуўся:

— Аднак я бачу, што вы ва ўсім шукаеце негатыўны бок і гатовы ўсё пераставіць з ног на галаву. Лішняя работа, я вам скажу. Тое, што зроблена добра, не патрабуе, каб яго перараблялі. І ёсць ісціны, якія не патрабуюць вялікіх доказаў, што гэта сапраўды ісціны. Да такой, бясспрэчна, належыць і тое, што Лабановіч — станоўчы герой у поўным сэнсе гэтага слова, нягледзячы на тое, што ён, як вы кажаце, быў царскім чыноўнікам, «абрусіцелем». Больш бы было тады такіх «абрусіцеляў», як Лабановіч! Мы былі б намнога духоўна багацейшыя, больш свядомыя і культурныя, чым цяпер. Без Лабановіча і да яго падобных не было б нас з вамі. А калі падыходзіць фармальна, то можна лічыць Лабановіча абрусіцелем, царскім чыноўнікам. Але ці будзе гэта справядліва? Няхай ён вучыў дзяцей не на роднай мове, няхай. Але гэта намнога лепш, калі

тую ж родную выкладаюць толькі для формы, толькі для ліку, бо гэта будзіць думку, параджае пытанні, у рэшце рэшт прыводзіць да таго, што людзі пачынаюць разумець — іх ашукваюць...

Русіновіч зноў падхапіўся — Юскавец якраз гаварыў тое, што ён сам хацеў сказаць.

— Іван Іванавіч, дык я таксама такой думкі — чым цямней ноч, тым ярчэй зоркі.

Юскавец падняў руку, патрабуючы цішыні.

— Сядайце, Русіновіч... Я не разумею, чаго вы хочаце? Калі меркаваць па апошняй фразе, то вы гатовы сцвярджаць, што каб не было такіх Лабановічаў, дык было б яшчэ лепш. Народ сам хутчэй узняўся б да разумення таго, што яму патрэбна мова, дзяржава, незалежнасць, сацыяльная роўнасць, чым пры падказцы такіх Лабановічаў? Так?

Русіновіч сцвярджальна кіўнуў галавою.

— Менавіта так!

— Не, дарагі мой, не! На гэта спатрэбілася б яшчэ пару стагоддзяў. Важакі, як і героі, патрэбны заўсёды, аб гэтым ніхто ніколі не думаў спрачацца. І калі вы сапраўды так думаеце, то я шкадую... Трэба толькі зрабіць агаворку, што Лабановіч у тых умовах мог прынесці палову той карысці, якую ён прынёс бы пасля рэвалюцыі, калі беларуская мова стала дзяржаўнай, афіцыйнай. Праўда, сказаная на чужой мове, не так даходзіць, не так бярэ за душу. Са сваім народам трэба гаварыць на яго мове, інакш ён прыме цябе за чужога і не паверыць табе, як сёння вы не хочаце верыць таму ж Лабановічу...

Нешта ў перакананнях Русіновіча пахіснулася, але, ужо хутчэй па інерцыі, ён усё яшчэ чапляўся за тыя довады, якімі ён падпіраў трывалы, як яму здавалася, мур сваіх лагічных збудаванняў.

У інтэрнат Русіновіч ішоў адзін. Быў ціхі вечар з невялікім марозікам, і ў паветры адчуваўся подых вясны. Людзі ішлі паволі, нібы кожны хацеў нацешыцца гэтаю вячэрняй цішынёй, свежым марозным паветрам, да якога дамешваліся пахі далёкай — а можа, і зусім блізкай — вясны з яе імклівай і бурнай паводкай, што ачышчае зямлю і адмыкае замкі да ўсяго жывога, дарыць людзям новыя светлыя надзеі і клопаты.

Усе чакаюць вясны.

Ён ішоў і ў думках быў ужо далёка ад усяго таго, што нядаўна адбылося на абмеркаванні. Думкі яго вярталіся назад, у мінулае, і ён бачыў сябе зялёным, кволым юнаком, дрэнна апранутым, сарамяжлівым, які баяўся на вячорках сесці блізка каля дзяўчыны, чырванеў ад гучна сказанага слова, ніколі не пярэчыў старэйшым. Як паступова, год за годам, да яго прыходзіла сталасць, як ён акрэп фізічна і маральна, увабраўся ў сілу, як з'явілася першая, хоць і не надта вялікая ўпэўненасць, што і ён нешта варты, што не горш за іншых можа разабрацца ў тым ці другім пытанні, мае нейкую сваю думку. Успомніў школу, адзін выпадак, калі на ўрок канстытуцыі ў сёмым класе да іх прыехаў інспектар раяна Цімашэнка, сімпатычны смуглявы мужчына з трыма калодкамі ордэнскіх планак на штрыфелі пінжака, і як пытаў іх пра такія рэчы, пра якія яны не мелі і зялёнага паняцця, і як ён, Русіновіч, каб выручыць клас, на свой страх і рыск на хаду даваў свае «фармулёўкі» закона, дзяржавы, дыктатуры, як цярпліва выслухваў яго інспектар, толькі ціха ўсміхаўся аднымі вачамі, а пасля цярпліва тлумачыў ім, што гэта такое — дыктатура, дзяржава, клас, эксплуатацыя, і яго азначэнні яшчэ і сёння сядзяць у Русіновічавай галаве, так ён пераканаўча, так доказна і ясна ўсё гэта перавёў на звычайную мову.

Малявалася перад ім яго будучыня: школа, урокі літаратуры, дзеці, якраз такія, якім быў ён сам, мо толькі трохі лепей апранутыя, мо трохі менш спрацаваныя, лепш накормленыя — а ён чытае ім... Што чытае? Пра Францішка Багушэвіча... Гэта самы любімы яго паэт, бо ён сваімі сялянскімі вершамі, можа, як ніхто іншы з беларускіх дзеячаў, будзіў да свядомасці сялянскую, забітую, беспрасветную нацыю, якая і ведала, што пакору, якая і ведала, што панаванне чужынцаў, якая толькі капіла сваю нянавісць і час ад часу вылівала яе ў дзікіх стыхійных бунтах, пасля якіх наступала яшчэ большая цемра... «Дудка беларуская»! Хто калі да яго і пасля яго сказаў так моцна? Так шчыра? З такім пачуццём? О, як глыбока ён разумеў сялянскую душу і змог выказаць усё, аб чым селянін толькі яшчэ марыў, толькі яшчэ сніў!

Ён, Русіновіч, зробіць усё, каб сціплыя і глыбокія вершы паэта дайшлі да сэрца сялянскіх дзяцей, дзяцей

новага пакалення, новага жыцця,— каб яны палюбілі іх, так як любіць і разумее ён іх сам.

І тут Русіновіч злавіў сябе на думцы, што адводзіць сабе ў жыцці ролю таго ж Лабановіча, настаўніка, асветніка, «сейбіта вечнага». Што сказаў бы на гэта Юс Вялікі? Відаць, сказаў бы: «Вось бачыш, хлопча, практыка мацней за ўсякія штучныя тэорыі. Яна разбурае іх, як рака недасканалую плаціну. Рад, што ты сам сябе пераканаў».

«Фактычна трэба прызнаць, што Лабановічы патрэбны, без іх захірэе поле грамадскае дзейнасці, без іх застануцца нераскрытымі, проста непрачытанымі творы таго ж Багушэвіча, таго ж Купалы, Коласа,— даказваў сам сабе Русіновіч.— Значыць, трэба перагледзець сваю канцэпцыю, не лезці напралом са сваімі саматужнымі тэорыямі, а сціпла рабіць тое, што карысна. Разбураць лягчэй за ўсё. Цяжэй ствараць...»

— Эй ты, разява... Жыць абрыдла?..

Скрып тармазоў і гэты голас, які дадаў яшчэ некалькі мудрагелістых завіткоў лаянкі, абудзілі Русіновіча ад задуменнасці. Ён адчуў, як фара таксі злёгку стукнула яму ў сцягно, і паволі, нібы нічога не здарылася, ступіў крок назад.

— Чаго крычыш? Круці руль! — І ён памахаў таксісту рукою.

Машына рванула з месца, абдаўшы пахам бензіну, і толькі цяпер Русіновіч зразумеў, якая небяспека яго абмінула.

«Сапраўды, разява»,— вылаяў ён сам сябе.

Перайшоў вуліцу і ўжо на тратуары паглядваў на машыны, якія безупыннай плынню імчалі па вуліцы. Здавалася, што палатно вуліцы — гэта канвеер, гэта ён рухаецца і нясе, і нясе ўсё новыя і новыя машыны. «Колькі машын! Не прайсці па вуліцы. А што будзе яшчэ праз год дзесяць? Вось ён, век матораў...»

Думкі пайшлі зусім у другім кірунку. Спрэчка з самім сабою абарвалася.

Перад Русіновічам быў іх студэнцкі інтэрнат, новы шэры будынак у чатыры паверхі.

У сваім пакоі Русіновіч застаў аднаго Рака. Той нешта пакаваў у чамадан, відаць, збіраўся ў дарогу.

Русіновіч з крэктам распрануўся, павесіў у нішу свой шынель, выпіў шклянку вады і стомлена сеў ля стала.

— Чаго, Старча, такі невясёлы? — Рак павярнуў да яго свой буйны твар. Вялікі лоб яго быў чырвоны ад натугі.

— Ты, браце, назіральны стаў. Твая праўда. Мяне пабіў мой кіраўнік за дыпломную, ды не так ён, як я сам сябе. Ішоў і ўсю дарогу малаціў сябе. А тут ужо ля дому адзін таксіст зусім хацеў мяне дабіць. У жыцці так: калі ўжо пачнуць біць, то зацюкаюць.

Рак разрагатаўся — шчыра, ад душы, ажно Русіновічу самому стала смешна, бо такую вольнасць у Ракавым характары яму рэдка даводзілася бачыць.

Праўда, ён ужо даўно заўважаў, што Рак п ім паводзіць сябе натуральна, не залазіць у панцыр непрыступнасці, як пры Ярошку, Мальцу або нават Антановічу.

Былі выпадкі сапраўднай шчырасці паміж імі, калі Рак апавядаў пра сваё жыццё, пра бацькоў, пра сваю вёску. А недзе на другім ці на трэцім курсе паказваў фатаграфію. На Русіновіча палахліва пазіраў маленькі таўсцюк на крывых ножках, апрануты ў сялянскі каптанік. Яшчэ тады Русіновіч шукаў падабенства паміж тым малым і цяперашнім Ракам — і не знаходзіў. І другое таксама не ўкладвалася ў яго свядомасці: у дзесяць год Рак быў разам з бацькам у партызанах, не раз хадзіў у разведку, жыццё яго вісела на валаску. Русіновічу тады здавалася, што Рак траіцца: малы — адзін, партызанскі разведчык — другі, цяпер ён — трэці. Так, цяпер Рак — «прафесар», Рак — буйная галава з вялікім ілбом, радкавыя валасы, кволае цела інтэлігента.

Як час мяняе чалавека! Не так даўно было тое размеркаванне, Рак трапіў у аспірантуру — і адразу стаў іншым чалавекам: смялей стаў глядзець на свет, на жарт адказваў жартам, на слова — двума. Ён раптоўна неяк стаў самастойны і незалежны, а замест нядаўняй сарамяжнасці пачала паказвацца звычайная бесцырымоннасць. Рак выступаў ужо ў чацвёртай асобе, яшчэ невядомай, яшчэ незнаёмай.

І, як ні дзіўна, у гэтых метамарфозах сябра Русіновіч, хоць і не ў такім яркім варыянце, пазнаваў самога

сябе! Як цяжка родзіцца на свет чалавек і як доўга ён вучыцца хадзіць прама!

Русіновіч падышоў да Рака, нагнуўся над ім:

— Мо табе памагчы?

Рак паспешліва закрыў чамадан.

— А ты, Прафесар, здорава перамяніўся за апошні час.

Рак сеў на свой ложак.

— Я не мяняюся. Я заўсёды быў такі.

— Мо і быў, ды маўчаў.

— Дакуль можна маўчаць? Хопіць, што вы пяць гадоў кпілі з мяне.

— Прафесар, што ты гаворыш? Хто цябе крыўдзіў?

— Калі ты не памятаеш, то я не забыўся.

— Перастань, ты часам не разумееш жартаў.

— Добрыя жарты! Катку жарты — мышцы смерць. Ты на маім месцы быў бы не лепшы.

— А хіба я карыстаўся прывілеямі?

— Не кажы, цябе яны баяліся. У цябе моцныя кулакі.

— Ну, браце, ты адкрыў Амерыку. Яны мяне — баяліся? Трэба, каб чалавека паважалі, а не баяліся.

— Гэта амаль што ўсё роўна. Каго баяцца, таго і паважаюць.

— Ну, Прафесар, я цябе не пазнаю. Змешваць два такія паняцці...

Спрэчку перарвалі хлопцы. Прыйшоў спачатку Малец, потым Ярошка з Антановічам.

Сталі вячэраць. Адзін Рак не садзіўся за стол.

— Ідзі еш, Прафесар,— запрасіў яго Антановіч.

— Не хачу. Мне трэба зараз на станцыю.

— Прафесар едзе ашчаслівіць сваіх бацькоў,— сур'ёзна сказаў Ярошка.

— Па крайняй меры, адпачну ад тваіх вумных афарызмаў.

— Дай яму, Прафесар, дай! — падахвочваў Малец.

— І табе магу даць, не толькі яму,— абрэзаў яго Рак.

— Яй-богу, такі Прафесар мне больш падабаецца, чым той, посны, кіслы і які хочаш.

— Несалёны, зялёны, нясмачны, няўдачны,— стаў рыфмаваць Малец.— Толькі чаго ён пяць год прыкідваўся такім ягняткам? Такім ужо манахам?

— Не хацеў біць язык аб зубы. З вамі спрачацца — што ваду ў ступе таўчы,— даволі сярдзіта бубніў Рак, корпаючыся ў тумбачцы.

— Няпраўда, Прафесар, спрэчкі карысныя. Яны адточваюць язык, трэніруюць памяць, вучаць вобразна думаць, экспромтам гаварыць вялікія ісціны. Але ўсё гэта табе недаступна, як еўнуху каханне.

Рак, нібы яму стукнулі ў спіну, выпрастаўся. Ён быў белы як сцяна, губы яго крывіліся і ўздрыгвалі. У руках ён сціскаў гранёную шклянку.

— Ну, балбатун! — Ён замахнуўся шклянкай, але не папусціў ёю.— Ты мне за ўсё заплаціш! Больш я не буду цярпець.

Ён круціўся, нечага шукаў, кінуў у тумбачку шклянку, схапіў ручнік і выбег з пакоя.

Ярошка сядзеў і толькі моргаў вачыма. Для яго гэта было громам з яснага неба.

— Прачынаецца патухлы вулкан,— глыбакадумна сказаў ён урэшце.— Вось гэта дзіва!

— Нічога тут дзіўнага. Чалавек адчуў сілу. Вось і ўсё,— зрабіў вывад Малец.— Ты цяпер настаўнік, а ён аспірант. У каго большая перспектыва? У яго. А ты хочаш з ім запанібрата.

— Можа, і не ў гэтым справа,— умяшаўся Русіновіч.— Ён, і праўда, крыўдуе на нас за ўсе гэтыя шпількі... Надта сур'ёзны чалавек, з ім трэба было далікатней...

— Пяхота! Ён проста чалавек без гумару. А гэта прыкмета абмежаванасці...

Скрыпнулі дзверы, увайшоў Рак. Ні на каго не гледзячы, ён кінуў на свой ложак ручнік і стаў апранаць шынель — чорны чыгуначны бацькаў шынель, надзеў шапку з апушчанымі вушамі, узяў у рукі чамадан і, не сказаўшы ні слова, выйшаў з пакоя. З вушакоў пасыпаўся тынк ад удару дзвярэй.

Усе з палёгкай уздыхнулі.

— Прафесар яшчэ пакажа сябе,— першы парушыў цішыню Малец.

— Чаму ты кепска думаеш пра чалавека? — За вочы Антановіч заўсёды абараняў Рака перад хлопцамі, а ў вочы і сам любіў падпусціць шпільку, ды не толькі Раку, а любому з тых, хто быў у пакоі.

— Ты паэт, табе ўласціва бачыць у людзях толькі добрае. Але, на вялікі жаль, не толькі добрым багаты людзі, асабліва такія, як Рак.

— Ты думаеш, Рак благі чалавек? — знарок наіўна спытаў Антановіч.

— Як тая казала: не старайся паказаць, што ты дурнейшы, чым ты ёсць. Спадзяюся, ты не Рак і не пакрыўдзішся на мяне за гэта,— папярэдзіў Антановіча Ярошка.— Я не скажу, што я добра разбіраюся ў людзях, аднак я не хацеў бы сядзець у адным акопе з Прафесарам.

— А ты забыўся, што Прафесар якраз сядзеў у акопе ў той час, як мы, за выключэннем Мальца, сядзелі на печы і грэлі плечы,— напомніў Русіновіч.— Вельмі цяжка сказаць, як паводзіў бы сябе кожны з нас перад небяспекай.

— Той факт, што ён быў у партызанах, яшчэ ні аб чым не гаворыць.— Ярошка прайшоў па пакоі, заклаўшы рукі ў кішэні штаноў.— Проста збег акалічнасцей, а не свядомы крок. У жыцці і не такое бывае. Я гавару пра натуру чалавека, пра тое, што ў ім закладзена.

— А хто на гэта глядзіць? Мо адзін ты? — спытаў Русіновіч.— Бо ў час размеркавання яго не паслалі на Палессе, як цябе, а пакінулі ў аспірантуры. Анкета — большая сіла, чым твая натура.

— Ты, Стары, відаць пакрыўдзіўся на камісію, што цябе не ўзялі ў вучоныя, а таксама паслалі — на радзіму?

— Я? Нічуць. Я для навукі не падыходжу. Каб мне прафесараву галаву, ды яшчэ твае нервы, тады згодзен. Я здзіўляюся толькі, чаму цябе і Мальца не ўзялі. У вас жа таксама анкеты ў парадку, адна толькі акупацыя.

— Я вам растлумачу, як стараста курса,— умяшаўся зноў Антановіч.— Памятаеце, на трэцім курсе было? Вы, Малец і Ярошка, і «шукальнік праўды» Кулік падавалі заяву рэктару універсітэта?

Гэта была даволі шумная і непрыемная гісторыя. Малец, Ярошка і Кулік падалі на імя рэктара заяву, у якой скардзіліся на нізкую якасць выкладання — і называлі прозвішчы выкладчыкаў. Падпісацца пад заявай больш ніхто на курсе не захацеў. Русіновіч не падпісаўся, бо лічыў, што такую заяву павінны падпісаць

толькі выдатнікі, а яшчэ таму, што быў увогуле супраць авантуры, якая нічога карыснага не дасць. Як і аказалася, тады гэта расцанілі як спробу дыскрэдытаваць кафедру літаратуры, а ініцыятары ледзь не паплаціліся выключэннем. Кулік, які пераходзіў якраз на завочнае, прыняў на сябе ўсю віну і гэтым самым вырадатаваў таварышаў. Сам ён уладкаваўся ў школу, але адразу ж зрэзаўся з дырэктарам. У таго была нейкая даведка аб сканчэнні настаўніцкага інстытута і, мусіць, таму ён вельмі не любіў дыпломнікаў. Проста не мог пераварваць... Ну, а Кулік таксама з характарам. Барацьба ішла з пераменным поспехам. Урэшце ўмяшалася «Настаўніцкая газета», дырэктара знялі з трона...

Хлопцы задумаліся. Ярошка гладзіў свае валасы, моршчыў лоб. Малец дастаў папяросы, пачаў закурваць і раптам узняў голас:

— Я пытаю вас — а чаму я павінен ехаць у вёску? Застаецца тут такі Рак, які для навукі прынясе мала карысці, застаецца паэт Антановіч, якому нічуць не шкодзіць падыхаць хоць гадкоў пяць вясковым паветрам, адвыкнуць ад гэтага асфальту і бруку... Ён жа малады, у яго гэтулькі сіл, якія так патрэбны там, а навуку будзе каму развіваць... Няўжо да вас не даходзіць? Ці застаюцца ў аспірантуры па мове, якія ніколі на ёй не гаварылі?..

Антановіча пакрыўдзілі Мальцавы словы. Ён адразу ўскочыў:

— Дык што, я заняў тваё месца? Мо мне пайсці і сказаць: адмаўляюся, хай на яго ідзе Малец?

Малец паглядзеў на яго як на блазна.

— Адмаўляйся, хто табе не дае? Я думаю, Раку такая думка ў галаву не прыходзіла. Не кіпяціся! Я не кажу, што ты не на месцы. Ты і ў аспірантуры будзеш на месцы. Мяне здзіўляе сам падыход да размеркавання кадраў.

— І ўсё таму, што глядзяць не на чалавека, а на анкету,— падвёў вынік Ярошка.

— Можа, і так.— Малец задумаўся.— А цяпер пра цябе, Антановіч... Я гэта сказаў, каб зачапіць цябе за жывое. Ці не прыходзіла часам табе ў галаву, што ў цябе ўсё ў жыцці ідзе вельмі гладка? Радзіўся не ў беднай сям'і, рос у доглядзе, вучыўся ў школе, пасля стаў студэнтам, цяпер будзеш вучоным. Усё як па масле...

Здаецца, добра, здаецца, зайздросная біяграфія — суцэльны ўзлёт. А я табе скажу, што для паэта — а ты перш за ўсё паэт — такая біяграфія шкодная... Мо нават больш шкодная, чым цяжкая, крывая, з пад'ёмамі і падзеннямі, з няўдачамі, як у мяне ці ў Куліка або нават у Старога.

— Хіба я вінават, што так у мяне ўсё ідзе? — Выгляд у Антановіча быў, і праўда, нейкі вінаваты.— Парай, што мне рабіць...

— Тут ніякіх рэцэптаў няма. І нічога я табе не параю. Ты проста шчаслівчык, Антановіч. Хай табе і далей так шанцуе.

Малец узяў з тумбачкі Русіновічаў кішэнны гадзіннік, прыклаў да вуха.

— Цікае... Хутка гадзіна. Дай яго мне, Стары. Адчуваю, што сёння мяне будзе мучыць бяссонніца.

Малец часта браў Русіновічаў гадзіннік, клаў ля сябе на тумбачку, ляжаў і слухаў ціканне. Гэта памагала яму засынаць. Або ўключаў рэпрадуктар, а гучнасць змяншаў амаль да шэпту.

Малец паклаў на тумбачку гадзіннік, пачаў распранацца. Пасля падышоў да календара, адарваў лісток і сказаў сам сабе:

— Чацвёртага сакавіка... Ну, што ты прынясеш нам, наступны дзень?

...Русіновічу сніўся сон: ён едзе з бацькам па размытай, калдобістай дарозе. Воз скрыпіць і перавальваецца з боку на бок, гнеды конік ледзь выцягвае — калёсы зарэзвае па самыя калодкі. Куды і чаго яны едуць — невядома, толькі ў Русіновіча падсвядомае адчуванне, што гэтая праклятая дарога яму надакучыла, хочацца выбрацца на роўнае месца і ехаць хутчэй, бо шлях перад імі ляжыць незнаёмы і доўгі. Уперадзе паказаўся мост, нечым падобны на той, што быў калісьці цераз Шчару недалёка ад Ляхавіч. Калі яны праязджалі праз яго, малы Русіновіч заўсёды заплюшчваў вочы і туліўся да бацькі, бо праз крывыя, пабітыя жалезнымі шыпамі і капытамі круглякі далёка ўнізе свіцілася халодная і страшная вада.

Толькі гэты мост быў яшчэ страшнейшы. Насціл зеўрыў дзіркамі, пасярэдзіне былі нейкія парэнчы, між

якімі цяжка было выкіраваць, каб не зачапіцца воссю і не паляцець уніз разам з драбінамі. Конь кідаўся ўлева-ўправа, віляючы між правалаў, бацька кінуў сыну лейцы і сам учапіўся ў аглабіну. Русіновіч, як некалі ў маленстве, заплюшчыў вочы, аддаўшыся на волю лёсу і каню, які нейкім цудам нёс іх па гэтым дзіравым насціле і не правальваўся, не чапляўся за недарэчныя парэнчы, што стаялі нават пасярод моста і рабілі нечаканыя зігзаґі і павароты.

І вось Русіновіч, халадзеючы ад роспачы, адчуў, што каля яго няма бацькі. Ён пачуў як бы слабы плеск вады ўнізе — і ні крыку, ні гуку. Ён расплюшчыў вочы: бацькі побач не было. Хацеў закрычаць, але не мог — горла яму нешта здушыла. А конь ужо выносіў воз на роўную дарогу, якая пачыналася адразу за мостам.

«Хлопцы, хлопцы, прачніцеся!» — даляцеў да яго нейкі голас. Русіновіч азірнуўся навокал, каб убачыць, адкуль ідзе гэты голас, і нечакана адчуў сябе на ложку — прачнуўся.

Ён са страхам працёр вочы і ўбачыў перад сабою Мальца, які ў адной бялізне стаяў над яго ложкам.

— Чаго ты крычыш?

— Хлопцы, Сталін памірае!

— Ты што?

— Як гэта памірае?

— Толькі што перадалі... Другога ноччу быў удар...

— Браточкі, што ж цяпер будзе?

— Тут ёсць над чым паламаць галаву...

— Ой, слёз будзе!

— Не, гэтага яшчэ нельга ўявіць, як сабе хочаце...

Так пачаўся для хлопцаў той памятны чацвер 5 сакавіка 1953 года. Увесь дзень яны хадзілі як у сне, было нейкае нязвыклае, не знаёмае дасюль адчуванне, што гісторыя ў іх на вачах прыспешвае крок, што некаторая аднастайнасць і роўнасць хады падзей парушана. Рой неакрэсленых думак і цьмяных надзей абудзіла ў галовах хлопцаў гэтая падзея.

Вечарам Сталін памёр.

Пятніца... Субота... Нядзеля...

Жалобная музыка... Жалобны настрой...

...У панядзелак, у 12 гадзін, усе былі на плошчы, там, дзе ўзвышаўся высокі гранітны манумент.

Чалавек у вайсковай форме без шапкі задуменна стаяў, заклаўшы правую руку за борт шыняля.

Сёння да яго прыйшлі тысячы людзей. Сумныя твары. Сціснутыя вусны. У многіх на вачах слёзы.

Адспявалі гудкі, адгрымеў салют, шматтысячны натоўп, прайшоўшы калонай каля ўсыпанага кветкамі падножжа манумента, паволі расцякаўся па горадзе.

Русіновіч, каб сагрэць ногі, спяшаўся ў свой інтэрнат. На тралейбусным прыпынку было цеснавата. Русіновіч, абмінаючы натоўп, ледзь не збіў з ног дзяўчыну ў футры і белай шапачцы. Дзяўчына рэзка павярнулася да яго — і Русіновіч са сдзіўленнем убачыў перад сабою Галю.

— Прабач, Галя.

— У, мядзведзь...— Яна скрывілася і пагразіла яму пальцам.

— Куды ты ідзеш?

— Хацела сесці на тралейбус. Я змерзла.

— У такой футры? Хадзем пешкі.

— Хадзем...— Яна ўзяла яго пад руку. Яму адразу ўспомніўся май, той цёплы вечар, амаль такі ж натоўп людзей ішоў тады па вуліцы, і тады ён спаткаў Галю...

— А памятаеш май?

— Што май? — сумна сказала яна.— Памятаеш Новы год?

— Памятаю...— невыразна адказаў Русіновіч і змоўк.

— Якая я была дурная. Не магу сабе даравацъ...— Галя ўсхліпнула, змахнула пальчаткай слязу са шчакі.

Ён маўчаў.

— Чаму не заходзіш? — спытала яна.

Што было адказаць. Сказаць усё, што яго мучыла? Ясна і так...

— Усё збіраўся,— схлусіў ён і адчуў, што яна зразумела падман.— Ды вось бачыш...

Галя задумалася, выпусціла яго руку, нейкі час яны ішлі моўчкі.

— А чаму ты нейкі як бы вясёлы? — нібы ачнуўшыся, спытала ў яго Галя.— Няўжо ты прымаеш такую падзею...

Русіновіч не даў ёй закончыць.

— Прымаю, як заканамернасць... Хаця ты з гэтым не згодзішся.

Яму не хацелася заводзіць з ёй спрэчку.

— Не згаджуся...

— Не згаджацца — твая стыхія.

— Ды ўжо ж, у тваім уяўленні я ў сто разоў горшая, чым ёсць.

— А мне ўвесь час здавалася, што ты знарок выстаўляла сябе з горшага боку, а ў душы ты намнога лепшая.

— Ты думаеш гэтым задобрыць мяне? Не выйдзе. Ён так і не зразумеў,— жартам сказала яна ці сур'ёзна.

— А ты плакала? — спытаў ён.

— Плакала,— адказала яна проста.

Яны дайшлі да інтэрната, у якім яна жыла, пастаялі хвіліну ля пад'езда.

— Дык куды цябе накіравалі? Я чула, што на перыферыю?

— У Баранавіцкую. Паеду настаўнічаць.

— Ты рады?

— А як жа? Пяць год чакаў гэтага моманту...

— Мо напішаш? — з усмешкай спытала яна.

— А ты не адкажаш? Як тады, летам?

Ён глянуў ёй у вочы. Яна схіліла галаву.

— Тады было адно, цяпер другое... Ну, бывай! — Галя стала сур'ёзнай, рашуча падала яму руку.— Як ведаеш...

Яны развіталіся.

Вось так і ідзе жыццё— па кругу ці па спіралі, амаль што паўтараецца, але не зусім, дамешваецца нешта новае, чаго не было раней.

Ён мо яшчэ раз ці два спаткае яе, пагаворыць абы аб чым, каб толькі не маўчаць, а летам ужо будзе дома — адпачываць перад працай у школе. А яна... Яна будзе яшчэ вучыцца... Ды што яна? Яна не для яго — ён вырашыў гэта канчаткова. Нечага толькі стала шкада.

З такімі думкамі ён увайшоў у свой інтэрнат, механічна, па звычцы, глянуў на дошку з ключамі. Ключ ад іх пакоя вісеў. Ён зняў ключ і зазірнуў у скрынку для лістоў. Нічога яму не было, і ён паволі накіраваўся наверх.

Раптам голас дзяжурнай жанчыны спыніў яго.

— Вы не з 77-га пакоя?

— Ага. А што?

— Тут нядаўна прыносілі пошту, ёсць тэлеграма. Я ўзяла пад распіску... Русіновічу.

У грудзях у Русіновіча пахаладзела.

Тэлеграмы ён атрымліваў рэдка, і звычайна былі яны веснікамі нечага нядобрага. Гэты раз ён не чакаў, што здарыцца нешта другое... А мо едзе дадому сястра?..

— Адкуль? — спытаў ён глуха.

— Не ведаю.

Ён узяў склееньі бланк, на хаду разарваў яго і бягом пабег па лесвіцы, каб схавацца з вачэй жанчыны. Ён хацеў, каб ніхто не бачыў яго ў тую хвіліну, калі ён прачытае тэлеграму. Аб тым, што там, ён цьмяна здагадваўся, толькі была маленькая кропля надзеі, што гэта яшчэ не тое, чаго ўжо ніколі нельга змяніць ці паправіць.

Толькі на трэцім паверсе ён спыніўся і перавёў дух. Сэрца моцна калацілася ў грудзях.

«З Брэста»,— прачытаў ён надпіс чарнілам пад словам «Тэлеграма».

«Каму»... Яго прозвішча...

«Неадкладна прыязджайце ваш бацька памёр».

У вачах у яго пацямнела. Вось яно, тое страшнае, чаго ён так баяўся.

## Урывак з дзённіка

### Замест эпілога

«...Раней я так думаў: скончу вучобу, прыеду дадому, сядзем мы за стол, нальём поўныя чаркі, і я пацалую натруджаныя рукі сваім бацькам і скажу ім шчырае-шчырае дзякуй за ўсё тое добрае, што зрабілі яны для свайго сына. Я раскажу ім аб сабе — як мне было часам цяжка, як не лез у горла той кавалак, прысланы ці прывезены з дому, бо я ведаў, што ён апошні; як часам я плакаў ноччу, ціха, каб ніхто не пачуў, лежачы ў інтэрнаце на студэнцкім ложку. Сухія і кароткія мае лісты не перадавалі і сотай долі таго, як

мне жылося. У іх ніколі не было скаргаў і нараканняў на лёс, на нястачы, на здароўе. Калі і гаварылася часам пра цяжкасці, то пра тыя, што ўжо мінуліся, прайшлі, калі пра хваробу, то ўжо тады, калі яе не было. Бо ці мог я напісаць табе, мама, што твой сын перад стыпендыяй іншы раз есць адзін раз у дзень, што ў яго кепска са здароўем? Ці мог я напісаць, колькі хвалявання, колькі няўдач, правалаў і перажыванняў выпадае на долю кожнага студэнта, у тым ліку і твайго сына?

Успамінаю, як вярнулася Зося, як я, трохі выпіўшы, насупіўся, слухаў яе расказ аб сваім жыцці... Слухаў і маўчаў... Каб я стаў расказваць, я таксама, як і сястра, расплакаўся б,— а гэтай слабасці я ніколі не дараваў бы сабе. Таму я маўчаў...

Даруй мне, дарагая мама, што я ў цябе такі сухі і скупы на ласку, што такі маўклівы. У сэрцы я не такі, я люблю цябе, мама, і многа-многа добрых слоў гавару заўсёды табе, я цаню цябе як самага дарагога чалавека. Мо таму ты так дрыжыш за сваіх дзяцей, што многа здароўя, сіл і ўсю душу ўклала ты ў іх, што так многа недаела, недаспала, выплакала рэчку слёз, пакуль выгадавала і вывела іх у людзі.

Памятаеш, як песціла ты нас, аберагала, шкадавала, а калі мы рабілі што кепскае — была строгая, але заўсёды справядлівая?

Сялянскае жыццё — нялёгкае: таго мала, таго зусім няма, тое не так, а гэта не гэтак. Сваркі, крык. І часцей за ўсё з-за нас. Але ты ўсё цярпела, абы добра было дзецям. Ты магла быць галоднай, абы пад'елі твае дзеці, ты магла хадзіць у латаным, абы адзеты былі твае дзеці. Любоў да дзяцей у цябе засланіла ўвесь свет, ты ёю жывеш і ёю дыхаеш.

Мне ніколі не забыць, як ты збірала мяне ў дарогу. Ты аддала б, здаецца, усё, да апошняга кавалка, не думаючы аб тым, ці застанецца што ў самой на заўтрашні дзень.

«Вазьмі яшчэ гэты кавалачак, сынок, вазьмі! Мы тут як-небудзь, а табе ж трэба вучыцца, трудзіць мазгі. Бяры, не глядзі на нас... Мы дома. А дома і салома ядома».

Часам з-за гэтага ў мяне з табою бывалі сваркі, я не хацеў браць, а ты стаяла на сваім, чуць не сілаю

пхала мне ў мяшок той «лішні» кавалак, а калі я адмаўляўся, ты плакала і бедавала, што я буду там галадаць.

А колькі пасылак ты пераслала — у два канцы, мне і сястры, колькі панасіла іх за свет, у Даматканавічы, на пошту, бо не заўсёды лёгка было дастаць таго каня! І ніколі, відаць, ты не падумала пра сябе, хоць адпраўляла не толькі апошні кавалак сала ці каўбасы, а часцей за ўсё быў гэты кавалак або куплены за пазычаныя грошы, або пазычаны ў суседа, якому ўжо абрыдла гэтае бясконцае пазычанне. Ты азіралася толькі на бацьку — што ён скажа? Калі толькі бурчыць, то гэта яшчэ паўбяды, хай бурчыць, можна яшчэ трошкі пакласці... Колькі цяжкіх мінут давялося перажыць табе з-за твае дабраты, выцерпець нараканняў і папрокаў! Я не ведаю, ці вынес бы ўсё гэта хто другі...

«Паглядзім, як дзеткі табе памогуць. Будзеш мець... Вось хутка расцягнуць па кавалку. Не выстарчыць на ўсе канцы свету слаць пасылкі кожны месяц. У другіх людзей дзеці як дзеці, а ў мяне — толькі цягнуць ад бацькі, а ў гаспадарку — ні граша».

Бацькавы довады здаваліся важкімі і пераканаўчымі, але ты, мама, разбівала іх логікай свайго мацярынскага сэрца:

«А ты хочаш, каб дзіця пусціў на свет — і ўсё, хай жыве, як ведае? А на ногі яго паставіць, а вывесці ў людзі, даць нешта ў рукі, каб яно не прапала, каб яно добрым словам памянула сваіх бацькоў? Ты папракаеш, што яны цягнуць... А ў гаспадарку яны не цягнулі? Калі хоць адно лецейка твой сын згуляў, як другія, калі прыязджаў на канікулы? Ад цямна да цямна ў полі, абліваецца потам, рук не чуе — і косіць, і возіць, і малоціць,— мінуты не згуляе. А што ты яму купіў, як другія бацькі? Што сам купляў за стыпендыю, у тым і хадзіў. Ці ў яго быў, як у людзей, гарнітур, паліто, плашч, добрыя боты? А ён жа малады, не забывай. Можа, яму трэба з таварышамі павесяліцца і ў кіно з дзяўчынаю схадзіць, ды і з'есці лепей хочацца, хопіць таго, што тут жыў аб бульбе ды аб кіслым малацэ, дык і там яшчэ на маргарыне будзе цягнуць?»

Бацька часам маўчаў, а часам кідаўся ў сварку... Яму не суджана было дажыць да нашага сямейнага шчасця. Крыўду на лёс і на жыццё ён панёс ад нас назаўсёды, крыўду, якую мы, яго дзеці, павінны былі растапіць сваімі клопатамі і ўвагай. Мы не паспелі... Ці не іронія лёсу ў тым, што чалавек заўсёды не паспявае зрабіць галоўнага? Няўжо такі няўмольны закон жыцця?

Я зноў вяртаюся да цябе, мама!

Памятаеш, ты заўсёды гаварыла мне на дарогу: «Глядзі, сынок, сцеражы сябе, не пападзі пад поезд. Я так баюся — як ты едзеш?.. Не прастудзіся, настаўляй каўнер, пададзень яшчэ што цёплае... Бяры з сабою ў кішэню скварку, з'ясі ў дарозе... Не марнуй сябе дарэмна, не сядзі вельмі над кнігай... Папраўляйся, ты такі худы, як з крыжа зняты. Няўжо і твае таварышы такія?»

Я толькі смяяўся, каб заглушыць боль сэрца і перамагчы слёзы, якія падступалі да вачэй, знарок рабіўся суровы або бесклапотны, каб адагнаць чулліва сць. І можа ты падумала калі, што твой сын чэрствы або нават бяздушны... Але, здаецца, я ніколі не зрабіў нічога кепскага — ні табе, ні людзям. Я вучыўся ў цябе быць праўдзівым з усімі, не насміхацца над чужой бядой ці няўдачай, не зайздросціць чужому шчасцю. Ты заўсёды патрабавала ад нас гаварыць праўду, не ашукваць, не крыўдзіць слабых, паважаць старэйшых. Ты прывучыла нас да працы, хоць заўсёды ведала меру, хоць заўсёды шкадавала будзіць дзіця — хай паспіць, яно расце, яму сон так патрэбен...

А памятаеш, як мы не раз спрачаліся з табою, калі я хадзіў яшчэ ў школу? Цяпер прызнаюся, што быў я несправядлівы да цябе, не раз рабіў табе балюча.

Ды ўсё гэта ўжо мінулася, і сёння не пра тое трывога. Трывожыць тое, што наперадзе. А тое, што было, здаецца ўжо лёгкім, такім, што не варта пра яго і ўспамінаць. Па крайняй меры, мінулае не турбуе. Турбуе, варушыць фантазію будучае. Страшна падумаць, што я буду настаўнікам, буду вучыць некага. Нядаўна вучылі толькі мяне. А вучыцца ў сто разоў лягчэй, чым вучыць. Прынамсі, мне цяпер так здаецца. Не сцерлася з памяці, як сам даваў урокі ў школе ў

трэцім класе і метадыст здорава мяне адчытаў за тое, што разгубіўся быў перад маляўкамі-трэцякласнікамі.

Ведаю, мама, што ты таксама думаеш пра свайго сына, думаеш, што яму зноў будзе цяжка аднаму на новым месцы, што не будзе каму яго дагледзець, паклапаціцца аб ім, парадзіць, выручыць з бяды. Ты не-не ды і дасі якую-небудзь раду на будучае: «Глядзі, сынок, каб і там лічылі цябе за чалавека, каб нам тут не было сорамна за цябе... Знайдзі толькі добрую кватэру, каб з харчамі, са сталом, а то ты заморыш сябе голадам... Глядзі, каб дзеці цябе любілі, слухалі...»

Як наказ сэрца, я прымаю, мама, твае простыя і шчырыя словы. І думаю, што, калі я не адступлю ад іх, мяне будуць «лічыць за чалавека». І мне не будзе сорамна перад табою, мама.

...Сёння атрымаў ліст са Слоніма. Антановіч запрашае на вяселле! Будуць усе нашы хлопцы. Абавязкова паеду!..»

*1964—1967 гг.*

# МІЖ ДВУХ АГНЁЎ

## I

Чалавек па натуры сваёй — шукальнік. Цягне яго невядомае і новае, таемнае і нязведанае. А калі да ўсяго чалавеку мінула нядаўна дваццаць гадоў, калі ён толькі яшчэ пераступіў парог свае сталасці? Тады чалавеку няма спакою...

Так было і ■ Валяй Калейнік, якая толькі што скончыла педагагічны тэхнікум і пачала працаваць у Падлясейскай школе. Дзесяцігодка для яе, яшчэ нявопытнай настаўніцы,— гэта нешта таемнае, нязведанае: новы калектыў, вялікі, незнаёмы, новыя абавязкі, шумлівая і такая мілая дзетвара. Што можа быць даражэй для маладой настаўніцы тае работы, да якой яна ў душы ўжо даўно рыхтавалася?

Першы ўрок у сваім трэцім класе Валя запомніць на ўсё жыццё. Яна глядзела на клас і бачыла дзяцей нібы ў нейкім марыве, не пазнавала свайго голасу — ён здаваўся ёй зусім чужы.

І яшчэ яна заўважыла, што не адчувае плыні часу, а калі ўрэшце зірнула на гадзіннік, то не паверыла вачам: урок канчаўся, а яна паспела толькі пазнаёміцца з вучнямі і распытаць, як яны правялі канікулы.

Валя не ўзрадавалася, што празвінеў званок. Яна хацела, каб урок яшчэ не канчаўся, бо толькі цяпер яна авалодала сваімі пачуццямі: прапала скаванасць, голас набыў натуральную сілу і звонкасць.

Два наступныя ўрокі Валя правяла больш упэўнена, але і яны патрабавалі ад настаўніцы ўсіх яе сіл.

Яна ішла дадому стомленая, але на сэрцы было спакойна: зроблены першыя крокі самастойнага жыцця, а гэта многае значыць.

Пакрысе ўляглася трывога, дзень за днём мацнела вера, што ўсё будзе добра. І паступова смешныя рабіліся тыя страхі, якія маляваліся ёй спачатку.

Цяпер Валя магла шырэй глянуць на свет, азірнуцца на тых, хто яе акружаў, пазнаёміцца з калектывам. А настаўнікі былі самыя розныя як па гадах, так і па выгляду. Адны падабаліся ёй менш, другія больш, да трэціх яна была абыякавай. Затое мужчыны пазіралі на яе з прыхаванай цікаўнасцю, а жанчыны і дзяўчаты — з лёгкім недаверам і паблажлівасцю. Існавала і нейкая нябачная мяжа паміж настаўнікамі старэйшых і малодшых класаў, якая перашкаджала сысціся бліжэй.

Аднойчы Валя прыйшла ў настаўніцкую раней за ўсіх. Яна агледзела сябе перад люстэркам, папраўіла русыя, кучаравыя ад прыроды валасы, тужэй завязала паясок на тонкай таліі.

У гэты час дзверы адчыніліся, і ў пакой увайшоў рослы малады мужчына. Ён падышоў да доўгага стала, за якім звычайна сядзелі настаўнікі, і пачаў нечага шукаць.

— Ага,— мармытнуў ён сабе пад нос і з-пад стоса сшыткаў дастаў старую кніжку ў скураным карычневым пераплёце.

Можа, ён адчуў на сабе зацікаўлены позірк незнаёмай настаўніцы, бо павёў вачыма, не падымаючы галавы, глянуў спадылба на Валю. На нейкі момант рука яго з кнігай застыла.

— Вы, здаецца, да нас працаваць? — Твар яго на момант страціў выраз суровасці.

— Да вас,— нясмела адказала Валя.

— Ну што ж, жадаю поспехаў.

Валя, засаромеўшыся, падзякавала. Яна ведала, што гэта фізік, па прозвішчу Лукашык, што аб ім гавораць рознае, але ўвогуле ён чалавек неблагі і ў нейкай меры таямнічы, бо ні з кім не сябруе, ні да кога не ходзіць. Ёй было прыемна, што ён, такі сур'ёзны чалавек, заўважыў яе, зялёную настаўніцу, і пажадаў ёй поспехаў. Яна чакала, што Лукашык яшчэ што-небудзь спытае ў яе, але ён, зноў стаўшы суровым, паклаў кнігу ў тоўсты пацёрты партфель і ціха зачыніў за сабою дзверы, не сказаўшы болей ні слова.

Вечарам, ужо лежачы ў пасцелі, Валя ўспаміналa сустрэчу ў настаўніцкай. Чым жа крануў яе гэты аскетычны з выгляду настаўнік? Нічога пэўнага Валя не магла сказаць, але яна адчувала ў гэтым чалавеку

нешта такое, што прыцягвае да сябе, вабіць і разам з тым палохае. І яшчэ ёй здалося, што ён нешта тоіць у сабе і не хоча ні з кім падзяліцца сваёй таямніцай.

Работа забірала ўвесь вольны час. У Валі не хапала вопыту, каб выйсці з якога-небудзь недарэчнага тупіка, у які заводзіла жывая плынь практыкі. Валя часам траціла многа сілы там, дзе хапіла б адной не значнай, але разумнай меры. Ды Валя цешыла сябе тым, што праца яе не прападае дарма: дзеці палюбілі яе.

Лукашыка, таго настаўніка з суровым выразам твару, яна бачыла цяпер гады ў рады: іншы раз заставала яго ў настаўніцкай, часам спатыкала на вуліцы. Жыў ён пры самай школе і амаль нікуды не хадзіў.

Быў у вёсцы свой клуб, там у святы збіралася моладзь патанцаваць, паглядзець кіно. Прыходзілі туды і настаўнікі, асабліва часта на калгасныя сходы. Час быў бурны: на захадзе бразгала зброяй Германія. Нядаўна была разгромлена панская Польшча, нямецкія войскі таптаді палі Францыі, Галандыі, Бельгіі, высаджваліся ў Скандынавіі. Пахла дымам і порахам.

Але ўсё гэта, здавалася, зусім не цікавіла Лукашыка, і ён рэдка выходзіў са свае хаты. Іншы раз ён заставаўся толькі на занятні фізічнага гуртка, які вёў як выкладчык фізікі. Стэфенсан, Макферсан, Лавуазье, Ламаносаў, Папоў — вось хто былі яго кумірамі, якім ён пакланяўся і любіў. Гэтую сваю любоў ён перадаваў і дзецям. Асабліва цягнуў ён да сябе хлапчукоў, якія любілі глядзець, як ён упэўнена ставіць вопыт на беспадстаўнасць вечнага рухавіка ці дэманструе мадэль рухавіка ўнутранага згарання.

Казалі, што на ўроках Лукашыка пануе цішыня, ён ніколі не пераказвае падручніка, а дае новае, чаго ніколі не чулі дзеці.

За гэта і слыў ён сярод вучняў, ды і сярод людзей усёй вёскі вучоным чалавекам.

Такі быў гэты таямнічы Лукашык, і Валя ўсё часцей і часцей пачынала думаць аб ім.

А калі добра прыгледзецца, то нічога ў ім не было такога, што магло б зачараваць. Ён не вызначаўся ні прыгажосцю твару, ні стройнасцю фігуры. Гэта быў, здавалася, самы звычайны чалавек, але Валя бачыла

ў ім нейкую ўнутраную сілу, якую ён стараўся не паказваць. Можа, гэта была нават не сіла, а затоенае ад людзей гора, ці, можа, слабасць, якую сарамліва хаваюць ад чужых вачэй.

Аднойчы ў нядзелю Валі заманулася адпачыць. Узяўшы з сабою першую кнігу «Ціхага Дона», яна загуменнямі пайшла ў лес, які пачынаўся адразу за вёскай.

Быў ласкавы асенні дзень. Па-летняму яшчэ цёплае сонца залаціла пажоўклае лісце бяроз, ветрык варушыў галіны, зрываючы паволі ліст за лістом.

Сям-там трапляліся грыбы. Вось яна чуць не наступіла на вялізны, з шакаладнаю шапкаю баравік, нагнулася, вырвала яго. Корань адразу ўвагнуўся пад пальцамі, хруснуў — быў чарвівы. Валя разламала шапку — і тут былі чэрві. Яна шпурнула грыб на зямлю і пайшла. Пад нагамі шапацела лісце, патрэсквалі сухія галінкі, што ўсцілалі дол.

Яна доўга не магла знайсці сабе добрага месца: трапляўся то суцэльны цень, то пад нагамі не было травы, то вытаптаная сцежка не давала ёй прыпыніцца. Валя ішла ўсё далей і далей. Вось знаёмы дуб з двума раламі. Яна не першы раз у гэтым лесе і памятае, што хутка павінна быць палянка з маладымі бярозкамі, дзе многа пнёў — слядоў старой парубкі.

Бледна-зялёны густы мох гладкім дываном усцілаў зямлю, дзе-нідзе праз яго прабіваліся пажоўклыя тонкія травінкі.

Вось і паляна. Валя развяла рукамі падатлівыя галінкі кустоў, ступіла яшчэ крок і ледзь не ўскрыкнула: на зямлі ляжаў чалавек. Ён быў голы да пояса, а твар яго закрывала кніга ў яркай чырвонай вокладцы.

Валя пастаяла хвіліну, а пасля асцярожна пачала адступаць назад. Чалавек у гэты час падскочыў, нібы яго што ўкалола, сеў.

Кніга звалілася на калені. На твар упалі русыя доўгія валасы. Чалавек загроб іх назад растапыранымі пальцамі, пацягнуўся. Тугія мускулы рук і грудзей зайгралі пад загарэлаю скурай.

Валя здзівілася яшчэ больш, калі пазнала, што гэта Лукашык. Раптам нязвыклае хваляванне ахапіла яе. Ёй захацелася падысці вось цяпер да яго, прывітацца, сказаць што-небудзь. Але ўзнікла і другое па-

чуццё, якое аказалася мацнейшым за першае: страх. Невыразны дзявочы страх скаваў яе, яна глядзела на Лукашыка ўжо не як на таварыша па рабоце, а як на мужчыну, перад якім яна не зможа ўстаяць. Ніколі раней не было ў яе такога страху перад мужчынам, а перад Лукашыкам яна раптам адчула сябе слабай і бездапаможнай. І калі ён толькі разгадае яе цяперашні стан, яна прапала...

Не разбіраючы дарогі, Валя кінулася наўцёкі. «Далей, далей ад яго»,— падганяла яна сябе. І толькі калі ёй пачало не хапаць паветра, а ногі ў каленях аслабелі, яна суцішылася і пераняла дух.

З таго часу Валя старалася абыходзіць Лукашыка, каб не трапіць яму на вочы, каб зноў не прачнулася ў яе грудзях тое ганебнае, як яна лічыла, пачуццё слабасці перад яго мужчынскаю сілай.

Валя баялася, каб ён па вачах не зразумеў яе патаемных думак і страхаў, каб не падумаў, што яна страціла ад яго галаву.

Яна прыходзіла на ўрокі на сваю другую змену перад самым званком, калі настаўнікаў старэйшых класаў ужо не было.

Але Лукашык, як знарок, іншы раз нешта забываў у настаўніцкай, а аднойчы доўга стаяў перад новым раскладам. Ён па-ранейшаму кідаў на яе кароткія позіркі, але было ў іх нешта нязвыклае, загадкавае, пасля чаго хацелася спытаць: «Што вы пра мяне ведаеце?»

Пазней Валя краем вуха пачула, што Лукашык быў жанаты, але дзе яго жонка і як здарылася, што ён адзін,— ніхто не ведаў. І яе яшчэ больш пачынала трывожыць і вабіць яго таямнічасць.

## II

Падлясейкі — невялікая вёска, што выцягнулася ўздоўж дарогі на якую вярсту. Прысады, саламяныя стрэхі, сям-там гонта ці чырвоная бляха, няроўная пясчаная вуліца, пасечаная трактарнымі гусеніцамі, здратаваная капытамі; крыху ўбаку — вялікі кароўнік і некалькі сціртаў неабмалочанага збожжа...

Валя ішла ў канец вёскі пасля ўрокаў, каб наведаць свайго вучня, які вось ужо трэці дзень не прыходзіў у школу. Задумаўшыся, Валя не заўважыла, што

насустрач мерна крочыць чалавек, а калі глянула — сумелася: гэта быў Лукашык.

Прасторны і даволі памяты гарнітур вісеў на ім, бы на калу, рукі матляліся, як чужыя; прадаўгаватая галава з прамымі русымі валасамі была чуць адкінута назад, вочы хаваліся пад навіслымі бровамі, на лбе — складка.

Яны прывіталіся холадна і стрымана, але чамусьці і ён і яна запаволілі хаду, нібы збіраліся яшчэ нешта сказаць — не проста «добры дзень».

«Няўжо так і разыдземся? — падумала Валя.— Няўжо ён не зачэпіць мяне?» Гэта было неяк страшна і адначасна прыемна — каб вось гэты не падобны да ўсіх Лукашык загаварыў з ёю — і зусім не важна аб чым.

Яна ішла і плячыма адчувала, што ён азірнуўся ці нават спыніўся і праводзіць яе позіркам. Ёй таксама хацелася азірнуцца, але яна перамагла ў сабе гэтае легкадумнае жаданне і ішла далей, уся наспружыненая і ўсхваляваная.

І калі ўжо апошняя надзея на гутарку зусім прапала, яе вушы і сэрца прарэзала кароткае слова: «Валя!»

Яна нібы спатыкнулася аб яго: спачатку стала на месцы, а потым знарок павольна павярнулася назад.

Лукашык стаяў крокаў за дзесяць ззаду ад яе і, калі яна спынілася, накіраваўся да яе. Ветлівая, крыху вінаватая ўсмешка была ў яго на вуснах, і ён нібы не ведаў, што яшчэ сказаць Валі і як апраўдацца ў тым, што ён яе затрымаў.

Але ён нават і не думаў апраўдвацца, бо Валю трохі здзівілі яго першыя словы.

— Усё-такі неяк нядобра абыходзіць бокам свайго калегу,— сказаў ён даволі самаўпэўнена.

— Чаму бокам? — усміхнулася Валя.— Я нагамі...

Лукашык зарагатаў, але тут жа насупіўся і апусціў галаву.

— Вы, можа, пакрыўдзіліся, што я затрымаў вас? Але я так рэдка вас бачу...

— Хіба гэта так важна? — спыталася Валя і ўважліва глянула на Лукашыка. Яна не ведала, ці ён жартуе ці гаворыць сур'ёзна.

— Як вам сказаць...— запнуўся Лукашык.— Для мяне — важна. Чаму — я вам зараз растлумачу... Але чаго мы стаім сярод дарогі? Куды вы ішлі? Да Ціткова? Давайце пойдзем разам...

Яны мінулі некалькі хат і скіравалі направа. Валя першая адчыніла скрыпучыя веснічкі і ўвайшла на двор. За ёю крочыў Лукашык.

Раптам з сяней проста на іх выскачыў рыжы вялізны сабака і з вясёлым нязлосным брэхам кінуўся да людзей. Яны абое — Лукашык і Валя — міжволі спыніліся: пачалі разам адступаць назад. І выйшла так, што Лукашыка прыкрывала Валя, размахваючы партфелем. Лукашыку стала няёмка, ён абмінуў Валю і рашуча пайшоў на сабаку, рыхтуючыся сустрэць яго ўдарам нагі. Сабака таксама раз'юшыўся, ашчэрыў зубы, стаў прысядаць на заднія лапы і кідацца ў бакі, шукаючы слабага месца ў абароне праціўніка. Невядома, што выйшла б з гэтага паядынку, калі б з сяней не выскачыла маладая жанчына з венікам у руках. Яна шпурнула венік у сабаку, той піснуў і пабег з двара.

Жанчына папраўіла валасы на галаве, абцягнула фартух і прывіталася з гасцямі.

Калі яна даведалася, хто яны і чаго прыйшлі, запрасіла ў хату. У хаце замітусілася, стала прыбіраць са стала міскі, сцерла анучаю лаву і прапанавала садзіцца.

У прасторнай хаце было няўтульна і неяк пуста — стол, ложак і калыска, у кутку злева — вялізная печ, ля яе палок, пад ім — бульба.

На ложку сядзела двое дзяцей — хлопчык гадоў дзесяці і маленькая дзяўчынка — мо гады два, не больш. Жанчына падышла да іх, пацалавала дзяўчынку ў лобік.

— Бачыце, Косцік у мяне за няньку. Зоська захварэла, баюся адну дома пакідаць, дык яго ў школу не пусціла. Самі бачыце — бульбу трэба з поля сабраць за пагоду...

— Бульбу трэба, мы разумеем, але і ў школу пасылаць трэба,— узбуджана гаварыла Валя.— Няўжо вы не разумееце, як гэта важна, каб дзіця хадзіла рэгулярна? Тады яно будзе добра вучыцца.

— Я ведаю,— апусціўшы галаву, сказала жан-

чына,— але хто нам паможа? Бацька служыць, вызваляў Заходнюю, цяпер стаіць у Беластоку. Танкістам ён. А да гэтага ў МТС працаваў. Тады нам лягчэй было.

— Ну, вы ўжо скардзіцца пачалі,— перабіла яе Валя.— Вы павінны ганарыцца, што вам муж у арміі, ахоўвае наш спакой. Я на вашым месцы не хныкала б! У вас такія дзеці! І муж хутка вернецца! Праўда, Косцік, тата хутка вернецца?

Валя падышла да ложка, адшпіліла свой партфель і дастала пакецік цукерак — гарошку, насыпала дзецям у жменькі. Пасля пагладзіла абаіх па стрыжаных галоўках і зноў адышлася да стала.

Косцік пачырванеў, сказаў «дзякуй» і адвярнуўся да сцяны.

— Вось вы кажаце — хутка вернецца,— зноў загаварыла жанчына.— Мусіць, не да гэтага ідзе. Так неспакойна... Кажуць, на валаску ўсё ліпіць...

— Ну што вы! — Валя ажно ўскочыла з лавы.— Хто вам сказаў? Гэта ўсё бабскія плёткі. З кім нам ваяваць?

— Знойдзецца на нашу галаву,— з сумам адказала жанчына.— Як забралі майго ў армію, з таго часу нібы мне што зрабілася — як асіна калачуся. Няма спакою на душы ні днём ні ноччу.

Пагаварылі яшчэ трохі, пасядзелі і пайшлі. Валя заўважыла, што Лукашык увесь час маўчаў, не ўмешваўся ў размову.

На дварэ ён адразу ўзброіўся Валіным партфелем, азірнуўся, відаць, чакаючы нападу сабакі. Валя ўсміхнулася, заўважыўшы гэта.

— Вы баіцеся сабак? — спытала яна.

— Як вам сказаць? Не вельмі. Але гэты на мяне зрабіў кепскае ўражанне. Ён мне нагадаў адно непрыемнае здарэнне.

— Якое?

— Лепш калі-небудзь другім разам раскажу. Сёння ў мяне добры настрой.

— Скажыце, а чаму вы маўчалі ўвесь час? — не адставала Валя.

Лукашык задуменна ўзняў галаву, паглядзеў на неба, пасля пачухаў бараду і сказаў:

— Не хацеў вас канфузіць перад гэтаю кабе-

тай. Яна хоць, можа, і малапісьменная, а гаварыла больш пераканаўча, чым вы.

— Яна — пераканаўча! — здзівілася Валя.— Гэта вы сур'ёзна?

— На жаль, сур'ёзна,— падумаўшы, адказаў Лукашык.

— Тады аддайце мае цацкі, я з вамі не гуляю,— жартаўліва-пакрыўджаным голасам сказала Валя і ўзяла з яго рук партфель.— Замест таго, каб падтрымаць свайго калегу, вы развесілі вушы. Трэба быць ваяўнічым, наступаць, пераконваць!

— З мяне кепскі празеліт, як сказаў бы наш Калінін.

— Ну, я вас перавыхаваю!

— Пабачым,— буркнуў Лукашык.

...З таго часу яны пачалі лічыць сябе добрымі сябрамі, сяды-тады знарок ці незнарок сустракаліся то ў школе, то на вуліцы ці ў клубе.

Настаўнікі здзіўляліся, што Лукашык стаў часцей з'яўляцца ў людных месцах і нават прыходзіў на танцы ў клуб, калі там была Валя. Ён чакаў яе дзе-небудзь у кутку, пакуль яна танцавала, і пасля праводзіў дадому.

Аднойчы суботнім вечарам дождж загнаў Валю і Лукашыка пад хату да Валінага гаспадара.

Валя ненарокам узялася за клямку ў дзвярах, але заўважыла, што ў прабоі вісіць замок. Дзе ляжыць ключ, яна ведала, і ёй прыйшло ў галаву зайсці ў хату. Лукашык згадзіўся, і яны, мінуўшы цёмную прасторную палавіну гаспадароў, апынуліся ў Валіным пакойчыку.

Валя запаліла лямпу. Лукашык з цікавасцю разглядаў пакой. Маленькі кухонны столік, які служыў і пісьмовым сталом, два крэслы, этажэрка, вузкі ложак з дзвюма невялікімі падушкамі, фіранка, дарожкі, капа, накідкі і розныя вышыўкі — усё рабіла пакой утульным і абжытым.

На сцяне вісеў партрэт правадыра, правей і ніжэй была размешчана рамка з фотакарткамі. Унізе пад адной з іх быў подпіс: «С-кі педтэхнікум, 16.04.1939 г. На фотакартках красаваліся маладыя дзяўчаткі. Валя была ззаду, схаваўшыся за сябровак. Лукашык прыкмеціў ужо гэтую рысу ў яе характары: не любіць

выстаўляцца напаказ, хоць на выгляд яна сімпатычная і нават прыгожая: правільныя рысы твару, зграбны тонкі нос, вялікія шэрыя вочы...

Тым часам Валя выйшла ў другую палавіну і хутка вярнулася адтуль, апранутая ў квяцістую паркалёвую сукенку. Яна адчувала сябе неяк няёмка, нібы баялася, што за імі нехта сочыць. «Яна губляецца са мною... Што гэта можа значыць? — пытаў сам сябе Лукашык.— Калі яна ўпусціла мяне ў хату, дзе нікога няма, значыць, яна мне або верыць, або...»

— Дзе ж твае гаспадары? — каб перарваць маўчанне, спытаўся Лукашык.

— Здаецца, у горадзе. Там у іх сваякі, вось і загасціліся.— Валя асцярожна села на крэсла ля століка, нібы яна была тут госця.

— Яны не крыўдзяць часам цябе? — чамусьці раптам запытаў Лукашык.— Калі што, дык можна памяняць кватэру...

— Не, тут мне добра,— запярэчыла Валя.— Гаспадары не ўмешваюцца ў мае справы.

— Не дапытваюць, куды ходзіш, што робіш?

— Не... А што ты хочаш сказаць? — Валя раптам схамянулася, адчуўшы ў яго словах не то здзек, не то падазроную цікаўнасць.

— Нічога, я проста так, пажартаваў,— адказаў Лукашык і, падышоўшы да сцяны, пстрыкнуў пальцам па фатаграфіі.— Гэтулькі дзяўчатак... А дзе ж хлопцы?

— На нашым курсе быў толькі адзін, ды і той захварэў, не прыйшоў здымацца. Вось мы і без хлопцаў...

Лукашык адчуваў сябе няўпэўнена. Нешта скоўвала яго. Нават гаварыць, здавалася, у яго няма пра што.

— Дождж перастае, пара...— Лукашык знарок загаварыў пра гэта, каб ведаць, што скажа Валя.

Валя ўскочыла з крэсла, адхіліла фіранку і прыслухалася.

— Дождж і не думае пераставаць. Пачакай трохі.

Гэта яму было прыемна чуць, аднак ён рабіў выгляд, што не збіраецца мяняць намеру.

— Ды што мне дождж? Пяць хвілін — і я дома.— Лукашык зрабіў крок да дзвярэй.

— А я не пушчу,— жартам сказала Валя і заступіла яму дарогу.

Лукашык ступіў крок да Валі і асцярожна прытуліў яе да сябе. Яна замерла на момант, нібы задумваючыся, а пасля раптам вырвалася з яго абдымкаў. Лукашыку здалося, што вочы ў яе ўспыхнулі гневам, і ён адразу адступіў:

— Не крыўдуй, я незнарок.

— Першы раз дарую,— сур'ёзна адказала яна.

— А другі? — усміхнуўся Лукашык.

Можа, Валі шкада стала Лукашыка ці яна падумала, што пакрыўдзіла чалавека, толькі яна падышла і пагладзіла яго па русых валасах.

— Усё залежыць ад цябе,— сказала Валя, і ў Лукашыка зноў ажыла надзея.

Лепш было пагаварыць аб чым-небудзь нязначным, абы ішоў час, і Лукашык пачаў хваліць сваю гаспадыню, пачаў расказваць, як яна заўсёды пакідае яму вячэру, калі ён адлучаецца з хаты.

Раптам Валя ўспляснула рукамі і сказала, што яны могуць таксама павячэраць.

— Я толькі не ведаю, ці добра гэта — запрашаць мужчыну вячэраць, тым больш...

— Тым больш галоднага,— сказаў Лукашык і падміргнуў.

Валя падумала, пасля пачала збіраць на стол.

Лукашык кроіў хлеб тупым нажом і назіраў, як хутка і акуратна расстаўляе яна посуд на стале, як лётаюць яе ўвішныя рукі, аголеныя да плячэй, як тонкія спрытныя пальцы раскладваюць хлеб, крышаць вяндліну, наразаюць агурок...

Калі ўсё было гатова і яны селі за стол, Лукашык сказаў:

— От каб сюды яшчэ якога-небудзь зелля.

— Зелля? — перапытала Валя. Яе рукі на момант застылі, а вочы спыніліся на Лукашыкавым твары.— Ой, праўда! Добра, што ты напомніў.

Яна нагнулася, адчыніла дзверцы ў століку, пашамацела паперанию і дастала бутэльку віна. Пасля вынята шклянку з лыжачкай і пабегла на палавіну гаспадароў. Адтуль вярнулася ўжо з дзвюма чыстымі шклянкамі і паставіла іх на столік перад Лукашыкам.

— Ну, за што будзем піць? — спытаў ён, наліваючы віно.

— За што? Тут трэба падумаць.— Валя чамусьці стала сур'ёзнай.— За дружбу... Не! За настаўнікаў... За сапраўдных.

— Дык, выходзіць, не за нас з табой? — скрывіўся Лукашык.

— Як гэта? — не зразумела Валя.

— Ну, можа, ты ўжо і лічыш сябе сапраўдным, а я ўсё ніяк не асмелюся.

— Разумею... Я таксама не лічу... Толькі да гэтага трэба імкнуцца.

— У такім разе я згодзен.— Лукашык сціснуў вусны.

Час ішоў непрыкметна. Ходзікі з катом-маргуном наверсе паказвалі першую гадзіну ночы. Крыху захмялеўшы, Лукашык разгаварыўся. Гутарка яго была няроўная: ён то загараўся, ажываў, калі закранаў нешта блізкае сэрцу, то астываў, цягнуў манатонна і стараўся хутчэй скончыць, абрываў. Валя слухала і пазірала на яго твар, на якім, як цені, прабягалі адбіткі пачуццяў і думак. Шырокі ўпарты лоб яго то пакрываўся маршчынамі, то рабіўся гладкі, але адна папярочная складка ўсё не прападала.

Першы раз за многа год Лукашык гаварыў адкрыта і шчыра. Ён прызнаўся Валі, як на споведзі, што быў жанаты, але разышоўся, што дзяцей у яго няма, што бацькоў таксама, лічы, няма, бо ў трыццаць сёмым годзе іх выслалі ў Сібір і невядома, што з імі.

— За што? — ажывілася Валя.

Лукашык наморшчыў лоб, задумаўся.

— Была адна прычэпка. У Польшчы жыў мой дзядзька.

— І толькі? — здзівілася Валя.

— Не будзь наіўнай... Хіба ты сама не чула, не бачыла?

— Пачакай, а як жа ты...— Валя не скончыла.

— Уцалеў, ты хочаш сказаць? Я думаю, выпадкова. У той час я жыў на кватэры ў пракурора, быў жанаты з яго дачкой... Дарэчы, ты з-за далікатнасці не спытала ў мяне, чаго я разышоўся з жонкай.— Лукашык нагнуў галаву, пазіраючы ў падлогу. Ві-

даць, яму цяжка было гаварыць.— Яна не хацела мець ад мяне дзяцей. А каб ты ведала, гэта самая большая абраза, якую можна прыдумаць для мужчыны. Ды і бацькі яе глядзелі на мяне, як на белую варону. Я там быў чужы...

— Ой, як гэта ўсё складана.— Валя ўздыхнула.— У мяне ўсё было проста, як у табліцы множання. Ніякіх нечаканасцей, ніякіх паваротаў.

— Пачакай, ты толькі пачынаеш жыццё. Ты яшчэ дзіця,— сказаў Лукашык і ўзяў яе за руку.

— Я дзіця? — шчыра здзівілася Валя і прыняла руку.— Мне дваццаць гадоў, калі хочаш ведаць.

— А памятаеш, у Талстога: «Судили мальчика двадцати лет...». Калі я прачытаў гэтыя словы — а мне якраз было дваццаць,— я таксама пакрыўдзіўся. Як гэта? А цяпер, калі азіраюся назад, то сапраўды бачу, што ў дваццаць гадоў чалавек яшчэ дзіця.

— Ай, перастань...— Валя замахала рукамі.— Раскажы што-небудзь цікавейшае.

— Сёння не буду. Я хачу маўчаць і глядзець на цябе.

— Перастань...

— Тады я пайду дадому. І так позна.— Лукашык зірнуў на гадзіннік.

Валя пачала ўгаворваць, каб ён пабыў, але Лукашык стаяў на сваім.

— Пабудзь, пакуль прыедуць мае гаспадары.

— Ну добра...

— А калі не прыедуць?

— То будзеш адна... Не прыкідвайся, ты не з баязлівых. Вось я патушу лямпу...— І Лукашык некалькі разоў то пабольшваў, то памяншаў агонь. Чырвонае, з вуглём у сярэдзіне полымя пырснула іскрамі, лямпа патухла, толькі вуголь яшчэ чырвоным вокам блішчаў у цемры.

— Што ты зрабіў, Лявон! — ускрыкнула Валя і схапіла Лукашыка за руку. У яе голасе чуваць быў сапраўдны страх.

Лукашык цяпер смела абняў Валю, гладзіў яе цёплыя рукі. Валасы казыталі яму твар, ён чуў ля сваіх вуснаў узбуджанае Валіна дыханне. Раптам Валя сама абхапіла яго за шыю, і ён адчуў яе гарачыя вусны на сваёй шчацэ.

Як касец, што дагэтуль паміраў ад смагі, нарэшце прыпадае вуснамі да свежай крынічнай вады, так і Лукашык, сціснуўшы ў моцных абдымках маленькую Валю — дагэтуль яна здавалася яму не такой ужо маленькай,— прагна цалаваў яе ў шчокі, у вусны, у шыю, а яна толькі слаба супраціўлялася.

Ён ацярожна, як дзіця, узяў Валю на рукі і занёс на ложак. Яна не здымала рук з яго шыі, і ён задыхаўся ад хмельнага паху Валіных валасоў.

## III

Здараецца ж такое лета: дажджоў даўно не было, пагода ўсталявалася надоўга. З ранку да вечара сонца плавае ў чыстым блакіце, шчодра адорваючы зямлю ласкавымі промнямі. Людзі заняты, і ніхто не заўважае, што дзесьці на даляглядзе паказалася маленькая хмарка.

Неўпрыкмет сонца хаваецца за кучавыя воблакі, далёкая хмарка разрастаецца ў цёмна-шэрую хмару.

Яшчэ хвіліна — узнімаецца вецер, і густы косы дождж сыпле на зямлю. З дажджом падаюць рэдкія гарошыны граду. Ён гусцее, большае — і ўжо нічога не чуваць, апроч дробнага сухога стуку. Праз паўгадзіны зямля ўслана белым халодным покрывам. Пад ім загінулі нівы, прапала людская праца.

Як і для многіх, вайна для Валі была такім жа раптоўным і нечаканым з'явішчам.

Мабілізацыя... У панядзелак раніцай мужчыны ішлі ў ваенкамат. І кожнага хто-небудзь праводзіў— жонка, дзеці, бацькі.

Лявон Лукашык і Валя ішлі амаль што апошнія. Валя трымалася мужна, хоць ёй давалася гэта нялёгка. Яна не ўяўляла сабе, як пойдзе цяпер жыццё, што стане з гэтымі людзьмі, з ёю, з яе мужам.

Побач тарахцела на калдобінах фурманка, наладаваная мяшкамі і чамаданамі. Стары, з заплаканымі чырвонымі вачыма дзед трымаў у руках лейцы і раз-пораз тузаў імі, падганяючы каня, які нібы знарок не спяшыў, каб адцягнуць хвіліну расстання, каб даць людзям пабыць са сваімі роднымі і блізкімі.

Над усім гэтым абозам фурманак і разбітых купкамі людзей падымалася прыветлівае чэрвеньскае

сонца. На сваім доўгім вяку яно не раз са свае нябеснае высі бачыла такія абозы, не раз сушыла вочы заплаканым кабетам і дзецям, грэла сумных і нахмураных мужчын з клункамі за плячыма. І, відаць, гэтак жа, як і калісьці, людзі не заўважалі гэтага, яго промні былі халодныя для іх, як ззянне месяца ў зімовую ноч. Яго алімпійскі спакой не вязаўся сёння з гэтым тлумам і мітуснёй, са стукам калёс, гоманам і плачам людзей, якія нічога не хацелі бачыць, апрача свайго ўласнага гора, што так раптоўна навалілася на іх.

Валя не думала, што так моцна ўразіць яе вестка пра вайну, не спадзявалася, што так балюча адзавецца ў яе сэрцы расстанне з мужам. Яна толькі цяпер зразумела, што такое сапраўднае каханне, што азначае развлучыцца з любімым чалавекам або — яшчэ горш — страціць яго назаўсёды.

— Чаму ты маўчыш, Лявон? — спытала Валя.— Няўжо ў цябе няма чаго мне сказаць?

Лукашык узняў галаву, паглядзеў на чыстае неба.

— Што тут гаварыць? Таго ўсё роўна не выкажаш, што на сэрцы. Ды і думкі невясёлыя...

— Не маўчы... Што я буду рабіць адна? Што нас усіх чакае?

— Рабі тое, што ўсе людзі. А думаць загадзя, што з намі стане, не варта... Пажывём далей — пабачым... Вайна не павінна доўга працягнуцца.

— Чаму ты так думаеш?

— Мне так здаецца. Або-або... Хто каго адразу спіхне з месца, той і выйграе...

На ўсходзе пачаў нарастаць гул. Хутка ў небе паказаліся самалёты. Яны плылі павольна, цяжка, здавалася, аж дрыжала паветра ад рэву матораў. Усе моўчкі праводзілі іх вачыма.

Расстанне для Валі было цяжкае, нясцерпнае. Хмурны быў і Лукашык, і абое яны не знаходзілі патрэбных слоў. Лукашыку хацелася пажартаваць: «Ну, цяпер ты ўздыхнеш без мяне» ці «А я не вярнуся, бо ты мяне не будзеш чакаць»,— але ён разумеў, што гэта не да месца.

У дванаццаць гадзін дня высокі сівы ваенком хрыплым голасам абвясціў, каб усе, хто праводзіць сваіх, пакінулі двор ваенкамата. Зарыпела цяжкая жалезная брама, узняўся пранэзлівы плач жонак, матак

і дзяцей. Цалаваліся, змешваючы скупыя мужчынскія слёзы з горкімі ручаінамі жаночых і дзіцячых слёз, плакалі ўволю і адкрыта, галасілі, як па нябожчыку, з прыгаворамі і прыслоўямі.

Жанчына гадоў трыццаці, худая і па-сялянску адзетая, абхапіла свайго мужа і крычала:

— Не пушчу, не пушчу, не пушчу!

Мужчына, невысокі, загарэлы да чарнаты, у прамасленым камбінезоне, нібы сёння ад трактара, нешта сарамліва гаварыў ёй на вуха і гладзіў сваёю загрубелаю рукою жончыны растрапаныя валасы.

А яна білася ў сутаргах, крычала «Не пушчу!» і яшчэ мацней тулілася да мужа, хаваючы свой заплаканы твар у яго камбінезоне.

Калі ж урэшце яе адарвалі ад мужа і павялі да брамы, Лукашык заўважыў, што ў жанчыны ненатуральна высокі жывот. І яму стаў да болю зразумелы яе страх і яе роспач.

У ім прачнулася раптам нешта таксама мужчынскае, бацькоўскае, і ён крыкнуў наўздагон Валі:

— Чакай мяне, я вярнуся...

Валя азірнулася, і Лукашык прыкмеціў на яе твары нешта падобнае на ўсмешку,— можа, гэта знарок, каб не расплакацца? Яна памахала рукою, а ён стаяў і глядзеў праз шчыліну ў плоце, як яна нерашуча пайшла па вуліцы, прыпыняючыся і азіраючыся, нібы чакала, што брама яшчэ адчыніцца.

У Лукашыка зашчымела ў грудзях, слёзы затуманілі вочы. Калі ён працёр іх і зноў зірнуў на дарогу, Валі ўжо не было. Лукашык праглынуў горкі камяк, цяжка ўздыхнуў і пайшоў да сваіх.

...Людзей раздзялілі на ўзводы, роты, батальёны, абмундзіравалі, выдалі новыя вінтоўкі. Ноччу эшалон байцоў з поўнай выкладкай рушыў на захад.

Раніцай на невялічкай станцыі ўпершыню трапілі пад абстрэл. Два нямецкія штурмавікі, пралятаючы над самымі будынкамі, ударылі з буйнакаліберных кулямётаў.

Лежачы ў канаве ля насыпу чыгункі, Лукашык назіраў, як над ім са свістам і рэвам разварочваліся самалёты з вялізнымі крыжамі на крыллях, як ледзь

прыкметнае на сонцы вырывалася са ствалоў кулямётаў бледнае полымя. Ён забываў, што там, у самалёце, сядзіць жывы чалавек. Самалёт здаваўся яму драпежнай істотаю, якая пануе ў небе і бачыць усё, што трэба бачыць, бачыць і яго, распластанага на зямлі, перапалоханага, нікчэмнага, і цэліць толькі ў яго, толькі ў яго. Аглушаны рэвам матораў і траскатнёй кулямётаў, ён уціскаўся ў зямлю і кожную секунду чакаў смерці.

Урэшце Лукашык паспрабаваў паварушыцца, але рукі і ногі нібы адняліся. Ліпкія ад поту далоні сціскалі вінтоўку. Толькі цяпер ён успомніў аб ёй і падумаў, што можна страляць.

Ужо больш асмялелы, ён чакаў чарговага заходу, але гул матораў пачаў аддаляцца і хутка сціх. Лукашык узняў галаву, агледзеўся і паволі ўстаў. Ногі ў каленях дрыжалі.

Недалёка ад вакзала гарэў дом. Лукашык накіраваўся туды і ўбачыў там байцоў свайго ўзвода, якія тушылі пажар. З тэндара паравоза бралі ваду, два пажарныя рукавы білі струменямі бесперастанку. Людзі завіхаліся і з асцярогай пазіралі на неба. Хутка пажар патушылі.

З іх эшалона параніла некалькі чалавек. На чырвоных пульманаўскіх вагонах у многіх мясцінах былі прабоіны.

Абстрэл адбіўся на людзях па-рознаму. Адны былі вясёлыя і ўзбуджаныя: яны ж вытрымалі першае баявое хрышчэнне; другія, наадварот, спахмурнелі і сталі яшчэ больш маўклівыя: усё кепскае наперадзе, і рана яшчэ радавацца.

На змярканні рушылі зноў. Ноччу спыніліся пасярод дарогі: быў пашкоджаны мост цераз невялікую рэчку. Ад людзей яны даведаліся, што нядаўна тут быў нямецкі дэсант — тры браневікі і некалькі матацыклаў, якія падаліся недзе на паўночны захад.

Быў дадзены загад выгружацца. Байцы з нецярпеннем чакалі, што будзе далей. Не прайшло і гадзіны, як яны пачалі займаць абарону паабапал чыгункі і шашы — тут гэтыя дзве магістралі сыходзіліся амаль упрытык.

Лукашык трапіў у бакавы дазор, а хутчэй за ўсё ў разведку. Іх аддзяленне, узмоцненае ручным кулямё-

там, пад камандай сержанта Букатава адправілася проста на поўнач, у кірунку невялікай вёскі, што значылася на карце і была кіламетраў пяць ад шашы.

Пачынала днець. Ранішні холад прабіраў да касцей, хоць ветру не было. Нячутна ступалі салдацкія чаравікі па роснай траве. Хіліла на сон. Людзі ішлі і клявалі насамі. Уперадзе лёгка крочыў сержант Букатаў. Цяпер ён углядаўся ў дарогу. Ужо даўно ён заўважыў сляды гумовых колаў. Раса была і на траве, прымятай калёсамі. Значыць, тут праехалі не пазней дванаццаці гадзін, інакш расу абабілі б.

Сержант прыпыніў сваю групу, укленчыў, уважліва вывучаючы рубцы ад колаў.

— Здаецца, не нашы,— сказаў ён і ўстаў, абабіўшы сыры пясок з каленяў. Пасля агледзеў усё аддзяленне і нечакана спытаў:

— Хто з вас жанаты, падыміце рукі.

Узнялося шэсць рук.

— А ў каго ёсць дзеці?

Адзін Лукашык апусціў руку. З усёй группы ў пяцярых былі дзеці.

— Добра,— нібы падвёў вынік сержант.— Кныш і Валуеў! Слухайце...

Слухалі ўсё, але названыя Кныш і Валуеў, абодва яшчэ маладыя хлопцы, абодва высокія, толькі Кныш больш драбнейшы з твару і танчэйшы, выцягнуліся ў струнку. На іх тварах адбівалася прыхаваная трывога.

Выслухаўшы задачу, разведчыкі пайшлі дарогай. Сержант Букатаў правёў іх вачыма і доўга глядзеў, як, пагойдваючыся, яны раставалі ў ранішнім тумане.

— Перакур! — аб'явіў пасля сержант.

Прыселі і закурылі амаль усе, прагна зацягваючыся і спяшаючыся, нібы баяліся, што хто адбярэ. Закурыў і Лукашык, хоць ён раней рэдка браў у рот папяросу. Цяпер ён хацеў супакоіцца. У галаве пачало злёгку шумець, як ад добрай чаркі. Левая рука, на якую ён апіраўся, вось-вось гатова была сагнуцца — так хацелася спаць. «А што цяпер робіць Валя?» — падумалася яму.— Напэўна, спіць або думае, што я тут ваюю. А я сяджу і больш за ўсё хачу спаць...» Лукашык пацягнуўся і гучна пазяхнуў.

— Канчай курыць! — падаў голас сержант.

Лукашык раздушыў тоўсты недакурак аб падэшву мокрага чаравіка і падняўся на ногі.

І вось аддзяленне кранулася з месца. Глуха ступаюць чаравікі, часам бразне чаранок лапаткі, ударыўшыся аб вінтоўку. Усе маўчаць. Наперадзе, як і раней, ідзе сержант Букатаў, за ім ледзь паспявае прысадзісты Кідрыляеў з цяжкім ручным кулямётам на плячы. Следам, выцягнуўшыся ў лінію, крочаць, не разбіраючы дарогі, астатнія байцы.

Без ніякіх прыгод, не дачакаўшыся сігналу разведчыкаў, увайшлі яны ў вёску і спыніліся на двары крайняй хаты.

Дзверы ў сенях былі замкнёны. Пастукалі. Праз акно з хаты глянуў жаночы твар, пасля бразнула засаўка. Спалоханая бабка глядзела на салдат і маўчала, толькі варушыла вуснамі.

Сержант спытаў у яе, ці ёсць тут немцы. Яна адказала шапялявячы, што ўчора былі, а сёння — хто іх ведае, нешта не чуваць.

Сержант падзякаваў. Ён ведаў, што верыць звесткам ад старой кабеты — тое самае, што ісці па кладцы з завязанымі вачыма. Таму яны спыталі яшчэ ў адной хаце пра немцаў, ды ім адказалі тое самае: былі, але паехлі далей, на поўнач, у бок мястэчка.

У канцы вёскі да іх далучыліся Кныш і Валуеў. Яны былі рады, што ўсе ідзе добра і што немцаў блізка не чуваць. Але сержант загадаў ім застацца ў вёсцы і сачыць за дарогай у мястэчка.

Узышло сонца, пачало хутка сушыць расу і прыграваць у плечы. Байцы ішлі па вузкай дарозе сярод палетка, засеянага яравою пшаніцай. Яна яшчэ была зеленаватая, але вусаты, як у ячменя, колас пачынаў ужо цяжэць. Як скінуць вокам, цягнулася роўнае рыжавата-зялёнае поле.

Лукашык сарваў некалькі каласоў, расцёр у далонях, выдзьмухаў асцюкі і мякіну, укінуў у рот маленькія зярняты. Калісьці, яшчэ хлапчуком, ён любіў забрацца дзе-небудзь у палетак, легчы ў разоры і лушчыць каласы, як сланечнік. Альбо ён клаў каласы ў кішэню ці за пазуху і сачыў, як яны самі выбіваюцца наверх. Гэта яго заўсёды здзіўляла: чаму каласы ўмеюць поўзаць?

Нечакана пачуўся гул самалётаў. Сержант скамандаваў: «Воздух!» — і ўсе заляглі. Але гэта ляцелі нашы самалёты, ляцелі павольна, з натугай. Тры бамбавозы трымалі курс на паўднёвы захад. Байцы пазадзіралі галовы, праводзячы знаёмыя сілуэты цяжкіх машын. Раптоўна аднекуль зверху з-за воблака вынырнуў і пайшоў уніз белы маленькі самалёт. Ніхто не паспеў што-небудзь падумаць, як ён пачаў пікіраваць проста на звяно бамбавозаў, пускаючы чаргу з кулямёта. Ён праляцеў уніз і не паспеў выйсці з піке, як адна наша машына нібы дала нырца, а з правага матора паваліў густы чорны дым. Хутка трацячы вышыню і крэнячыся, самалёт набліжаўся да зямлі. Байцы чакалі, што вось-вось забялеюць купалы парашутаў, але іх не было. І не паспеў, здалося, самалёт дакрануцца да зямлі, як магутны выбух скалануў наваколле, ускінуўшы ўгару цэлае воблака дыму.

А варожы знішчальнік зноў набіраў вышыню. Са звонам і аглушальным рэвам ён свечкай пайшоў у неба, перавярнуўся на спіну і зноў рынуўся ўніз. Зноў адрывістая чарга з кулямёта, зноў веер дыму ля хваста нашай машыны...

Трэці бамбавоз, не мяняючы курсу, ляцеў далей. Ён не думаў разгружацца, нібы не бачыў, што робіцца навакол.

Варожы самалёт гэты раз атакаваў яго збоку, але, відаць, з баявой рубкі бамбавоза ўдарылі з кулямёта. Самалёт на момант адстаў і зноў пачаў набіраць вышыню. Усё паўтаралася. Піке... Свіст і рэў... Доўгая чарга...

Бамбавоз пачаў зніжацца, але дыму не было відаць. А немец кружыў над ім і ўсё асыпаў яго градам куль.

З акамянелымі тварамі пазіралі байцы на гэты няроўны паядынак. Балюча было глядзець, як машына, падаючы на крыллі і з цяжкасцю выраўноўваючыся, пларуе да зямлі.

Немец зрабіў яшчэ адзін разварот, даў чаргу, але кароценькую, у тры патроны. І больш стрэлаў не чуваць... А наш бамбавоз паволі выраўняўся і пачаў плаўна зніжацца. Вось ён зусім схаваўся за ляском. Міжвольна ўсе напружыліся, чакаючы выбуху, але ўсё

было ціха. Толькі над тым месцам, дзе прапаў наш самалёт, круціўся варожы знішчальнік, цікуючы за недабітай ахвярай.

## IV

Далей ішлі сумныя і насцярожаныя.

Раптоўна за іх плячыма прагучала некалькі стрэлаў. Усе сталі як укопаныя, не чакаючы каманды. Было ясна: Кныш і Валуеў у небяспецы.

Сержант загадаў раздзяліцца на тры групы і спяшыць на выручку таварышаў.

Па пшаніцы, прыгінаючыся, байцы разамкнуліся ўлева і ўправа ад дарогі, па якой толькі што ішлі.

Не прайшлі яны і дваццаці крокаў, як там, дзе нядаўна прагучалі першыя адзіночныя стрэлы, усчалася дружная страляніна. Да вінтовачных стрэлаў дамяшаліся аўтаматныя чэргі, пасля бухнула граната, за ёю — другая, засакатаў кулямёт.

Калі з-за горкі паказаліся стрэхі хат, сержант загадаў спыніцца і выслаў у вёску Лукашыка і Чыжова.

Спачатку яны ішлі прыгнуўшыся, пасля папаўзлі. Паўзці цяжка, нязручна: перашкаджае доўгая вінтоўка са штыхом, сумка з гранатамі. Пот засцілае вочы, спаўзае пілотка, і Лукашык увесь час ссоўвае яе на патыліцу; баляць калені і локці — поле ўсё ўсыпана каменнямі.

Глуха шастае пшаніца. Здаецца Лукашыку, што ён паўзе ўжо цэлую вечнасць — так здоўжылася яму. Побач чуваць, як цяжка дыхае таварыш — той не адстае, нібы хтосьці падганяе яго. Лукашык пілоткай выцірае пот, які градам коціцца ў яго па твары. У пшаніцы душна, як у мяшку.

Хаваючыся ў збожжы, па агародах і за будынкамі, Лукашык з Чыжовым прабраліся ў вёску да невялікай школы. І тут яны замерлі на месцы. На двары стаялі два пярэстыя браневікі і некалькі матацыклаў з каляскамі. Ля студні мыліся немцы, развесіўшы сваю вопратку і зброю. Дзверы ў школе былі адчынены, і адтуль выходзілі немцы. Вось адзін, укормлены, прысадзісты, без мундзіра, у шырокіх штанах-трубах са шлейкамі, выскачыў на ганак з вядром у руцэ і пусціўся да калодзежа. Са смехам і жартамі яму напоў-

нілі вядро, апырскалі з бочкі, і ён зноў пашыбаваў у школу, азіраючыся і скалячы зубы.

Лукашык з Чыжовым пераглянуліся...

Каля ганка стаіць вартавы. З-пад глыбокай кантовай каскі тырчыць толькі нос. Суконны шэра-зялёны мундзір з вялізнымі кішэнямі перахвачаны шырокаю скураною папругаю з клямарам. На папрузе навешаны патранташы, скураны чахол для лапаткі, шырокі нажавы штых, спрытны маленькі пісталецік, біклага, абшытая сукном, цераз плячо — бляшаная банка з процівагазам. Моцныя юхтовыя боты з шырокімі халявамі...

Лукашык міжволі азірае сябе, пасля Чыжова. Як «бедна» яны выглядаюць у сваім баваўняным адзенні, з брызентавымі папружкамі, з абмоткамі, з адным скураным патранташам!..

І звычайная чалавечая злосць закіпела ў Лукашыку ад гэтага параўнання. «Нябось, павоюеш з такімі. Адразу ўдаць падрыхтоўка... А мы ўсё крычалі аб міры, будавалі фабрыкі, выпускалі трактары, а не танкі».

Чыжоў паклаў жылістую руку на прыцэльную планку яго вінтоўкі і шапнуў:

— Давай назад.

...Байцы моўчкі слухалі, як Лукашык і Чыжоў, перабіваючы адзін аднаго, расказвалі пра немцаў, і цікаўнасць, страх і рашучасць, як святло і цень, мяняліся на іх тварах.

— У іх усяго два браневікі і пяць матацыклаў...— спакойна гаварыў Чыжоў.— Калі ўлічыць, што нас восем чалавек і ў кожнага па дзве гранаты, то дастаткова...

Лукашык нервова махнуў рукою і перабіў таварыша:

— На браневіках малакаліберныя гарматы, напэўна, хуткастрэльныя, а на матацыклах з каляскамі — з каляскамі! — падкрэсліў ён і ўкалоў вачыма Чыжова,— па кулямёту.

— Па ручному кулямёту! — у тон яму ўставіў Чыжоў.— Па ручному! І аўтаматы не ва ўсіх. У палавіны — карабіны. Гэта трэба ўлічыць...

— Улічы! Іх чалавек шаснаццаць, двух на нас аднаго. А што ў нас? Гэтая вінтоўка абразца 1891 года!

— Дроб трыццатага,— удакладніў Чыжоў.— А цяпер сорак першы. Не так і многа.— Ён паспрабаваў усміхнуцца, але ўсмешка выйшла даволі горкая.

Лукашык з пагардай глянуў на яго і, не звяртаючы ўвагі, працягваў расказваць, як адзеты немцы, чым узброены.

— Нам трэба ўцякаць адгэтуль, пакуль не позна,— нібы падводзячы вынікі, сказаў Лукашык і пілоткаю выцер пот з твару,— а то яны перастраляюць нас, як Кныша і Валуева.

Сержант Букатаў, які дагэтуль моўчкі слухаў, раптам стаў барвовы.

— Хопіць, Лукашык! Што ты панікуеш, як баба? Не твая справа! Я тут камандзір. Як скажу, так і будзе. Немцаў спалохаўся! У штаны напусціў! Настаўнік мне знайшоўся!

— Прашу не абражаць! — ускіпеў Лукашык.— Ты вельмі смелы... Пакуль ты перазарадзіш вінтоўку, ён усадзіць у цябе дваццаць куль.

— Ах, вось што? Ты баязлівец, Лукашык,— закрычаў сержант і ўскінуў вінтоўку.— Ты панікёр! Я пагавару з табою іначай. Я...

Лукашыка нібы хто штурхануў. Ён таксама падхапіўся з зямлі, ляпнуў замком.

Але байцы кінуліся да сержанта і Лукашыка, загарадзілі дарогу. Раптам з боку вёскі кулямёт паслаў доўгую чаргу. Кулі праляцелі зусім блізка, і ўсе адразу прыселі і сцішыліся. Немец даў яшчэ дзве кароткія чаргі і замоўк. Усё адразу забылі аб сутычцы.

Тады сержант Букатаў сказаў, ні да каго асабіста не звяртаючыся і пазіраючы ў зямлю:

— Адстаўце спрэчкі! — І, падняўшы галаву, абвёў усіх суровым позіркам.— Слухаць загад. Мы сваю задачу выканалі і... вяртаемся. Ісці на такой адлегласці ад дарогі, каб можна было бачыць з'яўленне праціўніка. У перастрэлкі не ўступаць. Ясна? Чыжоў і Лукашык — пойдзеце першыя. Па адным, дыстанцыя дзесяць метраў, шагам марш!

Прыгнуўшыся, асцярожна ішлі байцы, паглядаючы часам у той бок, дзе іншы раз шарэла палоса дарогі.

Цяжкія каласы білі ў грудзі, чапляліся за пасак вінтоўкі, доўгія сцябліны клаліся на дол, белая салома пад нагамі змешвалася з пяском, чарнела.

Лукашык ішоў і ўсё думаў аб тым, як вайна калечыць усё жывое на зямлі — ад расліны да чалавека. Яна развязвае інстынкты, і перад імі розум чалавека пачынае траціць сваю сілу.

Лукашык ужо сам, без жалю, пачынаў таптаць жыта, зялёную, сакаўную бульбу; пасля мясіў сухі, парослы свірэпай, папар, і ногі, здаецца, самі ступалі, а вочы не бачылі, куды ён ідзе і навошта ідзе... Сілы слабеюць, хочацца піць, даўно пара есці, а яны ўсё ідуць і ідуць, і не відно канца гэтай цяжкай дарозе.

— Стой! — як з-пад зямлі, пачуўся ззаду хрыплы голас сержанта.— Падцягнуцца...

Стомленыя дарогай, байцы памалу збіраліся ў групу. Лукашыку адразу кінулася ў вочы, што ў многіх не хапае лапатак, процівагазаў, штыхоў.

Сержант таксама бачыў гэта, але маўчаў. Толькі скіўіцы яго варушыліся, нібы ён нешта жаваў.

— Вінтоўкі ніхто не згубіў? — з'едліва спытаў ён нарэшце, калі падышлі апошнія байцы.— Папярэджваю: калі вернемся ў часць, ніякіх размоў аб тым, што было і што бачылі. Буду гаварыць я. Ясна! Пайшлі!

Праз колькі часу яны былі на месцы. Батальён займаў абарону паабапал шашы і чыгункі, выставіўшы ўправа і ўлева крыллі-заслоны. Жаўцела свежараскапаная зямля, замаскіраваная палыном, мятліцаю і галінкамі таполяў. У ячэйках поўнага профілю сям-там варушыліся байцы. Тут жа сушыліся анучы, бразгалі кацялкі. Непадалёку дыміла кухня. Уся група накіравалася проста да яе.

...Шарэла. Укрыўшыся шынялямі, проста на зямлі спалі байцы аддзялення сержанта Букатава. Раптам праз сон да Лукашыка даляцелі словы:

— Камбат выклікае байца Лукашонка.

Нехта блізка мармытаў пад нос:

— У нас такога няма,— і з крэктам павярнуўся на другі бок.

— А мне сказана, што ёсць! — ужо на высокай ноце прагучаў малады голас.— Лукашонак ці Лукашык — чорт вас ведае! Жыва да камбата!

Лукашык са словамі «не дадуць паспаць» устаў і пацягнуўся. Пасля працёр вочы, якія рэзалі, нібы ў іх трапіў пясок.

— Пайшлі... Куды ісці? — спытаў ён у маладога байца ў хромавых ботах, старанна падцягнутага.

— Ідзі за мной, хутчэй...

Прайшлі метраў дзвесце і апынуліся перад уваходам у свежазроблены бліндаж у чатыры накаты, старанна абкладзены дзёрнам і замаскіраваны. Уваход быў завешаны новаю плашч-палаткай. Веставы ўвайшоў першы, за ім, прыгінаючы галаву, усунуўся Лукашык, незнарок стукнуўшы прыкладам веставому пад цяглю.

Той азірнуўся і злосна сыкнуў. Лукашык хацеў спачатку далажыць камбату па ўсіх правілах, але веставы сваім сыкам збіў яго з тропу. Лукашык стаў навыцяжку і маўчаў.

Капітан Фірсаў, чарнявы, сярэдніх год мужчына, сядзеў, ссутуліўшыся, за сталом са свежых негабляваных дошак і вывучаў карту. У зямлянцы было цесна: стаялі розныя скрынкі ахоўнага колеру, чамаданы. На адным з іх размясціўся палявы тэлефон.

Калі веставы далажыў, што прывёў Лукашыка, капітан устаў, і яго галава з пілоткай на чорных кучаравых валасах дастала да самых круглякоў наката. Ён прыжмурыў вочы і нейкі момант глядзеў перад сабою, нібы нікога не заўважаючы.

— Як прозвішча? — глуха спытаў ён пасля і паказаў пальцам у бок Лукашыка.

Лукашык здзівіўся, што капітан пытае яшчэ раз: веставы толькі што назваў яго.

— Прозвішча Лукашык, таварыш капітан! — выгукнуў ён адным духам.

— Не крычы, не глухі,— асадзіў яго капітан. І ўжо рэзка, сам пераходзячы на крык, сказаў: — Ты што, Лукашык, паніку сееш сярод байцоў? Ты не ведаеш хіба, што паніка — гэта здрада? Іменна ў такі час — гэта здрада! А за здраду — расстрэл! І яшчэ...— Тут капітан пацёр сабе лоб, нібы тужачыся ўспомніць нешта, ссунуў на патыліцу пілотку.— Не разводзь агітацыі! Браневічкі, матацыклы, кулямёцікі... Усё гэта і ў нас ёсць. Усё ёсць! Усё будзе! Табе падабаецца нямецкая форма? — капітан ступіў два крокі з-за стала

і наблізіўся да Лукашыка, які, збялеўшы, стаяў навыцяжку.— А свая не падабаецца? Ды ты ведаеш, што ты гаворыш? За такія словы...— Капітан, відаць, не захацеў паўтараць і зайшоў з другога боку.— Калі трэба будзе, вас усіх у шоўк адзенем. Зразумеў? Толькі калі трэба будзе. І ў цябе пытаць не будзем. Менш разважаць! Слухаць загады! Тут армія, а не калгасны сход. Слова камандзіра для цябе — закон! Сёння ты паслаў да д'ябла сержанта, заўтра мяне, паслязаўтра...— тут капітан зрабіў паўзу і, не рашыўшыся сказаць, каго паслязаўтра, махнуў рукою.— Усіх, хто не будзе выконваць загадаў, будзем разглядаць як здраднікаў.

У Лукашыка ўсярэдзіне ўсё калацілася.

— Таварыш капітан! Дазвольце сказаць...

— Што? — капітан нібы забыў, з кім і пра што ён гаворыць.— Не дазволю! Слухаць загады — і выконваць!

Лукашык, як апараны, выскачыў з зямлянкі. У праходзе ён чуць не сутыкнуўся з нізкарослым вайскоўцам і, прыціснуўшыся да цёплых бярвенняў, даў яму прайсці. Крочачы праз апошнія прыступкі, пачуў нізкі прыглушаны голас:

— За што ты...

Далей Лукашык не разабраў. Яго душыла горкая крыўда на капітана Фірсава. Як лёгка можна зрабіць з чалавека чорт ведае што! Камандзір батальёна! І выслухаць не захацеў...

З такімі невясёлымі думкамі Лукашык вярнуўся назад. Усе яшчэ спалі. Лукашык таксама прылёг, але з галавы ніяк не выходзіў крыклівы капітан. Двоіўся — здаваўся то добры, то несумленны — сержант Букатаў.

— Эй, Лявон, ты спіш? — пачуўся знаёмы голас-шэпт з-пад шыняля: здаецца, Саланевіч.

— Не, не сплю... Думаю...

— А што тут думаць? — Саланевіч падсунуўся бліжэй да Лукашыка. Яны былі з аднаго ваенкамата, і цяпер іх цягнула адзін да другога, як цягне земляко́ў.— Ты чуў, немцы пад Мінскам многа нашых абкружылі і ўзялі ў палон... Кажуць, што недалёка ад нас. На прамую — сорак-пяцьдзесят вёрст...

Саланевіч цяжка ўздыхнуў, заварушыўся пад шынялём, накрываючы то ногі, то галаву, пасля стаў поркацца ў кішэні, відаць, шукаў тытунь.

Саланевіч, закурыўшы, зноў загаварыў, але яшчэ цішэй, і голас яго ледзь даходзіў да Лукашыкавых вушэй.

— Ты чуй, браце, наш камбат пакляўся, кажуць, не сысці з месца, пакуль застанецца хоць адзін жывы чалавек з батальёна. Загад! Выконвай — і баста. Вось як... А гэты палітрук Кандручэнка спрачаўся з ім, кажуць. І што, калі загад? Дзе тыя, што загадвалі? Самі драла, а нас, батальён, паставілі супроць усяго фронту? Што мы — жалезныя? Акрамя вінтоўкі і гранаты, у нас нічога няма. Чуй, гэта ўсё ён кажа капітану. А той аж чарнее ад злосці, за кабур хапаецца. Анархія, крычыць. Я камандзір, я адказваю за ўчастак! А палітрук яму: трэба за людзей адказваць, а не за ўчастак. Здорава, кажуць, пасварыліся... Вось якія паперы. А мы спім, чакаем, пакуль скажуць налева ці направа... А чаго ж гэта цябе выклікалі, калі не сакрэт?

— Глупства, сержант наплёў камбату, што я паніку падымаў і агітацыю разводзіў. Нешта нейкае не сказаў яшчэ, што забіць яго хацеў.

— Чуй ты, такі паскардзіўся? — здзівіўся Саланевіч і аж прысвіснуў.— Дзіця яшчэ, розуму мала. Сэрца ў яго добрае, але на службе прывык пакрыкваць. Не любіць, каб пярэчылі... Ну, а што забіць, дык ён першы за вінтоўку хапіўся, таму і не сказаў. Мы ж усе бачылі і былі б за сведкаў, калі што якое...

— Э-э-э, сведкі... Такі час! Давай лепш заснём...

І Лукашык перавярнуўся на спіну, стаў пазіраць у цёмнае зорнае неба.

Лукашык пачынаў драмаць, калі іх паднялі. Камандзір узвода загадаў аддзяленню Букатава капаць ячэйкі на стыку першай і другой роты ля самага палатна чыгункі. Ён сам паказаў кожнаму, дзе капаць, і пайшоў. Не было і сержанта Букатава. Байцы не спяшаліся. Пазвоньваючы кароткімі лапаткамі, яны перакідваліся словамі, гаварылі аб рэчах, далёкіх ад франтавога жыцця.

Іх перапынялі толькі цягнікі без агнёў, якія час ад часу з'яўляліся на палатне чыгункі. Яны ішлі на ўс-

ход, аблепленыя людзьмі з клункамі; ехалі параненыя. Ішлі эшалоны з розным абсталаваннем, машынамі. І ўсюды людзі, людзі, людзі.

Байцы праводзілі іх вачыма і зноў браліся за сваё. Успаміналі пра сем'і. Вораг яшчэ далёка ад іх, а чужое гора — не сваё. Гэтыя байцы былі яшчэ мірныя людзі. Іх яшчэ не апякла гарачая куля. Усё было наперадзе.

У чатыры гадзіны раніцы батальён паднялі па трывозе і загадалі збірацца.

За паўгадзіны былі ў зборы. Байцы, пацепваючыся ад начнога холаду, спяшылі. Мерна шоргалі падэшвы па сырым асфальце шашы. Побач з Лукашыкам крочыў Саланевіч. За тры крокі спераду відаць была пілотка сержанта Букатава.

Калі прайшлі вярсты дзве, Саланевіч, нібы між іншым, са сваім нязменным «чуй ты», шапнуў Лукашыку, што Фірсаў не стрымаў свайго слова: аддаў каманду здымацца. «Кажа, людзі даражэй за зямлю. Вось як...» — закончыў Саланевіч і невядома чаго ўздыхнуў.

І Лукашык падумаў, што пасля той размовы ў зямлянцы ён убачыў Фірсава з новага боку. «На яго месцы другі зрабіў бы [redacted] мяне горкае яблыка».

## V

Сонца стаяла амаль што ў зеніце і пякло нясцерпна. У такую пару толькі ляжаць дзе-небудзь у цяньку або на беразе рэчкі і загараць. А ім трэба было з поўнай выкладкай крочыць і крочыць на ўсход... Іх то даганяў, то ненадоўга адрываўся гул страляніны — недзе білі гарматы, а можа, кідалі бомбы самалёты — разабраць было цяжка.

Лукашык асабліва баяўся самалётаў. У яго памяці яшчэ былі свежыя тыя хвіліны, калі ён ляжаў у канаве пры насыпе, а над ім кружыў нямецкі штурмавік і асыпаў станцыю агнём са сваіх кулямётаў. Кожны раз гул матора выклікаў у яго падсвядомае жаданне збочыць з дарогі і кінуцца ў якое-небудзь жыта ці схавацца ў куст. Ён заўважыў, як трывожна і нервова азіраліся яго таварышы, калі ў небе паказваўся чый-небудзь самалёт — свой ці варожы.

На жаль, сваіх рабілася ўсё менш і менш,— неба, як і зямля, пераходзіла ў рукі заваёўнікаў.

Шаша кіпела, варушылася, гула. Яна была, як рака ў паводку. Варта было ўступіць у яе рэчышча, як хвалі падхоплівалі цябе, кружылі, штурхалі, імчалі далей, і ўжо нельга было ўстаяць, павярнуць назад ці збочыць. І самалёт у такі момант мог бы нарабіць вялікай бяды,— думаў Лукашык. Вакол, абапал дарогі— поле і поле,— то з ільном, то з канюшынай, то з жытам. Шаша відна, як згібы на далоні, і ўсё на ёй відаць — ад чалавека да гружанай ваенным скарбам машыны.

Чамусьці Лукашыку хацелася нейкага канца. У яго душы расла незадаволенасць ад усяго, што рабілася навокал. Ён страшэнна стаміўся, ногі ледзь пераступалі — механічна, абыякава, балелі плечы ад рэчавага мяшка, вінтоўкі, паясніца ныла ад патранташа і гранат. Ногі былі потныя, аж слізгаліся ў чаравіках— колькі дзён не разуваючыся, і ўвесь час на нагах. Хацелася піць. Так хацелася, што хоць лажыся і памірай. Уся сіла сплывала з потам, які заліваў вочы, цурком бег між лапатак па спіне, мачыў гімнасцёрку — хоць выкручвай яе.

— Каб хоць вечар скарэй,— шаптаў збоку Саланевіч.— Не магу, зусім аслаб.

А ў адказ толькі мерны шоргат дзесяткаў падэшваў, толькі цяжкае сапенне, толькі бразгат зброі, толькі рэзкая, сварлівая каманда «Не адставаць! Падцягнуцца! Хутчэй!». Потныя, счарнелыя твары, вочы з ліхаманкавым бляскам, сухія перасмяглыя вусны...

Лукашыку здавалася, што гэтае бегства не мае ніякага сэнсу, што яно толькі адцягвае час, што не сёння-заўтра немцы спасцігнуць іх і сатруць у парашок гусеніцамі сваіх танкаў і бронетранспарцёраў. Больш правільным было б не перці па магістралі, а звярнуць убок, і калі ісці, то далей ад гэтага тлуму, які так прыцягвае варожыя самалёты.

— Дарогу, дарогу! — пачуліся ззаду крыкі.

Лукашык міжвольна азірнуўся і звярнуў улева. Іх наганяла машына-паўтаратонка, яшчэ новая, зялёненькая, кузаў закрыты брызентам. Матор чмыхаў на малых абаротах, буфер паволі, як снегачыст, рассоўваў жывую масу байцоў, а за ёю яны зноў змыкаліся. У ка-

біне сядзелі двое: адзін грузны, з голенай галавою, другі, за рулём, малады, у міліцэйскай шапцы і, як здалося Лукашыку, з заплаканымі вачыма.

Раптам нейкі баец з абвязанай бінтам галавою ўчапіўся за борт, скочыў у кузаў. Праз хвіліну на машыне апынулася з дзесятак параненых байцоў. Нібы ад лішняга цяжару, яна стала. Правыя дзверцы адчыніліся, паказалася бліскучая голеная галава. Чалавек у міліцэйскай сіняй гімнасцёрцы, відаць, з чужога пляча, бо аж трашчала на яго магутных грудзях, стаў на крыло машыны і, перакасіўшы мясісты насаты твар, крыкнуў, звяртаючыся да байцоў:

— Хто вам дазволіў?! Зараз жа ачысціць машыну! Чуеце?

У адказ пачуўся дружны рогат, пасыпаліся жарты і лаянка. Вакол машыны стоўпіліся байцы. Усім цікава было бачыць, чым скончыцца спрэчка.

Як заўсёды, у такой масе знойдуцца аматары вострых сітуацый. Рослы баец у зухавата ссунутай на правае вока пілотцы, трымаючы перад сабою вінтоўку, наблізіўся да чалавека ў сіняй гімнасцёрцы і злёгку штурхнуў яго ў паясніцу. Той павярнуўся і адразу палез правай рукою ў кішэню штаноў. Гэты рух яго быў, відаць, падсвядомы, але баец зразумеў яго і ў тую ж секунду прыставіў вінтоўку да грудзей чалавека ў сінім.

— Не цапай, не ўспееш! — з пагрозай прашыпеў ён. — Дай сюды, што ў цябе там. Хутка!

Чалавек нехаця выняў маленькі чорны наган.

— Вы не маеце права! — усё яшчэ не здаваўся ён.

— А ты маеш? Дакументы! Чыя машына? — Баец у пілотцы набакір схапіў наган, сунуў сабе ў кішэню.

— Што гэта такое? Дзе ваш камандзір? Я вам пакажу! Я буду скардзіцца! — ужо плаксівым голасам закрычаў чалавек у сінім.

— Не страш! Што ў машыне? — не адступаў баец.

— Казённая маёмасць! Вы не маеце права!

— Маем, калі на тое пайшло. Праверце! — і баец махнуў рукою тым, што сядзелі ў кузаве.

У адзін момант брызент садралі. Крык — цяжка перадаць, што ў ім было больш — радасці ці злосці, — вылецеў з дзесятка грудзей.

— А-а-ах! Сволач!!!

На дарогу паляцелі клункі — коўдры, пярыны, дываны.

— Браточкі! — закрычаў адзін баец з кузава.— Трафеі! Сподачкі, талерачкі. Лавіце!

Ён з трэскам расчыніў вялізны рыжы чамадан і адну за адной падкідаў угору маленькія талерачкі, распісаныя золатам. Яны пляскаліся аб асфальт з ледзь чутным у шуме галасоў звонам, рассыпаючыся на дробныя шчуматкі.

Чалавек з голенай галавою нечакана скрывіў свой мясісты твар і заплакаў.

Па калоне пракаціўся смех. Мо даўно байцы не смяяліся так шчыра і так дружна, як цяпер, пазіраючы на слёзы гэтага грузнага здаравілы, які плача па нейкіх там няшчасных сподачках.

Устрывожаная затрымкай, да машыны прабіралася група камандзіраў. Наперадзе быў каржакаваты капітан з наганам у руцэ, за ім праціскалася некалькі лейтэнантаў. Байцы нехаця давалі ім дарогу, азіраліся і міжволі адступаліся ад машыны.

За гэтыя кароткія хвіліны рух на шашы спыніўся, утварыўся вялізны затор. І невядома чым бы гэта ўсё скончылася, каб у небе не пачуўся трывожны рэў самалётаў.

Яны ляцелі з поўдня, было іх нямнога, але па тым, як кружылі яны, не прытрымліваючыся строю, было відаць, што яны нечага шукаюць на зямлі. Першы круг над шашою яны зрабілі без адзінага стрэлу, толькі злавесна чарнелі крыжы на іх крыллях. Утварыўшы замкнутае кола, як карусель, рынуліся яны з другога заходу на шашу, заходзячы з тылу.

Пранізлівы рэў матораў перарваўся круглым і гучным выбухам бомбы. За першай пасыпаўся цэлы дождж. Гул і выбухі, гул і выбухі... Байцы кінуліся ў поле, дарога праз момант апусцела,— засталася толькі маленькая зялёная машына ды некалькі распластаных цел. Целы ляжалі нерухома, а машына раптам ажыла, ірванула з месца і неяк няўпэўнена, зігзагамі пакацілася па шашы.

Лукашык поўз па канюшыне, стараючыся як мага далей уцячы ад шашы, і, калі яму здалося, што шаша далёка, лёг на зямлю. Гулка стукала сэрца. Пахла потам і кветкамі канюшыны. Вялікі рыжы чмель спакойна

пералятаў з галоўкі на галоўку, збіраў мёд, і яго бзыканне танула ў гуле матораў і выбухах бомбаў.

Лукашык перавярнуўся на спіну, убачыў над галавой, як экран, кавалак чыстага неба, расквечаны па баках ненатуральна вялікімі галоўкамі канюшыны, убачыў, як перакрэслівае гэты экран незнаёмы, чужы самалёт, як ён дае нырца і ў яго з-пад хваста сыплюцца ўніз бліскучыя шарыкі. Лукашык міжвольна зажмурыўся, пачуў прарэзлівы свіст, пасля зусім недалёка прагучалі тры выбухі.

Ён адчуў, як пад ім тройчы тузанулася зямля, у вушы ўдарыла тугая гарачая хваля. На твар нешта пасыпалася. Ён машынальна наставіў далоні, правёў па шчоках, ачышчаючы пясок, і расплюшчыў вочы. Проста на яго нешта падала — нейкі камяк, падобны на птушку, толькі бясформенны, падрапаны, ненатуральна пакурчаны. Ён круціўся ў паветры, ляцеў не па прамой, а неяк улукаткі, як падае ліст з дрэва пры ціхай пагодзе.

Шлоп!

Лукашык ажно ўздрыгнуў. Проста яму на жывот упаў кавалак скручанай палаткі. З нейкім міфічным страхам Лукашык асцярожна ўзяў скрутак і адразу зразумеў, што гэта: гэты быў вузёл ад рэчавага мяшка, сцягнуты лямкаю. Як нажом, яго зрэзала асколкамі. Дробныя, як зярняты, яны сядзелі ў вузле, і пахла ад яго паленым трацілам, гарачым жалезам і яшчэ нечым: ці не кроўю, ці не свежым трупам, ці не смерцю?

Зноў і зноў яго абсыпала пяском, камякамі зямлі, пасечнай канюшынай, то бліжэй, то далей з віскам ірваліся бомбы і асколкі, як вецер, згіналі кволыя сцяблы канюшыны, са страшным посвістам пралятаі за пядзю над галавой, а Лукашык ляжаў і, уціснуўшыся у зямлю, чакаў... Жыццё і смерць у роўнай меры цяпер былі гаспадарамі яго лёсу, жыццё і смерць вялі торг над ім за яго галаву. Жыццё брала цішынёю, шолахам ветру, пахам кветак, смерць крычала аглушальным рэвам матораў, скрыгітала асколкамі, засыпала зямлёю. Голас жыцця патанаў, нішчыўся, прападаў у хаосе гэтых бязладных нялюдскіх гукаў, і ўсё-такі ён жыў і быў магутны, быў нават мацнейшы за гэтую какафонію пахавальных мелодый, і ўрэшце — перамог!

Раптоўна хлынула цішыня...

Лукашык баіцца верыць сваім вушам, ён не хоча зварухнуцца, каб не спалохаць яе, ляжыць і ўслухоўваецца, убірае яе ўсімі клеткамі свайго цела, п'е як цудадзейны напітак і не можа здаволіцца. Толькі тады па-сапраўднаму ацэніш жыццё, калі яго ў цябе хочуць адняць...

«Ляжаць ці чакаць каманды?» — думае Лукашык.

І ляжыць, чакае, перапоўнены шчасцем ад усведамлення таго, што ён жыў, што ён цэлы, што смерць абмінула яго, абышла яго бокам.

Але вось слабы стогн даляцеў да яго і развеяў усю радасць кароткага зацішша.

Стагнаў нехта блізка, бо чуваць быў нават хрып і бульканне ў горле.

Лукашык падняў галаву, азірнуўся навокал. Сям-там з канюшыны відаць былі таксама галовы. Сям-там віднеліся жоўтыя лапіны — сляды разрываў. Лукашык стаў на калені, а пасля, абапёршыся на вінтоўку, узняўся зусім. І ў той жа момант яму зноў захацелася сесці — так задрыжалі ў яго ногі і раптоўная слабасць ахапіла ўсё цела. Ён закрыў твар далонню, нібы хаваючы зрок ад яркага святла, але тое, што ён убачыў, стаяла перад вачыма.

Ён страпянуў галавою, жадаючы развеяць страшны малюнак, але дарэмна: ён засеў у свядомасці, як стрэмка. Амаль на самым краі неглыбокай варонкі ніцма ляжаў баец. Увесь яго правы бок, ад ног да галавы, быў нібы разрэзаны вялізнаю пілкай. І побач ляжаў, таксама распораны, са зрэзаным вузлом, рэчавы мяшок байца, адкінуты выбухам крыху далей ад варонкі.

Лукашык пастаяў хвіліну, а пасля, валочачы ногі па густой канюшыне, пайшоў да дарогі, так і не адымаючы далоні ад твару. Стогну ён болей не чуў, чуў толькі шоргат чаравікаў і чамусьці далёкія галасы каманды, хоць ён ведаў, што людзі нядаўна былі тут, зусім блізка.

## VI

Цяпер яны ўжо не баяліся самалётаў — над іх галовамі дрэвы раскінулі свае густыя шаты. Байцы ішлі памалу, адпачываючы душою пасля таго налёту, які парадкам выкасіў іх рады. Байцы ішлі панурыя, маў-

чалі. Яны ўчарнелі за гэтыя дні, абраслі барадамі, абмундзіраванне стала бруднае, параненыя свяцілі набрынялымі кроўю бінтамі. Стома і зацятасць відаць былі ў вачах гэтых байцоў, якія толькі і ведалі, што адступаць, якія яшчэ ні разу не адчулі акрыляючай сілы перамогі.

Лукашык, раздзімаючы ноздры, удыхаў на ўсе грудзі настоенае на лясных травах вільготнае паветра, ішоў, высока задраўшы галаву, любуючыся разлапістымі кронамі дрэў, часам зрываў ліст з бярозы, браў яго ў рот, жаваў горкі хвосцік. Гэта трохі супакойвала, адганяла змрочныя думкі.

Думкі сапраўды былі невясёлыя. У яго галаве ўвесь час круцілася пытанне: дакуль яны будуць адступаць? Дзе тая, узброеная па апошняму слову тэхнікі армія, якою мы так ганарыліся нядаўна? Лукашыку часам пачынала здавацца, што яе і не было зусім, бо каб была, то не давялося б ім вось ужо каторы дзень без адпачынку брысці на ўсход, кідаючы на волю лёсу ўсё тое, што не можа ўцячы, чаго нельга забраць або знішчыць. Немцаў цяпер цяжка спыніць, бо ніякія водныя рубяжы, ніякія прыродныя перашкоды, за якія можна ўчапіцца, не памогуць змучаным адступленнем байцам стрымаць такую лавіну. Тут патрэбна добра падрыхтаваная, глыбокая абарона, праз якую б не мог прабіцца [illegible] першага ўдару гэты сталёвы варожы клін...

На змярканні на дзіва малы батальён выбраўся з лесу. На ўскрайку зрабілі прывал, кожны ўзводны падлічыў сваіх байцоў, строга загадаў нікуды не адыходзіць.

Аддзяленне сяржанта Букатава сабралася групкаю. Хто сядзеў на разасланай плашч-палатцы, хто проста лёг на траву, хто перакручваў мокрыя і пратухлыя ад няспыннай хады анучкі.

Лукашык, прыпёршыся плячыма да шурпатага камля бярозкі, сядзеў задумаўшыся. Вінтоўку ён павесіў на тонкі бярозавы сук. Яна абрыдла яму страшэнна і здавалася зусім непатрэбнай, бо ні разу не прыдалася яму для абароны, не выручала з бяды, а толькі абцяжарвала плечы, перашкаджала паўзці, адбірала руку ў час бегу. З патронамі прасцей. Лукашык высыпаў іх з рэчавага мяшка, засталіся толькі ў патранташы, ды і тыя непатрэбны. Але цяпер Лукашык думаў не аб гэ-

тым. Яму пачынала не даваць спакою думка, што супраціўленне бескарысна, што дарэмна яны адступаюць, што пара кіраваць дадому. Гэта была страшная думка, Лукашык баяўся выказваць яе ўголас, і нават азіраўся — ці часам хто не заўважае па яго твары, што ў яго наўме такая крамола?

Але не — Саланевіч жаваў сухар, Чыжоў зашываў дзірку на калене, сержант Букатаў пароўся нешта ў вінтоўцы, рэгуляваў збітую мушку.

Дзіўныя цяпер адносіны ў Лукашыка з сержантам. Яны неяк стараюцца не заўважаць адзін аднаго, не сустракацца позіркам, толькі калі адзін адвернецца, то другі праніжа вачыма, адвернецца і маўчыць. І ўсё ад таго памятнага вечара, калі Лукашыка выклікалі да камбата. І больш яны пра тое не гаварылі, абыходзілі, як скулу, хоць у кожнага нешта круцілася на языку.

— Пад'ё-о-о-м! — пачулася працяглая каманда.

Лукашык з крэктам устаў, сагнуў-разагнуў рукі, ускінуў на плечы свой лёгкі забруджаны рэчавы мяшок.

Шорхаючы лісцем, байцы выходзілі на край лесу, строіліся. Чуліся галасы каманды, выкрыкі аддзялённых, што падымалі сваіх людзей, якія нават паспелі заснуць.

Абрысы дрэў згладжваліся ў вячэрнім змроку, які ахутаў ужо лес, але яшчэ быў рэдкі ў полі. Цяжка было пазнаць сваіх — усе выглядалі падобнымі адзін на аднаго, як кіламетровыя слупы.

Яны адышліся ■ паўвярсты, як Лукашыка раптам працяло нядобрае адчуванне — жар пракаціўся па спіне і аж стукнула ў скронях: ён забыўся вінтоўку. Думкі замітусіліся ў галаве, збіваючы адна адну. Сказаць сержанту? Ці проста пацішу шмыгнуць убок і вярнуцца на тое месца? Што будзе, калі дазнаецца начальства? Праз хвіліну ён, аднак, ужо супакоіўся. Падумаеш, вінтоўка! Тут кідаем не такое, і ніхто не плача, ніхто не адказвае, нікога не расстрэльваюць. Глупства!.. Трэба сказаць сержанту. Што будзе, то будзе!

Сержант Букатаў прыняў гэтую нядобрую навіну з неўласцівым яму спакоем, і гэтым вельмі здзівіў Лукашыка. Ён папрасіў дазволу ва ўзводнага, і праз хвіліну яны ўдваіх падбегам ішлі назад.

Лукашык баяўся толькі аднаго — каб вінтоўкі ніхто не забраў, бо тады ён прападзе. Не хацелася падаць у гразь вось перад гэтым сержантам-выскачкам, які будзе рады яго бядзе і ў душы насмяецца з яго.

У цемры цяжка было знайсці якраз тую бярозку, і яны доўга абмацвалі кожнае дрэва ў тым месцы, дзе нядаўна адпачываў увесь батальён. Урэшце такі Лукашык натрапіў на тое дрэва і з радасным крыкам зняў з сука сваю «нялюбую». Ён быў рады не вінтоўцы, а таму, што яна здымала з яго непатрэбную адказнасць, змывала з яго лішнюю пляму.

Крыху спакайней, чым сюды, пайшлі Лукашык з сержантам даганяць сваіх. Яны крочылі побач. Абодва цяжка саплі ад хуткага руху, абодва маўчалі. Лукашык чакаў наганяю ад свайго камандзіра і не хацеў першы пачынаць гаворкі, каб сержант не падумаў, што ён, Лукашык, просіць у яго прабачэння і каецца ў сваіх грахах.

Можа, гэта добра разумеў сержант, бо ўрэшце ён павярнуўся да Лукашыка і з мяккім дакорам у голасе сказаў:

— Але ж і цывільны ты чалавек, Лукашык! Проста баба, дый годзе!

— Усе родзяцца цывільнымі,— нехаця адказаў Лукашык, з палёгкай адчуваючы, што сержант памякчэў.

— Правільна,— згадзіўся сержант.— Але бяда прымушае людзей брацца за зброю, хочаш не хочаш. А раз узяўся — то трымай так, каб ніхто не выбіў яе, не то што сам згубіў,— ужо не зусім прыязна гаварыў сержант, пераходзячы на знаёмы павучальны тон.

Лукашык прамаўчаў, хоць хацелася сказаць многае,— усё тое, што не давала яму спакою апошнія дні адступлення: што супраціўляцца бескарысна, што трэба кінуць вінтоўкі і, пакуль не позна, прабірацца дадому.

— Ты ведаеш, чым гэта пахне? — не адставаў сержант, вырашыўшы, відаць, што Лукашык спалохаўся.

— Вельмі не страш,— абыякава сказаў Лукашык.— Яшчэ невядома, як мы сёння пераначуем!

— Нідзе не дзенешся,— супакоіў яго сержант.— Абы толькі сам не ўцёк.

— А, дык ты знарок пайшоў са мною, баяўся, што я ўцяку,— толькі цяпер дайшло да Лукашыка, чаму

так хутка было вырашана пытанне, каму ісці па згубу.— Дарэмна стараўся.

— Не крыві душою, Лукашык, я цябе трохі раскусіў,— голас сержанта быў вясёлы.— Слабы ты чалавек, нешта ў цябе надломлена. Веры малавата. А калі чалавек не верыць у тое, што робіць, то ён або зусім нічога не зробіць, або сапсуе.

— А ты верыш? — ва ўпор спытаў Лукашык.

— Я — веру,— упэўнена сказаў сержант.— Верыў і веру. Мы...— ён прапусціў нешта — знарок ці не знайшоў патрэбнага слова.— Усё гэта часова... Мы вернемся сюды зноў. Вось пабачыш.

— Пабачым — сказаў сляпы,— няўпэўнена азваўся Лукашык.— Трэба быць або надта разумным, або апошнім дурнем, каб цяпер...

Лукашык не скончыў, бо спатыкнуўся аб нейкае палена і паляцеў на зямлю.

— Цьфу,— вылаяўся ён лежачы і абмацваючы прадмет, на які ўпаў.— Вінтоўка... Праклятая!..

— Якая вінтоўка? — не зразумеў сержант Букатаў.

— Ды вось, нехта кінуў, а я чуць галавы не скруціў.

Лукашык пачуў, як сержант аж скрыпнуў зубамі і са злосцю сказаў:

— Кідаюць, гады. Не ведаюць, што пасля падбіраць прыйдзецца. Ну, пабачым...— і ён пагразіў кулаком у цемру.

## VII

Яны занялі чужыя акопы на левым высокім беразе нешырокай ракі. Перад імі як на далоні быў відзён нізкі правы бераг, зарослы дробнымі кустамі ядлоўцу, якія паволі пераходзілі ў невялікі пералесак. Мост цераз рэчку быў узарваны нашымі сапёрамі, калі па ім пратарахцела апошняя фурманка вайсковага абозу.

Лукашык адчуў сябе крыху больш упэўнена. Можна хоць трохі адпачыць душою пасля бясконцага страху, пастаяннага чакання нападу з паветра ці з зямлі. Праўда, з паветра іх і тут ніхто не прыкрываў, але ў Лукашыка ўжо выпрацаваўся нейкі інстынкт прадба-

чання. Ён мог з упэўненасцю сказаць, што калі над іх галовамі два дні ўзапар віселі самалёты, то на трэці будзе хоць невялікая, але перадышка. З чым гэта звязана, нельга было растлумачыць, бо не ўсе законы вайны навучыўся разгадваць і разумець гэты надта цывільны баец Лукашык, як назваў яго сержант Букатаў.

Важна было адно: яны адгарадзіліся ад праціўніка ракою; падступы да яе прастрэльваюцца, ім прыдадзены гарматы-саракапяткі. Праўда, Лукашык скептычна глядзеў на гэтыя гарматкі, якія здаровы чалавек мог, здавалася, браць за хобат і кідаць з берага ў рэчку. А калі немцы падкоцяць некалькі добрых гармат ды танкаў, то тут будзе занадта горача.

— Эй, хлопцы! — пачуўся побач голас Чыжова.— Пайшлі купацца.

— Вада халодная,— адказаў нехта. — Ідзі сам.

Над пясчаным брустверам акопа ўзнялася галава сержанта Букатава.

— Купацца не дазволена! — крыкнуў ён.— Памыцца можна, толькі не ўсім за ра́з.

Памалу ўзыходзіла сонца. Чырвоны сляпы яго дыск нехаця адрываўся ад зямлі, хаваючыся за далёкія палосы туману на даляглядзе. Над ракой таксама вісеў радкавы пласт бялявага туману, які засцілаў увесь правы нізкі бераг і даходзіў амаль да самага лесу.

Было нязвыкла ціха, павявала нечым мірным, што не раз і не два сустракалася ў жыцці. І здалося Лукашыку, што ён з хлопцамі прыйшоў на раніцу касіць прырэчны луг, косы ва ўсіх наведзены, у торбачцы ў кожнага добры падмацунак. Сіл многа ў мускулах, хочацца хутчэй, закасаўшы штаны, ступіць у ледзяную росную траву, размахнуцца касою і ўзяць першы шырокі пракос, каб пасля гнаць і гнаць яго, аж пакуль не сядзе каса, пакуль на плячах не выступяць салёныя плямы поту. Тады наменціш касу, паплюеш у рукі — і зноў пракладваеш сабе дарогу, чуеш, як са свістам вострае джала касы падцінае падатлівую траву, як злева высокім духмяным валком кладзецца яна на зямлю.

А потым, калі добра ўгрэе сонца, прыемна выкупацца ў яшчэ халоднай вадзе, асвяжыць гарачае ад працы цела, перакусіць сала з хлебам, запіць кіслым малаком з гладыша і прылегчы на гадзінку паспаць. Моц-

ны тады, здаровы сон на свежым духмяным сене! Прачнешся — а стому як рукой зняло, і зноў гатовы ты махаць касою да сёмага поту, да другое расы...

А цяпер... Яны будуць касіць кулямі, будуць касіць іх, і невядома яшчэ, каму суджана выбрацца адсюль не падрэзанаму няўмольнаю касою лёсу...

Яго роздум перабіў Саланевіч. Ён з крэктам уваліўся ў акоп каля Лукашыка, асыпаючы задам цэлую кучу пяску.

— Ну, брат, і памыўся! Лазня не дакажа,— гаварыў ён задаволена, расціраючы рукамі пасінелыя зарослыя шчокі, прыгладжваючы стрыжаныя, з сівізной, валасы. Пасля злажыў пілотку, падперазаўся і абцягнуў вільготную гімнасцёрку.— Ідзі, скінь грахі, адразу лягчэй на душы стане. Я тут павартую.

На рацэ чуўся смех, плёскат, вясёлыя, узбуджаныя галасы, ляпанне па голых спінах.

Лукашык з'ехаў з абрыву і адразу чаравікамі стаў у ваду. Бераг быў круты і, відаць, адразу пачыналася глыбокае месца, бо вада была цёмная, непрыветлівая, хоць і спакойная.

Не паспеў Лукашык змачыць рукі, як зверху закрычалі, каб усе вярталіся назад.

— Хутчэй, хутчэй,— далёка ляцелі над вадою галасы.— Заняць свае месцы-ы!

Усё было ціха, і Лукашык, асыпаючы пясок, нехаця пакарабкаўся ўверх, у думках лаючы начальства, якое не дасць ніколі зрабіць тое, што табе хочацца.

Але як толькі ён выбраўся на высокае месца, адразу пачуў невыразны далёкі гул матораў. І самае дзіўнае было тое, што гул гэты ішоў з усходу. «Няўжо свае? Няўжо свае? — пытаў сам сябе Лукашык.— А што, калі... Не, не можа быць!..»

Усе таксама нічога не маглі сказаць пэўнага: паціскалі плячыма, гадалі, спрачаліся.

Лукашык заняў месца ля Саланевіча. Наваліўшыся грудзьмі на заднюю непрыкрытую брустверам сценку акопа, ён напружана ўглядаўся ў дарогу, якая то прападала і відны былі адны тэлеграфныя слупы, то зноў выплывала, але нічога не заўважаў. А гул усё мацнеў, рос, набліжаўся. Было ўжо ясна, што гэта равуць магутныя танкавыя маторы. Толькі чые?

Акопы варушыліся, кішэлі байцамі, узнялася невыразная мітусня, беганіна. Яшчэ адна іскра — і ўспыхнула б паніка.

— Нашы! Нашы! — праляцела па траншэі.

Гэта крыху супакоіла людзей. Напружанасць спадала, а разам з ёю і пільнасць. Многія павылазілі з акопаў, сядзелі на брустверах. Артылерысты, якія размясціліся за першым ланцугом пяхоты, цяпер апынуліся спераду, але не ведалі, што рабіць: паварочваць свае гарматы ці не?

— Вунь яны! — усклікнуў раптам Саланевіч, які таксама ўзіраўся ў дарогу і стаяў побач з Лукашыкам.

Ён хацеў яшчэ нешта сказаць, як усе гукі перакрыла рэзкая каманда: «Да бою!»

Яна, як вецер, здзьмула ўсіх у акопы, стала на момант ціха, толькі гул усё рос, набліжаўся, нават чуваць быў жалезны перастук гусеніц і скрып тракаў.

Танкі раптоўна выскачылі з-за пагорка і адразу веерам пачалі рассыпацца па полі, абхватваючы ў магутныя клешчы пляцоўку з траншэямі, якая ўзвышалася над рэчкаю і сядлала дарогу.

Цяпер для ўсіх ясна было відаць, што гэта не свае.

Першы стрэл прагучаў з нашай саракапяткі. Ён нібы паслужыў камандай для абодвух бакоў. Поле і неба раптоўна ўзарваліся ад грому і грукату. Перад Лукашыкам на момант успыхнула полымя, слуп дыму і пяску ўзляцеў да самага неба, а яго самога кінула на дно акопа, аглушыўшы і абсыпаўшы пяском. Калі ён апамятаўся, то ўбачыў, што Саланевіч, скурчыўшыся, ляжыць побач [redacted] ім і тужыцца ўстаць. Лукашык з цяжкасцю павярнуўся ў цеснай траншэі і, узяўшы яго за каўнер, прыўзняў уткнутую ў пясок галаву.

І дзіўна — Лукашыка цяпер не ўразіў від смерці, як тады, першы раз, калі ён убачыў забітага бомбай байца ў канюшыне. Ён спакойна зірнуў у заліты крывёю твар Саланевіча і ўбачыў пад правым вокамірваную дзірку, праз якую густым струменем ліла кроў.

Ён разняў пальцы, і цела Саланевіча бязвольна лягло на пясчанае дно акопа.

Ён нічога не чуў — усе гукі бою нібы прапалі, а замест іх быў нясцерпны пранізлівы звон у вушах, ад якога расколвалася галава і самі закрываліся вочы.

Першым яго рухам было прачысціць пальцамі вушы, але гэта не памагло, і ён узняўся на ногі.

Проста на яго перла чорная аграмадзіна танка, а кулямёт узнімаў перад ім цэлыя фантаны пяску.

Страх, які раптоўна ахапіў Лукашыка, гнаў з акопа, далей ад гэтага сталёвага страшыдла, пад якім угіналася зямля, але розум, хоць і збіты з панталыку, хоць і затраўлены дзікім грукатам і рэвам, падказваў, што цяпер няможна выскакваць, што яго адразу зробіць на рэшата гэты варожы кулямёт.

Лукашык упаў на дно траншэі і інстынктыўна кінуўся на чацвярэньках убок, каб даць дарогу машыне. Ён забыўся, што акоп над самым абрывам, што танк не пойдзе далей. Цяжка дыхаючы, ён пераваліўся цераз нерухомага Саланевіча, уткнуўся ў нешта жывое і заціх, прыкрываючы зверху рукамі галаву.

Яшчэ секунда — і над ім задрыжала зямля, пасыпаўся пясок, чорны цень засланіў неба, а ўдушлівыя газы атруцілі дыханне. Лукашык з прадсмяротным страхам адчуў, як яго завальвае нязвыкла цяжкі сыпучы пясок. Ён задыхнуўся, паспрабаваў выпрастаць рукі, каб адарвацца ад дна траншэі, але не змог.

Яшчэ момант — і Лукашык памёр бы ад страху, ад недахопу паветра, ад цяжару, з якім ціснуў на яго магільны пясок. Але раптам нечая рука падчапіла яго за папружку, тузанула раз, другі і вырвала са страшных абдымкаў зямлі. Ён спачатку ляжаў як рыба на беразе і не варушыўся, толькі хапаў паветра шырока раскрытым ротам і праціраў вочы, а пасля пачаў выплёўваць пясок.

Калі ж ён трохі ачомаўся і глянуў на свет, то адразу пазнаў, што над ім стаіць Чыжоў.

Ён, без пілоткі, у разарванай на грудзях гімнасцёрцы, трымае ў руках звязку з чатырох гранат, ставіць адну з іх на баявы ўзвод і, адвёўшы руку назад, замахваецца.

Лукашык зажмурыўся, чакаючы блізкага выбуху. Да яго дайшло, што Чыжоў хоча ўдарыць па карме таго танка, які толькі што круціўся над імі. Лукашык усім сваім сэрцам рады быў за Чыжова, які не разгубіўся, а ў гэтым пекле знайшоў хвіліну, каб выцягнуць яго з зямлі, і вось цяпер хоча адпомсціць таму немцу, што мерыўся раздушыць іх сваімі цяжкімі гусеніцамі.

Ён даруе яму цяпер нават тую спрэчку, якая адбылася між імі ў жыце, калі яны першы раз убачылі немцаў...

Але чаму няма ніякага выбуху? Няўжо Лукашык аглух?

Раптам нешта цяжкае балюча стукнула Лукашыку па галаве, а праз секунду ён адчуў, як на яго нехта наваліўся. Ён крыкнуў ад роспачы, бо ўсё зразумеў: яму на галаву ўпала звязка гранат, а за імі асунуўся Чыжоў. Лукашык сціснуўся ў камяк, ірвануўся, з жудасцю чакаючы выбуху, скінуў з сябе абмяклае цела Чыжова і выскачыў з траншэі. Ён нічога не чуў і не бачыў, толькі ведаў, што побач абрыў, побач рэчка, і потырч носам паляцеў уніз, проста ў ваду.

Ён даў нырца, адплыў ад берага і высунуў галаву, аддыхаўся. Яму здавалася, што навокал цішыня, толькі па вадзе чамусьці скакалі фантанчыкі.

Абяссілены і змардаваны, Лукашык стаіўся ля другога берага і стаў чакаць.

## VIII

Калі Валя Калейнік пачула, што пачалася вайна, у яе ўсярэдзіне нібы нешта асела. Яна адразу пасталела і адчула, што да мінулага больш няма дарогі...

Аднак жыццё ішло сваім парадкам. Валя запісалася на будаўніцтва ваеннага аэрадрома. Там працавала сотні са дзве людзей, пераважна жанчын і дзяўчат. Кожны дзень Валя ўставала ў шэсць гадзін раніцы. Спяшаючыся, гатавала чай, снедала, брала з сабою ў школьны партфель дзве лусты хлеба, намазаныя маслам, і ішла на аэрадром.

Ісці ёй было кіламетраў пяць, і ўсё лесам. Гэты час яна лічыла самым лепшым за ўвесь трывожны і цяжкі дзень.

Яна ішла і думала, успамінала мінулае, марыла. Лес заўсёды бадзёрыў яе. Ён ніколі не драмаў: ён варушыўся, спяваў.

Валю зачароўвала хараство яго песні, шырокай і напеўнай. Песня плыла паволі, як цякуць рэкі гэтага краю, як гавораць яго людзі. Яна нібы клікала не спяшыць, а спыніцца, услухацца, адпачыць, набрацца сілы. Сонечным ранкам, калі на лісцях і траве блішчыць

раса, калі паветра разлягаецца ад гоману ляснога птаства, прыемна ісці пад зялёнымі шатамі і думаць бясконцыя думы.

Але апошнія дні думкі яе сталі бязладныя і трывожныя. Яе непакоіла не тое, што будзе з ёю, не! Яе палохала тое, што немцы рваліся на ўсход, што наша армія не магла іх спыніць і вымушана адступаць, пакідаючы на волю лёсу мільёны людзей. Дакуль гэта будзе? Няўжо варожая сіла дакоціцца і сюды?

А што цяпер з яе мужам? Дзе ён? Ці жывы? Напэўна, яму цяпер цяжка, у сто разоў цяжэй, чым сёння ёй, бо на яго плечы лягла адказнасць за жыццё ўсяго народа, усёй краіны. Толькі б ён выстаяў, не зламаўся, не загінуў у марным месцы. Толькі б выжыў у гэтай віхуры!.. І непрыкметна ціхі, ледзь улоўны для вуха шум лесу пераходзіў у Валіным уяўленні ў навальнічны гром кананады, у дзікае выццё варожых самалётаў, напаўняўся перадсмяротным крыкам параненых, перарастаў у бязладную пахавальную музыку кулямётаў і матораў. Валя міжвольна затыкала вушы і кідалася бегчы, каб уцячы ад назойлівых вобразаў-думак, каб не быць з імі сам-насам, бо яны маглі давясці да шаленства.

Хутка яна трапляла ў мітусню і гарачку, у кіпучы людскі мурашнік, і ёй рабілася лягчэй на душы. Яна брала рыдлёўку і з азартам пачынала працаваць.

Жанчыны і дзяўчаты пашыралі невялічкі стары аэрадром, на якім стаяла некалькі лёгкіх самалётаў.

Сонца ўлетку падымаецца хутка, і промні яго з самага ранку не маюць літасці да людзей.

Для Валі не было навіною трымаць у руках рыдлёўку, аднак першыя дні добра даліся ў знакі. З непрывычкі балела спіна: нельга было сагнуцца. Рукі гарэлі ад мазалёў, выпадала рыдлёўка. Мучыла смага. Ад бочкі з вадой не адыходзілі людзі. Твары іх блішчалі ад поту, як змазаныя тлушчам.

Сілы ўсім прыдавалі свае самалёты, якія з самай раніцы бесперапынку то выляталі, то вярталіся на аэрадром.

Людзі задзіралі галовы, праводзячы кожную машыну, і з трывогай чакалі яе звароту. Праходзіла з паўгадзіны, і над лесам, амаль чапляючыся фюзеляжам за верхавіны дрэў, паказваўся тоўстагаловы знішчальнік.

Часцей за ўсё пілот выскакваў з кабіны, як толькі лопасці вінта пераставалі варушыцца. Аднойчы лётчыка даставалі з машыны: ён быў паранены ў галаву, а ўвесь самалёт быў пасечаны кулямі.

Такое відовішча прыгнятала людзей, і рыдлёўкі мільгалі не так часта, зямля ляцела не так далёка. Апускаліся рукі: можа, тое, што яны робяць, ужо непатрэбна? Але гэта былі кароткія хвілі адчаю. Людзі зноў намагаліся і працавалі з яшчэ большай заўзятасцю.

Сёння Валя адчувала нейкую стомленасць і вяласць ва ўсім целе — нібы не выспалася. Сляпіла сонца: на небе — ні воблачка, яно чыстае, як прыгуменне ў добрага гаспадара. І толькі чмяліны гул, часам блізкі, часам далёкі: самалёты, а чые — невядома.

Пасля полудня працаваць было цяжэй, хацелася спаць. Рукі ўздымаліся механічна, як чужыя. Раз-два, раз-два... Мільгае рыдлёўка, шэрымі камякамі падае зямля. Удары рыдлёвак зліваюцца ў адзін працяглы і невыразны звон.

Валя ўбівае рыдлёўку ў сухую зямлю і папраўляе касынку. Не слухаюць пальцы. Яны сталі шорсткія, патрэскалася скура. Тонкія валаконцы шоўку чапляюцца за скуру, нібы рукі ў смале. Валя праводзіць далонню па сукенцы і адчувае, як пякуць мазалі.

Зноў гул. Валя прыслухалася. На поўнач, у кірунку да горада, плылі цяжкія машыны. Горад нечакана сустрэў іх зенітным агнём. Амаль у той жа момант першы самалёт нырнуў уніз, і з-пад фюзеляжа паляцелі ўніз адзін за адным бліскучыя шарыкі. Выбухі зліліся ў адзін магутны гук, аж здрыганулася зямля.

Шэсць самалётаў, як каршуны, пачалі кружыць над горадам.

Жанчыны ў жаху кінуліся да лесу, да ангараў, дзе нядаўна стаялі самалёты. Байцы з аховы перагарадзілі дарогу жанчынам, супакойвалі іх і прасілі не падымаць панікі.

Самалёты пачалі браць управа, бліжэй да станцыі. Выбухі адзін за адным разрывалі паветра. Жудасны рэў матораў рэзаў па сэрцы і ледзяніў кроў.

Было крыўдна, што не чуваць нашых знішчальнікаў, што сціхлі раптам зеніткі...

Нарэшце з-за лесу выскачылі і пачалі прызямляцца нашы самалёты. Пакуль яны запраўляліся, прайшло некалькі часу.

Тыя, што ўзняліся першыя, адразу бралі курс на горад, які ўжо дымеў ад пажараў. Але было позна: нямецкія бамбавозы, разгрузіўшыся, падаліся на захад.

Вечарам Валя, далучыўшыся да людзей, ішла дадому. Ніхто не думаў, што заўтра прыйдзецца тут яшчэ працаваць. Хоць цывільныя людзі не вельмі разбіраюцца ў тактыцы ці стратэгіі, аднак і яны разумелі, што немцы рыхтуюцца да наступлення.

Ужо добра сцямнела, калі Валя, стомленая, выбралася з лесу. Шаша ўся гула і варушылася. Машыны, гарматы, абозы кіравалі на ўсход. Ішлі і ехалі бежанцы. На абочынах дарогі валяліся чамаданы і клункі.

Спачатку ў Валі з'явілася жаданне, не заходзячы дадому, далучыцца да гэтай плыні і ісці разам, на ўсход. Толькі страшэнная стома і нейкі невыразны страх спынілі яе, і яна разам са сваімі знаёмымі аддалялася ад бурлівай паводкі бежанцаў. «Заўтра, заўтра...» — паўтарала сама сабе Валя.

Але назаўтра ранічкай, яшчэ не паспела ўзысці сонца, пачаўся бой на подступах да горада. Больш гадзіны білі гарматы. Цёмная хмара дыму ўзнялася на паўднёвым усходзе. Выбухі зліваліся ў суцэльны цяжкі, пагрозлівы гул, ад якога дрыжала зямля.

Трое сутак стаяў над шашою назойлівы гул матораў. Як чорная хмара, наступалі немцы. І ў Валі першы раз за гэтыя дні з'явілася трывожная думка: «А ці выстаім мы перад такою сілай?»

Валя ўбачыла немцаў толькі на чацвёрты дзень пасля іх прыходу. Яна была на двары, як да іх хаты, паставіўшы веласіпеды на вуліцы, скіравалі тры немцы. У Валі пахаладзела ўсярэдзіне, калі яна заўважыла, што проста на яе ідзе, грукаючы цяжкімі ботамі, мажны пажылы немец з сівымі валасамі вожыкам на галаве, з голымі рукамі, ў зелянцовым мундзіры з вялізнымі кішэнямі. Немец нешта сказаў, але Валя не зразумела, хоць збольшага і ведала нямецкую мову. Яна маўчала, разгубленая. Тады ён усміхнуўся, паказаўшы дзве падковы бліскучых зубоў, і сказаў выразна папольску:

— Млека, паненка!

У яго за плячыма стаялі ўжо два маладыя салдаты, абодва русыя, доўгавалосыя, і таксама ўсміхаліся, а яна не варушылася, як прыкутая, і нічога не магла сказаць.

— Не буй сень,— сказаў зноў пажылы немец.

Яна зразумела і гэта, як і словы пра малако, кіўнула галавою і пайшла ў хату. Гаспадыні якраз не было, і Валя сама ўзяла з палічкі поўны гладыш свежага малака і вынесла на вуліцу. Яна чакала, што немец скажа, каб яна пакаштавала сама, але той узяў з яе дрыжачай рукі поўную конаўку і выпіў за некалькі глыткоў. За ім, не зводзячы вачэй з Валі, выпілі два маладыя салдаты. Яны пераглядваліся паміж сабой і ўсміхаліся.

Крыху пачакаўшы, немцы выпілі яшчэ па конаўцы. Увесь час яны гаварылі паміж сабой, але вельмі хутка, і Валя нічога не зразумела, апроч такіх слоў, як «маладая», «бальшавікі».

Урэшце салдаты сказалі «данке» і пайшлі да сваіх веласіпедаў, раз-пораз азіраючыся і ўсміхаючыся Валі.

А Валя, уражаная, доўга стаяла на двары. Вось яны, заваёўнікі...

«Бач, кішэні якія... Увесь свет хочуць у іх пакласці. «Млека, паненка». Паганцы! Польшчу ўжо абрабавалі, мову знарок вывучылі, каб палякі не маглі нічога ўтаіць... Выскаляюцца, лагодныя... Але толькі запярэч ім, як яны адразу пакажуць сваю воўчую натуру. Нездарма ў іх руках такая зброя...»

Так думала Валя, стоячы на парозе і з сумам пазіраючы ўдаль.

Праз колькі часу немцы пачалі заводзіць «новыя» парадкі. Як грыбы пасля дажджу, з'яўляліся старасты, бургамістры, паліцыя. Без усялякага суду па даносу расстрэльвалі людзей — камуністаў і былых актывістаў.

Валя думала, што трэба неяк выбірацца з гэтых Падлясеек, у якіх яна пражыла амаль што два гады, ісці да сваіх на Случ, ці да дзядзькі, дзе яна жыла, калі вучылася ў тэхнікуме. Але ўсё адкладвала, усё нечага чакала. Часам закрадвалася думка, што Лявона не паспелі далёка адправіць, што ён недзе блізка, калі толькі ўцалеў...

Гэтая думка не давала Валі пакінуць вёску. Яна назначыла сабе дзень, калі збярэ свае манаткі і развітаецца з гаспадыняй, як аднойчы ноччу да яе ў акно нехта пастукаў. Калі стук паўтарыўся, Валя кінулася адразу ў сені, сэрцам адчуваючы, што гэта Лявон.

Пераступіўшы парог, Лукашык абняў Валю, моцна прытуліў да грудзей і так доўга стаяў, нібы не верыў свайму шчасцю і баяўся яго згубіць яшчэ раз.

Валя зразумела, што яму было цяжка ўвесь гэты час: яго абдымкі сказалі ёй больш, чым усялякія словы. Неяк балюча зашчымела ў яе сэрца, на вочы набеглі слёзы. Вярнулася яе шматпакутнае, ужо апаленае вайною, каханне, і яна зноў адчула яго ўладу над сабою.

— Завесь акно,— перш-наперш сказаў Лукашык.

Валя зрабіла гэта хутка, пасля запаліла лямпу, а ён усё стаяў пасярод пакоя. Ён быў у старой палапленай вопратцы, аброслы і худы.

— Ты галодны, напэўна...— І Валя пачала ставіць на стол усё, што ў яе засталося ад вячэры.

Лукашык толькі стомлена ўсміхнуўся, пасля, нібы ачнуўшыся, пайшоў да рукамыйніка.

Еў ён доўга і маўчаў, толькі кідаў кароткія позіркі на Валю, якая, скурчыўшыся, сядзела на ложку і назірала за мужам.

— Адкуль ты? Расказвай...— урэшце прамовіла яна.

— Няма чаго расказваць,— панура азваўся Лукашык. — Сама павінна разумець. Нас разбілі...

— Каго гэта «нас»? — Валя насцярожылася.

Лукашык прапусціў міма вушэй яе словы і моўчкі еў.

Валя ведала, што распытваць у яго цяпер бескарысна. Пасля ён сам усё раскажа, калі супакоіцца.

Назаўтра яна мыла яго заношаную бялізну, пасля гатавала сняданне, а Лукашык усё спаў. Яна прыслухоўвалася да яго няроўнага дыхання, часам падыходзіла да ложка, калі ён пачынаў неспакойна варушыцца і стагнаць праз сон.

Валя старалася не грукаць, але, калі яна вярнулася з поўнымі вёдрамі вады, Лукашык ужо сядзеў на пасцелі і цёр вочы.

— Ведаеш,— сказаў ён,— сон сніўся страшны. Здаецца, я пераплываў раку... Тую самую, ля якой нас рас-

калашмацілі... Плынь увесь час збівала мяне, я выбіўся з сіл, і мяне панясло проста ў вір, закруціла... Я закрычаў і прачнуўся ад страху.

— Даўся табе гэты страх... Я чула, як ты варочаўся ноччу, і цяпер увесь час нібы на цвіках.— Валя пачынала паласкаць бялізну.— Уставай, абед гатовы.

— Устаю, устаю...— Лукашык скінуў прасціну, агаліўшы свае мускулістыя ногі.— Усё ніяк не верыцца, што я зноў з табою... Здаецца, што няма ніякай вайны, нічога — адна ты. Эх, як бы я хацеў, каб усё было так, як два месяцы назад, калі я лічыў сябе самым шчаслівым чалавекам на зямлі.

Валю кранулі гэтыя словы, але яна не падала віду.

— Цяпер няма чаго гаварыць аб шчасці. Не час. Ты думай, як мы будзем жыць далей...

Лукашык застыў на ложку, разглядаючы вялізны стаптаны чаравік на гумовай падэшве, які адзін цяпер толькі нагадваў яму аб нядаўняй вайсковай службе.

— І праўда,— задуменна сказаў ён.— Я зусім яшчэ не думаў пра гэта — не паспеў. А ты што надумала сама? — Лукашык зашнуроўваў чаравікі сагнуўшыся, і твар яго стаў барвовы.

Валя нічога не сказала. Яна выйшла вешаць бялізну, але не на двор, а палезла на гару, каб не кожны бачыў, што ў хаце з'явіўся мужчына, у якога новая бязевая бялізна. Вешаючы, яна падумала, што лепш было б, каб Лявон перайшоў спаць сюды, на гару, а то, чаго добрага, могуць зазірнуць немцы. Прычэпяцца яшчэ да яго: стрыжаны.

Вярнуўшыся, Валя сказала яму:

— Я думала ехаць да сваіх.

— А як я? — па-дзіцячаму наіўна спытаўся Лукашык.

— Ты мужчына, а ў мяне пытаеш. Смешна...

Яны замоўклі надоўга, аж пакуль не селі за стол.

— Мне здаецца, ты не рада, што я вярнуўся.— Лукашык сагнуўся над міскай і сёрбаў гарачы булён.

— Не гавары абы-што...

— Буду гаварыць...— Лукашык перастаў есці.— Ты думаеш, чаго ён прыйшоў, калі ўсе ваююць, змагаюцца з ворагам. Ён дэзерцір, баязлівец... А я скажу: не! Я наваяваўся па горла. Хопіць... Так ваяваць нас не вучылі. Нас вучылі ваяваць на варожай тэрыторыі,

малой крывёю, магутным ударам. А што цяпер? Недарэчнасць. Немцы зрываюць нас з месца і гоняць перад сабою, як статак гусей. Мы хочам адарвацца, а яны так і ціснуць танкамі на пяты, так і ціснуць. Пасля абходы, ахопы, дэсанты... Ініцыятыва ўвесь час у іх руках. А ў каго ініцыятыва, той дужэйшы... Ты ведаеш, што я ні разу не выстраліў у немцаў? І не таму, што не хацеў. Усё залежала не ад мяне... Аднойчы толькі выскачылі з ляска — бачым, імчыць нехта на кані проста на нас. Пад'язджае бліжэй — бачым, немец. Карабіна нават з-за плячэй не зняў, крычыць: «Рус, здавайся, вайна капут!» Гэтае яго нахабства нас асляпіла, і каб не адзін малады баец, то, відаць, і паклалі б мы зброю пад ногі нямецкаму каню. Але той выручыў: сарваў з пляча вінтоўку, ды калі мацюгне немца па ўсіх правілах! Ах ты, кажа, фрыц паганы, у сэрца, у душу тваю... Ты на нашай зямлі без году тыдзень, а ўжо камандуеш? І як замахнецца прыкладам... Немец адразу каня павярнуў і ходу... Сорамна нам было пасля гэтага, кожны не ведаў, дзе вочы падзець. Ідуць байцы, маўчаць, толькі самі сабе лаюцца ды плююцца... Хто вінават, што немец так абнаглеў? Ты лічыш, ён смялейшы за нашага салдата? Не думаю. Але ён ап'янеў ад перамогі. Ты скажаш, можа, што яму шанцуе? Таксама не. Тут усё проста — мы не гатовы да вайны. А рыхтавацца цяпер, калі мы гэтулькі страцілі, калі на граніцы засталася ўся наша тэхніка і армія, я лічу — позна. Усё скончана. У нас няма чым нават абараняцца, а не толькі наступаць. Вайну мы прайгралі, і з гэтым трэба змірыцца...

Валя слухала, і кожнае слова Лукашыка пякло яе, як гарачыя вуголлі. Яна не пазнавала свайго мужа з яго чужымі і далёкімі думкамі.

— Цяпер я ведаю, што азначалі твае словы «нас разбілі»,— сказала яна.— Спачатку я думала, што гэта вашу часць разбілі. Ажно не... Але ты вельмі шырока бярэш, за дрэвамі не бачыш лесу. Толькі слабы чалавек можа разгубіцца ад першай няўдачы. Моцнаму няўдача падвойвае сілу. А рускі народ, я лічу,— ды і ўсе так лічылі і лічаць,— ніколі не траціў галавы, нават у самыя цяжкія часіны свае вялікае гісторыі.

— О, твая лекцыя адразу, як жывая вада, вылечыла мяне ад нявер'я,— з'едліва заўважыў Лукашык і

сярдзіта паглядзеў на жонку.— Табе толькі ісці палітруком у армію, там такія цяпер вельмі патрэбны. Але не забывай, што ёсць словы і факты. Калі яны не разыходзяцца між сабой, тады чалавек верыць. Калі ж словы гавораць адно, а факты другое...

— Ты ныцік і панікёр, вось хто ты! — Валя ўстала і адышлася на сярэдзіну пакоя. Твар яе гарэў ад гневу.— Я не чакала, што ў цябе такая гнілая душа.

— Ты гаворыш словамі майго сержанта. У цябе, як і ў яго, замест душы рупар,— ледзь стрымліваючыся, сказаў Лукашык і таксама ўстаў.— Толькі я думаю, што вам прыйдзецца хутка перамяніць пласцінку.

— Не дачакаешся гэтага! — Валя аж тупнула нагою.— Не дачакаешся!

— Час пакажа. Не крычы. Тут галасам нічога не возьмеш.

Яны пасварыліся і некалькі дзён не гаварылі зусім.

Лукашык суткамі спаў, адлежваўся і адпачываў.

Валя была занята сваімі справамі. У яе пачаўся цяжкі душэўны разлад. Яна па-новаму пачынала глядзець на свет, на людзей і нават на сябе. Як бяздумна верыла яна ў тое, што ёй гаварылі, не хацела падумаць ці знайсці нейкі другі сэнс!

Так жа бяздумна яна аддалася Лукашыку, паверыўшы ў чысціню яго душы, у яго сумнае апавяданне пра сваіх бацькоў і няўдалую жаніцьбу з пракуроравай дачкой. Ён вельмі ўмее выстаўляць сябе мучанікам лёсу, няшчасным, хоча, каб яго пашкадавалі, а пасля непрыкметна з нявіннай авечкі робіцца воўкам і ўжо ён камандуе і яму трэба дагаджаць, як вялікаму пану.

Так і цяпер. Ён будзе расказваць казкі аб цяжкасцях, аб нямецкай сіле і захоча вымаліць сабе апраўданне — спачатку толькі ў яе, а пасля — і наогул. Ён умее звярнуць віну на каго хочаш, каб даказаць, што сам ён чысты. Не, цяпер Валя не будзе наіўнай...

Па гаспадарскіх справах яна была ў горадзе. Першы раз пасля акупацыі ішла яна па вуліцах раённага цэнтра, знаёмага ёй да драбніц. Валю здзівіла, што горад амаль не змяніўся, усё ў ім было, як і раней. Толькі людзей не было відаць на вуліцах, а самі хаты, здаецца, паніжэлі, прыціхлі, хаваючы нейкую таямніцу.

Валя ішла памалу, насцярожана і неўпрыкмет азіраючыся. Вось яе абмінуў воз, бітком набіты людзьмі ў чорных шынялях. Адзін з іх п'яным голасам аклікнуў Валю, але яна ўцяла галаву ў плечы і нават не зірнула на яго, бо падумала, што, можа, гэта хто знаёмы. Насустрач паказаўся грузавік, поўны нямецкіх салдат. Невялікі канвой з паліцаяў гнаў групу маладых яўрэяў. У іх на плячах і грудзях — жоўтыя шасціканцовыя зоркі. У руках ва ўсіх рыдлёўкі і ламы.

Толькі пасля гэтага яна ўбачыла, што цэлы невялікі квартал — дамоў дваццаць — быў скрозь высока абнесены калючым дротам. Вуліца, што вяла туды, была перагароджана казламі, аплеценымі тым жа дротам, а ля ўвахода стаяў паліцай з вінтоўкаю.

Урэшце яна выйшла з вузкай вуліцы між дамамі і апынулася на плошчы. І тое, што яна тут убачыла, перавярнула ёй душу. Спачатку яна стаяла ў нейкім здранцвенні, а пасля паволі пачала перастаўляць aцяжэлыя ногі.

На тым месцы, дзе раней, да вайны, стаяла трыбуна, цяпер злавесна ўзвышалася шыбеніца. На тоўстай перакладзіне, якая аж увагнулася пасярэдзіне, віселі людзі. Вецер пагойдваў іх целы, варушыў валасы на галовах, і было нешта жудаснае ў гэтым спакоі, што панаваў навокал.

Валя ўтаропілася на крайняга чалавека, яшчэ зусім маладога, з густым чорным чубам. Было нешта дзікае ў яго аскаленым твары, нешта зацятае і ўпартае. Валя перавяла позірк уніз і здрыганулася: у чалавека на наску левага чаравіка засохлі згусткі крыві, а на зямлі пад ім утварылася крывяністая лужына. Побач з маладым вісеў салідны лысаваты чалавек у шэрым гарнітуры. Поўны яго твар увесь пачарнеў, галава была пакутліва скрыўлена набок. Як ні змяніла смерць аблічча гэтага чалавека, з першага позірку Валя пазнала яго. Гэта быў дырэктар іх дзесяцігодкі, Васіль Тодаравіч Старавойт...

Вось першы яе знаёмы, што сустрэўся ў горадзе...

Амаль без памяці Валя прымчалася тады дадому. Усю ноч яна трызніла і кідалася на пасцелі, як у ліхаманцы.

Лукашык не адыходзіў ад яе ні на крок, дапытваўся, што з ёю, мяняў халодныя кампрэсы. Ён, відаць,

разумеў, што Валя не проста захварэла, а здарылася нешта больш важнае.

Валя ўрэшце вымушана была сказаць, што яе так уразіла. Лукашык здзівіўся ці зрабіў выгляд, што здзіўлены.

— Я думаў, што-небудзь асаблівае... Трэба спакайней успрымаць усё тое, што непазбежна,— павучаў ён, седзячы на краі ложка і трымаючы Валіну халодную руку ў сваіх вялікіх далонях.— На тое і вайна. Набярыся цярпення, інакш тваё сэрца не вытрымае, разарвецца, бо гэта яшчэ, відаць, толькі пачатак...

Ён гаварыў доўга і нудна. Валя слухала не перабіваючы, а ў сэрцы ў яе разрастаўся ўсё большы гнеў супроць гэтага чалавека, які нядаўна быў ёй такі блізкі і родны, а цяпер на вачах рабіўся чужы, незразумелы і агідны. Яго словы не пераконвалі яе, а, наадварот, разбуралі тыя рэшткі павагі, якія яшчэ жылі ў Валіным сэрцы.

Валя вырвала сваю руку і рэзка сказала:

— Замаўчы!

Лукашык змоўк, толькі бровы яго трывожна ўзляцелі ўверх, а вочы сталі круглыя і халодныя, у іх ажыло нешта тупое і ўпартае.

— Я ведаю, што ты хочаш уцячы ад мяне,— працадзіў ён праз зубы.— Але скажы, што я табе зрабіў кепскае? Што?

Валя маўчала.

— Што так любіў цябе?

Зноў маўчанне.

— Што, як хлапчук, выпрошваў у цябе ласкі?

Маўчанне.

— Што ў гэтым пекле думаў толькі аб табе адной?

Валі здалося, што Лукашык усхліпнуў. Але гэты магічны ў другі час гук і шчырыя словы цяпер ужо не мелі над Валяй ніякай сілы. Грудзі ёй распірала злосць.

— Замаўчы,— са стогнам сказала яна.— Ты мне агідны.

Лукашык павольна ўстаў з ложка і, ледзь пераастаўляючы ногі, падышоў да акна.

— Ну добра,— сказаў ён сам сабе, і пагроза пачулася ў яго голасе.

## IX

Лукашык застаўся настаўнічаць у той жа Падлясейскай школе, у якой працаваў да вайны.

Бургамістр горада, відаць, ужо добра праінфармаваны аб Лукашыку, выклікаў яго аднойчы да сябе і меў з ім афіцыйную размову. Ён гаварыў, што трэба ствараць «беларускую інтэлігенцыю», якой не стварылі Саветы за дваццаць з лішкам год — уся яна стала наскрозь бальшавіцкай, наскрозь інтэрнацыянальнай, а свае нацыянальныя інтарэсы занядбала...

У канцы ён даў зразумець Лукашыку, што ім вядома яго, Лукашыкава, мінулае: высылка яго бацькоў, разрыў з чужым, як ён казаў, асяроддзем; вядома, што ён адмовіўся ваяваць супроць немцаў; нарэшце, сам яго прыход сюды, у нямецкую ўстанову,— сведчанне яго, Лукашыкавай, сумленнасці і лаяльнасці.

Лукашык ківаў галавою, паказваючы, што разумее бургамістра, і пазіраў на яго — худога, пакарабачанага чалавека, якога немцы знайшлі немаведама дзе.

Калі ён сказаў Валі, што застаецца на працы ў нямецкай школе, яна ўскіпела. Тады ён спытаў у яе, а што яму рабіць: можа, ісці ў паліцыю? Яна глянула на яго злоснымі вачыма і, нібы адсякаючы кожнае слова, сказала, што ад яго можна чакаць яшчэ горшага. Лукашык замахнуўся на яе, але ўдарыць не асмеліўся.

І вось ужо каторы дзень, як Валя кінула яго і некуды з'ехала. Цяпер Лукашык адзін. Работы ў яго мала. Ніхто не кантралюе, ніхто не правярае. І горш за ўсё, што няма сяброў.

Марудна, як перад смерцю, цягнуўся час, дні былі пустыя, падобныя адзін на адзін, аднастайныя і нудныя.

Неяк выпадкова Лукашык знайшоў смак у гарэлцы. Гэта была звычайная сівуха-самагонка, жаўтаватая і крыху прыпаленая, але затое моцная. Выпіўшы шклянку, Лукашык клаўся на ложак і, перад тым як задрамаць, думаў пра сваё жыццё, якое яму здавалася надта доўгім. Нават не верылася, што ён быў малы, бегаў басанож, не слухаў бацькоў, сваволіў, біўся з хлопцамі, хадзіў у школу. Пасля стаў студэнтам... Ці не задоўгая біяграфія? Страціў бацькоў, быў два разы жанаты,

а дзяцей няма... Ваяваў — і так няўдала... Настаўнічае — і таксама яшчэ невядома што будзе... Няўдачы, няўдачы, няўдачы... А чым скончыцца наогул гэтая сусветная калатэча, якая перавярнула ўсё ўверх нагамі? Як уседзець на гэтым наравістым кані — лёсе? Як пераяжыць усё гэта?

І Лукашык, не знайшоўшы адказу на гэтыя пытанні, памалу пачынаў піць.

Кожны дзень заходзіла цётка Мар'яна, гаспадыня — прыносіла яго «заказ» і яду. Яна была гаваркая кабета, прыемная з выгляду і яшчэ не зусім старая. Пакуль Лукашык еў, яна звычайна стаяла, засунуўшы рукі пад фартух, і расказвала ўсё, што чула за дзень.

Навіны яе былі самыя розныя — ад вясковых да франтавых. З яе расказаў спачатку цяжка было зразумець, каму яна спачувае. Але Лукашык ведаў, што два сыны яе служаць у Чырвонай Арміі, а малодшая дачка, жонка савецкага камандзіра, падалася на ўсход разам з мужам.

Часам Лукашык частаваў яе, бо яна ніколі не адмаўлялася раздабыць гарэлкі. Лукашык гэта цаніў.

Яна не садзілася, а, стоячы ля стала, выпівала паўшклянкі, закусвала кавалачкам хлеба і неяк у момант мянялася: ружавела, яшчэ больш плаўна ліліся яе словы, і Лукашык міжволі заслухоўваўся.

Яна пачынала здалёк. Адзін дзядзька казаў, што немцы рыхтуюцца рабіць аблаву на партызан. Іх цяпер, кажуць, шмат ходзіць па лясах. На днях падарвалі цэлы эшалон з гарматамі. А то нядаўна з-за вугла забілі каменданта горада. За гэта немцы расстралялі пяцьдзесят беларусаў і сто яўрэяў, бо падазраюць, што стралялі з гета... Учора ноччу партызаны зрабілі налёт на паліцэйскі гарнізон пры шашы. Усё спалілі. Немцы паехалі ўдагонку, ды трапілі ў засаду. Вярнулася меншая палавіна...

Лукашык толькі дзівіўся, адкуль яна ўсё ведае. Здаецца, нідзе не бывае, увесь час сядзіць дома. Праўда, стары яе ўсё ходзіць па людзях з сякерай за поясам: будуе, цяслярыць. Няўжо гэта ён прыносіць усё? Лукашык не хацеў верыць, што гэты пануры, з носам на ўвесь твар, сонны дзядзька што-небудзь ведае акрамя сякеры.

Сам Лукашык больш маўчаў, слухаючы навіны, рэдка калі гаварыў што пра пачутае, але цётка Мар'яна пакрысе пачала лічыць яго сваім чалавекам.

Аднойчы яна, стоячы ля Лукашыка і пазіраючы, як ён прагна есць пасля шклянкі першаку, спыталася ў яго проста, як у свайго:

— І чаго гэта вы ўляглі ў гэтую гарэлку?

У Лукашыка быў набіты рот, і ён не паспеў адказаць, як цётка пачала зноў:

— Даўно я да вас прыглядаюся: чалавек вы не кепскі, і людзі таксама вас хваляць, што дзяцей не б'яце, як другія, немцам вельмі не ладзіце. А вось чаму вы тут — ніяк да ладу не дайду.

— А дзе я павінен быць? — непаслухмяным языком спытаў ён.

— Не мне вам раіць. Вы не маленькі. А зло таіць на сваіх — грэх вялікі...

Ён ужо ведаў, куды яна гне, і рэзка абарваў:

— Не трэба, цётка, мяне вучыць. І агітаваць...

Лукашык думаў, што пасля гэтай размовы цётка Мар'яна стане злаваць на яго, але памыліўся. Назаўтра яна, нібы нічога між імі не было, прынесла снеданне. Праўда, навін ніякіх не перадала, а можа, і не мела свежых. Затое ў абед, паставіўшы перад ім міску з капустай, адразу пачала:

— Вы чулі (яна ніколі яго інакш не называла, толькі «вы», нібы ў яго не было імя), гэты чалавек, што ўсё хадзіў па вёсках з тачылам на плячах, Борух, ужо больш не ходзіць. Дачуўся, што будуць яўрэяў расстрэльваць, і ўцёк недзе. А я думала, што ён пойдзе за сваім рабінам. Ёсць усё-такі смелыя людзі...

— Знайшлі смелага,— буркнуў Лукашык.

— А што ж, не смелы? Смялейшы за...— Мар'яна зрабіла маленькую паўзу, нібы думаючы, гаварыць ці не,— за... вас! — выпаліла яна, і, відаць, сама спалохалася.

Лукашык бразнуў лыжку аб стол. Твар яго пабялеў, але голас усё ж быў стрыманы:

— Кожнаму свая дарога... Я хацеў бы ведаць: ці не даручылі вам сагітаваць мяне ў партызаны?— Ён злосна глянуў на цётку Мар'яну, але тая стаяла панурыўшыся.— Нешта вы вельмі за мяне ўзяліся... Ці, мо-

жа, я вам замінаю, і вы хочаце, каб я ачысціў ваш пакой? Кажыце прама, я знайду другое месца.

Цётка Мар'яна крыху разгубілася. Адышла да дзвярэй і ўзялася за клямку.

— Не, што вы... Жывіце на здароўе... Я не хацела вас пакрыўдзіць, выбачайце мне, старой. Што думаю, тое і кажу. Больш не буду.— І яна пайшла.

У Лукашыка пасля такіх гутарак адразу псаваўся настрой. Ён пачынаў сябе дакараць, чаму не памёр, як другія, з чыстым сумленнем і спакойным сэрцам. Чаму не памёр самай звычайнай смерцю салдата, якому сляпы лёс ці простая выпадковасць вызначае памерці ад першай кулі?

У такія хвіліны Лукашык, пазіраючы ў акно, са страхам чакаў, што вось пастукаюць у дзверы, увапвуцца ў хату партызаны, стануць дапытваць, чаму ён дэзерціраваў з арміі, чаму пайшоў служыць немцам...

Ён міжвольна шукаў сабе апраўдання, але ўсё довады гучалі нават для яго самога наіўна і не пераконвалі. Тады ён пачынаў [illegible] сабою бясконцую спрэчку, у якой пакуль што яшчэ не было пераможцы.

А ці было што ў цяперашнім Лукашыкавым жыцці такое, што ён мог бы вітаць?

Ён прызнаваўся сабе, што нічога гэтага ў яго няма.

Звярыная жорсткасць, прыніжэнне чалавечай асобы, абсалютнае бяспраўе і нікчэмнасць чалавека перад сілай — вось што значыць «новы парадак». Лукашык быў не такі сляпы, каб не бачыць усяго. Гэта прыйшлі не гаспадары, гэта — акупанты.

Агідна было жыць, адчуваць гэта і бачыць. Хацелася недзе ўцячы, схавацца, каб перажыць ліхалецце дзе-небудзь у зацішку, а пасля вярнуцца, калі стане спакойна на зямлі. А што на ёй будзе тады — зусім няважна. Лукашык адчуваў сябе такім стомленым, як стары конь пасля доўгай дарогі.

Урэшце яго ўяўны спакой быў раптоўна парушаны нечаканым прыходам «гасцей».

Лукашык перачытваў «Стэфенсана», лежачы ў пасцелі, і ўжо збіраўся тушыць лямпу, бо сон пачаў зводзіць павекі, як нехта пастукаў у акно — адзінае акно ў яго пакоі. Ён усхапіўся з пасцелі і ў адной бялізне,

босы выскачыў у сенцы. Спытаў, хто гэта,— яму адказалі «свае». Хутчэй механічна, чым свядома, ён адкінуў засаўку ў дзвярах і націснуў клямку. Ля парога стаяла тры чалавекі са зброяй за плячамі. Адзін з іх, пярэдні, па-руску спытаў, ці можна зайсці. Зайшлі толькі двое.

Лукашык запрасіў іх сесці, а сам пачаў апранацца, прадчуваючы нешта нядобрае.

Старэйшы і, відаць, старшы па чыну, той, што пытаўся, ці можна зайсці, у скураной тужурцы і ў чорнай кубанцы, цяпер без дазволу пачаў закурваць, паставіўшы між каленяў нямецкі аўтамат. Маладзейшы, невысокі, але, пэўна, дужы — паношаны салдацкі бушлат ледзь не трашчаў на яго крутых плячах, з цікавасцю перабіраў кніжкі і газеты, што ляжалі на стале.

— Дык як жывецца, пане Лукашык? — спытаў нарэшце старэйшы, прыкурыўшы папяросу і зацягнуўшыся некалькі разоў...

Лукашыка здзівіла, што ён так упэўнена называе яго прозвішча — нібы ведае даўно.

— Выбачайце, я не з паноў, і панам быць не збіраюся,— нясмела адказаў Лукашык.

— Ну як жа інакш: пан настаўнік, можа, хутка пан дырэктар — і так дойдзе да міністра асветы. Немцы смела вылучаюць сваіх людзей.— «Сваіх» ён знарок падкрэсліў і кінуў уважлівы позірк на Лукашыка.

— Для іх я не свой, як вам вядома,— адказаў Лукашык, углядаючыся ў цёмны, з чорнымі вусікамі пад шырокім носам твар чалавека.

— Праўда, мы ведаем, што вы яшчэ канчаткова не прадаліся немцам, але мы не можам зразумець, што прымушае вас ім служыць. Я папрасіў бы растлумачыць,— жорстка сказаў ён.

— Што ў яго прасіць? — павярнуўся ад стала невысокі, кінуўшы халодны позірк на Лукашыка.— Яго трэба паставіць да сценкі, тады ён усё сам скажа! — выпаліў ён хутка, захлёбваючыся словамі.

«Ну вось, цяпер пачынаецца самае галоўнае,— падумаў Лукашык.— Гэты таксама для віду такі прыстойны. Зараз і ён пакажа зубы».

Але старшы нешта марудзіў. Ён дакурыў папяросу, паглядзеў, куды кінуць недакурак, і, не знайшоўшы нічога, паклаў яго ў вазон на акне.

— Не гарачыся, Саша. Чалавек раскажа сам,— звярнуўся ён да свайго маладога таварыша, і той адразу сціх.— Чаго вы пайшлі служыць акупантам? — Старшы зноў павярнуўся да Лукашыка.— Вы хіба лічыце іх вызваліцелямі? — Голас яго стаў сярдзіты.

Лукашыка апяклі яго словы.

— Мне цяжка адказаць вам на гэта адразу...— Лукашык замоўк, як зацяўся.

— А вы не шкадуйце часу. Яго ў нас хапае...

Прысеўшы на край ложка і ўчапіўшыся рукамі ў біла, Лукашык намагаўся сабраць свае думкі.

— Немцы прыйшлі сюды як заваёўнікі, гэта ясна,— пачаў, намагаючыся, Лукашык.

— Нават яму ясна,— уставіў сваё невысокі.

Лукашык і старшы глянулі на яго, але прапусцілі міма вушэй гэтыя словы.

— ...Але асабіста мне яны нічога кепскага не зрабілі,— працягваў Лукашык.

— Так разважае толькі шкурнік,— зноў уставіў невысокі, не крануўшыся з месца.

— У вашых руках зброя, і вы можаце смела гаварыць у такім тоне,— абрэзаў яго Лукашык.

— Не звяртайце ўвагі,— супакоіў яго старэйшы.— Гаварыце...

Лукашык скоса глянуў на невысокага, які па-ранейшаму стаяў ля стала і ўсё капаўся ў кніжках, хацеў яшчэ раз агрызнуцца, але стрымаўся — што з ім спрачацца? Ён, калі спатрэбіцца, заўсёды дакажа сваю праўду.

— Прапанавалі работу, далі кавалак хлеба... Жыву спакойна... Пакуль што...

— А хіба да вайны вы былі беспрацоўным? — ужо сам не стрымаўся старшы.— І жылі пад страхам?

— Я кажу пра сённяшні дзень...— запнуўся Лукашык.

— Вось-вось! — зноў пачаў прыставаць невысокі.— Не чапай мяне, і я цябе не зачаплю! А калі зачэпяць?

— Тады будзе відаць,— ухіліўся ад адказу Лукашык.

— Авечая філасофія,— сярдзіта сказаў невысокі.— Калі б зямля трымалася вось на такіх філосафах, чалавецтва яшчэ тапталася б недзе ў сярэднявякоўі.

— Скажыце ўсё-такі, што кепскае зрабіла вам Савецкая ўлада? — спытаў старшы.— Чым пакрыўдзіла?

— Саслала маіх бацькоў,— панура прамовіў Лукашык, пазіраючы на свае босыя ногі. Ён быў перакананы чамусьці, што яны ўсё ведаюць, але пытаюць проста так, для віду.

— Дык вы помсціце? — упарта дапытваўся старэйшы.

Лукашык думаў, што адказаць, а невысокі зноў уставіў сваё, рэзкае:

— Шкада, што яго самога не расстраляла,— адным ворагам было б менш.

— Супакойся, Бяссмертны,— сказаў старшы, зірнуўшы на таварыша.— Скажыце лепш, Лукашык, вы самі ў той час жылі з бацькамі?

— Не, у мяне была сям'я ў горадзе.

— Але ж вас маглі там знайсці?

— Ім і шукаць не трэба было: я жыў у пракурора, быў жанаты з яго дачкой.

— Хацеў прымазацца, шкура,— зноў не стрымаўся невысокі.

— Вы нічога не ведаеце, а гаворыце,— агрызнуўся Лукашык.— Мяне, можа, не ўзялі праз памылку, як праз памылку ўзялі маіх бацькоў.

— Вы лічыце, што вашы бацькі не вінаваты? Ці не так? Хто яны былі: кулакі? Падкулачнікі? — спакойна пытаў старшы, нібы не заўважаючы, што Лукашык пачынае кіпець.

— Якія кулакі? Звычайныя людзі. Бацька крыху займаўся садоўніцтвам. Я не думаю, каб ён вёў якуюнебудзь падрыўную дзейнасць.

— Можа быць і так,— задуменна сказаў старшы.— Можа быць... Цяпер аб тэтым гаварыць яшчэ рана. Час пакажа. Перагібы ў нас былі, няма што грэх таіць. Ёсць такое ў характары некаторых людзей — пастарацца, каб пахвалілі. Але нельга з гэтага рабіць песімістычных вывадаў.

— Вы хочаце, каб я быў велікадушны і дараваў? — насмешліва спытаў Лукашык, звяртаючыся да старшага.

— Прападзе Савецкая ўлада, калі ёй не даруе адзін недабіты падкулачнік...— зноў з'едліва кінуў невысокі.

— Ты праўду кажаш, Бяссмертны. Савецкая ўлада не прападзе ад таго, што яшчэ адзін незнарок пакрыўджаны ўзніме супроць яе зброю... Але я спачуваю вам, Лукашык, і думаю, што вы сапраўды не дробязны чалавек, бо калі б вы былі такі, вы ўжо сталі б — сама меніп — начальнікам паліцыі... А наконт крыўды... Я сам быў у адносінах да яго,— тут старшы паказаў рукою на свайго таварыша,— уладай, якая жорстка з ім абышлася...

Невысокі крута павярнуўся: увесь яго выгляд нібы прасіў — не трэба!

Старшы заўважыў гэта і падняў руку з растапыранымі пальцамі, нібы агароджваючы ад усякіх пярэчанняў.

— Будзем гаварыць прама. Даруй, Саша... Я расстрэльваў чалавека, якога вы бачыце перад сабой... Як гэта ні цяжка гаварыць, аднак гэта праўда... Ён узяў боты ў аднаго дзядзькі. Боты, аказваецца, былі сынавы, той служыў у Чырвонай Арміі. Гэта, фактычна, была памяць аб сыне... Дзядзька паскардзіўся камандзіру атрада, і мы прысудзілі Сашу да расстрэлу. Час быў цяжкі, трэба было мацаваць дысцыпліну. Мне даручылі выканаць прысуд. Паверце, мне было нялёгка гэта рабіць — не з дабра Саша ўзяў тыя боты: ён хадзіў амаль што босы, а на двары ўжо была глыбокая восень. І вось мы з адным байцом позна вечарам пасадзілі Сашу на фурманку і павезлі. Прыехалі на могілкі, сталі. Я загадаў Сашу злазіць і ісці, а сам — за ім з пісталетам. Не буду гаварыць, што ў мяне рабілася тады на сэрцы... Я не хацеў, каб хлопец адчуў страх перад смерцю ў апошнюю хвіліну, калі да твару прыстаўляюць зброю. І я на хаду стрэліў у яго ззаду... Ён упаў. Тады мы з байцом сталі за агароджай капаць магілу. Раптам чуем: дзікі рогат, загрукалі калёсы па мёрзлай зямлі, і са свістам і гіканнем нехта памчаўся на нашым возе. Кінуліся туды, дзе стаяла фурманка, і знайшлі ахапак сена ды салдацкую шапку-вушанку. Я падняў яе. Яна была прабіта маёю куляй... Саша прапаў. А праз паўгода мы знайшлі яго ў другім атрадзе. Там яго ведалі як адважнага падрыўніка-дыверсанта. Мы прапанавалі яму перайсці да нас. І вось бачыце, ён не адмовіўся. Цяпер яго інакш не называюць у нас, як Бяссмертны, хоць прозвішча ў яго зусім другое... Дык

як, па-вашаму, Лукашык, меў ён права крыўдаваць на мяне? А ён дараваў...

— Мог і не даравацъ,— прабубніў Лукашык.

Старшы хвіліну думаў, пасля правёў далонню па твары.

— Ёсць памылкі, якіх нельга паправіць. Гісторыя багата такімі фактамі, як ні крыўдна. Трэба вучыцца не паўтараць іх зноў — вось у чым уся справа.— Ён устаў з крэсла, перакінуў цераз шыю аўтамат і сказаў, пазіраючы ў твар Лукашыку: — Мы даём вам час падумаць, калі вы здольны аналізаваць падзеі... Пайшлі, Бяссмертны...

І ўжо на парозе, узяўшыся за клямку, спыніўся і павярнуў галаву да Лукашыка, нібы нешта ўспомніўшы.

— Прабачце,— сказаў ён суха.— Чуць не забыўся... Вам прывітанне ад Валі Калейнік. Спадзяюся, вы яшчэ яе не забылі...

— Што, што вы сказалі? — аж падскочыў Лукашык і кінуўся да дзвярэй.

Але абодва госці хутка выйшлі на двор. Скрып іх крокаў яшчэ колькі часу далятаў да Лукашыка, які, як аслупянелы, стаяў ля парога. Усяго чакаў ён ад гэтых людзей, толькі не прывітання ад Валі.

Лукашык доўга стаяў яшчэ ля парога, аж пакуль не адчуў, што мерзне. Здрыгануўшыся, ён зачыніў дзверы і падаўся ў хату. Ляскаючы зубамі, распрануўся, патушыў лямпу і нырнуў пад коўдру. Сагрэўся, хацеў заснуць, але дарэмна. У яго шэрае спакойнае жыццё ўварваўся віхор.

## X

На заданне!.. Як нязвыкла. Нават страшна! Што чакае іх сёння?.. Валя ўздрыгвае, хоць не ад холаду, бо яна апранута цёпла: у старых падшытых валёнках, у кажушку, падпяразаным вузкай папружкаю.

Ціха, без шуму сабралася дыверсійная група на заданне. Двое саней, на іх па тры чалавекі. На пярэдніх — ручны кулямёт. Яшчэ некалькі партызан — на конях.

Камандзір групы Саша Нячай, або, як усе яго называюць, Бяссмертны, стрыманы, негаваркі чалавек, правярае яшчэ раз, ці ўсё гатова.

Нарэшце крануліся. Саша падыходзіць да свайго каня — паджарага, танканогага, спрытна ўскоквае ў сядло. Ломячы нізкі хмызняк, ён абмінае ўсіх і першы выязджае на ледзь прыкметную ў цемры зімовай ночы дарогу. Чакае, пакуль нагоніць першая фурманка.

— Хто замерзне — хай не лянуецца прабегчы за санкамі,— прыцішаным голасам, які цяжка разабраць за скрыпам палазоў, звяртаецца ён да людзей.— Размоў — ніякіх!

Хацеў ад'ехаць, але прытрымаў каня і спытаўся:

— Як адчувае сябе новы падрыўнік? Не страшна? — гэта сказана Валі.

— Рана пытаць. Але думаю, што з вамі не прападу.

— Чаго там, у нас моцная ахова,— умяшаўся ў гутарку пажылы партызан, кіўнуўшы галавой на Валінага суседа, чарнявага, з вусамі, грузіна Сандро, узброенага ручным кулямётам.

— Ты ўсё жартуеш, дзядзька Міхаль, але глядзі, не забывай, з кім жартуеш,— неяк сур'ёзна, без ценю ўсмешкі ў голасе, папярэдзіў яго Бяссмертны.

— Я-та ведаю,— працягваў той,— што вы ўсе гарачыя. Толькі ў такой справе гарачкі пароць нэ трэба...

— У якой гэта? — перапытаў Бяссмертны.

— А ў нашай, партызанскай,— адказаў дядзька, і цяжка было зразумець, што ён мае на ўвазе.

Бяссмертны нічога не сказаў, толькі напяў павады, і яго хуткі на хаду конь ірвануў наперад, пакідаючы ззаду фурманкі.

Сандро толькі цяпер зварухнуўся. Ён павярнуў да Валі вусаты твар, затулены каўняром, і з акцэнтам сказаў:

— Вельмі, вельмі клапатлівы камандыр...

— Гэта якраз някепска...

— Я панымаю,— шматзначна дадаў Сандро і змоўк, толькі заварушыўся на сядзенні, падбіраючы ямчэй полы кажуха.

Усе прыціхлі. Валя хацела разабрацца, што хацеў сказаць дзядзька Міхаль. Нешта ён хітруе. Гэта з яго

ласкі, відаць, Валя апынулася на адным возе з Сандро. Ой, стары...

Як толькі Валя з'явілася ў лагеры, усе адразу прыкмецілі, што чарнявы грузін-акружэнец Сандро Баладзе не можа спакойна прайсці міма зграбнай светлавалосай дзяўчыны з прыемным бялявым тварам і высокімі грудзьмі. А крыху пазней усе заўважылі, што камандзір дыверсійнай групы Бяссмертны раптам пераменіўся да свайго лепшага сябра Сандро. Як бы ўдала ні правёў аперацыю Сандро, заўсёды Бяссмертны знаходзіў да чаго прычапіцца. Але горш за ўсё было тое, што камандзір часам не дазваляў Сандро ісці на аперацыі, і Сандро хапаўся за кабур. Тады звычайна іх мірыў камісар Шылаў, які меў асаблівую ўладу над неспакойным і гарачым па натуры Бяссмертным.

Валя доўга не здагадвалася, чаго Сандро і Саша, гэтыя цёзкі і блізкія сябры, раптам неўзлюбілі адзін аднаго. Саша быў больш стрыманы ў сваіх пачуццях. чым Сандро, але Валя пачала заўважаць, што камандзір падрыўнікоў не выпадкова спыняе свой позірк на яе твары, знаходзіць прычыну зачапіць яе словам, але неяк нясмела, ненатуральна, без усмешкі.

Відаць, не без уплыву Бяссмертнага так лёгка перавялі Валю з кухні проста ў яго групу — з кухаркі і прачкі яна стала разведчыцай і падрыўніцай.

І тут ужо Бяссмертны як цень хадзіў за ёю. Даручаў толькі самыя простыя справы, аберагаў кожны яе крок, папярэджваў, вучыў быць пільнай і разважлівай. Валя не раз пытала сама сябе, для каго ён яе аберагае, і здагадвалася, што, мусіць, не для мужа, пра якога ён усё ведаў.

Пазней камісар Шылаў расказаў Валі пра начны візіт яго і Бяссмертнага да Лукашыка.

Усё яна складвала адно да аднаго, шукала і знаходзіла сувязь.

Хоць Валя і пакінула мужа, але сама пра каханне ў такі час не хацела і думаць.

Яна не разумела мужчын, якія, ходзячы над прорвай, паспяваюць яшчэ думаць аб нечым такім, аб чым можна думаць пры спакойным жыцці, калі свеціць сонца і вецер дыхае пахамі зямлі. Думаць аб уласным шчасці можна тады, калі ўсе шчаслівыя. Яна ўспамінала чутае некалі ад дзеда: «Калі ты ясі перад галод-

ным, то не забудзься даць і яму». Таму яна не выбірала. Яна была аднолькавая з усімі — з Сандро, з Бяссмертным, з дзядзькам Міхалём — і за гэта яе любілі.

Аднак Валя разумела, што ўсяму ёсць нейкі канец, і баялася, каб цераз яе не здарылася якой бяды ў гэтых гарачых хлопцаў — яе камандзіра і каўказца Сандро. Абодва яны раўніва пераймалі яе позіркі, цішком сачылі, каму з іх яна аддае перавагу. У кожнага з іх было цярпенне — нягледзячы на гарачнасць — чакаць, пакуль сама яна, Валя, не зробіць выбару...

А паабапал мільгалі чорныя камлі хвоек, радкавых, але выносістых, роўных, як струны, велічных і спакойных, з купчастымі шапкамі ўверсе, якія злёгку пагойдваліся і сыпалі снег на зямлю. Там, уверсе, гуляў вецер, а ўнізе было нязвыкла ціха, толькі скрып палазоў парушаў лясную цішу. Скрып аднастайны, невыразны. але прарэзлівы, галасісты. Здавалася, гэта нейкія таемныя галасы — хуткія і бязладныя — хочуць сказаць людзям нейкую сваю праўду, папярэджваюць аб нечым, але дарэмна — яны спяшаюць, гарачацца, заглушаюць адзін аднаго і ператвараюцца ў хаатычныя бязладныя гукі, якія не могуць дайсці да гэтых людзей, што заняты сваім.

Дарога нібы павузела: пачалі пракідацца елкі, старыя, разлапістыя, з камякамі снегу на спушчаных аж да зямлі галінах. Хутка густы ельнік зусім сціснуў дарогу, калючыя галіны пачалі біць людзей па тварах, пасыпалі снегам вопратку. Цемра яшчэ больш згусцілася, стала таямнічай і страшнай.

Валя міжвольна пасунулася бліжэй да Сандро, але схамянулася. Ён сядзеў нерухома, толькі часам пагойдваўся, калі санкі падскоквалі на выбоіне ці на карані.

Ей ужо надакучыла сядзець скурчыўшыся, у яе пачалі балець плечы і млець ногі, спакваля падкрадваўся холад.

Сандро зацята маўчаў. Не пад'язджаў больш да іх і Бяссмертны. Дзядзька Міхаль таксама, відаць, не хацеў адзін быць «парушальнікам дысцыпліны» і не падаваў голасу, толькі паганяў каня.

Часам ззаду іх наганяла другая фурманка, Валя чула цёплае дыханне каня ў сябе над галавою, чула,

як бразгаюць цуглі на зубах у жывёлы, якая перабірала пустую салому ў сядзенні.

Раптоўна дарога рэзка звярнула ўлева, стала шырэйшая і гладкая. Вецер зверху прарваўся да самай зямлі, сыпануў снегам у вочы.

Камандзір групы збочыў, прапусціў міма сябе абедзве фурманкі і ціха скамандаваў «стой». Ля яго ў момант згрудзіліся астатнія коннікі. Бяссмертны скінуў рукавіцу з рукі і свіснуў у пальцы.

Праз хвіліну на дарогу выйшлі два чалавекі.

Бяссмертны крануў повад і пад'ехаў да іх. Яны аб нечым пагаварылі, і камандзір зноў вярнуўся да сваіх, Спыніўся перад групай, супакоіў каня і сказаў:

— Уязджаем у небяспечную зону. Да вёскі Галубы дзесяць кіламетраў, да моста — чатырнаццаць. Быць напагатове. Паехалі!

Конь пад ім узняўся на дыбкі і рвануў наперад. Снежны віхор паляцеў следам.

Дзядзька Міхаль цмокнуў, тузануў лейцамі і пусціў свайго гнядога наўздагон. Калючы снег сыпануў у твар, у вушах засвістаў халодны вецер. Скрыпелі палазы, ляцелі сані...

Эх вы, партызанскія ночы! Неспакойныя халодныя ночы, доўгія цяжкія зімы! Завеі, маразы! Выбухі, кулі, раны! Глыбокія, балючыя, суровыя шрамы на ўсё жыццё! Коні гарачыя, лёгкія сялянскія сані! Колькі адмералі вы кіламетраў па гладкай, як шкло, дарозе, па калдобінах, па цаліку! Ляцелі вёрсты, ляцелі кулі, абрывалася жыццё — маладое, пеністае, нецалаванае... Беларускія хлопцы, дзяўчаты! Вашай адвагі, вашай крыві і пакутаў не забудзе ніхто! З вашых учынкаў, малых спраў і вялікіх,— будзе дзівіцца ўвесь свет. Пазарастаюць травою магілы, асыплюцца ў лесе нізкія зямлянкі, вырасце новае пакаленне людзей, што не чула, не ведала войнаў, а ваша слава будзе звінець бясконца — пакуль будзе стаяць зямля!

Хутка павінна было днець, бо навокал пацямнела яшчэ больш. Снег не сціхаў, круціла, мяло ля стога, засыпала людзей і коней.

Працяглы аднастайны свіст ветру на жардзіне ў стозе наганяў на Валю тугу. Пасля з'явілася трыво-

га: і выбуху не было чуваць, і людзі не вярталіся.

Праходзіла крыўда на Бяссмертнага, які забараніў ёй ісці разам з усімі да самага моста. Пайшлі ўсе мужчыны, толькі дзядзька Міхаль застаўся з коньмі ля стога. Асцярожна, адзін за адным падаліся хлопцы па нешырокім рэчышчы замёрзлай ракі, па лёдзе, прысыпаным снегам. Валя з сумам пазірала, як яны аддаляюцца, як хутка зліваюцца іх маскіровачныя халаты з белай снегавою наміткай.

Валя добра ведала, колькі адвагі, спрыту і цярпення трэба мець, каб пад носам у немцаў узарваць чыгуначны мост...

Але Саша Бяссмертны — вопытны разведчык і падрыўнік, за кароткі час службы ў яго дыверсійнай групе Валя ў гэтым пераканалася. Але чаму ён пабаяўся ўзяць яе з сабою? Каб не замінала? Ці ён прадчуваў небяспеку?

Раптам на поўдні, у кірунку чыгункі, успыхнула неба, нібы з-за гарызонту хацела ўзляцець — і не ўзляцела — ракета, пасля выбух скалануў паветра і пакаціўся далёка-далёка, да самага лесу.

Ірвануліся, аж прыселі, спуджаныя коні, неспакойна застрыглі вушамі.

— Ціха, ціха вы...— азваўся на санках дзядзька Міхаль, які ўсё курыў у рукаў і напружана, як і Валя, услухоўваўся ў аднастайныя начныя гукі. Цяпер ён ускочыў на ногі і стаў папраўляць вупраж.— Вось бачыш,— сказаў ён Валі, якая нецярпліва тупала каля стога,— наш Бяссмертны не прамажа! Шчаслівы чалавек, каб толькі не перагаварыць... А глядзі, нешта не чуваць больш нічога, няўжо абыдзецца без бою?

Валя сама ўжо думала пра гэта. Там цішыня: ні аднаго стрэлу, ні падазронага гуку... Толькі аднастайны і назойлівы свіст-завыванне ветру ды ціхі шоргат сыпучага снегу.

— Дзядзька Міхаль, а можа, мы пад'едзем? Насустрач...— сказала Валя дзядзьку, які здымаў коўдру са свайго гнядога.

— Яно можна было б,— азірнуўшыся навокал, памяркоўна сказаў Міхаль,— але ці ведаем мы, дзе яны будуць... Паедзем і яшчэ размінёмся. Лепш пачакаць, як мне здаецца...

«Можа, і твая праўда,— падумала Валя,— але хутчэй за ўсё баішся ты, дзядзька, парушыць загад Бяссмертнага, толькі не прызнаешся мне». І нейкая няпрошаная гордасць за свайго камандзіра з'явілася ў Валіным сэрцы, нешта падобнае на пяшчоту да гэтага хлопца ўпершыню ахапіла яе.

— Ну, пачакаем, калі так...

Чакаць давялося нядоўга. Валя спачатку пачула, як зарыпеў снег. Яна пачала ўзірацца ў цемру, але нічога не заўважала. Пасля раптоўна ля самага стога вырасла некалькі постацей.

Першы крочыў Саша Бяссмертны, за ім ледзь паспявалі два партызаны — Харытоненка і Школьнік,— маладыя хлопцы. Крыху ззаду дробна клыпаў праваднік з Галубоў.

— Паехалі,— выдыхнуў Бяссмертны і ўваліўся ў сані.

Гэта было так нечакана, што Валя не ведала, што падумаць.

— А дзе ж... усе? — з запінкаю спытала яна.

— Чакаюць... Усе жывы-здаровы,— неяк абыякава і спакойна адказаў Бяссмертны.— Не назад, дзядзька Міхаль, паедзем прама,— незадаволена сказаў ён, нібы дзядзька павінен быў загадзя ведаць, куды загадаюць ехаць.

Заскрыпеўшы намёрзлымі палазамі, сані крануліся з месца. Справа і злева, храпучы і правальваючыся ў снег, трухалі асядланыя коні.

Партызаны ехалі зноў па той самай дарозе, толькі не назад, а далей, у кірунку вёскі Навасёлкі, якая прымыкала да чыгункі і ад якой ішла дарога проста на поўнач, у лясы, што цягнуліся аж да іх лагера. Гэта была спроба замясці сляды і выратаваць Галубы ад расправы «за сувязь з партызанамі».

Валя зноў сядзела на сваім месцы, дзядзька Міхаль па-ранейшаму размясціўся ў перадку, а побач замест Сандро быў Саша Бяссмертны. Здавалася, што нічога не змянілася,— нібы яны ўсё яшчэ едуць з самага вечара і нічога не было ў іх за плячыма: ні чакання, ні страху і рызыкі, ні таго магутнага раскацістага выбуху на чыгунцы. Толькі Саша замест Сандро... Але абодва, і той, і гэты, як згаварыўшыся, маўчаць. Няўжо вось яму, камандзіру, не хочацца раска-

заць, як ім пашанцавала на заданні? Не, Валя таксама не стане распытваць у яго. Не хоча сам — не трэба!

Яна крадком зірнула на свайго маўклівага суседа. Ён сядзеў панурыўшыся, заняты думкамі, ці, можа, проста адпачываў.

Некалькі разоў азірнуўся дзядзька Міхаль, нібы збіраўся нешта спытаць, але таксама стрымліваўся, толькі сярдзіта гнаў свайго гнядога.

— Тпру!!! — раптам нацягнуў ён лейцы і аж адкінуўся на спіну.

Даючы дарогу фурманкам, збоч стаялі людзі ў белым. Пярэдні, высокі, падняў угору руку. Гэта Сандро.

— Падвязі, бацька! — Ён быў вясёлы, узбуджаны.

Пакуль нанова рассаджваліся, пакуль перакідваліся словамі і жартам, прайшло колькі хвілін. Зноў Бяссмертны гарцаваў спераду на сваім паджарым кані. А побач з Валяй зноў сядзеў Сандро.

— Ну, Валя, каб ты ведала, як мы сёння пасталіся! — гаварыў Сандро, павярнуўшыся да яе, і ў голасе яго была неўтаймаваная радасць.— Ды што я кажу — мы! Бяссмертны! О, гэта чараўнік! Каб ты бачыла яго сёння, ты ведала б, што ён за чалавек. Гэта арол, якіх мала на зямлі. Гэта чыстакроўны горац. А хіба скажаш, глянуўшы на яго, што гэта герой? Самы звычайны! Паслухай. Ён адразу падзяліў нас: мяне і трох хлопцаў паслаў адцягваць увагу немцаў. Сам першы папоўз да моста, а за ім — дублёры. Гэта яго любімы манеўр! Калі што якое, ён падае сігнал маёй групе, каб прыняла на сябе агонь варты, а сам — як бы там ні было — павінен спачатку ўзарваць аб'ект, а пасля ўжо толькі, калі інакш нельга,— памерці. Фанатык! А як ён здымаў вартавога! Гэта трэба ўмець! Я глядзеў, як той ходзіць па насціле моста, і раптам бачу — прапаў вартавы, як пад зямлю праваліўся. А праз хвіліну толькі бліснулі іскры — гарэў шнур. Гэта талент! — Сандро ўдарыў кулаком па калене.— Сёння я яму проста зайздросціў.

Валя была ўражана такою пахвалой.

— Хіба вы памірыліся? — спытала яна.

Сандро задумаўся.

— Я не люблю быць супернікам. Або першы, або сыходзь з дарогі. Толькі так. Гэты раз — першы ў жыцці! — я прызнаю сябе пераможаным.— У яго голасе

была горыч.— Не думай, што гэта для мяне проста зрабіць... А яшчэ больш прызнацца табе... Ты разумная, усё павінна зразумець...

Раптоўны глухі стрэл недзе ўперадзе перарваў размову. Узляцела ракета.

Не паспела ракета патухнуць, як Сандро ўжо ляжаў на снезе ля дарогі за кулямётам.

Змрок зноў ахінуў зямлю, яшчэ больш густы пасля яркага святла, але зноў узляцела ракета, і ўслед за ёю прагрымела некалькі стрэлаў. Над галавою засвісталі кулі. Да Валі даляцеў голас Бяссмертнага: «Вярні назад!» Сам ён, ледзь стрымліваючы спуджанага каня, круціўся на месцы, чакаючы, пакуль санкі не павярнулі назад. У гэты час побач застракатаў кулямёт Сандро, і гэта крыху супакоіла людзей.

Немцы, што былі, відаць, у засадзе, пабаяліся падпускаць блізка да сябе партызан і адкрылі агонь здалёк.

Сандро і Бяссмертны, якія прыкрывалі адыход усёй групы, хутка дагналі сваіх.

Ударылі па конях. Вецер свістаў у вушах, людзей засыпала снегам. Санкі, як лёгкая лодка на моры пад час буры, кідаліся ў бакі, падскоквалі на ўхабах і гатовы былі перавярнуцца.

Наперадзе ўжо была відаць вёска, ля якой яны спыніліся дзве гадзіны назад. Пачынала світаць. Выразна вырысоўваліся прысыпаныя снегам будынкі, з гурбаў тырчалі голыя галіны саду.

Партызаны праскочылі вёску адным духам і толькі выехалі з яе, як раптоўна вінтовачны залп змусіў іх спыніцца. Са стогнам упаў паранены конь, затрашчала аглобля.

Але першае замяшанне прайшло, і Бяссмертны прыняў рашэнне абараняцца, бо пакінуць вёску і прымаць бой у полі, не ведаючы сіл праціўніка, было рызыкоўна. Прарывацца ж у лес цераз балота, якое рэдка калі замярзала і было на віду, таксама не выпадала.

Пачынаўся бой. Палова людзей засталася ў гэтым канцы вёскі, палову Бяссмертны паслаў у другі, каб не даць немцам уварвацца з таго боку, бо цяпер ён разумеў, што і першая група праціўніка, з якой яны

сутыкнуліся ўпачатку, і гэтая — звязаны і выконваюць адну задачу.

Хутка і з другога канца вёскі данесліся стрэлы. Немцы, відаць, ведалі сілы партызан і спадзяваліся, што тыя доўга не пратрымаюцца. А можа, яны баяліся, каб партызаны не ўцяклі якім-небудзь цудам, не расплаціўшыся за ўзарваны мост?

— Спешаныя коннікі...— злосна сказаў праз зубы Бяссмертны, мецячы ў пярэдняга немца. Стрэл. Немец упаў, але зноў ускочыў на ногі і тут жа паваліўся. Да яго падпаўзлі два салдаты, па іх дружна ўдарылі партызаны. Адзін немец застыў на месцы, другі пачаў паволі адцягваць назад параненага.

За метраў трыста ззаду ад немцаў чарнела чарада коней — не менш дваццаці.

Справа і злева ад Бяссмертнага патрэсквалі партызанскія аўтаматы. Сам Бяссмертны мяняў ужо другі дыск.

— Хлопцы, глядзіце патроны! — крыкнуў ён на сваіх.— А то нас голымі рукамі возьмуць.

— Апякуцца, таварыш камандзір,— прабасіў адзін з партызан, худы, маладжавы з твару Язвіцкі, які прыйшоў у партызаны з паліцыі і не скінуў яшчэ свайго чорнага шыняля.— Яны рады былі б узяць нас жыўцом, але хваробу...

— Ну,— перапыніў яго Бяссмертны.— Ты ўжо сабраўся паміраць. Жыць трэба!

Настала раніца. Вецер крыху аціх, але мяло пазёмку, засыпала вочы, студзіла рукі і твар.

Бой зацягваўся. Стралялі і ў тым канцы вёскі. Цяжка было зразумець хто — свае ці немцы. Але калі застракатаў кулямёт, Бяссмертны адразу ўсміхнуўся Валі.

— Пазнаеш галасок? Гэта Сандро...

Бяссмертны ўжо ведаў, што яны ўскочылі, можа, у выпадковую, але добра расстаўленую пастку, і што вырвацца з яе ўдасца нямногім. Цяпер ён каяўся, што падзяліў групу на дзве часткі — трэба было ўсім разам паспрабаваць прарвацца, а цяпер пра гэта няма чаго і думаць. Немцы ўсё цясней будуць заціскаць пятлю.

Але ён усё яшчэ не траціў надзеі. Знойдзецца выйсце, не можа быць. Добра, што гэта толькі перастрэлка...

Пачуўся крык — кароткі, жудасны. Справа на снезе курчыўся і перабіваў нагамі Язвіцкі.

Першая Валя, а за ёю і Бяссмертны кінуліся да яго. Язвіцкі паміраў. Куля трапіла яму ў шыю ля самай ключыцы. На яго раскрытых пасінелых вуснах паказалася чырвоная пена. Пасля кроў лінула фантанам, фарбуючы снег. Язвіцкі напяўся, спрабуючы ўстаць, і апаў на дол.

Немцы пачалі страляць часцей.

— Ну, хопіць плакаць! — рэзка крыкнуў ні з таго ні з сяго Бяссмертны. Усе, здрыгануўшыся, пераглянуліся: ніхто не плакаў.— Будзем адыходзіць назад. Першая пойдзе Калейнік. Трэба злучыцца з астатнімі. Хутка! Паўзком!

Валя пакорліва закінула за плечы сумку і папаўзла ў бок вёскі. Адпаўзла крыху, азірнулася: распластаныя на снезе, варушыліся чалавечыя фігуры. За імі відаць былі санкі і забіты ў аглоблях конь.

Валя паўзла, а над ёю ціўкалі кулі, уздымаючы снег то справа, то злева. Яна чакала кожную хвіліну, што яе насцігне смерць, і ўсё паўзла і паўзла.

Цяпер цяжка было разабраць, што рабілася ў вёсцы. Калі Валя дабралася ў другі канец, яна ўжо нікога не застала.

Валю палохала цішыня. Але вось на суседнім двары даў кароткую чаргу кулямёт. Аднекуль яму адказалі дзве аўтаматныя чаргі. Валя мінула доўгі хлеў, прабегла ля плота і апынулася на прасторным двары.

Прытаіўшыся за калодзежным зрубам, Сандро прыпаў да кулямёта. Валя, стаіўшыся за рогам хаты, чакала, баючыся перашкодзіць. У гэты момант яна пачула, як засвісталі кулі, пасля далясцеў трэск аўтаматнай чаргі, і Валя са страхам убачыла, як у Сандро сарвала шапку, а галава яго бездапаможна ткнулася ў снег. Валя кінулася да калодзежа.

Сандро ўзняў галаву, і Валя ўбачыла, як у яго па шчацэ з-пад вуха сцякаў струменьчык крыві. Затуманеныя вочы Сандро зірнулі на Валю. Яны не загадвалі, не прасілі, а былі безуважныя, як сонныя.

Дрыготкімі, як не сваімі рукамі Валя пачала адшпільваць сумку. Раптам яна заўважыла, што проста

6 Зак. 3425

на іх цераз агароды беглі два немцы, размахваючы аўтаматамі. Можа, яны не заўважылі Валі, якая кінулася да кулямётчыка, толькі яны беглі без асцярогі, не згінаючыся. І гэта вярнула Валі ранейшую сілу. Яна прынікла да кулямёта. Бачыла, як, ускідваючы нагамі снег, набліжаюцца немцы, большаюць, ужо відаць гузікі на іх шынялях, разагрэтыя боем твары.

Затаіўшы дыханне — гэта было цяжка, бо сэрца стукала ў грудзях на ўсю моц,— Валя націснула на спуск. Яе скаланула, аглушыла, яна ўжо нічога не разбірала перад сабою, а кулямёт усё скакаў, падымаючы ножкамі снежны пыл, нібы хацеў вырвацца з яе рук. І раптам заціх.

Валя не адразу зразумела прычыну. Яна разгубілася: глянула туды, дзе нядаўна беглі немцы, але іх не было відаць. Валя чакала яшчэ хвіліну, думала, што яны паявяцца зноў, але было ціха. І яна зноў кінулася да Сандро.

Сандро, заплюшчыўшы вочы і сцяўшы зубы, ціха стагнаў, калі яна выцірала яму кроў, а пасля забінтоўвала галаву. Ён быў белы як снег, нават стаў сінець, і Валя пачынала баяцца, што ён можа памерці ў яе на руках.

...Яна стамілася, пакуль прыцягнула Сандро да стога сена, таго самага стога, ля якога яны спыняліся ноччу. Па ёй стралялі, але яна не зважала на гэта. Ломячы да крыві пазногці аб жорсткае халоднае сена, Валя выскубла знізу ля самага стажарышча глыбокую нару, асцярожна ўкаціла туды Сандро, пасля апранула свой кажушок, на якім цягнула па снезе Сандро, замаскіравала нару ў стозе і загуменнямі падалася зноў у вёску.

У вёсцы не было ніякага руху, яна нібы вымерла. Але гэта так здавалася. Вёска толькі прытаілася, насцярожылася...

У тым канцы, дзе застаўся Бяссмертны з групай, паказаўся дым. Валю ахапіла трывога: немцы паляць вёску. Няўжо ўсё скончана? Яна кінулася падбегам.

Калі б яна апынулася тут на пяць хвілін раней, то ўбачыла б такі малюнак.

Завальваючыся ў глыбокі снег, бег невысокі партызан у бушлаце. Ён кіраваў проста да невялікай пуні на агародах. Немцы стралялі па ім, ён падаў, але падымаўся і шыбаваў далей. Нарэшце дабег да пуні, ад-

чыніў дзверы, ускочыў у сярэдзіну. Адзін з тых, што спасцігалі партызана, загнаў у вінтоўку абойму з запальнымі кулямі.

Метадычна, з кароткімі інтэрваламі, прагучала пяць стрэлаў. Немцы чакалі, аж пакуль над страхою ў дзвюх мясцінах паказаўся дымок. Ён рос, гусцеў, колкі вецер круціў яго, збіваў са страхі, але праз некалькі хвілін на месцы дыму выбліснула полымя, стала разрастацца, набіраючы сілу.

Хутка над будынінай бушаваў пажар. Немцы паволі набліжаліся да агню. Яны не стралялі. Маўчаў і партызан. У яго, відаць, не было патронаў. Не падыходзячы на адлегласць пісталетнага стрэлу, немцы спыніліся.

Яны чакалі, што дзверы адчыняцца і адтуль, ім проста ў рукі, выскачыць партызан, якога страх смерці загнаў у гэтую ненадзейную схованъ. Але праходзілі доўгія хвіліны, а ён не паказваўся. Ужо ўся страха гула полымем лат і ключоў. Ахапкі палаючай саломы зрываліся са страхі і з трэскам падалі ўніз, узнімаючы пырскі бледных іскраў; снег па ветры ад пуні пакрываўся чорным парушыннем.

Немцы пастаялі яшчэ крыху, падстаўляючы да агню то адзін, то другі бок і ўрэшце, страціўшы надзею на тое, што партызан яшчэ жывы, падаліся ў другі канец вёскі, дзе зноў пачыналася страляніна.

Але яны памыліліся. Скрыпнулі дзверы, і проста з агню паволі выйшаў чалавек. Ён быў увесь чорны, вопратка на ім тлела, а з зімовай салдацкай шапкі валіў густы дым. Чалавек адышоўся крокаў пяць ад агню і асунуўся на снег.

Валя не паспела добра разгледзець, хто гэта, але сэрца яе забіла трывогу — нешта вельмі знаёмае ўлавіла яна ў фігуры скурчанага на снезе чалавека. Забываючы пра асцярогу, як і тады з Сандро, Валя кінулася наўпрасткі.

Сэрца не падманула яе: гэта быў Саша Бяссмертны. Як жа яго ратаваць? Непаслухмянымі рукамі яна брала марозны рассыпісты снег і прыкладвала да вопраткі. Снег шыпеў і раставаў, ператвараючыся ў густую чарнільную вадкасць.

Бяссмертны, здавалася, не дыхаў. Толькі калі Валя прыклала яму да вуснаў снегу, Бяссмертны павару-

6*

шыўся і застагнаў. Валя ўзяла яго пад плечы, хацела пасадзіць, але ён быў як нежывы.

— Я занясу цябе ў хату...— прашаптала Валя разгублена.— Тут холад...

Яна скінула з плячэй свой кажушок, разаслала яго на зямлі і, асцярожна паклаўшы на яго камандзіра, узялася за палу, пацягнула па снезе.

Вось і першая хата. Сені былі замкнёныя, яна доўга стукала і прасіла, пакуль ёй адчынілі.

Спалоханая кабета моўчкі памагла ёй унесці Бяссмертнага ў хату.

Мурзаты хлопчык гадоў сямі маўкліва пазіраў на чужых людзей, стуліўшыся ля печы.

— Цётачка, не бойцеся, немцы не бачылі...— супакойвала Валя жанчыну, а ў самой халадзела ўсярэдзіне пры думцы, што яны могуць сюды зайсці. Яна пачала скідаць з Бяссмертнага прапаленую да цела вопратку.

Ад глухой сцяны адсунулі ложак, там кабета разаслала сяннік, паклала падушку. Туды перанеслі хворага.

Валя асцярожна змазвала Бяссмертнаму твар, рукі і ногі рыцынавым алеем, які, на шчасце, знайшоўся ў яе сумцы.

Трэба было рабіць перавязку, але бінтоў і ваты было зусім мала, і Валя папрасіла ў жанчыны што-небудзь чыстае. Тая пакорпалася ў сундуку і дастала паркалёвую мужчынскую кашулю і чысты старэнькі ручнік. Моўчкі аддаўшы ўсё гэта Валі, яна адышлася да акна і пачала хукаць у шыбу.

Валя занялася перавязкай і не адразу зразумела, што сказала жанчына,— голас яе быў роўны, нават абыякавы:

— Зноў гарыць... Стог падпалілі...

— Які стог? — спалохалася Валя.

— Той, у канцы вёскі, пад рэчку...

Валі здалося, што пад ёю правальваецца зямля,— сэрца замерла, заняло дух.

— Сандро...— прашаптала яна,— бедны Сандро...

Яна ўскочыла на ногі і кінулася да дзвярэй, але на сенніку моцна застагнаў Бяссмертны, і Валя вярнулася.

## XI

Прайшло два месяцы, пакутныя, доўгія, як вечнасць. Валя стала бледная, пахудзела. Яна забылася пра сон і яду. Усе гэтыя доўгія дні і ночы яна не адыходзіла ад пасцелі камандзіра Сашы Бяссмертнага.

Але каб хто спытаў Валю, што выратавала Бяссмертнага ад гібелі, яна, не задумваючыся, сказала б, што лякарства. Два месяцы яна верыла ў яго цудадзейную сілу, і не толькі верыла, але і бачыла, як яно хоць паволі, але няўхільна, міліметр за міліметрам, зганяе з цела Бяссмертнага жудасныя апёкі, пакрысе святлее новая, яшчэ зусім нетрывалая і гладкая, як пергамент, скура, як гінуць, згладжваюцца, меншаюць шрамы.

Лякарства было простае, старое: алей, звычайны льняны алей, які ціснулі ў суседняй вёсцы добрыя людзі і дастаўлялі ў лес.

Спачатку кожны дзень два разы, вечарам і раніцай, а пасля ўсё радзей, Валя мяняла павязкі. Бяссмертны толькі сціскаў зубы, пакрываўся халодным потам, але маўчаў. Падвешаны да нізкай столі зямлянкі, як у гамаку, ён ціха ляжаў, прыкрыўшы апаленыя павекі, і нельга было сказаць, спіць ён, дрэмле ці проста думае.

Гэта цяжка было пераносіць. Валя лічыла, што Бяссмертны за нешта крыўдуе на яе ці проста саромеецца, ды ўсё гэта яна хавала,— была ветлая, клапатлівая, але патрабавальная. І дзіўна: Бясссмертны быў паслухмяны, як малое дзіця, пакорліва, без капрызаў і нараканняў выконваў усе яе загады.

На шэсцьдзесят другі дзень ён упершыню падняўся на ногі. Асцярожна, абапіраючыся на Валіна плячо, зрабіў два крокі і спыніўся, нібы баючыся, што тонкая скура ад неасцярожнага руху можа не вытрымаць і раз'ехацца «па шву». Яшчэ два крокі... Бяссмертны прагна ўглядаўся ў маленькае акно, праз якое скупа цадзілася святло. Была раніца, сонечная, ціхая. Нерухома стаяў лес. Ён чакаў вясны, якая ўжо стукала першымі кроплямі талага снегу ў мёрзлыя грудзі зямлі, абуджаючы яе ад доўгага сну. Пачынаўся сакавік, на вачах прыбываў дзень.

Бяссмертны даўно сумаваў па волі, ірваўся да справы, без якой ён лічыў сваё жыццё непатрэбным.

Цішком ад усіх ён займаўся гімнастыкай: сваёй, адмысловай. Яшчэ калісьці ў школе ён вычытаў, што хворы чалавек, які не можа варухнуцца, сагнуць ці разагнуць руку, у думках можа прымушаць гэтую руку згінацца, падымаць цяжар — адным словам, быць у руху, працаваць.

Спачатку, калі ён сапраўды не мог варухнуць рукамі, нагамі і наогул крануцца з месца, Бяссмертны ў думках выконваў складаны комплекс вольных рухаў, трэніруючы толькі дыханне.

Пасля, калі скура паволі пачала сцягвацца, ён ужо трэніраваў пальцы ног і рук.

Атрад і без яго дзейнічаў, жыў, рос, набіраў новыя сілы. Харытоненка, Школьнік, дзядзька Міхаль, якім тады ўдалося ўцалець ад рукі карнікаў, замянілі свайго камандзіра, і ён радаваўся за іх, нават зайздросціў...

Але, галоўнае, засталася Валя, і толькі таму застаўся і ён, Саша Нячай, па мянушцы Бяссмертны. Ён не хацеў бы гаварыць пра тое, што дзякуючы Валі ён жыве і цяпер вось падняўся на ногі. Гэта ён разумеў і ведаў лепш за ўсіх, нават за Валю.

Валя была для Бяссмертнага ўсім — сястрою, сябрам, памочнікам. Яе разважнае слова праганяла яго цяжкія думкі, дотык мяккай гарачай рукі сунімаў боль, і Бяссмертны ўжо сумаваў і пачынаў нервавацца ў тыя кароткія хвіліны, калі яму даводзілася быць аднаму. Усё больш і больш ён пераконваўся, што яна не толькі сябар, памочнік, але і каханая.

Перад самай вайной, калі ён працаваў трактарыстам у МТС, яму яшчэ не хацелася думаць пра сваё сямейнае жыццё, ён мала прыглядаўся да дзяўчат. А калі і даводзілася сябраваць з дзяўчынаю, то ён не ставіўся да гэтага сур'ёзна, нічога не абяцаў і не падаваў ніякіх надзей. Ён нечага шукаў, чагосьці чакаў, а чаго — і сам не ведаў. І ў сэрцы яго паступова збіраўся сум, сум па каханні.

Але ішоў час, а яно не прыходзіла.

І вось цяпер, калі ён, Бяссмертны, стаў, лічы, інвалідам, цяпер, нібы назло, жыццё паставіла на яго дарозе такую прывабную і разумную дзяўчыну.

Бяссмертнага мучыла адно: ці сказаць Валі пра

свае пачуцці? Што калі яна, з жалю да яго, не кахаючы, скажа «кахаю»?

Дзіўна, што ў жыцці Бяссмертны быў даволі самаўпэўненым чалавека, усё давалася яму лёгка, ён быў напорысты і ніколі не губляўся перад няўдачаю, не ўпадаў у роспач. Ён быў цягавіты, як трактар, з якога не злазіў роўна пяць год. Але каханне — гэта частка жыцця, частка самая глыбокая, схаваная ад усіх, нявывучаная, самая далікатная і тонкая. Бяссмертны лічыў, што тут не да месца націск, нейкая там перавага. Каханне — гэта тая запаветная частка чалавечай душы, дзе абодва бакі маюць роўнае права. Ён схільны быў нават даваць жанчыне права рабіць выбар самой. Але калі ён пераносіў гэта на Валю, на сябе, то тут яго аксіёмы трацілі ўсялякую сілу. Жаласлівасць і каханне — несумяшчальныя,— так думаў Бяссмертны. Але як аддзяліць адно ад другога вось тут, у гэтым клубку, які так цесна зматаны жыццём, што не знойдзеш канцоў? Бяссмертны пачынаў шукаць таго, што ён называў жаласлівасцю, у адносінах Валі да сябе... Так, гэта была жаласцівасць, самаахвярнасць, чуласць — называй гэта як хочаш — з таго моманту, калі ён выскачыў з агню і паваліўся ў снег. Валя аддавала яму ўсю сваю душу. Чым ён адплаціць ёй?

А можа, не толькі жаласлівасць кіравала ёю...

Але як яна можа кахаць яго цяпер? Гэта немагчыма! Не! Не! Ён страшны...

І тут ён рашае не гаварыць Валі нічога. Проста падзякаваць і назаўсёды развітацца.

Валя стаяла побач. Яна ўжо даўно заўважыла, што Саша перамяніўся да яе, асабліва апошнія дні: стаў задуменны, маўклівы. Апрача кароткіх адрывістых слоў «не хачу», «не трэба», Валя больш ад яго нічога не чула, і гэта пачынала яе непакоіць. Яна ведала, што прычына яго нездаволенасці — яна сама, Валя. Але што яна такое зрабіла?

Твар Бяссмертнага быў застылы, са сціснутымі вуснамі, але неспакойны ў сваёй зацятасці твар чалавека, які рашыўся на нешта важнае. Вочы ўтароплены ў адну кропку; дробныя, як раса, кропелькі поту выступаюць на твары і на шыі,— толькі там, дзе скура не была кранута агнём,

— Табе цяжка, Саша? — спыталася яна.

Бяссмертны толькі нервова перасмыкнуў плячыма.

— Так... мне цяжка,— глуха адказаў ён і ўчапіўся пальцамі ў шалёўку нізкага акенца. Яна пагрозліва затрашчала.

— Але чаму? Што гэта значыць? — дапытвалася Валя.

— Мне цяжка, таму што... Я і сам не ведаю...

— Усё-такі ты скажаш мне,— цвёрдая нота загучала ў Валіным голасе.— Я даўно заўважаю, што цябе нешта непакоіць. І мне ўвесь час здаецца, што ў нечым мая віна, што я табе надакучыла...

Валя змоўкла і чакала, што Бяссмертны пачне апраўдвацца, але ён маўчаў.

Пасля глянуў на яе — нібы пранізаў вачыма.

— Валя... Усё, што ты пачуеш,— гэта толькі доля таго, што я хацеў бы сказаць... Толькі табе я абавязаны самым дарагім... што не мае цаны і не вымяраецца ніякаю меркай. Ты... выратавала мне жыццё...

Валя апусціла галаву. Твар яе заружавеўся, як на марозе.

— Я не хацеў бы застацца ў тваіх вачах... ну такім... Каб ты не думала, што я не ўмею плаціць дабром за дабро... Ды што рабіць? Час ідзе... Я ўжо здаровы, пара станавіцца ў баразну... Што здарыцца наперадзе — невядома... Але калі я выжыву...

Валя адчувала, што Бяссмертны не рашаецца ёй сказаць усяго. Гэта было зусім не тое, чаго яна чакала. Гэты чалавек стаў ёй за апошні час свой, блізкі, родны. Яна ўжо звыклася з думкай, што лёс іх звязаны, і звязаны гэтаю бязлітаснаю вайной.

Але цяпер Валя зусім перастала разумець Бяссмертнага. Ён гаварыў нешта такое, што можна гаварыць каму хочаш, толькі не ёй.

А Бяссмертны, нібы не заўважаючы перамены ў Валіным настроі, працягваў гаварыць, запінаючыся, раздумваючы, нібы баючыся прагаварыцца, сказаць лішняе.

— Цяпер пачынаецца такі гарачы час... Грэх адлежвацца, калі навокал усё кіпіць, як у катле... Засумавалі мае рукі па рабоце, засумавалі...

Валя не верыла яму: не верыла, што толькі гэта яго непакоіла. Яна спытала з дакорам:

— Саша, няўжо толькі пра гэта ты думаеш? Няўжо ты такі адзінокі і няма ў цябе нікога блізкага, свайго?

Бяссмертны глянуў на яе разгублена.

— Ты ж ведаеш сама... Чаго пытаць?

— Я ведаю, але ты ці ведаеш? Не гэта я хацела пачуць ад цябе, не гэта!..

Валя змоўкла. Крыўда і слёзы былі ў яе голасе.

Бяссмертны ўрэшце рашыўся.

— Сёння ў мяне самае цяжкае выпрабаванне з усіх, што я перажыў... Я скажу табе, што ўвесь час, як толькі ты з'явілася ў атрадзе, я быў сам не свой. Я пакахаў цябе перш, чым даведаўся, хто ты і што... Але ты была такая халодная, што я баяўся заікнуцца пра што-небудзь такое... І яшчэ я думаў, што ў цябе што-небудзь сур'ёзнае з Сандро.

Напамін аб Сандро астудзіў Валю. У адзін момант праплыў у яе памяці вобраз гэтага незвычайнага чалавека — ад першага знаёмства да той сутычкі ў вёсцы Галубы, дзе ён загінуў такою лютаю смерцю.

— А пасля ўсяго, што ты для мяне зрабіла, ты стала мне ў сто разоў даражэйшай — я гавару гэта шчыра... Іншая рэч, як ты сама адносішся да мяне...— і ён запнуўся.

Валя раптам заўважыла, што Бяссмертны захістаўся. Ногі ў яго падгіналіся, ён гатоў быў асесці на насціл з яловых плашак, што служылі ў зямлянцы замест падлогі.

Валя абхапіла Бяссмертнага рукамі і ўсхвалявана, праз слёзы прашаптала:

— Саша, любы мой! Я баялася прызнацца нават сабе, што кахаю.

Бяссмертны нечакана для Валі вызваліў свае рукі і моцна абняў яе. Яна заплюшчыла вочы і прытулілася да гарачай шчакі Бяссмертнага.

І тут ціха рыпнулі дзверы ў зямлянцы. Бяссмертны і Валя разнялі рукі і спалохана азірнуліся. На парозе стаяў камісар Шылаў.

— О, віншую, Бяссмертны! — І тут жа вінавата дадаў: — Прабачце, недарэчы я трапіў. Ды не саромейцеся, мы ж не малыя...

Камісар быў апрануты ў новы кіцель, без пагонаў. Шырокая афіцэрская папруга з партупеяю рабіла ка-

місара стройным і зухаватым. Хударлявы, жывы яго твар кранула першым вясновым загарам.

— Давай прысядзем, Бяссмертны, табе яшчэ не трэба многа стаяць... Вось тут цікавы матэрыял у нямецкай газетцы.

— Я пайду,— ціха сказала Валя.

— Пачакайце, чаго вы? — гукнуў Шылаў.— Вы нам не перашкодзіце! Наадварот, вы таксама павінны ведаць...

Валя вярнулася і прысела побач з Бяссмертным на цвёрды драўляны ложак.

Камісар аддаў газету Бяссмертнаму, ткнуўшы пальцам у невялікую заметку пад назвай «Wunderbare Operation bei Goluby», а сам узяў моцны, з-пад сякеры зэдлік і падсеў да ложка.

— Вось слухайце. Тут мне пераклалі даслоўна.— Ён дастаў з кішэні кіцеля складзеную ў чатыры столкі паперку, разгарнуў яе: — «Аперацыя ля Галубоў — бліскучы ўзор нашай тактыкі барацьбы з партызанамі, распрацаванай нашым таленавітым генералам Манштэйнам. За пашкоджаны мост... (— Чуеце, за пашкоджаны!)... яны заплацілі крывёю сваіх пяцідзесяці (— У дзесяць разоў перабольшылі, брахуны!..) адборных байцоў. Але што асабліва важна, у гэтым бai загінуў — згарэў у агні — вядомы важак і галаварэз па мянушцы «Бяссмертны», які вызначаўся сваёю няўлоўнасцю і агрэсіўнасцю і рабіў многа клопату на нашых камунікацыях. (— Някепская атэстацыя, праўда, Саша?) У гэтым бai вызначыліся обер-яфрэйтар Гамер, які...» Ну, тут лухта... Гэта пісалася калі? Больш месяца назад. Не думаю, што яны самі паверылі ў сваю выдумку, Бяссмертны?

Той узняў галаву — у вачах яго з'явіўся азартны бляск, як у чалавека, які выходзіць адзін на адзін з небяспечным зверам. Ён стукнуў сабе па каленях сціснутымі кулакамі і хрыплым голасам сказаў:

— Калі і паверылі, то я іх хутка расчарую.— І больш мякка, пазіраючы на Валю: — Каб толькі мой доктар доўга не трымаў мяне на прывязі.

Валя была сур'ёзная. Яна ведала: для іх пачынаецца трывожны час.

## XII

Дол быў усланы рудым лісцем, сухой рыжай папараццю, доўгаю, пераблытанаю, як іржавы дрот, травою, друзам збуцвелых галінак. З-пад гэтай перапрэлай за многія гады коўдры сям-там праглядваў бледны, як вымачаны, мох, крывыя сцяблінкі ягадніку. Вострымі зялёнымі шпількамі тырчала маладая травічка.

Дрэвы яшчэ не распусціліся, былі брудна-шэрыя і рэзка вырысоўваліся на фоне густой зеляніны маладога ельніку. Вербалоз толькі што распушыў свае каткі, над ім бзынкалі першыя смелыя чмялі. На арэшніку можна было заўважыць на пупышках далікатныя ружовенькія вусікі цвету. Каткі — распушаныя, толькі дакраніся да іх — асыпаліся на зямлю, сеючы ледзь прыкметны пылок. З пупышкаў на бярозе вось-вось гатовы былі паказацца маладыя лісточкі, але бяроза нешта марудзіла — мо чакала, пакуль пройдуць вясеннія, такія непатрэбныя, але немінучыя халады. Можа, гэтую асцярожнасць яна пераняла ў дуба, бо той усё ніяк не асмельваўся скінуць сваё старое пажоўклае ўбранне, усё чакаў, пакуль добра ўгрэе сонца і адыдзе ад холаду карэнне.

Дуб не спяшаўся, бо па небе яшчэ снавалі, як нявылінялыя пасля зімы каровы на пашы, непрыветлівыя кудлатыя хмары. З іх на дол, ледзь чутна шапочучы, сыпаўся часам дробны, як крупы, сняжок. І тады яшчэ больш цягнула холадам ад сырых лагчын, ад зацененых густымі елкамі, яшчэ з астаткамі наздраватага лядку, упадзін, хоць на дварэ быў ужо канец красавіка.

Птушак яшчэ мала было, і галасы іх не поўнілі лесу. Толькі недзе блізка, аднастайна і хутка, нібы падала кропля ў чыгун з вадою, чулася бясконцае:

— Цюй, цюй, цюй, цюй...

А крыху адышоўшыся, Валя чула ўжо другое:

— Цюк, цюк, цюк,— нібы нехта заганяў цвік маленькім малаточкам. І больш не чуваць было ніякіх гукаў.

Валя ішла, прыслухоўваючыся да ляснога жыцця. Лясная сцежка круцілася, мяняла напрамак, і Валя баялася, каб не збіцца з дарогі.

Сёння была нядзеля, кірмашовы дзень, і Валя ішла ў горад, несучы ў руцэ невялікі кошык з дзесяткам яек у жытняй мякіне. Гэта было адчэпнае: прадаваць ці купляць што-небудзь Валя і не збіралася — былі больш важныя справы, якія прымушалі ісці туды, адкуль не заўсёды можна вярнуцца. Яна выконвала загад камандзіра атрада.

Апошні час яна дакарала сябе за бяздзейнасць, за тое, што нібы хаваецца ад небяспекі, адседжваецца ў цяпле. Ёй здавалася, што яна бачыць на сабе суровыя, асуджальныя позіркі людзей, якія самі кожны дзень хадзілі на смерць, вярталіся, але маглі і не вярнуцца.

Было каля дванаццаці гадзін, калі Валя прыйшла на рыначную плошчу. Кірмаш выглядаў бедна: сям-там на сялянскіх вазах старыя дзядзькі прадавалі вялую бульбу, кавалак тонкага сала, закажанелае парася. За лаўкамі сядзелі пераважна старыя жанчыны, гандлявалі малаком, маслам ці яйкамі. Дзе-нідзе можна было бачыць насенне — гуркі, фасоля, нават кукуруза. Вясна прыносіла новыя клопаты гаспадыням.

Між вазоў, прыглядаючыся, снавалі сям-там п'яныя паліцаі.

Валю кідаў у дрыготку адзін іх выгляд — яна не прывыкла бачыць іх зблізку.

Абышоўшы малочны рад, Валя пакруцілася на плошчы, зноў падышла да малочніц, але жанчыны з абвязанай галавою і з бітонам малака ўсё не было. Валя захвалявалася. Праўда, быў у яе і адрас, але ім яна магла карыстацца толькі ў выключным выпадку.

Валя стаяла і пазірала на купку жанчын, якія нешта спрачаліся, таргаваліся і лезлі з рукамі ў карзіну, што трымала перад сабою маршчыністая сівая жанчына.

Валі кінулася ў вочы кабета, што стаяла да яе плячыма. Паставіўшы на доўгую лаўку бітон, яна палезла ў кішэню старога мужчынскага пінжака, у які была апранута, і дастала адтуль чорную касынку. Спачатку страсянула яе, пасля, склаўшы ў дзве столкі, пачала завязваць, як павязку, паўзверх сваёй канаплянкі.

Валя страпянулася: яна... Не зводзячы з яе вачэй, Валя рушыла ў той бок, паўтараючы ў памяці словы

пароля, як раптам адчула, што нехта крануў яе за руку.

Яна здзіўлена азірнулася і замерла: крыху ззаду і збоку ад яе стаяў... Лявон Лукашык.

Ён усміхнуўся і, не моргаючы, глядзеў ёй у вочы, нібы гіпнатызаваў. Усмешка яго была штучная, вымушаная; відаць, ён хваляваўся, але ў яго ўсмешцы было і яшчэ нешта такое, што адразу насцярожыла Валю. Ды і сам ён увесь нагадваў чалавека, які хоча злавіць непакорнага каня, што сарваўся з прывязі ці вырваўся з загарадзі і не даецца ў рукі гаспадару, бо ведае, што яго чакае хамут.

Валя яшчэ больш перакаланася ў гэтым, калі ён моцна ўзяў яе за руку вышэй локця. Гэты яго жэст абурыў яе, і яна рванулася, каб вызваліць руку.

— Што табе трэба? — непрыязна спытала яна, а сама глядзела на жанчыну, што завязвала хустку, баючыся, што тая пойдзе і Валі зноў прыйдзецца яе шукаць.

— Мне нічога не трэба,— паказваючы доўгія густыя зубы, ціха, па-змоўніцку прамовіў Лукашык, не выпускаючы яе рукі і яшчэ мацней сціснуўшы яе.— Проста хацелася б ведаць, як ты жывеш, ці шчаслівая са сваім камісарам...— Ён стаяў ужо побач і дыхаў ёй у твар, абдаючы агідным пахам самагонкі.

— Якім «камісарам»? Што ты вярзеш? — злосць ахапіла Валю, і яна ўжо гатова была закрычаць ад болю і крыўды.

Раптам Валі ад паху самагонкі, што патыхала ад Лукашыка, стала моташна. Яна закрыла далоняю рот і адвяла ўбок галаву. Пасля слабасць ахапіла яе ўсю, стала млосна, і Валя міжвольна азірнулася, каб на што абаперціся.

— Што ты, п'яная? — неяк няўцямна пазіраючы на яе, спытаў Лукашык.— Ці... ці нездаровіцца?

На вачах у Валі былі слёзы. Яна цяжка дыхала і глытала горкую сліну.

— Не твой клопат...— нарэшце сказала Валя.— Пусці, мне дрэнна...

Ён выпусціў яе руку.

У гэты час жанчына з абвязанай галавою ўзяла свой бітон, зірнула на Валю і пачала выбірацца з-за прылаўка. Валя спалохалася, што яна сама можа па-

дысці да яе: горшага нельга было і прыдумаць, бо Лукашык прыліп як смала і не адыходзіў. Цяпер ён выклікаў у яе агіду, і яна з радасцю падумала, што нават тое, што яшчэ дагэтуль не падавала аб сабе ніякіх знакаў, нечакана адчула ля сябе чужога чалавека і так адчайна запратэставала, бāронячы сябе і яе.

— Я пайду. Бывай...— Валя абыякава зірнула на Лукашыка. Той адпусціў яе руку і адразу змяніўся з твару, насупіўся. Яна заўважыла, якой звярынай злосцю бліснулі яго вочы.

Валя ішла і непрыкметна сачыла за жанчынай з бітонам, якая то прападала сярод людзей, то з'яўлялася зноў. Каб толькі не згубіць яе...

Яна ўжо больш не думала пра Лукашыка, што невядома як апынуўся на яе дарозе.

І раптам здарылася нечаканае: дарогу Валі заступіў паліцай, павярнуўся да яе тварам і, стоячы перад ёю, пагрозна сказаў:

— Ні з месца! Рукі ўгору!

Валя аслупянела. Яна спачатку не ведала, што рабіць з кошыкам, які быў у яе руцэ, і замарудзіла. Не паспела яна падумаць, што тут такое, як ззаду нехта схапіў яе за рукі і моцна заламаў назад. Кошык паляцеў на зямлю. Яна і не думала супраціўляцца — усё адбылося хутка і нечакана.

— Якое вы маеце права? — апамятаўшыся, крыкнула Валя.— Хто я вам, што вы кідаецеся на мяне, як каршуны?

— Заткніся, варона! — Паліцай, што быў заступіў дарогу, штурхнуў Валю ў грудзі.— Мы ведаем, хто ты такая. Пайшлі! — І ён прапусціў яе ўперад, азіраючыся на людзей.

Валя не сваімі нагамі ступіла некалькі крокаў, яе падштурхнулі ззаду. Яна адчула сябе слабай, бездапаможнай — ажно хацелася заплакаць.

Але прайшлі першыя хвіліны страху, паволі яна супакоілася: нічога, трэба цярпець... Перад вачыма прамільгнуў на момант твар жанчыны з абвязанай галавою, але яго засланіла маска Лукашыка — халодны аскал зубоў, чужая, здрадлівая ўсмешка. Гэта яго рука... Як недарэчы ўсё, калі пад сэрцам затрапяталася новае жыццё...

Не было ні бою барабанаў, не чыталі прысуду перад тым, як накінуць на шыю пятлю. Не было нават лішніх сведак.

На турэмным двары тырчала старая, пастаўленая з год назад шыбеніца. І не адна ахвяра перажыла тут жахі смерці, не адзін чалавек развітаўся тут назаўсёды з жыццём.

На турэмны двор Валю вывелі на досвітку. Боль ва ўсім целе перашкаджаў існі, не даваў выпрастацца і нават узняць галаву. Каб хоць не падумалі, што яна баіцца смерці і раскайваецца! Ёй не было чаго каяцца. Яна нічога не сказала, нікога не выдала.

Было сыра і холадна, неба засцілалі хмары, і, можа, днём збіраўся пайсці дождж, бо на беднай, радкавай траве, што траплялася на ўбітай зямлі, Валіны босыя ногі не адчувалі расы.

Сухія былі і Валіны вочы. Яна не хацела, каб бачылі яе слабасць. Яна выплакала ўсе слёзы ноччу, калі была адна ў халоднай камеры-адзіночцы і чакала прысуду.

Усё яе жыццё перавярнулася перад ёю: цяжкае маленства ў вялікай сям'і, пасля вучоба, першая самастойная праца і першыя поспехі, светлыя мары; сустрэча з Лукашыкам, надзеі на сямейнае шчасце; за ўсім гэтым — вайна, нечаканае расчараванне і разрыў з мужам; пераход да партызан; сутычкі, перамогі, страты; няшчасце Бяссмертнага — і яе асабістае, пасля кароткая радасць — нечуваная, ні з чым не параўнальная, неабдымная, дарагою цаной адваяваная ў смерці, але вокамгненная, як летняя навальніца,— усё праплыло перад вачыма і ўсюды яна як бы бачыла сябе — сціплую, непатрабавальную да жыцця, без прэтэнзій, без нараканняў на лёс. І яна не асуджала сябе, не каялася, што ішла такою дарогай — цяжкаю, прамою, але сумленнай.

Адно, па чым плакала Валя, было тое, што толькі днямі дало аб сабе знаць... Як хацелася жыць, песціць малое, дачакацца мацярынскага шчасця...

Няўжо цярпець — гэта адзінае, што застаецца? Ніколі раней Валі не даводзілася думаць пра гэта. У яе была свая вера: вера ў перамогу вялікай справы, якую тварыў народ. І цяпер яна не сумнявалася ў гэтай справе, але не магла ўявіць яе без сябе... А хуткая

перамога над акупантамі, якія залілі крывёю яе радзіму... Час адплаты так блізка, а яна, Валя, не будзе сведкаю гэтага вялікага свята. Не будзе...

Няўжо так неверагодна проста скончыцца яе жыццё, і ніхто не даведаецца, аб чым думала яна ў свае апошнія хвіліны, чаго шкадавала і па чым плакала? Як многа яшчэ думала яна зрабіць! І ўсё гэта будуць рабіць без яе!..

Справа, злева, навокал — густы канвой.

Камянела сэрца. Была нейкая нязвыклая слабасць, млосць. Як у сне, калі сніш, што цябе збіраюцца забіць, а ты не можаш паварушыць нагамі, каб уцякаць...

Можна вярнуць сабе жыццё, трэба толькі сказаць тое, чаго патрабавалі каты ўсе гэтыя дні. Але яна аддала б дзесяць сваіх жыццяў і не зрабіла б гэтага... Дзесяць жыццяў... дзесяць... дзесяць... Чаму толькі дзесяць? Яна больш не можа лічыць. Галава аж развальваецца ад болю. Дзесяць... дзесяць... Чаму толькі дзесяць?

Здаецца, нехта шэпча на вуха: «Няўжо ты не шкадуеш сваё малое? Скажы — і ўсё будзе добра. Скажы! Скажы! Скажы!»

— Не скажу! — дзіка крычыць Валя.

А яшчэ праз секунду яна без памяці падае на зямлю.

І зноў чуе той голас: «Скажы, я чакаю. Адно слова: люблю. Гэта я, твой Саша. Чуеш? Дай пацалую. Мы ж не развіталіся». Валя бачыць, што да яе нехта набліжаецца, хоча схапіць яе за руку. Гэта не Саша... Гэта Лукашык. Ад яго смярдзіць самагонкай. Каб толькі не стала кепска... «Стой, не ўцячэш! Стой!» Ён даганяе яе, хапае за валасы і кусае за шчаку.

Валя ачнулася ад забыцця. Над ёю схіліўся чужы твар. Моцная рука падымае яе галаву, цягне за валасы. Гарыць шчака. «Гэта білі...» — міжвольна думае яна і крычыць:

— Пусці, я сама...

Але падае зноў. Два гестапаўцы бяруць яе пад рукі.

Валю падвялі да шыбеніцы, памаглі стаць на стары цяжкі табурэт.

«І гэта ўсё? — білася адзіная роспачная думка.— Гэта ўсё? А што ж далей? Няўжо ўсё?»

Сырая і жорсткая вяроўка халоднай вужакай ахапіла яе шыю. Валя сцялася ў камяк, напружыла мускулы. Раптам табурэт ад моцнага штуршка выскачыў у яе з-пад ног, яна хацела крыкнуць, але крык засеў у горле. Люты боль пранізаў яе. Недзе яшчэ тлела іскра свядомасці: «А чаго я баялася? Я ж Бяссмертная... Бяс... смертная... а-а-а...»

Густая, душная цемра ахутала яе. Нешта раптам трэснула ў шыі і з вачэй пасыпаліся крывавыя іскры. І ўсё прапала...

## XIII

Бяссонніца — тая ж хвароба. Яна знясільвае, ад яе благія думкі і цяжкі настрой.

Прычын для яе ў Лукашыка было многа. Па-першае, ён многа піў, і ў яго пачаліся бясконцыя галаўныя болі. Па-другое, не даваў спакою страх і роспач: што рабіць далей, як выкруціцца? А можа, ніхто з тых, каму трэба, не даведаецца, што ён аддаў сваю — страшна сказаць і падумаць! — сваю былую жонку ў рукі гестапа? Але надзея гэтая была маленькая, як макавае зерне, і танула ў агульным хаосе вялікіх і малых страхаў.

Як і кожны чалавек, Лукашык шукаў апраўдання свайму ўчынку. Ён чапляўся за ўсё: рэўнасць. Так, рэўнасць! Ён любіў Валю, і толькі яму аднаму вядома, як моцна ён яе любіў. Але хіба цывілізаваны чалавек можа дазволіць сабе такую дзікую форму помсты, якую выбраў ён, Лукашык? Праўда, ён быў тады п'яны, усё адбылося вельмі хутка, ён не паспеў усё гэта прадумаць, не ведаў, чым гэта ўсё можа скончыцца... Тым горш! Тым большая яго віна, што ён пад п'яную руку вырашае сур'ёзныя справы. А яна? Добрая птушка таксама! Яна ўвесь час рабіла яму наперакор, у ёй сядзеў нейкі чорт, які не даваў ёй згаджацца з яго довадамі. Яна ніколі яго не слухала. У яе была свая праўда, у яго свая. Дык нашто ж ён, які лічыць, што кожны мае права жыць так, як яму хочацца, хацеў прымусіць яе адрачыся ад таго, што ёй было дарагім і святым? Яны не сыходзіліся ў поглядах, але гэта не значыць, што яна, толькі яна, павінна была прыняць яго веру. Чаму не наадварот?

Яна абазвала яго здраднікам і, не спытаўшыся, пайшла ў партызаны... Як ацаніць гэты яе ўчынак? У яго ён не ўкладваецца ў галаве. Ніякі ён не здраднік. Ён проста стомлены чалавек. Проста расчараваны. Проста хоча трохі пасядзець убаку і паглядзець, куды хіліць. Яму няма за што і няма за каго падстаўляць галавы. У яго няма куміра, перад якім бы ён мог стаць на калені. Ён з тых, хто не верыць ні ў што. Можа, таму яму і цяжка. Можа, таму... А яна? Яна глядзела на свет другімі вачыма. Адны і тыя ж падзеі яна ацэньвала па-другому, не так, як ён. У яе была свая праўда... Якая свая? Яна свята верыла ў тое, што ёй гаварылі. Свята... А можа, гэта і добра? Быць фанатыкам... Быць простым, як дзіда? Не грашыць самому і не даваць грахоў нікому. Быць прынцыповым да мазга касцей, бараніць свае прынцыпы да апошняга дыхання? Хіба гэта кепска? Але для гэтага трэба быць жалезным, быць гатовым да ўсяго. Для гэтага трэба быць перш за ўсё моцным — не так целам, як духам... Валя была моцная. Яна не ўмела адступаць... За гэта ён і не любіў яе цяпер... Што яна мацнейшая за яго. Але пра гэта ён нікому не скажа, нават на страшным судзе... За гэта ён аддаў яе ў лапы катаў. У яго не хапіла б смеласці расправіцца з ёю ўласнымі рукамі. Ён не змог бы глядзець ёй у вочы і памёр бы пад яе позіркам...

Не, такога чалавека не любяць... Лукашык, прызнамсі, не любіў. І каб разлічыцца з ёю, ён выкарыстаў яе зброю — прынцыповасць. Яна не даравала яму — і гэта ён запомніў. Тое, што ў другіх умовах і з другіх пазіцый можна было палічыць подзвігам, гераізмам, ён назваў здрадай і захацеў, каб яна была пакарана па ўсёй строгасці...

Яго апошні ўчынак трохі разыходзіўся з усім ладам яго ранейшага жыцця, але, пашукаўшы, можна было знайсці карэнні, якія ядналі мінулае з сённяшнім. Нешта вельмі падобнае, вельмі падобнае зрабіў Лукашык яшчэ ў свае школьныя гады... Нешта такое агіднае і нізкае, што пасля доўга не давала яму спакою і засталося ў памяці назаўсёды і нечакана ажыло, уваскрэсла цяпер, ажыло, як жахлівая аналогія, якая так бессардэчна і адкрыта дамалёўвала яму яго ўласны партрэт.

...Гэта здарылася гадоў дванаццаць назад. Быў у Лукашыкаў, ці ў Маўчуноў, як іх называлі яшчэ ў вёсцы, добры сабака Мурза. Ён не кусаўся, не кідаўся зверам на людзей, таму рэдка калі быў на ланцугу, а больш бегаў па волі. Ён не так быў прывязаны да хаты, як да Лявона, які хадзіў тады ў школу ў суседнюю вёску і часта браў з сабою Мурзу. Ды што там казаць — браў! Ён сам увязваўся за Лявонам і ніяк нельга было яго адагнаць ад сябе.

Неаднойчы яны ўдваіх бараніліся ад зграі вясковых сабак ці ад якога-небудзь валацугі-адзіночкі, што блукаў у пошуках пажывы ад вёскі да вёскі.

І ніхто з Лявонавых школьных таварышаў не асмельваўся крануць самога Лявона — сабака адразу кідаўся на выручку гаспадару.

Моцна здружылі сабака і хлопец. Туманнымі асеннімі раніцамі ці цёмнымі вечарамі, калі нельга ўбачыць пад нагамі нават дарогі, калі аднаму з галавы не вылазяць думкі пра страхі, пра ваўкоў, крочыў Лявон са сваім Мурзам і толькі пасвістваў.

Не вельмі ласаваў Лявон свайго абаронцу, але верны Мурза цярпліва круціўся ля школы, аж пакуль канчаліся ўрокі, і з радасным віскам сустракаў Лявона ў браме школьнага двара.

Той аддаваў яму якую скарынку хлеба, і сабака, праглынуўшы яе цалком, не жуючы, пазіраў на Лявона галоднымі разумнымі вачыма і глытаў сліну. І больш нічога не заставалася яму рабіць, як зноў бегчы ўперадзе свайго гаспадара, нібы правяраючы для яго дарогу.

Доўгі час нічога не парушала іх моцнай дружбы, пакуль Лявону не стукнула ў галаву завясці ў сябе дома ангорскіх трусоў.

Лявон змайстраваў для іх клетку. Праўда, на адзін бок не хапіла лёстак, і прыйшлося зашыць яго яловаю карою.

З тыдзень усё ішло добра, але вось аднойчы раніцай Лявонава маці пайшла даіць карову і ўбачыла, што трусоў у клетцы няма, а бок з яловай кары прагрызены,— дзірка вялікая, як усунуць галаву сабаку. Усе здагадаліся, чыя гэта работа.

Сабакі ўвесь дзень не было дома, а калі пад вечар ён вярнуўся аднекуль, то адразу кінуўся да чыгуна

з вадою. Маці пачаставала яго чапялою, і бедны сабака ледзь выскачыў з хаты.

У той жа вечар, на шарай, Лявон паклікаў Мурзу ў хлеў, накінуў на шыю сабакі пятлю, другі канец вяроўкі перакінуў цераз бэльку. Яшчэ момант — і сабака вісеў у паветры. Хутка яго пакінулі астаткі жыцця.

Назаўтра ні бацька, ні маці нічога не сказалі Лявону, толькі праз нейкі час, калі аднойчы ён пачаў біць карову, якая не хацела станавіцца на сваё месца, бацька сказаў: «З тваім сэрцам толькі разнікам быць. І ў каго ты ўдаўся?»

Новы сэнс набывалі бацькавы словы цяпер, калі над Лявонам павіснуў страшны цень зробленага ім злачынства. Чалавечая кроў ніколі не праходзіць дарма, і той, хто праліў яе, будзе пакараны сам. Так гавораць у народзе спрадвеку, і гэта праўда.

Цяжкія думкі, цяжкія ўспаміны... А будучыня малявалася яму яшчэ больш змрочнаю і няўтульнай. Ён ніяк цяпер не мог сабе ўявіць, што будзе з ім праз дзень, праз месяц, праз год.

Было, відаць, ужо далёка за поўнач, а Лукашык яшчэ не спаў. У яго разбалелася галава. Ён варочаўся з боку на бок, не знаходзячы сабе месца.

Захацелася піць. Ён устаў і, шлэпаючы босымі нагамі па халоднай падлозе, пайшоў у сенцы, дзе стаяла вядро з вадою. Напіўшыся, ён ужо збіраўся ісці ў пакой, як раптам пачуў крокі на двары. Ступалі ціха, асцярожна, ля самага парога.

Лукашык успомніў начных гасцей, і холад прабег у яго па целе. Уцякаць? Куды? Ад іх не ўцячэш...

Пачуўся стук у дзверы. Лукашык пачакаў трохі і на пальчыках пайшоў у пакой.

У дзверы пачалі грукаць мацней.

Лукашык падышоў да акна. Асцярожна, каб не бразгаць, адшчапіў кручок і ціха адчыніў фортку — адну, пасля другую.

У яго мільганула думка, што трэба апрануцца, а то ў белым адразу заўважаць, але гэта было між іншым... Галоўнае было скарыстаць момант і ўцячы. Мякка, як кот, ён спусціўся ў агародчык пад акном, пасля пераскочыў цераз невысокую агароджу і, прыгінаючыся, кінуўся за хату.

«Выжыць...— стукала ў галаве.— Толькі б выжыць...»

...Бяссмертны вярнуўся з задання, калі было ўжо позна: ні змяніць, ні паправіць. Валя загінула трагічна, недарэчна. І чамусьці цяпер ён вінаваціў у яе гібелі сябе, сваю мяккацеласць у адносінах да Лукашыка, бо тады, паўгода назад, ён выклікаў у сэрцы Бяссмертнага хоць нейкую спагаду, таму што не прасіўся, не поўзаў на каленях перад імі, а гаварыў як роўны з роўнымі, хоць у іх руках была зброя. У ім тады тлела яшчэ нешта жывое, здаровае.

Адчуванне свае віны яшчэ ўзмацняла ў ім боль ад горкае, непапраўнае страты. Яе нельга было параўнаць ні з чым, што дагэтуль перажыў Бяссмертны. Сябе ён ніколі не шкадаваў, хіба толькі апошні час, калі маляваліся няясныя планы аб нейкім сямейным шчасці, калі хацелася хутчэй скончыць крывавую вайну з акупантамі, калі мацней пацягнула да таго, што ўжо было забыта і заслонена гібеллю сяброў, выбухамі і пажарамі, жорсткімі сутычкамі і баямі, няспынным лавіраваннем на мяжы жыцця і смерці,— яго пацягнула да спакойнага жыцця.

І вось, калі яму здавалася, што ўсё ўвайшло ў сваю каляіну, што ён адчуў ранейшую сілу і спрыт у сваім целе і адкінуў сумненні, якія апаноўвалі яго ў час хваробы, ён атрымаў смяртэльны ўдар. Так, для яго гэта было раўназначна смерці. Ходзячы над краем магілы, спустошаны няспынным перанапружаннем волі, счарсцвелы ад частага відовішча смерці, ён пачынаў баяцца сам сябе: ад прыроды ён быў добры і чулы хлопец, да вайны шкадаваў зарэзаць курыцу, уцякаў, калі бацька клікаў яго калоць свінню. Ці для таго ў яго рукі, каб трымаць зброю? Не, яго рукі ўжо даўно сумавалі па працы, ім пара ўжо было б песціць малое, абдымаць жонку, зарабляць хлеб. Але прыйшлі чужынцы, і ён павінен быў адкінуць прэч сваю мяккасць, загартаваць сэрца і волю, каб бараніць свой край і народ. На ворага ў яго была цвёрдая рука. І толькі яны былі вінаваты, што ён стаў жорсткі. Толькі яны!

У гэты цяжкі для яго момант у атрадзе з'явілася Валя. І Бяссмертны адчуў, што ён раптоўна змяніўся. Яна, як цёплы сонечны промень, асвяціла і сагрэла

114

яго счарсцвелую душу, вярнула яму тое, чым ён даражыў у сабе, і што паміма яго волі выслізгвала з яго рук. Бяссмертны зноў адчуў сябе ранейшым чалавекам. Па-другому ён стаў глядзець на свет і на людзей. Здавалася, ён разумеў голас птушкі, шэпт ветру, музыку лесу, адчуваў, як напаўняецца да краёў яго душа,— напаўняецца гаючым бальзамам. І ён стаў шчодра дарыць яго ўсім, хто акружаў яго, хто разам з ім нёс цяжкую ношу партызанскага жыцця. Валя памагла яму зразумець, што, якая б жорсткая ні была вайна, яна не ў сілах вытравіць з чалавека ўсё добрае; што чалавек і на вайне не траціць свайго чалавечага вобліку, калі ён ваюе ў імя жыцця.

І раптам... Ах, Валя, Валя... Слёзы набягаюць на вочы. Бяссмертны прышпорвае свайго каня.

Конь бярэ з месца, выцягваецца ў струнку.

Свішча вецер у вушах, гатова сарвацца шапка. Бяссмертны аслабляе павады, і конь адразу разумее яго — запавольвае ход, з галопу пераходзіць на трух. Ён цяжка храпе, матае галавою. Цёмная грыва развяваецца па ветры, казыча Бяссмертнаму рукі. Ён гладзіць шыю каня і адчувае, што яна мокрая і гарачая.

Вось скончыўся лес. Бяссмертны спыніўся, саскочыў з сядла, прыслухаўся. Парыпваючы сёдламі, набліжаліся астатнія. У цемры не было відаць іх твараў, але па пасадцы Бяссмертны кожнага з іх пазнаваў, як днём.

Усе спыняюцца. Моўчкі, без слоў аддаюць коней аднаму партызану, а самі, нарыхтаваўшы зброю, ідуць у вёску.

Вось і тая прысадзістая хата з краю сяла. Бяссмертны пазнаў яе па агародчыку перад вокнамі і студні за хатай на самай вуліцы. Яны падышлі так ціха, што не азваўся ні адзін сабака. Ці мо іх цяпер зусім не было ў вёсцы?

Хата спала, прыпаўшы да зямлі. Бяссмертны падышоў да дзвярэй, пастукаў, прыслухаўся. Ніхто не збіраўся адчыняць. Пачакаўшы колькі хвілін, ён пастукаў яшчэ.

І ў гэты час Школьнік, які быў бліжэй да акон ад гароду, згледзеў, як мільганула нешта белае ў агародчыку і сiганула за плот у кусты бэзу. Школьнік крыкнуў і кінуўся за хату, а за ім астатнія.

— Хлопцы, не страляць, я сам! — задыхаючыся, на хаду крыкнуў Бяссмертны.

Ён на хвіліну спыніўся, навёў аўтамат на белую пляму, што аддалялася ад іх. Бахнуў адзінокі стрэл. Белая пляма на момант знікла.

Бяссмертны прыпаў на калена. Рукі дрыжалі, сэрца грукала ў грудзях.

Дзе ж тая белая пляма? Вось! Бяссмертны зноў націснуў на спуск, аўтамат ірванула, на момант асляпіла...

Бяссмертны ўскочыў на ногі і зноў кінуўся бегчы.

Пасля, спатыкнуўшыся, спыніўся,— убачыў ля ног чалавека ў белым, які ляжаў на чорнай раллі. Ён, напэўна, канаў, і рукі ў смяртэльнай сутарзе разграбалі пальцамі зляжалую за зіму зямлю.

Бяссмертны павярнуўся і ціха пакрочыў у цёмную пашчу ночы, несучы ў сэрцы нейкую нездаволенасць ад такой хуткай развязкі.

На ўскрайку лесу прызыўна і трывожна заржаў конь. Бяссмертны схамянуўся, выцер вочы і закінуў на шыю аўтамат.

*1961—1962 гг.*

# АПАВЯДАННІ

## АБУДЖЭННЕ

Мне было тады гадоў дзесяць, не больш. Мы жылі бедна, свае зямлі мелі ўсяго каля трох гектараў, а зямля пясчаная, камяністая, неўрадлівая. Хлеба да новага ніколі не хапала. Нават не да новага, а да вясны. Таму бацька часта паўтараў паляшуцкую прымаўку, што ніколі не даводзіцца наесціся на поўную губу бярозавага соку [illegible] хлебам: хлеб ёсць — соку няма, ёсць сок — хлеба няма.

Бацька ездзіў па заработках, а летам, ухадзіўшыся ля дома, ішоў на работу да пані Ласоўскай, у суседнюю вёску Гасцілавічы. Туды ж я кожны дзень улетку вадзіў на павадку пасвіць сваю карову, а за гэта памагаў панскаму пастуху сцерагчы вялізны статак.

Пані Ласоўская, старая ўдава, мела добры маёнтак, сваю сыраварню. У яе было трое ўжо дарослых дзяцей: два сыны і дачка-красуня. Дачку звалі Маруся. Ёй было гадоў мо васемнаццаць, калі пачалі гаварыць, што хутка яна выходзіць замуж за маладога статнага шляхцюка з-пад Клецка — Сеўрука.

Вяселле назначылі недзе перад жнівом, бо ў маладога не так даўно памерла маці і ў яго гаспадарцы не было жанчыны. Вось ён і спяшаўся. Вяселле было багатае, людлнае. І не дзіва — адна дачушка, пешчаная, прыгожая, як ружа. Чарнявая, з доўгімі косамі, з тонкім прамым носам, з поўнымі вуснамі, стройная, як маладая таполя, яна з малых год ведала сабе цану. Казалі, што ў панны Марусі не было адбою ад жані-

хоў — багатых, паважаных і, як звычайна, паноў у гадах, але яна выбрала хоць не такога багатага, як сама, але чалавека прыстойнага і сімпатычнага з твару.

Словам, вяселле было як трэба. Гасцей напрыязджала многа, і ўсё не абы-хто: суседзі — паны і паўпанкі, чыноўнікі з Ляхавіч, нават з Баранавіч, і яшчэ вышэй — з ваяводства, што ў Навагрудку.

Але ўсё гэта зацьміла музыка. Іграў аркестр. Не аркестр, а хутчэй сямейны ансамбль ці як яго яшчэ лепш назваць. Музыканты былі з Баранавіч, усе з адной яўрэйскай сям'і: дзве сястры, брат і муж аднае з сясцёр. Чатыры музыканты на чатыры інструменты: скрыпку, акардэон, віяланчэль і бубен. Але як яны гралі! Гэта трэба было чуць і бачыць. Больш за ўсіх кідалася ў вочы скрыпа́чка, апранутая ў чорную дарагую сукенку, чорненькая, невысокая і зграбная, з вялікімі цёмнымі вачыма на белым твары і чорнымі пышнымі валасамі. Другая, маладзейшая, была бландзінка, але вельмі падобная на старэйшую сястру — такі ж тып інтэлігенткі, толькі з прымессю нетутэйшай крыві. У яе таксама былі вялікія вочы і яркая белазубая ўсмешка, як і ў старэйшай сястры. Яна туліла да сваіх высокіх грудзей бліскучы ад перламутру вялікі акардэон. Мужчыны былі зусім розныя. Малодшы, брат жанчын, барабаншчык, быў яшчэ зусім юнак, невысокі і шчуплы, а той, што іграў на віяланчэлі ці на басэтлі, як мы тады думалі, быў высокі і здаравенны мужчына з тыпова яўрэйскім гарбатым носам і капою густых рыжых валасоў, такіх густых і віхрастых, што, здавалася, як толькі і брала іх расчоска. Сваю віяланчэль ён мог бы трымаць так жа лёгка, як яго жонка скрыпку.

Іграючы, мужчыны сядзелі, а жанчыны стаялі. Саліравала чарнявая скрыпачка. Яна стаяла крыху наперадзе ўсіх і іграла. Іграла не толькі скрыпка ў яе руках. Яна ўся іграла сама — ад спрытных ног у элегантных чорных лакірках да кончыкаў валасоў над белым мармуровым ілбом, на якім не было ні адной маршчынкі.

Мазуркі, абэркі, паланезы, танга, вальсы... Танцы ў розным тэмпе, з розным настроем, у кожнага была свая душа, свой гукавы воблік. І скрыпачка ўвесь час

мянялася: іншы выраз твару быў у яе, іншая ўсмешка, іншая пастава; па-другому хадзіла правая рука, у якой свабодна і плаўна, як дасканалая дырыжорская палачка, лётаў тонкі рухавы смычок. Ён далікатна, але ўпэўнена дакранаўся да струн, і яны давалі жыццё тысячам чароўных гукаў, якія напаўнялі ўсё навакolle, западалі ў душу. О, гэтая скрыпка! Што яна рабіла з людзьмі!

А мо вінавата была не так скрыпка, як тая скрыпачка, што трымала яе ў сваіх віртуозных руках? Я ўпэўнен, што ў іншых руках тая скрыпка не мела б такое магічнае сілы. Яна жыла, дыхала, але жыццё гэтае перадавалася ёй ад чароўнай невялічкай жанчыны-артысткі, што, крыху нахіліўшы галаву і стоячы перад астатнімі музыкантамі, злёгку прытупвала левай нагой, нібы адбіваючы рытм. Смычок, як прыліпшы да струнаў, то плаўна перабягаў справа налева, то вяртаўся зноў. Першая струна вяла тоненька, аж ныла, як посвіст ветру праз саломінку, а калі смычок забіраў улева, пачынаў гусці бас — ён гуў, нібы вялізны чмель, і нават густыя пявучыя гукі віяланчэлі не маглі яго заглушыць. А ў гэты самы час пальцы левай рукі скрыпачкі, тонкія, далікатныя жаночыя пальцы, песцілі грыф, перабягалі па струнах, нібы гладзілі іх, пераскоквалі то ўверх, то ўніз, надаючы гуку характэрнае дрыжанне.

Здавалася, скрыпка ўздыхала ледзь прыхаваным чалавечым болем.

Дзіўна, што я перастаў заўважаць астатніх аркестрантаў разам з іх інструментамі. Аркестр жыў неяк па-за скрыпкай: вось так, як сама скрыпачка стаяла спераду, а ўсе астатнія музыканты за ёю, так і скрыпка была на першым плане, а ўсе іншыя інструменты рабіліся проста фонам, акампаніравалі ёй,— так, як нізкія ноты ў акардэоне ствараюць фон для высокіх галасоў. Чуваць была толькі скрыпка, усе іншыя інструменты толькі падпявалі ёй, толькі памагалі. Яна здавалася мне голасам птушкі на фоне бясконцага лясного шуму, хоць спачатку можна і падумаць, што яны не звязаны адно з другім. Не, яны звязаны, і яшчэ як моцна, а адно без другога яны адразу блякнуць, трацяць усю першародную прыгажосць. У гэтым я пераканаўся трохі пазней...

Скрыпачцы было цяжка, яна стамлялася, але рэдка хто мог гэта заўважыць за ўсмешкай, якая час ад часу — і вельмі дарэчы — прабягала па яе вуснах, за прыгожым паваротам ці за мяккім і такім натуральным па, якое яна рабіла часам у такт свайму гранню.

Пары, танцуючы, падыходзілі да яе ўпрытык, і мужчыны, не баючыся пакрыўдзіць сваіх партнёрак, пасылалі ёй цёплыя, а то і шматзначныя ўсмешкі; а стары вусаты пан з лысаю бліскучаю галавою, кружачы дзябёлую, вышэйшую за сябе, пані, відаць, не сваю жонку, кожны раз, робячы круг і праходзячы каля музыкантаў, пасылаў скрыпачцы сімвалічны пацалунак.

Ёсць такое няпісанае правіла — хто заказвае, той і плаціць. Ёсць яно і ў музычным свеце. Той, хто хацеў заказаць сабе танец, падыходзіў да музыкантаў і даваў старшаму з іх пэўную суму, і чым яна была большая, тым большы гонар быў для заказчыка. Гэты раз паны асабліва не скупіліся, і амаль што ўсе танцы былі заказныя, і ў белую далікатную руку скрыпачкі перайшла не адна дзесятка злотых. Гэта рабілася проста, без намёку на абразу ці прыніжэнне, як падаюць каму-небудзь шклянку вады. Яна адказвала тым жа: ветліва схіляла галаву, усмешка, самая шчырая і зычлівая, асвятляла яе твар, толькі ля вачэй з'яўляліся ледзь прыкметныя маршчынкі. Пасля яна абводзіла позіркам сваіх калегаў-музыкантаў, нібы пытаючы ў іх дазволу, і ківала галавою ў знак згоды.

Зноў пачынаўся танец, зноў кружыліся пары, а скрыпка спявала яшчэ галасней, перакрываючы сярэбраныя пералівістыя гукі акардэона, падымаючыся над нізкімі жалобнымі нотамі віяланчэлі. Скрыпка спявала і плакала, смяялася і галасіла наўзрыд, уздыхала, шаптала і ўмольвала, яна злавала, загадвала і праклінала. Было ў яе голасе ўсё, што ёсць у кожнай чалавечай душы. Нездарма скрыпка мае сваю «душу». Няйначай яна іграла славуты «Паланез» Агінскага...

Урэшце скрыпачку запрасіў на танец адзін адмысловы франт з вусікамі і ў камізэльцы, відаць, заўзяты танцор, які перабраў ужо ўсіх паненак і, пэўна, не знайшоў сабе па густу. Яна спачатку хацела адмовіцца — яе справа іграць, але ён настойваў, і яна, па-

клаўшы скрыпку на калені свайму мужу, пайшла танцаваць.

— Вы замужам? — спытаў кавалер па-польску.

— Так,— адказала яна гучна і з годнасцю,— мой муж іграе на...

Я не разабраў апошняга слова — можа, таму, што яно было незнаёмае для майго вуха.

— Шкада,— з жалем у голасе сказаў ён.

Яны танцавалі хуткую польку, многія пары адразу выйшлі з кола, не вытрымаўшы шпаркага тэмпу, і засталіся толькі франт з вусікамі і скрыпачка.

Цяпер усе зявакі, раскрыўшы раты, пазіралі не на аркестр, а на танцораў, і менавіта на яе, бо дагэтуль на франта ніхто асабліва не заглядваўся. Чамусьці адразу збяднеў і аркестр, нечага ў ім стала бракаваць і, здаецца, ці не самага галоўнага... Так, не хапала ў ім душы, не хапала таго агню, таго высокага напалу, які прыносіць сапраўднае натхненне. Такі праўда: шумеў лес, толькі не было ў ім салаўінай песні, і не было ансамбля.

А танцавалі яны здорава! Франт, па ўсім відаць, быў танцор адмысловы. Ён кружыў яе, як пушынку. Тэмп быў шалёны, а яны ўдваіх рабілі такія нечаканыя павароты — справа налева ці наадварот, так раптоўна мянялі кірунак ці рвалі з месца, што ўсе ахалі. Здаецца, ногі ў іх не датыкаліся да падлогі.

Усмешка, на гэты раз больш напружаная, не сыходзіла з яе вуснаў, але не было відаць стомы ў яе шырока адкрытых вачах, толькі рука, што ляжала ў партнёра на плячы, выдавала яе трывогу — яна баялася канфузу,— і, напэўна, хацела даказаць, што і ў танцы яна не горшая, чым у музыцы. І яна гэта даказала! Першы здаўся кавалер. Ён раптоўна спыніўся і, як сянкевіцкі шляхціц, упаў перад ёю на адно калена, аж задрыжала падлога, пасля далікатна пацалаваў ёй руку. Твар яго гарэў агнём, а яна стала яшчэ больш бледная, толькі дыхала глыбока і часта. Усе запляскалі ў далоні, зашумелі, пасыпаліся воклічы «брава».

...Ад таго вяселля застаўся яшчэ адзін малюнак.

На прасторным двары выстраіўся цэлы абоз брычак і фаэтонаў, а наперадзе іх, перад ганкам, стаяла запрэжаная шасцёркаю дагледжаных коней нейкая адмысловая карэта з адкідным верхам.

З пакояў выйшлі маладыя — ён вясёлы, узбуджаны, апрануты ў чорнае, яна заплаканая, бледная, уся ў белым, як лебедзь, у доўгім вэлюме.

Яны ўзняліся ў карэту, чынна раскланяліся і селі. Малады фурман, які з выпадку такой урачыстасці быў апрануты пад паноў, устаў з перадка і, напяўшы скураныя лейцы, падняў угору правую руку.

— Бах! Бах! Бах!

Тры стрэлы прагрымелі адзін за адным. Спуджаныя коні рванулі з месца. За маладымі рушылі госці...

Пасля той музыкі я доўга быў сам не свой, жыў як у сне. Я спыняўся сярод дарогі, вочы мае самі заплюшчваліся, і я выразна чуў музыку, толькі трохі прыглушаную адлегласцю, нібы яна даходзіла да мяне праз якую не надта шчыльную перагародку. Музыка была ў маёй галаве, ва ўсёй маёй істоце, яна перапаўняла мяне да краёў. За тыя дні я патравіў каровамі многа пасеваў, нарабіў не раз шкоды, і карова мая часцяком прыходзіла дадому адна, а я, як сонны, плёўся ззаду. Бацька крычаў, маці гразіла паскамі. Я ачынаўся, рабіў, што мне казалі, а пасля зноў нешта на мяне находзіла, і я зноў чуў музыку.

У вольную часіну я ўцякаў у лес, які быў пры самай хаце, клаўся на траву, глядзеў на разгатыя галіны бяроз, якія ледзь варушыліся на ветры, і тады да мяне прыходзіла музыка. Увесь лес быў ужо для мяне аркестрам, я мог слухаць яго ўволю. Хутка я ўжо нічога не бачыў, не адчуваў, дзе я і што са мною — была толькі музыка, музыка без канца і краю, і адкуль яна ішла — нельга было разабраць. А над усім гэтым морам музыкі чуваць было, як спявае і плача скрыпка. Бацькі ўжо хацелі везці да доктара, але паступова ўсё прайшло. Ды не, не ўсё! З таго часу я нібы ачнуўся ад доўгага сну, глянуў на свет другімі вачыма і ўбачыў новыя змены. Я ўбачыў, што таго, чым я жыў дагэтуль, ужо для мяне мала, бо на свеце ёсць нешта большае і прыгажэйшае, нешта такое, без чаго жыццё будзе здавацца няпоўным і нецікавым.

Ва мне абудзіўся чалавек.

*1964 г.*

# НАЧНЫЯ СТРАХІ

Забабоны трымаліся тут моцна, пусцілі глыбокія карэнні, асабліва сярод жаночай паловы чалавечага роду. Мужчына што? Ён рэдка калі сядзіць дома, ён усё аб'ездзіў і абхадзіў — днём і ноччу, у туман і дождж, у лютую сцюжу і ў цёплыя летнія ночы, ведае кожны куст і пень, кожную паваротку дарогі і калдобіну. Каб быў той нячысты дух, чорт ці д'ябал — не раз бы спаткаліся.

А жонка гадуе дзяцей, корміць жывёлу, прадзе, тчэ, апранае, корміць і даглядае сям'ю, на яе слабых плячах трымаецца ўся гаспадарка. Яна, як прыкутая да хаты, да прасніцы, да печы, не бачыць свету ні ў будзень, ні ў свята, хіба толькі калі вырвецца на кірмаш купіць дзецям якога корту ці сабе мультану на каптан ці на спадніцу — і зноў таўчыся, як Марка па пекле. Кола яе абавязкаў невялікае: яна не ведае, што робіцца на свеце, не скажа нават, які «цар» кіруе цяпер народам, яна не бачыла ў вочы газет і кніжак, хіба толькі тыя няшчасныя падручнікі, па якіх вучацца дзеці. Ды і то яны на незразумелай для яе мове — польскай, на якой гавораць толькі начальнікі, секвестратары ды паліцыянты. Яна засталася такою, якімі былі тут жанчыны сто, дзвесце гадоў назад: яна верыць у бога і ў нячыстую сілу, верыць у небыліцы і ў цуды, хоць колькі жыве — не бачыла іх ніколі і невядома, ці ўбачыць. Аднак яна верыць, што яны ёсць, як ёсць гора, нястачы, беднасць, хваробы, сваркі і крыўды — усё тое, што акружае яе кожны дзень. Усё благое — ад нячыстае сілы, усё добрае — ад бога. Добрага менш, яна ведае гэта з уласнага жыцця, але не крыўдуе на бога: ён далёка, на небе, ён усё бачыць і рассудзіць справядліва. А нячыстая сіла тут, гаспадарыць на зямлі, яна захапіла сабе ўладу над чалаве-

кам, робіць што хоча, здзекуецца, крыўдзіць адных і памагае тым, хто ёй прадаўся. І калі скончыцца яе панаванне — невядома. Толькі жанчына цвёрда верыць, што гэта будзе, і, урэшце, няважна калі. Трэба цярпець столькі, колькі захоча бог. І яна цярпіць — робіць усё, што трэба ў гаспадарцы, і цярпіць.

Доўгімі асеннімі вечарамі, калі ў коміне маркотна і аднастайна галосіць вецер, а па сценах шоргаюць намёрзлымі галінамі дрэвы — нібы просяцца ў хату пагрэцца,— сядзяць жанкі па адной, па дзве і выводзяць доўгія ніткі, накручваюць на верацёны разам з ніткамі і сваё здароўе. Адна ручайка за вечар — мала, трэба яшчэ адну... Вочы зліпаюцца, павекі, як з волава, не паднясць, галава нячутна хінецца да мяккай, як пуховая падушка, кудзелі, датыкаецца — ой, што гэта я, трэба прасці... Пальцы не слухаюць, млеюць, верацяно падае, звонка стукае галоўкай аб падлогу і будзіць праллю — трэба прасці. У роце сохне, не памагаюць і мёрзлыя журавіны ці горкая, аж сцягвае ад яе рот, каліна. Тупым болем баліць галава. Не, трэба прасці...

Праспявалі першыя пеўні. Глухая, зацятая поўнач пры лесе: ні гуку, ні чалавечага голасу — нямая цішыня. Толькі каб выйшаў на двор, то, можа, пачуў бы, як далёка, за вярсту ці дзве адгэтуль, выюць у казённым лесе ваўкі.

Дзеці даўно ўжо спяць, толькі ціха пасопваюць у насы, ды часам каторае заплямкае вуснамі, нібы смокчучы соску, або ўскрыкне праз сон і скажа «мама». Бацьку яны рэдка калі бачаць, ён не прыпыняецца ў хаце, не песціць іх надта — няма калі.

Як тая пража, снуюць і думкі, і, каб іх льга было наматваць на верацёны, выйшла б не адна ручайка. Былі б яны ўсякія —і чорныя, як прапушчаныя праз комін, спрадзеныя ў ліхія гадзіны сварак ці хвароб, і шэрыя, нетрывалыя, як павуцінне, што снаваліся ў часіну стомленасці і душэўнай пустаты; пракідаліся б і ружовыя, светлыя фарбы, што ўзнікалі ў рэдкія хвілі ўзнёслых мар і надзей на нейкае няяснае шчасце, у кароткія моманты душэўнага прасвятлення, калі ўсё навокал спявае на тысячу галасоў, некуды кліча, некуды цягне, але ты сядзіш, як прывязаны, бо ведаеш, што трэба скончыць апошнюю ручайку, толькі гэту, апош-

нюю, а потым — што будзе, то будзе — пайду, палячу ў свет, у тое нязведанае і нязнанае, якое ўсё кліча, а само ніколі не прыйдзе. Трэба ісці самой... Вось толькі апошняя ручайка...

Ці апошняя толькі? Усё заставалася так, як было...

Яна, лічы што, адна дачка ў бацькоў. Лічы што... Адзінаццаць дзяцей прывяла на свет яе маці, а вось жыць засталіся яна і яшчэ два хлопцы, адзін старэйшы за яе, другі — самы малодшы. Старэйшы яшчэ да тае першае вайны паехаў у Амерыку шукаць шчасця і там недзе прапаў. Самы малодшы тут шукаў шчасця — не сабе, а людзям, і за гэта яго паны пасадзілі за краты. Ой, калі тое будзе, што беднаму чалавеку настане людскае жыццё? Бо не з раскошы ж яны паўміралі, тыя васьмёра. І паміралі не маленькімі, каторае ў год, каторае ў пяць, то менш, то больш. Колькі таго клопату і здароўя страціць чалавек, пакуль падкідае дзіця да пяці гадоў! І тут — ні з таго ні з сяго — смерць... Як сёння бачыць яна перад вачыма тую спакутаваную Ганначку, якую спалохалі гусі,— худзенькае, бледнае дзіця. Ёй не памаглі ні дактары, ні шаптуны — яна дагарэла, як агарак свечкі, ціха, спакойна. Толькі па начах, недзе ў поўнач, пачынала крычаць і калаціцца ад страху, лезла на сцяну, білася худымі ручкамі, нібы баронячыся ад нябачных страхаў, якія мучылі яе... Паміралі ад воспы, ад гішпанкі, ад кашлю, ад чарвей... А колькі хварэла яна сама — малою, і ўжо нават дзеўкаю, калі хвароба лічыцца самаю большаю ва́даю для дзеўкі — плётак і ўсякіх размоў не абярэшся.

Не шанцавала не толькі на дзяцей. Не было шчасця і на жывёлу: прападалі каровы, кепска пладзіліся свінні, сохлі авечкі. Вядомы на ўсю гміну знахар казаў бацьку, што ўсё ад нячыстага, што ўсё «зроблена», і за вялікія грошы ён браўся «адрабіць» чары, але адкуль было ўзяць тых вялікіх грошай, калі не хапала і малых — на хлеб, на вопратку, на абутак. Свае мясцовыя знахары таксама казалі, што ўсё зло ідзе ад блізкай сваячкі, што гэта яна ўсё робіць.

Тую жанчыну з нядобрым позіркам цёмных вачэй, заўсёды насупленую, маўклівую і нелюдзімую, у вёс-

цы не любілі і нават баяліся. У кароў заўсёды прападала малако і доўга не збівалася масла, калі толькі тая жанчына выпадкам заглядвала ў збанок ці ў дайніцу. Малое дзіця адразу пачынала плакаць і капрызіць, як толькі яна спыняла на ім сваё зайздроснае вока. І ўсе добра памятаюць той выпадак, калі ў аднаго чалавека свіння паразрывала сваіх парасят пасля таго, як вядзьмарка палюбавалася на іх. Тая жанчына стала для яе, тады яшчэ дзеўкі, найбольшым страхам — яна абыходзіла яе далёка, калі заўважала першая, а калі сутыкалася нос у нос і ўжо не было куды дзецца, сэрца ў яе нібы апускалася, станавілася млосна. Увесь той дзень, а часам і назаўтра, яна адчувала сябе хвораю. Так было не раз і не два, бо жылі яны праз некалькі хат, сустрэчы можна было чакаць кожны дзень. Калі яна выходзіла замуж у чужое сяло, то цешыла сябе патаемнай радасцю, што не спаткае больш сваё згубіцелькі, што жыцьме спакойна.

Аднак яе надзея не спраўдзілася, бо і тут, за дваццаць пяць вёрст ад дому, у глухім лесе, на чужыне, яе чакала старое «шчасце». Непадалёку ад хаты жыла ў адной сям'і кабета — старая, бяззубая, сагнутая ў крук, непрыветлівая, апранутая заўсёды ў чорнае. Яна нагадвала старую пашчыпаную варону. І хадзіла так: дробна і хутка пераступала крывымі сухімі нагамі і нібы шукала чаго на зямлі — галава апушчана долу, вочы ўвесь час утаропляны пад ногі. І заўсёды шаптала нешта сабе над нос, нібы якую малітву ці закліканне.

Ды тут, на новым месцы, замужам, сямейны клопат не даваў задумацца над тымі праявамі, якія так уражвалі яе ў бацькоў. Тут не хапала часу выцерці нос, работы было па горла. Яны, маладыя, пачыналі сваё жыццё на голым месцы: там, дзе ляжала іх поле, іх бедны надзел, былі старыя нямецкія акопы. Трэба было іх спачатку засыпаць, пасцягваць дрот, зараўняць ямы ад снарадаў. Жылі спачатку ў яго бацькоў, але мужава нянавісць да мачыхі перакінулася і на бацьку, які пры падзеле гаспадаркі пакрыўдзіў яго, малодшага сына, аддаўшы яму горшую зямлю, а ўсю частку старэйшага сына, што паехаў у Амерыку, аддаў у арэнду. Тут быў такі клубок, што яго ніколі не разматаеш, наадварот, з гадамі ён заблытваўся яшчэ

7 Зак. 3425

больш. Былі сваркі, пачаліся бойкі, і тады давялося шукаць сабе новае месца — пайшлі ў падсуседзі да чужых людзей. Але хіба ў чужых лепей? Печ адна, калодзеж адзін, хлеў адзін — не размінуцца, не прайсці, каб не зачапіцца за чужы бок. А дзеці малыя — пялёнкі, крык, ноччу трэба паліць лямпу. І ўсё-такі даводзілася цярпець, бо нікуды не дзенешся: свае вуглы толькі ставіліся, грэла надзея на хуткі канец пакутам. На пятым годзе замужжа яна дачакала свае хаты. Скончылі восенню, спяшаліся, накрылі «пад колас», печ рабілі [illegible] гліны, сяней зусім не было, прыставілі ад страхі да нізу жэрдкі, палацілі і таксама накрылі «пад колас» — так менш ішло саломы. Для «пасагу» зляпілі пляцень-хлевушок — паставілі карову і кабылу з жарабём. Зажылі спакайней, хоць беднасць не адыходзіла ні на крок, сачыла, як воўк з-за куста за авечкаю, што адбілася ад статка. Пакуль будаваліся, залезлі ў даўгі; цяпер трэба было думаць, адкуль што ўзяць, каб расплаціцца з людзьмі.

І ўсё ж добра ведаць, што ты сама сабе гаспадыня, што ніхто не зазірае ў твой гаршчок, не глядзіць табе ў рот, калі ты ясі, не праводзіць калючым позіркам, ад якога робіцца холадна за плячыма.

Але перамену ў лепшы бок яна адчувала год, два, не болей. Пасля пачалася старая песня: нястачы, сваркі, бясконцыя раз'езды мужа, калі здаецца, што ты не замужам, а недзе як бы дачасу жывеш у прочках, з якіх так хочацца ўцячы да бацькоў, да маткі.

Цяпер яна была адна са сваімі сумнымі думкамі, не дзялілася ні з кім ні сваёй рэдкаю радасцю, ні частым горам. Адзінаю ўцехаю былі дзеці; неадступныя былі клопаты аб іх здароўі, клопаты аб гаспадарцы. Спачатку і муж быў ласкавейшы, цешыўся са свайго кутка, свае незалежнасці, нават вышэй стаў насіць галаву. Пасля навіна неяк паблякла, стала прывычная і ўжо не цешыла вока і душу так, як спачатку. Сталі відны новыя балячкі, новыя клопаты заціралі тую нетрывалую радасць, якой яны жылі тыя пару гадоў.

Што адна голая хата ў гаспадарцы? Да яе трэба сені, трэба цёплы хлеў для гавяды, а не такі плятнік — што рэшата, патрэбна гумно ці — сама мала — якая адрына. Зноў трэба было збіраць, не раскінуць ні гро-

ша на які свой абыходак, а ўсё думаць пра тую будоўлю.

Хлеў хай пастаіць, ён хоць халодны, але зімою можна абкласці саломаю ці хоць тым балотным сенам, якое больш прыдатна на такую справу, чым для корму: яно з востраю, як шаблі, асакою, з горкім бабком і лотаццю, з сухім чорным хвашчом — жывёле не вельмі да смаку.

Задумалі ставіць гумно, хоць невялічкае, трысцен, а да яго пасля прыкідаецца яшчэ тры сцяны — і будзе хлеў пры гумне. Бо колькі таго дабра, яно ўлезе і ў адну палавіну.

Не адразу схопіш тое, што трэба. Прайшло нямала часу, пакуль навазілі бярвення — тонкіх круглячкоў, за паўцаны, бо на добрае ўсё не хапала грошай. Даражэй абышліся шулы і сохі — тут ужо нічога не парадзіш, на іх трымаецца ўсё збудаванне. Рабіў усё сам гаспадар, бо наняць чалавека — трэба заплаціць, даць пад'есці, ды не абы-як. Гэта самому — што з'еў, то і добра. Памагала іншы раз і яна, калі давалі хата і дзеці. Запомніць яна тое гумно да самае смерці. Ставілі шула — цяжкае дубовае шула, як з вады выцягнутае. У яму камель апусцілі лёгка, самае цяжкае заставалася падняць яго, паставіць роўна. Гаспадар пяўся, аж чарнеў, яна пасабляла яму, падстаўляючы сваё нетрывалае жаночае плячо. І ў адзін непрыкметны момант, калі гаспадар хацеў паправіцца і ўзяць лепш, ямчэй, шула ўсім сваім цяжарам лягло на яе. Яна войкнула, але ўсё ж утрымала цяжар, хоць у вачах адразу пацямнела, а сярэдзіну як бы хто пераламаў. Той дзень яна ледзь дабыла да вечара — усхадзіўся жывот, ламала паясніцу, паднялася гарачка. Але да доктара не паехалі — далёка, дорага, ды і што ён паможа ад такое хваробы? На другі дзень стала трохі лепей, яна ўжо магла хадзіць каля печы, накарміць дзяцей. Вечарам папялася да шаптухі ў суседняе сяло, беднай старой кабеты, якая «вылівала пярэпалах», загаворвала ваду ад «урокаў» — падзіву, выгаворвала «ўраз», каўтун, удар і другія пашыраныя сярод вясковага люду хваробы, якіх дактары звычайна не прызнаюць. Яна не брала ніякай платы за фатыгу — от, што хто дасць, а не дасць — і так добра. І многім памагала, гэта гаварылі ўсе.

Старая прыняла яе як дачку, распытала, палажыла на палок, і сама села ля яе, стала нешта шаптаць, паклаўшы ёй руку на жывот. Пасля дала выпіць нейкага зелля і наліла з сабою.

Ішла дадому ўжо не так памалу, вальней стала дыхаць, і выпрастаць спіну можна было смела — колкі прайшлі.

За работай, за клопатамі той выпадак забыўся, але варта было падняць што цяжкае ці пабыць доўга нагнуўшыся — летам на жніве ці восенню на бульбе — як хвароба адзывалася зноў. Яна нібы толькі прытаілася ўсярэдзіне і чакала зручнага моманту, каб напасці з новаю сілай.

Да ўсяго хварэлі дзеці. Хлопец увесь час скардзіўся жыватом, ледзь не памёр улетку, як ставілі тое гумно. Аднаго разу знайшлі яго пад бярвеннямі ледзь жывога — ён зашыўся ў шчыліну, у цянёк, лёг на зямлю і нават не крычаў, толькі курчыўся, падцяўшы калені пад бараду. Лячыла сама, добры чалавек нараіў: шкіпінар капала на цукар і давала дзіцяці нашча, а днём — адвар з піжмы. Гарката страшэнная, але бедны хлопец піў і хутка такі паправіўся. Тады не па малым часе захварэла старэйшая — устудзіла галаў. Гэта ж трэба даўмецца: налілі ў цэбар вады ля калодзежа і давай мыць галовы. Усім нічога, а ў яе пачалася залатуха. Колькі напакутаваліся з ёю, колькі начэй недаспалі. Вазілі да доктара, бо свае, шаптухі, не памагалі...

А самая меншая, дык тая хварэе, як толькі прыйшла на свет. Худая, як таран, жоўтая, нават твар мохам парос. І ўсё крычыць. Малая была — не сціхала днём і ноччу, і падрасла, ужо скора ў школу,— усё роўна крычыць, асабліва ноччу. Нейкія страхі сняцца, няйначай, чары якія. Але ўжо не тое, што была малая і не давала звясці вокам ні ёй, ні гаспадару. Не раз сядзела яна з тым дзіцем і плакала разам, даводзілася нават разам уцякаць да суседзяў ад разгневанага мужа. Усяго было... Чалавек яе горай стаў глядзець на сям'ю, панурыўся, хадзіў насуплены і сярдзіты, іраўся з дому — абы-куды, толькі б не заставацца дома, цяжка яму было панасіць на руках малую. Ён грукаў дзвярыма, запрагаў каня і ехаў куды-небудзь — па каменне, па дровы ці да пані Ласоўскай у заработкі.

Казалі, праўда ці не, што знюхаўся там з нейкаю служанкаю.

Пасля ўсё выйшла наверх, бо нічога ад людзей не ўтоіш, хоць сам ён не прызнаваўся — ад яго гэтага не чакай. Але што яна магла яму зрабіць, чым пакараць? Маўчаннем, грызнёю, выгаворамі? Ад гэтага ён лепшы не станавіўся, наадварот, яшчэ кідаўся біцца. Што і казаць, мужчыну большая воля, большы разгон, не тое што забітай, заціснутай горам і хатнімі клопатамі жанчыне.

Не забудзе яна да самай смерці той дзень, калі заехаў зімой секвестратар і за нядоімкі забраў гаспадароў кажух. Як яна не давала гэты кажух, яны цягнулі яго кожны ў свой бок, і ў яе застаўся толькі правы рукаў, а ў секвестратара — усё астатняе.

Ніхто ёй не памагаў. Яна па-ранейшаму ўсё адна ды адна — адна са сваім горам, са сваім клопатам. Часам зойдзе хто на якую часіну — пазычыць газы ці запалак, бывае, што і хлеба. У вёсцы людзі прывыклі пазычаць у суседзяў, бо без гэтага не абыдзешся. Бывала так, што і вуглёў у гаршчочку даводзілася прыносіць ад суседзяў, бо пераводзіў запалкі сваім курэннем, не дай бог...

На двары як бы нехта затупаў па мёрзлай, укаванай зямлі, хоць сабака і не забрахаў. Ці мо ёй падалося?

Яна саскочыла з услончыка, прыставіла прасніцу да печы і пабегла да акна, прынікла тварам да халоднай шыбы, але нічога не магла разгледзець: была чорная густая цемната, якая бывае толькі восенню. Во, зноў, здаецца, нехта мігнуўся ад калодзежа да гумна. Але сабака нешта не падае голасу. Ці мо куды збег?

Яна падкруціла кнот у лямпе, пабоўтала магазын. Газы яшчэ заставалася на дне, як на сёння, то хопіць. Напілася вады, потым падышла да дзяцей, паправіла коўдру на самай меншай, стала, прыгледзелася. Заўсёды ў такія хвіліны замілаванасць падкочвала да яе сэрца, цяплелі стомленыя за дзень вочы, а на перасмяглых ад кудзелі вуснах блукала нясмелая ўсмешка. У такія, хоць і рэдкія, хвіліны замілаванасці яна не каялася і не шкадавала, што ёй цяжка, што яна ад-

на, што далёка ад сваіх родных. Цяпер ёй было добра і радасна, і яна адчувала сябе самым шчаслівым чалавекам на свеце. Дзеці, яе любыя дзеці, з-за якіх яна гэтулькі недаспала, гэтулькі выплакала слёз, былі побач з ёю, спалі моцным сном, ім сніліся сны маленства, сны, якія яна ўжо ніколі не ўбачыць. І аб гэтым яна таксама не шкадавала, бо на свае вочы бачыла: тое, што аддавала яна, не прападала без следу. Усё тое абуджалася і прарастала ў іх, яе дзецях. Свежасць твару, кругласць шчок, спакойнасць вачэй, зграбнасць стану, сілу — усё тое, што яна з гадамі непрыкметна, паволі траціла на сваёй дарозе жыцця, усё гэта да крупінкі, да крошачкі знаходзіла ў сваіх дзецях. І не магла нацешыцца, асабліва вось у такія моманты ціхай радасці, калі з душы звальваецца цяжкі пласт дзённых клопатаў, за якімі часам не бачыш сонца, не то што дзіцячай усмешкі ці маленькай, непрыкметнай радасці, якая прыходзіць да іх у час гульняў і дзіцячых забаў, калі накрычыш на іх, а то і наб'еш, не разабраўшыся як след, хто вінаваты, бо няма калі за работай, за бясконцым тупаннем ад печы да стала, ад хаты да калодзежа, ад калодзежа да хлява.

Колькі яна так прастаяла — невядома, толькі здалося ёй, што агонь у лямпе паменшаў і пачаў падскокваць. Яна падумала: не можа быць, толькі ж глядзела, на дне яшчэ боўталася газа. Але што рабіць? Яна дастала з-пад лавы пляшку з разбітым рыльцам, наліла без лейкі.

Памыўшы рукі, зноў села за прасніцу. Ад рук нясло газаю, хоць і адмывала. Вывеўшы колькі нітак, яна адчула, што пачаў марыць сон. «Кончу ручайку і буду класціся»,— падумалася ёй.

І раптам ні з таго ні з сяго — ррр-р-р-р — гучна і працяжна зарыпелі і адчыніліся насцеж дзверы ў хаце. І зноў настала яшчэ больш напружаная і яшчэ больш пагрозная цішыня.

Жанчына закамянела на прасніцы, са страхам пазірала на шырока расчыненыя дзверы, праз якія ў хату валіла халодная пара, і чакала самага горшага. Яна памятала, што сенцы зашчэплены, і каб хто лез, то яна пачула б скрып закруткі або стук зашчапкі аб дошку. Не, тут быў нехта такі, каму ніпачым зашчапкі і нават самыя вялікія замкі. Яна крыкнула не сваім

голасам, усхапілася і кінулася ў сенцы, туды, адкуль трэба было чакаць таго духа, які адчыніў дзверы і цяпер чагосьці чакаў ці проста палохаў, каб пасля зрабіць тое, з-за чаго ён сюды і прыйшоў.

Яна не памятае, як выскачыла з сенцаў і кінулася да суседзяў. Першая стаяла хата яе свёкра, у якой цяпер жыў новы чалавек — прымак Платон, жанаты на самай малодшай свёкравай дачцэ, ужо ад мачахі.

На шчасце, Платон быў дома, збіраўся класціся спаць. Маладая жонка не хацела пускаць яго з хаты, калі пачула, што ў суседкі нейкая там бяда. Аднак ён, глянуўшы на бледную, усхваляваную кабету, хутка апрануўся і выйшаў з хаты. Суседка пабегла яшчэ ў адзін двор, трохі далей ад іх — там жыў старэйшы мужаў брат. І той быў дома... Усе добрыя людзі ноччу ў сваіх сем'ях, толькі яе чалавека ганяе па свеце нячыстая сіла...

Мужчыны ніяк не маглі дабіцца ад яе, што ж там такое магло стаць: пажар, смерць ці яшчэ якое няшчасце?

«Нехта сядзіць на гары»,— цвердзіла яна і бегла спераду, а мужчыны ледзь паспявалі за ёю, адзін з добрым бічом, другі ■ пахватною сякераю. Жанчына спяшалася — там жа засталіся яе дзеці.

Дзеці, і праўда, засталіся, прачнуліся ад яе крыку і цяпер, збіўшыся ўсе трое на ложку, крычалі, як хто можа, ажно паахрыпвалі. Хата была расчынена насцеж, у сенцах таксама дзверы расхлябешчаны, у хаце холад, а дзеці сядзелі голыя. Яны сціхлі, калі ўбачылі на парозе матку і суседзяў-мужчын.

Агледзелі спачатку сенцы: свяцілі ў кожны кут, у якім можа схавацца хіба кацяня, але нічога падазронага не знайшлі. Міжволі затрымалі ўвагу на лесвіцы, што была прыстаўлена да сцяны — па ёй лазілі на гару. Мужчыны, адзін і другі, замарудзілі, не памкнуліся лезці наверх. Тады жанчына сама ўзяла ў іх лямпу і палезла на гару. Рука яе дрыжала, у лямпе скакала жоўтае полымя. Жанчына ступіла на сваю гару нібы на тонкі лёд, які вось-вось гатовы трэснуць, і яна праваліцца ў бездань.

Але і на гары яна не знайшла нічога такога, што паказвала б, каб тут нехта хаваўся ці нешта рабіў. Усё стаяла на сваім месцы: скрыня з мукою, скрыня ■

жытам, пара мяшкоў з аўсом і грэчкай. Кучаю ў самым далёкім месцы ад коміна ляжаў атрэпаны лён, у якім любіў спаць кот. І цяпер ён нездаволена падняў галаву і зіркаў сваімі зялёнымі вачыма на гаспадыню, не разумеючы, навошта яго патурбавалі. Галінкі рабіны, пазатыканыя за латы, працягвалі ёй свае густыя гронкі з падмарожанымі ягадамі. Усё было на сваім месцы, а яна ніяк не магла паверыць у зманлівую цішыню. Здавалася, што толькі святло разагнала адгэтуль усе страхі, а згіне яно — зноў запануюць тыя нябачныя духі, страшныя, незразумелыя, ненасытныя ў сваім адвечным жаданні шкодзіць людзям, не даваць ім спакою, трымаць у вечным чаканні нечага кепскага і непазбежнага, як лёс.

Яна злазіла з лесвіцы, цемра змыкалася за яе плячыма, і жанчыне здавалася, што нехта схопіць яе за плечы, сцісне ў жалезных абдымках — і больш не ўбачыць яна ні свае хаты, ні дзяцей, ні ўсяго таго, чым яна жыла дагэтуль і аб чым марыла. Хацелася крыкнуць, кінуцца ўніз вопрамеццю, не разбіраючы папярочын, проста на гэтых мужчын, што стаяць унізе і цярпліва чакаюць канца ўсёй гісторыі.

А канец быў зусім просты. Мужчыны зайшлі ў хату, пакурылі, пагаманілі трохі, пасмяяліся з кабеты і з сябе і развіталіся.

Жанчына засталася з дзецьмі. Яна ніяк не магла пазбавіцца пералсытага страху, з недаверам пазірала на дзверы. А каб яны не адчыніліся, паклала папярок вушакоў качаргу і прывязала вяроўкай да клямкі. Усю ноч яна не магла заснуць, а калі зводзіла вокам, ёй адразу пачыналі мроіцца пачвары, і яна з крыкам прахаплівалася.

Але надышло світанне. Начныя страхі прапалі. Пачыналіся дзённыя клопаты.

*1964 г.*

# СІВЫ КОНІК

## I

Конік быў ўсяго на год маладзейшы за мяне і, колькі я памятаю, не змяніўся з выгляду ані — можна было падумаць, што гэта двухлетак, не болей. Ён быў сівы, жалезнай, трохі ржавай, дарашаватай масці, летам цямнейшы, зімой святлейшы, сярэдняга росту, з тонкімі моцнымі нагамі, з добра развітай мускулатурай лапатак і персняў, з падцягнутым жыватом, на якім злева ля пахвіны віднеўся пад скурай невялікі, як расплясканае курынае яйка, гуз — след натугі. Быў конік страшэнна сярдзіты, асабліва калі галодны,— тады да яго не падступішся, а калі трэба было злавіць на пашы, то з пустымі рукамі не ідзі — не дасца, трэба браць гарнец з аўсом або вядро з лупінамі. Але больш за ўсё ён баяўся машын. Так баяўся, што па вялікіх дарогах ездзіць на ім, відаць, не кожны асмеліўся б, каб хоць раз пабачыў, што вырабляе гэты сівы сухі конік пры сустрэчы з машынай. Мо таму і баяўся, што машын тых мала сустракалася на дарогах «Усходніх Крэсаў», як называлі паны Заходнюю Беларусь. Яшчэ горш з ім было ў горадзе — можа памчаць па вуліцы, вывернуць воз, паламаць платы, нарабіць шкоды.

Не раз штрафавалі бацьку за гэта прыдзірлівыя паліцыянты.

Але бацька з канём так-сяк спраўляўся, ніколі асабліва не скардзіўся на яго, бо, акрамя кепскага, меў конік яшчэ і такія якасці, якія не ў кожнага знойдзеш. Яму не трэба было ніколі паказваць пугі, таму бацька яе ніколі не меў. На конскую ж злосць у бацькі была свая, можа, яшчэ большая, была і сіла, у якую ніколі не паверыш, глянуўшы на чалавека: сухарлявы, мо чуць ніжэй сярэдняга росту, вузкі ў плячах, крыху сутулы, але ўпарты, жылісты і моцны. Рукі ў

яго былі як жалезныя, і ўжо калі ён імі за што браўся, то як абцугамі.

Конь і гаспадар як бы дапаўнялі адзін аднаго, а калі бачыш, як бацька едзе на сваім коніку, то не падумаеш, што ён можа ехаць на якім іншым кані. Для беднага гаспадара, якім быў мой бацька, такога коніка трэба пашукаць, і бацька па-свойму любіў і цаніў свайго памочніка.

Нягледзячы на такую знітаванасць, гаспадар і конь недалюблівалі адзін аднаго, але што зробіш? Жыць паасобку яны не змаглі б, асабліва гаспадар без каня. Работы на двух з паловай гектарах нямнога; бацька ўвесь час ездзіў з канём па заработках, а для сям'і і гэта многа значыла, бо чалавек з канём зарабляў удвая, а то і ўтрая болей, чым адзін. Таму бацька і дома рэдка стыкаўся. Прыязджаў дадому то вясёлы, калі ўдавалася добра зарабіць, а іншы раз сярдзіты, крыклівы, няголены, пахудзелы, толькі вочы нядобра бліпічалі з-пад насупленых броваў. Конь таксама здаваў за гэтыя дні, яму яшчэ больш падцягвала жывот, а пад скурай па баках выступалі шырокія, як арэхавыя абручы, рабрыны.

Каля хаты ў нас быў невялікі кавалак дзяцеліны, дзе мы часам прыпасвалі карову, а часцей каня, бо карова магла і ў другім месцы назбірацца за ўвесь дзень, а конь не спыняецца — у рабоце ды ў рабоце.

...Бацька вывеў каня на дзяцеліну, навязаў на лейцах. Спутанага мы яго не пускалі — забяжыць куды-небудзь ці ўваб'ецца ў шкоду, на адным месцы хадзіць не стане. А навокал лес — знайдзі яго потым.

Вечарэла. Я паспеў прыгнаць карову з пашы і лавіў хрушчоў, якія толькі што з'явіліся на маладым лісці. Я трос арэшнік, і яны падалі на зямлю, як спелыя арэхі восенню. Назбіраў поўную кішэню, падышоў да каня. Ён, прыпаўшы да дзяцеліны, заўзята скуб. Канюшына была яшчэ маладая, і ён ажно званіў пустымі зубамі. Убачыўшы мяне, конь нахмыліўся, падтуліў вушы. Гэта азначала, што ён сярдзіты, да яго не падлазь. Але я чамусьці не паглядзеў на гэты знак перасцярогі і хацеў узяць каня за аброць.

Раптам ён дзіка гікнуў і стаў перада мною на дыбкі, а пярэднія капыты, як цяжкія гіры, занёс над маёю галавой. Я так спалохаўся, што не паспеў і крыкнуць,

а конь, зрабіўшы гэты нечаканы выбрык, адвярнуўся ў другі бок і зноў пачаў скубці дзяцеліну. Я пастаяў на тым месцы колькі часу, пакуль ачомаўся, пасля ціхенька стаў адступаць задам, далей ад каня. А ён быў заняты ядою і нават не глядзеў на мяне.

Умеў ён і кусацца, я сам адчуў гэта на ўласнай скуры. Наш хлеў-плятнік быў цесны, разгароджаны на дзве палавіны — адна карове, другая каню. Загарадзь трымалася на тоўстай елцы, якая ўзвышалася над страхою, як піраміда. Ля камля гэтай елкі стаяў на высокіх ножках конскі жолаб.

На палатках ляжалі жэрдкі, на іх салома. На тых жэрдках і на саломе сядзелі куры. Маці сказала мне палезці і падаставаць з гнёздаў яйкі. Я ўзяў той самы гарчык, з якога бацька высыпаў авёс, сабраў яйкі, мо які з дзесятак, і хацеў зазірнуць у жолаб, бо іншы раз якая-небудзь пяструшка любіла знесціся і ў жолабе. У плетніку, нават калі дзверы і прычынены, заўсёды светла — шчыліна на шчыліне.

Я падышоў да загарадзі, паставіў гарнец і ўлез на каня. Толькі я сунуў руку ў жолаб, як конь ускінуў галаву і, ашчэрыўшы зубы, схапіў мяне за плячук, пасля рэзка матнуў галавою, толькі затрашчала шарачковая куртка ды страшэнна забалела плячо, і я паляцеў яму пад ногі. Куртку мне маці зашыла, а на плячы доўга не сыходзіў вялізны чарняк — след конскіх зубоў.

Трэці раз мне нагарэла ўжо за каня, а не ад каня. Маці, я і малодшая сястра ехалі ад бабы. Летам я пасвіў там карову, і цяпер маці забірала мяне дадому — пара было хадзіць у школу.

У Ляхавічах ля самага рынку мы сталі. Маці накрыла гунькаю каня, бо было горача, а мух і аваднёў ён баяўся не менш за машын — іншы раз аж лажыўся ў аглоблях. Мы стаялі збоч вуліцы, за нейкаю фурманкай. Маці аддала мне лейцы і сказала:

— Пасядзіце тут трохі, я зайду ў краму, куплю селядца і вам якую булку. Ды глядзі Ніну,— прыгразіла яна мне.

Як толькі маці пайшла, я прывязаў лейцы да аглабліны, злез з воза і ссадзіў сястру. Мы нікуды не адыходзіліся, толькі стаялі на бруку і глядзелі, як снуюць сюды-туды людзі, занятыя сваімі клопатамі.

Прайшло нямнога часу, а нам ужо надакучыла чакаць. Я хацеў зноў садзіцца на воз, як раптам здарылася бяда. Па вуліцы два яўрэйскія хлапчукі вязлі на двухколцы пустыя бутэлькі. Двухколка падскоквала на бруку, а бутэлькі так моцна грымелі, што наш конь спуджана рвануў спачатку на тратуар, а пасля крута заламаў назад, воз вось-вось гатоў быў перакуліцца, але неяк астояўся, толькі грымнулі калёсы аб брук. Хвіліна — і конь наш прапаў, згубіўся ў гарадской мітусні, сярод людзей і фурманак.

Што ж рабіць? Сястра, спалохаўшыся, заплакала, я таксама, гледзячы на яе, гатоў быў крычаць на ўсё горла. Мы пайшлі, узяўшыся за рукі, у той бок, дзе прапаў конь. Якраз быў кірмашовы дзень, на плошчы пасярод горада стаяла многа фурманак. Мы сталі хадзіць ад воза да воза і прыглядацца, ці не ўбачым дзе свайго Сівага, распытвалі ў людзей. Ніхто нічога не ведаў. Мы так абышлі ўвесь кірмаш разоў тры, калі раптам убачылі, што наш Сівы стаіць побач з нейкім чужым канём і спакойна есць сена. Цяпер толькі я здагадаўся, чаму не прыкмеціў яго раней: ён жа быў накрыты гунькай! Ад радасці мы не ведалі, што рабіць, нават забылі пра матку.

Нейкі вусаты дзядзька спытаў у нас з недаверам:

— Хіба гэта ваш конь? А дзе гаспадар?

— Наш, ён быў уцёк,— адказваю я.— Мы едзем адны, з мамаю. Яна пайшла ў краму. А там везлі нейкія пляшкі, конь спужаўся...

— А дзе вы стаялі дагэтуль?

— Вунь там,— паказаў я пальцам.— Недалёка ад цэрквы.

Дзядзька пасадзіў нас на воз, а сам недзе пайшоў. Мы сядзім, чакаем. Чакаем матку, нібы яна ведае, што мы тут, на новым месцы.

Сястра пачала плакаць:

— Дзе мама?... Дзе мама?..

— Зараз прыйдзе, не плач,— супакойваю я малую. Мне і не ў галаве, што яна можа нас не знайсці, я ўпэўнены, што яна ведае, дзе мы.

І праўда, вось яна ідзе — з тым вусатым дзядзькам. Мы з крыкам кідаемся да яе. Яна са слязьмі на вачах цалуе нас па чарзе, пасля робіцца строгая і крычыць на мяне:

— Як ты глядзеў каня, га?

І б'е мяне далонню па шчацэ. Я плачу. Плача і маці.

— Завошта ты яго, кабета? — памяркоўна кажа вусаты дзядзька, што прывёў яе да воза.— Хіба ён вінаваты? Дзіця ж малое, што ты ад яго хочаш? Яшчэ і так добра, што каня знайшоў. Чаго ж ты на яго?

Я з удзячнасцю гляджу на дядзьку, але маўчу, толькі размазваю слёзы.

Маці трохі супакойваецца, кажа ўжо з вінаватай усмешкай:

— Я і сама цяпер бачу, што дарэмна накінулася на хлопца, але ж гэтулькі страху перажыла, што аж сэрца баліць. Прыходжу на тое месца — а іх і след прастыў. Дзе іх будзеш шукаць? Хто гэта мог падумаць, што конь паверне назад? Ой, дзякуй вам, дзядзечка, што памаглі знайсці...

Маці зацугляла каня, і мы паехалі дадому.

## II

Мы жылі ўжо на новым месцы, у бабы, але яшчэ часта даводзілася ездзіць на старое котлішча.

Памятаю, у той дзень бацьку нездаровілася — схапіў жывот. Ён у бацькі балеў часта, бо быў «сарваны ўраз», як казалі мясцовыя «дактары» — шаптухі. Але нічога не зробіш, трэба было ехаць у тую Вадзеціну. Мы выехалі недзе пад поўдзень, бо ўсё роўна туды і назад за адзін дзень цяжка справіцца: пяцьдзесят вёрст — для каня, ды яшчэ не з пустым возам, добрая дарога. Часцей за ўсё мы везлі адтуль дровы, бо на новым месцы лесу блізка не было і дровы тут даставаліся людзям дорага.

Недзе за Патапавічамі, ужо недалёка ад Ляхавіч, нам сустрэлася машына. Бацька напяў лейцы, конь стаў прысядаць на заднія ногі, кідацца ўбакі. За рулём, відаць, сядзеў добры жартаўнік, бо, пад'ехаўшы зусім блізка, машына затрубіла. Конь як ашалеў — зноў стаў на дыбкі, пасля стукнуў у хамут — мы ледзь не павыляталі з воза. Ад страху ён ужо не адчуваў цугляў, якія разрывалі яму рот. Затым конь, стоячы на задніх нагах, падлез задам пад аглоблю, воз нахіліўся, і я не памятаю, як апынуўся на зямлі. Побач са мной ляжаў бацька. Конь стаяў ужо галавою да нас, дуга

падпірала яму пад горла, і ён толькі хроп, пена ляцела з ашчэранай зяпы.

Бацька ўсхапіўся, стаў нагою біць каня ў жывот, пасля распрог і дугой стаў мясіць каня па рэбрах, па спіне, дзе папала. Я са слязьмі на вачах пазіраў, як бедны конь гатоў быў вылузацца са скуры, мне шкада было яго, але я ведаў, што ніякія просьбы не памогуць: пакуль бацька не згоніць злосці — не адстане. У гневе ён быў страшны, тады лепш было яго не чапаць.

Так бацька кожны раз адвучваў каня ад страху, але нічога не памагала: конь быў верны свайму нораву, і рэдка калі сустрэча з машынай канчалася добра.

І каб сказаць, што конь быў дурны, непанятлівы — не, гэты конь, здавалася, усё разумеў, як чалавек, толькі што не мог гаварыць. У лесе з возам — ён проста залаты: не было выпадку, каб ён учапіў дзе ў дрэва ці ў пень, так умеў выкіраваць сам; у гразкім месцы, дзе можна засесці, яго падганяць не трэба — сам браў, ды так стараўся, што выносіў воз на сухое месца ў адзін момант. І чым цяжэйшы быў воз, тым мацней лажыўся ён у хамут, тым шпарчэйшы быў яго крок. Бывала, зморыцца, стане, хвіліну пастаіць — і сам зноў бярэ з месца, нібы ведае, што гэтай работы за яго ніхто не зробіць. А зімою ў санках яго ніколі не трэба было падганяць — сам трухае ўсю дарогу, спацее, стане белы ўвесь, заінее.

А хітры быў які! Як ліса! Калі едзеш з дому, будзе зварочваць на ўсе бакавыя дарожкі, толькі зазявайся — нібы ведае, што, чым вузейшая дарожка, тым яна раней скончыцца. А ўжо калі едзеш з самай далёкай дарогі, нават незнаёмай,— кладзіся на возе і спі — давязе, нідзе не саб'ецца, нідзе не ўчэпіць, абміне любую перашкоду. І так ірвецца, так паддае сабе ахвоты, што адна любата.

І яшчэ — не цярпеў ісці ззаду за вазамі — заўсёды абганяў, вырываўся першы.

Не любіў, калі на ім ездзілі верхам, асабліва малыя, ўсё наравіў зубамі схапіць седака за нагу і сцягнуць на зямлю. Так і трымай паводы туга.

Аднойчы, неяк напрадвесні, яшчэ не сышла з поплаву вада, мяне выправілі ўзяць бёрда ў нашых сваякоў, цераз поплаў. Пешшу туды трэба было б абыхо-

дзіць тры вярсты, а напрасткі верхам — дзесяць хвілін, і там.

Бацька вывеў мне каня, падсадзіў, бо сам я яшчэ не мог ускочыць каню на спіну. Цераз поплаў бегла веснавая вада, навокал чуваць быў шум — вясёлы, радасны шум вясны. Конь увайшоў у ваду, панюхаў, стаў піць, але цягнуў доўга, нібы смакуючы, пасля «памыў зубы» — серабрыстыя кроплі паляцелі ўніз. Пасля ні з таго ні з сяго пачаў перыць пярэднім капытом па вадзе, толькі пырскі ляцелі на жывот, даставалі да маіх ног. Я не ведаў, што рабіць, але падганяць каня не рашыўся — хай пазабаўляецца; толькі баяўся, каб ён, чаго добрага, не ўздумаў тут класціся. Ад яго можна было чакаць усяго. Але не, відаць, яму надакучыла боўтацца, ён уздыхнуў цяжка і пайшоў.

Я ехаў назад і чакаў, што ён таксама зноў будзе рабіць свае фокусы, але конь нібы не заўважыў вады.

Неяк мы з бацькам везлі дровы са Старыны — так звалі лес, што быў ад нас кіламетраў за сем ці восем. Гэта было зімою, ужо ў час акупацыі. Мы наладавалі-такі добрыя сані, бо дроў дома не было ні палена. Перад вёскай Яжавічы дарога падымаецца на горку, а пасля крута спускаецца ўніз, перад самымі хатамі робіць залом і ідзе па загуменню, па няроўным старым рэчышчы. На гару мы з бацькам ішлі за санкамі, бо конь і так напінаўся з апошніх жыл. Дарогу заносіла, палазы ўвесь час уразаліся ў космы жаўтаватага, сагнанага з поля снегу.

Але вось конь узвалок сані на горку і пайшоў лягчэй, мы нават пачалі адставаць. Конь азірнуўся — і не паспелі мы што падумаць, як ён адразу рвануў з месца і памчаўся галопам. Санкі толькі скрыпелі ды пагрозліва перавальваліся з боку на бок на выбоінах, але абярнуцца, мусіць, не паспявалі. Мы кінуліся даганяць, але дзе там! Па сыпкім снезе, ды яшчэ апрануты ў зімовае, не вельмі пабяжыш. А конь ужо імчаўся з горкі, цяпер сані самі перлі яго, падганялі, хамут ужо сядзеў у яго на вушах. І наперадзе быў паварот! Мы з жахам чакалі самага страшнага, але, як на дзіва, конь выкіраваў і не перавярнуўся, толькі слуп снегу закрыў на момант яго і сані. Тады ён ужо трохі памалей, бо бачыў, што мы далёка, трухаў сабе па калдобістым рэчышчы, пасля выбраўся на гасцінец, пера-

ехаў лядакі, паламаны мост і, перасекшы яжаўскую вуліцу, стаў падымацца на горку, пад Гусакі. Бацька і я, задыхаўшыся, беглі за ім вярсты тры, пакуль нарэшце дагналі.

А то яшчэ было... Паехаў мой бацька вазіць сена з балота. Сена ў нас заўсёды вывозілі сярод зімы, калі маразы добра ўкуюць зямлю, калі нават ухутаныя цёплай коўдрай моху балоты прамярзаюць так, што могуць нясці нават каня. Той год зіма была голая, снег лажыўся некалькі разоў, ды ненадоўга — раставаў, усё балота заліло вадою. Потым ударылі маразы, балота пакрылася тоўстай скарынкай каструбаватага, бугрыстага, з жоўтымі падцёкамі лёду. Пасля ўжо выпаў добры снег, але з лёду яго здзімала, як мякіну з тока, асаджвала ў лагчынах, у нізкім бярэзніку і лазняку.

Бацька паклаў на санкі добры «паляшуцкі» воз — ажно саней не відаць з-пад яго, дастае да зямлі — і пусціўся назад. Конь быў падкуты толькі на пярэднія ногі, заднія ў вёсках рэдка хто каваў, а вясною коні і зусім хадзілі «босыя». У цяжкіх санях конь стаў коўзацца, як карова, заднія капыты ніяк не маглі зачапіцца за слізкі і цвёрды лёд. Конь браў-браў, лапатаў нагамі, як танцор, а пасля, разагнаўшы сані, пусціўся галопам. Бацька ўжо не мог яго стрымаць, бо і сам у ботах ледзь стаяў на лёдзе. Ён паспеў толькі ўчапіцца за аглоблю побач з канём і ўжо не бег, а ехаў, як на каньках. Конь імчаў, як шалёны: цяжкія сані аж гулі кутымі палазамі па лёдзе; з-пад конскіх капытоў ляцелі белыя іскры ільдзінкі. Конь, утуліўшы вушы, імчаў па балоце, сярод рэдкіх астравоў-стагоў, у той бок, дзе канчаўся лёд і пачыналася звычайная санная дарога. Яны праскочылі так вярсты дзве, калі не болей; лёд скончыўся, і конь пайшоў ступою. Бацька адчуў, што нешта вельмі мякка ступаюць яго боты — нага ажно чуе кожную грудку. Ён падняў бот і ахнуў — уся падэшва была злізана аж да ўсцілкі.

## III

Аднак выйшла так, што кляты, ліхі Сівы выратаваў бацьку ад смерці. Было гэта ў час акупацыі, недзе зімою сорак другога — сорак трэцяга года. Зіма была снежная, марозная.

Пачалі ў нас ганяць людзей, у каго былі свае коні, на дарогу Слуцак — Баранавічы, вазіць жвір. З нашай вёскі выгналі чалавек дзесяць. Заўсёды солтыс назначаў таго, каго недалюбліваў. Паехаў і мой бацька.

У той марозны, халодны вечар мы дома доўга сядзелі пры цьмяным агні лямпы і ўсё ўслухоўваліся, ці не заскрыпяць на двары палазы, не затухкае конь капытамі па снезе. Бацька нешта доўга не варочаўся — праспяваў нават першы певень.

Раптам чуем — загуло на двары, зарыпела. Я накінуў бравэрку, выскачыў з хаты. Проці сяней стаяў конь, толькі я яго ніяк не пазнаў — увесь белы, заінеў. А глянуў на сані — устае не бацька, а чалавек з нашае вёскі, дзядзька Грышка Савош.

— А дзе ж бацька? — Пытаюся, і трывога агортвае мяне, робіцца раптам холадна, нібы мне за карак сыпанулі прыгаршчы снегу.

— Ах, сынку,— крэкча дзядзька Грышка,— распрагай каня... Захварэў бацька, вось як бывае.— А сам узяў з саней нейкі клунак, ступіў у сені, але вярнуўся і сказаў: — Накрый каня коўдрай. І вады адразу не давай. Хай астыне. Яму сёння дасталася...

Я раблю ўсё гэта як у сне і думаю, што азначае «захварэў». Ніколі яшчэ не было, каб ён захварэў дзенебудзь ды застаўся, а каня за яго прыгнаў нехта другі. Тут нешта нядобрае...

Я ўбягаю ў хату. Нечым пахне, я толькі ніяк не зразумею чым. Нешта такое прэсна-салодкае. Цяжка сказаць нават... Маці, заламаўшы рукі, усхліпвае. Сёстры, знямелыя, спалохана пазіраюць на клунак. Гэта бацькава вопратка. Кажух, рубашка, шапка, штаны... Штаны і валёнкі разрэзаны: валёнкі зверху да ступні, штаны знізу да каленяў. На белых палатняных портках відна кроў. Вось чым пахне ў хаце!..

Як не сваімі рукамі перабіраю ўсю вопратку і ўздрыгваю. Кроў нават у валёнках...

А дзядзька ходзіць па хаце і расказвае. Гаворыць цяжка, з доўгімі паўзамі, з перапынкамі, нібы ў яго нешта засела ў горле і не дае выказаць усё зараз.

— ...Там, ля Навінак, вялікі кар'ер... Мы бралі жвір і вазілі на шашу... Яму выбралі вялізную, а бераг зверху намёрз, як страха, на яго ніхто і не глядзеў... Ну і вось... Чуем раптам — гу-гуг! Загуло... Абвал...

Людзі кінуліся хто куды, коні ад жаху заржалі... Ваш бацька быў далекавата ад берага, унізе, на яго кацілiся вялізныя мёрзлыя брылы зямлі... Стукнула па нагах... Адна нага была наверсе... Бачу, закручана ў другі бок... Перабіла. А другую прыдушыла брылаю. Думаў, што хоць гэта будзе цэлая... Пакуль мы кіркамі ды ламамі разбілі тую глыбу... Глядзім, ажно і другая. Ён, як глянуў, адразу застагнаў, а спачатку нічога, нават не крыкнуў... Ну, аднаго чалавека засыпала зусім, але нічога, адкапалі, мяккі пясок. Другому паламала рэбры, раздушыла грудзі... Можа не выжыць. Трэцяга трохі пабіла, але не моцна. А вашаму бацьку па нагах. Што зробіш?.. Ну, мы яго адразу на санкі. Падышлі немцы з аховы, паглядзелі, толькі паківалі галовамі... Даў адзін нейкія дзве чырвоныя таблеткі, ад заражэння крыві, ці што... Вязі, кажуць, у Клецак. І каня не шкадуй, а то капут... Паклалі яго на салому, укрылі... Я ўкленчыў у передку і гнаў усю дарогу, колькі было сілы. Вынослівы конь. Каб не ён — не давёз бы. Доктар сказаў: каб яшчэ трошкі спазніўся... Але вы не гаруйце. Я пытаў доктара. Надзея ёсць. Мо будзе кульгаць, але ж гэта паўбяды.

Я ніяк не мог уявіць свайго бацьку з пераламанымі нагамі. Косці раздроблены, раны, кроў... Як ён церпіць? Гэта ж такі боль, такі боль...

Бацька вярнуўся з бальніцы праз два месяцы. На нагах быў гіпс, ад пальцаў да самага тулава.

Дома бацька праляжаў яшчэ два месяцы. Казаў, што, калі здымуць гіпс, адразу пойдзе. Але памыліўся: калі знялі, ён не ступіў і кроку — упаў.

Ехаў бацька дадому з дзядзькам Міхалём, нашым сваяком, і радаваўся, што дачакаў вясны, хутка і ў поле выйдзе вось на гэтым Сівым, які тады давёз яго з Навінак у Клецак, не передыхнуўшы ніводнай хвіліны. Малайчына, конік!

На тым жа коніку з дзядзькам Міхалём і Грышкам Савашовым ездзіў я па вёсцы і збіраў збожжа — колькі хто дасць,— каб расплаціцца з бальніцай. Маці аддала ўсе свае палотны, прадалі апошняга падсвінка. Што хвароба, што пажар — для селяніна тое самае.

А Сівы прабыў у нас яшчэ да наступнага лета, да вызвалення. Праз нашу вёску прайшоў мо ўвесь

фронт — нашы войскі прарваліся паміж Нясвіжам і Клецкам, ішлі на Баранавічы. Дзень і ноч стаяў гул. Хутка за перадавымі часцямі пайшлі абозы — на конях, нават на вярблюдах.

Аднойчы раніцай я прачнуўся і ўбачыў на двары нейкае малое заморанае каняня. Бацька нешта аглядаў яго, мацаў спіну. Я ўскочыў і выбег на двор.

— Бачыш, сын, якое нам шчасце падваліла? За нашага старога Сівога нам далі маладую Сівую.

— Як, хто даў? — Я нічога не разумеў.

— А нядаўна нашы салдаты былі тут. Заехалі і пытаюць, ці ёсць конь. Ёсць, кажу, нейкі, машын дужа баіцца. Яны засмяяліся: «Прывыкне». Вывеў я Сівага, адзін агледзеў яго, зняў сядло з гэтае казы і адразу на нашага. Падзякаваў, і паехалі. Ну, думаю, паплачаш ты з гэтым конікам, як я плакаў пятнаццаць год.

Сівая кабылка была страшэнна худая, заморанная, уся спіна ў яе спухла ад сядла і нават ужо гнаілася, а на левай лапатцы слізела амаль што свежая рана, і ў ёй сядзела нешта цвёрдае — асколак ці куля. На капытах былі выразаны нумары.

Кабылка была нібы аглушаная: як паставіш, так і стаіць, не разумее ні «тпру», ні «но», нібы нікога не бачыць і не баіцца. А мо не разумее нашае мовы?

— Глядзі, якія кароткія зубы, здаровыя дзясны. Гадоў тры не болей,— тлумачыў мне бацька весела.

Я не разумеў, чаго тут радавацца. Гэта ж не конь, а адна толькі скура ды косці, ды і тых жменя.

— Ці ж гэта конь? Адзін шкілет.

— Дзівак, ты ў конях нічога не разумееш. Абы добры шкілет, а костка мясам абрасце. Вось пабачыш, якая яна будзе праз пару месяцаў. Глядзі, якое чэрава. Не тое што ў таго — прысыхала да спіны. Эх ты!

Праз які тыдзень пухліна са спіны ў кабылкі сышла, засталіся толькі вялікія струпы на самым хрыбце. Бацька вывеў кабылку на двор, прывязаў да слупка ля калодзежа. Пасля, дастаўшы брытву, стаў абмацваць рану. Зрабіў надрэз. Кабылка нават не паварушылася, хоць з раны закапала кроў. Бацька націснуў па баках ад надрэзу — і нешта на зямлю.

Цяпер ужо я яму тлумачыў:

— Гэта куля з нямецкага аўтамата. У нашых мен-

шы калібр, куля меншая. Бачыце, ударылася аб нешта жалезнае і ў кабылу стукнула рыкашэтам.

Хутка рана загаілася зусім, пазлазілі струпы і са спіны, кабылка пакруглела, нават павесялела — стала шустрая, паявіўся бляск у нерухомых раней вачах.

Праз які месяц, услед за Сівым, пайшоў у армію бацька. На маю долю дасталася нялёгкая задача навучыць кабылку хадзіць у плузе. Якраз на яе падышоў хамут ад таго каня, і ростам яна была не меншая, мо трошкі толькі карацейшая, але затое кругленькая, шырэйшая і ў крыжоўцы і такая самая рухавая, як той. Нават масцю мала чым адрознівалася ад Сівага — мо толькі крыху святлейшая. Праўду казаў бацька, што за старога Сівага далі маладую Сівую. Мы так яе і празвалі. Вось толькі як яна пойдзе ў баразне?

Тут мне давялося папацець! Кабылка была ўпартая, хоць ты падпіхвай яе рукамі. Відаць, не разумела, чаго ад яе хочуць.

Я абганяў бульбу; сошку было лягчэй цягаць, чым плуг, але кабылка гэтага знаць не хацела, усё азіралася назад і хацела бачыць, за што яе трымаюць. А то стане і стаіць. І ніяк не магла прывыкнуць, што хадзіць трэба па адной лініі, з канца загона ў другі канец, а паварочваць яе трэба было сілай. Часта заблытвалася ў пастронкі і лейцы. Адно добра — не брыкалася, не кусалася, каля яе магло хадзіць нават дзіця.

Змарыўшыся, я папрасіў сястру, каб яна памагла мне, і сястра павадзіла кабылку.

Першы, другі ўрок прайшлі цяжка, затое пасля кабылка перайначылася, стала, як старая.

Прабыла ў нас кабылка, аж пакуль мы не ўступілі ў калгас, і бацька з яе не мог нацешыцца — такая была паслухмяная і ўдалая. А яшчэ лепш тое, што на машыны яна нават не глядзела. Гэта была істота з новага веку, новага пакалення. Сівы перад ёю здаваўся дзікуном.

У калгасе Сівая прывяла жарабятка. Яно вырасла — як дзве кроплі вады стала падобна да маткі. Лінія Сівых не звялася!

*1964 г.*

# ЗВЯРУГА

Якраз было Купала. Ноч цёмная, зорная, ціхая. Толькі сяды-тады слабы ветрык шапацеў жытам і прыганяў з лугу свежы пах сена. Аднекуль здалёк даносіліся песні — спявалі дзяўчаты, заклікаючы хлопцаў, якія, відаць, не спяшылі, бо свята толькі пачыналася.

Звяруга доўга ўслухоўваўся ў гукі песні. Яму хацелася пайсці туды, павесяліцца ў кампаніі дзяўчат і хлопцаў. Але сёння ў яго быў іншы план. Хай там пускаюць вянкі без яго, хай паляць вогнішчы без яго, хай што хочуць робяць. А нават каб і не план? Вельмі хто быў яму рады? Можа, хіба толькі Базылёва Еўка. Але што на ёй? Акрамя доўгага носа ды круглых, як два клубкі нітак, грудзей,— больш нічога. Язык яшчэ востры. З ёю не засумуеш, не толькі што не задрэмлеш. Але ж бедная, як і сам. Ажэнішся — так і будзеш век хадзіць у палапленых шарачковых портках. Так, там не вельмі яго чакаюць. Багатыя хлопцы пазіраюць на яго крывым вокам, нібы ён збіраецца ў іх што адабраць. Крыўда загаралася ў сэрцы Звяругі. Чаму гэта яму суджана было нарадзіцца ў сям'і з дзевяці душ — і самаму апошняму. А апошняму заўсёды застаюцца аб'едкі. Так і з ім. Усё падзялілі браты, пазабіралі ў пасаг сёстры, а яго мізэрную долю, атрыманую ў спадчыну, арандуе старэйшы брат.

Хлопцу надакучыла ляжаць у жыце. Ён падняўся і мяжою памалу пайшоў у напрамку да хутара, які вырысоўваўся цёмнаю купаю прысадаў.

Хутар быў добры, дагледжаны. На прасторным двары размяшчалася пяць будынкаў — новая хата, як шклянка, з сеньмі, прасторнае гумно, якое магло змясціць самы лепшы ўраджай з дваццаці гектараў, вялікі цёплы хлеў, адрына і свіран. Побач з дваром раскінуўся плодны, хоць яшчэ малады сад.

Гэты раз Звяругу цікавілі толькі свіран і хата. Ён ведаў, што гаспадар, Сымон Якавец, паехаў недзе за Сіняўку купляць дровы і вернецца, можа, заўтра. У хаце засталіся бацька, маці, нявестка і трое дзяцей. Застаўся яшчэ малодшы брат Сымона Барыс, які ўжо доўгі час жыве пры браце. Гавораць, што ён даўно хоча жаніцца, але старэйшы ўсё адгаворвае. Чаму не адгаворваць? Дзесяць гектараў зямлі, што належаць малодшаму брату, ён доіць, як карову.

Барыс ведае, за што цэніць яго брат, і ўмее гэта добра скарыстаць. Ніхто так у вёсцы не апранаецца, як Барыс, ніхто не мае такога добрага веласіпеда. Кажуць, што збіраецца нават купляць матароўку. І ніхто на вяселлях і вечарынках не п'е гэтулькі гарэлкі і не задаецца, не рызыкуе, як ён. Праўда, пра яго ўжо даўно ў сяле ідзе паганая слава — быццам ён прадаўся панам. Не адзін хлопец з вёскі сядзіць у турме па міласці Барыса. За гэта яму не раз пападала ад вясковых хлопцаў, але ён не з баязлівых — дае здачы. Кажуць, што цяпер заўсёды мае пры сабе наган, ідучы на вячоркі. І калі што — пагражае паліцыяй.

Усё гэта не раз чуў Звяруга; ён добра ведае, што чакае яго сёння, калі пападзецца ў лапы гэтага Барыса. Знарок павольна і спакойна ён набліжаецца да хутара. Трэба выбраць добрую пазіцыю для назірання... Звяруга асцярожна падкрадаецца да плота насупраць акон хаты, залазіць у густы бэзавы куст. Адсюль яму відзён увесь двор як на далоні. Відно, як па хаце ходзяць людзі, іх цені адбіваюцца на фіранках — новай модзе, перанятай у паноў. Асноўнае — добра відзён ганак і дзверы ў сені. Пасядзеўшы ў сваёй засадзе якое паўгадзіны, Звяруга ўжо ведаў, што робіцца ў хаце. Здаецца, там толькі што павячэралі, бо агонь з кухні перанеслі ў вялікую хату — слаць пасцелі. На двор выходзілі па чарзе стары, старая, пасля нявестка з дачкою гадоў дзесяці. Пасля зноў выйшаў стары з ражкай у руках і пайшоў у хлеў. Зарохкалі свінні. Пасля ён з рэзгінамі патупаў у гумно, прынёс каню старой канюшыны. Прарэзліва забляялі авечкі.

Увесь гэты час грымеў ланцугом па дроце ад свірна да хлява здаравенны рыжы сабака, які да гэтага ляжаў у хляве, зашыўшыся туды праз падваротню.

Некалькі разоў яшчэ скрыпела корба — бралі ваду. Штораз гукі пачыналі заціхаць, менш і менш было руху на двары, радзей па хаце кідаліся цені. Набліжаўся час, калі ўсё засынала. Нарабіўшыся за дзень, селянін рана кладзецца спаць, бо заўтра трэба ўстаць з першымі пеўнямі.

Чым далей ішоў час, тым больш супакойваўся Звяруга. Яму ўжо здавалася, што на гэтым і скончыцца яго сённяшняя вылазка — прыйшоў, паглядзеў і пайшоў. Але вочы яго нехаця скіроўваліся на свіран, і хлопцу рабілася непрыемна. Свіран гэты ўжо даўно прыцягваў яго ўвагу — і нават сваім знешнім відам. Ён нагадваў малога ў вялікай бацькавай зімовай шапцы, насунутай на вочы. Гэтае падабенства выклікала тоўстая саламяная страха, напушчаная спераду і ззаду над свайго роду працягам столі, якую ў свірне рэдка хто кладзе, таму гэтыя падстрэшшы служылі добрай схованню. Часцей за ўсё там ляжалі яблыкі — да першых маразоў.

Цяпер свіран здаваўся яму пасткай, у якую трэба было ступіць не зачапіўшыся. Супакойвала тое, што дома не было Барыса: напэўна, на купаллі.

Пад поўнач узняўся вецер. Ён шамацеў лісцем, побач шумела галінамі купчастая бяроза з захвослівым верхам. Да гэтага шуму далучаўся яшчэ гоман усяго саду, ствараючы разам нібы добра зладжаны хор. Закалыханы яго спевам, Звяруга спачатку страціў пільнасць — яму не так ужо карцела бачыць, што робіцца на двары. Нарэшце ён зусім стаў кляваць носам і непрыкметна для сябе заснуў.

Прачнуўся ён ад холаду. На лісцях ляжала густая раса, нават уся вопратка хлопца стала вільготнай. Значыць, ужо даволі позна. Звяруга пацягнуўся пару разоў, размяў мускулы і рашыў пачынаць. Перш за ўсё намацаў сваю двухметровую палку з загнутым цвіком на канцы. Яна стаяла тут, пры боку. Пасля дастаў з кішэні добры складаны нож.

Агню ў хаце не было, увесь двор спаў глыбокім перадранішнім сном. Уздрыгваючы ад холаду і, можа, крыху ад нервовага ўзбуджэння, Звяруга па разорцы ў градах накіраваўся проста да свірна, выбіраючы так, каб засланіцца ад хлява, каля якога любіў спаць сабака. Босыя ногі хлопца не ўзнімалі ніякага шуму. Толь-

кі іншы раз ціха пахруствала пад пальцамі раздушаная націна агурэчніка ці ліст бурака. Вось і свіран. Ад яго павеяла цяплом — за дзень, відаць, добра ўгрэўся.

Звяруга падышоў да сценкі, супрацьлеглай дзвярам. На вышыні паўтара чалавечага росту ў ёй было прарэзана маленькае акенца. Дастаць да яго было цяжка, але якраз, на шчасце, на ўзроўні плота пры свірне ляжалі акораныя жэрдкі.

Звяруга, перш чым узабрацца на падмосткі, прыслухаўся. Рот яго быў раскрыты, вушы чуйна лавілі кожны гук. Але, апрача шуму ветру, аднастайнага і цягучага, больш нічога не было чуваць.

Звяруга ўжо ўзяўся быў за бервяно, якое выставала з вугла і на якім ляжалі жэрдкі, як раптам да яго вуха далящеў гук, у назве якога ніхто не сумняваўся б. Гэта быў храп, самы звычайны, не вельмі моцны, таму цяжка было разабраць, адкуль ён выходзіць. Хутчэй за ўсё — з будыніны, але хто там мог храпці? Хіба сабака на ганку? Пакуль Звяруга ўслухоўваўся і разважаў, храпенне сціхла.

Звяруга прастаяў яшчэ хвілін дзесяць, але яно не паўтарылася, і ён пачаў ужо думаць, ці не здалося яму.

Ва ўсякім выпадку, гэты папераджальны гук прымусіў Звяругу насцеражыцца і задумацца над тым, ці правільна ён зрабіў, ідучы на такую рызыкоўную справу адзін.

Але насцярожанасць паволі саступіла месца задуменнасці, якая апанавала Звяругу. Ён пашкадаваў, што цяпер разам з ім няма яго лепшага прыяцеля і настаўніка Мацея Балабэса. З ім Звяруга адчуваў сябе як у бога за плячыма.

Але выйшла так, што настаўнік сеў на лаву падсудных; ужо хутка год, як яго судзілі за пакражу каня і воза ў роднага бацькі, з якім ён жыў не ў ладах.

Вось і застаўся Звяруга адзін, доўга сумаваў і баяўся выходзіць «на паляванне», але ўсё ж неяк асмеліўся — вельмі ўжо просты і спакуслівы быў распрацаваны ў яго галаве план пакражы Якаўцовых кумпякоў. Штурхнула яго на гэта неяк выпадкам сказаная на вячорках фраза Барыса Якаўца, што ён у свірне ўпаў з гары, калі хацеў вечарам адрэзаць кавалак паляндвіцы.

Значыць, у свірне... Днём вэндзяцца на сонцы, а нанач падвешваюць на прутках пад страхою, ля самага асволка. Тады ў яго нават пацякла сліна, а ў галодным жываце нешта зараўло. Чорт вазьмі! Тут цэлы дзень цягаеш касу аб нішчымніцы, а ён аб'ядаецца паляндвіцай! І так захацелася тады Звяругу дапячы гэтаму Барысу, каб ён не так ужо задаваўся сваім багаццем і сваёю сілай! Гэтая думка не вылазіла ў яго [redacted] галавы цэлы тыдзень, і вось ён рашыўся здзейсніць яе ў гэтую цёмную купальскую ноч. «На Купала што ні зрабіў — усё прапала». Было б някепска, каб гэтая задума абярнулася добра і прайшла гладка...

Акрамя шуму ветру, больш нічога не лезла ў вушы. Звяруга ўсё чакаў, што паўторыцца той храп, але яго не было, і ён пачынаў злаваць на сябе за сваю баязлівасць. Вось бы пасмяяўся з яго Балабэс, каб даведаўся, як ён вагаецца і марудзіць!

Хлопцу стала сорамна за самога сябе. Ён устрапянуўся, нібы зганяючы з сябе гэтую непатрэбную развагу, прыставіў сваю палку да сцяны якраз супраць акенца, зноў падышоў да вугла і лёгка, як кот, узабраўся на жэрдкі. Яны пагражальна заскрыпелі, але Звяруга хутка знайшоў такі пункт апоры, пры якім яны адразу «супакоіліся», і, асцярожна пераступаючы бокам,— ступак пры ступаку,— дабраўся да акенца.

— Ну, пачнём,— сказаў ён сабе праз сціснутыя зубы, ледзь стрымліваючы дрыготку.

Узяўшы палку з наканечнікам, ён прасунуў яе ў акенца, шукаючы супраціўлення там, у сярэдзіне, пад самай страхою, дзе звычайна вешаюць мяса. Ага! Ёсць! Ён зрабіў пару штуршкоў: падаецца, пагойдваецца. Значыць, правільна, не падмануў Барыс. Цяпер Звяруга думаў, як спрытней падчапіць на кручок той кумпяк, каб ён не сарваўся. Кепска... З аднаго ражна можна, калі пашанцуе, зняць толькі адну штуку. Астатнія з'едуць, бо зрушыцца з месца ражон. Хлопец намацаў нешта цяжкаватае, як яму здавалася, дзябнуў па ім кручком і паспрабаваў цягнуць. Падаецца... Адпусціў: — ад'язджае назад... Значыць, вісіць на вяровачцы. Трэба яе разарваць — і ўсё. Звяруга пацягнуў мацней — і ледзь не паляцеў з жэрдак. З глухім грукатам нешта бухнулася на падлогу. Хлопец замёр на

месцы, чакаючы нечага страшнага. Але нічога не здарылася. Толькі загрымеў дрот — гэта ад свірна да хлява і назад прабегся спалоханы сабака. Дзіўна, але ён не забрахаў... Звяруга ў думках пахваліў яго за гэта і паабяцаў цэлую кілбасу, калі яна акажацца на прутку.

Пасля таго як усё ўляглося, ён паціху выняў палку з акенца і кінуў на зямлю, а сам асцярожна злез з жэрдак. Так далей не пойдзе. Трэба нешта новае... Адзінае, што можна прыдумаць,— гэта прадраць страху. У яго ўжо быў сякі-такі вопыт... Прыліў новых сіл і адвагі адчуў у сабе Звяруга ад прынятага смелага рашэння. Зноў па тым жа вуглу ён узабраўся на страху. Цяжка толькі было намацаць лату, каб надзейна ўчапіцца і пераадолець выступ страхі ў тым месцы, дзе яна сутыкаецца за сцяною. Звяруга ледзь не сарваўся, бо замест латы ён учапіўся за тонкую паплеціну, і яна трэснула ў самую адказную хвіліну — калі ўсё тулава хлопца было ўжо на страсе, а ногі яшчэ ўпіраліся ў вугал. Ён інстынктыўна ўхапіўся абедзвюма рукамі за салому і прыціснуўся да тоўстай саламянай шапкі. Тут ён яшчэ раз ацаніў высокую якасць пакрыцця, бо салома вытрымала яго цяжар і не выехала. Прасунуўшы руку аж па самы локаць у страху, Звяруга дабраўся да латы і праз які момант падцягнуў сваё цела на паўметра вышэй. Ён пераадолеў мёртвы пункт і ўздыхнуў свабодна.

Звяруга сядзеў на стыку дзвюх плоскасцяў страхі. Ён ведаў, што дзірку тут рабіць нельга, і выбраў месца якраз па цэнтру, над тым праклятым акенцам, якое так падвяло яго спачатку. Цяпер — самы адказны момант. Прадраць у тоўстай страсе дзірку не так лёгка, а галоўнае — не так хутка. Прыняўшы зручную позу, Звяруга левай рукою ўчапіўся за страху, а правай паспрабаваў выцягнуць за ра́з жменю саломы. Але не выйшла... Салома была так уціснута, што сядзела, як цвік у дрэве. Трэба было цягнуць па некалькі каліўцаў... Пасля пайшло лягчэй. З роўным ціхім шалясценнем выпаўзала доўгая жытняя салома са страхі. Па жменьцы, асцярожна, спускаў яе на ніз Звяруга і ўжо бачыў, як на зямлі вырысоўваецца вялізная белая пляма, а ў страсе цямнее ўсё яшчэ невялічкая, як прарэзці галаве, дзірка...

Хутка ён сказаў сабе досыць. Прасунуў у цёмную адтуліну спачатку адну нагу, пасля другую, абапёрся на рукі, апусціўся сам да грудзей, пасля перахапіў лату знізу і апынуўся ў свірне, звісаючы на сагнутых руках, затым стаў боўтаць нагамі, шукаючы апоры і паволі разгінаючы рукі. Нарэшце адчуў пад нагамі верхняе бервяно сцяны: злева быў насціл з дошчак, справа — пустата да самай падлогі. Добра астояўшыся, Звяруга свабоднай праваю рукой правёў у сябе над галавою. Вось тая самая жэрдачка, на якой вісяць кумпякі. Толькі цяпер яны запахлі яму — да гэтага ён аб іх не меў часу падумаць. Зняўшы адзін канец жэрдачкі з латы, Звяруга, не спяшаючыся, стаў здымаць па адным — спачатку кумпяк і лапатку, пасля дзве паляндвіцы — і апускаць у дзірку, праз якую толькі што ўлез. Ён нават чуў, як, прашуршаўшы па страсе, кумпяк бухаўся на зямлю, але глуха, мякка — якраз на салому.

Было цёмна, як у бочцы, але Звяруга давяраў сваім рукам лепш, чым вачам. Ачысціўшы адну жэрдачку, ён узяўся за другую, як раптам над самым вухам, крыху ззаду и збоку, пачуўся заспаны голас:

— Хто тут?

Звяруга быў смелы хлопец, але спачатку яго нібы спаралізавала. Яму здалося, што гэта нячыстая сіла.

І толькі падсвядомая, інстынктыўная думка,— ды не думка, а толькі нейкая іскра, толькі імпульс,— што трэба схаваць канцы, каб пазбегнуць расплаты і ганьбы, раскавала яго, падштурхнула шукаць выйсця.

Ён дзейнічаў, як машына: павярнуўся ўсім корпусам, схапіў нож, які быў заціснуты ў левай руцэ разам з латай, і, рэзка ўзмахнуўшы, ударыў наўгад крыху ніжэй таго месца, адкуль выходзіў голас. Ён адчуў, як жалеза скрабянула аб нешта цвёрдае, а сціснутая ў кулак рука дакранулася да голага чалавечага цела. Яшчэ адна секунда — і пачуўся грукат: нехта ўпаў на падлогу — цяжка, са стогнам. Але гэты гук не паспеў як след дайсці да свядомасці Звяругі. Як малпа, ён без памяці выскачыў праз дзірку ў страсе, зляцеў на зямлю ўніз галавою і, забыўшыся пра ўсё на свеце, кінуўся ўцякаць.

Ноч яшчэ спала, хоць на ўсходзе пачынала ўжо бялець неба. Паволі радзелі і прападалі бледныя зоркі.

* * *

Пшадоўнік Шпара атрымаў строгі загад: не адкладваючы ні хвіліны, ехаць у вёску Дабрынічы і любой цаною затрымаць небяспечнага злачынцу Звяругу, які некалькі дзён назад абакраў і забіў багатага гаспадара Барыса Якаўца. Камендант пастарунку не растлумачыў пшадоўніку Шпары, як знайсці ў Дабрынічах небяспечнага злачынцу з дзівацкім і даволі страшным прозвішчам. Ён толькі дадаў, нібы між іншым, што ў Дабрынічах замужам сястра Звяругі і, па пэўных звестках, у яе ён сядзіць.

Пшадоўнік Шпара ўважліва выслухаў каменданта, ляснуў абцасамі, адначасова дакрануўшыся двума пальцамі да доўгага акутага казырка шапкі, і павярнуўся кругом.

Набліжалася першая гадзіна ночы, а трэба было яшчэ знайсці сваіх памочнікаў і растлумачыць ім усю важнасць загаду каменданта...

Нарэшце яны ўтрох: Шпара, Гарскі, Кітак, усе абвешаныя вінтоўкамі, пісталетамі, шырокімі нажавымі штыхамі-багнэтамі і іншай зброяй, якой хапіла б на дзесяць чалавек,— селі на веласіпеды і рушылі па камяністай і калдобістай дарозе.

Да самых Дабрыніч было больш дзесяці кіламетраў, і пакуль яны паначы туды дабраліся, пакуль, едучы ад хутара да хутара, знайшлі солтыса, было позна. Хоць пшадоўнік Шпара і вызначаўся службістасцю, за што яму давяралі складаныя справы, але гэты раз ён нешта не вельмі стараўся. З маўклівай згоды сваіх падначаленых — панурэйкаватага Гарскага, які слаўся сваёй лютасцю і бессардэчнасцю, і вясёлага, абыякавага да ўсяго Кітка,— пшадоўнік Шпара заказаў на ўсю кампанію паўлітра горкай, але добры солтыс, які быў адначасова і крамнікам, узяў усе расходы на сябе. Скрабучы закарэлаю рукою паясніцу, ён нехаця паставіў на стол паўлітра, міску свежых, але ўжо салёных гуркоў, паклаў на голы стол кавалак елкага жаўтаватага сала.

Ён, відаць, стараўся не так для паліцыянтаў, як для сябе. Хутка ў гэтым пераканаўся сам Шпара і яго падначалены. Першую і апошнюю чарку выпілі за поспех, у які не вельмі хто верыў. Солтыс еў свае гуркі

і сала за ўсю кампанію. Ён рад быў гасцям, бо жонка-скнара, якая гандлявала ў краме, рэдка калі адпускала яму якую чарку. Цяпер яна спала, ці мо прыкідвалася, што спіць, але да няпрошаных гасцей не выходзіла.

Астатак ночы паліцыянты праспалі ў солтысавай адрыне на пахучым сене, і каб не пабудзіў іх гаспадар, то мо спалі б да абеда. Па закону гасціннасці солтыс запрасіў іх на снеданне, але яны адмовіліся, і ён яўна ўзрадаваўся, бо ўжо меў наганяй ад жонкі за ўчарашнюю паўлітроўку. Ён яшчэ раз паказаў ім, як дабрацца да таго хутара, і з палёгкай уздыхнуў, калі паліцыянты селі на веласіпеды.

Па вузкай сцежцы між нахіленага жыта, што звініла па спіцах веласіпедных колаў, паліцыянты дабраліся да хутара з тылу. Белы, стройны, як пасаджаны, бярэзнік акружаў хату, вузкаю градою цягнуўся да гумна. Кінуўшы між дрэў свае веласіпеды, паліцыянты раздзяліліся. Кітак застаўся караруліць ля глухой сцяны хаты, Шпара і Гарскі кінуліся да гумна. Толькі цяпер пшадоўнік Шпара зразумеў, што камендант выдзеліў мала людзей. Паспрабуй злаві таго Звяругу, калі невядома, дзе ён. Добра яшчэ, што ўсяго два асобныя будынкі: гумно і хата. Да хаты, як часцей за ўсё робяць у гэтай мясцовасці, прыбудаваны і хлеў. Адразу відаць, што гаспадар жыве бедна. Аб гэтым лішні раз гаварыла і тое, што ў двары не было сабакі.

Відаць, гаспадары яшчэ спалі, бо не прыкмячалася ніякіх адзнак руху. Шпара загадаў Гарскаму зайсці з задніх дзвярэй, а сам асцярожна падышоў да пярэдніх. Сэрца яго моцна стукала. Потнымі рукамі ён сціскаў вінтоўку, у яго галаве ўвесь час круціліся словы каменданта, што ў Звяругі, магчыма, ёсць зброя. Але беглы позірк на клямку пераканаў яго, што хваляваўся ён дарэмна. Гумно было адамкнёна, а ў прабоі тырчала звычайная затычка, прывязаная да прабоя канапля-наю вяровачкай. Шпара ўжо больш смела штурхнуў дзверы, якія прарэзліва рыпнулі, і затупаў па таку, пасля свіснуў і прыслухаўся. Ніякага шуму. Ды і гумно было зусім пустое, толькі ў адным кутку ляжала якая капа старое саломы, а сена яшчэ не было ні клыка. У рагу па правай руцэ стаялі прыпёртыя да сцяны сані з заржавелымі шынамі на палазах.

Пшадоўнік Шпара стараўся знарок цішэй зачыняць дзверы, але яны так скрыпнулі, што аж разанула па сэрцы.

Паклікаўшы Гарскага, Шпара разам з ім накіраваўся да хаты. Прыціскаючыся да самай сцяны, каб іх нельга было заўважыць праз акно, яны падышлі да сяней.

Шпара адразу ўзяўся за закрутку і пацягнуў за ялаўцовую ручку ў дзвярах, але адразу адчуў, што з сярэдзіны замкнута. Тады ён асцярожна пастукаў. Ніхто не абазваўся, нішто не парушыла цішыні. Шпара пастукаў мацней і стаў чакаць. Яму здалося, што рыпнулі дзверы ў хату, і ён мімволі падаўся за вушак.

— Хто стукае? — пачуўся малады мужчынскі голас з сяней.

Шпара кіўнуў галавою Гарскаму, і той на ляту зразумеў свайго начальніка. На добрай беларускай мове ён пачаў:

— Адчыні, гаспадар. Я чуў, што ты... прадаеш парасят. Хацеў бы пагаварыць...

— Пайшоў к чорту! — адказаў голас, які пачуўся ўжо не з таго месца, што першы раз.

— Адчыні! — маліў Гарскі плаксівым голасам.— За свет ехаў, а цяпер з пустым назад варочацца не выпадае. На адну хвілінку...

Паліцыянты чакалі, што «гаспадар» нарэшце адчыніць, бо нешта бразнула, а пасля рыпнулі дзверы — іх пацíснулі адтуль, з сярэдзіны. Шпара зразумеў, што адчыняць і не думаюць, і крыкнуў па-польску:

— Адчыняй, псякрэў!

І з усёй сілы стукнуў прыкладам у дзверы.

— Адыдзі, страляю! — загрымеў пагрозліва голас, і нешта ляснула, бы ўзведзеная спружына.

Паліцыянты, як каты, нячутна адскочылі ад дзвярэй. З сярэдзіны і знадворку ўсталявалася цішыня — напружаная, небяспечная, гатовая перарвацца стрэлам з аднаго ці другога боку. Так цягнулася некалькі хвілін, але не магло працягвацца бясконца. Таму, хто быў за дзвярыма, пэўна ж, хацелася б, каб цішыня больш наогул не парушалася. Зусім па-другому на гэта глядзелі паліцыянты. Перш-наперш пшадоўнік Шпара рашыў паслаць Гарскага для сувязі з Кіткам, які пакуль што не падаваў ніякіх звестак аб сваёй персоне.

Шпара загадваў Гарскаму перадаць, каб Кітак пільна сачыў за задняй часткай усяго будынка — не выключана, што Звяруга,— Шпара не сумняваўся, што гэта менавіта ён,— можа надумацца ўцякаць.

Сам Шпара цяпер напружана думаў, што рабіць далей. Працягваць асаду — небяспечна, той можа перабіць іх па адным, нават без зброі. Сам ён адтуль не выйдзе, страш яго ці прасі — усё роўна. Падпаліць хату Шпара не рашаўся — ён не меў наконт гэтага ніякіх інструкцый, а браць такую адказнасць на сябе не было смеласці. Ды і наогул, ці дало б гэта вынік? Трэба прыдумаць нейкае другое выйсце. Горш за ўсё, што ты сам на віду,— той Звяруга, можа, у гэты момант цэліцца ў цябе з пісталета, і ты не падазраеш, што ў тваёй галаве могуць прасвідраваць восьмую дзірку, а гэта будзе так недарэчы — у цябе ж маладая жонка і двое дзяцей.

Пакуль што Шпара рашыў адысці на метраў трыццаць ад хаты і весці назіранне за будынкам. Не трэба толькі выяўляць, якія ў іх сілы. Гэта можа пазбавіць ад лішняй бяды. Таму неяк трэба рабіць від, што іх тут многа. Не шкодзіла б паслаць за падмогай — гэтая думка не выходзіла ў Шпары з галавы. Калі да вечара нічога не выйдзе, то трэба будзе так і зрабіць: паслаць да солтыса Гарскага ці Кітка, а той няхай перакажа ў клецкі пастарунак. А пакуль што трэба чакаць.

Ціха, на пальчыках, ідучы пры самай сцяне, да яго наблізіўся Гарскі і шэптам перадаў, што Кітак дарма часу не траціць — разлёгся ў цяньку на траве і дрэмле, а адным вокам пазірае на сонца — ці высока. Шпара прыняў навіну спакойна, бо яму было не да дробязяў. Хай ён там хоць спіць, але калі бандыт будзе пераступаць цераз яго, то прачнецца. Ды тут паспешнасцю нічога не зробіш. Трэба трымаць аблогу да самага канца...

Цяпер яны з Гарскім разышліся. Шпара даручыў яму пільнаваць заходнія вокны і шчыт хаты, а сам застаўся бліжэй да гумна, каб бачыць увесь двор перад дзвярыма ў сенях і ў хляве.

Усё гэта нагадвала малюнак, калі сабакі аблажваюць ката, які знайшоў ратунак на дрэве. Яны не сядзяць блізка, каб не палохаць яго сваім відам, яны нібы гавораць гэтым самым, што можна сысці ўніз і

нічога страшнага не здарыцца. Але кот ведае, што давяраць гэтай бяспецы нельга, і цярпліва чакае, сядзіць, учапіўшыся кіпцюрамі ў каструбаватую кару.

Час між тым ішоў непрыкметна. Калі Шпара глянуў на гадзіннік, было адзінаццаць. А прыйшлі яны сюды ў восем раніцы. Якія ж вынікі? Бандыт амаль што ў руках. Амаль што... Кепска толькі, што гэты баязлівец не пакажа носа — напэўна, не падазрае, што ім загадана ўзяць яго жывога. Паспрабуй выкуры яго адсюль. Шпара ўсё больш і больш падаграваў сябе, лаяў Звяругу, які паўставаў перад ім як асабісты вораг, парушальнік парадку на гэтых і так неспакойных «Крэсах Усходніх». Вось табе і крыміналіст! Паспрабуй цяпер разбяры, чаго тут больш: палітыкі ці крыміналу? Шпара стараўся ўявіць сабе, як адбылася сутычка паміж Якаўцом і гэтым злодзеем, які нечакана ператварыўся ў палітычнага забойцу. Пасля ўспомніў, што на гэтага Якаўца даўно вастрылі зубы мясцовыя хлопцы, бо добра ведалі, што гэта канфідэнт. Гады два назад яго нават чуць не забілі на адной вечарынак. За тую сутычку больш пяці хлопцаў сядзела ў турме. Вось як нечакана Звяруга замкнуў кола помсты, якое ўсё звужалася вакол Якаўца...

Цяпер яму, Шпары, трэба быць вяршыцелем лёсу гэтага злодзея і забойцы. Але ж нехта застанецца і пасля яго, навек занатуе гэты выпадак і некалі, як перад страшным судом, напомніць Шпары, што ў такі і такі дзень 1939 года ён уласнай рукой падпісаў смяротны прысуд — няхай сабе злодзею і забойцу, але чалавеку, які радзіўся і вырас на гэтай неўрадлівай зямлі «Усходніх Крэсаў» і які не па сваёй віне стаў бедны і пайшоў красці...

Нарэшце Шпара злавіў сябе на тым, што ён апраўдвае гэтага бандыта і шкадуе яго, спачувае яго нясчаснаму лёсу. А цікава, ці пашкадаваў бы Шпару Звяруга, апынуўшыся на месцы першага?

Не паспеў ён прыйсці да якога-небудзь заключэння, як раптам бразнула рама ў акне: абедзве форткі адляцелі і, загайдаўшыся на завесах, стукнуліся аб сцяну. Шпара ў момант ускінуў вінтоўку, беручы на мушку акно. Ён чакаў, што праз нейкі момант адтуль выскачыць Звяруга і кінецца ўцякаць. Тады прыйдзецца яго падстрэліць...

Сапраўды, у акне паказалася галава маладога хлопца, русавалосага, без шапкі. Ён абапёрся рукамі аб падваконне і выпрастаўся. Акно было нізкае, і яго галава разам з часткай плячэй вырысоўвалася на фоне папяровчнай шыбы, як у люстэрку, а русы кучаравісты чуб даставаў амаль да страхі. Вось зараз ён падцягне ногі, перакіне іх цераз падаконнік і апыніцца на двары...

Ды хлопец і не думаў выскакваць. Увесь яго выгляд нібы гаварыў, што ён проста захацеў падыхаць летнім, напоеным пахамі кветак паветрам. Але вось галава хлопца павярнулася ў той бок, дзе ляжаў Шпара, і юнак на ўвесь голас крыкнуў:

— Эй, Шпара! Не хавайся!

Пшадоўнік адчуў сябе так, нібы на яго лінулі вядро халоднай вады. Аказваецца, яго тут ведаюць. О, д'яблы! Ён толькі паварушыў плячыма, нібы зганяючы з іх муху, і застаўся ляжаць, чакаючы, што будзе далей.

— Ці чуеш ты, Шпара! Дзе твае гіцлі? — зноў закрычаў хлопец.— Нешта вы слаба стараецеся. Высокае начальства вам не заплаціць за такую службу! Чуеце!

Шпара нарэшце рашыў, што пара дзейнічаць. Перамагаючы жаданне не адрывацца ад зямлі, ён, апіраючыся на прыклад вінтоўкі, нязграбна падняўся на ногі і выпрастаўся.

— Зяруга, я табе кажу па-добраму: здавайся! — крыкнуў па-польску Шпара, але голас яго сарваўся, і апошнія словы, напэўна, не даляцелі да мэты. Гмыкнуўшы колькі разоў, ён паўтарыў яшчэ раз: — Здавайся!

Зяруга адкінуў назад галаву і заліўся звонкім маладым смехам.

— Ха-ха-ха! Я не разумею пана пшадоўніка. Хай мне перакладзе той гіцаль, што хацеў паглядзець парасят. Яму не пашанцавала: іх павязлі ў Клецак на кірмаш.

Шпару ўсяго пакаробіла: гэты хам насміхаўся над ім і над яго падначаленым! Гэты рэцыдывіст сапраўдны зяруга! Ахоплены гневам, Шпара ступіў некалькі крокаў наперад. Краем вока заўважыў, як па градах да хаты крадзецца Гарскі.

Шпара хацеў яму падаць знак, каб ён не выяўляў сябе, але было позна. Зяруга таксама, відаць, убачыў набліжэнне паліцыянта. Ён даволі спакойна прыгнуў

галаву, ляснуў аконнымі форткамі, і праз хвіліну Шпара пачуў яго крык, прыглушаны, але выразны:

— Не падыходзь, страляю!

Другі раз, як заклінаннем, спыняў ён паліцыянтаў, і тыя вымушаны былі паслухаць свайго смелага, як яны толькі што пераканаліся, праціўніка.

Шпара міжволі адступіў назад, аддаўшы без бою тыя некалькі крокаў, якія так нялёгка даліся яму на шляху выканання службовага абавязку.

Паліцыянты залеглі зноў, не ведаючы, што рабіць далей. Не шкодзіла б параіцца, але як?

І, здаецца, іх выручыў Звяруга. Ён быў прапаў з вачэй, а цяпер зноў з'явіўся. Гэта было нешта неверагоднае: Звяруга паставіў на падаконнік люстэрка і пачаў галіцца.

Шпара спачатку падумаў, што злачынец звар'яцеў, але хутка адкінуў ад сябе гэтую думку.

Звяруга вадзіў памазком па шчоках, па барадзе, мыліў старанна, не спяшаючыся, пасля спрытна аруддаваў брытваю, крывячы твар то ўлева, то ўправа, замыльваў вусны, браў сябе за канец носа, задзіраў галаву, выбіраючы пад падбародкам. Гэта да таго раздражняла Шпару, што яму так і хацелася пусціць кулю ў гэтага халаднакроўнага забойцу, які сваім спакоем топча ў гразь іх, узброеных прадстаўнікоў закону. Ён проста плюе на закон і тых, што яго ўвасабляюць.

Дзіўна, але гэты свой рытуал Звяруга выконваў у абсалютнай цішыні. Ён не прамовіў і слова, нават, як здалося Шпары, не глянуў у яго бок і не пацікавіўся, як паводзяць сябе праціўнікі з заходу і з тылу. Здавалася, акрамя галення, для яго больш нічога не існавала.

Прайшло ўсяго хвілін дзесяць, але для Шпары яны здаліся годам нязноснага пякучага прыніжэння. Для яго цяпер ясна было адно — Звяруга жывы не дасца ў рукі. Гэта адчувалася па ўсіх яго паводзінах, занадта дэманстратыўных і нахабных, каб спадзявацца на літасць пераможцаў. Але, як закаранелы садыст і забойца, ён не захоча адзін ісці на той свет — ён пацягне за сабою кожнага, хто трапіць яму пад руку.

Між тым Звяруга скончыў галіцца, папырскаў з рота вады на ручнік і з асалодай выцер свой хударля-

вы, белы здалёк твар, паглядваючы ў люстэрка і адным вокам кідаючы ў акно.

Шпара з нецярпеннем чакаў канца гэтай нуднай цырымоніі; у ім пачала прачынацца тая неакрэсленая злосць, якая заўсёды наступала пасля вялікага нервовага напружання. Тады Шпара траціў кантроль над сабою і мог нарабіць усялякага глупства. Хваляй прыліла кроў да галавы — стала горача, стукнула ў скронях, здалося, што паволі крутнулася зямля. Ён хацеў ускочыць на ногі, але падцягнутая пад сябе рука так і засталася сагнутай. У гэты час Звяруга высунуўся з акна да пояса, узяўся за абедзве форткі акна, збіраючыся зачыніць іх, і кінуў у бок Шпары:

— Эй, паны! А ўсё-такі вы хваробу возьмеце, а не мяне! — і ён рэзка зачыніў акно.

Зноў надышла цішыня. Шпара ляжаў не варушачыся і чакаючы, што будзе далей. Ён лаяў сябе за страту ініцыятывы, за гэтыя хвіліны прыніжэння і абразы, якія давялося яму перажыць. Ён пусціў усё на самацёк! Горш таго: ён ідзе на павадку ў гэтага вясковага злодзея, які яму, прадстаўніку ўлады, чытае натацыі, а ён, Шпара, толькі аблізваецца. Вось і зноў Шпара чакае, як будзе далей паводзіць сябе загнаны ў нару, але яшчэ не злоўлены і такі небяспечны звер.

Страха была цэлая, не падымалася — нідзе ніякіх адзнак руху. Дзверы ў сенях і хляве таксама не адчыняліся. У вокнах нікога не было відаць. Толькі на тым акне, дзе нядаўна галіўся Звяруга, стаяў вазон — відаць, нейкая чырвоная паляргонія.

«Паставіў чырвоны семафор,— зларадна падумаў Шпара,— Але нічога, мы паедзем і на чырвоны».

Шпара ўстаў, даў знак Гарскаму, каб той сачыў за хатаю, а сам падаўся да гумна. Зайшоўшы з паўночнага боку, адкуль не відаць было акон, ён прайшоў яшчэ крокаў дзесяць па прыгуменні і спыніўся. Адсюль добра была відна тыльная сцяна хаты і хлява. Шпара чакаў, што тут ён убачыць Кітка, але таго нешта не было. Шпара вылаяўся і раптам згледзеў у жыце вінтоўку, скіраваную ў бок хаты. Вось паказаўся і сам Кітак. Ён паволі падыходзіў да Шпары, увесь час азіраючыся назад.

— Па-мойму, гэты Звяруга закапаўся ў зямлю,— пачаў Кітак, наблізіўшыся да Шпары.— Я доўга ста-

яў пры сцяне і чуў, як нешта там рабілася. Пасля скрыпелі дошкі на столі. Я думаў, што ён будзе драць страху. Чуў яшчэ, як нас лаяў...

— Усё ты чуў...— сярдзіта перабіў Шпара.— А ты думаў, як выкурыць гэтага злодзея?

Кітак замяўся.

— Я спадзяюся, што пан пшадоўнік прыдумаў першы, як яго выкурыць. Я гатоў выконваць любы ваш загад.

— Павыклі толькі, каб вам загадвалі, а самі ляну-ецеся паварушыць пальцам, каб зрабіць што карыснае...— Шпара пачынаў злаваць, бо ён сам не меў ніякіх планаў і не мог аддаць ніякага разумнага загаду.— Ну вось, што ты рабіў бы на маім месцы?

— Я? — перапытаў Кітак, нібы сумняваючыся, што гэта пытаюць у яго.— Я пачаў бы з ім перагаворы.— І ён паказаў пальцам у бок хаты.

— Якія перагаворы? — Шпара недаверліва глянуў на Кітка.

— Звычайныя... Паабяцаў бы, што мы даруем яму жыццё, што будзем хадайнічаць, каб яму зменшылі на якую палову тэрмін...

— Так ён табе і паверыць...— Шпара скептычна зірнуў на Кітка, а пасля падумаў, што той смяецца.

— А памятаеце, як Макоўскага ўзялі, таго, што забіў секвестратара?

— Бо ў таго не было чым бараніцца... А ў гэтага, напэўна, ёсць зброя.

— Я не думаю,— запярэчыў Кітак.— Каб была, ён не пашкадаваў бы некалькі куляў для нас.

— Ты вельмі многа на сябе бярэш,— буркнуў Шпара.— Пайшлі...

Аднак Шпара першы не рушыў, а чакаў, пакуль Кітак пракладзе дарогу. Ззаду, крок у крок за сваім падначаленым, ён дайшоў да хлява і загадаў Кітку спыніцца. Яны абодва прыслухаліся. Але, апрача стуку свайго сэрца, Шпара нічога не чуў.

— Ты што-небудзь чуеш? — спытаў ён у Кітка.

— Нічога... Во! Нешта грукнула, як упала... Чуеце?

— Ну, гэта і глухі пачуе... Нешта цяжкае.

Асцярожна, на пальчыках, яны наблізіліся да самай сцяны хаты, прыслухаліся. Але больш не чуваць было нічога.

Шпара крануў Кітка за плячук:

— Будзь тут, а я пайду на той бок. Трэба выбіць дзверы... Хопіць цягнуць.— І ён, агінаючы хлеў, падаўся на двор, увайшоў у прычыненыя весніцы і дабраўся да дзвярэй. Злева, ля вушака, было маленькае акенца, праз якое, як ведаў Шпара, адмыкалі сені: пацягнеш за вяровачку — і адсунеш жалезную або драўляную засаўку. Перамагаючы асцярожнасць, Шпара ўсадзіў руку ў акенца і пашарыў па сцяне. Ніякай вяровачкі не было, ён абмацаў толькі прабой, за які яна магла быць прывязана.

Шпара падумаў, што можна застацца калекам, і хутка, як з кіпятку, выхапіў сваю руку. Пасля прытуліўся да сцяны і адчуў, як усё цела пакрылася непрыемным, рэзкім потам.

«Баязлівец»,— вылаяў сябе Шпара і хацеў плюнуць, але стрымаўся. Не варта выяўляць сябе, хоць хто яго ведае: можа, толькі для яго самога здавалася бяспечным месца, дзе ён стаяў. Ад свайго не схаваешся, хоць залезь у зямлю.

І хваля расчаравання хлынула ў яго пачуцці. А што, калі кінуць усё гэта к чорту і паехаць назад у пастарунак, сказаць, што ніякага Звяругі яны не бачылі, што ім яшчэ не абрыдла жыць. І хопіць служыць на гэтай сабачай службе, на якой не відаць, дзе канчаецца тваё і дзе пачынаецца казённае, дзе ты гаспадар сам сабе, а дзе вораг. Вось трэба рыскаваць сваім жыццём, а за што, за каго? Не адзін раз, доўгімі асеннімі начамі, седзячы на дзяжурстве ці хлюпаючы па гразі непраходных дарог, думаў Шпара аб мізэрнасці свайго існавання, аб тым, што не збыліся яго мары, што, толькі ратуючыся ад голаду, прыйшлося падацца ў паліцыю, ехаць на «крэсы», супакойваць гэтых бунтароў, сядзець тут, як на парахавой бочцы, і чакаць, што з-за вугла якой-небудзь згорбленай хаты ў цябе стрэляць з абрэза і ты не пабачыш больш сваіх дзяцей, сваёй жонкі, якая праклінае тваю службу, але любіць цябе, бо сэрца ў цябе чалавечае і спагадлівае. Ды страх за заўтрашні дзень, за кавалак хлеба прымушаюць цябе беззаганна нясці цяжкую і няўдзячную службу паліцыянта.

Як на споведзі, праплылі ў Шпары ў галаве гэтыя думкі, яго запаветныя, патаемныя думкі, якіх, акрамя

яго самога і жонкі, не ведае ніхто, нават ксёндз. Як бы плюнуў, здаецца, на ўсё гэта, уцёк бы недзе на дзікі востраў, дзе няма людзей, няма грызні, дзе не маюць сілы суровыя законы, пісаныя чалавекам для чалавека.

Але хвіліны роспачы праходзяць, і перад Шпарам зноў ва ўсёй яснасці паўстае яго непасрэдная задача. Выпусціць злачынцу з рук — значыць самому трапіць за краты. Тут не выкруцішся. Вось толькі ці ўсё скончыцца добра... Для яго, Шпары... Самае цяжкае, невядомае, небяспечнае — усё наперадзе. Ды і праз гэта трэба прайсці... Прайсці... і застацца цэламу. Але калі ходзіш па канаце над прорвай, то хто скажа табе, што ты пройдзеш пяць, дзесяць разоў і не скруціш сабе галавы? Хопіць! Гэта апошні раз! Апошні — у абодвух выпадках. Яснае і пераканаўчае, прыходзіць рашэнне: «Калі застануся жыць — кіну праклятую службу. Толькі б застацца, толькі б прамахнуўся гэты няўмольны, спакойны і бессардэчны Звяруга». З незвычайнай сілай ён адчуў раптам над сабою ўладу гэтага чалавека. Ад яго залежыць, жыць ці не жыць пшадоўніку Шпары, і раз забойца апынуўся на месцы суддзі, ён будзе бязлітасны — такі ж, як і тыя, што збіраліся судзіць яго самога...

Шпара дрыготкімі рукамі адкрыў замок вінтоўкі, утапіў у магазін выняты з патронніка набой, асцярожна закрыў замок. «Клянуся дзецьмі сваімі,— прамільгнула ў яго галаве,— што, калі сёння я застануся жыць, мая рука больш не дакранецца да зброі, што ахоўвае закон». Сказаўшы гэта сабе, Шпара адвёў вінтоўку і з усёй сілы ўдарыў прыкладам у дзверы — ля самага вушака, насупраць засаўкі. Стук і сухі скрып вырваных з дрэва прабояў супалі ў адзін непрыемны гук, што стаў сігналам для пачатку наступу на прыціхлага злачынцу.

Шпара ўдарыў яшчэ раз і заўважыў, што дзверы толькі на якую пядзю выйшлі з пазоў і далей не адыходзяць. Іх нешта падпірала. Забыўшыся пра асцярожнасць, ён са злосці стукнуў плечуком. Дзверы падаліся, але нямнога, і скасіліся: ніз паддаваўся напору, а верх упіраўся ў нешта і стаяў на месцы. Шпара, як у гарачцы, усунуў у шчыліну левую руку і павёў ёю знізу ўверх, шукаючы перашкоду. Вось! Ён далонню

штурхануў у нейкі кол, той, падскочыўшы ўверх, выслабаніў дзверы, і яны з сілай грукнуліся аб сцяну. Следам за Шпарам у сені ўварваўся Гарскі. Яны агледзеліся — тут было пуста, толькі на зямлі валяліся лескі. Шпара, чуць стуліўшыся за вушак, адчыніў хату, а сам, прыжмурыўшы вочы і сцяўшы зубы, чакаў стрэлу. Але прайшоў нейкі момант, а стрэлу не было.

— Эй, вылазь! — нясмела гукнуў Гарскі.

Па-ранейшаму ніхто не адказваў, і гэтая цішыня палохала яшчэ больш.

Тады Шпара, высунуўшы ўперад вінтоўку, першы пераступіў парог хаты. Тут таксама не было ні душы. На сваім месцы стаялі стол, засланы высокі драўляны ложак, палок пры печы, завешаная гратка, пры ёй на дроце вядро з вадою. Шпара прыгнуўся, глянуў пад ложак. Пасля падышоў да стала, дакрануўся да брытвы, якою нядаўна галіўся Звяруга, зірнуў на абраз на покуце, пад якім стаяў снапок зажатага жыта.

Шпара і Гарскі, здзіўленыя, пераглянуліся і амаль адначасова кінуліся ў сені. Дзе ж мог падзецца злачынец? Лескі... Па іх можна пералезлі ў хлеў цераз дашчаную сценку і на гару. Гарскі без загаду Шпары падняў іх і прыставіў да сцяны над дзвярамі. Таксама без каманды ён паціху стаў падымацца наверх, трымаючы ў правай руцэ зараджаную вінтоўку. На тры прыступкі ніжэй за ім узбіраўся Шпара. Толькі галава Гарскага ўзнялася на ўзровень столі, як раптам ён асеў на ніз, і тут жа бухнуў стрэл, ад якога зазвінела ў вушах Шпары, а сам ён чуць не сарваўся. Правую руку Гарскага моцна рванула назад. Ён дзікімі вачамі глядзеў зверху ўніз на Шпару і ўсё больш і больш прыгінаўся, ссоўваўся з лесак, нарэшце выціснуўшы з сябе адно толькі слова:

— Ён...— І паказаў руляй вінтоўкі на гару.

Сярдзіта ашчэрыўшы зубы, Шпара з пагардай абмінуў свайго памочніка і, нават не гледзячы перад сабою, ступіў на прысыпаную кастрыцаю столь. Узняўшы галаву, проста на фоне шчыта ён убачыў чалавека. Самі сабою рукі сціснулі вінтоўку і тут жа разжаліся. На перакладзіне казлоў, што падпіраюць асволак страхі, вісеў той самы хлопец, якога паўгадзіны назад бачылі праз акно. Ён вісеў на вузкай скуранoй папружцы, заклаўшы рукі за спіну, а сагнутыя ногі амаль да-

ставалі каленьмі да столі. Шпара здрыгануўся ўсім целам і, паклаўшы вінтоўку, кінуўся да шчыта. Ён выхапіў з-за пояса багнэт і разануў па папружцы. Цела Звяругі бязвольна спаўзло на мяккі насціл. Рука самагубцы была яшчэ цёплая, але пульс не біў. Шпара скінуў шапку і прыклаў вуха, у якім усё яшчэ звінела, да хлопцавых грудзей. Сэрца таксама маўчала.

Шпара глядзеў на пасінелы касцісты твар хлопца, і ў яго грудзях раптам нешта заварушылася, і ён ледзьве стрымаў роспачны ўсклік: «Што ты зрабіў сабе, хлопец?!»

Шпара прымусіў сябе падняцца, з цяжкасцю выпростваючы сваё цела, спустошанае многімі гадзінамі нервовага напружання. Ён азірнуўся. За яго плячыма стаялі Гарскі і Кітак. Шпара паволі прыходзіў да памяці.

— Кітак, пішы акт,— нейкім не сваім голасам загадаў ён.

Кітак уздыхнуў і зашкрэбаў пальцамі па сумцы, вымаючы паперу і аловак.

Гарскі стаяў пануры і не ведаў, што рабіць. Яму, відаць, было непрыемна за сваю баязлівасць, якая так недарэчы вырвалася наверх.

Пры слабым святле, што падала на столь праз акенца ў шчыце, Кітак выводзіў першыя словы акта.

— Звяруга...— сказаў ён сам сабе.— Якое страшнае прозвішча... А сам, як дзяўчына. Нават прыгожы... Толькі доля не ўдалася...

— Перастаньце, Кітак,— рэзка абарваў яго Шпара і падумаў, што загадвае апошні раз. У яго душы бушавала цэлая бура. Радасць і боль, палёгка і гнеў, адчуванне важнасці моманту, які надышоў у жыцці і крута мяняе яго далейшае цячэнне,— усё аж разрывала яго грудзі.

*1960 г.*

# ДЗЯВОЧАЯ КЛЯТВА

I

Цэлы дзень парыла, а вечарам сонца села за цёмную сцяну. Паветра было гарачае і густое, як у сушні, а вецер не варушыў нават лісця на явары. Ветру не было, але сцяна на захадзе ўсё расла, усё шырэла.

Скінуўшы злубянелую ад поту рубашку, Адась упаў на ўзмежак і нейкі час ляжаў і не варушыўся. Тузала ногі, нылі плечы, на далонях пяклі мазалі. Сёння цэлы дзень, без адпачынку, Адась вазіў сена. Яго гаспадар, пан Янкоўскі, наняў яшчэ пяць чалавек, каб за дзень забраць у гумно ўсё сухое: барометр, які вісеў у доме на верандзе, паказваў на перамену. Усе стараліся як маглі: пан абяцаў барыш, калі хлопцы паспеюць справіцца за пагоду. Тры параконныя вазы з самай раніцы адзін за адным снавалі ад гумна да лугу, на якім ляжалі валкі сухога мурожнага сена, такога зялёнага і пахучага, што хоць кладзі яго ў чай.

Скончылі працу, гаспадар стрымаў сваё слова, і вячэра была сытая і смачная. Выпілі па тры кілішкі гарэлкі, закусілі як след. Служанка Муся, маладая, рабацінiстая і шчуплая, ледзь паспявала падаваць на стол. Ах, д'ябал! Адась успамінае і плюецца. Скнарапан умее паказаць сябе шчодрым! Цэлы тыдзень ён корміць сваіх парабкаў і падзёншчыкаў як папала, а адзін раз, звычайна ў канцы якой-небудзь вялікай работы, раскашэльваецца.

Але не вельмі праймеш Адася такімі штучкамі. На сваім, хоць яшчэ і нядоўгім, вяку ён служыў не ў аднаго пана і навучыўся распазнаваць іх нутро. Усе яны на адзін капыл — стараюцца дастаць з цябе ўвесь дух, пакуль ты ў іх служыш, і даць табе як найменш. Бо што гэта за парабак, які не будзе думаць аб кавалку хлеба? Тады ён стане яшчэ задзіраць нос і, чаго до-

брага, будзе тыкацца з панам. Не, трэба, каб заўсёды ён адчуваў на сваёй шыі жорсткую пятлю нястачы,— тады ён толькі будзе паслухмяны і пакорлівы.

Адась перавярнуўся на спіну. У небе там-сям ужо відны былі бляклыя зоркі. Пачаў паволі павяваць вецер, заварушылася, ажыло лісце на явары, замігцела белымі бакамі — нібы сыпаўся з неба буйны, лапцяваты снег.

Хлопцу не ляжалася, але ён ведаў, што ісці туды яшчэ рана. Туды — гэта да Гэлі Двароўскае, да якое ён хадзіў ужо даўно, аж цэлы год,— як толькі застаўся ў пана Янкоўскага на службу.

Апошнім часам Адась стаў прыкмячаць, што Гэля перамянілася да яго. Было ў яе нешта схаванае на душы, яна стала негаваркая. Раней сама прасіла, каб заходзіў да іх часцей, а цяпер скардзіцца, што многа работы дома, што маці зусім знемаглася, а браты рэдка прыпыняюцца — усё па заработках. Карова, парася, куры — усё трэба дагледзець ды накарміць. Усю сям'ю абмыць і абшыць — таксама часу трэба.

Але Адась разумее, што гэта ўсё адгаворкі, тут нешта другое. Можа, закахалася ў каго? Ды што тут гадаць? Трэба будзе неяк дакапацца праўды.

Адась з крэктам устаў з долу, падняў скамечаную рубашку, страсянуў яе.

Перш чым ісці ў сваю дарогу, Адась накіраваўся ў сад. Сярод мноства антонавак і малінавак, апортаў і позніх цыганак было некалькі яблынь ранніх гатункаў, на якіх ужо наліваліся салодкія яблыкі. У садзе вартаўніка яшчэ не было, толькі ў будцы сядзеў навязаны здаравенны рыжы сабака Тыгрыс, які, аднак, нічога не меў супроць, калі яго новы гаспадар, што не раз прыносіў яму есці, трос яблыню. Сваіх ён зладзеямі не лічыў.

Адась завязаў падолак у рубашцы, усыпаў у гэты самаробны мяшок добры пуд яблыкаў, пасля з рукавоў зрабіў завязку і, узяўшы клунак пад паху, выбраўся з саду і пашыбаваў поплавам проста на Гэліну хату. У цемры яна не была відна, але ён знайшоў бы яе з завязанымі вачыма.

З поплаву дыхнула на яго гарачым вільготным паветрам, поўным п'янкога паху лугавых красак, заўчасна зрэзаных няўмольнаю касою, высушаных на спя-

котным сонцы і ацярушаных граблямі. Адась ступаў асцярожна, шоргаў падэшвамі босых ног па калючай пакошы, баючыся наступіць на які-небудзь стырчак і пранізаць нагу. У такт крокам ціха парыпвалі яблыкі ў самаробным мяшку.

Цёмная хмара на захадзе расла, набліжалася, утвараючы густую чорную страху на цэлае паўнеба. Ужо відаць былі далёкія маланкі, яркія на цёмным небе, але грому яшчэ не было чуваць.

Адась заспяшаўся: яму здалося, што на твар упала першая кропля дажджу. Ён падумаў, што Гэля можа пабаяцца навальніцы і не пойдзе спаць у адрыну, куды яна ўцякала з хаты ад гарачыні. Праўда, у адрыне спаў яшчэ Гэлін малодшы брат Кастусь, які служыў селавым пастухом, але Адасю ён не перашкаджаў. Кастусь лічыў ужо Адася сваім чалавекам і казаў часцяком: «Швагер, дай закурыць». Адась сварыўся на яго за тое, што ён з пятнаццаці гадоў пачынае чарніць лёгкія, але не адмаўляў хлопцу, бо ведаў: ёсць такія людзі, што робяць насуперак, калі ім забараняеш. Кастусь быў якраз упарты.

Прайшоўшы з паўвярсты загуменнямі ля рэчкі, якая летам амаль што высыхала, Адась апынуўся супроць Маскалёвых, як дражнілі Гэліных бацькоў. Мянушка гэта ішла, відаць, у глыб вякоў. Казалі, што прадзед Гэлінага бацькі быў рускі салдат, які застаўся ў прымах у беларускай вёсцы Дабрынічах. Была яшчэ і другая чутка: калісьці нехта па жаночай лініі ў гэтым родзе быў вельмі баявы і няўрымслівы.

Двор Маскалёвых меў мізэрны выгляд: маленькая хата, пры ёй сені, а да сяней — у адзін шаронг, як кажуць старыя,— прылеплены хлеў. Адрына, што стаяла далей ад вуліцы і бліжэй да рэчкі, служыла гумном, свірнам і чым толькі хочаш. У ёй змяшчалася ўсё багацце Маскалёвых, якое яны збіралі з аднае дзесяціны свае зямлі.

Адась стаў перад дзвярыма ў адрыну і прыслухаўся. Дзверы знадворку не былі замкнуты, нават зашчапкі не было ў прабоі. Хлопец ціха націснуў на адну фортку. Яна не паддалася — дзверы былі падпёрты з сярэдзіны. Ён пастукаў, хвіліну чакаў, прыслухоўваючыся. І аж здрыгануўся ад нечаканасці, калі пад самымі дзвярыма пачуўся голас:

— Хто гэта?

— Гэля, адчыні,— прашаптаў Адась,— гэта я.

Бразнула падпорка, зарыпелі завесы. Гэля, у цёмнай сукенцы з белаю хусткаю на галаве, паказалася ў шчыліне прачыненых дзвярэй.

— Чаго ты прыйшоў? — У Гэліным голасе не было ніякай радасці, а хутчэй злосць.

— Ці ж так трэба сустракаць чалавека? — Адась усміхнуўся, і ў цемры бліснулі два рады белых зубоў.— Вось табе гасцінец, каб была ласкавейшая,— і ён працягнуў Гэлі свой клунак.

Яблыкі гучна зарыпелі, нібы па-свойму віталі дзяўчыну. Гэля ўзяла пакунак і ледзь не выпусціла з рук, такі ён быў цяжкі.

— Ты глядзі, пападзешся,— прыгразіла дзяўчына.— А што гэта за торба такая? А людзі! Дык гэта ж рубашка!! Здурне-е-еў...

Адася рассмяшыла яе здзіўленне, ён пераступіў падваротню і лёгка абняў Гэлю за плечы. Яблыкі раздзялілі іх. Яны зноў зарыпелі, але, здавалася, больш пагрозліва і папераджальна, нібы перасцерагаючы свайго былога гаспадара ад такога недалікатнага жэсту. Аднак Адась не зразумеў іх мовы, забраў клунак з Гэліных рук і кінуў ля падваротні.

Хлопец зноў хацеў абняць Гэлю — цяпер не было між імі ніякай перашкоды,— але ўтрымаўся. Ён падпёр дзверы і ўзяў дзяўчыну за руку.

— Ты адна? — Яму сёння вельмі хацелася, каб яна была адна.

— Адна... Косцік застаўся ў хаце. Маці грому баіцца..

Тлумачэнні Адасю не былі патрэбны — галоўнае, што Гэля адна. Ён павёў яе ў цемру проста да пасцелі, ля якой прасядзеў тут не адну ноч. На сене, якога было не больш за воз, ляжалі коўдра, падушка і пара посцілак. Дыхнула пахам сена — такім густым, што аж пяршыла ў горле. Адась разлёгся на пасцелі, як гаспадар, а Гэля, падкурчыўшы ногі, прысела збоку. І хоць была навокал цемра, Гэля і Адась, не бачачы, адчувалі, што робіць кожны з іх.

— Чаго ты чакаеш? — спытаўся Адась.— Можаш смела лажыцца. Распранайся. Ты нібы чаго баішся?

— Здаецца, гром,— ціха адказала Гэля.

Сапраўды, на захадзе далёка-далёка нешта загуло.

— Павінен быць дождж. Ідзе хмара,— абыякава сказаў Адась, бо думкі яго былі заняты другім.

Зноў прагучаў гром — раскацiста, працягла і ўжо значна бліжэй. На дварэ моцна зашумелі дрэвы.

Праз гэты шум ясна пачулася, як у сенях бразнулі дзверы, затухкалі хуткія крокі босых ног, і ў адрыну загрукалі кулаком.

— Гэля, Гэля! Ты спіш? Ідзі ў хату, мама кліча,— пачуўся звонкі хлапечы голас.— А то будзеш баяцца.

— Зараз іду,— нехаця адказала Гэля.

Адась усхапіўся і сеў.

— Не слухай, Косця, яна не пойдзе,— сказаў ён у цемру.— Чаго баяцца? Толькі не кажы, што я тут.

— А, швагер! То добра.— І зноў затухкалі босыя ногі.

— Ну што, пойдзеш у хату ці не? — спытаў Адась і, хіснуўшыся, дакрануўся плячом да Гэлінага пляча.

— Ай, неназаляй,— Гэля адхілілася.— Лепш было б, каб ты зусім не прыходзіў.

Адась раптам ускіпеў.

— Што? Каб зусім не прыходзіў? Дык я магу пайсці.

— Ідзі, як хочаш.— Гэлю, здавалася, гэта ніяк не хвалявала.

— Ідзі? Калі так — не пайду, на злосць табе. Ад мяне не так хутка адчапіцца, каб ты ведала.

Гэля ўжо не рада была, што так выйшла. Варта толькі як-небудзь неасцярожна ўкалоць Адася, як ён адразу пачынае гарачыцца, і пасля яго ўжо цяжка супакоіць. Ды і наогул ён нейкі дзівак. Як толькі яны застаюцца ўдваіх, Адась робіцца занадта сур'ёзны, нават суровы. Ён нібы забывае, што яна дзяўчына, якая любіць пяшчоту, абдымкі. Ён пачынае гутарку пра жыццё, гаворыць доўга і нават нудна — аб несправядлівасці ладу, аб беднасці і багацці.

Цяпер Адась маўчаў і нават не варушыўся.

— Ты ведаеш, Гэля, колькі я ўжо хаджу да цябе?— раптам спытаўся хлопец.— Роўна год. А што з гэтага? Чым далей, тым горш. Спачатку ты вешалася мне на шыю, гатова была выйсці за мяне замуж, а сёння ты нешта пачынаеш віляць...

— А памятаеш, як ты віляў? — з'едліва спытала Гэля.— Ведай, як гэта добра...

— У мяне былі важныя прычыны. Тады я не мог жаніцца. Я нават кашулі не меў.

— А цяпер ты багаты?

— Не багаты, але сёе-тое маю. Нават табе на сукенку купіў.

— Дарэмна трацілся...

Праз усе шчыліны ў адрыну нечакана ўварвалася яркае — аж сляпіла — святло. Адась зажмурыўся, але перад вачыма ў яго яшчэ ўсё стаяла Гэля: твар суровы, галава схілена да каленяў, рукі моцна абхапілі закрытыя сукенкаю ногі.

Цемра хлынула зноў, яшчэ больш чорная і густая, і ўслед за гэтым кароткі рэзкі ўдар грому затрашчаў над самай адрынаю. Адась адчуваў, што Гэля нават не зварухнулася з месца, і яго ўзяла злосць, што яна такая смелая і ўпартая. Каб ён не ведаў яе іншаю — вясёлаю, бесклапотнаю, дураслівай,— ён падумаў бы, што ў гэтай дзяўчыны каменнае сэрца.

— Чаму дарэмна? — Вымушаная паўза скончылася, і Адась зноў пацягнуў, як за нітку. Сёння Гэля была адкрытая, і ён хацеў выпытаць у яе ўсю праўду.

— Таму...— і Гэля змоўкла.

— Гавары, гавары,— падахвоціў яе Адась.

— Таму, што мы век не ўгледзім шчасця...

— Нешта я не ўцямлю, чаго ты хочаш.

— Я жыць хачу! — раптам крыкнула Гэля.— Жыць! Як людзі... А што я ўгледжу, як пайду за цябе! Буду ўсё жыццё парабчанкаю, прыслугаю... Гарыць хай яно, такое жыццё... Мне свая беднасць душу ад'ела...

— Хто што заслужыў, тое і мае.— Адась нічога не знайшоў сказаць больш трапнага, бо сэрца яго заныла і думкі замітусіліся. Але гэта толькі на момант.— Ты ведаеш, хто я такі? Не ведаеш. І я сам не ведаю. Я не ведаю нават, адкуль я, хто мае бацькі, ці я паляк, ці беларус, хоць лічуся католікам. Адно ведаю, што Адась Вайцяхоўскі — парабак, чорны вол — і больш ніхто. Але я ведаю яшчэ, што я чалавек, такі, як Янкоўскі, як усе паны і простыя людзі. Я хачу жыць.. Я буду працаваць. У мяне больш нічога няма, апроч рук. Але я не магу паверыць, што ты перастала лічыць мяне

за чалавека толькі таму, што я бедны. А ты сама? Хто ты, я ў цябе пытаю? — Адась пазіраў шырока адкрытымі вачыма на чорны сілуэт дзяўчыны.— Ты ж не вельмі адышла ад мяне, чаго ж ты хочаш?

— Жыць... Па-чалавечы...

— Па-чалавечы — гэта сумленна, калі хочаш ведаць. Сумленна... Усё жыццё працаваць, гнуць горб да магілы. Ты жывеш па-чалавечы цяпер, так жыве большасць. Але ты не гэтага хочаш. Табе захацелася быць паняй. А як жа! Ты ж прыгожая, я і забыўся. Выйдзеш за пана ці паўпанка, або хоць і за нашага багацея — за гэтага млынаровага сынка,— і будзеце жыць «па-чалавечы». А на таго, хто кахаў цябе больш за ўсё на свеце,— напляваць, бо ён бедны, ён не чалавек...

Гэля маўчала. Напамін пра млынаровага сына Пятрушку ўкалоў Гэлю. Адась ведаў, што гаварыў. Ведала і ўся вёска. Пятрушка даўно заляцаўся да Гэлі, але яна не любіла высокага, як жэрдка, і непаваротлівага Пятрушку. З ім яна сумавала, бо ў яго не знаходзілася іншай гутаркі, як пра гарцы, меркі, вобмешку. У яго вушах вечна сядзеў мучны пыл. Хлопец быў нібы аглушаны бясконцым татахканнем драўляных кулакоў і шасцерняў.

Але апошні час Гэля ў думках змяніла свае адносіны да Пятрушкі. А вінавата ў тым была маці. Яна не дакарала дачку, не крычала на яе і не кідалася з кулакамі. Яна палохала беднасцю. Кім была яна сама, калі выходзіла замуж? Парабчанкаю, прыслугаю, як цяпер Адась. А муж яе, Гэлін бацька, меў паўтары дзесяціны зямлі. Яны спадзяваліся разжыцца, узбіцца на гаспадарку... А што набылі? Што купілі? Век галелі, век пазычалі, не мелі свайго. Без пары бацька пайшоў у магілу... Дык каму яна тады сагразіла, што не паслухала бацькоў і пайшла за такога, як сама? Усе не падабаліся: то стары, то крывы, то малога росту. Выбрала, нацешылася... Плакала крывавымі слязьмі... А чым Пятрушка кепскі хлопец? Ціхі, працавіты, не раскідае, не прап'е. Адзіны сын, бацька ўжо стары, дочкі замужам... І любіць будзе.

Гэля думала, рашалася... Цяпер яна маўчала. Не магла яна пра гэта расказаць Адасю.

— Я жыў, можна сказаць, толькі з-за цябе. Думаеш, мне лёгка? У цябе хоць маці, браты. А я адзін...

Толькі з табою мне было добра, толькі з табою я адчуваў сябе чалавекам... І раптам — нож у самае сэрца... Эх, жыццё...

Адась скрыгануў зубамі і зноў лёг на падушку, падклаўшы рукі пад галаву.

Па страсе ўжо даўно цабаніў дождж, нібы бесперапынку сыпаліся на салому зярняты з прадранага мяха; шалеў вецер, маланкі раз-пораз асвятлялі адрыну, раз-пораз то блізка, то далёка грукацеў гром. А Адась і Гэля нібы нічога не чулі, нічога гэтага не бачылі. Для іх нічога нэ было, апроч іх уласнага лёсу, сваіх цяжкіх клопатаў. І тая бура, што бушавала на дварэ, была нікчэмна малою ў параўнанні з той, што кіпела ў іх сэрцах. І, можа, нават, каб гром стукнуў у гэтую вось адрыну, ён не спалохаў бы зацятых у сваім жаданні жыць па-новаму маладое дзяўчыны і хлопца.

— Лепш пакутаваць год, два, чым дваццаць, сорак. Лепш адпакутаваць за год тое, што трэба за ўсё жыццё. І ты гэта зразумееш.— Гэля гаварыла з надрывам у голасе, гатовая вось-вось заплакаць.— Мне цяжка, але я не хачу жыць так усё сваё жыццё. Лепш зусім не жыць,— скончыла яна рашуча.

Шумеў, хлюпаў у лужынах дождж, ірваў страху вецер, пралазіў у шчыліны, хадзіў па адрыне. Смаліла маланка, гуў гром. А ў адрыне не канчалася размова.

— Твая праўда, Гэля. Лепш не жыць зусім, чым траціць тое, што можна знайсці адзін раз, і то не заўсёды,— гаварыў паволі, з роздумам Адась, укладваючы ў Гэліну думку свой сэнс.— Дай мне руку. Што гаварыць?..

Гэля не падала рукі, і ён прысеў, абмацаў яе ногі, знайшоў руку і пацягнуў да сябе. Дзяўчына ўпала проста яму на грудзі. Ён абхапіў яе, прытуліў да сябе і лёг на падушку. Гэля была ўся халодная. Адась прыціснуў да сябе дзяўчыну на ўсю моц сваіх рук, але яна не папрасілася, як калісьці. Няўжо для яе ўжо нічога не азначалі яго абдымкі? Ён пачаў яе цалаваць, усё мацней туліў да сябе, казытаў вуснамі яе шыю, гладзіў доўгія косы. Гэля нерашуча адбівалася, а ён шалеў штораз больш.

Дзяўчыну палохала тое, што ён маўчаў, быў сур'ёзны, нібы адчаіўся на нешта важнае. Раней ён не дазваляў сабе такіх выхадак, бо ведаў, што Гэля не лю-

біць гэтага. Аднойчы ён расхадзіўся і атрымаў ад яе аплявуху. Гэта было самым лепшым лякарствам супроць яго гарачкі. Гэля і цяпер хацела зрабіць тое самае, але ён так сціснуў яе рукі, што дзяўчына ўскрыкнула. Цяпер яго сіла, якою яна так ганарылася і якой нават зайздросціла, была скіравана супроць яе. Гэля рванулася яшчэ раз, але дарэмна.

— Што ты надумаў... дурань? — прастагнала яна.— Гэтым ты мяне не прывяжаш... Пабачыш... Адумайся, што ты робіш... Я раскажу ўсім людзям, які ты сабака...— Гэля заплакала ад злосці, што не можа нічога зрабіць.

Адась думаў, што сілаю можна ўтрымаць сваё шчасце, але яно выплывала з яго рук, і ён рашыўся пайсці на хітрасць. Ды гэта, урэшце, на няпэўны час адцягвала развязку.

— Мяне не страш,— чужым голасам азваўся Адась і супакоіўся, толькі трымаў дзяўчыну за рукі.— Я нічога не баюся... А вось ты баішся людскога суда... Я цябе не зачаплю сёння, толькі пакляніся, што выйдзеш за мяне замуж гэты год. Чуеш? — І Адась сціснуў рукі дзяўчыне, як абцугамі.

Яна памаўчала хвілінv, паспрабавала вызваліцца, але пастка была надзейнак, і гэта вырашыла ўсё.

— Клянуся,— прашаптала яна.— Толькі пусці.

Адась адпусціў яе рукі і сеў.

— Чуе неба, што ты сказала. Не падумай толькі пасля аднекваацца. Будзе кепска.

Нібы ў пацвярджэнне яго слоў, магутна і грозна пракаціўся па небе раскацісты гулкі ўдар.

## II

На вясковыя палеткі прыйшла восень. Белым павуціннем аплялося незааранае ржышча, ціхія лагодныя дні пачалі прыкметна карацець. Цэлымі хмарамі лёталі парудзелыя на сонцы шпакі, збіраючыся ў далёкую дарогу.

У самых рупных гаспадароў пачалі ўжо ўзыходзіць азімыя. Не за гарамі была зіма. Аб гэтым напаміналі золкія, з нізкімі густымі туманамі ночы, трывожныя крыкі жураво́ў і дзікіх гусей, якія прабіраліся на поўдзень. Толькі дрэвы яшчэ неахвотна скідалі свой пажоў-

клы ўбор, але даволі было аднаго моцнага замаразку, каб лісце пасыпалася спарней нават без вялікага ветру.

Нехта прыдумаў увосень нарабіць многа свят. Чаму ўвосень? Можа, таму, што цяпер у чалавека завозіцца сякі-такі грош, бо не тое, дык гэта падкіне селянін на кірмаш, адтуль яго жонка пойдзе ў царкву, а гаспадар — у шынок выпіць кручок гарэлкі.

Вось у гэтую пару года і пачынаюцца вяселлі.

Адась нядаўна атрымаў увесь свой заробак і таксама рыхтаваўся да вяселля. У яго быў ужо неблагі гарнітур, цяпер жа ён справіў сабе хромавыя боты і шапку, а на зіму збіраўся купіць бравэрку з добрым каўняром. Калі зрабіць невялікае, на чалавек дваццаць, вяселле, то яшчэ сёе-тое застанецца на пражыццё. На Гэлін пасаг ён асабліва не разлічваў. Што дадуць, тое і добра. А не дадуць нічога — таксама бяда невялікая. Абы ўзяла якую пасцель з сабою, каб было на чым спаць, ды пару палацён на бялізну.

Яны ж маладыя, будуць працаваць і на хлеб сабе заробяць. Там, можа, як збяруць на сваю хатку, кінуць парабкоўства, купяць якую лапіну зямлі. Усе, хто не мае свайго, аб гэтым думаюць і да гэтага імкнуцца. Толькі не ўсе, праўда, дасягаюць свайго...

З такімі думкамі Адась ішоў у сваты.

За свата ў яго быў знаёмы дзядзька з Дабрыніч, Пятрусь Верас, які, здавалася, на тое і радзіўся, каб шукаць маладым людзям шчасця. Выглядаў ён непрывабна: высокі, насаты, крыху сутулы, крыху рабы з воспы. Затое вясялун, жартаўнік і майстар на ўсялякія штукі. Казалі, што калі ён яшчэ быў сам малады і прыходзіў на вячоркі, то ні адна дзяўчына не магла напрасці нават ручайкі — ён так смяшыў і забаўляў усіх, што было не да пражы. Яму падрабіць чыйнебудзь голас, замяўкаць, каб аж заскрабло па спіне ў чалавека, непрыкметна схаваць што-небудзь, што пасля скруціш галаву і не знойдзеш,— было проста глупства. Усе яго фокусы і жарты былі бяскрыўдныя, не абражалі чалавека, але затое смяшылі да слёз.

А колькі дзявочых галоў ён закруціў! Колькі нагаварыў слоў, ад якіх дзяўчаты раставалі, як воск на агні! О, гэта быў мастак расчуліць дзявочае сэрца: калі трэба — пахваліць, калі трэба — пацалаваць украд-

кам, уздыхаць, сохнуць на вачах, праводзіць дадому і гаварыць усім, што яго Мар'яна ці Анюта лепшая за ўсіх дзяўчат, якіх ён ведаў і ведае. А да ўсяго, ён гаварыў заўсёды складна, у рыфму.

Сват ішоў, смешна падскокваючы, размахваў рукамі перад сабою, нібы касіў, а галава ў старой кепцы была задрана ўгору, ад чаго ён выдаваў яшчэ вышэйшы. На цёмна-бурым ад загару вусатым твары блукала ўвесь час усмешка: нібы ён таіў які-небудзь жарт і той казытаў яму пяты.

— Як, Адась, баішся? — ні з сяго ні з таго спытаў сват.

— Чаго тут баяцца? Гэта ж не красці.

— Ці красці, ці прасці, абы жыць у шчасці,— як з рэшата сыпануў сват.— Баяцца, як спаць лажацца, а як па тым, дык па ўсім. Люблю за храбрасць. Каб гэта каму другому — не вылез бы з дому. А як для цябе — не пашкадую ні лапцяў, ні сябе,— і дзядзька прытупнуў дзіравым ботам.

Далей усю дарогу яны маўчалі. Была субота, святы вечар, пачынала шарэць. Адась падумаў, што яны ранавата выбраліся, трэба было пачакаць з якую гадзіну. Але што зробіш? Сват увесь час падганяў. Яму, відаць, не цярпелася выпіць ці паказаць свой спрыт. Ішлі загуменнямі — Адась ледзь угаварыў свата скіраваць з вуліцы.

Вось і Маскалёў двор — голы, неабгароджаны, засмечаны трэскамі і парыты свіннямі.

Увайшлі ў сені, сагнуўшыся ў тры пагібелі. Сват доўга шарыў па сцяне, пакуль знайшоў клямку. Яшчэ раз сагнуліся і апынуліся ў хаце. Было цёмна, толькі невялікімі квадратамі шарэлі тры акны.

— Добры вечар вам, ці рады вы нам,— гучна ад парога сказаў Пятрусь, яшчэ не ведаючы, ёсць хто ў хаце ці няма.

— Добры вечар,— пачуўся з печы ціхі жаночы голас, і там нехта заварушыўся.— Хто ж гэта прыйшоў? — занепакоена спыталася жанчына і спаўзла з печы.

— Го, маці, пара пазнаці,— загуў дзядзька Пятрусь і зрабіў некалькі крокаў да стала.— Мы тут хадзілі, брадзілі ды заблудзілі. Вось зайшлі запытацца, як дадому дабрацца. Палі лямпу, маці, годзе шараваць...

Так ён балабаніў, а Адась стаяў ззаду і не ведаў, што рабіць і што казаць. Старая Маскаліха павесіла дрот на бэльку, апусціла лямпу і стала чысціць шкло.

Сват тым часам ужо сеў за стол, паставіў паўлітра і гаварыў далей:

— Ой, маці, кінь чысціць. Золата і ў попеле блішчыць. Нас пазнаеш за вярсту. Мы людзі знакамітыя, не лыкам шытыя. Чулі бокам, хочам глянуць вокам— цялушка ў вас прадаецца ці мо дарам аддаецца, хто яго ведае? Вось і прыйшлі. Кішэня ў нас аж трашчыць. Так што нам дагодзіш — сабе не зашкодзіш. Але перш чым аб цане гаварыць, трэба чарвяка замарыць. Нясі капусту ды хлеба лусту — і з нас даволі.

Нарэшце старая запаліла лямпу, пастаяла, падкруціла кнот, пасля агледзела гасцей і, нічога не сказаўшы, выйшла з хаты.

— Вось бачыш, адразу клюе,— сказаў дзядзька Пятрусь да Адася.— Пабегла па кілбасы, да якіх я ласы.

Ён пагаварыў яшчэ хвілін колькі; у хату зайшла Гэля з дайніцаю ў руках, павіталася, не зірнуўшы на гасцей. Яна была ў доўгай матчынай спадніцы, босая, але зграбная, з выразнымі абрысамі грудзей і клубоў, здаровая і ўвішная. Незвычайны быў толькі яе твар: у ім было нешта нетутэйшае, нешта далікатна-гарадское — белая, матавая скура, тонкі, з маленькаю гарбінкаю, нервовы нос, поўныя вусны і надта жвавыя вялікія вочы. Валасы былі схаваны пад касынкаю, на белы прыгожы лоб выбіваліся дзве цёмныя закручаныя пасмы. Гледзячы на дзяўчыну, можна было падумаць: як магла вырасці гэтая прыгожая кветка на такім пустым, мізэрным полі?

Па Гэлі не было відаць, каб яе вельмі ўстрывожыў прыход нечаканых гасцей. Яна здавалася нават залішне спакойнай: не спяшаючыся, працадзіла малако, спаласнула цадзілку і павесіла над духам.

— Як гэта вы заблудзілі да нас, дзядзька Пятрусь? — Гэля нібы не заўважыла Адася, які ціха сядзеў на лаве між акон, і звярталася толькі да дзядзькі.— Я нават не памятаю, калі бачыла вас у нашай хаце.

Дзядзька Пятрусь, як здалося Адасю, на нейкі кароткі момант разгубіўся — так пранікліва і цёпла гля-

нула на яго Гэля сваімі глыбокімі вачыма — і не знайшоў, што адказаць, а збіўся на звычайную мову, якою гаварылі ўсе.

— Што ты, дачушка... Але, праўда, даўно. Гэта ж, здаецца, як ваш Хведар ішоў у прымы, а я за свата быў. Ты тады яшчэ, лічы, пад стол пешшу хадзіла... А цяпер як кветка дзеўка. За каго пойдзе — той шчасце знойдзе...

Урэшце дзядзька перасеў на свайго любімага канька і зноў стаў рыфмаваць.

Зайшла старая. Яна прынесла ў хату міску гуркоў з расолам, кавалак сала і сухой, цвілое зверху кілбасы — напэўна, заробленае, а не свае. Пасля ўзяла з палічкі хлеб і пачала кроіць на засланы стол і ўсё астатняе тонкімі і маленькімі кавалачкамі.

Дзядзька Пятрусь не любіў дарма марнаваць час — маўчаць. Калі прыйшоў да людзей, то трэба ж нешта казаць. Ён распытваў пра ўраджай, пра заробкі, але яго цікавіла не тое, што ўсіх людзей, а нешта такое, чаго другія не заўважылі. Ва ўсім, нават самым сур'ёзным, ён знаходзіў смешнае і паказваў яго ўсім — нібы певень, які знаходзіць адно зярнятка, дзівіцца на яго сам і склікае дзівіцца ўсю курыную сям'ю.

Маладая гаспадыня выбегла ў сенцы і хутка вярнулася ў хату, па-святочнаму апранеаная, без хусткі, з тоўстымі косамі на грудзях. Пудры яна, здаецца, не ўжывала, бровы былі натуральныя, не падведзеныя — чорныя, доўгія і крыху зашырокія для дзяўчыны.

Яна яшчэ ні разу не зірнула на Адася, хоць хлопец, як толькі зайшоў, стараўся злавіць яе позірк.

«Можа, яна саромеецца маткі?» — думаў сам сабе Адась. Але ж да гэтага яны не раз і не два сядзелі ў іх хаце, Гэля была гаваркая і ні на кога не зважала. Яна наогул не мела моды саромецца. Цяпер яна нешта таіла.

Можа, другому каму нічога не сказалі б яе вочы, а Адась бачыў у гэтым нейкі фальш.

Але Адась зноў аддаўся на волю гэтага балабона свата, на яго вопыт і спрыт у такіх справах, ведаў: не падвядзе.

А той ужо за другою чаркай, калі трохі ўсе павесялелі і сталі не такія асцярожныя, пачаў далікатна распытваць пра гаспадарку: што яны прыгадавалі ў

гэтым годзе, што думаюць збываць, а што набываць. Не прамінуў ён жартамі дазнацца, колькі зарабляе старэйшы нежанаты сын Волесь і колькі малодшы, селавы пастух Косця. Паволі стала высвятляцца, што Гэлі могуць даць толькі цялушачку — лічы, цяля, з зімы, і падсвінка на пудоў пяць або грашыма — сто злотых, не больш.

Усё гэта Адася зусім не цікавіла, але ён не хацеў перабіваць свата. Ён глядзеў, як неахвотна, нібы не сваім ротам, ела Гэля, увесь час пазіраючы ў стол або на дзядзьку Петруся, на яго потны бліскучы твар, на вялікую жаўтаватую лысіну.

Дзядзька непрыкметна для ўсіх перайшоў на другое: ён пачаў настаўляць маладых, як жыць, каб было добра ім самім, іх бацькам і ўсяму роду. У дзядзькі была на гэты конт свая філасофія, свой уласны погляд на рэчы.

— Не бойцеся беднасці, бо бедны любіць чалавека, а багаты — багацце. Нічога, што багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца. Па гэтым людзі жылі і жыць будуць. Я нямала пражыў, а нічога не нажыў. Як ёсць, так і добра. Бо дай табе хлеба — захочаш сала. Дай сала — усё адно будзе мала, захочаш гарэлкі...

Адась, які за ўвесь вечар не прамовіў і слова, гэты раз не вытрымаў.

— Добра ты гаворыш, дзядзька, няма чаго. Пад панскую дудку скачаш і хочаш, каб усе скакалі. Выходзіць, што бедны — будзь бедны, падыхай з голаду, рабі на пана і хвалі бога? Так ці не?

Дзядзька Пятрусь падняў угару пракураны палец, патрабуючы ўвагі.

— Не гарачыся, калі не хочаш апячыся. Раней і я не так думаў, а пастарэў — пасталеў, волас вылез — розуму пабольшала. Ты скажаш, што трэба змагацца, дабівацца. Чуў пра Мікодыма? Паехаў у Амерыку шчасця шукаць. Спачатку пісьмы пісаў, што знайшоў, за хвост трымае, чуць вярхом не сеў. А цяпер што заспяваў? Просіць братоў, каб выслалі грошай на дарогу дадому. Хоча на сваім котлішчы памерці. Ці вазьмі тых, што ў турмах сядзяць. Пакуль яны да бога, то чорт душу выме. Ты глянь на прыроду: рыба плавае, птушка лятае, чарвяк поўзае, чалавек ходзіць. Кожнаму сваё. Тады ўсё перайначыш, як свае вушы ўбачыш.

## III

Праз тыдзень пасля сватоў, у нядзелю, Адась вазіў пана Янкоўскага ў Клецак, а прыехаўшы, даведаўся ад служанкі Мусі, што Гэля вярнула яму гарэлку.

Адась, пачуўшы навіну, адчуў такую страшэнную абразу, такую велізарную злосць, што гатоў быў завыць на ўвесь свет ад болю і крыўды. Стала ясна, што пайшлі прахам усе яго мары аб сямейным шчасці, аб незалежным і людскім жыцці. І ўсё таму, што ён нешчаслівы, што ён бедны, што ён... Адась не знайшоў слоў, каб аформіць у думкі ўсе тыя пачуцці, якія пеніліся і бушавалі ў яго грудзях. Так, беднасць была самым вялікім злом у яго жыцці — перашкаджала яму стаць чалавекам, каменнай сцяной устала на дарозе да шчасця... Але і яго каханая... Каханая... Не, з гэтага моманту яна стала ўжо яго ворагам.

І страшная думка прыйшла ў яго галаву...

Пачынала вечарэць. Трэба было ўхадзіцца — ужо для формы, каб не выклікаць падазрэння. Адась усыпаў коням аброку, ачысціў ад гразі і ўкаціў у адрыну брычку, павесіў збрую. Пасля пайшоў у свой пакойчык, старанна пагаліўся, наліў у ночвы халоднай вады і памыўся да пояса, надзеў белую сарочку, новы гарнітур, хромавыя, толькі некалькі разоў абуваныя боты і стаў падобны на маладога шляхцюка, які сабраўся да касцёла. З твару ён быў бы нават прыгожы, каб не звераваты позірк вачэй, сціснутыя вусны і насупленыя бровы, хоць гэта ўсё мала стасавалася да яго круглявага твару і невялікім, чуць кірпатым носам.

Цяпер заставалася галоўнае: прабрацца ў панскую спальню і ўкрасці рэвальвер.

Паноў дома няма, яны з дачкою-гімназісткай пайшлі да суседкі, старой пані Квяткоўскай, якая жыла адзінока і любіла прымаць гасцей. Парабкі таксама паразыходзіліся або заваліліся спаць. Знайсці ключ ад панскае спальні цяпер было цяжка, а турбаваць служанку Мусю ён не хацеў. Яна і так часта заглядаецца на яго і без патрэбы лезе з усялякімі сваімі дробязямі. Нешта трэба было прыдумаць.

Адась падышоў да акна, стаў, задумаўся. На падаконніку стаяла пляшка гарэлкі, якузю вярнула Гэля. Ага! Адась стукнуў сабе кулаком у лоб. Раней ён ні-

колі не піў адзін, а цяпер пацягнула выпіць. Кароткім моцным ударам у дно бутэлькі ён выбіў корак і наліў сабе палову вялікай конаўкі.

Піў цераз сілу, ведаў, што трэба, будзе смялейшы. Тое, на што ён рашыўся, патрабавала смеласці.

Праз паўгадзіны, калі лепш сцямнела, Адась долатам адагнуў цвікі ў раме панскае спальні і дастаў акно. Абліваючыся потам, улез усярэдзіну, дабраўся да шафы, выцягнуў шуфляду і доўга капаўся, пакуль знайшоў рэвальвер. Ён быў у кабуры, Адась дастаў рэвальвер, а кабур зноў палажыў на месца: гэтая штука яму не патрэбна.

Уставіўшы на месца раму, Адась пайшоў на вячоркі. Танцы якраз зрабілі не ў сяле, а на хутары, прыйшлося яшчэ памясіць трохі гразі. Ён ішоў, і кішэню яму адцягваў цяжкі рэвальвер. Хмель патроху прахадзіў.

Танцы былі ў разгары. Дружны стукат ног заглушыў усю музыку — танцавалі як хто мог. Дзверы ў хаце былі насцеж адчынены, пад нагамі таўкліся хлапчукі. У цёмных кутках туліліся парачкі. Стаўшы на пальчыкі і выцягнуўшы шыі, сям-там маткі выглядалі сваіх дачок.

Адась таксама абвёў усіх вачыма, але каго ён шукаў, таго не было. Гэля, відаць, пабаялася прыйсці на танцы, каб не спаткацца з Адасем.

Хлопец пакруціўся яшчэ трохі, няясна спадзеючыся, што Гэля дзе-небудзь стаіць ці яшчэ прыйдзе. І чамусьці захацелася хутчэй пайсці адсюль, каб Гэля не наскочыла на яго. Ён ведаў, што пад гарачую руку можа стрэліць, але сэрца хацела, каб сёння гэтага не было. І ён памалу падаўся [illegible] хаты на двор, ды ў парозе нос у нос сутыкнуўся са сваім сватам.

— А-а-а, Адам, першы чалавек,— зацягнуў сват і абхапіў Адася за плечы.— А дзе ж твая Ева?

— Ідзі к чорту, дзядзька,— буркнуў Адась і хацеў абмінуць свата.

— Пастой,— ён учапіўся за Адася.— Ты сярдуеш? За што, за якое? Як той казаў, хіба хто вінаваты, што ён дураваты? Так і я — хацеў долю, выйшла нядоля. Але і гэта паўбяды — абы не няволя. Не гаруй: кінула — і добра. Лепш цяпер, чым у чацвер. Туды ёй і дарога, раз не баіцца ні людзей, ні бога...

Сват яшчэ доўга супакойваў бы Адася, але хлопец узяў яго загрудкі і сапхнуў з дарогі.

— Не лезь, дзядзька. Цяпер я сам ужо разбяруся. Дзякую і за тое.

І Адась падаўся дадому — у свой бярлог, каб яшчэ раз абдумаць усё ад пачатку да канца. Але думаць яму не хацелася. Схаваўшы рэвальвер у бот, Адась распрануўся і лёг у пасцель.

Прачнуўся ён ад таго, што хацелася піць. Было яшчэ рана. Адась напіўся і лёг, аднак заснуць не ўдалося. Ён пачаў думаць, і чым больш думаў, тым рабілася страшней. Уяўленне малявала яму жудасны малюнак. Гэля нежывая, кроў... А што будуць рабіць яе маці, браты, што скажуць людзі? І што тады застанецца рабіць самому Адасю? Не, лепш ужо куля... Даравацъ Гэлі ў яго не было сілы. Яна зламала сваю клятву. Яна не лічыць яго за чалавека...

Урэшце Адась кінуў думаць. Калі будзеш многа думаць, нічога не зробіш! К чорту! Ён устаў, апрануўся і яшчэ раз праверыў рэвальвер: дастаў патроны, пачаў націскаць на спуск. Самаўзвод працаваў бездакорна. Уставіўшы назад патроны, Адась спусціў курок у пустую ячэйку барабана і паклаў наган у кішэню. Потым выйшаў на двор. Пачынала світаць. У пакоях гарэла святло. Пан Янкоўскі ўставаў рана і не любіў, каб парабкі спалі больш за яго. «Сёння я табе больш не слуга»,— зларадна падумаў Адась і пайшоў за гумно, а там — садам на паплавы, кіруючы да Маскалёвых.

Гэлю ў хаце ён застаў адну. Яна падпальвала ў печы. Адась, здушаны страшэнным хваляваннем, прайшоў да стала і змрочна сеў на лаву. Ногі ў каленях у яго падрыгвалі, а рука на рубчастай рукаятцы рэвальвера стала мокрая ад поту. Твар у яго быў суровы, таксама потны, і Гэля, глянуўшы на Адася, адразу сумелася. Гэтай парою ён яшчэ ніколі не прыходзіў да іх.

Адась не ведаў, з чаго пачынаць: з гарэлкі ці з самага галоўнага.

— Я ўчора шукаў цябе,— глуха сказаў Адась і замоўк.

— Навошта я табе здалася? — спыталася Гэля як мага мякчэй і адвяла вочы ад Адася.

— Навошта? Паглядзець на цябе...— Злосць пачынала прарывацца ў Адася, і ён рад быў, што яна прыходзіць на змену нікчэмнаму і недарэчнаму хваляванню.— Апошні раз! — Адась задыхнуўся, ускочыў з лавы і спыніўся пасярод хаты, уклаўшы рукі ў кішэні шырокага галіфэ.

— А куды ж ты збіраешся? — наіўна, як дзіця, спытала Гэля, не звярнуўшы ўвагі на яго ваяўнічую позу і злосць у голасе.

— На той свет,— груба адказаў Адась.— Але не думай, што я пайду туды адзін... Мы пойдзем разам. Як пад вянец, чуеш? — І ён ступіў два крокі да яе.— Ты першая, а я за табою...

— Што ты гаворыш, Адась? — Гэля толькі цяпер зразумела, што Адась не жартуе, і спалохалася.— Перахрысціся...

— Я не грэшны, мне няма чаго хрысціцца. А вось ты саграшыла. Ты зламала сваю клятву. І ты будзеш адказваць за гэта: спачатку перада мною, а пасля — перад богам.

Гэлін твар пабялеў, вочы акругліліся і са страхам утаропіліся ў Адася. Яна бездапаможна азірнулася на дзверы, нібы чакаючы дапамогі, але нікога, як на бяду, не было, а Адась, сціснуўшы зубы, набліжаўся. Гэля вось-вось чакала, што ён вытне яе па шчацэ, але Адась раптам усміхнуўся і ўзяў дзяўчыну за руку.

— Чаго ты спалохалася?

Гэля апусціла вочы, і на сэрцы ў яе адлягло. Яна зразумела Адасёву ўсмешку як адступленне, як патолю і нават прымірэнне. А Адась прытуліў яе да сябе, гладзіў яе косы і гаварыў:

— Эх, Гэля! Хто цябе замарозіў, што ты такая халодная са мною, чужая і незнаёмая? Ты гоніш мяне, не хочаш бачыць, не хочаш разумець, што робіцца ў мяне ўсярэдзіне. Ты адсякаеш апошнюю жылу, якою я звязаны з жыццём. Падумай, Гэля... І яшчэ... Хай ты не шкадуеш мяне, але ж сябе ты таксама загубіш. Ты думаеш, што так проста стаць багатым? Для гэтага трэба прадаваць свой гонар, гандляваць сумленнем, ашукваць людзей. Ты чыстая, як пралеска, як першы снег, і ты дазволіш нейкаму грубаму шляхцюку, які толькі ведае, што ён багаты,— дазволіш яму песціць вось гэтае цела, цалаваць твае вусны? Не, калі ты і да-

зволіш, то я не магу... Чуеш, Гэля, яшчэ не позна... Я дарую табе тую гарэлку, чорт з ёю, мне напляваць на ўсякія забабоны. Выходзь за мяне замуж, праз тыдзень зробім вяселле і будзем жыць. Стане ўжо вельмі кепска — кінем усё, паедзем у Амерыку, абы толькі разам, абы ты была маёю і любіла мяне. Чуеш, Гэля? Скажы што-небудзь, чаго ты маўчыш?

— Мне няма чаго казаць, Адась, нам не суджана жыць разам,— сумна азвалася Гэля,— хоць я люблю цябе і доўга яшчэ буду любіць. Мы бедныя, мы жабракі, і я не хачу, каб і нашы дзеці век пражылі жабракамі. Яны будуць праклінаць нас, бо толькі па нашай волі яны пойдуць на свет і ўсё жыццё будуць нешчаслівыя... Пусці, Адась, трэба паставіць чыгун у печ.

Гэля захацела вызваліцца з Адасёвых рук, але ён абхапіў яе за плечы, моцна прыпаў да яе вуснаў, цалаваў і шаптаў:

— Гэля, залатая мая, адзіная... Адумайся, не губі жыцця... мне і сабе...

Гэля раптам адштурхнула яго ад сябе, ён стукнуўся аб вушак ля качарэжніка і застыў на момант, задыханы, потны, страшны.

— Ах ты...

Адась выхапіў рэвальвер. Гэля ўскрыкнула і пачала адступаць да стала, трымаючы перад сабою рукі і нібы спрабуючы засланіцца.

— Што ты робіш?! — закрычала Гэля.— Што ты робіш? Мам...

Грымнуў стрэл. Гэля хапіла ротам паветра, прытуліла рукі да грудзей і бязвольна, з усяго маху, упала назад.

Адась ступіў да яе, праз дым і слёзы ўбачыў спакойны, белы твар дзяўчыны, хацеў крыкнуць, падхапіць яе на рукі, ратаваць, але, акамянелы, нічога не мог зрабіць, толькі пазіраў на Гэлю, якая ляжала перад ім як у сне — з заплюшчанымі вачыма, з раскінутымі доўгімі косамі ля галавы, са складзенымі на грудзях рукамі.

Гэта было ўсё. Адась, адкінуўшы назад галаву, застагнаў, нібы яму самому ўсадзіў хто пад сэрца нож.

Нічога не бачачы перад сабою, ён павярнуў рэвальвер на сябе, уставіў вялікі палец у спускавую дужку і націснуў. Магутны ўдар у грудзі адарваў яго ад зям-

лі. Адась пераступіў нагамі, хацеў утрымацца, але захістаўся і рухнуў на зямлю...

Так і знайшлі іх людзі дваіх у хаце: яна ля стала, ён ля парога, яна гаспадыня, ён прышэлец. Яна ціхая, белая з твару, толькі ў лужыне крыві; ён увесь сіні, як тапелец, страшны, з галавою, схаванаю пад услончык, нібы знарок далей ад людскога вока. Іх ногі амаль што датыкаліся. Пасярод хаты валяўся чорны наган.

Яшчэ і сёння на могілках у Дабрынічах стаіць помнік, які родныя паставілі Гэлі. На ім напісана, што тут пахавана Алена Двароўская, ад роду 21 год, забітая 1 лістапада 1936 года.

Магілы ж Адася Вайцяхоўскага няма. І дзе яго пахавалі — невядома. Рэлігійны закон не дазваляў хаваць самагубцаў разам з усімі людзьмі.

*1961 г.*

# ЯМЫ НА ДАРОЗЕ

— Куды табе, старому бугаю, ісці на тую музыку? У цябе ж дзеці плачуць. Во, палюбуйся, трое, адно пад адным,— сказала сярдзіта Лявоніха, чарнявая, яшчэ статная, гадоў пад трыццаць кабета, прыбіраючы са стала пасудак пасля вячэры.

— Ат, не прыставай. Я доўга не буду, толькі пабачу аднаго чалавека і вярнуся,— супакоіў яе Лявон, прысадзісты, шырокі ў плячах карантыш, ужо з сівізной у валасах і вялікімі залысінамі над шырокім белым ілбом. Ён пачаў скручваць цыгарку, знарок хаваючы вочы ад жончынага праніклівага позірку.

— Ой, калі я чула ад цябе тую праўду? Толькі так і выкручваешся... Ідзі ўжо, ідзі, толькі не вісі там, як цюцька на вяселлі, не тыя гады. Ды не садзі носа, куды не трэба, а то...

Ён, не даслухаўшы да канца, выйшаў з хаты, на хаду нацягваючы шапку. Жонка гаварыла праўду, і ён нічуць не крыўдаваў. Гадоў з дзесяць назад не было ў сяле больш памаўзлівага ката, як ён, Лявонка, Ігнатаў сын, не было большага забіякі і завадатара, чым ён, Лявонка, Ігнатаў сын. Так цягнулася гадоў колькі, пакуль Лявонаў малодшы брат Аляксандар не «заразіў» яго палітыкай, паставіўшы дома радыё, якое, як магнітам, стала цягнуць да сябе вясковую моладзь.

Характарам малодшы брат быў зусім непадобны да Лявона. Аляксандра лічылі кніжнікам, чалавекам вучоным, хаця і не ўдалося яму дасягнуць высокае навукі. Калі закрылі Клецкую беларускую гімназію, ён нікуды больш не захацеў ісці вучыцца, хоць сябры і раілі яму ехаць у Вільню. Ён пашкадаваў бацьку, скупога, але працавітага і сумленнага чалавека. Той стагнаў увесь час, што трэба памагаць яму, а ці будзе тая карысць з навукі — хто яго ведае. Паны не даюць

мужыку-беларусу ніякае разгарносці, хіба толькі перахрысціўшыся ў каталікі. А гэтага ён, хоць і чалавек цёмны, дапусціць не мог, сваю веру ён паважаў цвёрда.

Малодшы сын рашыў застацца дома і памагаць брату на гаспадарцы, бо старэйшы не глядзеў яе зусім, усё зваліў на старога бацьку, а сам піў, гуляў, біўся на кожных вечарынках ці вяселлі, прыставаў да дзяўчат. Яго баяліся і не паважалі, але ў вочы ніхто нічога не асмельваўся сказаць. «Жаніць трэба сукінага сына,— крычаў не раз бацька.— Дзеці абсядуць, жонка, будзе не да гуляў». Але і жанаты, ён не адразу рассстаўся са сваімі звычкамі, «зрываўся» з сямейнага ланцуга — сяды-тады прыходзіў на вечарынкі і паказваў свой буйны нораў.

Трохі перамяніўся ён тады, калі звязаўся з палітыкай, стаў слухаць радыё, пачаў чытаць братавы кнігі, асабліва тыя, што прыходзілі з Усходу. Непрыкметна для сябе Лявон стаў заўзятым «чырвоным», да люта ўзненавідзеў паноў і іх прыслужнікаў — асаднікаў, усякіх канфідэнтаў-даносчыкаў. Давялося яму зведаць і панскіх гумовых палак у дэфензіве. Ён і яшчэ некалькі хлопцаў на вяселлі збілі ледзь не да смерці канфідэнта Кухарчыка, актыўнага памагата паліцыі. Лявону далі год турмы.

У той час вёска была як разараная плугам на дзве палавіны — на «чырвоных» і «белых». Набраліся моцы простыя людзі... Але і паны такса не драмалі. Лепшыя з лепшых, самыя стойкія і небяспечныя для рэжыму хлопцы сядзелі ў турме, другія, ратуючыся ад здзекаў дэфензівы, пайшлі за мяжу. Сярод апошніх быў і малодшы Лявонаў брат Аляксандар...

Пасля турмы Лявон пасталеў, адышоў ад палітыкі: дзеці, жонка, бацькі, клопаты за ўсю гаспадарку не давалі яму часу разысціся, ды і гады бралі сваё — пераваліла за трыццаць. Але сяды-тады хацелася яшчэ паглядзець, як весяліцца моладзь, а калі што — то і стукнуць па карку якому-небудзь шляхцюку ці панскаму падбрэхічу.

Не спяшаючыся, паволі ішоў ён па вузкіх селавых дарожках, па сцежках, па межах, што дзялілі хутар ад хутара,— ішоў да дзядзькі Перца, у якога ў святы збіралася моладзь амаль з усяе вёскі. Прыязджалі сюды і з суседніх — Яцкаўшчыны, Зарытава, Арды,

У Перца было ажно пяцёра дзяўчат, адна пад другой, і ўсе прыгожыя, галасістыя, добрыя танцоркі. Не хапала толькі пасагу, а так можна было б спраўляць вяселле за вяселлем.

Лявон мінуў ужо некалькі хутароў — адны былі багатыя, з добрымі хатамі, прасторнымі гумнамі, з вялікімі садамі, другія бедныя, трэція так сабе. А гэты хутар, што быў наперадзе, вылучаўся сярод усіх. Прасторная хата крыта бляхаю, вялізнае гумно, хлявы, свіронак. На прывязі забрахаў сабака, нехта выйшоў на ганак. Але Лявон нават не азірнуўся. Тут жыў яго стары вораг Кухарчык Юзік, з-за якога ён адседзеў год у турме. Здаецца, каб цяпер дзе сустрэў яго на вузкай дарожцы, то не ўтрымаўся б, каб не загрэць у вуха.

І Лявон рэзка сekануў паветра рукою, нібы сапраўды перад ім быў Юзік Кухарчык. Але рука толькі прыгнула да зямлі сцяблы яшчэ зялёнай пшаніцы, што расла паабапал сцежкі. Пшаніца таксама належала Юзіку і, трэба сказаць, урадзіла добра — высокая, як жыта, радкавая, з буйным бязвусым коласам — азімка. Лявон сарваў колас, пацёр у грубых, цвёрдых далонях, але зярняты яшчэ былі мяккія, расціраліся на клей.

Нізка над зямлёй усплыў месяц — круглы, вялікі, нязвыкла чырвоны. Было ціха-ціха, толькі стракаталі конікі ды ў лужку ля Круглай крумкалі жабы. Пад нагамі на траве ўжо ляжала раса — боты сталі вільготныя і бліскучыя ад вады. З-пад ног у Лявона выскачыла перапёлка, ён аж здрыгануўся ад нечаканасці, пасля плюнуў і ўсміхнуўся сам сабе.

На прасторным двары ў Перца нават поначы відаць быў рух, чуліся гоман, смех, гукі песні. Дзяўчаты, сабраўшыся колам, спявалі «Люблю мой край, старонку гэту...». Як заўсёды, над усімі галасамі ўзлятаў голас старэйшае Перцавай дачкі Зіны, звінеў як струна.

Лявон паслухаў трохі, агледзеў людзей — ці няма каго з былых сяброў, але не знайшоў нікога і паволі падаўся ў сені. Дзверы ў хату былі адчынены насцеж, на кухні гарэла лямпа, а за сталом сядзелі хлопцы і частавалі музы́каў. І кампанія тут сабралася такая, што толькі плячыма пацісне́ш: зялёная моладзь, жанатыя мужчыны ў яго гадах, вусаты Перац, гаспадар хаты; але што самае дзіўнае — за сталом сядзелі два

браты Грыбкі: Мацей і Васіль. Трэцяга, Мішкі, нештанейкае не было...

Лявон хацеў пайсці назад, але яго паспелі заўважыць, адзін з хлопцаў выскачыў з-за стала і пацягнуў за руку. Лявон не стаў вырывацца.

— Садзіся з намі, чаго там? Вып'ем па чарцы. На тое і свята.

Мужчыны загулі, загаманілі.

— Давай, давай, нешта ты на старасць робішся сарамяжлівы.

— І жонкі не бойся, яна не ўбачыць!

— А Лявоніху Лявон неўзлюбіў, на плячах у яе палку пабіў...

Усе ўжо былі вясёлыя, скалілі зубы і сыпалі жартамі, як гарохам.

Лявон нехаця сеў на лаву, яму адразу налілі чарку.

— Будзь здароў, Лабажэвіч,— Лявон пусціў чарку да свайго суседа, сухога, як выванджанага, Лабажэвіча. Тут жа сядзеў і Лявонаў швагер Міхась Турак, чарнявы з вусікамі, таксама колішні «палітык» і неспакойны чалавек, ад якога было нямала клопату паліцыі.

Лявон сёрбаў мачанку з вялікае глінянае місы і не зводзіў вачэй з Грыбкоў, якія сядзелі на другі бок стала. Хлопцы гэтыя былі з беднай сям'і, раслі без бацькі, парабкавалі, а падросшы, запісаліся ў «стральцы», знюхаліся з паліцыяй. А да ўсяго — яны яшчэ былі зладзеі і задзіракі, звязвацца з імі ніхто не любіў, бо дабра ад іх не чакай. Усе ведалі, што яны кралі, але ўсе іх баяліся, бо вельмі многае ім сыходзіла з рук. Нават калі хто і лавіў іх на месцы злачынства, баяўся разяўляць рот. Панібрацтва з паліцыяй рабіла іх да нагласці смелымі, яны маглі прычапіцца да чалавека без прычыны, і больш да тых, хто ў паліцыі быў на ўліку як ненадзейны, камуніст ці проста патэнцыяльны «выўратовец».

Лявону стала не па сабе — раней яму ніколі не даводзілася сядзець за сталом у такой кампаніі. А тут — на́ табе, нос у нос...

Чарка абышла стол і вярнулася да яго другі раз. Ён наліў сабе толькі на дно і паставіў пляшку на стол.

— Што ты, Лявон, як малы! Налівай поўную. Гарэлка дармовая! — падахвоціў яго Мацей. Ён быў зве-

раваты, з сухім аскетычным тварам, усміхаўся, выскаляючы вялікія і роўныя зубы.

Лявону зрабілася няёмка, нібы ён сам напрасіўся на дармовую гарэлку. Ён амаль злосна, не гледзячы ні на каго, сказаў:

— Я да дармовага не прывык. Колькі трэба, столькі і заплачу.

Мацей зрабіў выгляд, што шкадуе сказаных слоў, і захацеў улагодзіць Лявона:

— Ты не крыўдуй, я сказаў так, не падумаўшы. Сёння я частую.

— Не хачу, каб мяне частавалі. Я не жабрак, і не гультай, і не... злодзей які. Вось мае два злоты. Бяры. Тады я п'ю поўную.— Той чорт, які апошнія гады троху паспеў прыціхнуць у ім, раптам прачнуўся, яшчэ, здаецца, болей безразважны і гарачы. Мацей пабялеў, яшчэ болей выцягнуўся яго худы, касцісты твар з вялікім і закругленым, як лязо сякеры, носам.

— Хлопцы, вы чуеце? Чаго ён разышоўся? Я ж яго не хацеў пакрыўдзіць,— сказаў Мацей гучна і абвёў усіх вялікімі вачыма.— Хай забярэ свае задрыпаныя два злоты і ідзе да д'ябла, калі такі ганарысты. Праўду я кажу?

Была такая хвіліна, што ніхто не ведаў, за каго цягнуць — за Грыбкоў ці за Лявона. І тыя сіла, і гэты таксама можа сябе паказаць, хай толькі разыдзецца.

— Хай сядзіць, чаго ты,— заступіўся за Лявона сярэдні, Васіль, трохі ніжэйшы за Мацея, але затое шырэйшы ў плячах, з больш грубым тварам і галавою як ляжачы гурок: выдаваўся такі ж, як і ў старэйшага, нос і тырчала ззаду, як абух, патыліца.— Хоча плаціць — хай плаціць, не хоча — не трэба.

Лявон шпурнуў на стол два злоты і ўзняўся. «Падавіся ты імі, сабака панскі,— лаяўся ў думках Лявон.— І прыгнала іх сёння нячыста сіла. Пачулі моц... Ды што? Усё сяло паны за краты пасадзілі, толькі ім цяпер і раскашацца, страшыць дзяцей ды баб...»

На двары здалося вельмі цёмна, але хутка вочы асвойталіся. Месяц яшчэ свяціў усё такі ж вялізны і медна-чырвоны, але вісеў нізка, вось-вось збіраўся закаціцца. Народу сабралася яшчэ болей, асабліва хлопцаў і малых, па гадоў дзесяць — пятнаццаць, падлеткаў. Адкуль іх гэтулькі? Растуць, як грыбы пад

9 Зак. 3125

даждом. Не паспеюць паны будаваць астрогі... Лявон закурыў, зацягнуўся дымам. Адразу стала лягчэй на сэрцы.

— Здароў, братка, дай закурыць.

Да яго падышоў высокі, сутулы і крываногі Уладзік Савашоў, худы, аброслы, гадоў пад сорак мужчына, які любіў схадзіць на вечарынку, асабліва туды, дзе пахла гарэлкай. Калісьці ён таксама марыў пра новае жыццё, якое прыйдзе праз мяжу з усходу, але адразу пашыўся ў кусты, ледзь толькі гумовая палка паліцыянта кранулася яго спіны.

Лявон насыпаў яму ў паперку шчэпаць тытуню, схаваў у кішэню капшук.

— Нешта ты сёння кіслы,— заўважыў Уладзік.— Няўжо нідзе не давялося панюхаць корка? І ні адна кума не падміргнула? Не гаруй, Лявон. Усё будзе наша,— бубніў Уладзік, скручваючы цыгарку.

— Як хочаш панюхаць, то вунь у хаце нюхаюць. Можаш ісці.

— Хто? — ажывіўся Уладзік і пацягнуў носам.

— Грыбкі разбагацелі...

— Хай яны атруты нап'юцца, гады,— плюнуў Уладзік і павярнуўся да акна, праз якое відаць былі за сталом мужчыны. Галасоў не было чуваць, толькі ўзмахі рук і рэзкія жэсты гаварылі за тое, што людзі спрачаюцца.

Уладзік пастаяў трохі, папыхкаў папяросай і сказаў:

— Пайду вады нап'юся, нешта сёння мяне смажыць.

Лявон толькі пагардліва хмыкнуў. Не паспеў ён дакурыць папяросы, як з хаты выйшлі музыкі, несучы свой інструмент.

Пасля добрай вячэры музыканты павесялелі, ажывіліся. Ударылі вальс, пасля абэрак. Параў набралася многа, кола было шырокае, на палову двара.

Нават дзеці не хацелі саступіць старэйшым: утварылі сваё кола, далей ад моладзі, і таўкліся, як камары. Яшчэ ў іх нічога не выходзіла, але ж і ўсе з таго пачыналі — мала-памалу навучацца і яны. І хоць старэйшыя не любяць, каб гэта драбяза трапляла ім пад ногі, пройдзе якіх пяць гадкоў, як яны ўжо будуць тут гаспадарамі — будуць наймаць музыкаў, піць гарэл-

ку, танцаваць, цалавацца па завуголлі. На тое яно і жыццё, што старэйшы, як ні круці, павінен даць дарогу малодшаму. Нават ужо цяпер яны тут былі больш да месца, чым ён, жанаты, бацька траіх дзяцей.

Патроху Лявона стаў апаноўваць сум, і мо не так сум, як злосць, што вось ён ужо не той Лявон, якога ўсе баяліся, якому ніхто ніколі не сказаў упоперак слова. Вось выходзяць наперад такія Грыбкі, якіх ніхто ніколі не лічыў за людзей. Але што? Дзе няма людзей, там будуць нелюдзі. Людзі — лепшыя хлопцы, прыгожыя, смелыя, разумныя хлопцы — цяпер у турмах або за мяжою, многія ў пошуках працы і кавалка хлеба едуць і ідуць далёка ад сваіх родных мясцін.

Яго думкі перарваў вясёлы смех і крыкі. Высокі кучаравы шляхцюк Малахоўскі ў добрым гарнітуры і ў наглянцаваных да бляску хромавых ботах паліваў вадою пляцоўку, на якой танцавалі,— лета было сухое, зямля даўно прасіла вады. Хлопец ліў з конаўкі понізу, як рассяваў, буйныя пырскі каціліся дзяўчатам на голыя лыткі, і дзяўчаты з піскам кідаліся далей ад жартаўніка. І тут Мацей, які ўжо таксама выйшаў з хаты, схапіў з рук хлопца вядро і бухнуў яго ў той бок, дзе стаяў Лявон. Вада заліла яму ўсе ногі. Мацей гучна зарагатаў і кінуў вядро на траву, пад яблыню.

Лявон спачатку хацеў схапіць гэтае вядро ды стукнуць таму па галаве, але чамусьці стрымаўся — можна было апраўдацца, што ў Мацея выйшла незнарок. Але якое там незнарок? Адразу відаць, што чапляецца. Лявон не баяўся таго, што яны могуць распачаць тут бойку і што будзе потым, але рупіла сям'я: жонка, дзеці, бацькі. Брыдка будзе глянуць ім у вочы. Стары падла, як кажа жонка, а ўлез у кашу, звязаўся з гэтымі зладзеямі!

Але Лявон нават не глянуў у той бок, куды падаўся Мацей. Той ужо, відаць, добра падпіў, бо стаў вясёлы, задзірысты, гаваркі: так і шукаў, да каго прычапіцца. Галава шукала гуза. Цяпер у Лявона з'явілася ў душы нядобрае пачуццё: ісці ці не ісці дадому? Ісці — усе расцэняць як баязлівасць, а гэтага ён баяўся горш за ўсё. Не ісці — дабра не чакай, гэта ён ужо адчуваў.

9*

«Э, хай будзе тое, што павінна быць! Яшчэ з гадзіну патырчу тут, і трэба брацца дадому. Усё роўна вечар прапаў, нават выпіць па-людску не ўдалося».

Тут да яго падышла жанчына, якую ён добра — яшчэ як добра! — ведаў: Кастусёва Параска. Яна была ў адных гадах з ім, але лёгкая цемната летняй ночы не магла схаваць яе прыгажосці, хоць і трохі прывялай, трошкі змятай цяжкім жыццём. Такая, яна здавалася яму яшчэ прыгажэйшай: цёмныя вялікія вочы з глыбокімі ценямі, прыпухлыя вусны з ледзь прыкметнай авальнай маршчынай вакол рота, ямкі на шчоках, востры, чуць прыўзняты нос — усё ў яе было на месцы. Нават стан, нават грудзі, хоць яна мела ўжо двое дзяцей, былі ў яе як дзявочыя. Цяпер яна жыла без мужа: яго засудзілі паны на восем год за палітыку. Тры гады яна ўжо адна... Калісьці, даўно, ён заляцаўся да прыгожай весялушкі Парасці Савош, але яна была надта ўжо непрыступная, як святая, а ён не любіў такіх дзяўчат. Ды і пасаг у яе быў малы, як ні кажы...

— А-а-а! Параска! — дзівіўся Лявон, і нешта незразумелае, падобнае на даўнішні, забыты боль, варухнуўся ў яго сэрцы.— Як ты тут апынулася?

— Відаць, так, як і ты,— выпадкам.

Голас яе быў такі знаёмы, такі прыемны, такі блізкі, што, здаецца, маладосцю, свежасцю, навізной даўно забытага хлынула на Лявона.

— Як гэта выпадкам? — У горле ў яго стала суха.

— От, хадзіла ў Яцкаўшчыну, думала пазычыць грошай...

— І пазычыла? — спытаў ён незвычайна спагадліва для свае натуры.

— Дзе там... Свайго не меўшы, кладзіся спаць не еўшы.— Яна ўздыхнула, але нейк лёгка, з чуць прыкметнай тугою.

— А навошта табе грошы?

— Хацела Кастусю паслаць пасылку... Даўно не высылала.

— Ведаеш што? Я табе пазычу, толькі не сёння. На гэтым тыдні ў мяне будуць грошы.

— А жонка што скажа?

— Жонка? Хіба я не гаспадар у сваёй хаце? Ды калі на тое пайшло, то яна і ведаць не будзе.

— Не, лепш не трэба, Лявонка. Мо табе самому патрэбны, а ты будзеш раскідацца. Як-небудзь выкручуся.

— Перастань! Я вось сёння два злоты на вецер пусціў. Каб ведаў, што цябе ўбачу, не траціў бы.

— То дзякуй табе, Лявонка,— сказала жанчына і непрыкметна рогам хусткі змахнула няпрошаную слязу.

— Што ты! Хай бы хоць калі зайшла да нас, мо і праўда часам што пільнае трэба. Заходзь, не саромейся,— ужо сур'ёзна гаварыў Лявон, не спускаючы вачэй з яе твару.— А грошы я табе сам прынясу. Добра? Злотых пяць хопіць?

— Хопіць. Толькі калі я табе іх аддам? — Яна апусціла галаву.— Мо хіба пасля лета, як пшаніцы намалоцім ды прадамо.

— Не турбуйся. Можаш і зусім не аддаваць...

— Як гэта зусім?

— Не прыкідвайся дурніцай.— У яго голасе не было і ценю няёмкасці, нібы ён гаварыў аб простых, звычайных рэчах.— За пару гарачых пацалункаў.

Жанчына, здаецца, толькі цяпер зразумела.

— Эх, Лявон, Лявон! А я думала, што ты пераменіўся. А ты застаўся, як быў,— сказала яна з сумам, але без злосці, толькі з лёгкім дакорам.

Лявон, аднак, не збіраўся каяцца за свае словы.

— І я думаў, што ты перамянілася, ажно засталася такая, як і была,— недатыка. Каму гэта трэба? Думаеш, Кастусю? Усё роўна ён не паверыць...

— Як ты можаш, Лявон, так пра яго думаць? — Яна стала суровая і сярдзітая.— Я ведаю яго лепш, як ты... Бывай! — І яна памкнулася ісці.

— Пастой! — Лявон ухапіў яе за руку.— Я пажартаваў, Параска. Чэснае слова. Не крыўдуй. Больш не буду, вось пабачыш.— Цяпер ён гатоў быў адкусіць сабе язык ад злосці, што так ляпнуў, не падумаўшы.

Параска вырвала руку.

— Адстань! — І яна растала ў натоўпе.

— Вось гэта баба! — сам сабе прашаптаў Лявон і хацеў ужо ісці — абы-куды, каб толькі не тырчаць тут, як раптам у хаце пачуўся крык.

Крык быў мужчынскі, але роспачны, праз плач. Крык не спалохаў Лявона, ён проста прагучаў баявым

клічам — пачалося. Але... мо не варта лезці д'яблу ў зубы? Сям'я, дзеці... Аднак што сказала б Параска, каб стаяла вось тут, побач? Ого, яна сказала б — ідзі! Няважна, вернешся ты адтуль ці не. Ох і баба!

Гэтыя думкі-сумненні маланкай прамільгнулі ў яго галаве, і ён кінуўся ў хату, забываючы аб тым, што ў яго нічога няма ў руках.

Яшчэ з парога ён убачыў, як пасярод кухні ляжаў Савашоў Уладзік. На ім сядзеў Грыбкоў Васіль, прыціснуўшы каленямі рукі, а малодшы Грыбок, Мішка, яшчэ зусім малады хлопец — гадоў васемнаццаць, не больш, тонкі і, напэўна, слабы — здзёр у беднага Уладзіка штаны, а Мацей, які стаяў тут жа, бухнуў Уладзіку на голы жывот конаўку вады. Уладзік заціх, і ўсе падумалі, што ён сканаў ад страху. Васіль устаў, адпусціў яму рукі. Уладзік плакаў — ціха, бязгучна, кусаючы губы ад бяссільнае злосці. Пасля стаў на калені, падцягнуў штаны і паволі падняўся. На яго балюча было глядзець: гэтулькі абразы і крыўды было ў яго твары, што ўсе, хто глядзеў на яго ў тую хвіліну, адчувалі, нібы гэта іх саміх выставілі на пасмешышча. Адны Грыбкі ды яшчэ некалькі іх прыхвасняў заходзіліся ад рогату.

— Што вы здзекуецеся з чалавека, нелюдзі?! — не сваім ад хвалявання голасам крыкнуў Лявон і схапіў з качарэжніка жалезную качаргу.

На яго словы адказалі рогатам. А перад ім раптам стаў Мацей. На яго твары яшчэ блукаў самаздаволены смех пераможцы.

— Хто гэта нелюдзі? — Твар яго адразу пераменіўся.

— Ты!..— І Лявон падняў руку з качаргой.

Мацей не зрабіў нават жэсту, каб абараняцца,— гэта было лішняе. Нехта ззаду моцна стукнуў Лявона па карку. Лявон загайдаўся на нагах і асунуўся на калені ля самага парога. І не паспеў апамятацца, як тут жа некалькі разоў яго ўдарылі ботам у грудзі. У Лявона заняло дух, і ён упаў, скурчыўшыся, на падлогу.

Цераз Лявона беглі сюды і туды людзі, ён чуў лаянку, удары, ярасныя выкрыкі і звон выбітых шыбаў, але не мог падняцца — у вушах звінела ад удару, а перад вачыма плавалі вясёлкавыя кругі.

«Трэба разбіць лямпу, інакш капцы»,— прыйшла да яго думка, і ён зноў адчуў у сваёй руцэ жалезную качаргу. Ён размахнуўся і шпурнуў яе знізу ўверх — лямпа вісела ля самай столі. Хлынула цемра, пасыпалася на падлогу шкло і з грукатам упала качарга...

* * *

У хаце ціха, ні душы. Дзе ўсе падзеліся?..

Ён яшчэ не ведаў, што яго швагра Міхаля, Лабажэвіча, Уладзіка і яшчэ некалькіх хлопцаў, што заступіліся за іх, збілі да паўсмерці, як і яго самога, і ўсе яны паразбягаліся і параспаўзаліся, сплываючы крывёю. Мацей са сваёй хеўрай за паўгадзіны зрабіў у Перцавай хаце сапраўдны пагром.

Але ўсяго гэтага Лявон не бачыў. Як ён выбраўся з хаты, ці памог яму хто, ці не, былі яшчэ людзі на двары ці ўжо нікога не было — ён не памятаў. Ачнуўся ён ад начной свежасці, а колькі тут праляжаў — невядома. Здаецца, нічога не балела. Але варта было варухнуцца, як усё цела адзывалася нясцерпным гарачым болем. Гарэлі плечы, нельга было падняць правае рукі, а галавы ўвогуле нельга ні крануць, ні павярушыць — шыя стала як чужая, і рэзкі боль аддаваўся ў патыліцы, правае вока запухла.

Усё тое, што адбылося нядаўна, здавалася яму нейкім пачварным сном, які нябачнымі ніткамі быў яшчэ звязаны з тою яваю, у якой ён цяпер апынуўся. Ён хацеў уцячы ад таго сну і ад гэтай явы, забыцца на ўсё, устрапянуцца і ўбачыць сябе дома, на пасцелі, побач з жонкай. Але нічога не выходзіла. Праклятая ява, ганебная і пакутлівая, не прападала... Ён паспрабаваў устаць. Рукі дрыжалі, ногі не слухалі, падгіналіся. І ўсё ж ён падняў сваё неймаверна цяжкае цела і сеў. Аддыхаўся, пачаў прыўзнімацца на ногі, устаў і пайшоў. Яго трохі вадзіла ўбакі, ён балансаваў рукамі, хапаўся за паветра і памалу, баючыся аступіцца, ішоў, нібы нёс на галаве шклянку з вадою.

Здаецца, ішоў ён доўга, ужо не было сілы, хацелася сесці, а дарога не канчалася, і вунь яшчэ дзе далёка выплываў са змроку Кухарчыкаў хутар. Зачапіўся за груду — і бухнуўся на зямлю. Доўга мергаваўся, па-

куль устаў. Нейкая тупая ўпартасць памагла яму адолець цяжар і павяла наперад.

— Няхай, яшчэ пабачым,— шаптаў ён сам сабе і ішоў далей, падаў, уставаў, зноў ішоў, зноў падаў. Вось гэты ненавісны двор... Каб меў сілу, абышоў бы за вярсту, каб не бачыць яго.

— Няхай, яшчэ пабачым,— прастагнаў ён і пагразіў кулаком у бок Юзікавых будынкаў.— Яшчэ пабачым...

— Што пабачым, што пабачым? Каму ты пагражаеш? — пачуў ён за сабою голас і ўздрыгнуў ад нечаканасці: гэта гаварыў сам Юзік.

Лявон прымусіў сябе стаць, хоць падмывала пабегчы, каб толькі тая сіла. Да яго падыходзіў Юзік, невысокі, але моцны чалавек, аднолькавых з ім год, яго даўні заўзяты вораг, той самы, што некалі, як уюн на скавараздзе, круціўся пад яго, Лявонавымі, ударамі... Ніколі яны не сыходзіліся пасля на такой вузкай дарожцы, як сёння, і трэба ж Лявону якраз быць такім!

«Калі ён здагадаецца, што я ледзь трымаюся на нагах, ён нападзе»,— варухнулася думка ў Лявонавай цяжкай галаве.

— А што табе трэба? — Язык не слухаў яго, хоць ён стараўся гаварыць цвёрда і спакойна.

— Я хачу табе вярнуць стары даўжок,— сказаў Юзік са здзекам.— Надта ён у мяне заляжаўся, каб часам не прапаў.— І ён падышоў бліжэй. У руках у яго нічога не было.

— А, сабака, асмялеў? — са злосцю прамовіў Лявон і падрыхтаваўся.— Думаеш, так лёгка мяне ўзяць?

— Што цябе браць? Я ж бачыў, як ты носам араў мне дарогу... Сёння цябе такі добра пафарбавалі на чырвона. І я яшчэ дадам.

Тут ён выхапіў з левага рукава кароткі прэнцік і, узмахнуўшы ім, апусціў на Лявонаву галаву.

...Бралася на дзень. На траве ляжала буйная халодная раса. Над жытамі з шумам пралятаў свежы ранішні вецер. Лявон поўз па ўзмежку, зграбаў з травы расу і змочваў сабе твар. Ад гэтага рабілася трохі лягчэй. Ён поўз і ўвесь час правальваўся ў нейкія ямы. І хто іх толькі навыкопваў? Сцежка знаёмая, а гэтулькі ямаў!

Раптам пачуўся знаёмы голас, толькі нейкі прыглушаны:

— Гэта ты, Лявонка? Ах, бедная твая галава...

Параска... Толькі ў белай сукенцы. Чаму ў белай? Калі яна паспела перамяніцца?

Параска схілілася над ім і гладзіла па галаве, гладзіла — і нібы здымала боль сваімі пяшчотнымі рукамі.

— Бачыш, Параска, які я... Ніколі такі не быў...— І ён заплакаў — а даўно ўжо не плакаў.

— Не плач, Лявонка, я табе пасаблю. Устань.

— Не магу...

— Устань, ты дужы. Гэта табе здаецца, што не можаш. Уставай!

Ён устаў, яна нават не дакранулася да яго, і ён здзівіўся, як не ведаў дагэтуль, што ён дужы і поўны сілы. Дарэмна ён ляжаў пластом на зямлі і лічыў, колькі ўдараў адмерае яму гэты баязлівец Юзік.

— Дай мне руку, Параска... Галава водзіць убакі.

Яна падала яму сваю цёплую, моцную руку, і ён зноў адчуў, нібы паздаравеў, нібы яе сіла перадалася яму праз яе тонкія цвёрдыя пальцы.

— Як лёгка з табою ісці! А Кастуся ты не баішся?

— Не, не баюся. Я смелая.

— Ты смелая? Няўжо?

— Смелая.

— То пацалуй мяне...

Ён зажмурыў вочы і адчуў на сваіх вуснах дотык яе гарачых, пахучых, як мята, вуснаў.

— Я падаю, Параска. У мяне кружыцца галава.

— Не бойся, любы.

— Як ты сказала?

— Любы...

— Я падаю...

Яна памагла яму ўстаць, і ён зноў пайшоў, не выпускаючы яе рукі. Ён ні аб чым не думаў, нічога не хацеў пытаць у яе, нічога не хацеў успамінаць — яму было так лёгка і добра, што боль, здавалася, даўно прапаў, раны, здавалася, загаіліся, а ён праводзіць яе з вячорак, і ім ісці па адной дарозе. Ён трымае яе руку — і больш нічога на свеце яму не трэба. Сэрца яго поўніцца шчасцем. Параска Кастусёва — ну і што, што Кастусёва? — ідзе побач з ім, праводзіць яго, ці ён

яе — няважна, праводзіць дадому, яна нават пацалавала яго... У яго зноў закружыла ў галаве, мусіць, ад шчасця, ён упаў, але толькі на калені. Ён абняў Параску за ногі, яна не вырывалася, але і ён больш нічога не хацеў — хацеў толькі адчуваць цяпло яе цела праз тонкую спадніцу, хацеў астояцца і стаць на ногі, каб ісці далей, бо пачынала ўжо світаць, жаўранкі завялі ў небе сваю ранішнюю песню. Што скажуць людзі, калі ўбачаць іх разам? Свае Лявонıхі ён не баіцца, але пра Параску могуць падумаць нядобрае, напішуць Кастусю...

— Параска...— шэпча Лявон.— Я пайду ўжо адзін. Ужо блізка. Вось мая хата. Ты ідзі, а то людзі ўбачаць... Я не хачу, каб Кастусь крыўдаваў на мяне. Чуеш? І грошай я табе пазычу. Вось пабачыш... Сам прынясу...

— Дзякуй, Лявоначка,— чуецца яе такі пяшчотны, поўны любасці і дабраты голас.

— Гэта табе дзякуй, Параска. Без цябе я прапаў бы. Дзякуй, Параска... Тут я ўжо адзін. Вось і парог...

Ён упаў на ганку, моцна стукнуўшыся аб дзверы ў сенях.

Параска знікла, нібы растала. Ён тады зразумеў, што яе зусім не было, што не было яе і на Кухарчыкавай сцежцы і на дарозе...

Ён ляжаў адзін на сваім ганку — знявечаны, слабы, але жывы.

*1965 г.*

# ЗАКЛІНАЮ АД КУЛІ

Шчасце не месцілася ў грудзях у старое Хвядоры...

Толькі сцямнела, як нехта затупаў у сенцах, адразу знайшоў клямку і пераступіў парог.

— Добры вечар... Хто тут жывы? — спытаў мужчынскі голас.

Маці адразу пазнала гэты голас, хоць быў ён нейкі прастуджаны, хрыпаты, нават нясмелы. Яна кінулася да сына.

— Антоська, дзіцятка маё роднае... І ты прыйшоў! Слава госпаду! І нідзе нічога, цэлы, не паранены? — ужо з трывогаю ў голасе пыталася яна, не выпускаючы яго з абдымкаў і цалуючы ў калючы абраслы твар.

Усе ў хаце заварушыліся. Шарая гадзіна скончылася ў адзін момант. Увішны Васіль пачаў шукаць запалак на прыпечку, каб запаліць лямпу, але Кірэй, старэйшы і больш разважлівы, перабіў яго і сказаў матцы:

— Завесь вокны, маці. Люба, памажы.

Маці з дачкою пачалі збіраць дзяружкі. Пакуль яны вазіліся з вокнамі, Кірэй падышоў да брата, страсянуў яго руку, прытуліў да сябе і моцна пастукаў яго па плячах, нібы прабуючы на слых, які гук выдае яго цела — ці здаровае, ці не трупціць.

— Як маешся, братка? — радасным голасам, у якім чуваць былі слёзы, спытаў ён малодшага брата.

— Кірэй... Як ты вырваўся адтуль, з таго пекла? — Антось у цемнаце сіліўся разгледзець брата.— Адзін нос у цябе застаўся, ды і той яшчэ больш загнуўся і высах. Мусіць, соладка прыйшлося...

— Усяго хапіла.

Тым часам маці з дачкою завесілі вокны: тры акны — дзве дзяружкі і цёплая хустка. Васіль дрыжачымі рукамі запаліў лямпу.

— Знаёмцеся,— жартаўліва сказаў Кірэй і стукнуў Васіля па плячы.

Кірэй, высокі, тонкі, з кручкаватым носам, з-пад насупленых чорных броваў любаваўся сваімі малодшымі братамі, якія былі амаль аднаго росту, толькі Антось быў шырэйшы ў плячах і паясніцы, а Васіль яшчэ не паспеў акрыяць — яму ішоў дзевятнаццаты год.

Маці, спяшаючыся, збірала на стол.

— А гэтую паненку пазнаеш? — зноў жартам сказаў Кірэй, падводзячы да Антося Любу, якая стаяла ля парога і нібы баялася парушыць радасць сустрэчы.

Антось развёў рукі, абхапіў Любу і падняў чуць не да столі.

— Вяліка расці! — ён засмяяўся, лёгка паставіў яе на ногі і сказаў да Кірэя: — Я то што — бачыў іх якога паўгода назад, а ты? Гэта ж, здаецца, якраз чатыры гады. Ці пазнаў іх?

— А як жа. Адна парода...

— Ну, чаго вы пасталі сярод хаты, як слупы,— сярдзітым голасам, як некалі на малых, закрычала маці.— Хлопец, можа, не еў тры дні, а вы балабоніце абы-што. Садзецеся за стол, будзем вячэраць.

Антось скінуў стары пінжак, закасаў рукавы картовае рубашкі. Люба палівала яму на рукі, а ён нагінаўся да самага цабэрка са свіною бульбаю і пырхаў, цёр шыю і аж крактаў ад асалоды. Пасля доўга выціраўся перабіраным ручніком, які маці знарок для яго дастала з кубла, з самага дна.

— Барада ў цябе, як у партызана,— абазваўся першы раз Васіль і пачырванеў.— Можа, хочаш пагаліцца? Я зараз прыбяру ўсё,— сказаў ён Антосю.

Але зноў умяшалася маці.

— Што ты, здурэў? Чалавек з голаду аж сланяецца, а ён — галіцца. Я ось табе зараз пагалюся. Паспее, хай павячэрае.

«Як у партызана»,— паўтарыў сам сабе Антось і спытаў:

— А ці ты бачыў тых партызанаў, што кажаш пра бараду?

Васіль збіраўся нешта сказаць, але Кірэй апярэдзіў яго.

— Ён мне галаву прадзёўб сваімі партызанамі. За гэтыя два тыдні, што я тут, ён спакою не дае — хадзем і хадзем. Кажа, тут блізка, у Налібоках. У Подзішчах бываюць, але толькі праездам — малы лес, баяцца.

Маці адразу насцярожылася. Ёй заўсёды рабілася не па сабе, калі сыны заводзілі такую гутарку. Ці мала яны нагараваліся? А цяпер яшчэ самі шукаюць бяды на сваю галаву. Ах, сынкі, сынкі!.. Ці была яна хоць год спакойная за іх? Ні разу! Толькі стаў на ногі Кірэй — забралі паны ў турму за палітыку. Адсядзеў тры гадкі — пайшоў у салдаты. Тут вайна з немцамі — прапаў, як у ваду ўпаў. Праўда, пасля верасня трохі супачыла душою. Сыны Антось, Васіль, дачка Любка пайшлі вучыцца, хоць і цяжка было і гаспадарку весці і вучобу глядзець. Ды гэтыя паўтара гады прайшлі як адзін дзень. Зноў навала, яшчэ большая — немец вайною пайшоў. Серадольшага, Антося, узялі па прызыву яшчэ да вайны, а адступалі нашы — падаўся з імі самы малодшы, Васіль, яшчэ зусім дзіця, здаецца, нядаўна без портак бегаў. Як было мацеры пераносіць, што дзеці паразляталіся, быццам птушкі?

Але вярнуўся Васіль — адрэзалі іх, не далі прабіцца да сваіх. Ды ці доўга пасядзеў спакойна? Ачомаўся крыху — зноў за сваё: пайду ў партызаны...

Адно да аднаго. Тут праз які час вярнуўся Кірэй. Ці магла думаць старая маці, што ўгледзіць сына? Малая была надзея... Аднак сэрца яе як чула, што сын жывы, што, можа, і прыйдзе калі, але не верылася, што сама яна дажыве, дачакае тае пары. Гора падкошвае чалавека, як каса траву. Аж прыйшоў — адны косці ды скура, як труп, кульгавы, паранены. Кажа, адпусцілі... Ажно пасля прызнаўся, што ўцёк з нейкага канцлагера... Халера іх ведае. Усяго навыдумлялі на гэтага няшчаснага чалавека... Цяпер пачала думаць толькі пра Антося. Дзе ён, бедны, ці жывы? А Васіль колькі разоў падпорваў Кірэя: хадзем у партызаны. Тады маці пачынала плакаць, і Кірэй супакойваў яе, што нікуды пакуль што не пойдзе...

Ну вось, прычакала серадольшага, радавацца трэба... Але свет такі неспакойны. Ажні страшна. Усе тры сыны дома, хоць, праўда, першы раз за чатыры гады. І радасна і страшна. Людзі яшчэ пазайздросцяць, на-

гаворыць, наклічуць бяду... Можа, і праўда, што свая хата — не абарона ад цяперашніх душагубаў...

Такі рой думак праплыў у галаве старой Хвядоры, пакуль сыны рассаджваліся за сталом, перакідваючыся жартамі.

Маці схамянулася. Яна падсунулася бліжэй да стала з маленькім услончыкам, і пасадзіла ля сябе Любку. Сыны сядзелі на лавах: Антось на покуце справа, Кірэй — злева, а ля яго — Васіль.

— Ну, Кірэй, налівай. Была ў мяне пляшка гарэлкі, на лякарства хавала,— нібы апраўдвалася маці, што ў яе ёсць такі скарб.

Кірэй, звесіўшы галаву, круціў у трубку край настольніка, відаць, аб нечым думаў, бо твар яго быў задуменны і нават суровы: бровы насуплены, над пераноссем папярочная маршчына. Ён не пачуў, што маці сказала яму, і прадаўжаў свой занятак.

Антось здзіўлена паглядзеў на брата: мо ён не рад, што патурбавалі? Антось сам быў рады, што пабачыў сваіх, але на сэрцы было неспакойна. Яму карцела адно: як паставіцца Кірэй да таго, што меўся яму сказаць Антось? Уласна кажучы, для гэтага ён і прабіраўся сюды, хоць яго і папярэджвалі таварышы. Нават сам камандзір сказаў: «Ты рыскуеш галавою. Ці прывядзеш сюды брата — гэта яшчэ невядома. А што мы можам страціць цябе — гэта больш верагодна. Праўда, я хацеў бы, каб было так, як ты кажаш...» А Антось тады крыху самаўпэўнена адказаў: «Як пашанцуе, то прыйдзем траіх». Гэта ён меў на ўвазе Васіля. Вось хутка будзе відаць. Маці... Шкада яе адну пакідаць...

Васіль таксама быў неспакойны. Ён ведаў, што слова Антося будзе рашаючае, і таму з нецярпеннем чакаў, пакуль той пачне гаварыць. Ён здагадваўся, што Антось прыйшоў не з нямецкага палону — выгляд у яго быў не той, што ў людзей, якія выпадкам вырываліся адтуль. Від у яго быў самы звычайны, як ва ўсякага вясковага хлопца. Хутчэй за ўсё гэта знарок, каб не кідацца ў вочы немцам. У яго нават валасы адгадаваны — грыўка на два пальцы, якую ён прыгладжвае набок.

Спакайней за ўсіх ■ твару выглядала Любка, хоць яна круцілася ўвесь час і не магла ўседзець на адным месцы. Яна то шукала яшчэ аднаго нажа, які недзе за-

валіўся, то дасыпала солі на сподак, то клала каля кожнага лусту чэрствага хлеба. Яна яшчэ не паспела падумаць: а што будзе далей, не адышла ад наплыву радаснага ўзбуджэння.

— А дзе гэта наш сабака? — ні з таго ні з сяго спытаў раптам Антось.— Я ішоў, і ён не азваўся.

— Гэта ж прапаў недзе, сынок мой,— пачала скардзіцца маці.— Неяк услед, як Кірэй прыйшоў. Усё выў па начах, і да гэтага выў, а цяпер зусім збег. Я ўсё баялася, што на бяду якую, ажно, хвала богу, яшчэ прыбытак у хату...

— Прыбытак гэты, мама, ненадоўга,— уставіў слова Антось.— Я вось зараз вам усё скажу, таіць няма чаго... Ну, пускайце чарку. Мама, вы налівайце, чаго там. Кірэй нешта задрамаў.

Маці наліла ў шклянку некалькі кропель, а пасля, падумаўшы, прыбавіла яшчэ.

Як памятаў Антось, маці ніколі не падымала чаркі, каб не благаславіць усіх, хто сабраўся за сталом. Гэта быў для яе нейкі ўрачысты момант, калі яна азіралася на пражыты час, рабіла свае вывады, падагульненні, планавала наперад. Можа, гэта тлумачылася тым, што яна даўно была гаспадаром і гаспадыняю ў гэтай, хоць беднай, але ўласнай, хаце і думала заўсёды, як лепш выкруціцца з бяды. А можа, яшчэ і таму, што рэдка даводзілася падымаць чарку — толькі ў самыя значныя часіны, калі без чаркі грэх сесці за стол.

Вось і цяпер яна трымала ў амаль што чорнай, спрацаванай руцэ да паловы налітую шклянку і гаварыла, абводзячы ўсіх вачыма:

— То дзякаваць богу, што я перад смерцю сваёю ўгледзела вас усіх.— Тут яна змахнула левай рукою слёзы з вачэй, супакоілася і працягвала: — Не думала я вас бачыць, сынкі мае, не думала. Зусім я аслабела ад рознага ліха. Як з мяне хто кроў выпусціў... Хацелася б мне яшчэ прычакаць дзетак вашых.— Яна зноў заплакала, выцерла рогам настольніка пачырванелыя вочы. Шклянка гойдалася ў яе руцэ.— Тады я ўжо спакойна памерла б... То будзьце здаровыя, дзеткі. Дай бог, каб скарэй згінула гэта праклятая навала, каб мы яшчэ зажылі па-людску. Будзь здаровы, Кірэй.

— На здароўе! — адказалі ўсе хорам.

— Дай бог,— дадаў Кірэй сур'ёзна.

Маці выпіла, а кроплю з дна падкінула пад столь над галавою. Чарка пайшла да Кірэя, пасля да Антося; Васіль аднекваўся, але яго прыціснулі, Любка таксама доўга крывілася, але і яна памачыла вусны.

Мала-памалу завязалася размова. Гаварылі пра гуркі, што зрадзілі ў гэтым годзе, што мала бульбы накапалі — не будзе чым карміць парасяці, пра паляндвіцу і сала, што пазычалі, калі прыйшоў дадому Кірэй, і што пазычанае ідзе, як гарыць.

Аднак за гэтым ціхім нязначным абменам думак таілася чаканне нечага больш важнага і непазбежнага, што павінен быў сказаць Антось. Той разумеў, што чакаюць яго слова, але не ведаў, з чаго пачынаць.

— Дык вы здагадваецеся, што я прыйшоў да вас з партызанаў? — спытаў ён, бо адчуў, што цягнуць далей няма сэнсу.

Маці і Любка былі ашаломлены навіною. Затое Кірэй і нават Васіль успрынялі яго словы, як мужчыны. На іх тварах, здавалася, так і было напісана: нас нічым не здзівіш. Толькі ў вачах у Васіля заскакалі вясёлыя агеньчыкі.

Пасля кароткай паўзы загаманілі ўсе разам.

— А чаму ж ты без стрэльбы? — першая выпаліла Любка.

— Дык гэта такі праўда, што яны па лясах хаваюцца? — спытала маці, апамятаўшыся.

— Як жа цябе пусцілі адтуль? — гэта ўжо голас мужчыны, Васіля.

— І чаго ты ішоў за блізкі свет? — таксама трывожна і насцярожана спытаўся Кірэй.

Антось думаў, каму першаму адказваць, і пачаў з Кірэя, з канца.

— Пацягнула дадому, сам павінен ведаць. Але не гэта галоўнае. Дачуўся я ад аднаго чалавека — ён з нашага боку, з-пад Лані,— што ты вярнуўся. Ён не сказаў дакладна, ці ты ўцёк, ці цябе адпусцілі. Я падумаў: калі адпусцілі, дык толькі паміраць, а калі ўцёк, то рана ці позна зноў трапіш у іх лапы. Вось і захацелася глянуць на цябе — гэтулькі не бачыліся.— Антось спыніў позірк на Кірэю.— Глядзі, які ты: галава белая, як у мельніка. Калі ты паспеў? — Яму ніхто не адказаў, і ён гаварыў далей: — Тут яшчэ...— Антось на момант замяўся: казаць ці не? —

Сувязь трэба было наладзіць з нашым чалавекам, яго брат у паліцыі ў Клецку служыць... Ну, і вас усіх захацелася пабачыць. Проста не знаходзіў сабе месца, аж надакучыў камандзіру, пакуль дастукаўся.— Антось вінавата ўсміхнуўся і паглядзеў на матку.

Яна зноў выцірала настольнікам вочы, прыгнуўшыся да стала. Пасуравеў твар рухавае Любкі, а Васіль неяк увесь напружыўся.

— Як жа ты туды трапіў, да партызанаў? Проста з арміі? — у голасе Кірэя была несхаваная цікаўнасць.

— Каб жа проста, а то бо крыва — з палону...

— А сыночак, і ты там быў, дзе Кірэй? — маці ўспляснула рукамі і шырока адкрытымі вачамі пазірала на сына.— Еш ты, чаму ты не ясі? Цябе ж там голадам марылі. Людзі, як мухі, падалі. Мы чулі тут, і да нас заходзілі салдацікі, хто сумеў уцячы з-за дроту ці як...

Маці пачала падсоўваць сыну хлеб, сала, закамандавала Любе прынясці малака, яек.

— Малачка салодкага выпі, адразу ажывеш. Выпі, сынок, выпі.

— Не, мама, баюся салодкае піць. Даўно не ўжываў, адразу што рыцына.

— Ну то кіслага... Любка, чаго ты ўсё круцішся без толку, падай яму малака, чуеш?

— Ды не турбуйцеся, я не такі і галодны. Палуднаваў якраз у пару.

Яшчэ раз зрабілі па чарцы. Маці перастала есці, пазірала на Антося, падганяла яго, падкладвала хлеба і ўсё прасіла, каб еў.

А ён жаваў без ахвоты і расказваў:

— ...Нашу часць разбілі пад Лясною, за Баранавічамі. Хто змог — уцёк, а нас, чалавек пятнаццаць, што ад роты засталося, абкружылі. Адбіваліся, пакуль былі патроны і гранаты, спрабавалі нават прарвацца. Не выйшла... Зграблі нас... Сілаю вінтоўкі з рук вырывалі... Пасля — за дрот. Голад, смерць. Сёй-той спрабаваў уцякаць. Прыстрэльвалі. Месяц я прабыў за дротам, а пасля нас, вялікую групу, пераганялі на новае месца. Меліся недзе адвозіць. Я то думаў уцячы, і кожны думаў, але ўсё чакаў выпадку, каб не проста чорту ў зубы трапіць... А ўцёк, можна сказаць, зусім выпадкова. Мог і косці даўно парыць...

У хаце было ціха. Толькі на столі бзынкалі мухі, мастаколячысяаначай. Усе пазіралі на Антося, як зачараваныя. А ён паволі расказваў, водзячы тронкамі нажа па стале, нібы запісваў усё тое, аб чым гаварыў. І хоць ён здаваўся спакойны, усе бачылі, што ён хвалюецца, ажыўляючы нанава ўсё перажытае.

— Вось ідзём мы ўдвух з адным маладым украінцам, чарнігаўцам. Я слабы, а ён яшчэ слабейшы — ледзьве ногі цягне. Абхапіў мяне левай рукою за шыю, а я яго ўполкі падтрымліваю. І трэба ж было яму спатыкнуцца — на роўным месцы... Мы абодва так і зарылі тварамі ў зямлю. А валакліся мы ззаду... Рап там — тук, тук, тук — немец на кані пад'ехаў, стаў, ляснуў аўтаматам. Мы, замест таго каб падымацца, так і ўраслі ў зямлю, не варушымся. Канец... Ну, даў ён чаргу... Я толькі памятаю, што мяне аглушыла... і пяском сыпанула з-пад конскіх капытоў... І яшчэ што... Страшна ўспомніць... Мой таварыш пацягнуўся ўсім целам — так, як пасля смачнага сну толькі пацягваюцца, а рукою, што ў мяне на шыі ляжала, як павядзе да сябе, аж у суставе луснула. І заціх... Абмяк... Чую — нешта цёплае ў мяне па шыі пабегла. Думаю — усё, гэта я толькі з гарачкі яшчэ помню, што робіцца. Ляжу... Ажно цішыня. Пайшлі, не пацікавіўшыся намі. Відаць, добры стралок быў немец — думаў, не прамазаў. Але памыліўся крыху. Шаргануў я тварам па зямлі, глянуў адным вокам: бачу, прысады ля дарогі, а там на захад нашы падыбалі, і канвой на конях гарцуе па баках... Цапнуў я сабе за шыю, глянуў на руку — кроў. А каб боль які адчуў — не. Тут я выплюнуў пясок з рота, перавярнуўся на бок, паварушыў хлопца. А пад ім лужына крыві. Так наўскасяк як павёў немец аўтаматам, дык яму нешта чатыры кулі ўгадзіла: з правага боку, на лапатку ўверх і ў левую руку, што на мне была. Гэтая, відаць, мне мецілася, ды ён, небарака, забраў усе...

Антось змоўк. Маці плакала, усхліпваючы. Любка ўцякла з-за стала і кінулася на палок ля печы. Васіль пазіраў у столь і стараўся не моргаць вачамі, у якіх круціліся слёзы і гатовы былі закапаць па твары. Кірэй сядзеў змрочны, абапёршыся на руку і прыкрыўшы далонню вусны.

Курэў кнот, бо агонь быў наверсе — эканомілі газу. Уздрыгвалі цені па сценах хаты, па дзяружках на вокнах. Стала душна. Антось выцер пот з ілба, прыгладзіў валасы набок, правёў далонямі па шчаціне на твары.

— Праўда, браце, што быў ты адною нагою на тым свеце,— парушыў цішыню Кірэй.— Што ж, на тое вайна, некага павінны забіваць,— зрабіў ён недарэчны вывад і, каб згладзіць гэта, дадаў: — Я скажу, што наша маці яшчэ шчаслівая. Няхай бацька рана памёр, цяжка нас было гадаваць, а ўсё ж вось сабраліся ўсе ў сваё гняздо. А здавалася, што ўжо адрэзана нам сюды дарожка. Эх-хэ-хэ...— закончыў ён сумна, нібы не радуючыся, што сядзіць дома, у роднай хаце, за сваім сталом.

— Яно так, але ці надоўга мы сабраліся — гэта іншая справа. Не мы кіруем сваім лёсам, а нехта другі,— паківаўшы галавою, нібы шкадуючы чаго, дадаў Антось.

Маці перастала плакаць, задумалася. Васіль з нецярпеннем чакаў таго «нечага», з-за чаго прыйшоў дадому Антось.

А той пастукаў пучкамі пальцаў па стале, нібы патрабуючы цішыні, якая і так панавала ў хаце, і выразна сказаў, гледзячы ў стол:

— Усё гэта былі яшчэ кветачкі, а ягадкі ўперадзе. Скажу вам, мама, адкрыта: нам з Кірэем трэба ісці, пакуль не позна. Праўда, я не чуў яго слова, але думаю, што другога ратунку і яму і мне няма,— рашуча скончыў Антось і глядзеў на маці, чакаючы. Яна маўчала, а пасля зноў заплакала.

Кірэй кашлянуў, зірнуў на матку, затым на Антося і, відаць пераканаўшыся, што слова за ім, сказаў, уздыхнуўшы на поўны грудзі, нібы скінуў з сябе цяжкі груз:

— Што ж, я згодзен з табою, Антось. Другога выйсця няма. Нельга стаяць паміж молатам і кавадлам, я добра пераканаўся. З гэтым душагубам нам няма месца на адной зямлі. Адно мне няясна: калі ты думаеш ісці? — звярнуўся ён да Антося, бо матчын плач ён прыняў за маўклівую згоду.

— Цяпер,— глуха сказаў Антось,— не адкладваючы.

Хвядору нібы штурханулі ў плечы. Яна ўсхапілася з услончыка і з крыкам кінулася да Антося, ашчапеуыла яго за шыю, хоць стол раздзяляў іх. Павалілася пляшка, пакацілася па стале і мякка стукнулася аб зямлю. Узняўся лямант: загаласіла Любка, устаў з-за стала Васіль. Адзін Кірэй сядзеў нерухома, чакаючы, пакуль усе супакояцца. Ён намацаў пляшку нагою, выкаціў яе з-пад лавы, перагнуўся і паставіў на стол.

А маці праз слёзы прыгаворвала:

— Сыночак, не пушчу, не пушчу, што хочаш рабі! Пабудзь хоць адну ночку, пераначуй, супачынь. Родненькі мой,— лямантавала яна,— пашкадуй мяне, старую, можа, мне заўтра паміраць, дай хоць паглядзець на вас адну часінку...

— Супакойцеся, мама, не трэба так...— усхваляваны плачам маці, гаварыў Антось, гладзячы рукою яе худыя плечы.— Што вам гэта дасць, калі мы пабудзем? Нічога. Толькі будзеце глядзець на нас і плакаць. Не трэба...— Антось не знаходзіў патрэбных слоў.

— А можа, і праўда пераначуем? — няўпэўнена спытаў Кірэй.— Няўжо ты думаеш, што мы вельмі каму так патрэбны? Каму мы вока запарушылі?

— І я ж кажу,— падхапіла маці,— пераначуйце, а заўтра вечарком пойдзеце, бог з вамі, я вас не ўтрымаю, цяпер дзеці сваім розумам жывуць.

— Хай будзе па-вашаму,— падумаўшы, сказаў Антось, хоць нейкі ўнутраны голас падказваў яму не згаджацца.— Пераначуем, а там пабачым.

Пачалі збірацца спаць. Маці падаставала з кубла ў сенцах усе чыстыя посцілкі, дзяружкі, пачала засціляць на палку, для Кірэя з Васілём. Люба паслала сабе з маткаю на печы. Антосю, прымасціўшы ўслон, слалі ля покуця.

Кірэй з Антосем закурылі — у Антося было паўпачка тытуню, моцнага, яшчэ гродзенскага. Кірэй расказваў пра свае ваенныя прыгоды з часу вераснёўскай кампаніі з немцамі: пра знакамітую атаку польскіх уланаў на нямецкія танкі, у якой яму давялося браць удзел; як пад ім забіла каня, а яго самога параніла; як пасля трапіў у палон, спрабаваў уцякаць, трапіў у канцлагер. Агаліўшы левую руку да локця, ён паказаў Антосю неахайна выкалаты чатырохзначны нумар. Потым палез у кішэню і паказаў фальшывую даведку

аб хваробе, якую «выдаў» яму добры паляк Харута, былы гравёр, з якім разам яны ўцякалі, калі лагер праз памылку бамбілі англійскія самалёты...

Васіль, які не раз усё гэта чуў, круціўся каля іх, нібы хацеў нешта сказаць. Але маці паклікала яго, каб напхаў саломаю сяннік. Хлопец неахвотна ўзяў паласаты вялізны мяшок і пайшоў да парога. Ужо трымаючыся за клямку, ён абярнуўся на хату і крыкнуў:

— І я з вамі пайду!..

Кірэй з Антосем зарагаталі ў адзін голас, а маці так і застыла на месцы з падушкаю ў руках.

— Глядзеце, людзі, што гэта робіцца? — са стогнам спыталася Хвядора.— Не паспела малако на губах абсохнуць, а ўжо і ён пра вайну думае. Ой, пасаджу я цябе, як міленькага. На цябе яшчэ знайду...

Можа, яшчэ і доўга так гразіла б маці, але на двары пачуліся галасы, і над імі ўзвысіўся нечы крык.

Пасля нешта грукнула, узняўся шум, бразнулі дзверы ў сенцах, і вось ужо нечая незнаёмая рука шарыць па сцяне, шукаючы клямку. Мужчыны ўсхапіліся на ногі, круцячыся на месцы. Антось трымаў напагатове чорны наган. Кірэй глянуў на яго і пахаладзеў.

— Кінь, кажу! Давай сюды! — і ён у момант вырваў наган у Антося і паклаў пад настольнік ля хлеба. Толькі ён паспеў зрабіць гэта і кінуўся да дзвярэй, як яны перад носам у яго рэзка адчыніліся і парог пераступіў увесь у чорным, толькі з шэрым каўняром і закірвашамі, высокі, пад столь, паліцай з вінтоўкаю ў руках. За ім паказался яшчэ некалькі чорных фігур.

— А-а-а,— зларадна зацягнуў першы,— усе ў зборы! Вы арыштаваны! — павысіў ён голас, звяртаючыся да Кірэя і Антося і тыцкаючы ім па чарзе руляю вінтоўкі ў грудзі.— Абшукаць хату,— загадаў ён сваім падначаленым.

Маці як стаяла, так і асунулася на палок. Але не прайшло і хвіліны, як яна ўсхапілася на ногі і дзіка закрычала:

— А дзе ж Васіль? Дзе ён падзеўся?

— Ціха, старая, нідзе твой Васіль не прапаў...

Жанчына з плачам кінулася да дзвярэй, але там стаяў як укопаны здаровы дзяцюк, і ён перагарадзіў

дарогу вінтоўкаю. Маці ўхапілася за яе, нібы збіраючыся вырваць зброю з рук паліцая, але той злёгку штурхнуў жанчыну, і яна адляцела на хату. Любка падхапіла яе і пасадзіла на палок.

Усё рабілася, як у сне. Паліцаі перапрасалі ў хаце, пераварочвалі ўверх дном — глядзелі ў сенніках, падушках, шнырылі ў печы, пад печчу, у куфры, пад лавамі.

Пакуль абшуквалі Кірэя і Антося, старшы паліцай сеў за стол і нешта запісаў у кніжачку. Пасля скрывіўся, гледзячы на пустую бутэльку.

— Балявалі, разбойнічкі? Адзначалі перамогу? Добра, добра, мы вам адзначым,— з пагрозай сказаў ён, цярэбячы брэнзлі настольніка і пасоўваючыся бліжэй на покуць.— Зараз жа давайце зброю! Дзе яна ў вас схавана? Ну?!

Браты маўчалі, аглушаныя нечаканым налётам.

Паліцаі далажылі, што пры вобыску нічога не знойдзена. Начальнік махнуў рукою.

— Даю пяць хвілін на зборы. Жыва, а не то...— і ён паляпаў далонню па ложы рускай трохлінейкі.

— Паслухайце,— першы прыйшоў да памяці Кірэй.— За што вы нас арыштоўваеце? Што мы каму кепскае зрабілі?

— А-а-а ,— зноў зларадна завыў паліцай.— Прыкідваецеся дурнямі? Чаму ж гэта мы ведаем, а вы самі не ведаеце? П'яныя былі, не памятаеце? Успомніце, нічога.

Кірэй падумаў, што з гэтым гарлапанам гаварыць няма чаго, і замоўк, стаў апранацца. «Якая перамога і чаму разбойнікі?» — тужыўся ён разгадаць намёк начальніка.

— Можа, вы пераблыталі,— сказаў Антось, ніяк не трапляючы ў правы рукаў пінжака.— Хто вам патрэбен, скажыце проста? Ёсць жа нейкія законы, па якіх чалавечая асоба мае права ведаць, за што яе арыштоўваюць.

Паліцай спадылба глянуў на Антося, відаць, хацеў вылаяцца, але пашкадаваў свае нервы і рэзка, са здзекам, адчытаў, як па паперы:

— Ах, які ты разумны! Закону захацеў? Калі ласка, усё робіцца па закону. Вас, братоў Шаўчукоў, Кірылу, Антона, Васіля, арыштоўваем за забойства

сям'і бургамістра Навінскага, якое вы зрабілі ўчора ноччу ў Саматканавічах. Цяпер дайшло?

— Вы што, ненармальныя? — вызверыўся Кірэй, падступаючы да яго.— Я на крыжы прысягну, што ўчора ноччу нідзе не быў. І браты мае не былі...

Але начальнік паліцыі нібы не чуў яго.

— Мала гэтага,— прадаўжаў ён.— З вамі яшчэ былі людзі. Вы павінны нам сказаць, хто яны, інакш вам будзе кепска.— Ён замоўк, а пасля крыкнуў, аж падскочыў агонь у лямпе:— Прывядзіце таго, з двара!

Адзін паліцай выскачыў у дзверы.

— А якія-небудзь доказы ў вас ёсць ці гэта проста грубая правакацыя? — спытаў Антось, таксама падступаючы да начальніка.

Той толькі раскрыў рот, але пачуўся тупат некалькіх пар ног. Першы ўвайшоў паліцай, што выконваў загад, за ім паказаўся бледны, з разбітымі вуснамі Васіль, якога трымалі за рукі яшчэ два паліцаі.

— Бач, хацеў уцячы, паганец,— мацаючы падбітае вока, сказаў адзін з тых, што трымалі хлопца.

— У цябе не пытаюць,— абарваў яго начальнік.— Апранайся, хутка! — звярнуўся ён да Васіля.— Мы і так тут валаводзіліся доўга...

Як знайсці словы, каб перадаць хоць дзесятую долю таго, што рабілася ў гэтай хаце?

— ...Сыночкі мае, дарагія! Хай бы я вас маленькіх пахавала, то была б шчаслівейшая. Што я буду рабіць без вас? Нашто мне жыць на гэтым свеце? Бярыце і мяне, ірады, бярыце, нашто вы мяне пакідаеце на муку, на пакуту? — жанчына сыпала паліцаям у твар самыя адборныя, самыя моцныя праклёны, сцёбаючы іх, як бізуном.

— Не трэба, мама! Ім загадалі,— спрабаваў супакоіць матку Кірэй.— Яны ж на службе...

— Маўчы! На службе! Добрая служба — людзей забіваць! Забойцы, ірады, што вы робіце! — крычала разгневаным голасам старая маці.

— Сціхні, вар'ятка старая! — грымнуў на ўсю хату начальнік.— Пайшлі! — І ён зрабіў жэст, нібы затыкае вушы.

І тут усіх здзівіла Любка. Яна раптам падляцела да дзвярэй, абмінаючы паліцаяў.

— Не пушчу, забіце на месцы, не пушчу! Усіх за-

бірайце, усіх, і мяне, і маму! Бо яны не вінаваты, яны нідзе не былі! — голас яе падымаўся на самую высокую ноту і гразіўся скончыцца плачам.

Спачатку ўсе слухалі не варушачыся, як ашаломленыя, а пасля начальнік, выскаліўшы зубы і робячы на твары нейкае падабенства ўсмешкі, наблізіўся да Любкі і працягнуў руку, нібы збіраючыся ўзяць яе за горла. Любка нечакана стукнула яму па руцэ і крыкнула:

— Не лезь!

Паліцай адхапіў руку, як ад прыску.

— У-у-у, яшчарка! Шкада, што ты яшчэ жаўтаротая, а то б і цябе ўзялі, не пашкадавалі б! Падрасці трохі, не спяшайся, паспееш,— гаварыў ён пагражальным тонам, нібы ўядаючыся халоднымі вачыма ў пятнаццацігадовую дзяўчынку, якая з горда паднятай галавою стаяла перад паліцаямі.

Пасля на твары ў начальніка мільганула лютасць, ён схапіў Любку за руку і тузануў ад сябе. Дзяўчынка прабегла па хаце і апынулася ля супрацьлеглай сцяны. Браты мімаволі зрабілі крок да паліцая. Ён зразумеў, што можа адбыцца сутычка і, пагражальна падняўшы вінтоўку, крыкнуў:

— Ні з месца!

Браты апусцілі рукі.

Плач і дзікі лямант напоўнілі хату, калі сталі развітвацца. Нават паліцаі, якім, відаць, часта даводзілася разрываць па-жывому сям'ю, адварочваліся, з нецярпеннем чакалі канца.

Браты, панурыя, са слязьмі на вачах, выходзілі з хаты. Проста з матчынага парога ступалі яны адною нагой у дамавіну.

Калі пад плач і прычытанні ўсе выйшлі на вуліцу, браты адзін за адным азірнуліся, акінулі вачамі — хто ведае, можа, апошні раз — сваю старую маленькую хатку, схаваную ў паўзмроку ночы, у зелені дзікага хмелю, з двума высокімі яварамі, якія сумна шумелі на ветры, глянулі на старую згорбленую маці з заломленымі ўгоры рукамі і на падлетка-сястру,— і ў кожнага зашчымела сэрца, а з вачэй пакаціліся слёзы.

Але тут цёмна, і можна не саромецца сваіх слёз...

А маці з дачкою яшчэ доўга стаяла на ганку, пазірала на тую дарогу, куды павялі яе сыноў, якія — яна

верыла — былі невінаватыя. І матчыны вусны самі сабою шапталі, як малітву, развітальныя словы:

— Сыночкі... родныя... Заклінаю вас... ад вялікае напасці... ад цяжкае пакуты... ад ліхое кулі...

Прайшоў тыдзень, як браты Шаўчукі трапілі ў падвал клецкай камендатуры. За гэты час яны так змяніліся, што не пазнавалі самі сябе. Здзекі, пабоі, кроў, пасля пагрозы, спроба падкупіць, зноў пагрозы, здзекі. Браты зацята маўчалі. Ды што яны маглі сказаць? Што яны вінаватыя? Не, не грэх было б прыняць кулю за справу, якую ты зрабіў уласнымі рукамі і якую лічыш патрэбнай. Але гінуць за нішто, як ахвяра правакацыі,— цяжка, невыносна крыўдна.

Была глыбокая ноч. Кірэй, накрыўшыся пінжаком, прымасціўся на мятай саломе. Сырасць і холад не давалі заснуць. Побач ляжалі браты, можа, спалі, а мо проста стаіліся, думаюць. Тут многа часу для роздуму, каб толькі не перашкаджаў боль, не смактаў голад, каб не грызлі дакоры сумлення. А так усе думкі афарбаваны гэтай горыччу, нянавісцю, безвыходнасцю, бо няма нават павуцінкі, за якую можна было б ухапіцца. Адно толькі супакойвала — калі яны і памруць, то хоць з чыстым сумленнем.

Тыдзень допытаў не прайшоў дарам. Высветліліся многія акалічнасці, што пацягнулі за сабою арышт братоў.

Па-першае, паліцыя мела пісьмовую заяву дабрыніцкага солтыса аб тым, што польскі ваеннапалонны Кірыл Шаўчук уцёк з нямецкага канцлагера і нелегальна жыве дома; што Антон Шаўчук уцёк з нямецкага палону і калі не ў партызанах, то таксама недзе хаваецца; што Васіль Шаўчук, былы актывіст-камсамолец, у час адступлення Саветаў быў за правадніка, удзельнічаў у баі на Лані. Вярнуўся дадому і агітуе супраць новага парадку.

Па невядомых прычынах гэтая заява не дайшла да рук каменданта Клецка обер-лейтэнанта Коха, які вырашаў такія справы хутка і часцей за ўсё ўласнаручна, нават без пальчатак.

Па-другое, высветліліся некаторыя падрабязнасці забойства сям'і бургамістра Навінскага. За дзень да

арышту Шаўчукоў група ўзброеных людзей сярод ночы ўварвалася ў дом да бургамістравага бацькі, які жыў у вёсцы Саматканавічы, кіламетраў за сем ад Клецка. Ім, відаць, было вядома, што вечарам сюды прыедзе з горада бургамістр з жонкаю-імяннніцаю. Хутчэй за ўсё іх цікавіў сам бургамістр, які падаваў ужо «добрыя» надзеі на службе ў немцаў: па яго даносах было расстраляна пятнаццаць актывістаў. Гэта быў толькі пачатак. Пасля бургамістр стаў вяршыць лёсам усяго раёна: каго прысуджваў да расстрэлу, каго адпраўляў у Нямеччыну, каго аддаваў у паліцыю.

У той вечар пасля добрай выпіўкі госці ўлягліся спаць. Сярод ночы іх разбудзіў стук у дзверы. Стары Мікодым Навінскі пайшоў адчыняць. У гэты час бургамістр, доўга не думаючы, кінуўся ў падпечак.

Перш чым стары паспеў адчыніць, дзверы вылецелі разам з завесамі ад удару прыклада. Гаспадара забілі тут жа, на парозе.

Затым прыкончылі жонку бургамістра — перакладчыцу і брата-паліцая. Бургамістру пашанцавала — яго не знайшлі.

Нарэшце, асноўнае, што стала самай большай улікай супраць братоў,— гэта тое, што нібыта бургамістр Навінскі, седзячы пад печчу, пазнаў голас Кірэя. Аказваецца, старыя грахі не забыты. Доўгая памяць у Навінскага і хворае самалюбства, калі не мог ён забыць, не мог дараваць таго прыніжэння, якое давялося яму перанесці па віне Кірэя.

Сем гадоў назад Кірэй, тады яшчэ малады хлопец, быў парабкам у багацея Мікодыма Навінскага. Служыла ў яго і сірата Гэля з Ліпкі, ціхая прыгожая дзяўчына,— першае нясмелае каханне Кірэя... Быў пачатак восені. Неяк надвячоркам Кірэй пачуў ля гумна жаночы крык. Кірэй кінуўся туды. Ля стога свежай саломы Гэля адбівалася ад гаспадаровага сына. Кірэй, доўга не думаючы, схапіў таго за каўнер, паставіў на ногі і з усёй сілы стукнуў у зубы. Пасля яны схапіліся загрудкі, куляліся па саломе. Каб не набег гаспадар, Кірэй, можа, і задушыў бы гэтага таўстазадага паганца, які па волі ці іроніі лёсу стаў бургамістрам Station славам Навінскім з неабмежаванымі паўнамоцтвамі.

Тады Стась пакляўся адпомсціць, і Кірэй нават не падазраваў, што праз гэтулькі год яны яшчэ раз сы-

дуцца на вузкай дарожцы і што ў яго, Кірэя, будуць звязаны рукі.

Звязаны рукі... Вось у якім марным месцы прыйшлося пакаўзнуцца. Кірэй, Кірэй, ці даўно тое было, што ты глядзеў смерці ў вочы і смяяўся? А цяпер... Нарэшце злы лёс узяў цябе на мушку. Раней ты быў нечым неасязальным, няўлоўным — як ранішняя смуга, як летняе марыва. Ты быў у шырокім коле, і якога тым больш шанцаў вырвацца, чым большае кола. Цяпер яно звузілася — гэта ўжо не кола, а чорная кропка, і ў гэтую кропку нацэлена куля бязлітаснага забойцы. Ён натрэніраваны, ён б'е без промаху. Як ратавацца? Што рабіць? Што-о-о! Увесь розум Кірэя крычаў, бунтаваў супраць гэтай пачварнай несправядлівасці, але быў не ў сілах прыдумаць што-небудзь. Можа, пакланіцца ў ногі Станіславу Навінскаму, папрасіць прабачэння за некалешняе дурацтва? Не, той не адступіцца ад свайго з-за нейкіх там трох басякоў. Уласны гонар яму даражэй. Пралітая кроў яго родзічаў патрабуе адплаты, хоць іменна ён першы выклікаў на сябе помсту. Навінскі не адступіць, гэта ясна, як дзень. Ды і Кірэй не прывык да таго, каб ісці на ганебную згоду са сваім сумленнем.

Нарэшце, не ўдалося ўстанавіць сувязі з тым паліцаем, пра якога гаварыў Антось,— у твар яны яго не ведалі. Спачатку Кірэй нават падазраваў, што, можа, той «адзін чалавек» і выдаў іх немцам, але, як паказаў далейшы ход справы, яго імя не было замешана ні ў паказаннях так званых сведак, ні ў пісьмовых дакументах, ні ў пратаколах.

Прападала апошняя надзея, апошняя слабая надзея... Але... не ўсё яшчэ кінута на карту. Ёсць выйсце, якое, праўда, можа аказацца дарогай на той свет. Але гэта будзе куды больш па-чалавечы, чым пакорліва лажыцца ў магілу: трэба ўцякаць...

Прымаючы такое рашэнне, не пра сябе клапаціўся Кірэй. Ён думаў пра старую маці, пра неўпарадкаванае жыццё ўсёй іх сям'і. А гэтыя хлопцы... Што бачылі яны, акрамя гора, акрамя цяжкага парабкоўства? Яны яшчэ нічога не паспелі даць для жыцця, не паспелі і ўзяць ад яго нічога. Можа, яны застануцца жыць...

З-за кратаў паволі падкрадвалася раніца. Кірэй пачаў раскатурхваць братоў.

На досвітку лістападаўскага дня з падвала клецкай камендатуры вывелі трох чалавек. Канвой з немцаў і паліцаяў, грукаючы ботамі па заінелым бруку, павёў іх да грузавой крытай машыны, што стаяла на вуліцы перад вокнамі камендатуры. Арыштаваныя ледзь перастаўлялі ногі. На іх тварах віднеліся сляды пабояў і катаванняў. Усе былі худыя і аброслыя. Асабліва вылучаўся старэйшы па ўзросту, высокі і тонкі брунет з кручкаватым носам і сухім вузкім тварам, завостраным кнізу, як клін. У яго цёмных вачах свяціўся нейкі невыказны боль — яны блішчалі, як мокрыя слівы на сонцы. Вакол рота на запалых шчоках прарэзаліся авальныя маршчыны. Тонкая, з ледзь улоўным жаўтаватым адценнем скура не згладжвала выпукласцяў яго аскетычнага твару. Па ўсім было відаць, што гэтаму чалавеку на сваім вяку прыйшлося нямала перажыць усялякіх напасцяў.

Аднак знешне ён выглядаў спакойна і, злёгку накульгваючы, ішоў побач з таварышамі. Два яшчэ зусім маладыя хлопцы, што ішлі справа і злева ад яго, абодва былі сярэдняга росту, шырокія ў плячах і светлавалосыя. Кідалася ў вочы іх знешняе падабенства як у фігуры, так і з твару. Кожны, не задумваючыся, сказаў бы, што гэта родныя браты. Больш таго, уважлівы назіральнік мог бы прыкмеціць, што і старэйшы па гадах чалавек нечым нагадвае малодшых: было нешта агульнае ў форме рота, у выразе вачэй, хоць і розных па колеру, але з аднолькавым характэрным бляскам бялкоў і разрэзам павекаў.

Гэта былі браты Шаўчукі. Іх падвялі да машыны. Матор ужо вурчаў, а за рулём сядзеў белабрысы немец у акулярах, з паднятым каўняром; браты з цяжкасцю ўзабраліся на машыну, памагаючы адзін аднаму. У кузаў ускочыла чатыры паліцаі, а два немцы селі ў кабіну побач з шафёрам.

Братоў пасадзілі на жалезнае дно кузава ля кабіны, а самі паліцаі ўладкаваліся на лаўкі ля правага і левага борта.

Машына рэзка кранаецца з месца. Павярнуўшы на-

права, яна на поўнай хуткасці імчыцца за горад, у пясчаны кар'ер. Стужкай уецца за бортам Нясвіжская вуліца. Паабапал — драўляныя дамы. Нізкія вербы, шэрыя ад інею, стаяць, не зварухнуцца. Вось і той дубовы крыж, што цудам уцалеў ад пажару яшчэ перад вайною, калі гарэла вуліца... Колькі разоў даводзілася хадзіць па гэтых калдобістых тратуарах! Дамы... Людзі... Дымы з каміноў... Золкая раніца. Няўжо гэта апошняя раніца ў жыцці?

Браты сядзяць ціха і нерухома. Паліцаі кураць, рассеўшыся на лаўках і паставіўшы вінтоўкі між каленяў. Дым нямецкіх цыгарэт далятае да Кірэя, прыемна казыча ноздры.

— Эй, старшы! — звяртаецца раптам Кірэй да крайняга паліцая.— Дай закурыць, усё роўна ўжо...

Той паварочвае галаву, няўцямна глядзіць на сваю ахвяру, а пасля неахвотна лезе ў кішэню і дастае пачак танных цыгарэт, вымае тры штукі і падае Кірэю. Кірэй бярэ іх, дае адну Антосю, другую Васілю. Але той адмоўна круціць галавою. Тады Кірэй з нейкай шматзначнай усмешкай засаджвае цыгарэту ў грудную кішэньку Антосевага пінжака і кажа:

— Скурыш там...— што можна было зразумець так: «Скурыш на тым свеце», пасля зноў звяртаецца да паліцая і загадвае: — Дай прыкурыць!

Паліцай яшчэ раз лезе ў кішэню шыняля, дастае пачак запалак і, пабразгаўшы, дае Кірэю. На долю секунды позіркі іх скрыжаваліся, і ў вачах свайго будучага забойцы Кірэй прачытаў не то зацікаўленасць, не то спачуванне.

Кірэй з Антосем з прагнасцю зацягнуліся пахучым дымам. Здаецца, слабыя цыгарэткі, а даўно не курыў, зацягнуўся колькі разоў — і прыемна пачынае круціць у галаве, спакайнеюць нервы.

— Што, вы родныя браты? — пытаецца нечакана паліцай у Кірэя, як у знаёмага.

— Родныя,— коратка адказвае Кірэй.

I ўсё. Паліцай адвярнуўся. Размова скончана.

Вуліца ідзе ўгару. На горцы — Арынская царква, могілкі. Яшчэ адзін паварот направа. Да апошняга прыпынку — паўвярсты. Пад'ём на горку. Пад калёсамі пясок. Матор стогне ад перагрузкі. Машына, прабуксоўваючы, паволі пасоўваецца наперад.

Вось апошнія метры дарогі. Справа — паплавы, якія спускаюцца аж да рэчкі, злева — вялізны пясчаны кар'ер. Недзе тут ім угатавана магіла.

Машына, зрабіўшы разварот, заскрыпела тармазамі і стала. Кірэй акідае позіркам Антося і Васіля. Яны бледныя, ледзь стрымліваюць дрыготку. У самога Кірэя дрыготка б'е цела — ці то ад ранішняй свежасці, ці ад нервовай напружанасці. У сэрца кальнула, як тонкаю шпількай. Спакойна, спакойна, сэрца, не стукай так моцна, пабеplease сілы. Галоўнае — яшчэ наперадзе...

Паліцаі адзін за другім саскочылі з машыны. У кабіне чуліся ажыўленыя галасы немцаў — аб нечым, відаць, заспрачаліся. «Гэта добра,— падумаў Кірэй.— Трэба скарыстаць момант».

Першы злез з машыны Васіль, за ім, апіраючыся на братаву руку, са стогнам споўз Кірэй. Васіль з трывогай зірнуў Кірэю ў вочы, але той не падаў ніякага знаку, толькі сціснуў зубы. Антось на нейкую хвілю затрымаўся ў кузаве. Перанёсшы адну нагу цераз борт, ён кашлянуў у кулак і з вышыні скочыў проста на паліцая, што стаяў справа ля машыны. Той адразу асеў.

Як па камандзе, браты кінуліся ў розныя бакі. Прайшоў пэўны час, пакуль паліцаі, нарэшце, апамяталіся. Першы стрэл прагучаў дысанансам да гэтай спакойнай ранішняй цішыні, трывожна адбіўшыся ў сэрцы.

«Свісту не чуваць, не ў мяне цэліў»,— мімаходам падумаў Кірэй. Ён кінуў позірк направа. Абодва браты беглі шпарка, не азіраючыся, робячы нечаканыя павароты ў бакі. Малайцы!.. Вось пырснуў пясок пад нагамі ў Кірэя, на рыкашэце заныла куля. Вось другая, трэцяя... Стрэлы гучалі адзін за адным, як на стрэльбішчы, толькі мішэнямі служылі жывыя людзі.

Кірэй адчуваў, што доўга не прабяжыць... Баліць нага... Ад хвалявання і хуткага руху сэрца гатова выскачыць з грудзей, а лёгкія, здаецца, вось-вось разарвуцца на часткі, хрыпяць, як кавальскі мех. Пясок раз'язджаецца пад нагамі, бегчы цяжка... Але бегчы трэба, трэба, трэба! Ён падганяе сябе, як бізуном, гэтым словам. Кулі свішчуць — часцей, бліжэй, вось-вось апякуць вуха... Раптам моцны штуршок у правую нагу — і Кірэй ляціць тварам у пясок. З гарачкі ён яшчэ ўскочыў, зрабіў два крокі, але зноў паваліўся.

Схапіўся за нагу. Кроў! Ну, усё, ён зрабіў, што мог...

Кірэй садзіцца на пясок, азіраецца. Ужо не чуваць свісту куль над галавою, у яго перасталі страляць, але страляніна не гасне. Па гэтым ён пазнае, што браты жывы, што яны ўцякаюць. Кірэй затуманеным зрокам бачыць, як аддаляюцца і меншаюць іх фігуры, як яны выходзяць з небяспечнай зоны. Антось кіруе ў горад, на агароды, на тую вуліцу, па якой іх нядаўна вязлі. Васіль выбраўся на паплавы, шпарыць да рэчкі, за якою пачыналася балота з кустамі, а далей — лес. Васіль бяжыць лёгка, як заяц, толькі мільгаюць ногі і развяваюцца на ветры валасы і полы жакеткі. «Эх, не скіне, дурань,— з прыкрасцю думае Кірэй.— Але хай, тут дарагі кожны міг. Давай, давай, яшчэ яшчэ!» — гатоў быў крычаць Кірэй, каб толькі падахвоціць брата, каб толькі ён не запаволіў бег.

Уперадзе загарадзь ■ калючага дроту. Васіль прыпыніўся на момант, рукою націснуў на дрот і ўжо занёс нагу, каб пераступіць перашкоду, як раптам недалужна спатыкнуўся і асеў.

У Кірэя нібы спынілася сэрца. Ён зразумеў: гэта — смерць. Нейкі момант, насуперак сваёй свядомасці, Кірэй чакаў, што Васіль устрапянецца, падхопіцца і пабяжыць, але той не варушыўся. Ён толькі павалі споўз на зямлю, а правая нага, зачапіўшыся калошай за калючкі, пагойдвалася яшчэ ў такт ваганню аслабленага дроту.

Маці! Калі б ты бачыла, як канае твой сын! Няўжо ты магла б спакойна пазіраць на гэта? Ты на каленях дапаўзла б туды, каб спыніць яго кроў, каб перавязаць яго раны.

— А я? — спытаў сябе Кірэй не сваім голасам.

Ён перавёў заплыўшыя слязьмі вочы на Антося. Той дабіраўся да хат, за якімі яго чакала збавенне. Паліцаі і немцы стралялі толькі ў яго. Ён быў для іх апошняй ахвярай, для Кірэя — апошняй надзеяй...

І тут нечалавечая сіла падняла Кірэя на ногі. Дзіка крыкнуўшы, ён пагразіў кулаком у бок ворагаў і, прыпадаючы на нагу, нейкім невераемным пачварным галопам кінуўся бегчы, не выбіраючы дарогі.

Хвіліну панавала цішыня, а пасля Кірэй пачуў, як зноў над яго галавою засвісталі кулі. «Так, так сюды, сюды»,— не то думаў, не то гаварыў ён сабе і бег усё

далей, не чуючы больш ні болю, ні стуку сэрца, толькі ўслухоўваўся ў страшную мелодыю і хацеў толькі аднаго — каб яна не сціхала. Гэтае жаданне надавала яму сілы, штурхала наперад, вяло, як за руку. «Яны не павінны яго забіць,— думаў Кірэй ужо неяк адцягнена, не прымаючы блізка да сэрца.— Ён партызан. Яму трэба вярнуцца ў штаб. Там ён раскажа пра ўсё...»

— Ох...— Кірэю нібы прабіла бок нечым тупым і ржавым, ён паваліўся на зямлю.— Страляйце, страляйце, страляйце,— шаптаў ён пабялелымі вуснамі.— Я жывы... Мне толькі цяжка...

...У галаве нешта шуміць, нібы там перасыпаюцца якія камяні. Дзе ён? Нешта знаёмае: вецер свішча ў вушах, чуваць пах конскага поту. Як тонкі піск, гучыць голас: «Шаблі вон! Уланы, уланы, вы гордасць Польшчы! Наперад!» Атака... Немцы... Змяць, растаптаць, пасекчы! Танкі? Глупства! Шаблямі, шаблямі! Дзэ-н-н-н! Шабля вылятае з рукі. Зямля загойдалася... Ой, нага, як баліць нага — гэта конь прыціснуў. Буланы, устань, ты не чуеш, што мне баліць? Кроў... Нейкі дрот... Той, што хацеў перайсці Васіль... Не, гэты густы, калючы. То ж лагер... Ну яго к чорту! Жывіце адны... У мяне дом... свой... Пан Харута? Як вы тут апынуліся? І вы не захацелі там быць? Добра! Ваша даведка, гэты «аўсвайс» — проста цуд! Зялёнай вуліцай — дадому. Усё як мае быць... Дзякую, будзьце як дома... Навінскі? Ганіце яго! Я не хачу бачыць гэтага сабаку! Дам у морду! Вось толькі ўстану... Рагоча, зараза? Я табе...

— Ха-ха-ха! Глядзіце! Ён звар'яцеў ад страху. Глядзіце! — Нехта крычаў у Кірэя над вухам.— Устае, глядзіце, устае!

— Сціхні, смелы! — крыкнуў другі голас.

Кірэй расплюшчыў вочы. Проста перад носам ён убачыў пясок — не то чырвоны, не то жоўты. Сам ён стаяў ракам і намагаўся падняцца. Яго акружылі немцы і паліцаі. Адны рагаталі, другія былі сур'ёзныя. На іх тварах яшчэ не астыў азарт нядаўняй расправы.

Кірэй стараўся зразумець, што адбылося. Ён зноў паспрабаваў устаць, але рукі падагнуліся, і ён чуць не ўпаў. Два паліцаі ўзялі яго пад пахі. Ён ледзь стаяў, бо правая нага нібы аднялася — ён яе не адчуваў.

Было ціха. Ад машыны беглі разагрэтыя боем паліцаі і немец.

— Уцёк! — крыкнуў яшчэ здалёк адзін з паліцаяў.

— Разявы! — плюнуў обер-яфрэйтар, начальнік групы, падыходзячы да астатніх, што сабраліся ля Кірэя.— Не маглі аднаго зайца пасадзіць на мушку...

Нарэшце да памутнелай свядомасці Кірэя дайшло: Антось уцёк! «Цяпер я памру спакойна»,— падумаў Кірэй. Яго апанавала слабасць, а цела пачало раптам пакрывацца халодным потам. Кірэй захістаўся, паліцаі памкнуліся падтрымаць яго, але ён адпіхнуў іх рукі, сабраў апошнія сілы і астояўся.

Нізкі, прысадзісты обер-яфрэйтар і два паліцаі наблізіліся да Кірэя. Немец на хаду вымаў пісталет.

— Жывучы, як гадзіна,— сказаў ён сам сабе, знізу ўверх пазіраючы на Кірэя.— Скажы, хто з табою разам расстрэльваў сям'ю бургамістра, і ты застанешся жыць,— звярнуўся ён да Кірэя, падкідаючы ў руцэ невялікі пісталет.

Кірэй спадылба глянуў на гітлераўца і нічога не адказаў. Ён стаяў, як бусел з перабітым крылом, якому ўжо не суджана ляцець у вырай. Пагардлівая ўсмешка асвятліла яго пануры твар, а ў цёмных вачах зайграла незразумелая радасць.

Невядома, чаго чакаў немец ад гэтага чалавека, толькі, відаць, не такой вытрымкі, не знішчальнай усмешкі. І каб не даць разрасціся міжвольнаму пачуццю павагі да гэтага селяніна, гітлеравец размахнуўся рукою з пісталетам і ўдарыў сваю ахвяру пад бараду. Суха ляснулі зубы, галава матнулася назад, за ёю падалося і ўсё доўгае цела Кірэя, заваліваючыся на спіну. Немец на ляту стрэліў Кірэю ў грудзі.

Кірэй адчуў яшчэ, як прапаў боль у падбародку і як яго цела лягло на нешта мяккае, мяккае, як пух.

Крывавае сонца ўставала з-за небасхілу. Яго халодныя промні павіслі над выемкай, дзе людзі ў чорным канчалі сваю чорную справу. Яно нібы ўсміхалася таму, хто, чвэрць гадзіны назад, прарваўшы смяртэльнае кола няўмольнага лёсу, шпаркім крокам ішоў насустрач новаму дню.

*1959 г.*

10 Зак. 3425

# ПЕРШАЯ ГРУПА КРЫВІ

## I

Пільневіч трапіў у палон не паранены, а здаровы. Пад Мінскам іх часць разбілі, і з узвода засталіся лічаныя людзі. Загінулі камандзіры, і рэдка хто ўратаваўся з байцоў.

...Калі сцямнела, ім загадалі акапацца. Усе былі стомленыя, галодныя, не спалі некалькі сутак узапар, але загад ёсць загад. І яны акапаліся, нарыхтавалі вінтоўкі і апошнія гранаты. Ды галоўнае, чаго нехапала яму,— гэта цвёрдай упэўненасці, што яны нешта тут зробяць, што іх ахвяра прынясе некаму карысць.

Гэтая няпэўнасць жыла ў ім ужо і раней, ён, Пільневіч, нёс яе яшчэ з Клецка, калі іх у панядзелак мабілізавалі. Ён са сваім суседам, нізенькім моцным Ленкаўцом, падаўся разам з невялікай групай людзей на ўсход — спачатку па гасцінцы да Нясвіжа, потым на Стоўбцы, але ўжо не дарогаю, а палямі, вузкімі селавымі дарожкамі і межамі, парослымі дзяцелінай, піжмаю, гарошкам і жоўтым свентыяннікам.

Ужо за Стоўбцамі яны далучыліся да вялікай часці, якая адыходзіла з-пад Баранавіч і ў якой было многа параненых, але такіх, што яшчэ маглі ісці самі.

Па дарозе на Мінск іх разоў некалькі абстралялі варожыя самалёты, але як бы ненарокам, нібы галоўная іх задача была другая. А мо так Пільневічу толькі здавалася, бо ён ужо трохі абстраляўся, і самалёты не так наганялі на яго страху,— не тое, што першы раз, калі здавалася, што кожная куля, выпушчаная з самалёта, ляціць у цябе.

...Акапаліся яны надзейна, а прасядзелі там мо якую гадзіну ці болей. Загадалі здымацца і ісці далей. На душы ў Пільневіча стала яшчэ больш трывожна.

На світанні ў адной вёсцы напароліся на дэсант. Іх так прачасалі з аўтаматаў і кулямётаў, што мала хто

ўцалеў. Астатніх выратавала тое, што побач з вёскай быў палетак жыта, і па ім яны, нямногія, шпарылі, прыгінаючыся, аж да невялічкага ляска, дзе думалі знайсці сабе схованы. Але тут іх сустрэлі так жа, як нядаўна ў вёсцы. Упаў, нават не страпянуўшыся, яго сусед Ленкавец. Пільневіч кінуўся да яго, укленчыў, прыклаў вуха да грудзей. Дарэмна! Разрыўная куля разнесла чалавеку ўсю патыліцу, а кудою ўвайшла — не пакінула ніякага следу, мо праз рот...

«Пахаваць яго, ці што?..— падумаў толькі Пільневіч.— Не пакідаць жа груганам на здабычу...»

Ды тут да яго падбег высокі баец, увесь чорны ад сонца і смагі, крыкнуў: «Хопіць маліцца, думай пра сябе!» Пільневіч неяк механічна ўстаў, як не сваімі нагамі прайшоў некалькі крокаў, азірнуўся на свайго суседа, які яшчэ віднеўся ў траве, выцер рукавом мокрыя ад поту і слёз шчокі, а потым пабег трушком, валочачы па зямлі вінтоўку.

Без перадышкі яны беглі з вярсту, задыхаліся і пападалі на ўскрайку лесу, перад самым полем — неўзараным папарам, утаптаным кароўскімі і авечымі капытамі.

Усіх засталося чалавек дваццаць, пераважна незнаёмых, з розных узводаў і ротаў, камандзір быў адзін на ўсіх — малады белабрысы лейтэнант Крывалап. Пільневіч чуў, як яго называў той чарнявы высокі баец, што адарваў яго ад забітага суседа. У лейтэнанта была закручана брудным закарэлым бінтам кісць левай рукі, але ён сам быў нават вясёлы — худы, шэры ад пылу твар, вочы з гарачкавым бляскам і гэтая, відаць, знарочыстая, праз сілу, весялосць, якая не вязалася з усім тым, што цяпер рабілася.

Калі ўсе сабраліся і пападалі на траву вакол свайго новага камандзіра, ён уважліва агледзеў усіх, прыжмурыўшы вочы, і сказаў з прыкметным дакорам:

— Што ж, браткі, драпалі мы здорава. Калі так будзем і далей старацца, немец нас да самага Дняпра не дагоніць. Трэба трохі збавіць тэмп, трэба...

У такой вось жартаўліва-сур'ёзнай манеры, якая выклікала ў многіх усмешкі, лейтэнант пагаварыў з байцамі мо з паўгадзіны, урэшце некаторыя асмялелі і сталі нават спрачацца з ім. Ён не асаджваў іх, цярпліва выслухоўваў, потым, як спрактыкаваны барэц са

слабейшым працаўнікам, клаў на лапаткі: спрытна і доказна разбіваў усе довады тых, хто з ім не згаджаўся. А часам яго прыпіралі да сцяны. Тады ён апускаў галаву, слухаў, усміхаўся, часам крывіўся, узнімаў вочы на таго, хто гаварыў, глядзеў з насмешкай ці нават са здзіўленнем.

Калі ўсе нагаварыліся, паківаў галавою і спытаўся:

— Ну як, мо хопіць дыспутаў? — І дадаў сур'ёзна, без ранейшай насмешкі: — Вашу крыўду я разумею, бо і мне таксама, як і вам, не ўсё ясна. На многія такія загадкі адкажа сама гісторыя. На ўсё патрэбен час. Вось мы кінуліся ў паніку, адступаем, клянём і лаем усё на свеце... Але і гэта пройдзе, не можа таго быць! Астоімся, дамо фрыцу па зубах, тады пойдзе весялей. І многа з таго, што нам цяпер страшна, здасца нават смешным...

— Каб жа твае словы ды богу ў вушы...

— Калі тое свята будзе...

— І хто яшчэ дажыве...

— Гэта то гэта, але што рабіць вось цяпер, куды ісці?

Апошняе пытанне вярнула ўсіх да клопатаў вось гэтай хвіліны, што трэба нешта рашаць. Усе пазіралі на лейтэнанта і чакалі, што ён скажа. А ён горка ўсміхнуўся, памаўчаў.

— Вы думаеце, што ў маёй галаве на ўсё гатовыя адказы? Я нашу толькі ўсяго два кубікі, і глянуць на ўсё зверху не магу, як і вы... Даць нейкія прагнозы — цяжка. Невядома, з якога боку вецер паверне... Але па ўсім відаць, што мы тут,— ён павёў правай рукою на нядаўна пакінуты рубеж,— доўга не ўтрымаемся, тут няма за што ўчапіцца, няма выгаднае воднае перашкоды... А што да сённяшняга дня, то я лічу, што заставацца тут болей няма сэнсу. Нам трэба злучыцца з якім-небудзь буйным падраздзяленнем, інакш...— ён не скончыў і раптоўна запытаўся: — Дык як, ідзём ці не?

— Ты — камандзір, што ты пытаеш? Загадвай — і мы ўсё зробім,— сказаў старэйшы ў іх групе нескладны з выгляду баец у зусім новым абмундзіраванні.— Так я кажу, хлопцы?

— Правільна кажаш, стары,— адказалі байцы.

— Вядзі нас, Сусанін,— пажартаваў нехта.

Лейтэнант рэзка ўсхапіўся на ногі, абцягнуў гімнасцёрку адною рукою.

— Эх, браткі! Быць не можа, каб я вас не вывеў! За мной!

Байцы дружна падняліся.

## II

Назаўтра раніцай сонца ўжо трохі адарвалася ад зямлі, як ззаду да іх даляцеў гул матораў. Цяжка было адразу разабрацца, што гудзе — неба ці зямля, і лейтэнант загадаў спыніцца. У цішыні выразна чуўся натужны рэў матораў — танкі ці нешта падобнае.

— Нас даганяюць! — крыкнуў малады баец у касцы і са скруткам плашч-палаткі цераз плячо і роспачна глянуў на свайго камандзіра.

— Спакойна, без панікі,— асадзіў байца лейтэнант і крыкнуў: — Рассыпацца ланцугом! Лажыцца!

Байцы ў момант выканалі загад, рассыпаліся ланцужком па полі, тыя, што мелі лапаткі, сталі нават акопвацца.

Машыны ўжо блізка, чуваць перастук і скрыгат жалезных гусеніц, сярдзітае вурчанне матораў. І вось з-за пагорка проста на іх выскачылі дзве машыны на гусеніцах, толькі спераду былі два колы — машыны, закрытыя з бакоў ліставым плямістым жалезам, ашчаціненыя аўтаматамі і кулямётамі.

Пільневіч чакаў каманды страляць, ён ужо шукаў сабе цэлі, але ніхто не страляў — ні [illegible] таго, ні з другога боку. А на пярэднім бронетранспарцёры — Пільневіч зразумеў, што гэтыя машыны і ёсць бронетранспарцёры — за кулямётам стаяў малады русавалосы немец без пілоткі, з закасанымі да локцяў рукавамі мундзіра і скаліў зубы. Пэўна ж, ён добра разумеў, што ў любы момант можа аказацца добраю мішэнню для тых, што залеглі ля дарогі, аднак не хаваў галавы за жалеза. Ён як бы знарок хацеў паказаць — і сваім і чужым,— які ён смелы.

Бронетранспарцёры прытармазілі недзе за метраў пяцьдзесят ад ланцуга байцоў.

Немец за кулямётам ускінуў руку і крыкнуў:

— Эй, ві! Што, спалёхаліся? Уставайт! Пойдзем нах гаўзе, дадому!

Гэтыя словы — хутчэй запрашэнне, чым загад ці грубая лаянка, неяк усіх збілі з панталыку: што ён вярзе, гэты немец? Гаворыць не злосна, а паблажліва, не страляе. Яго словы, хоць і абражалі, але затое давалі нейкую, хоць сабе і малую, надзею на нешта лепшае, чым смерць. І яшчэ: яны паказалі немца не такім ужо людаедам, як чакалася. Жах палону не пакідаў Пільневіча ўсе гэтыя дні, ён чакаў самага страшнага, толькі не такога вось панібрацкага звароту: «Пойдзем нах гаўзе, дадому». Усё здалося цяпер намнога прасцей, чым думалася дагэтуль. А мо проста Пільневіч шукаў апраўдання сабе і ўсім астатнім?

Уставалі нясмела — спачатку адзін-два, потым пачалі ўздымацца ўсе — без вінтовак, адны з узнятымі рукамі, другія — так.

Раптам глухі кароткі стрэл прымусіў Пільневіча ўздрыгнуць і азірнуцца. За некалькі крокаў ад сябе на зямлі ён убачыў свайго камандзіра, які ляжаў ніцма і курчыўся ў перадсмяротнай агоніі. У правай здаровай руцэ яго быў зацiснуты пісталет, нібы ён яшчэ збіраўся адстрэльвацца.

Пільневіч, забыўшыся на ўсё на свеце, кінуўся да лейтэнанта, але рэзкі папераджальны крык—«стой!»— спыніў яго на паўдарозе. Ён стаў, азірнуўся па баках — і паволі пачаў узнімаць рукі.

— Ком гір! Ідзі сюды! — клікаў той самы салдат за кулямётам.— Ты, ты!— І ён паказаў рукою проста на Пільневіча.

У Пільневіча пахаладзела ў грудзях, ногі зусім як адняліся. Ён стаяў некалькі крокаў ад машыны, якая ўжо спынілася, толькі матор аднастайна падыгваў. Ад машыны веяла цяплом.

— Не баісь! — крыкнуў немец і раптам даў кароткую чаргу над галавою Пільневіча — кулі, здаецца, ледзь не сарвалі ў яго пілоткі, завішчалі ля самых вушэй.

Немцы, якія ўжо не хаваліся за бартамі бронетранспарцёраў, гучна зарагаталі, нешта закрычалі, загалёкалі.

З дзверцаў пярэдняй машыны выскачыў, па ўсім відаць, афіцэр у акулярах на гарбатым носе, нешта сказаў салдату за кулямётам. Той выцягнуўся, слухаючы каманду, і кінуўся галавою. Афіцэр зноў сеў у ма-

шыну, а той, за кулямётам, закрычаў, склаўшы далоні трубою:

— Эй, ві! Пастроіцца калёна і шагам арш нах Мінск! Панятно? Мінск, лягер! — і дадаў яшчэ нешта па-нямецку, ад чаго салдаты зарагаталі.

Яны саскоквалі на зямлю, збіралі вінтоўкі, але не клалі ў машыны, а выкідвалі замкі і разбівалі прыклады аб гусеніцы. Байцоў — былых байцоў — сагналі ў калону.

«Вось і палон»,— са стогнам сказаў сам сабе Пільневіч.

Быў спякотны летні дзень, сонца няшчадна паліла, вецер аслабеў і нават не варушыў галінамі на дрэвах. Палонныя рэзалі дошкі, абівалі сцены, засыпалі між дошак пясок, рабілі дах, майстравалі сабе трохпавярховыя нары.

Начынне, якое ім далі, трэба было выкінуць на сметнік — усё вынятае з агню, перапаленае, ад пілы да цвіка.

Палонныя падалі ад голаду, стомы і смагі, але іх падымалі няшчаднымі ўдарамі ботаў ці прыкладамі вартавыя і прымушалі працаваць.

Пільневіч таксама ледзь трымаўся на нагах, але старая сялянская цягавітасць ратавала яго і тут. Ён усё рабіў памалу, спакваля, але цягнуў добра і роўна, як стары вопытны вол: не рваў, але і не спыняўся. І ўсё ж нечым не дагадзіў іх наглядчыку. Той падышоў да Пільневіча, доўга глядзеў, як той прыбівае дошкі і ў яго раз за разам гнуцца ржавыя перапаленыя цвікі, потым вырваў у яго з рук малаток і ўперазаў яму абрэзкам тоўстага чорнага кабелю па плячах. Пільневіча апякло, як агнём, ён крутнуўся, схапіўшыся рукою за тое месца, па якім прыйшоўся ўдар, і тут жа атрымаў яшчэ адзін — па галаве.

«Бум» — зямля тарганулася пад нагамі, і Пільневіч тут жа зразумеў, што ўжо ляжыць.

А немец наступіў яму на паясніцу цяжкім падкутым ботам і пачаў біць то па плячах, то па ягадзіцах, аж, здаецца, разрывалася скура. Сцяўшы зубы, Пільневіч маўчаў, і гэта, відаць, яшчэ болей раз'юшвала немца, ён аж прысядаў і ахкаў, нібы калоў дровы,— біў

кабелем, потым наскамі ботаў пад рэбры, нібы за адзін раз хацеў дастаць з яго душу.

Спачатку Пільневіч хацеў ухапіць немца за ногі, паваліць і задушыць, як сабаку, які нізавошта здзекуецца з яго і б'е, як жывёлу, топча нагамі — не толькі цела, але і душу, і душа баліць болей, крывавіць і крычыць болей, чым цела. Цела маўчала...

Урэшце немец здаволіўся ці проста змогся, кінуў на зямлю палку з кабеля, расшпіліў мундзір і хустачкаю стаў выціраць успацелую шыю і грудзіну.

— Ферфлюхтен! Швайнэрайн! — лаяўся ён і пляваўся, ужо нават не пазіраючы на сваю ахвяру.

У Пільневіча дрыжалі рукі і ногі, з яго градам каціўся пот, з носа цякла кроў. Ён быў як звер, якога загналі ў клетку жалезным прутом, зламалі яго волю, прымусілі рабіць тое, што хочацца гаспадару. Сілы, каб супраціўляцца, яшчэ хапіла б, але інстынкт самазахавання падказваў, што трэба сцярпець, што гэта яшчэ не ўсё, будзе, надарыцца яшчэ нешта цяжэйшае і важнейшае. Бо чалавек у самай горшай бядзе яшчэ на нешта спадзяецца — і часам нездарма.

Хацелася, думалася пра тое, каб выжыць... Вядома ж, ён мог бы забіць гэтага самаўпэўненага немца, ды што з таго? Яго, Пільневіча, таксама забілі б. На дзве смерці болей было б — і ўся розніца. Праўда, ён адпомсціў бы. Але якою цаною? Так трэба рабіць, калі ўжо няма іншага выйсця, калі цябе піхаюць у бездань. Тады не грэх схапіць за горла свайго праціўніка і разам з ім паляцець уніз. А цяпер яшчэ нейкі цень надзеі жыў у яго душы, і думалася, што не ўсё скончана. Не можа быць, каб германцу не скруцілі галавы, няхай яму на пачатку і ўдалося разбіць іх, дайсці да Мінска і далей... Не можа быць, каб нашы не ўстаялі.

Так думаў ён, лежачы на сваіх, збітых уласнымі рукамі, нарах, мацаў сваё збалелае цела, глытаў слёзы крыўды і злосці, успамінаў усё сваё жыццё і ў соты раз праклінаў той няшчасны момант, калі на іх наскочылі нямецкія бронетранспарцёры і яны ўзнялі рукі. А што было б, каб яны адказалі агнём? Ці правільна зрабіў іх камандзір лейтэнант Крывалап, што пусціў сабе кулю? Чаму ён не падаў ім каманды страляць? Пашкадаваў, што яны ўсе загінуць? Але ж сам ён не пабаяўся смерці... Ён як бы сказаў ім сваім учынкам,

што нават на вайне кожны сам распараджаецца сваім жыццём...

Як заўсёды, заснуў ён позна. Сніліся ўсю ноч сны пра дом, бачыў то бацьку, які ўжо даўно памёр, то старую маці — заплаканую, у чорным адзенні, нібы ў жалобе па некім, то братоў, якія невядома дзе цяпер; то бачыў сябе яшчэ зусім малога ў лесе за каровамі, то ўжо дарослага, на полі за плугам. Сны былі кароткія, разарваныя, без усялякай сувязі.

Раніца не прынесла яму ніякай палёгкі — шумела ў галаве, усё цела ныла, было вялае, і тыя мясціны, дзе пахадзіў кабель, успухлі, да іх нельга было дакрануцца.

Ён не паспеў хутка саскочыць са сваіх нараў, і ўдабавак атрымаў кухталя прыкладам ад канваіра.

На пляцы пачалася ранішняя паверка. Кожны атрымаў свой нумар замест прозвішча і імя. Людзей ператварылі ў лічбы. Лічбы намнога прасцей. А людзей многа, і з кожным днём робіцца ўсё болей, становіцца цесна за дротам, а ў бараку няма дзе павярнуцца.

Урэшце мо гадзіны праз дзве ці болей іх, вялізную групу, пагналі з лагера ў лясок, дзе быў цэлы палатачны гарадок, а ля палатак завіхаліся людзі ў белым — адны мужчыны, няйначай, дактары.

«Няўжо тут якая камісія? — падумаў Пільневіч.— Мо будуць адбіраць здароўшых, адпраўляць куды на работу?»

Трывога адразу закралася ў яго сэрца. Ля палатак стаялі столікі, да кожнага з іх падганялі палонных, і дактары ў белым нешта ім там рабілі. Было ціха і трывожна, чуліся толькі кароткія адрывістыя словы панямецку ці сухі бразгат бліскучых незнаёмых інструментаў.

Малады рабаціністы доктар у залатых акулярах спыніў няўважлівы позірк на Пільневічу, нешта сказаў свайму суседу, які браў кроў з трубачкі і наліваў на маленькія квадратныя шкельцы, той усміхнуўся, кіўнуў галавою.

Пільневічу здалося, што доктар у акулярах сумняваецца ў нечым і шукае падтрымкі ў суседа. Але ўжо ў наступную хвіліну той, у акулярах, працёр Пільневічу змочанай у нешта ватай безыменны палец на левай руцэ і, прыставіўшы да яго нейкую бліскучую шту-

ковіну, пстрыкнуў ёю. Нешта балюча стукнула ў палец. Пільневіч тузануўся, хацеў вырваць руку, але немец трымаў моцна. Не гледзячы на Пільневіча, доктар выціскаў з яго пальца кроў і набіраў у тонкую шкляную трубачку. Хацелася спытаць, для чаго ў іх бяруць кроў і чаму так мала. Ён чуў некалі, што ў людзей бяруць кроў і ўліваюць другім, але бяруць памногу, мо шклянку ці болей за адзін раз.

— Ды эрстэ групэы,— даляцеў да яго голас таго немца, што нядаўна ўсміхаўся і ківаў галавою свайму суседу ў акулярах.

Першая група — дайшло да Пільневіча. У яго першая група крыві. Здаецца, у яго лепшая кроў. Але што гэта дае? Ці ён даўжэй выжыве ў гэтым пекле? Ці тут нешта другое?

### III

Што такое першая група крыві, ён зразумеў хутка. Пасля таго памятнага дня, калі іх вадзілі на праверку, жыццё ў лагеры перамянілася. У той жа дзень усіх, хто меў не першую групу, аддзялілі і недзе перавялі. А іх пагналі ў лазню, далі чыстую бялізну, у каго была парваная вопратка — замянілі на цэлую, хоць і паношаную, мо знятую з забітых ці такіх жа палонных, як яны самі. Іх нават пачалі лепей карміць, не ганялі болей на цяжкія работы. За які тыдзень людзі пераменіліся, акрыялі. Толькі ўсім не давала спакою думка: што азначае такая дабрата — нямецкага боку і ці не давядзецца за яе расплачвацца дарагою цаной?

Аказалася, што расплачвацца давялося не абы-чым.

— З нас робяць донараў,— шапнуў Пільневічу аднойчы сусед па нарах.

— А што гэта такое — донары? — для яго гэтае слова было новае, як з чужое мовы.

— У нас будуць браць кроў — для немцаў,— растлумачыў сусед.

Кроў для немцаў! Вось яно як паварочваецца...

Праз тыдзень іх зноў пагналі ў палатачны гарадок, толькі выглядаў ён ужо трохі іначай. Побач палонныя ставілі вялікі барак з новых дошак.

У палатцы іх клалі на падмосткі ля апарата, пра-

бівалі вену ў згібе левай рукі і смакталі кроў. Тоўсты раскормлены немец, які хадзіў, перавальваючыся з нагі на нагу, казаў, што бяруць зусім «малё», не больш, як паўшклянкі, а браць трэба больш.

Калі Пільневіч устаў з палка, у яго пацямнела ў вачах, і ён ледзь утрымаўся, каб не ўпасці. Левая рука стала як чужая, ён не мог яе нават падняць. Увесь дзень ён быў як сонны, і нават назаўтра слабасць не праходзіла. Іх нікуды ў той дзень не ганялі, далі толькі паесці і загадалі разысціся па сваіх бараках.

Раней Пільневіч ніколі не думаў, ці цэніць ён сваю кроў. Здаецца, раней ён ніколі не дрыжаў за сваю кроў, не баяўся, як іншыя. У жыцці здаралася не раз парэзаць палец, рассекчы руку, прабіць нагу.

Ужо дарослы, калі служыў у польскіх салдатах, яму ўвесь час убівалі ў галаву, што ён не павінен шкадаваць сваёй крыві за Жэч Паспалітую, але Пільневіч, сам сабе думаў, што не надта ён, беларус, будзе ліць сваю кроў за паноў, якіх ён у душы інакш не называў, як акупанты. Так ён і зрабіў, семнаццатага верасня кінуў вінтоўку і прыйшоў дадому, ні разу не выстраліўшы за ўсю тую вайну.

Цяпер жа Пільневіч падумаў, што часіна яго надышла, тут трэба рабіць тое, што і ўсе,— стаяць да апошняга. Як і ў кожнага чалавека, у яго галаве тоўпілася тысяча пытанняў: чаму і як, і што будзе, але адказаць на іх ён сам не мог. Надта многа было такога, што чалавек не ведаў зусім, раней яго гэта не цікавіла.

Як бы там ні было, яго ўцягнула ў вір падзей, і ён не баяўся і не вырываўся з яго — хай нясе, хай круціць. І яго круціла... Ужо не раз побач з ім падалі людзі, і не яго віна, што ён сам застаўся жыць дагэтуль і што нідзе нават кроплі крыві не праліў за гэты ўвесь час, хоць смерць не раз пазірала яму ў вочы.

А цяпер... Яго ворагі бяруць кроў, не спытаўшыся,— яго кроў, іх не цікавіць, ці дорага ён яе цэніць...

Пільневіч адчуў, што цяпер ён зусім інакш стаў глядзець на тое, на што раней пазіраў праз пальцы. Ён адчуў, што яго кроў стала для яго самым дарагім, што ў яго ёсць, і стаў яе шкадаваць, як само жыццё. Бо што такое жыццё, як не пульсацыя, як не імклівы бег крыві па жылах? І пакуль ёсць кроў, датуль будзе жыццё.

А цяпер яго жыццё забіралі ў яго па кроплі, па сотні кропель. У яго бяруць кроў. Бяруць адзін раз, бяруць другі... Бяруць тыдзень... Бяруць месяц і больш... Ён стаў як цень — адна скура ды косці... Але не таму, што ў яго бяруць многа крыві, а таму, што бяруць тыя, у каго няма ніякага права на яго кроў... Не, гэтага нельга было дапусціць, гэтага нельга было стрываць, гэта было страшней за ўсякія пакуты і нават за смерць.

А жыць усё-такі хацелася! І мо ніколі так не хацелася, як цяпер. Раней ён пра гэта не думаў, жыў, як і ўсе, працаваў. Жыццё было нечым звычайным, і канца яму не было відаць. А тут жыццё ўвесь час на валаску — і мо таму так яно табе дарагое. Бо і праўда — хіба чалавек не родзіцца на тое, каб жыць? Каб прадоўжыць свой род? Каб паставіць на ногі сваіх дзяцей? А хто прадоўжыць яго род? Няўжо на ім ён і скончыцца?.. Нават гэты смярдзючы агідны барак часам здаваўся раем... Ляжыш, думаеш, успамінаеш... Ты далёка адгэтуль, тут толькі твой тулаб — скура ды косці, а дух твой там, дома, на волі... Ты малады і дужы. Бярэш у рукі сякеру, праводзіш пазногцем па лязе — глядзіш, ці вострая. Ідзеш у лес, каб высеч якую сухастоіну. Ідзеш... Там зацішак, лес разлягаецца ад птушынага спеву, у нос б'е пахам разагрэтай смалы, перапрэлага лісця і лясных красак. Грудзі дыхаюць вольна, ты адчуваеш сябе гаспадаром жыцця...

Потым, напрацаваўшыся ўсмак, вячэраеш, змываеш пот ля калодзежа, апранаеш святочную адзежыну, ідзеш на вячоркі. Там чакае цябе сінявокая Манька, якую ты ўвесь дзень не спускаў з думак...

І раптам у гэты закутак чалавечага шчасця ўрываецца дзікі віхор вайны, нішчыць усё і руйнуе, разбурае звыклы, усталяваны вякамі парадак, сее смерць. Чалавечая кроў цячэ ручаямі і рэкамі...

...Сёння ён ішоў на чарговую экзекуцыю, як на смерць, ногі былі як дубовыя калоды, цьмяна ў галаве складаўся нейкі план...

Усхадзіўся холад, калючы золкі вецер працінаў да касцей. І неба стала непрыветлівае, усё зацягнулася асеннімі цяжкімі хмарамі. Пад нагамі шамацелі перашыя апалыя лісты. Глуха шоргалі сотні ног па ўтаптанай дарозе, чуўся прыглушаны кашаль, цяжкае ды-

ханне суседа. Перад сабою Пільневіч бачыў зямлісты вожык галавы з адтапыранымі вушамі, тонкую худую пасінелую шыю, ссутуленыя плечы ў палапленай, праедзенай потам гімнасцёрцы, што датла выгарала на сонцы і даўно страціла свой ранейшы колер. І зусім нельга было сказаць, ці гэта ідзе стары, гадоў шасцідзесяці, дзед, ці які няшчасны сірата гадоў на шаснаццаць. І куды б ні глянуў — ішлі такія самыя шкілеты, грымелі касцямі, ішлі і не ведалі, дзе ўпадуць.

Тлела, разрасталася, апаноўвала ўсю істоту нянавісць і злосць. Пільневіч не мог схаваць яе, яна відаць была нават у яго позірку на немца, іх канваіра, які ішоў побач з імі справа, трымаючы на жываце свой чорны аўтамат. Ступі толькі з дарогі на крок — і гэты аўтамат — праўдзівей, гэтыя два аўтаматы,— сыпануць у цябе кулямі і ты ўпадзеш, нават не страпянешся...

Урэшце прыйшлі, доўга стаялі ля ўвахода ў будынак. Ад холаду людзі туліліся адзін да аднаго, напіралі на браму, ля якой стаялі вартавыя і прапускалі ў будынак па некалькі чалавек. Непрыкметна для сябе Пільневіч апынуўся ля самае брамы, на яго ўсё напіралі ззаду, і паволі ён ужо зусім насунуўся на вартавога, які стаяў пры браме злева. Той быў зусім абыякавы да гэтага гармідару — ужо звыкся з ім,— але калі Пільневіч насунуўся на яго зусім блізка, салдат выставіў перад сабою аўтамат і магазінам балюча ткнуў яго ў жывот.

Гэты ўдар працяў яго, як электрычным токам. Гэта было штуршком, немец нібы сарваў кручок, на якім трымалася Пільневічава цярпенне.

— Ах ты, нямецкая свіння!

Пільневіч схапіў абедзвюма рукамі аўтамат, а каленам з усёй сілы даў немцу пад ніз жывата. Той толькі войкнуў і адразу асунуўся на зямлю. Як па камандзе, палонныя накінуліся на другога вартавога пры браме, павалілі яго і сталі таптаць нагамі.

Як толькі аўтамат апынуўся ў Пільневічавых руках, ён адчуў сябе другім чалавекам,— нібы перарадзіўся, скінуў з сябе вымушаную пакорлівасць. Гэты халодны інструмент вярнуў яму ранейшую сілу і спрыт. Ён першы кінуўся ў дзверы барака, прабег па

калідоры і апынуўся ў тым пакоі, дзе стаялі ненавісныя апараты і ля якіх завіхаліся людзі ў белым.

— Рукі ўверх, крывасмокі! — закрычаў Пільневіч дзікім голасам і даў чаргу перад сабою. Абслуга пападала на калені, некаторыя ўзнімалі рукі, хоць, напэўна, не зразумелі таго, што выкрыкнуў гэты палонны з аўтаматам. Пільневіч амаль нічога не бачыў і не разумеў, налітымі крывёю вачыма некага толькі шукаў. Ага, вось ён!

— Ты тут, гадзіна?

Пільневіч убачыў таго тоўстага раскормленага доктара, які з першага дня не спадабаўся яму — усё патрыкваў на ўсіх і гаварыў, што «малё», «малё», трэба больш браць крыві з гэтых дармаедаў. Цяпер гэты рыжы кабан сядзеў пад сталом.

— Вылазь! — крыкнуў Пільневіч і паказаў аўтаматам на сярэдзіну пакоя.

Немец нясмела вылез з-пад стала, стаў на калені, а потым зрабіў рух, нібы хацеў абхапіць Пільневіча за ногі. І гэта рашыла яго лёс. Пільневіч даў кароткую чаргу, немец уздрыгнуў і ніцма ўпаў на падлогу, проста ў лужыну свае крыві.

«А якая ў цябе група?» — падумаў зларадна Пільневіч, пераступіў цераз труп і азвярэла стаў біць аўтаматам па ўсіх апаратах, прабірках, ажно стала горача.

Захоплены сваёю разбуральнаю работай, ён не чуў нават, што рабілася ў гэтым будынку і навокал яго: як бахалі стрэлы, ляпалі дзверы, чуліся крыкі, звінелі разбітыя шыбы. Як потым у гэтае бязладдзе гукаў уварваўся гул матораў, як цяжкія крокі патанулі ў гуле аўтаматных чэргаў.

Тое, што ён так удала пачаў, павінна было хутка скончыцца. Але пра гэта ён не ведаў, ды і не думаў. Свет для яго перастаў існаваць.

І раптам ён адчуў, як нехта ззаду, ударам у спіну, пранізаў яго доўгім тупым нажом. Ён дзіка азірнуўся і затуманенымі вачыма ўбачыў, як з дзвярэй у яго цэліўся нямецкі афіцэр без шапкі. Стрэлу ён ужо не пачуў, толькі заўважыў слабы дымок са ствала пісталета. У наступную хвіліну зямля рванулася ў яго з-пад ног, і ён паляцеў у бездань.

*1967 г.*

# ТРЭЦІ ЛІШНІ

I

У абедзенны перапынак малады супрацоўнік выдавецтва Мікалай Васюк спяшаўся на спатканне. Здарылася так, што на суботніку ў падшэфным калгасе ён з першага позірку закахаўся ў адну дзяўчыну, як пасля высветлілася, студэнтку тэхнікума Веру Кавалёнак. У яго было некалькі выпадковых сустрэч з ёю, а перад ад'ездам у Мінск — студэнты яшчэ заставаліся — Мікалай нечакана ўбачыў яе праз акно: Вера трымала на руках дзіця гаспадыні, у якой была на кватэры.

Мікалай паківаў дзяўчыне пальцам, і праз хвіліну яна выбегла з хаты, у адной сукенцы і босая, хоць было ўжо даволі холадна. Ён пажартаваў: ці не рана вучыцца гадаваць дзяцей, а пасля спытаў яе адрас. Яна, доўга не думаючы, сказала, і ён абяцаў, зноў жартам, зайсці калі-небудзь у госці.

І вось Мікалай хадзіў у другі канец горада раз і другі, сам здзіўляючыся сваёй ахвоце, і ні разу не застаў Веры: яна займалася ў другую змену. Урэшце напісаў ёй кароткае пісьмо, у якім прасіў сустрэцца, і цяпер вось ехаў на ўмоўленае месца.

Тралейбус, здавалася, ледзь варушыўся, а прыпынкі былі доўгія, як знарок.

Ён ледзь пазнаў Веру, бо першы раз бачыў яе ў бардовым асеннім паліто, у цёплай стракатай хустцы на русай галаве. Мікалай пайшоў насустрач. Вера здалёк усміхнулася.

Цеплынёй і ласкай павеяла ад гэтай простай дзявочай усмешкі.

— Добры дзень, Вера! — голасам, у якім не тоўпілася радасць, прамовіў Мікалай.— Я ўжо думаў, што не прыйдзеш... Ты атрымала ліст?

Нейкі момант яны моўчкі пазіралі адно аднаму ў вочы.

Нарэшце Мікалай далікатна ўзяў Веру пад руку і прапанаваў:

— Зойдзем у скверык, прысядзем.

Яна кіўнула галавою.

Пад нагамі ціха шапацелі кляновыя лісты, шчодра расквечаныя восенню. Здавалася, што яны яшчэ жывуць, саграваючы непрыветлівую зямлю халодным лістападаўскім агнём.

Маладыя людзі зрабілі круг па скверыку і селі на лаўку. Мікалай распытваў Веру, як жывецца, як ідзе вучоба, ці цягне дадому. Яна бойка расказвала. Усяго паўгода, як яна ў горадзе, вучыцца ў статыстычным тэхнікуме. У мінулым годзе яна скончыла дзесяцігодку, а цяпер у асобнай групе са скарочаным тэрмінам. Жыве ў сваёй стрыечнай сястры, якая тут замужам. Сястра раней працавала, а цяпер дзеці апанавалі...

Вера сарамліва ўсміхнулася. Сумачку-чамаданчык яна ўвесь час круціла ў руках, «кантуючы», і ўсё змества яе з шумам перакочвалася з аднаго канца ў другі.

— Пашкадуй ты гэтую пасудзіну,— сказаў Мікалай і паспрабаваў адняць чамаданчык у дзяўчыны. Ад дотыку да яе гарачых рук Мікалая працяў ток.

Вера падабалася яму ўсё больш і больш. Здавалася, ён бачыў дзяўчыну, якую даўно песціў у сваіх марах.

Маленькі, крыху кірпаты нос, ясныя, з дзіцячым бляскам сінія вочы — усё ў ёй прыцягвала, вабіла да сябе. Яна нясмела апускала вочы пад яго позіркам, а Мікалай, як зачараваны, глядзеў ёй у твар, гладзіў яе тонкія, з доўгімі гнуткімі пальцамі рукі. Яна нібы знарок, каб здзівіць Мікалая, ціха палажыла яму сваю галаву на плячук. У яго грудзях стала раптам горача, сэрца застукала мацней. Хацелася абняць яе, моцна прытуліць да сябе. Але вакол хадзілі людзі. Яны сурова-асуджальна пазіралі на маладую пару, якая знайшла час забаўляцца сярод белага дня на людным скверыку. Абое на момант адчулі няёмкасць.

Непрыкметна праляцела гадзіна. Дамовіліся сустрэцца аж у нядзелю, бо заняткі ў яе канчаліся позна. А быў толькі аўторак!

Развіталіся на тралейбусным прыпынку.

Дні праходзілі марудна, асабліва да шасці вечара. У нядзелю, навёўшы парадак у сваёй халасцяцкай

«гаспадарцы», Мікалай схадзіў у бібліятэку, для прыліку прагледзеў часопісы і свежыя газеты. Хацеў палічытаць што-небудзь сур'ёзнае, але перадумаў. Больш тырчаў на лесвіцы, а то хадзіў па калідорах і разглядаў кніжную выстаўку.

Сустрэча была прызначана на пяць гадзін, а роўна ў тры Мікалай стаяў па білеты — першы раз яны пойдуць разам у кіно! Вольнага часу — паўтары гадзіны. Мікалай рашыў схадзіць у сталовую. Гэта лепшы сродак суняць хваляванне, не адзін раз правераны на практыцы...

«Што ж яна затрымліваецца так доўга?» — пытаў сам сябе Мікалай, калі прайшлі тыя паўтары гадзіны, а пасля — дзесяць, пятнаццаць, дваццаць хвілін. «А можа, зусім не прыйдзе?» У галаву закрадвалася сумненне. Яно авалодвала ім усё больш і больш. «Не можа быць»,— не хацеў мірыцца Мікалай з думкаю, што Вера не прыйдзе.

...Прайшло некалькі дзён. Позна вечарам Мікалай вяртаўся дадому з інтэрната — у яго яшчэ былі там сябры-студэнты.

Ён толькі выйшаў з-за рога вуліцы, як з прыпынку, адрывіста прazваніўшы, крануўся трамвай. Мікалай на хаду скочыў на заднюю пляцоўку пярэдняга вагона. Людзей было мала. Стоячы ля дзвярэй, ён безуважліва паглядаў, як у заднім вагоне хадзілі людзі, робячы прывычны пераход ад увахода да выхада. На лаўках сядзела некалькі чалавек. Позірк Мікалая выпадкова спыніўся на постаці дзяўчыны, што сядзела плячыма да выхада. Мікалаю раптам здалося, што гэта нехта знаёмы. Вось дзяўчына падняла ўгару рукі, тонкімі доўгімі пальцамі папраўляючы стракатую хустку. Сэрца яго страпянулася — ён пазнаў Веру. Вось яна ўстала і пайшла да дзвярэй.

Мікалай пачакаў, пакуль яна сыдзе на прыпынак, і, саскочыўшы з падножкі, накіраваўся следам. У ім змагаліся два пачуцці: радасць ад нечаканай сустрэчы і крыўда за тое, што Вера не стрымала свайго слова. Але крыўда была маленькая і нязначная ў параўнанні з той вялікай радасцю, якая ахапіла ўсяго Мікалая.

«Сёння ў нас будзе рашаючы вечар»,— падумаў ён і праз некалькі крокаў нагнаў дзяўчыну. Яна не здзівілася, насуперак яго спадзяванням, толькі ледзь прык-

метна ўсміхнулася і падала руку. Яны так і ішлі, узяўшыся за рукі, як дзеці. Мікалай пачаў гутарку здалёк — аб нечаканасці сустрэчы, але на языку круцілася другое: спытаць, чаго яна ездзіла дадому.

Аднак ён стрымліваў сябе і спакойна гаварыў аб іншым:

— Я цябе запомніў з першага разу і пазнаў бы, нават не гледзячы ў твар. Рукі ў цябе адметныя. Па іх я сёння цябе і пазнаў. Памятаеш, як у той індыйскай балерыны, што мы глядзелі ў часопісе.

Яна крыва, нібы нехаця, усміхнулася.

— Што мне мае рукі? Магу памяняцца з балерынай. Мне патрэбны моцныя рукі хатняй гаспадыні,— прамовіла яна, і Мікалаю здалося, што ён упершыню чуе яе голас — такая незнаёмая, неўласцівая ёй сумная нота прагучала ў ім.

— Ты збіраешся быць хатняю гаспадыняй?

— А чаму не? Усё да гэтага ідзе.

— Што ты гаворыш? Ты выходзіш замуж?! — амаль не крыкнуў Мікалай.

— Але, выходжу,— нібы знарок спакойна адказала яна.

Ён выпусціў яе руку. Нейкі час яны ішлі моўчкі. Мікалай не знаходзіў слоў. Нібы ад холаду, яго біла дрыготка.

— А хто ж ён? — стараючыся гаварыць спакойна, спытаў Мікалай пасля доўгай паўзы.

— Ты ўсё роўна не ведаеш.

— Скажы, буду ведаць,— спрабаваў ён жартаваць.

— Наш адзін выкладчык...

— Выкладчык... фізкультуры? — чамусьці вырвалася ў яго.

— Матэматыкі... Чаму ты думаеш, што фізкультуры?

— Чаму думаю?.. Ім падабаюцца такія дзяўчаты, як ты,— адказаў Мікалай, нібы выхваляючыся сваім вопытам.

Вера не захацела ці не заўважыла іроніі за кампліментам. Твар яе быў сур'ёзны і засяроджаны.

Нарэшце доўгі высозны плот, які абгароджваў будаўнічую пляцоўку, скончыўся: налева была Верына кватэра. Яны спыніліся на рагу.

Мікалай зноў узяў дзяўчыну за руку, з другой забраў чамаданчык-сумачку і, пазіраючы проста ў вочы, цвёрда спытаў:

— Скажы мне, не крывячы душою: ты любіш яго?

І з трывогай у сэрцы чакаў адказу.

Яна апусціла галаву, раздумваючы, а пасля ціха, але рашуча сказала:

— Не.

Сэрца яго азвалася радасным стукам, але, не выдаючы сваёй радасці, ён суха, з ледзь прыкметным дакорам у голасе спытаў:

— А што ж прымушае цябе ісці за яго?

Вера глянула на яго поўнымі болю вачыма, твар яе рэзка скрывіўся, і яна закрыла яго рукамі.

Тады ён выпусціў з рук сумачку і, прыгарнуўшы да сябе дзяўчыну, стаў цалаваць яе рукі. Яна асцярожна прыняла іх, і ён, п'янеючы, цалаваў яе мокры твар, адчуваючы на вуснах салёны смак слёзаў.

— А мяне ты любіш? — ціха спытаў Мікалай, не выпускаючы яе з абдымкаў.

— Цябе люблю,— прашаптала яна праз слёзы.

Ён цалаваў яе яшчэ і яшчэ, пакуль яна не адказала яму доўгім і гарачым пацалункам.

— Любая, я цябе нікому не аддам. Ты будзеш толькі маёю...

— Позна, Коля...— яна зноў усхліпнула.— Я павінна табе ўсё сказаць... Я ўжо... жанчына.

Гэтыя словы нібы апяклі Мікалая.

— Ты... ужо? — прахрыпеў ён і змоўк.

А між тым, Вера была спакойная, як чалавек, што выканаў свой абавязак. Толькі вочы яе хаваліся ад яго калючага позірку, у якім яна чытала сабе бязлітасны прысуд.

Хвіліну счакаўшы, нібы апраўдваючы, яна загаварыла:

— Коля, ты асудзіш мяне за гэты ўчынак, я ведаю. Але што мне заставалася рабіць? Не з раскошы я дала згоду ісці за яго замуж. Калі ты сам бачыў гора, то ты павінен зразумець мяне. Ён хітры. Ён спачатку адносіўся да мяне як добры дзядзька да сіраты-пляменніцы, а пасля я не заўважыла, як папала пад яго ўладу. Ён купляў мне падарункі, мы разам хадзілі... Ён памагаў мне, хоць я і не хацела гэтага. І вось мы па-

ехалі да маіх бацькоў, ён іх скарыў сваёю вучонасцю і з імі вырашыў мой лёс. Яны далі згоду, што я выйду за яго замуж. Мяне нават і не спыталі. А калі я сказала, што не пайду за яго, бацька ледзь не выгнаў мяне з хаты. «Ты не маеш права абыходзіць свайго шчасця!» Што мне заставалася? Я згадзілася... Праз тыдзень наша вяселле...

Спакойны, роўны тон яе голасу вывеў Мікалая з цярпення. Як можна спакойна гаварыць аб самагубстве? Яна нешта яшчэ хацела сказаць, але Мікалай, схапіўшы яе за руку, крыкнуў:

— Стой, даволі! — І, амаль знізіўшы голас да шэпту, не хаваючы злосці, загаварыў хутка і блытана: — Ты разумееш, што ты робіш, ці не? Ты думала пра сябе, калі згаджалася? Ён купіў цябе! Ён спадабаўся тваім бацькам! — з'едлівым тонам праз сціснутыя зубы цадзіў Мікалай.— А табе ён падабаецца? Ён сам пацікавіўся гэтым? Яму напляваць, любіць яго жонка ці не, абы яна яму была даспадобы. Але гэта пачатак! Ты мала жыла яшчэ на свеце і не ведаеш, што значыць жыць з нялюбым чалавекам. Ты ідзеш на дамашнюю катаргу! Думаеш, хопіць таго, што ён цябе любіць і дасць кавалак хлеба? Хутка гэты кавалак стане табе ўпоперак горла.

Мікалай быў узбуджаны. Ён размахваў рукамі, сцяўшы зубы, наступаў на Веру, адыходзіў на крок, калі яна палахліва адхіналася ад яго, зноў сцішаў голас, кідаў ёй у твар самыя важкія, як яму здавалася, довады.

Вера слухала, не падымаючы галавы. Цяжка было прачытаць на яе апанураным твары, якое ўражанне рабілі на яе палкія словы Мікалая.

— А што ж ты параіш? — нібы ачнуўшыся, спытала дзяўчына, бачачы, што ён не знаходзіць слоў.

— А ты паслухаеш маю раду? — адказаў ён пытаннем.

— Калі яна чаго-небудзь варта...

— Скажы... вы зарэгістраваны?

— Яшчэ не, але ён падаў заяву...

— Заяву трэба вярнуць, пакуль не позна, і... перапісаць. А пасля паедзем да тваіх бацькоў — сварыцца і мірыцца...

Хоць Мікалай гаварыў цвёрда,— не было, аднак,

у яго душы ўпэўненасці ў сваім рашэнні, нібы ўсе словы былі сказаны з гарачкі, з разгону, а не па-шчырасці. І таму, відаць, Вера сэрцам сваім адчула прыхаваны фальш і пасля кароткай паўзы спакойна адказала:

— Не!.. Што скажуць мае бацькі? Як я гляну людзям у вочы? Не, будзе так, як ёсць. Позна...— Апошняе слова прагучала, як прысуд.

— Позна? Не, не позна! Ты не маеш сілы разарваць з ім? І не верыш мне?

Дзівак! Ён не верыў у гэта сам, а хацеў, каб паверыла яна!

Можа, таму Вера няпэўна адказала:

— Не ведаю... Мо і праўда...

Мікалаю хацелася абразіць яе, назваць бязвольнай і безгаловай, але замест гэтага ён сказаў:

— Вось што...— Ён хацеў назваць яе імя, але зрабіў толькі паўзу.— Я свайго слова не забіраю. Ты абдумай усё яшчэ раз. Асабліва аб сабе падумай, аб сваёй будучыні. І тады скажаш мне. Добра?

— Не ведаю,— быў адказ.

— Падумай,— сказаў Мікалай, адчуваючы, што ў грудзях у яго пачынае расці злосць.— Мне пара.

...На работу Мікалай прыйшоў раней за ўсіх і адразу ж узяўся за працу, спадзеючыся заглушыць свае думкі. Але стараннi яго былі дарэмныя. Зноў і зноў ён варочаўся да ўчарашняй размовы з Верай, а сама яна паўставала перад ім, як прывід, засланяючы літары, і ён, здавалася, чуў яе голас, чуў так ясна і выразна, што, уздрыгнуўшы, азіраўся.

Васюк пачынаў чытаць, але праходзіў час, і ён зноў адрываўся ад працы — думкі былі заняты толькі Верай. Мікалай перабіраў усе падрабязнасці іх знаёмства ад першай сустрэчы да ўчарашняга выпадковага спаткання, даваў ацэнку ўсім, здавалася на першы погляд, нязначным фактам, яе паводзінам, словам.

...Суботнік у калгасе. Маладыя дзяўчаты-студэнткі выбіраюць бульбу. Уперадзе ўсіх — прыгожая дзяўчына гадоў дзевятнаццаці. Яна працуе лёгка, без намаганняў, нібы жартуючы. І так увесь дзень. Гэта Вера.

...Бульбу нагружаюць на машыну. Дзяўчаты насыпаюць кошыкі, хлопцы носяць. Вера недасыпае, калі Мікалаю прыходзіцца забіраць у яе. Ён выгаворвае ёй,

а яна ціха адказвае: «Падарвешся»,— а сама чырванее, як мак.

«...Учора наплакалася невядома чаго. Убачыла на двары сабачку — такі самы, як наш. Нейкі жаль ахапіў, здаецца, паляцела б дадому... Яшчэ не адвыкла». І такім вінаватым тонам!

«...Трэба купіць паліто, а я распазычыла ўсе грошы таварышам. Што зробіш? Сама не раз пазычаю».

І яшчэ многа нязначных на першы погляд дэталяў прамільгнула ў яго галаве, але ўсе яны, узятыя разам, малявалі прываблівы, мілы вобраз дзяўчыны, якой дагэтуль яму не давялося сустрэць у жыцці.

Чым больш думаў Мікалай, тым усё больш пераконваўся, што Вера — гэта якраз той чалавек, якога ён даўно шукаў. Яму падабаліся яе наіўная прастата і непасрэднасць, у ёй не было ні кроплі фальшу і штучнасці. Яна не фарбуе пазногцяў і не робіць завіўкі. Усмешка яе — не дзяжурная какетлівая ўсмешка, пад якой хаваецца лёгкадумства, а выяўленне самых шчырых і чыстых пачуццяў. Яе сум — не капрыз распешчанай дачушкі, якой прыйшло ў галаву павадзіць цябе за нос, разыграць сцэну незразуметай асобы, а толькі роздум, толькі адпачынак стомленай маладой душы. Вера для яго — ідэал вясковай дзяўчыны, яшчэ не пазбаўленай першароднага хараства і цнатлівасці. Яна — разумнае чулае дзіця, якому трэба яшчэ расці, вучыцца і многа пазнаць. Гэта яшчэ схаваная, нераскрытая энергія, але яна так шмат абяцае!

Як жа ён можа аддаць гэты скарб, так нечакана знойдзены, у чужыя рукі? Ён застанецца жабраком, з пустой душою, калі яна пройдзе міма і не азорыць яго сваім ззяннем.

Да абеду заставалася хвілін дваццаць, але Мікалай рашыў «змыцца». Тралейбус прымчаў яго ў горад. Перасекшы сквер і трамвайную лінію, Мікалай стаў спускацца ўніз па знаёмай вуліцы. Ён ішоў хутка, гледзячы пад ногі і абмінаючы лужыны. Крапіў невялікі назойлівы дожджык.

Раптам сэрца Мікалая балюча страпянулася: насустрач ішла Вера, трымаючы пад руку... Мікалай спыніўся як укопаны. Вера ішла пад руку з Адамам Жуком, з якім ён гады тры назад жыў у адным пакоі. Адам вучыўся тады на трэцім курсе фізмата. Гэта быў

самаўпэўнены малады чалавек, з высокай думкай аб сабе і сваіх здольнасцях.

— Васюк? — здзівіўся Адам.— Адкуль ты ўзяўся? Здароў! — Ён весела працягнуў Мікалаю шырозную руку, глянуў на Веру і дадаў: — Знаёмся з маёй жонкай.

Мікалай цяжка дыхаў. Збялеўшы, робячы паўзы пасля кожнага слова, прамовіў:

— Здароў... З неба... зваліўся... З жонкай?.. Мы знаёмы... без твайго... дазволу.— І ён кінуў кароткі позірк на Веру.

Яна глядзела сабе пад ногі. Твар яе быў белы, як палатно, а вусны шчыльна сціснуты. Усе трое маўчалі. Адам нібы нешта ўспомніў — ён рэзка насунуў капялюш на вочы: твар яго паволі залівала чырвань.

— Дык гэта і ёсць твой новы знаёмы? — спытаў ён у Веры, робячы націск на апошнія два словы.— А чаму ты не сказала мне, што ён ведае дарогу на тваю кватэру? Я пытаю ў цябе, чуеш? — у голасе Адама прагучала халодная, непрыемная нота.

Вера маўчала. Яна толькі рэзка павярнулася і стала бокам да Адама.

— Паслухай, Адам. Не гарачыся,— звярнуўся да яго Мікалай.— Ты дарэмна на яе нападаеш. Ды яна і не абавязана гаварыць табе ўсё і спавядацца перад табою.

— А табе што да таго? Ёй адвакатаў не трэба! — Адам збіў капялюш на патыліцу, адкрыўшы вялізны, як вітрына, лоб са шрамам-абручом над белымі бровамі.— Я рашаю свае сямейныя справы так, як мне падабаецца.— Голас яго гучаў груба і нядобразычліва.

— Дай адзін раз умяшацца ў твае сямейныя справы. Толькі адзін раз!

— Што табе трэба? — Спытаў Адам сурова.

Мікалай смела глянуў у вочы свайму суперніку і напружаным ад хвалявання голасам дадаў:

— Я павінен сказаць табе, што кахаю Веру...— і асекся.

Нібы скарыстаўшы гэтую замінку, Адам рэзка перабіў яго:

— Мне напляваць, што нехта кахае маю жонку. Я яе законны муж — і знаць нічога не хачу!

— А яна цябе ці кахае?! — амаль крыкнуў Мікалай.— Ты пацікавіўся гэтым ці не? Ты ведаеш, што яна прыносіць сябе ў ахвяру? Ты губіш яе і сябе!

Вочы Мікалая гарэлі шалёным бляскам, а ўсё цела напружылася, нібы ён збіраўся кінуцца на Адама. Засунутыя ў кішэні паліто рукі сутаргава камячылі пальчаткі.

Аднак Адам не спалохаўся. Ён паглядзеў спачатку на Веру, якая па-ранейшаму стаяла збоку ад іх і, здавалася, была безуважнай да ўсяго, пасля акінуў Мікалая халодным позіркам і спакойна, стрымліваючыся, сказаў:

— Не палохай. Не твой клопат. Я ведаю, што раблю. Пойдзем, Вера! — І ён рашуча ўзяў яе за руку. Абмінаючы Мікалая, працадзіў толькі: — Блытаецца пад нагамі...

Толькі цяпер Мікалаю дайшло да галавы, што Вера не прамовіла ні слова за ўвесь гэты час. Яна нібы набрала вады ў рот. Няўжо яна так і будзе маўчаць, няўжо так і пойдзе пад руку з Адамам, не плюне, не скажа яму ў вочы ўсю праўду?

І, трацячы апошнюю надзею, Мікалай нібы вырваў з грудзей набалелы крык:

— Вера! Як ты можаш маўчаць?!

Але Вера не азвалася. Яна пайшла пад руку з Адамам.

## II

Нехта сказаў, што час — найлепшы доктар. Ён лечыць самую глыбокую рану. Мала-памалу вастрыня ўсяго перажытага згладжвалася напластаваннямі новых падзей. Толькі па начах Мікалай доўга не мог заснуць. Было крыўдна і цяжка, часта да горла падступаў гарачы камяк, на вочы самі наплывалі слёзы.

Мікалай сам не ведаў, каго больш вінаваціць у тым, што здарылася. Хутчэй за ўсё — сябе самога, бо не мог доўга рашыцца, прыглядаўся, азіраўся, баяўся прамахнуцца.

Вінават і той, што ўзяў яе. Няўжо ён не разумеў, што дзяўчына ідзе за яго, бо не бачыць іншага выйсця? Яна дала згоду тады, калі яшчэ не была знаёма з Мікалаем. Няўжо Адам такі дурань, што не можа ад-

розніць сапраўднага пачуцця ад кепска схаванай абыякавасці? А можа, ён спадзяецца на свой аўтарытэт, на сваю сілу волі? Можа, ён разлічвае на тое, што простая сялянская дзяўчына будзе рада дастатку і застанецца навек удзячнай яму, як збаўцу? Цяжка сказаць, чым кіраваўся Адам Жук, калі рашыў ажаніцца з Верай, але Мікалай быў цвёрда перакананы, што не ўсё ўлічыў самаўпэўнены Адам...

Аднак пакрысе прыходзіла раўнавага. Час рабіў сваё: залізваў гаючым языком шырокую, на ўсю душу, як здавалася Мікалаю, вечную рану. І, можа, усё на гэтым скончылася б, ды нечакана, як гром з яснага неба, звалілася на Мікалаеву галаву пісьмо ад Веры.

Прыйшоўшы з работы, ён па прывычцы кінуў позірк на стол. Пісьмо! Мікалай, як заўсёды, хацеў адгадаць, ад каго, але не паспеў: сэрца падказала адразу, што гэта яна. Так, гэта Вера! Нешта здарылася, так не можа быць. Яго ахапіла хваляванне. Дрыжачай рукой ён разарваў канверт. Пісьмо было кароткае. Спачатку ішлі традыцыйныя пажаданні шчасця. Наіўная! Яна яшчэ не адраклася ад гэтага трафарэту! За пажаданнямі — усяго некалькі слоў. Яна просіць прыйсці на старое месца а першай гадзіне дня, калі ён не лічыць гэтага прыніжэннем для сябе. Ёй трэба параіцца з ім. І ў канцы — прабачэнне за турботы.

Мікалай цяжка ўздыхнуў. Так, нешта вельмі важнае. За спакойным тонам пісьма чуваць вялікае хваляванне, можа, нават гора.

Заўтра... Што ж яна скажа? Гэтае пытанне не вылазіла ў яго з галавы ўвесь астатак дня і назаўтра да абеду.

...Вера, як заўсёды, спазнілася. Яна выскачыла з трамвая, азірнулася. Цень усмешкі прамільгнуў на яе твары, калі яна ўбачыла Мікалая.

— А я думала, што вы не прыйдзеце... Вы не пакрыўдзіліся на мяне, што я патурбавала вас? — пытала Вера.

Яны ішлі ўверх па вуліцы, слізгаючы нагамі па свежым, але ўжо ўтаптаным снезе.

— Чаму ты са мною на «вы»? Здаецца, не так даўно мы былі на «ты»? Я паспеў стаць чужым для цябе? — дапытваўся ў яе Мікалай.

— Не, проста вы неяк пасталелі і, можа, нават пастарэлі за гэты час.— Вера кінула на Мікалая цікаўны позірк, але не было ў ім ранейшай непасрэднасці і бесклапотнасці.

— Не вы, а ты,— паправіў яе Мікалай і засмяяўся. Яму прыемна было бачыць яе вясёлаю. І тым не менш ён адчуваў, што гэтая весялосць штучная. Ён чакаў, пакуль Вера сама скажа яму «нешта важнае», а яна, відаць, чакала запытання ад яго.

Пасля кароткай паўзы Мікалай нарэшце не вытрымаў:

— Як жа табе жывецца... замужам? Раскажы...

Нібы хмара на сонца, лягла суровая пахмурнасць на яе твар. Вера, здавалася, стала меншай, скурчылася і змізарнела.

Мікалая кальнула ў сэрца гэтая перамена. Ён пашкадаваў ужо, што так рэзка і неасцярожна паставіў пытанне.

Але Вера справілася з сабою, ускінула галаву і спакойна сказала:

— Толькі не радуйцеся майму няшчасцю: я ўжо не замужам...

Мікалай не ведаў, што сказаць. У яго язык нібы прысох да паднябення.

— Што ты га-во-рыш? — трагічным голасам, расцягваючы склады, спытаў Мікалай. Ён проста не ведаў, як сустрэць такую навіну. І сапраўды, радавацца яму ці спачуваць ёй?

Вера тым часам прадаўжала:

— Але гэта не ўсё. Я больш не вучуся. Захварэла мая мама, я павінна была застацца дома, а пасля сама злягла і прабыла ў бальніцы два тыдні...

— Дык гэта здарылася да тваёй хваробы? — перабіў Мікалай.

Ён хацеў спытаць, што ў яе балела, але міжвольна першая навіна засланіла сабою ўсё іншае. Каб загладзіць свой промах, ён тут жа дадаў:

— Прабач, я хацеў спытаць: гэта паслужыла прычынай твае хваробы ці што другое?

— Прычын многа, і якая важнейшая, цяжка нават сказаць. Усё адно да аднаго.

І яна замоўкла, цяжка ўздыхнуўшы.

— А што ў маткі? Яна старая?

— Маме яшчэ трэба многа жыць, ёй усяго сорак пяць год. У яе апендыцыт. І сэрца зусім слабое. Яна баіцца аперацыі...

Так гаворачы, яны прайшлі кіламетры са два, а можа, і больш і агледзеліся тады, калі прыйшлі да вакзала, дзе Веры трэба было садзіцца на аўтобус.

— Я спяшаюся. У мяне такая да цябе просьба.— Вера нарэшце рашылася сказаць яму «ты».— Мне патрэбна кватэра. Калі табе ёсць час, то праведай і перадай мне як-небудзь. Я на пару дзён паеду дадому. Пасля трэба будзе работу шукаць. Пра вучобу няма чаго думаць. І так я вельмі адукаваная.— І яна горка ўсміхнулася, а пасля дадала: — А як ты жывеш? Не жаніўся?

— Хацеў жаніцца, ды ноч малая,— сур'ёзна адказаў Мікалай.

Ён змоўк, хоць хацелася сказаць вельмі многа. Маўчала і Вера. Загаварыў Мікалай.

— Ты мне нічога не сказала. А знаць я хачу ўсё, што ў цябе там... Да нядзелі я пастараюся знайсці табе пакой. З работай цяжэй, але і яна знойдзецца, калі трэба будзе.

Яны цёпла развіталіся, умовіўшыся сустрэцца ў нядзелю.

...Сустрэліся яны, як добра знаёмыя, абмяняўшыся ўсмешкамі. Вера старался быць вясёлай, хоць за гэтай весялосцю відаць быў вялікі душэўны боль. Мікалай заўважыў сам сабе, што не кожны мог бы так трымацца. А можа, гэта легкадумнасць? Нешта не падобна... Даволі было аднаго слова, якое вяртала б яе да надзённых клопатаў і турботаў, як яна рабілася сур'ёзная і задуменная.

Размова спачатку не клеілася. Яны доўга хадзілі па прывакзальным скверыку, пакуль знайшлі лаўку. Нягледзячы на мароз, тут было людна. Голас ■ рэпрадуктара нібы стараўся перакрычаць рознагалосую пераклічку паравозных гудкоў.

— Дык ты, Вера, павінна расказаць мне больш падрабязна, што ў цябе такое. Ты ж была дома... Як маці, можа, папраўляецца? Няма надзеі? Не можа быць!

Мікалай пачаў даказваць, што аперацыя на апендыцыт — глупства, але Вера стаяла на сваім: для маці

гэта небяспечна. Відаць, яна больш ведала сваю маці, а суцяшаць і падманваць сябе не хацела.

Дзяўчына ўсё больш і больш хмурнела і гатова была заплакаць. Мікалай узяў яе руку і ціха пагладзіў. Гэтай маленькай ласкі было даволі, каб Вера зусім расплакалася. Мікалай разгубіўся. Але яна хутка супакоілася, выцерла вочы і цераз сілу ўсміхнулася.

— Без слёз мы не можам. Гэта вы, мужчыны, з цвёрдымі сэрцамі...

— Як хто... Я сам магу пераносіць гора, боль — і нават лёгка. А вось бачыць, як некаму цяжка, не магу. Здаецца, няхай бы ён мне аддаў сваю пакуту, а сам быў здаровы і вясёлы...

А як яна? Як думае жыць далей? Яна не прымае ў разлік Мікалая... Яна лічыць, што ён пераменіўся да яе. Зноў і зноў натыкаўся Мікалай, як на сцяну, на гэты довад. А як ён мог даказаць, што ён застаўся па-ранейшаму аддадзены ёй? О, калі б яна магла зазірнуць яму ў душу, там яна ўбачыла б адну толькі сябе!

Мікалай не знаходзіў слоў, каб пераканаць яе. Не, не, цяпер ён будзе настойлівы, цяпер не будзе доўга разважаць і марудзіць: усё перадумана. Але чаго яна працівіцца?

Нібы ў адказ на яго ўнутранае пытанне, Вера гаворыць:

— Галава ў мяне кружыць і падварочвае пад грудзі... Нешта са мною робіцца...

Мікалай усё зразумеў... Што ж, так і трэба было чакаць.

— Гэтым ты мяне не спалохаеш, Вера, і не адштурхнеш ад сябе. Калі я цябе люблю, то буду любіць і... тваё дзіця.

Апошняе слова ён вымавіў неяк асабліва, нібы яно было іншамоўнае.

— Гэта толькі так здаецца спачатку. Чужое — не сваё,— суха зазначыла Вера.

— А хіба мала сем'яў, дзе дзеці адной маці і не аднаго бацькі і наадварот? Няўжо мы горшыя за людзей? Няўжо ты мне ўсё яшчэ не верыш? — з запалам гаварыў Мікалай.

— Родны бацька не хоча, каб дзіця ўбачыла свет, а што гаварыць аб чужым чалавеку?

— І ты згадзілася? — жах пачуўся ў голасе Мікалая.

— Што ты? Як магла я згадзіцца? Таму мы і разышліся... Ён гаварыў, што мне яшчэ рана быць маткай, што дзіця будзе скоўваць мяне і яго, будзе перашкаджаць працы...

— Вось як... А я ламаў галаву, што за прычына, і саромеўся спытаць...

Мікалай сапраўды пачырванеў, і на твары яго паявіўся выраз бездапаможнасці, які так не падыходзіў да яго суровага выгляду, надаючы яму пяшчотнасці і мяккасці.

Настала кароткая паўза. Але Вера раптоўна ўся сціснулася:

— Я змерзла. Давай паходзім...

Яны снавалі па скверыку сюды-туды.

— Слухай, Вера, што я табе скажу... Вось той час, калі можна паправіць памылку — тваю і маю. Ты рашылася парваць з ім, цяпер табе трэба рашыцца яшчэ на адзін крок. І калі ты мяне лічыш сваім чалавекам, калі ты мною даражыла... і любіш, ты павінна выйсці за мяне замуж. Не, не адгаворвай, што ты не варта мяне, што я знайду дзяўчыну, што ты будзеш з дзіцем...

Мікалаў быў як п'яны. Ён адчуваў, што гаворыць высакапарна, але словы яго ішлі ад сэрца, і ён нічуць не саромеўся іх.

— Ой, як многа ты нагаварыў,— сказала Вера, калі Мікалай зрабіў перадышку.

— Яшчэ не ўсё: мы павінны зарэгістравацца...

— Не, не,— Вера замахала рукамі.— Гэтага я не перанясу, што ты!

— То што цябе палохае? Чаму ты не можаш рашыцца? — дапытваўся Мікалай пасля кароткай замінкі.

— Усё невядомае палохае. Адкуль я ведаю, што мяне чакае з табою? Ды яшчэ я буду не адна... Каму патрэбна чужая бяда, лішні клопат?

— Ты апяклася на малацэ! Ты думаеш, што я жыў як у бога за плячыма, што я не бачыў гора? Ты мяне хочаш спалохаць цяжкасцямі — нібы я іх баюся. Дык ведай, што не цягне мяне раскоша і спакой. Да гэтага я не прывык і да гэтага не рвуся. Я хачу дзяліць

радасць і кавалак хлеба са сваімі людзьмі, з тымі, хто даў мне жыццё і з якімі я вырас. Я не мару аб багацці... Я хачу толькі жыць сумленна і працаваць. Нам будзе спачатку цяжка, гэта я ведаю. Мы будзем пачынаць на голым месцы.

Вера некаторы час маўчала, нібы абдумваючы пачутае.

— Гэта так... Але што ты сказаў бы, каб тое дзіця, якое ты насіў на руках, крычала, хворае, і не давала ўсю ноч спаць? Ды не адну ноч? Ці хапіла б надоўга твайго цярпення? А ці толькі гэта?.. Вельмі многа ўсяго: турбот, клапот. Іх лягчэй пераносіць, калі яны ідуць ад роднага табе дзіцяці.

— Я думаў і аб гэтым, Вера. Я згодзен на ўсё, што мяне чакае з табою. Нічога мяне не спыніць, калі толькі ты згодзішся.

— Мне цяжка рашыцца... Табе прасцей. Але я цябе не разумею: нашто табе так рыскаваць?

Было відаць, што яна вагаецца. Мікалай стаяў на сваім. Паслязаўтра ён прыедзе да яе і перавязе рэчы на новую кватэру.

— Ты згодна? Згодна? — спытаў ён пад канец.

Яна задумалася — здавалася, акамянела. У яе душы ішла барацьба. Замест адказу толькі сказала:

— Мне пара ісці.

Яны пайшлі на аўтобусны прыпынак. Мікалай усё пераконваў яе, што нельга больш адкладваць, хопіць цягнуць... А яна маўчала. Прыйшоў аўтобус. Вера памкнулася садзіцца, але Мікалай затрымаў яе.

— Ты не сказала мне нічога. Ты згодна?

Яе непраніклёны твар выдаваў вялікую пакуту — нібы Вера выбірала паміж жыццём і смерцю.

— Згодна,— вымавіла яна нарэшце.

Мікалаю здалося, што ён сілаю вырваў у яе гэтае кароткае «згодна».

Праз дзень, роўна ў назначаны час, Мікалай пайшоў на яе старую кватэру. Гэта была проста «разведка»: ці многа ў яе рэчаў, ці трэба будзе браць таксі.

Аднак яму не давялося ўбачыць Веру. Кватарантка, маладая жанчына, сказала Мікалаю, што памерла Верына маці.

Яму раптам стала душна, і ён амаль выскачыў з пакоя.

...Праз нейкі час Мікалаю давялося адбываць лагерны збор. Выпала якраз так, што яго накіравалі ў той бок, адкуль была Вера. Надзея на сустрэчу набывала больш рэальныя формы.

Неяк у нядзелю, калі час быў вольны, Мікалай сеў на спадарожную машыну і праз хвілін сорак быў у вёсцы Трысцё. Там яму паказалі, дзе жыве Вера. Хата стаяла далёка ад вуліцы, перад вокнамі быў невялікі сад, агароджаны дротам.

Мікалай гадаў: убачыць ён Веру ці не? Нешта не верылася ў такое шчасце...

Да хаты заставалася крокаў пяцьдзесят, калі дзверы ў сенях адчыніліся. Выбегла дзяўчынка-падлетак і накіравалася проста ў сад, дзе грабліся куры на пасеяных нядаўна градах.

Мікалай пачакаў, пакуль яна расправіцца са стракатым войскам, а пасля накіраваўся да яе.

У вочы яму кінулася вялікае падабенства дзяўчынкі і Веры: такія ж светлыя валасы, гэткі ж выраз твару. Нават голас, калі яна крычала на курэй, здаўся Мікалаю знаёмы. Таму, павітаўшыся, ён адразу спытаў:

— Вы сястра Веры?

Дзяўчынка здзіўлена паглядзела на яго.

— А што вам трэба?

— Я хацеў бы яе бачыць. Яна дома?

— Няма. Хіба вы не ведаеце, што яна замужам? Гэта вы пісалі ёй пісьмы? — У яе голасе загучала сярдзітая нота.

Яна адразу ж паставілася варожа да Мікалая. Яго гэта крыху ўкалола, але ён тут жа рашыў, што яна робіць правільна. Таму ён, вінавата ўсміхнуўшыся, сказаў:

— Я ведаю, што замужам, але ж яна апошні час не жыла з мужам. Таму я і пісаў. А цяпер яна што — зноў жыве з ім?

Апошняе пытанне ён вымавіў так, нібы гэта яго мала цікавіла.

— Жыве...

— І яны добра жывуць?

— Добра,— коратка і рэзка адказала дзяўчынка.

## III

Прайшоў месяц, другі, трэці... Летні адпачынак дома, затым зноў праца... Мікалай крыху развеяў свой сум. І хоць думкі яго ўсё радзей былі звязаны з успамінамі, выкінуць Веру з галавы ён не мог: яна па-ранейшаму займала яшчэ надта многа месца ў яго сэрцы.

Неяк у нядзелю раніцай Мікалай сядзеў за сталом і галіўся. Вось перад акном прамільгнуў паштальён. Мікалай з намыленым тварам выскачыў у сенцы — на лаўцы ўжо ляжалі газеты і ліст. Яму! Ад Веры? Гм... Адваротнага адрасу няма. Нават свой подпіс, які яна заўсёды рабіла на канверце, цяпер сцёрты гумкаю. Што за канспірацыя?

Мікалай нецярпліва адарваў пусты край канверта і выняў маленькі лісток паперы. Як заўсёды, першым стаяла традыцыйнае пажаданне здароўя і шчасця. А далей: «Нядаўна я была дома і даведалася, што ты заходзіў да нас. Прызнацца, я гэтага не чакала... Калі ў цябе ёсць магчымасць, прыходзь... верасня ў гадзіну дня на старое месца. Я табе павінна нешта сказаць. Вера».

Зноў! Няўжо зноў усё спачатку? Роем у галаве закруціліся думкі. Самыя невераемныя малюнкі ўяўляліся Мікалаю.

Надышоў названы дзень. Мікалай быў на месцы на паўгадзіны раней умоўленага часу. Ці хутка прыйдзе Вера? — мучыла Мікалая пытанне. Ці, можа, яна памылілася датай! Ці забыла! Яго ўсхваляванасць узрастала з кожнай хвілінай.

Мікалай быў прыемна здзіўлены, калі ўбачыў, што з трамвая сыходзіць Вера і што яна амаль такая ж самая, як і год назад. Толькі прыгледзеўшыся бліжэй, ён заўважыў, што яна схуднела, а выраз твару стаў яшчэ больш дзіцячы, вочы зрабіліся вялікія і, здавалася, больш глыбокія.

Яны прывіталіся стрымана, але Вера моцна паціснула яму руку. Мікалаю падабаўся гэты мужчынскі жэст у яе характары.

Не згаворваючыся, яны пайшлі ў бок скверыка. Мікалая цікавіла многае, і ён проста не ведаў, з чаго пачаць. Ці мог ён падумаць, што яны спаткаюцца? Ніколі!

Вера сказала, вінавата ўсміхнуўшыся:

— Я крыху спазнілася. Сын мяне не пускаў... Прабач...

Адразу ўсё стала на месца.

— У цябе сын? — У голасе Мікалая было гэтулькі здзіўлення, нібы Верыны словы былі для яго вялікай нечаканасцю.— Даўно?

— Месяц назад. Толькі выйшлі з бальніцы. Праляжала аж тры тыдні...

Мікалай з замілаваннем глядзеў на яе мізэрны твар. Яму раптам стала шкада гэтага дзіцяці, якое так нечакана само стала маці.

— Сядзем, Вера, табе трэба асцерагацца.

Яны занялі пустую лаўку пад клёнам, які ўжо жаўцеў і асыпаўся. Пачыналіся асеннія вятры, але ў зацішку сонца яшчэ прыгравала.

Вера нейкі момант забаўлялася вялікім даўгахвостым лістом, паднятым на лаўцы, а пасля пачала расказваць усё па парадку...

Тэлеграма аб смерці маці яе зусім ашаламіла. Як яна даехала — памятае як у сне. А дома стала яшчэ горш. Думала, што зусім памрэ. У такім стане яна прабыла некалькі тыдняў, пасля крыху папраўілася. Трэба было даглядаць гаспадарку: даіць карову, карміць свіней, курэй. Спачатку ўсё падала з рук. Апошняе гора было непамерна большае за тое, што ёй давялося перажыць.

Бацьку яна не сказала, што не мае намеру ехаць больш да мужа. Але ён сам хутка спытаў у яе, ці доўга яна яшчэ будзе дома.

Тады Вера рашылася і расказала ўсё. Паднялася цэлая бура. Бацька крычаў і грозіў, што прагоніць яе або сілаю завязе туды. Вера слухала і плакала, а пасля дала згоду ехаць да яго бацькоў, куды павінен быў прыехаць і ён сам у адпачынак — хутка пачыналіся канікулы.

Можа, і праўда, што якія бацькі, такія і дзеці. Да яе аднесліся як да чужой. Вера здагадвалася, што тут не абышлося без Адамавай інфармацыі. Яго бацькі жылі яго настроямі, яго думкамі.

Нарэшце прыехаў Адам. Як заўсёды, развязны, нахабны, ён прымушаў яе быць вясёлай, у той час як яе сэрца аблівалася крывёю, калі яна ўспамінала сваю ма-

ці. Аднаго разу ён сілай завёў яе ў клуб. Там ён танцаваў з дзяўчатамі, як кавалер, а яна ўся гарэла ад сораму. Пастаяўшы крыху, яна непрыкметна ўцякла.

Ён прыйшоў позна. Яна прыкінулася, што спіць. Ён груба штурхануў яе ў плячо і падняў такі скандал, што нават суседзям было чуваць. Хацеў прагнаць яе з хаты ноччу за тое, што самавольна пайшла з танцаў.

— ...Я ведала, што не танцы прычына, а што я не паслухала яго і рашыла радзіць... Цэлых два месяцы прамучылася я там, а пасля зноў мы паехалі ў Мінск. Адзін ён яшчэ горшы... Ну, хутка я радзіла... Пасля праляжала ў бальніцы амаль месяц, ён быў у мяне ўсяго тры разы. Казала гаспадыня, што дадому амаль не прыходзіў...

Доўга яшчэ расказвала Вера. Слёзы не раз перапынялі яе гамонку.

Мікалай сядзеў як на вуголлях. Ён прымаў цвёрдае рашэнне: давесці да канца гэтую песню.

— І ты думаеш так жыць далей?

Яна пацiснула плячыма.

— Я і сама не ведаю...

— Ты ўсё не ведаеш. Хопіць, Вера, прыкідвацца. Не з дабра ты пішаш мне лісты. Мы не можам забыць адно другога. Мы павінны быць разам. Ты мусіш набрацца сілы, каб парваць ніці, што вас звязваюць...

— Ніці... Каб жа ніці... Сын скоўвае мяне, я нічога не магу рашыць. Што ён вінаваты? Ён павінен мець бацьку.

— Ты думаеш, ён будзе шчаслівы з такім бацькам? І ты таксама?.. Я табе казаў, ты асуджаеш сябе на сямейную катаргу...

— Ну што ж? Я заслужыла. І павінна адказваць за свае ўчынкі.

— Якая пакорнасць лёсу!

Яны памаўчалі, а пасля Вера сказала спакойным голасам:

— Мы загаварыліся... Пара. Я шукала дзіцячую кансультацыю, заўтра хачу прынясці малога. Стаў крыклівы, не дае спакою па начах.

— Калі ты будзеш?

— Пасля абеду, гадзін у пяць.

— Я прыйду таксама,— паабяцаў Мікалай.

...Толькі пасля развітання ён успомніў, што Вера

так і не сказала таго «нешта», дзеля якога пісала пісьмо. Не сказала... Ён задумаўся. А што ёй казаць? Без слоў ясна, яна хістаецца, шукае апоры. Ён адзіны чалавек, які можа памагчы ў цяжкую хвіліну. А чым памог ёй Мікалай? Ён, як папугай, паўтарае адну фразу: «Ты не маеш сілы парваць з ім».

Назаўтра, адпрасіўшыся з работы на гадзіну раней, Мікалай адразу ж накіраваўся ў дзіцячую кансультацыю. У прыёмным пакоі было некалькі маладых жанчын, і сярод іх — Вера. Яна нахілілася над столікам, на якім ляжала спавітае дзіця, раскручвала коўдру, і малы нездаволена крактаў і трапятаўся.

— Вось мой сын,— ціха сказала Вера, нібы знаёмячы Мікалая. Яна пачырванела. Ёй, відаць, хацелася, каб людзі, якія былі тут, лічылі Мікалая бацькам гэтага дзіцяці і яе мужам, а не проста пабочным чалавекам, а то і горш — палюбоўнікам.

Мікалай з цікавасцю разглядаў дзіця. Яно здалося яму спачатку непрывабным. Твар яго быў маленькі, худы: на ім вылучаліся толькі кірпаты і шырокі носік, рот і вялікія вочы. Усё гэтае «багацце», якое свабодна размяшчаецца на твары дарослага, на гэтым маленькім тварыку ледзь не налазіла адно на адно.

Але першая няёмкасць прайшла адразу, як толькі Мікалай заўважыў няўлоўныя, ледзь прыкметныя рысы падабенства малога да Веры. Усмешка прамільгнула на твары Мікалая.

— Глядзі ты, вочы ў яго твае, рот таксама, толькі нос бацькаў, адразу ўверх задзіраецца. А як яго зваць? Ігар? Ах ты, вараг!

Ён глядзеў на малога і смяяўся, а той таксама скрывіўся, пускаючы сліну і паказваючы голыя чырвоныя дзясны.

Вера раскруціла яго і, узяўшы на рукі, пайшла на прыём.

Праз хвілін пятнаццаць Вера вярнулася. Малы плакаў, а яна гайдала яго і старалася супакоіць. Аднак гэта было не так лёгка. Яны разам пачалі яго спавіваць. Рухі ў Міколая былі нязграбныя і няўпэўненыя, ён баяўся сваімі жорсткімі пальцамі моцна ўзяцца за гэтае далікатнае, крохкае цельца. Вера ж упэўнена выконвала ролю маці, абвіваючы малое пояском, асцярожна пераварочваючы яго з боку на бок, гаварыла

пяшчотныя словы і час ад часу цалавала ў заплаканы тварык.

— Сынок мой, ты спалохаўся доктара... Не бойся, мой маленькі, з табою мама, яна не дасць цябе ў крыўду...

Мікалай слухаў гэтыя бясхітрасныя словы, і яму здавалася, што ён з кожным часам ясней разумее Веру, разумее яе пачуццё маці, глыбокае і шчырае.

Праз некаторы час яны ўжо ішлі да трамвайнага прыпынку. Вера асцярожна нясла на руках малога, які спаў. Нічога сур'ёзнага ў яго не знайшлі. Трэба было толькі купіць дзіцячага крэму. Заўтра Вера збіралася прыехаць у аптэку, і яны зноў дамовіліся сустрэцца. Таму Мікалай не чапаў балючага пытання, а гаварыў аб чым папала. Вера была вясёлая, і здавалася, бесклапотная. Ён купіў ёй цукерак і праводзіў аж да самай кватэры, і яна не пярэчыла.

Мікалай пераконваўся, што Вера адчувае ў ім патрэбу, яна забывае аб сваім горы, адводзіць душу, смяецца, нават жартуе. Яна сама прызналася, што з ім яна адпачывае ад дамашняга прыгнечання. Дома яна не чуе добрага слова, не бачыць усмешкі і сама маўчыць. Адзіная яе ўцеха — гэта сын.

А Мікалая самога ўсё больш і больш цягнула да яе. Яму таксама было з ёю прыемна і весела. З кожнай новай сустрэчай Мікалай усё больш зачароўваўся Верай, і думкі аб ёй не пакідалі яго ні на хвіліну.

«Нарэшце я дамогся свайго, Вера не стане больш вагацца»,— думаў Мікалай. Цяжкую дарогу яны прайшлі, шляхі іх скрыжоўваліся, зноў разыходзіліся і вось нарэшце зноў сышліся, каб пайсці разам. Цяпер або ніколі!

Такія думкі не пакідалі Мікалая да наступнай сустрэчы. І вось яны зноў разам. Схаваўшыся ад асенняга ветру, яны сядзяць у вакзале разам з шумнымі пасажырамі. Вера зноў расказвае аб сабе, аб сваім жыцці. Апошні час яна гаварыла многа, нібы хацела нагаварыцца надоўга, выказаць усё набалелае.

Яе муж... Як ён не падобен да таго, якім сябе маляваў у размовах з ёю! Сціплы, сумленны, добры — такім ён заўсёды выстаўляў сябе. Як ён будзе любіць яе, як яны будуць добра жыць! А што на праўду? У гэтага сціплага было не менш трох жонак, законных і неза-

конных. І куды падзелася яго шчырасць! Цяжка пазнаць чалавека, а яшчэ цяжэй верыць у тое, што ён гаворыць.

— Ага, то ты і мне не верыш? — падхапіў Мікалай.

— Пасля ўсяго — цяжка. Ты ўпэўнены, што ведаеш сябе?

— Каго-каго, а сябе, мне здаецца, я ведаю,— гаворыць Мікалай, але ў яго такое адчуванне, нібы ён на споведзі ці на экзамене.

— Во, во,— сурова сцвярджае Вера,— табе здаецца. У цябе ў жыцці ўсё ідзе так, як ты хочаш і думаеш?

Мікалай задумаўся.

— Не, хутчэй наадварот...

— Ну, бачыш. Ты ўяўляеш сабе наша сумеснае жыццё ў яркіх фарбах і не хочаш бачыць ценевых бакоў. А яны заўсёды будуць. Аб іх я ўжо не раз гаварыла, але ты не хочаш слухаць. Я табе не сказала яшчэ аб адным — аб мужчынскай рэўнасці. Ты сам мужчына і павінен ведаць лепш за мяне, што гэта такое.

Мікалай адчуваў, як ён паволі пакрываецца потам. Яму стала горача. Такое ён чуў ад Веры ўпершыню.

— Што? Ён раўнуе? — Мікалай здзіўлена пазіраў на Веру.— Вось гэта навіна...

— Навіна... А для мяне гэта не навіна ад таго часу, калі ён даведаўся, што мы з табою знаёмы.

Мікалаю раптам стала сорамна за сябе. Не заўважыць слана! Вось гэта назіральнасць і глыбіня аналізу!

— Чаму ж ты мне раней не казала? — нібы за саломінку, хапаецца Мікалай за гэты довад, і сам адчувае, што пытанне лішняе, нікчэмнае.

Яна дакорліва ківае галавою і ўсміхаецца:

— Хоць табе спакайней было, а мне ўсё роўна.

Мікалай бачыць горкую праўду яе слоў і нічога не можа сказаць у сваё апраўданне. Гэтая «навіна» збіла яго з тропу, і ён на момант згубіў нітку размовы.

Вера заўважае яго замяшанне, і ёй, відаць, робіцца шкада Мікалая. Але яна яшчэ не скончыла свае думкі.

— Праўда, у яго былі падставы раўнаваць, ён ведаў, што я атрымліваю твае лісты, што мы сустракаемся. Ён нават збіраецца пераехаць у другі горад, каб згубіць след. Яму проста сніцца, што я хаджу да цябе, што толькі і чакаю, каб ён пайшоў на работу. Ён не

верыць ні аднаму майму слову. Ён нават думаў, што я раджу не ад яго...

Тут Вера змоўкла і апусціла вочы. Словы проста сарваліся з языка, яна не думала іх гаварыць.

Мікалай рэзка павярнуўся да Веры, гучна і сярдзіта спытаў:

— Як ён смеў так падумаць?!

Вера дакранулася да яго рукі: цішэй.

Мікалай азірнуўся па баках, убачыў накіраваныя на сябе позіркі пасажыраў і больш спакойна сказаў:

— Ён заслугоўвае толькі пагарды... І пасля ўсяго ты яшчэ думаеш з ім жыць? Гэта проста дзіка, гэта пачварна... Пражыць усё жыццё без даверу, пад наглядам, як у турме...

— Ну што ж, як прыйдзецца.

— Зноў гэтая пакорнасць,— панура заўважыў Мікалай і раптам ажывіўся: — А я для цябе нічога не значу? Ты думаеш, што я перамянюся да цябе?

Злосць зноў пачынала разрастацца ў грудзях Мікалая. Ён ніяк не мог пабароць недаверу ў гэтай упартай істоце. Перадыхнуўшы, ён працягваў:

— Я ведаю: ты намякаеш, што я таксама буду раўнаваць, і ты скажаш, што ў мяне нават больш падстаў, чым у яго. Загадзя гавару табе: гэтага не будзе. Я не раўную да мінулага.

— А адкуль я магу ведаць, чаго не будзе?

— Вера, ты захварэла шкодным хваробай. Ёсць толькі адзін доктар, які цябе вылечыць,— гэта я. Ты павінна ўсё зразумець і рашыць канчаткова. Вось мы заўтра і вырашым усё. Ты павінна адолець свой страх. Прыйдзеш заўтра?

Ён бачыў, што яна вагаецца. І Мікалай спалохаўся, што ўжо больш не ўбачыць яе. Таму яшчэ больш настойліва ён паўтарыў пытанне.

— Прыйду,— быў адказ.

Але чамусьці ў глыбіні душы ён не верыў яе слову: два разы паверыў і памыліўся.

Пераезд... Па сутнасці, яна хацела сказаць толькі гэта. А выйшла так, нібы не ў ім уся соль... Бедная, страціла веру. Але чаго ёй баяцца? Ці гэта асцярожнасць? Ці вернасць абавязку? Цяпер кожная жанчына выстаўляе сябе Тацянай... Як цяжка...

Прайшоў дзень. Зноў Мікалай стаіць і чакае, пакуль

яна выйдзе з аўтобуса. Нешта затрымліваецца. Пяць, дзесяць, пятнаццаць хвілін. Мікалай пачаў непакоіцца. Сёння ён не прыслухоўваўся да ўнутранага голасу і не гадаў, прыйдзе яна ці не. Проста яму не было часу. Цяпер ён верыў больш гадзінніку, чым сабе. Чым больш аддалялася стрэлка ад лічбы «І», тым менш надзеі заставалася ў яго сэрцы.

Дваццаць пяць хвілін... Мікалай пастаяў яшчэ трохі і, замест таго каб ехаць на работу, накіраваўся да аўтобуса. Праз нейкі час ён быў на Верынай кватэры.

На кухні, куды ён прайшоў па вузкім калідорчыку, пахла печаным салам. Каля прымуса варушылася пажылая жанчына. Яна падалася насустрач Мікалаю, калі ён спытаў у яе, ці тут жыве Жук Адам, бо прымус заглушаў словы, і паказала рукою на дзверы.

Мікалай нецярпліва пастукаў. Яму здавалася, што сэрца стукае мацней і гэта на яго стук у пакоі адазваліся крокі.

Дзверы адчыніла Вера. Вочы яе страшна расшырыліся. Яна застыла на месцы, загарадзіўшы ўваход. Мікалай лёгка ўзяў яе за руку і, адхіліўшы з дарогі, рашуча прайшоў у пакой. Ён адразу убачыў Адама, які чагосьці схіліўся над чамаданам. Пачуўшы, што нехта ўвайшоў, ён выпрастаўся — твар яго быў барвовы — і паволі пачаў бялець, нібы кроў адліла ад галавы. Вера падышла да калыскі. Мікалай моўчкі пазіраў на Адама і паволі набліжаўся да яго. Ён разумеў, што парушае ўсе нормы разумнай маралі: ён прыйшоў да чужой жонкі сярод белага дня, не знаючы сораму і сумлення. Мікалай з неймавернай вастрынёй адчуў на момант, што ён тут лішні. У яго цяпер было неадольнае жаданне павярнуцца і выйсці, але... што будзе!

Ён ступіў яшчэ крок.

— Што табе трэба? — спыніў яго суровы голас Адама, як тады, першы раз.

Вось яны стаяць адзін перад другім, былыя прыяцелі, а цяпер супернікі, лютыя ворагі, стаяць і свідруюць вачыма адзін аднаго.

Мікалай ледзь расцяў зубы і глухім ад хвалявання голасам загаварыў:

— Ты робіш памылку... Вера цябе не кахае... Яна будзе маёю... Гэта я прыйшоў табе сказаць...

У Адама заварушыліся ноздры шырокага носа, а

вусны пачала крывіць сутарга. Вера рванулася ад калыскі, але спынілася, чакаючы.

— Не будзе яна тваёю, пакуль я тут, зразумеў?..

І Мікалай не паспеў апамятацца, як Адам, коратка адвёўшы руку, ударыў яго справа ў сківіцу. Мікалай не заўважыў, калі апынуўся на падлозе. Амаль перад самым сваім носам ён убачыў Адамавы ногі ў шырокім карычневым клёшы. Як звер, Мікалай ірвануўся наперад, прыўзняўшыся на локцях, левай рукой абхапіў ногі вышэй костачак, а правай з усёй сілы ўдарыў Адама ў жывот. Адам зрабіў рух нагамі, нібы хацеў адступіць на крок, каб захаваць раўнавагу, але ўдар быў моцны, а ногі заціснуты, як клешчамі. Адам з грукатам паляцеў на падлогу. Яшчэ доля секунды — і Мікалай схапіў свайго праціўніка за горла.

Раптам ён адчуў, што яго нехта цягне за каўнер, а да слыху, як з-пад зямлі, даляцеў дзікі крык. З вялікай цяжкасцю да затуманенай Мікалаевай свядомасці дайшло, што гэта крычыць Вера. Ён нібы апрытомнеў. Яшчэ шалёнымі вачыма ён глянуў на Веру і ўбачыў на яе твары страх — страх за жыццё свайго мужа, бацькі яе дзіцяці.

Мікалая нібы асляпіла маланка: толькі цяпер ён зразумеў усё!

Ён адпусціў пальцы. Яму стала крыўдна за ўсе намаганні, што прапалі марна, а яшчэ горш — сорамна і балюча за парушаны спакой гэтай сям'і.

Скрыгануўшы зубамі, як п'яны, выйшаў ён на вуліцу і, сплёўваючы крывёю, накіраваўся ў горад. У варотцах яго дагнала пажылая жанчына, што была на кухні, і падала яму шапку. Ён тупа глянуў на жанчыну і, нават не падзякаваўшы, пайшоў.

Было цяжка на сэрцы, і разам з тым ён адчуваў нейкую незнаёмую палёгку. Нарэшце прыйшоў канец гэтай доўгай, заблытанай і незразумелай гісторыі!

*1957 г.*

# АД ШЧАСЦЯ ТАКСАМА ПЛАЧУЦЬ

Дожджык быў малы і радкавы, але калі парывамі налятаў вецер, то невялікія і рэдкія кроплі секлі ў твар, як шротам.

«Настаў каўнер»,— здзекаваўся над сабою Баран. Ён з паўгадзіны назад выскачыў з кватэры толькі ў пінжаку, а жонка наўздагон крыкнула, хоць перад гэтым яны і пасварыліся, каб апрануў плашч, бо на дварэ дождж.

Сапраўды, ён адразу трапіў пад дождж, хоць сабе і невялікі, і неяк раптам астыў. Сварку ён лічыў ужо дробязнай, каяўся, што нагрубіў жонцы. Ды што — не варочацца ж назад! Трэба мецць сваю лінію і не адступацца ад яе.

Ужо змяркалася, бо колькі таго дня восенню? Калі б не гэты назойлівы дожджык або хаця каб плашч і капялюш, можна было б гадзіны дзве паснаваць па вуліцы — і ўсё стала б на месца. А так... Ён успомніў, што можна пакатацца. Звярнуў да трамвая — куды бліжэй. Сеў на той, што падышоў першы — яму было ўсё роўна, куды ехаць. Сядзеў пры акне і стараўся ні аб чым не думаць, пазіраў на рэдкіх прахожых, на бясконцую плынь машын, ды думкі ўсё роўна круціліся каля аднаго. «Каб было хоць за што... Ёй ніколі не дагодзіш. Хай ідзе ўсё як найлепш,— яна знойдзе да чаго прычапіцца. Як ліхі начальнік... То была цесная кватэра, то мала прыносіў грошай, то не хадзіў з ёю нікуды, то не памагаў гадаваць дзяцей, то пасылаў многа грошай сваім бацькам. І не дурная ж баба, а ўсё выпорвае нейкую дрэнь, не дае ні мне спакою, ні сабе... А мо ёй так весялей жыць? Можа... Толькі да д'ябла такую весялосць!»

Ён глянуў у заплаканую шыбу трамвая і здзівіўся— як далёка заехаў!

На наступным прыпынку ён злез з трамвая, пастаяў трохі, паглядзеў на непрыветлівае неба, якое, аднак, пачынала святлець, і накіраваўся да бліжэйшага кінатэатра. Ён часта так рабіў, калі быў не ў гуморы: прыходзіў у кіно, браў білет на абы-якую карціну, сядзеў дзве гадзіны, а пасля каб хто яго спытаў, пра што там і чыя карціна, ён не сказаў бы.

Гэты раз ён нават глянуў на шыльду — ішоў франка-іспанскі фільм «Новы Дон-Жуан». Хутка павінен быў пачацца сеанс, а каля касы стаяла ладная чарга. Без надзеі на тое, што білет яшчэ можна дастаць, Баран стаў у чаргу.

За ім адразу спынілася жанчына, ён нават не азірнуўся, але яна сказала ціха:

— Каму лішні білецік?

Баран адразу павярнуўся да яе.

— На які сеанс?

— На гэты...

Да яе падступіла некалькі чалавек, але Баран сказаў:

— Білет бяру я.— І звярнуўся да жанчыны: — Колькі вам?

— Дваццаць капеек.

Ён трымаў у руцэ рубель, а ў яе не аказалася рэшты. Тады ён пайшоў да касы, але ля акенца была такая цесната, што ў яго не хапіла смеласці лезці туды. На шчасце ён заўважыў, як у чарзе дзве дзяўчыны падлічвалі дробныя грошы, і папрасіў іх размяняць рубель.

Потым ён аддаў жанчыне тыя дваццаць капеек і ўзяў у яе білет. «2 рад, 9 месца»,— прачытаў ён на білеце. Звычайна ён любіў сядзець ззаду, а тут такая павага — другі рад. Ды што? Вочы ў яго пакуль што свяцілі няблага, можна глядзець і з апошняга, і з першага рада.

Захацелася піць, ён падумаў пра буфет, але празвінеў званок, і трэба было ісці ў залу.

Мітусня, гоман, стук і скрып крэслаў, тупат ног. Чапляючыся за чужыя калені, Баран урэшце дабраўся да свайго месца. Справа ад яго сядзеў пажылы мужчына, злева месца яшчэ пуставала. Але вось прабіраецца невысокая, апранутая ў шэрае габардзінавае паліто жанчына, спыняецца ля яго, глядзіць у свой білет і

садзіцца побач. Толькі цяпер Баран зразумеў, што гэта тая самая жанчына, якая прадала яму білет.

Святло доўга не гасла, ён пакруціўся на месцы, скоса некалькі разоў глянуў на суседку і сказаў, павярнуўшы да яе галаву:

— А ведаеце, каб не вы, я застаўся б без білета. Аб'яўляю вам за гэта падзяку.

Жанчына нешта адказала — ён не разабраў.

— Што, што вы сказалі?

— Без падзякі можна жыць...

— А без чаго нельга?

— Без грошай...

— Ясна... Таму вы і ўзялі другі рад,— паспрабаваў жартаваць Баран.

Святло пагасла.

— Вось вам і ясна,— пачуўся голас суседкі ўжо з цемры.

Баран нічога не адказаў — пачаўся часопіс, як правіла, нецікавы. За ім, без усякага перапынку, адразу фільм. Каляровы, з Фернандэлем — «Казімірам».

Спачатку Баран сядзеў спакойны, нават абыякавы, але патрохі фільм захапіў яго. Ён любіў гэтага дзівака Фернандэля, такога незайздроснага знешне, ды прывабнага і чалавечнага душой. А тут ён выступаў яшчэ ў такой незвычайнай для сябе ролі — слугі Дон-Жуана. Зганарэль — Фернандэль! Яны нават блізкія па прозвішчах! У тым месцы, дзе Зганарэль «праводзіў» паядынак пакрыўджаных мужоў, Баран проста канчаўся ад смеху, тупаў нагамі і хапаўся за жывот. Суседка злева некалькі разоў злёгку стукала яму рукою па плячы, але ён не сунімаўся.

Дзве гадзіны — усяго толькі дзве! Які жаль! Баран нехаця ўстаў са свайго месца, працёр вочы, разгледзеўся. Ён астаўся пасярод свайго рада адзін. Справа быў відзён яшчэ той высокі пажылы мужчына, яго сусед, злева жанчына ў шэрым асеннім паліто і ў яркай касынцы. Баран скіраваў улева. Ля дзвярэй, як звычайна утварыўся затор, і ён нечакана для сябе апынуўся побач з суседкай. Яна азірнулася і глянула на яго з усмешкай.

Яны выйшлі на двор.

І тут Баран адчуў у сабе нейкую смеласць. Ён без дазволу ўзяў яе пад руку і спытаў:

— У які вам бок?

Жанчына вызваліла руку.

— Дзякую, я пайду адна... Мне тут блізка...

— Ну што вы? — Баран адразу збавіў тон.— Я вас не пакрыўджу. Толькі правяду. Тым болей, што блізка.

Жанчына засмяялася:

— Хвалю за шчырасць.

— Я што думаю, тое і гавару...

— Ну, вы так смяяліся!

— А, сёння я насмяяўся. Даўно не меў такога свята... Дайце руку, а то я ў гэтай цемры згублюся.— Ён узяў яе пад руку, і яна болей не вырывалася.

Так яны і пайшлі. Дождж перастаў, хмараў на небе амаль не было, толькі часам праляціць якая адна, пацярусіць дробнымі кроплямі. Толькі вецер падняўся яшчэ большы. Ці не ён гэта разагнаў хмары, ачысціў неба?

Яны ішлі па гарадской ускраіне, якая нагадвала вёску: хаты, хаткі, агароды, сады, брэшуць сабакі на ланцугах, недзе нават заспяваў певень. І вуліца пясчаная, на калдобінах, без тратуараў. Ад дажджу пад нагамі слізка. Паабапал, як ганаровая варта, выстраіліся платы.

Перад доўгім аднапавярховым прысадзістым домам з двума ганкамі жанчына спынілася.

— Чаго вы сталі? — здзівіўся Баран.

— Я тут жыву...

— О, дык у вас вялікая хата.

— Як бачыце,— зусім сур'ёзна адказала жанчына.— Дзякую, што правялі, а то я баялася б.

Барану хацелася падпусціць ёй шпільку і сказаць што-небудзь такое: «Дык вы знарок узялі два білеты, каб знайсці праважатага?» — але яна сама апярэдзіла яго:

— Вы не падумайце, што я гандлюю білетамі. Проста так выйшла. Я ўзяла білет і на сваю суседку, не ведала, што яна ўжо бачыла гэты фільм. Давялося ісці адной і прадаваць лішні білет.

— Мала ж вы на ім зарабілі...

Так яны сталі хвілін дзесяць, гаворачы абы-што. Ён бачыў, што яго новая знаёмая не надта спяшаецца дадому, але і не вядзе яго да ганка, дзе пад вялізнай таполяй стаяла ўкапаная ў зямлю лаўка.

Баран прыгледзеўся зблізку да сваёй суседкі. На выгляд ёй было пад сорак, мо трохі менш. Яна была моцная фігурай, грудастая, чарнявая, з буйным тварам, крыху гарбаносая, з вялікімі белымі зубамі і шырокім ротам. Нават рука яе была моцная, рабочая, з тоўстымі пальцамі і абрэзанымі да жывога пазногцямі.

— Нешта я не бачу ў вас манікюра.

— Бо цёмна...

— Пачакаем — павіднее.

— А што скажа жонка?

Баран раскрыў рот ад здзіўлення і наіўна спытаўся:

— А што, хіба відаць, што я жанаты?

— Пэўна ж, відаць...

— А па чым вы пазналі?

— Не скажу...

— Няпраўда. Я заядлы халасцяк. І буду ім да самай смерці,— стараючыся збіцца на жартоўны тон, працягваў Баран. Але жарту не выходзіла, тон быў кіслы. А мо гэта было і лепш?

— Усе вы халасцякі ля чужое спадніцы,— перабіла яна грубавата.

— То што, мо паказаць пашпарт?

— Навошта? Відаць пана па халяўках.

— Значыць, верыце і так?

— А як жа! Адразу!

— Вось і добра! Мы хутка з вамі дамовімся. Ці не праўда?

— Я на вашай праўдзе не была,— сказала яна фразу, так пашыраную ў вёсцы.

— Ах, так? Ну, бывайце!

Ён па інерцыі падаў ёй руку. Яна моцна, па-мужчынску, зашчаміла яго пальцы ў сваёй далоні і спытала вінавата:

— Вы пакрыўдзіліся?

— Ды не...

Яны не стараліся разняць рукі — ні ён, ні яна.

— Вы не хочаце, каб я болей пабыў з вамі? — спытаў Баран, хоць думаў спытаць: «Вы хочаце, каб я застаўся з вамі?»

— Я так не сказала... Наадварот, з вамі мне весела.

— Гм...— Баран не ведаў, што сказаць. Яму прыемны быў гэты бясхітрасны камплімент.— Я з вамі

таксама не паспеў засумаваць. Толькі што халаднавата.— І ён паглядзеў на неба, на шумлівую таполю, пад якой яны стаялі.

— А чаго ж вас пагнала раздзетага?

— Ды...— У яго чуць не зляцела з языка: «Жонка казала апрануцца, але я не паслухаў». Спахапіўся і працягваў пасля паўзы: — Думаў, што цёпла будзе.

Яна ўважліва глянула на яго, нібы нешта хацела разгледзець у паўзмроку.

— Гэта я вінавата, што вы змерзлі,— шчыра пашкадавала яна і нечакана пагладзіла яго руку. Ён прытуліў яе да грудзей, асцярожна дакрануўся вуснамі да яе шчакі. Пасля да вуснаў...

— Перш чым цалавацца, не грэх было б пазнаёміцца,— упікнула жанчына. Але вам, відаць, усё роўна з кім...

— Якраз і не. Я даўно хацеў у вас спытаць...

— Пытайце, хто вам не дае?

— Ну, дык скажыце, як ваша імя?

— Хіба гэта так цікава? — спрабавала яна адбівацца, але ён бачыў, што яна толькі адцягвае час.

— Пэўна ж, іначай не пытаў бы...

— Тады прыйдзецца сказаць. Зваць мяне Нюра. Нюра Нядзелька.

— Нядзелька? Ух, як звонка! Як песня жаўранка! А вось у мяне такое прозвішча, што вы ахнеце: Баран! Бэ-э-э, Баран. Але прашу мяне называць Ба́ран.

— А што, вы пшэк?

— Ніякі я не пшэк, проста прывык.

— Не кажыце, цяпер многія так: Казёл, Баран, Бугай — сталі сябе на чужы лад называць. Абы не пасвойму.

— Я ім не суддзя... У кожнага свая галава...

Нюра Нядзелька нечакана зарагатала. Баран здзіўлена паглядзеў на яе.

— Чаго ты? Прабачце, чаго вы?

— Нічога.— Яна прыглушыла свой смех.— Можам і на «ты», я не сярдую. На «ты» неяк прасцей. Праўда?

— Давай на «ты». Заві мяне лепей Віктар.

— Няўжо Віктар? — Яна жахнулася і ўспляснула рукамі.— У, як я не люблю гэта імя! Не пераношу!

— Завошта ж?..

— Мой мужанёк зваўся Віктар...— Яна патупілася, сцяла вусны.

— Тады ясна,— азваўся Баран, хоць яму нічога не было ясна.

— Цяпер я з ім не жыву,— нехаця сказала Нюра.— А тут мне далі кватэру ад фабрыкі. Адзін пакойчык. Дом скора збіраюцца зносіць. А як ты жывеш? Дзе?

Баран, чырванеючы — гэта ён сам адчуваў — і заікаючыся, стаў прыдумваць сабе новую біяграфію. Ён не падумаў нават, навошта гэта яму, але нейкі інстынкт самаабароны патрабаваў ад яго паставіць шчыт на выпадак... Ён яшчэ не падумаў нават добра, на які выпадак.

Па тым, як чалавека слухаюць, можна зразумець, ці вераць яму. Барану здалося, што ў тым месцы, дзе ён гаварыў пра сваё халасцяцкае жыццё, пра інтэрнат ад радыёзавода, Нюра паглядзела на яго з ледзь прыкметнаю едкай усмешкай, якая нібы гаварыла: «Нешта многа халасцякоў развялося, а вось скажы, што хачу замуж — ураз разгубяцца, нідзе нікога не знойдзеш».

Таму пра сябе ён болей не заікаўся, зноў вярнуў Нюру да яе мінулага, якім яна, відаць, жыла і якое прасілася на язык. Яна ўсё гаварыла, а ён некалькі разоў ціхенька пазяхнуў, некалькі разоў зірнуў на гадзіннік — час позні. Але яму непрыемна было перабіваць чалавека — хай яму стане пасля гэтага лягчэй на сэрцы.

— А колькі гадзін? — урэшце на паўслове спынілася Нюра.— Я цябе, здаецца, загаварыла.

Ён маўчаў, не мог асмеліцца сказаць ёй «бывай», бо бачыў, што яна чакае не гэтага бяздушнага «бывай», а нечага большага — ну, хоць бы нейкай надзеі на новую сустрэчу. А ён адчуваў, што не можа падараваць ёй гэтай надзеі, не можа сказаць «прыйду», а пасля не прыйсці, бо калі ён даваў каму-небудзь слова, то ўжо цвёрда.

— Я пайду дадому, Нюра... Бывай...

— Бывай, што ж...

Твар яе быў сумны, а на вачах, як яму здалося, бліснулі слёзы.

* * *

Чым болей часу праходзіла ад той сустрэчы, тым усё больш думаў аб ёй Баран. Нюра Нядзелька стаяла ў яго перад вачыма, сумная, адзінокая, пакрыўджаная... А яна нічуць не горшая за іншых, што жывуць нармальным чалавечым жыццём, якім хапае ўсяго: шчасця, дастатку, клопату, мужа, дзяцей.

І чым болей ён думаў, тым болей пераконваўся, што зрабіў не па-мужчынску. Ён проста збаяўся... Ну, ужо можна было даравацъ яму такое тады, калі яшчэ хадзіў нежанаты, калі не разумеў усёй складанасці і прастаты інтымных адносін. Можна было дараваць той выпадак, калі ён аднойчы праводзіў з вечарынкі дзяўчыну, яна запрасіла яго да сябе, была адна дома, і ён правёў з ёю ўсю ноч, але паміж імі не адбылося ніякай блізкасці, хоць ён разумеў, што дзяўчына знарок паклікала яго для гэтага. Нешта падобнае здарылася трохі пазней, ужо ў арміі, калі да яго заляцалася замужняя жанчына з іх гарнізоннай бібліятэкі. Аднойчы яна запрасіла яго да сябе на кватэру — нібыта паправіць радыёпрыемнік, бо яна ведала, што Баран радыёаматар. Аказалася, што дома нікога не было, муж паехаў у камандзіроўку. Пасля яна пачаставала яго гарэлкай, ён трохі захмялеў, яна цалавала яго, як цалуюць любімага пасля доўгай разлукі, але Баран не страціў галавы і вырваўся з яе гарачых абдымкаў.

Другі на яго месцы мог бы выхваляцца лёгкімі перамогамі, а ён не хацеў дазваляць сабе такой раскошы. Блізкасць з жанчынай яго да многага абавязвала, ён быў надта яшчэ наіўны і несапсуты, каб глядзець на такую справу інакш. Да такой думкі прывучылі яго і дзесяць год, сумленна пражытыя з жонкай. Здрады ён не разумеў, не ведаў, і яна не была яму патрэбнай.

Але цяпер чамусьці ён глянуў на ўсё гэта інакш. Што ён траціць? Сумленне? Вернасць? Многіх лічаць сумленнымі толькі таму, што не ведаюць іх грахоў. Урэшце, усё роўна. Надта сумленных часта называюць дурнямі. І гэта вельмі блізка да праўды. Не грэх хадзіць у дурнях пасля дваццаці, але пасля трыццаці... Трэба зведаць усё — і тое, што дазволена, і тое, што не. Асабліва тое, што не...

Не, такога выпадку ў яго жыцці можа не надарыцца. Ды ўрэшце, трэба быць больш цікаўным. Інакш прасунешся па жыцці, прамінеш многа чаго добрага, што варта бачыць і паспытаць.

...Аднойчы замест вячэрняга тэхнікума, дзе Баран займаўся на трэцім курсе, ён павярнуў у другую дарогу — туды, дзе на ўскраіне горада пад вялізнай тапаляй стаяў драўляны дом з двума ганкамі на вуліцу.

Ён ехаў трамваем, пасля ішоў — і ўсё баяўся сустрэць каго-небудзь знаёмага, бо яму здавалася, што нават і незнаёмыя па яго твары, па вачах бачаць, што ён ідзе не дадому, не да свае сям'і, а да чужое жанчыны, а чаго ідзе — усім вядома... Але страх яго быў дарэмны. Нюры ён не застаў дома. Няйначай, працавала на начной змене.

Адышоўшыся трохі ад дома, да якога ён краўся, як злодзей, Баран уздыхнуў на поўныя грудзі і падзякаваў богу, што яе не было. Невядомае, тое, што палохала і цягнула ў адзін і той жа час, аддалялася. Сумленне яго засталося чыстае...

Але праз колькі дзён ён другі раз пайшоў на тую самую вуліцу. Наставіўшы каўнер плашча і насунуўшы на вочы капялюш, са страхам, якога даўно не даводзілася адчуваць, Баран асцярожна дыбаў па дарозе, у думках просячы ўсявышняга, каб хаця не спаткаўся яму хто знаёмы. Недалёка ад гэтай вуліцы ён жыў калісьці пасля дэмабілізацыі, наймаў пакойчык у аднаго ўласніка, і яго маглі тут пазнаць.

Вось нехта ідзе... Здаецца, якраз як іхні бухгалтар... Не, проста ў страха вочы вялікія... Справа дом, злева дом, свецяцца вокны, за фіранкамі цені.

І раптам звонкі, прарэзлівы дзіцячы крык:

— Папа, куды ты? Па-па!..

Як бізуном сцёбануў яго па сэрцы гэты голас, нібы скіраваны якраз яму, а не нейкаму там другому тату. Ён нават адчуў, як плечы ў яго раптам узмакрэлі ад поту, а ногі ў каленях задрыжалі.

Але ўжо праз хвіліну ён аблаяў сябе і знарок спаважна і смела адчыніў весніцы і ўвайшоў у двор. Яе акно свяцілася!

Ён узышоў на драўляныя прыступкі ганка, аддыхаўся і пастукаў. Пачакаў хвіліну. За акном была цішы-

ня. Тады ён пастукаў мацней. І вось крокі. Прыўзняўся ражок фіранкі, мільгануў нечы твар, зноў ражок апусціўся. Тады ў сенцах бразнула клямка, пачуўся стук зашчапкі, затупалі хуткія крокі назад.

Ён увайшоў у цесныя сенцы-кухню і першае, што ўбачыў праз шыбу ў дзвярах пакоя,— гэта як Нюра хавалася пад коўдру. Ён усміхнуўся сам сабе, зашчапіў дзверы на кручок і ўвайшоў у пакойчык. Справа— печка і ложак, злева — кухонны столік, канапа, яшчэ столік з кніжкамі, невялічкай радыёлай, з фатаграфіямі нейкіх сямейных, нейкіх дзяўчат, а проста перад сабою ўбачыў у люстэрку шафы самога сябе: высокага, крыху сутулага, з незнаёмай усмешкай на твары, з бліскучымі цёмнымі вачыма.

— Добры вечар. Ты што, хворая?

Яна пазірала на яго з-пад коўдры з нейкім недаверам, нібы бачыла нешта страшнае.

— Гэта ты прыйшоў? — Яна ўрэшце ўсміхнулася.— Ніколі б не падумала.

— Ясна, калі не чакала, то і не рада.

— А мо і чакала!.. Сядай, чаго стаіш?

Ён азірнуўся навокал, зняў толькі капялюш і сеў на ложак.

Яна пасунулася да сцяны.

— А ты сёння не ў пінжаку. Скідай плашч, чаго ты?

— Не, я на хвілінку. Зайшоў паглядзець...

— Я тут чытала ды трохі заснула. Чую, нехта стукае... Мне на начную змену, на адзінаццаць.

— А я думаў, ты хворая.

— Не...

— Затое я хворы. Чуеш, які катар?

— Дык чаго ж ты хворы ходзіш? Трэба ляжаць.

— Бач, не ўлежаў... А калі ў цябе выхадны?

— Выхадны? — Яна ўважліва глянула на яго, пасля дастала рукі з-пад коўдры і пачала лічыць на пальцах: — Аўторак, серада, чацвер, пятніца... У суботу і ў нядзелю.

Ён пазіраў на яе аголеныя дужыя рукі, і яму хацелася іх пагладзіць.

— Чакай у суботу. Добра? Гадзін у сем...

Ён устаў, забраў з канапы свой капялюш.

— Чаго ты так спяшыш? Пабудзь, Віцька.

— Не ўгаворвай. Я сёння хворы. Яшчэ табе перадам грыпу.

Ён палез у кішэню, з запісной кніжкі выняў пяцёрку і паклаў на столік з кнігамі і радыёлай.

— Возьмеш якога-небудзь напітку.

— Навошта ты! У мяне ёсць грошы.— Яна села на ложку, прыкрываючы грудзі коўдрай.

— Перастань.— Ён падышоў да яе, узяў за адкрытае плячо.— У цябе тэмпература, ці што?

— Невядома, у каго тэмпература...— І асцярожна вызваліла плячо.— Ніякіх грошай мне не трэба.

...Субота... Вечар... Ці варта? Ці добра гэта? Ён ізноў ідзе да яе. Тыя ж платы, агароды, хаты, як у вёсцы, вузкая вуліца без тратуараў... Нехта ідзе насустрач. Здаецца, чужы, незнаёмы... Добра, добра... Вось той дом. Свецяцца вокны. Ён узыходзіць на ганак, стукае ў шыбу, прыслухоўваецца. За акном як бы гоман, пасля крокі. Нават не ўзнялася фіранка, нават не спыталі хто? Бразнула зашчапка...

Ён пераступае парог у сенцы-кухню і краем вока ўжо бачыць, што яна не адна.

— Добры вечар.

— Добры вечар...

— Знаёмцеся... Гэта мае суседкі... А гэта мой знаёмы...

Ён ішоў і думаў зусім пра другое — як яна будзе чакаць яго, як будзе рада, як кінецца яму на шыю. На стале ўсё гатова... Не, ніколі так не будзе, як думаеш. Яму цяпер хацелася плюнуць, павярнуцца і пайсці, але на гэта трэба было мець больш рашучасці, чым на тое, каб застацца. Не то што ён разгубіўся пад позіркамі гэтых жанчын ці дзяўчат, бог іх ведае — з выгляду яны былі адных год з Нюрай,— але расчараванне ў сваіх нядаўніх уяўленнях аб гэтай хвіліне сапсавала яму настрой. Аднак трэба было неяк трымацца і не паказваць гэтага расчаравання.

— Што ў вас у гэтым доме — жаночы манастыр? — асмеліўся нарэшце Баран.— Каб я ведаў, то адзін таксама не ішоў бы.

— А чаму ж ты, Нюрка, не сказала чалавеку? — спыталася ў Нюры чарнявая шчуплая Ліда,

якая сядзела на канапе з кніжкай у руках.— Было б весялей.

— Што я вам — бюро добрых паслуг? — сярдзіта сказала Нюра. Яна прыняла з рук у Барана плашч і капялюш і павесіла на цвіку ля печкі.

— Маладзец, Нюрка, так ёй і трэба,— умяшалася бялявая круглатварая і поўная Жэня.— Чакае, пакуль шчасце з неба зваліцца. Хай сама шукае.

— Добра табе гаварыць, калі ты ўмееш шукаць, — з крыўдай, відаць, робленай, адказала чарнявая Ліда.

— Мне няма вельмі чым хваліцца. Ты лепш вучыся ў Нюркі. Вазьмі два білеты і ідзі ў кіно...

Яны ўсе трое зарагаталі, падміргваючы і пераглядваючыся між сабою. Баран зразумеў, што ў іх няма паміж сабой ніякіх сакрэтаў, і зарагатаў таксама.

Напружанне і няёмкасць першай хвіліны прайшлі, Баран адчуў сябе спакойна. Размова была лёгкай, пераскаквала з аднаго прадмета на другі, круцілася каля тэмы, якая, відаць, была бліжэй за ўсё гэтым яшчэ не страціўшым надзеі на асабістае шчасце жанчынам: знайсці добрага мужыка, хоць і небагатага, хоць і немаладога, абы сумленнага, каб не п'яніцу, не якога-небудзь падманшчыка. Пасля перайшлі на другое, не менш важнае: ці не пара вячэраць? І ці не раскашэліцца часам Нюрка, не паставіць на знаёмства паўлітроўку?

Нюра аднеквалася — мо жартам, мо ўсур'ёз, мо хацела, каб госці хутчэй разышліся, але цягнула доўга, усё падпускаючы шпількі то адной, то другой сваёй суседцы, а тыя не шкадавалі вострых слоўцаў ёй у адказ. Сяды-тады знаходзіў шчыліну ў іх гутарцы і Баран і ўстаўляў што-небудзь сваё.

Урэшце Нюра здалася: пачала расчышчаць месца на століку і насіць з кухні-сенцаў прыгатаваную загадзя закуску. Апошняй з'явілася на стале пляшка.

— Бачыце, яе не падварушы — нічога не будзе,— кіўнула на застаўлены стол Ліда.— Мы-то яе ўжо ведаем... Ды і вас не шкодзіла б...— шматзначна сказала яна да Барана.

— Я якраз перад зарплатай,— паспрабаваў ён адбівацца, адчуваючы няёмкасць, што не прыйшоў у кампанію са сваім паўлітрам, як сапраўдны кавалер, а ў падрабязнасці гэтага вечара не хацеў яе ўводзіць.

— А пасля зарплаты скажаце — жонка забрала,— выпаліла Ліда і нават сумелася: ці не занадта востра?

Баран не чакаў удару з гэтага боку, яму адразу заняло дух, а потым ужо ён знайшоў у сабе сілы зрабіць нявінную ўсмешку і абыякава адказаць:

— Не, мая мне заўсёды дае з зарплаты пяцёрку на дзяўчат...

— Вам пашанцавала!

— Пэўна ж, вы на яе месцы гэтак не зрабілі б.

— О не, я не выпусціла б вас са сваіх рук,— сказала яна з такім прыціскам, што адчулася: гаворыць яна праўду. Гэтая не выпусціла б!

— Пра што гэта вы? — спытала Нюра, якая ўсё яшчэ хадзіла сюды-туды, носячы то соль, то відэльцы, то яшчэ што.

— Ай, тут Лідка ў чалавека хоча пашпарт праверыць. Я думаю, што гэтым ты павінна заняцца, а не яна,— са схаваным смехам сказала Жэня.

Баран ужо заўважыў, што яна часта паглядвае на яго і апускае вочы, калі ён зірне ёй у твар. Але што тут такога?

Ліда была, відаць, не такая, каб застацца ў даўгу ці слухаць чужыя парады.

— Пашпарт ні пры чым. Асноўнае — сумленне. Калі яго няма, то ніякі пашпарт не заменіць.

— Гэта праўда,— згадзілася Жэня,— у наш век замяніцеляў недадумаліся зрабіць замену такое простае рэчы. Унясі рацыяналізатарскую прапанову, чаго там?

— Хопіць вам, дзеўкі, зубаскаліць. За стол! — загадала Нюра.

Яна была ў чырвонай сукенцы, мо трохі цеснаватай на яе. Барану здалося, што фігурай яна выглядае маладзейшай, чым я твару, хоць сёння бровы і вейкі ў яе былі падведзены, на вуснах чырванела памада, а на шчоках прыкметны былі сляды пудры.

Сталі рассаджвацца, але за столік можна было сесці толькі траім, а куды ж чацвёртага? Тады Баран унёс «рацыяналізатарскую прапанову»: усім сесці на канапе, а замест стала ссунуць дзве табурэткі. Так і зрабілі.

Баран сеў паміж Лідай і Нюрай, Жэня сядзела крайняя злева.

Дзяўчаты пілі слаба. Жэня скардзілася, што ў яе павышаны ціск. Ліда сказала, што ў яе сэрца, а Нюра не скардзілася ні на што, але піла таксама асцярожна. Затое ўсе трое насядалі на Барана.

— Бачу, што людзей з вас не выйдзе,— жартаваў Баран.— З выгляду такія кабеты, а піць не могуць... А хто з вас курыць? Ніхто? Ну, куды мяне занясло? І праўда, манастыр. А як наконт танцаў?

Думка пра танцы ўсім спадабалася. Прынялі ўсю пасуду, табурэткі і сталі танцаваць пад радыёлу. Баран някепска танцаваў. Шкада вельмі, што тут нельга было добра разгарнуцца.

Я люблю тебя, жизнь,
Что само по себе и не ново...—

спяваў моцны барытон, і дзве пары, стукаючыся локцямі, танцавалі ў цесным пакоіку, забыўшы пра час і пра свае будзённыя клопаты. Ім было весела, і гэта галоўнае.

Я люблю тебя, жизнь,
И хочу, чтобы лучше ты стала...—

выводзіла радыёла, і хто з тых, што тут цяпер танцавалі, не падпісаўся б пад такімі словамі? Хоць ім было і весела, але яны хацелі, каб было весялей!

...У той вечар Баран дадому прыйшоў позна. Дзеці і жонка ўжо даўно спалі.

Ён дастаў з шафы ў сцяне запасную коўдру, падушку і лёг спаць на канапе, у другім пакоі. Сон доўга не прыходзіў. Малюнкі сённяшняга вечара да таго былі свежыя і яркія, што не давалі спакою яго стомленай галаве. Варта было заплюшчыць вочы, як ён зноў бачыў усё тое, што адбылося з ім нядаўна, хаатычна нагрувашчанае адно на другое, без парадку і паслядоўнасці. Здаецца, ён адчувае побач яе, раздзетую, гарачую, галодную на мужчынскую ласку, чуе яе дыханне. Пасля... чуе яе гнеўны, поўны крыўды голас: «Дык ты жанаты? А чаму ты не сказаў мне гэта раней, перад усім, што цяпер здарылася? Чаму?»

Што было яму казаць? Ён маўчаў. А яна ўсё гаварыла, вылівала сваю крыўду на жыццё, на свайго былога мужа, на свой лёс, плакала, тулілася да яго і цалавала.

«Ах, якая я дурная, якая дурная! Я ж думала, што хоць цяпер знайшла сваё шчасце, што вось за мае пакуты бог пасылае мне чалавека, з якім мне лёгка будзе ў жыцці, ажно на табе... Што мне цяпер рабіць? Што? Скажы, ты ж мужчына? Што ты рабіў бы цяпер на маім месцы?»

«Тое, што і ты цяпер робіш».

«Што, плакаў бы? Ці прагнаў бы цябе зараз жа адгэтуль, абліўшы памыямі? Ты думаеш, гэтага не заслужыў? Ты падмануў мяне, як...»

«Няўжо ты такая наіўная? Табе хутка сорак, здаецца...»

«Не важна колькі. Ты падманшчык... Як гэта цяжка... Я табе так паверыла... Чамусьці нікому дагэтуль не верыла, а вось табе — адразу. Нешта ў цябе такое ёсць. Да цябе я адразу адчула давер. З таго першага вечара... Ты не быў такі нахабны, як другія. Нават не папрасіўся зайсці да мяне. І пайшоў, нічога не сказаўшы, не паабяцаўшы. Я думала, што ты ўжо ніколі болей не прыйдзеш. І так была здзіўлена, што не ведала, што і рабіць...»

«І запрасіла чужых дзяўчат? Ці яны самі здагадаліся?»

«Запрасіла... У нас няма ніякіх сакрэтаў. Гора і радасць мы дзелім паміж сабою. Што нам застаецца? Ведаеш, у Лідкі быў муж, як і ў мяне. Кінуў. Ужо даўно. У яе расце сын. Ужо вялікі, вучыцца ў тэхнікуме. А Жэня адна ўсё жыццё. Думаеш, ёй весела?»

«А яна нішто сабе кабета...»

«Як табе не сорамна? Я не думала, што ты такі ліс».

«Чаго ты яшчэ пра мяне не думала? Што я не анёлак?»

«Цяпер мне ўсё роўна, хто ты...»

* * *

Дарога да яе дома ўжо не здавалася такой доўгай і страшнай. Праз які месяц Баран пераканаўся, што ў вялікім горадзе чалавек як у пушчы. Наадварот, там хутчэй спаткаеш чалавека, чым тут знаёмага. Ён ужо добра асвоіў свой маршрут, ехаў і ішоў смела, часам толькі па звычцы прыглядаўся да людзей, якія траплялiся яму насустрач. Перамяніўся і ён сам. Стаў крыклівы дома, менш бавіўся з дзецьмі, астыў да жонкі.

Яна, здавалася, не заўважала яго перамены, толькі часам ён адчуваў на сабе яе дапытлівы позірк.

Замкнуўся ён і на рабоце — стаў менш гаварыць, мала смяяцца. Сустрэўшы знаёмага, больш слухаў, чым гаварыў сам. І адна і тая ж думка круцілася ўвесь час: «Вось ты глядзіш на мяне і лічыш, што я той самы Баран, якога ты ведаў раней. А я ўжо не той... Зусім не той...»

Яму рабілася агідна, крыўдна на кагосьці, і ён спяшаўся развітацца, абарваўшы чалавека на паўслове.

Часам прыходзіла ў галаву: а што, калі кінуць усё гэта? Прызнацца жонцы? Глупства! Толькі наробіць тарараму. Ёй жа не растлумачыш, як гэта было і з-за чаго...

І ўсё заставалася па-ранейшаму. Ён ішоў не на вячэрнія заняткі і ў бібліятэку рыхтаваць заданні, як гаварыў жонцы, а туды — да Нюры Нядзелькі.

...Яна гаварыла яму:

— Мілы Баранчык, ты праўда кучаравы, як баран. За гэта я цябе люблю... Не за гэта... Але люблю. Я даўно не любіла... Я і мужа не любіла, хоць пражыла з ім сем год. Проста ён мне перайшоў дарогу, таму мы і пажаніліся. Ён быў маладзейшы за мяне... Гаспадыня нас пажаніла, у якой я жыла на кватэры. Аднойчы знарок пакінула нас даглядаць дом, сама паехала з дзецьмі ў вёску, у госці. А ён прыйшоў з паўлітрам, спаіў мяне... Але і пасля таго ён мне мілы не стаў. Так усе сем гадоў і прамучылася... Дзяцей не было — мяне вінаваціў. Казаў: «Ты мне абрыдла, глядзець на цябе не хачу... Вось каб быў хлопчык... Ну, хоць бы і дзеўка. А то што я павінен рабіць?» Ён жа і не ведаў, чым заняцца. Ляжа і ляжыць, стогне, лаецца. За сем год ні адной кніжкі не прачытаў. А каб памагчы што — ніколі. Потым грошы перастаў аддаваць. Пасля патроху навучыўся піць, звязаўся з кампаніяй. І пайшло... Позна прыходзіў, а то і зусім не начаваў. Акажашся што — бяды не абабрацца. Потым і да бойкі дайшло. А раўнівы быў — такога пашукаць. Няйначай, судзіў усіх па сабе і думаў, што жонкі здраджваюць мужыкам за кожным вуглом з кожным сустрэчным мужчынам. Адзін раз з-за рэўнасці на мне сукенку парваў. Я ў райкоме працавала прыбіральшчыцай. Неяк прыйшоў п'яны, адразу накінуўся: ты сякая, ты такая, ты

тут з кабялямі... Схапіў загрудкі, як ірвануў, дык у жмені і засталося ўсё, за што ўхапіўся... Лічы, новую сукенку зглуміў. І потым недзе так схаваў, што як у ваду ўпала. Відаць, пабаяўся, каб у суд не падала, каб не было доказаў...

Потым не стаў есці таго, што згатую. Прынясе кавалак кілбасы, хлеба, сядзе і жуе, не глядзіць на мяне, не гаворыць... Што за жыццё?.. Рашылася і кінула. Прыходзіў не раз, прасіў, умольваў... Не, хопіць. Напакутавалася я з табой. Жыві адзін, раскашайся... Хоць мне і цяпер не соладка, але што? Ніхто нада мною не стаіць, ніхто не панукае. Сама сабе — што хачу, тое і раблю. Вось новы год ідзе. Трэба маме падарунак паслаць — ужо цёплую хустку купіла. Пляменнікам і пляменніцам — цукерак давай, іх у мяне ні многа ні мала — пятнаццаць. Адну мяне бог дзеткамі абдзяліў. Здаецца, невядома што дала б, каб мець малое... Яшчэ выгадавала б... А так — адна.

Яна заўсёды многа гаварыла, і ён яе добра разумеў — чалавеку цяжка пераносіць адзіноту. Ён не перабіваў, слухаў, часам пытаў пра што-небудзь. Яму падабалася, што яна не распытвала яго ні аб чым, не лезла ў душу. Гэта добра, калі не распытваюць, тады самому хочацца расказаць — аб сабе, аб сваіх справах і думках. Ды ўрэшце, што ёй да таго, расказвае ён ці маўчыць? Ёй патрэбен чалавек, каб з ім можна было дзяліць у жыцці ўсё — гора і радасць. Ці не кожны жывы чалавек марыць аб гэтым? І калі ён знаходзіць сабе такога сябра — ён шчаслівы. Тут зусім простая арыфметыка...

З рэпрадуктара пачуўся бой гадзінніка. Баран узняў галаву над падушкай. Побач бялеў Нюрын твар, акаймаваны цёмнымі валасамі.

— Ты ўжо хочаш ісці? — Нюра абхапіла яго за шыю, прытуліла да грудзей.— Няўжо так позна?..— І пасля паўзы: — Калі прыйдзеш?

— Як і дамовіліся. У пятніцу.— Ён уключыў святло, стаў апранацца.

— А калі мы з табой сходзім у кіно?

Ён стаяў над ложкам, прычэсваючы свае кучаравыя, ужо добра праражаныя гадамі валасы.

— Пацярпі, некалі сходзім.

— На святыя нігды?..

— Давай не псаваць лепш адно аднаму настрою. Ты ж ведаеш, што гэта не так проста, як сказаць. Вось лепш вазьмі... Дзецям на цукеркі.

Яна моўчкі ўзяла.

* * *

...Каб у яго спыталі, ці любіць ён Нюру, ён адказаў бы, што не, хутчэй шкадуе. Яго туды не цягнула, як некалі ў маладосці цягнула на спатканне. Ён ішоў да яе болей таму, што абяцаў прыйсці, ведаў, што яна яго чакае і будзе рада яго прыходу.

Рабіць чалавеку дабро — прыемна. Але красці ў аднаго і даваць другому... А тут нешта падобнае. Вось калі б раздаваць другім сваё ўласнае, тады іншая рэч... Дапусцім, яна стане з ім шчаслівай, калі ён кіне сваю сям'ю... А сям'я — жонка, дзеці,— ці застануцца шчаслівыя? А ён сам? Хіба стане ён шчаслівейшы, чым быў? Хіба будзе ён шчаслівы, ведаючы, што недзе там пакутуюць дзеці, растуць без бацькоўскай ласкі і спагады, без той бацькоўскай апекі, якая робіць іх дужымі і ўпэўненымі ў жыцці? А жонка? Хіба яму будзе соладка спацца, ведаючы, што недзе там яго былая жонка падлічвае капейкі, каб выкраіць са свае карэктарскае зарплаты на якое паліто дзецям ці на ласунак?

Навошта, навошта ўсё гэта?

Аднак прыходзіў назначаны вечар — і Баран садзіўся на свой нязменны трамвай, злазіў на знаёмым прыпынку, заходзіў у магазін, браў што-небудзь у кішэню і кіраваўся на ўскраіну — калі пешкі, а калі яшчэ адным трамваем.

Пад нагамі хлюпаў мокры набрынялы снег. Машыны абдавалі пешаходаў пырскамі бруднай вады і перацёртага ў радкаватую кашу снегу. Вясна наступала! Коўзаючыся і ледзь не падаючы на кожным кроку, Баран ішоў па вузкай вуліцы. Вось і той доўгі дом пад таполяю...

Агню ў яе акне не відаць. Баран узышоў на ганак, пастукаў у шыбу, пачакаў. Але фіранка не зварухнулася, ніхто не адазваўся. Што такое? Ён глянуў на гадзіннік. Роўна восем гадзін... Дастаў блакнот і аловак, напісаў у цемнаце: «Дзе ты прапала? Чакай заўтра. Віктар». Згарнуў паперку ў чатыры столкі і пашарыў

вачыма па дзвярах, каб знайсці якую шчыліну. Знайшоў — каля самай клямкі быў кавалак выламанай фанеры. Ён прасунуў туды пальцы і абмацаў нейкую паперку. Дастаў, разгарнуў, але прачытаць не змог. Давялося ісці на вуліцу, пад ліхтар. Няўпэўнены, раскідзісты жаночы почырк, памылкі. Змест такі: «Віцька, я ў суседзяў на тэлевізары. Як прыйдзеш — пакліч. Нешта скажу. Н.»

Яму не хацелася ісці да тых суседзяў, але што зробіш? А мо пакласці на месца запіску і зрабіць выгляд, што яе нават не бачыў? Не, трэба паклікаць... Што яна можа такое сказаць?

Баран пайшоў на другі ганак. Дзверы былі адамкнёны, як у вёсцы. І яшчэ гэта азначала, што ў кватэры быў мужчына, гаспадар. Баран пашарыў рукою па дзвярах ■ сяней у хату і ледзь знайшоў клямку. Нюра ўжо стаяла ля дзвярэй, нібы ведала, што гэта ён і па яе. Яны пайшлі побач, яна ўзяла яго пад руку.

— Цікавая карціна... Я думала, ты мо не прыйдзеш... Знайшоў запіску?

— Каб не знайшоў, то ты мяне тут не ўбачыла б.

— Чаму? — насцярожылася Нюра.

Пакуль яна адмыкала дзверы, Баран маўчаў. Загаварыў, калі ўжо зайшлі ў пакой і ўключылі святло.

— Падумаў бы, што ты ўцякла ад мяне, заплакаў бы і пайшоў бы дадому.

Яна ўсміхнулася і падышла ўпрытык да яго.

— Ты мяне напалохаў... Сядай.

Перш чым сесці, ён выняў з кішэні пакункі і паклаў на стол. А потым пасадзіў побач Нюру.

— Чаму ты той раз не прыйшоў? Жонка не пусціла? — Яна гладзіла яго валасы, пазірала ў вочы.

Сёння яна была нейкая святочная, вясёлая і яшчэ невядома якая — толькі такою ён не бачыў яе ніколі. Нейкім унутраным святлом свяціліся яе вочы, ледзь прыкметная ўсмешка часам з'яўлялася на яе вуснах.

— Не жонка, а дзіця... Якраз захварэў меншы. Доктара выклікалі...

Яна задумалася. Пасля ўстала і падышла да печкі.

— Ты галодны?

— Як стары воўк.

Яна дастала з печы патэльню з салам і дамашняй кілбасою, міску залітых маслам аладак.

— Ой, як засохлі! Зубы паломім! — усклікнула яна.— Прымі са століка гэты вазон. І засцялі газеты.

Ён кінуўся памагаць, а з галавы не выходзіла: што ж яна скажа?

Калі ўсё было гатова, селі за стол. Ён наліў віно.

— За што вып'ем? — спытаў ён.

Яна схамянулася і перапытала:

— За што? — І раптам закрыла твар рукамі і заплакала.

Баран не ведаў, як яе супакоіць. Яна схілілася яму на грудзі, ён прытуліў яе да сябе.

— Мне ўсё не верыцца...— праз слёзы сказала яна.

— Што не верыцца?

— Што я шчаслівая...

— Шчаслівая? Дык чаго ж плакаць?

— Ад шчасця таксама плачуць...

— Супакойся... То вып'ем за тваё шчасце. Я рад...

Баран узяў чарку. Нюра выцерла хустачкай вочы, паправіла валасы. Яны чокнуліся. Баран так і не ведаў, за якое шчасце яны пілі, але пытаць усё не хацеў. Штосьці яго пачало бянтэжыць, нейкае адчуванне пракрадвалася ў яго сэрца, што ў гэтым яе шчасці ў нейкай меры замешаны і ён. Толькі ці будзе яно шчасцем і для яго, так як для Нюры?.. Яму зрабілася млосна.

Ён наліў яшчэ адну чарку.

— Дык ты не сказала...— урэшце не вытрымаў ён.

Яна апусціла галаву.

— Учора я была ў доктара. Ён сказаў, што я... Што ў мяне будзе... дзіця.

Баран сцяў зубы. Вось яно, яе шчасце!..

Нюра павольна ўзняла на яго вочы.

— А ты не рады?

— Як табе сказаць...— Баран задумаўся, пазіраў на поўную чарку, нібы не ведаючы, што з ёю рабіць.— Вып'ем за шчаслівых людзей. Да дна!

Але на душы ў яго пахаладзела. Не, цяпер да самае смерці не будзе ён мець спакою — ні днём, ні ноччу. Ох, як хацелася яму, каб усё стала так, як паўгода назад, каб ён быў для Нюры толькі выпадковы знаёмы...

Ды дарогі назад жыццё яшчэ не прыдумала.

*1967 г.*

# ДАРОЖНАЯ ГІСТОРЫЯ

Спрэчка ў аўтобусе пачалася адразу, як толькі выехалі з Клецка, але большасць пасажыраў яе амаль не заўважылі, кожны быў заняты сваім: шукаў сваё месца, уладкоўваў сумкі, сеткі, клункі, якіх у кожнага пасажыра было болей, чым рук.

Ды і людзей набілася як завязаць: нядзеля, перадапошні рэйс у Мінск — хто ў госці, хто з гасцей, хто з якім клопатам. Тыя з пасажыраў, што селі бліжэй да сярэдзіны, пазіралі на маладую чорна-шэрую аўчарку, якую трымала за павадок хударлявая белавалосая жанчына, што сядзела побач з мажным дзядзькам з барвовым тварам, які адразу стаў кляваць носам. Сабака, няйначай, першы раз трапіў у такі тлум і палахліва павіскваў, туліўся да ног свае гаспадыні, а яна ўсё гладзіла яго і супакойвала.

На другім сядзенні злева па ходзе аўтобуса адразу селі дзве жанчыны: пажылая, невысокая і поўная, з сівою галавою і маладая, рослая і прыгожая круглатварая жанчына з узбітымі валасамі.

Калі шафёр, высокі худы мужчына сярэдніх гадоў з невыразным і надта ўжо заклапочаным тварам падаў сігнал да адпраўкі, апошнімі ў аўтобус рынуліся курцы, якія на хаду кідалі свае цыгарэты, робячы апошнія глыбокія зацяжкі, а дым выпускалі ўжо ў дзвярах, стала яшчэ цясней. Тыя, што зайшлі, сталі рассаджвацца па сваіх месцах, зганяючы часовых гаспадароў. Якраз да тых дзвюх жанчын з другога сядзення злева і падышоў малады хлопец сярэдняга росту, шчуплаваты, з грыўкаю русых валасоў набок, у бардовай тэнісцы і шырокіх, расклёшаных знізу і завужаных зверху — у абцяжку — штанах; з усмешачкай, якая не сыходзіла з яго твару ўвесь час, калі ён гаварыў.

Маладая жанчына сядзела ля акна, і якраз да яе звярнуўся хлопец. Білета ён не паказваў, ведаў, відаць, сваё месца, а жанчына, пэўна, таксама ведала, што яна села не на сваё. А можа, у іх было два білеты на адно месца: касір мог памыліцца, што нярэдка здараецца, і выпісаць два білеты, а пасажырам пасля разбірайся.

Яны пагаварылі хвілін колькі, жанчыны нехаця ўсталі, даючы месца хлопцу пры акне, і самі селі з ім побач — траіх на двух месцах: стаяць чатыры гадзіны ў дарозе не вельмі каму хацелася. Сеўшы, яны гаварылі яшчэ — хлопец са сваёй паблажліва-скептычнай усмешачкай, а жанчыны — як бы нешта выгаворваючы свайму суседу: сур'ёзна, павучальна, хоць гутарка, па ўсім відаць, мела мірны характар.

Так, ва ўсякім разе, здавалася пасажыру, што сядзеў трохі ззаду, бліжэй да сярэдзіны, справа. Гэта быў хударлявы, вышэй сярэдняга росту мужчына з зусім белымі валасамі, якія, аднак, былі густыя. Па аскетычным твары яго, а асабліва па вачах, можна было меркаваць, што на яго долю выпала нямала пакут, што гэта быў чалавек з цяжкім мінулым. З выгляду яму было гадоў пяцьдзесят, а мо трохі болей, значыць, на яго долю, на маладосць, прыйшлася вайна, а хто яе перажыў, той, за рэдкім выключэннем, прайшоў усе дзевяць кругоў пекла.

Так яно было і напраўду. Янка Мануйлік вырас у гэтых мясцінах, пры панскім польскім рэжыме быў камсамольцам-падпольшчыкам, яшчэ зусім юнаком, а пасля вызвалення яго ўзялі ў армію, якраз перад самай вайной. Служыў на Украіне, на заходняй граніцы, з цяжкімі баямі іх часць адступала, а пад Кіевам разам з многімі сябрамі і таварышамі ён трапіў у палон. Прайшоў праз голад і холад, некалькі разоў уцякаў, але няўдачна: зноў яго лавілі. Загналі ў Сілезію, працаваў на рудніках, пад зямлёй. Каб не прыродная, ад бацькоў, сіла і цягавітасць, не выжыў бы, не вынес бы ўсіх жахаў і пакут няволі, калі кавалак хлеба лічыўся самай вялікай каштоўнасцю, а чалавечае жыццё не ставілася ні ў грош. Вызвалілі яго нашы, ён зноў апрануў вайсковую форму і ваяваў, сцяўшы зубы, помсціў фашыстам за свае і чужыя крыўды. У апошні дзень вайны быў цяжка паранены і застаўся на валас-

ку ад смерці — куля навылёт прабіла грудзі, прайшоўшы на палец ад сэрца.

Вярнуўшыся са шпіталя, працаваў старшынёй сельсавета, потым, каб не страціць апошняга здароўя, пайшоў вучыцца — скончыў двухгадовы настаўніцкі інстытут, а пасля, ужо завочна, закончыў і педінстытут, ужо больш як пятнаццаць год працуе настаўнікам...

Цяпер ён ехаў у Мінск — на спатканне са сваім таварышам па вайне, які выпадкова знайшоў яго, Мануйлікава, прозвішча ў апублікаваным у газеце спісе заслужаных настаўнікаў рэспублікі і запрасіў прыехаць у госці. Гэты сябра, Віткевіч, быў яго аднагодак, недзе родам з-пад Полацка, яны служылі ў адным аддзяленні, потым разам адступалі і разам трапілі ў палон, разам уцякалі. Разам пасля апынуліся і ў Сілезіі, пад зямлёй. У часе абвалу іх засыпала рудой, нямногіх выратавалі ваганеткі, але Віткевічу моцна пабіла галаву і руку, ён трапіў у шпіталь, а куды потым падзеўся — Мануйлік ужо не ведаў. І нават не падазраваў, што яго сябар жывы і здаровы, хоць часта яго ўспамінаў: гэта быў чалавек прамы, смелы і гарачы, як агонь, а такіх рэдкіх людзей Мануйлік любіў, але ведаў, што такім людзям заўсёды нялёгка, асабліва ў вайну: яны заўсёды гатовы лезці на ражон, а беражонага і бог беражэ. Але дзіва дзіўнае: гэты Віткевіч прайшоў усе агні і воды — і ўцалеў! Хто ён цяпер? Можа, вялікая шышка? У пісьме — ні слова пра сябе. Ну, гэта ў яго стылі...

Першы вялікі прыпынак, калі не лічыць вёскі Лань, зрабілі ў Нясвіжы. Некаторыя пасажыры сталі выходзіць з аўтобуса — пакурыць ці размяць ногі, а тыя, што стаялі ў праходзе,— каб не замінаць.

Мануйлік, перарваўшы свае думкі, міжволі глянуў на таго хлопца, што сядзеў ля акна побач з жанчынамі. Той таксама ўстаў, даючы гэтым зразумець сваім суседкам, што яго трэба выпусціць. Яны цярпліва ўсталі, далі яму дарогу і селі зноў.

Хлопец выйшаў і тут жа ля дзвярэй аўтобуса далучыўся да кампаніі мужчын — некалькіх маладых і аднаго сярэдняга веку, недзе пад пяцьдзесят, у белай тэнісцы, з дужымі загарэлымі рукамі. Гэта быў высокі, мажны насаты мужчына з высокім ілбом і залысіна-

мі, якія рабілі верхнюю частку галавы яшчэ вышэйшай. «Прафесарскі лоб,— падумаў Мануйлік.— Хоць боб малаці».

Хлопец з усмешачкай закурыў, глыбока зацягнуўся некалькі разоў і пачаў нешта расказваць, звяртаючыся болей да лабатага, які ўстаўляў у гутарку кароткія, але, відаць, трапныя слоўцы, бо ўся кампанія гучна, на розныя галасы, рагатала.

У Нясвіжы рэдка хто садзіўся на клецкі аўтобус, тут быў свой, і гэты прыпынак здаваўся зусім лішні: праехалі ўсяго дваццаць кіламетраў, і ўжо шафёр бяжыць у станцыю са сваімі паперамі. Але часамі аднаго-двух, а то і болей пасажыраў прыхопіць з Нясвіжа, потым з Гарадзеі, а то нават і са Стоўбцаў, так што ў сам Мінск аўтобус ідзе напакаваны да адказу — як зачыніць дзверы. Камфорту ад гэтага, пэўна ж, не большае, але калі стаць на бок таго, хто папрасіўся ехаць— хоць на стаячае ці «вісячае» месца — то шафёру трэба дзякаваць, а не лаяць яго. Цяпер — век транзітных і ўсякіх іншых пасажыраў. І здаецца, каб раптоўна адмянілі ўсе цягнікі, аўтобусы і самалёты, людзі і дня не змаглі б праседзець на месцы і па інерцыі, пахапаўшы свае чамаданы і сумкі, пешкі кінуліся б кожны па сваім маршруце,— як тыя птушкі ў вырай і з выраю. О, цяперашняга чалавека хлебам не кармі, а дай яму паездзіць! А калі на тое, то ці вельмі многа ён сам, Мануйлік, наездзіў! Куды там! І туды трэба, і сюды трэба, і тое трэба купіць, і некага пабачыць — а ўсё няма калі, таму і адкладваеш да апошняга, пакуль ужо ніяк нельга цярпець. І тады толькі едзеш. Так, мусіць, і кожны чалавек. А каб жа было, што захацеў — і тут жа паехаў! Колькі тады трэба было б аўтобусаў, цягнікоў і самалётаў? Страх падумаць!

Тым часам паказаўся вадзіцель, за ім ніхто не спяшыў. Не, вунь бяжыць з вялізнаю чорнаю сумкай невысокі дзядзька: не стары яшчэ, але худы, абраслы чорным шчаціннем, буры да чарнаты ад загару, у новым картовым касцюме і ў кірзавых ботах — якраз на такую спякоту пахватны абутак.

Шафёр ледзь працісnуўся да свайго месца, ледзь зачыніў дзверы: дзядзька з сумкаю залез, як набрынялы шпунт у бочку. Пасажыры сталі тасавацца: хто займаў сваё «наседжанае» месца, хто лепей масціўся

ў праходзе, каб было за што трымацца і дзе паставіць ногі, бо чамаданаў, сумак і сетак было настаўлена ўсюды, дзе можна і дзе нельга.

Зноў той хлопец стаў над душою ў жанчын: паказваў рукою на сваё месца ля акна. Старэйшая тут жа моўчкі ўстала, падалася ў праход, ледзь здабыўшы сабе некалькі сантыметраў плошчы. Затое маладая знарок не спяшалася. Яна нават са злосцю ў голасе сказала, што мог бы ён пасядзець і з краю, не зваліўся б. Хлопец не сагнаў з вуснаў свае ўсмешачкі аж датуль, пакуль жанчына ўрэшце не саступіла яму месца. Але цяпер спрэчка разгарэлася, хоць за шумам матора слоў цяжка было разабраць. Хлопец быў, па ўсім відаць, з моцнымі нервамі, ён не гарачыўся, не павышаў тону, нават не нападаў, а толькі адбіваўся — кароткімі рэплікамі, прыпраўленымі ўсё той жа ўсмешачкай. Усё ж яны праз колькі часу супакоіліся: хлопец гатоў быў, здавалася, весці дуэль, але маладая жанчына, расчырванеўшыся, замоўкла і сярдзіта адвярнулася ад хлопца. Старэйшая ў спрэчку не мяшалася, сказала мо ўсяго некалькі слоў, хоць, па ёй відаць, усёй душою яна стаяла на баку свае малодшае баявое суседкі. Ці яны былі чужыя, ці свае — цяжка сказаць, ва ўсякім разе, Мануйлік на іх тварах не знаходзіў рыс падабенства.

З Нясвіжа да Гарадзеі пачынаецца асфальт, аўтобус не так трасе, як па бруку ад Нясвіжа да Клецка.

Пасажыры трохі паспакайнелі, сталі заводзіць размовы, знаёміцца з суседзямі. У Мануйліка суседка злева, ад праходу, чытала нейкі рускі часопіс, здаецца, «Новый мир». Сам ён у дарозе чытаць не любіў — ад такога чытання псаваўся зрок, да таго ж трэба было вазіць з сабой акуляры. Ён любіў глядзець у акно і любавацца пейзажамі, якія яму ніколі не надакучалі, бо ніколі не былі аднастайныя. Нават па адной і той жа дарозе можна праехаць некалькі разоў і за кожным разам убачыць нешта новае і цікавае.

Але ад акна яго адарваў слабы кацінаы піск. Ужо некалькі разоў яму здавалася, што недзе блізка мяўкае каცяня, але ўсё не верыў вушам — адкуль яно тут можа ўзяцца? Але цяпер усё стала ясна: якраз перад ім, спераду, ехалі маладыя бацькі з хлопчыкам гадоў пяці, і ў таго, закручанае ў сінюю трыкатажную шапачку — ад касцюма, які быў на хлопчыку,— сядзела

маленькае кацяня, што мо тыдзень, як стала бачыць. Хлопчык сядзеў на каленях у маткі, трымаў кацяня, закручанае ў шапачку, і хукаў на яго, саграваў сваім дыханнем, як маленькае птушаня, выкінутае з гнязда ў непагадзь.

Мануйлікава суседка таксама адарвалася ад часопіса, ён глядзеў на яе, паказваючы вачыма перад сабой. Яны ўсміхнуліся адно аднаму, і яна сказала ціха:

— У нас як той Ноеў каўчэг: усякай жыўнасці.

Мануйлік, кіўнуўшы, зазначыў:

— Яшчэ каб праверыў у таго дзядзькі, што заклінаваў дзверы, ці няма часам у яго парасяці?

— Як парасяці, а якая курка ці качка мо і не адна. Хоць і ўсмажаная...

— Лішні доказ таго, што горад не можа абысціся без вёскі...

Яны разгаварыліся. Суседка аказалася таксама настаўніцай, ехала ў Мінск да дачкі, якая год назад выйшла замуж, а зусім нядаўна стала маткаю. Ды радасць мацярынства трохі азмрочылася: нешта сталася з зубамі, усе выпалі. Трэба ставіць залатыя, а на гэта маці вязе немалыя грошы.

— Дваццаць гадоў дзеўцы — і без зубоў,— сумна гаварыла жанчына.— А мне сорак пяць — каб адзін выпаў. Што за людзі пайшлі?

Мануйлік чуў, што пры цяжарнасці ў жанчын часам выпадаюць зубы — арганізм дзіцяці забірае ў маткі кальцый,— але каб так, усе да аднаго — гэта дзіўна. Няўжо людзі пачынаюць слабець? А жывуць жа не горай, чым некалі, і работы намнога менш. Вось кабета вязе дачцэ якую тысячу рублёў. А каб раней? Хадзіла б яна бяззубаю, ці давялося б прадаваць бацькам апошнюю карову.

Слухаючы жанчыну, Мануйлік прыглядаўся цяпер да пасажыраў з хлопчыкам. У жанчыны светлыя валасы сабраны ў вялікую куклу, сукенка шоўковая ці якая, але бліскучая, яркая, блакітная, у вялікія кветкі — півоні. Мужчына — у шэрым касцюме, адразу відаць — мацак: плечы шырокія, тугія, як налітыя, аж, здаецца, разляцяцца на іх пінжак. І шыя дужая, марацкая, хоць запрагай у ярмо — пацягне за двух валоў. Росту здаецца, сярэдняга, галава вялікая, круглая, з русымі, пыльнага колеру валасамі. І відаць рукі: моцныя,

мускулістыя далоні, пад кароткімі пазгногцямі — цёмныя абводы. Значыць, мае дачыненне да металу. На вялікім пальцы левай рукі пазногаць ■ кровападцёкам — след удару малатка ці нечага цвёрдага. Адным словам, рабочы чалавек. А можа, нават ІТР. З твару, калі павернецца да жонкі і хлопца — прыемны, нават прыгожы. І, здаецца, лагодны, як і большасць дужых людзей. Але потым Мануйлік убачыў і тое, што яму не спадабалася. Хлопчык сеў на калені да бацькі, ўсё так жа тулячы да сябе сваё кацянятка, а бацька стаў нешта шаптаць яму на вуха, па ўсім відаць, непрыемнае, бо хлопчык рэзка адварочваўся ад бацькі, а потым перадаў кацяня маці і са злосцю схапіў бацьку за кароткія валасы, тузануў раз і другі. Бацька, як бы адчуваючы сваю віну за сказанае, толькі пасмейваўся, не спрабуючы нават абараняцца. Калі ж хлопчык супакоіўся, ён, абняўшы і прытуліўшы дзіця да сябе, зноў нешта зашаптаў яму на вуха, ад чаго хлопчык пачаў тузацца і вырывацца з бацькавых рук.

І дзіўна было тое, што маці, якая сядзела побач і ўсё гэта чула і бачыла, не абазвалася і словам, нібы яе тут і не было.

Злева за вокнамі аўтобуса праплыў ільнозавод, стаялі вялізныя скірды шэрай трасты, а дрот на тэлеграфных слупах быў увесь абвешаны пакуллем, якое тут вісела ў паветры і паволі асядала. І гэтае пакулле, прыбітае дажджамі, але не змытае з дроту, звісала на ніз доўгімі кроплямі-ледзяшамі, а там, дзе гэты налёт быў гусцейшы, выдавала, што на дроце густа расселіся ластаўкі. І яшчэ гэта відовішча заўсёды выклікала ў Мануйліка адну асацыяцыю: нібы ён бачыў перад сабою нотны стан, а на ім — нотныя знакі. Нібы гэта была запісана нейкая цікавая мелодыя, якую трэба было б расшыфраваць, але аўтобус імчаў далей — і ўсё прападала.

Паказаліся ўрэшце домікі Гарадзеі, невялічкай чыгуначнай станцыі, праз якую раней Мануйліку даводзілася часта праязджаць, калі быў студэнтам-завочнікам у Мінску. Аўтобусаў тады яшчэ не было, ездзілі на прыгарадных цягніках: спачатку з Клецка да Баранавіч, а ўжо адтуль, праз гэтую вось Гарадзею, якую ўсе тут называюць Гародзей, на Стоўбцы, а по-

тым — на Мінск. Тая дарога займала ў Мануйліка нешта болей, як дванаццаць гадзін. А цяпер — у тры разы хутчэй. І танней таксама.

Аўтобус, спусціўшыся з вуліцы ўніз, падкаціў да аўтавакзала, які з другога, процілеглага боку, быў і чыгуначным вакзалам. Шафёр са сваёю папкай пабег адзначацца, а пасажыры, ужо больш, чым у Нясвіжы, пачалі выходзіць на вольнае паветра.

І тут зноў усчалася сварка — як агонь, які сабраў сілу і вось прабіўся наверх. Не абышлося нават без абразлівых слоў. Да хлопца далучылася некалькі мужчын — той, інтэлігентнага выгляду, «прафесар», і малады хлопец у светлым касцюме з прыколатай да штрыфеля пінжака белаю стужкай са штучнаю галінкаю і кветкай — адзнакай шаферства. Няйначай, уся кампанія ехала з вяселля — вось чаму і былі яны такія вясёлыя і гарластыя.

Мануйлік, як і яго суседка, не выходзіў з аўтобуса, для яго якая гадзіна дарогі нічога не значыла, да таго ж ён не курыў. І ў спрэчку ўлазіць не хацеў, бо не ведаў, з-за чаго пачалося і хто больш вінаваты. Яму не спадабаўся занадта рэзкі тон жанчыны, якая хацела аспрэчыць трох мужчын, а тыя, няйначай, толькі і шукалі прычэпкі, каб пазубаскаліць, паказаць на людзях сваю дасціпнасць і хлёстка збіць у слоўным паядынку гэтую гарачую кабету.

Мануйлік і яго суседка толькі пераглядваліся: абоім было няёмка слухаць, як гэтыя людзі, такія прыстойныя і культурныя з выгляду, так недарэчы рэзка і груба рвуць сабе нервы.

З папкаю ад вакзала подбегам спяшаўся шафёр.

— Можа, сказаць шафёру, каб ён іх пamірыў? — спытала жанчына-суседка ў Мануйліка.— Як-ніяк, ён тут гаспадар.

Мануйлік безнадзейна махнуў рукою.

— Па-мойму, ён усё чуў і бачыў, але яго гэта не цікавіць... Дазвольце мне сесці з краю,— папрасіў ён суседку. Урэшце, каб уладзіць канфлікт, ён наважыўся пасадзіць тую жанчыну на сваё месца ці нават хлопца, які цяпер, калі ўжо дайшло да абразы, невядома, ці саступіць жанчыне.

Яны памяняліся месцамі. У аўтобус, услед за шафёрам, заходзілі ўсе пасажыры.

— Не хацеў бы я быць тваім мужам,— гучна на ўвесь аўтобус сказаў лабаты «прафесар», ідучы цераз аднаго чалавека ўслед за жанчынай, з-за якой усё пачалося.— Не, ні за якія грошыкі!

— О, я з цябе хоць чалавека зрабіла б,— не думала здавацца жанчына,— а то з выгляду толькі культурны.

— Ты маёй культуры не чапай! — пагразіў «прафесар».

Тут на яго зашыкала жонка, мажная маладжавая жанчына ў крымпленавай белай кофце; жанчына сядзела ля акна і не выходзіла з аўтобуса.

— Ціха ты, супакойся, у цябе ж ціск.— І пацягнула яго за руку. Яна трымала на каленях яго пінжак: далікатна, як дарагую ношу.— З-за нейкае там...— яна перайшла на шэпт.

— Не лезь не ў сваё,— абрэзаў яе муж, і яна пакорліва замоўкла, стала глядзець у акно.

Ён гаварыў гучна, не саромеўся нікога — відаць, лічыў, што ён тут самая важная фігура.

І раптам сярод гэтага шуму-гаму пачулася звонкая, на ўвесь аўтобус, аплявуха.

Мануйлік толькі паспеў заўважыць, як хлопец са стужкаю на штрыфелі пінжака адхапіў руку ад таліі той бойкай жанчыны і схапіўся за шчаку. А яна, расчырванелая, пераможна ўзняўшы галаву, прапускала на месца таго хлопца, што сядзеў ля яе пры акне і гаварыла:

— Мала таго, што языкі параспускалі, як пугі, дык яшчэ і рукі! А як жа, буду я вам цярпець, чакайце!

Хлопец са стужкаю, вінавата ўсміхаючыся і моўчкі расціраючы шчаку, пайшоў па праходзе да свайго месца ззаду аўтобуса.

Першая хвіліна замяшання прайшла, усе чакалі, што будзе далей: гэтым не магло скончыцца. А можа, ўсё і абышлося б ціха, але тут узарваўся «прафесар». Ён грымнуў на ўвесь голас, нібы аб'яўляючы аб канцы свету:

— Ды як яна смее?! Вася, дай ёй у морду! Ты мужчына ці баба ў штанах?

Усе павярнулі галовы на Васю. Але хлопец, трэба аддаць яму справядлівасць, не паслухаў свайго старэй-

шага таварыша, а ціха сеў на сваё месца і сціпла маўчаў.

Тады «прафесар» усхапіўся на ногі.

— Тады я сам...— І зрабіў некалькі крокаў па праходзе.

І тут ужо ўстаў, перагарадзіўшы яму дарогу, Мануйлік.

— Вы што, звар'яцелі? — І чамусьці крыкнуў да шафёра, які збіраўся заводзіць машыну: — Вадзіцель, супакойце гэтага грубіяна, інакш яму будзе кепска!..

Шафёр нават не адазваўся, робячы выгляд, што не чуе і што заняты сваімі справамі.

А «прафесар», спачатку ашаломлены, зноў кінуўся ў наступ:

— Што? Ты мне пагражаеш? Ах, ты...

І ён ужо, няйначай, збіраўся ўдарыць, як жонка зноў учапілася яму ў руку і сілай пасадзіла на месца.

Але ён ужо завёўся, злосць знайшла другое рэчышча. Ён груба адкінуў жонку, ускочыў на ногі і стаў супроць Мануйліка, цяжка дыхаючы і абдаючы яго густым перагарам.

— Сыдзі з дарогі!

— Па-першае, прашу не тыкаць,— рашуча, але спакойна сказаў Мануйлік.— Па-другое, зрабіце яшчэ крок — і вы не ўбачыце больш свае жонкі.

«Прафесар» істэрычна зарагатаў.

— Ха, ён мне пагражае! Ды ты ведаеш, хто я? Я — былы разведчык, і ніхто з маіх рук ні разу не выкруціўся, павер мне!

— Не веру! — рэзка адказаў Мануйлік.— Відаць, і на вайне вы ваявалі толькі з жанчынамі, інакш сёння не ганьбілі б ганаровага звання ветэрана.

— Што? Ды як ты смееш! Тылавая моль...

— Я вам сказаў: не тыкаць!.. А дзе я быў...

Што было б яшчэ праз секунду, цяжка сказаць, але тут паміж імі, раз'ятранымі мужчынамі, стала раптам жанчына, Мануйлікава суседка, і сказала спакойна, з дакорам у голасе:

— Мужчыны, як вам не сорамна! Што вам трэба? Чаго вы не падзялілі?

Яна не прыняла ні аднаго боку, і гэта было — у такой сітуацыі — вельмі лагічна: адразу збіла полымя. Яна злёгку адпіхнула Мануйліка назад, адціснула

«прафесара» да яго месца, нават пасадзіла побач з жонкай, а ён усё яшчэ нават не раскрыў рота і не зрабіў ніводнага руху, каб супраціўляцца. Тут, няйначай, дзейнічаў, як заўсёды, эфект нечаканасці. А мо «прафесар» нават узрадаваўся, што ёсць шанц з гонарам адступіць? Як бы там ні было, а мужчыны, два галоўныя завадатары, селі на свае месцы.

Ніхто, відаць, нават не заўважыў, што аўтобус іх плаўна каціўся ў кірунку да шашы Баранавічы — Стоўбцы...

Але на гэтым спрэчка не скончылася, хоць яна ўжо была амаль што мірнай. Кідалі рэплікі абодва бакі, але ўжо без ранейшага запалу. Нечакана падаў голас мацак з шырокімі плячыма, што сядзеў перад Мануйлікам.

— Ды каб мне жонка заехала па вуху, то я не ведаю, што з ёю зрабіў бы...

І яшчэ нешта бубніў — ужо было не разабраць. А жонка сядзела побач і зноў не абазвалася.

«Прафесар» таксама яшчэ не здаваўся.

Уставіў свае тры грошы і таўсцяк, што ехаў з жанчынаю, якая вязла аўчарку. Ён прабубніў пад нос:

— Хай таго бычка ваўкі з'ядуць, якога цялушачкі б'юць.

Толькі ён так сказаў, як жонка таўхнула яго пад бок і мірна, але даволі грозна сказала:

— От маўчы лепей. Знайшоўся мудрэц! Усе вы з бабамі смелыя. Таму і парадку мала на зямлі. Лічыце, што абы сіла...

«Маладзец, цётка! — падумаў Мануйлік.— Урэж ты гэтым ваякам».

У часе спрэчкі ў аўтобусе рэдка хто адзываўся, усе слухалі, на чый бок пераважыць, і дадавалі часам якое нейтральнае слова. А большасць увогуле маўчала. Што думалі людзі пра ўсю гэтую гісторыю і на чыім баку былі — цяжка сказаць.

Маўчалі чамусьці і тыя, з-за каго разгарэўся ўвесь бор: хлопец пазіраў у акно, жанчына ўпарта глядзела перад сабою: моўчкі і нерухома, крыху бокам, бо не хапала месца, сядзела пажылая жанчына.

Пакрысе аўтобус аціх і неўпрыкмет разбіўся на астраўкі — кожны ў сваім суседскім коле гаварыў нешта сваё.

— Ведаеце, калі матрыярхат замянілі патрыярхатам? — спытала ў Мануйліка яго суседка.— Не тады, як мужчыны адчулі сваю сілу, а тады, калі страцілі нешта большае.

— Што вы маеце на ўвазе? — не адразу ўцяміў Мануйлік.

— А тое, пра што сказала цётка з сабакам...

Яны надоўга замоўклі. Думкі ў Мануйліка былі невясёлыя. «Вось палюбуйся, настаўнік, якая моладзь выходзіць з тваіх рук. Гэтыя два маладыя хлопцы, з-за якіх сёння ўсё пачалося, якраз твае вучні. Чаму ж яны выйшлі такія неачэсаныя, недапечаныя? Хто вінаваты? Ты сам ці вось такія твае аднагодкі, ветэраны, як гэты «прафесар», які выхавае сваіх дзяцей да сябе падобных, які ўжо з жонкі зрабіў пакорлівую істоту, што не мае права голасу, а толькі служыць яму. Які яшчэ нямала сапсуе маладых крохкіх душ, што будуць браць з яго прыклад, як са старэйшага, бывалага чалавека, ветэрана-разведчыка. Няўжо той стары ладуклад, які быў тут больш як трыццаць гадоў назад, так глыбока пусціў карэнні, што яны даюць яшчэ такія пышныя парасткі?»

Мануйлік не заўважыў, як звярнулі на магістраль Баранавічы — Стоўбцы і аўтобус імчаў, як птушка, мякка і плаўна. З горкі вадзіцель выключаў матор, чуваць было толькі шыпенне шынаў і лёгкі свіст паветра, якое абцякала аўтобус і ўрывалася ў адчыненыя вокны. Але нечакана машына, даехаўшы да канца спуску, замарудзіла ход, вільнула на ўзбочыну і стала: нешта не ўключаўся матор. Вадзіцель узяў ручку і доўга круціў яе, аж калаціўся аўтобус, а матор быў мёртвы. Людзі сталі выходзіць з аўтобуса, некалькі хлопцаў узяліся памагаць шафёру, але ўсё было дарэмна. Тады шафёр зноў прайшоў у сваю кабіну, узяў набор інструментаў і, ні слова не сказаўшы пасажырам, пайшоў да маторнага аддзялення.

— Відаць, што спыніўся надоўга,— сказаў Мануйлік да суседкі.— Давайце выйдзем.

Яна згадзілася, устала і абцягнула вузкую цёмную спадніцу, паклала часопіс на сядзенне. Жанчыне на выгляд было менш, чым сорак пяць, і была яна даволі прывабная і стройная фігурай — толькі цяпер яе добра разгледзеў Мануйлік.

Шафёр ужо ляжаў пад маторам, нешта там бразгаў ключамі. Яму памагалі, спрачаліся між сабою хлопцы, па ўсім відаць, добрыя знаўцы машыны.

Мануйлік з суседкай накіраваўся да прысадаў, у цень.

— Скажыце ўрэшце, як вас зваць? — звярнуўся ён да яе.— А то еду з вамі побач дзве гадзіны, гаворым, і не ведаю, з кім.

— Хіба так важна, як мяне зваць? — яна ўсміхнулася.— Дзеці завуць Марыя Пятроўна. А так — Мар'я, Маня, Маруся — як хочаце завіце. У Беларусі — усе Марусі.

— Вельмі добрае імя. Маю маці звалі Марыяй... А мяне завуць Іван, нават Іванавіч. А жонка заве Янка, Ясь...

— А прозвішча ваша — Мануйлік,— працягвала ў тон яму Марыя Пятроўна.

Мануйлік акругліў вочы.

— Вось не чакаў, што вы мяне ведаеце! Адкуль?

— А што тут дзіўнага? Колькі разоў бываем у райана, на розных канферэнцыях — вось і заўважыла вас, ужо даўно...

— Дзіўна, дзіўна... Чаго ж гэта? Чым я кінуўся вам у вочы?

— Нечым жа кінуліся... А больш тым, што мужчын мала сярод настаўнікаў, вось і глядзіш, што за ён, адкуль, чаго варты? А потым мы, жанчыны, перабяром вас па костачках, усё перагаворым, усё зложым у адно — поўны ўнутраны і знешні партрэт-характарыстыка.

— Не, ведаў,— шчыра дзівіўся Мануйлік,— што мая персона вам так вядома.

— Як жа, заслужаны настаўнік, прыклад для астатніх... Добры муж, бацька,— трохі жартаўліва-ўзнёсла гаварыла Марыя Пятроўна.

— Глупства ўсё гэта,— сумна адказаў Мануйлік.— Ніколі не ведаеш, каго гадуеш, каго выхоўваеш. Я вось думаў цяпер, што з выхаваннем у нас не ўсё гладка. Пагалоўная сярэдняя адукацыя, вялікія лічбы, а ў людзей, асабліва ў маладых, якія толькі што са школы ці нават з інстытута, няма элементарных ведаў этыкі, няма культуры. Няўжо мы працуем дарэмна, няўжо сеем на камені?

— О, вы песіміст, таварыш മануйлік, я нават не падазравала. І гіпербаліст, як Гогаль. Не ўсё так страшна, як вы распісалі.

— Можа быць... Але гэты выпадак пахіснуў маю веру ў новага маладога чалавека...

— Чаму вы так баіцёся за маладога? Якраз нічога страшнага я тут не бачу. Хлопцы — адзін і другі — якраз паводзілі сябе не так ужо і груба. Ну, трошкі выйшлі за рамкі прыстойнасці. А вось ваш брат... ваш брат-ветэран паказаў сябе не з лепшага боку.

— А ваша сястра? — спытаў Мануйлік з усмешкай.

Марыя Пятроўна на момант задумалася:

— А што, хто баіцца запыліцца, той пылу не выб'е.— І перайшла на другое: — Здаецца, ці не збіраюцца ехаць? Каб не адстаць, чаго добрага.

— Не бойцеся, ад нас не ўцякуць. Я пайду гляну.

Чаго яна яго супакойвае? Няўжо яна і напраўду тое думае, што гаворыць?

Мануйлік падышоў да аўтобуса. Пошукі яшчэ нічога не далі. Шафёр лаяўся пад маторам — аказваецца, у яго прарэзаўся язык, ёсць мова.

— Каб таму розум у задняе месца перасадзілі, хто прыдумаў ставіць матор ззаду, а не спераду,— бубніў шафёр пад машынаю, а хлопцы-памочнікі з закасанымі рукавамі і ўжо добра выпацканыя мазутай, рагаталі.

Цётка з сабакам і салідны яе муж сядзелі збоку на траве. Цётка з капронавай місачкі паіла сабаку вадою, ён прагна хлябтаў.

«Прафесар» у белай тэнісцы з паўнацелаю жонкай сядзелі ў цяньку пад таполяй. Побач круціліся іх маладыя сябры, той, з белаю стужкай, высокі, і меншы за яго, з усмешачкай і з папяросай у зубах. Яны нешта гаварылі і рагаталі.

Большасць пасажыраў цярпліва сядзела ў душным аўтобусе. Сядзелі, сцішыўшыся, і тыя дзве жанчыны, якім цяпер было прасторна і ніхто не замінаў.

Міма імчалі машыны — грузавікі, легкавыя, аўтобусы. Некаторыя з пасажыраў, самыя нецярплівыя, ужо збіраліся перасесці на якую спадарожную — хоць бы дабрацца да Стоўбцаў, а там можна, на горшы выпадак, хоць на прыгарадным цягніку.

Неўзабаве спыніўся слонімскі «Ікарус», шафёр

трохі пагаварыў з іх няўдалым вадзіцелем, які так і не вылазіў з-пад матора, і сам сказаў, што можа ўзяць некалькі чалавек на свой аўтобус. Селі самыя настырныя: «прафесар» са сваёй кампаніяй, здаравяк з хлопчыкам і кацянём і яшчэ некалькі чалавек.

Падышла Марыя Пятроўна.

— Можа, і мы паедзем? — спытала няўпэўнена.

— Пачакаем, куды спяшыць? Там і так цесна.

Чамусьці Мануйлік быў упэўнены, што паломка ў маторы нязначная і што яны хутка паедуць. Яны прайшліся па траве сюды-туды, ціха размаўляючы, потым збіраліся ўжо зноў сесці ў цень, як ад аўтобуса даляцелі радасныя крыкі: хлопцы крычалі, што няспраўнасць знайшлася. Аказалася, абарваўся провад ад магнета, вось чаму не працавала запальванне. Хутка провад шафёр злучыў, хлопцы на пераменку ўзяліся за ручку, доўга круцілі, і, на вялікую радасць пасажыраў, завялі матор.

Шафёр, усё такі ж пануры і негаваркі, сабраў свой інструмент, зачыніў капот матора, скінуў свой брудны рабочы халат і стаў мыць рукі бензінам. Пасажыры стоўпіліся ля дзвярэй, з нецярпеннем чакалі адпраўкі.

Жанчына з сабакам стаяла тут жа. Сабака, напяўшы павадок, тузануўся і тыцнуўся носам у руку Марыі Пятроўне. Тая ад нечаканасці ўскрыкнула.

— Не палохайцеся, гэта ён хоча лашчыцца.— І памаўчаўшы, дадала: — Не бойцеся сабакі, бойцеся ліхога чалавека.

У гэты час шафёр даў сігнал да адпраўкі.

У аўтобусе было прасторна, неяк нават пасвятлела. Скончылася тая прыгнечанасць і скаванасць, якая панавала дагэтуль: аказваецца, «прафесар» са сваёй кампаніяй наганяў страх на гэтых людзей, а яны заўсёды тут лічыліся з сілай: супроць яе не папрэш. Цяпер Мануйлік зразумеў іх маўчанне, якое яшчэ нічуць не азначала, што яны былі згодны з «поглядамі» «прафесара». Людзі гаварылі цяпер вольна, без аглядкі выказвалі свае думкі-меркаванні,— адным словам, былі самі сабой.

Ля моста праз Нёман шафёр спыніўся і набраў вядро вады, заліў у радыятар.

У Стоўбцах прастаялі нядоўга, шафёр толькі адзначыўся, узяў некалькі пасажыраў і пагнаў свой «ЛАЗ»

на ўвесь дух: ён выбіваўся з графіка і хацеў нагнаць страчаны час.

Далей усё было проста. Толькі адна нечаканасць спасцігла яшчэ Мануйліка ў канцы маршруту, у Мінску. Пасажыры дружна выходзілі з аўтобуса, развіталіся між сабою, а шафёру ніхто не сказаў нават дзякуй, нібы яго тут і не было. Мануйліку карцела адчытаць яго за «неўмяшанне», але ён не хацеў быць разумнейшы за ўсіх. Мо і сам чалавек што-небудзь зразумее з сённяшняга рэйса. А не — хай будзе цёмны да смерці, д'ябал яго бяры! Чалавека не пераробіш за адзін раз: за адзін раз можна толькі зламаць.

Мануйлік выйшаў першы, несучы ў адной руцэ свой пакоўны партфель, а ў другой — даволі цяжкую сумку Марыі Пятроўны. Ён збіраўся завясці яе да аўтобуснага прыпынку, а сам хацеў сесці на трамвай, нумар першы, які хадзіў на вуліцу Кастуся Каліноўскага, дзе жыў яго сябар.

Але нечакана іх спынілі тыя дзве жанчыны, маладая і пажылая. Маладая, паставіўшы свае рэчы на асфальце, неяк вінавата сказала да Мануйліка:

— Даруйце, я хачу папрасіць у вас прабачэння за сённяшні скандал. Вельмі вас прашу — даруйце. І не думайце, што я заўсёды такая кепская, як сёння... Нешта на мяне найшло... І вы таксама,— яна глянула на Марыю Пятроўну.— Я паводзіла сябе не надта...

Яна змоўкла, не закончыўшы сказа: нешта перашкаджала. Мануйлік, ды і Марыя Пятроўна, неяк раптам разгубіліся і не ведалі, што гаварыць. Каб яшчэ Мануйлік пачуў, што яна дзякуе яму за падтрымку, яго не так бы здзівіла, чым тое, што яна каецца. Не паспелі яны што адказаць, як да іх хуткім крокам падышоў мужчына ў шэрым клятчастым касцюме — сярэдняга росту, плячысты, хударлявы з твару, з запалымі шэрымі вачыма, з густою капой непакорлівых чорных валасоў, якія тырчалі ва ўсе бакі і рабілі яго трохі падобным да хлапчука.

— З прыездам,— сказаў ён маладой жанчыне як добрай знаёмай.— Вы што спазніліся? Я тут амаль гадзіну вас чакаю.— І ён павітаўся за руку з адной жанчынай, пасля з другой.

Мануйліку нешта як кальнула ў самае сэрца — голас чалавека здаўся яму знаёмы. Нават і з твару не-

шта было такое, што прымушала варушыць памяць і шукаць: дзе, калі, хто?

Маладая жанчына не адказала нічым на ўвагу гэтага чалавека, яна была нейкая ненатуральна сур'ёзная. Яна ўзяла яго пад руку, павярнула тварам да Мануйліка, Марыі Пятроўны і сказала:

— Косця, вось, пазнёмся, гэта цікавыя людзі... Мы сёння разам ехалі... Каб не яны...

— А што было? — ужо рэзка і зацікаўлена спытаў чалавек, і яго наэлектрызаваныя кароткія валасы здрыгануліся.— Віткоўскі,— падаў ён руку Марыі Пятроўне, а пасля Мануйліку.

Мануйлік назваў сваё прозвішча і ўжо ведаў, што перад ім той самы Косця Віткоўскі.

— Косця, дарагі, гэта ты?

Той аслупянеў, застыў на месцы, неяк з недаверам гледзячы на Мануйліка, і развёў рукамі.

— Янка! Не веру вачам!

Яны абхапілі адзін другога, пацалаваліся ў вусны і так застылі, прытуліўшыся шчокамі, усё мацней сціскаючы абдымкі, і Мануйлік нечакана для сябе адчуў, што ў яго з вачэй пасыпаліся слёзы. Зусім ля яго вуха, побач, усхліпваў і ўздрыгваў плячыма Косця Віткоўскі, яго даўні сябар, з якім яны не бачыліся больш як трыццаць гадоў!

Яны разнялі рукі, глянулі адзін на аднаго і зноў схапіліся ў абдымкі, ужо ўпэўненыя, што гэта не сон і памылкі ніякай быць не можа. Смеючыся праз слёзы, яны стукалі адзін другому па спінах, а дужы Віткоўскі прыўзняў Мануйліка высока над асфальтам.

— Браце, як я рад, што бачу цябе жывога і здаровага! — закрычаў Віткоўскі і нарэшце паставіў Мануйліка на ногі.— Дык вы знаёмы? Гэта мая жонка, Каця. А гэта — цётка Арпіня. А гэта,— ён звярнуўся да жанчын,— мой сябар ваеннай пары Янка Мануйлік, заслужаны настаўнік! Вам гэта нешта гаворыць? — І ўжо да Марыі Пятроўны асабіста: — А хто вы?

— Я? Проста настаўніца. Еду ў госці да дачкі.

— Да дачкі? Гэта вельмі добра! А я думаў — вы Мануйлікава жонка. Жаль, што я памыліўся. Але не, запрашаю і вас разам. Вельмі прашу!

Як ні ўгаворвалі Марыю Пятроўну, яна падзякава-

ла і пайшла на свой аўтобус. Яны, чацвярых, пайшлі да трамвайнага прыпынку. Віткоўскі гаварыў:

— Таксі мы ўсё роўна не зловім. А трамвайчык нас давязе да самага дому, хоць і памалу. Куды нам спяшацца? Асабліва нам з табою, Янка, праўда? Ці ты ўсё такі ж рухавы, усё на нагах, не спіш, нешта робіш, некага вучыш, некаму дапамагаеш, некага выручаеш, як і некалі? Памятаеш, як ты мяне выцягнуў з-пад ваганеткі, усяго пабітага рудою? І сам быў ледзь жывы?.. Эх, брат, як мы толькі ўцалелі? Проста іншы раз не верыцца, што чалавек можа гэтулькі выцерпець... Але што я адразу ў мінулае? Пагаворым потым... Дык вы, кажаце, разам ехалі? Цікавае было падарожжа? — ён ужо больш пытаўся ў жонкі.

— Цікавае,— адказала Каця,— вельмі цікавае, асабліва як для цябе, старшага следчага... Быў бы выдатны повад аштрафаваць сваю жонку за дробнае хуліганства.

«Вось хто ён! Старшы следчы! Работнік міліцыі! Вось бы ніколі не падумаў»,— здзіўляўся Мануйлік.

— Жаль, жаль, я табе прыпаяў бы пятнаццаць сутак,— жартоўна-сур'ёзна гаварыў Віткоўскі.— А то ты часам любіш перавышаць сваю ўладу. Прывыкла з малечаю ў сваім садзе, дык думаеш, і з дарослымі так пойдзе? Не, з імі трэба далікатна, памяркоўна...

І тут раптам цётка Арпіня, якая дагэтуль усё маўчала, перабіла Віткоўскага і загаварыла хутка і гучна, так што ўсе на прыпынку азірнуліся: чаго кабета крычыць, з кім сварыцца? А яна не зважала і сыпала:

— Вам усё жартачкі, выхавацелі-выхавацелькі, а во я, каб сёння была замест таго цюхцяя-шафёра, дык лібог жа ўвесь аўтобус з пасажырамі ў Нёман укаціла б, каб асвяжылі свае гарачыя галовы!

Зарагаталі трое, цётка Арпіня была сур'ёзная, а Віткоўскі паглядваў па парадку на ўсіх — не ведаў добра, з чаго смяцца.

— За што ж гэта такая няміласць? — спытаў ён.

— Ды табе твая жоначка раскажа!

Якраз падышоў першы нумар трамвая. Яны селі, каб ехаць на вуліцу Кастуся Каліноўскага.

*1975 г.*

## ЗМЕСТ

### АПОВЕСЦІ



### АПАВЯДАННІ

Дамашэвіч Ул.
Д 16 Выбранае. Аповесцi і апавяданні. Мн., «Маст. літ.», 1977.
368 с. 2 с. укл. («Б-ка беларускай прозы»).
У зборнік увайшлі аповесці і апавяданні са зборнікаў мінулых гадоў: «Заклінаю ад кулі» (1960), «Між двух агнёў» (1963), «Абуджэнне» (1968).

Д $\frac{70303\text{-}049}{М\ 302(05)\text{-}77}$ 105-77 Бел 2

Владимир Максимович Домашевич
Избранное
На белорусском языке
Рэдактар А. Д. Куліш. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар С. А. Абрамчук. Карэктар Я. Ф. Харко.
ИБ № 58
АТ 21002. Здадзена ў набор 15/VII 1976 г. Падп. да друку 11/I 1977 г. Тыраж 10 000 экз. Фармат 84×108 $^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 19,43. Ул.-выд. арк. 19,8. Зак. 3425. Цана 1 руб. 55 кап.
Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Свярдлова, 4.
Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.